# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1980

# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ 2

## НАРЫСЫ
## П'ЕСЫ

РЭДАКТАР ТОМА
С. С. ЛАЎШУК

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТАЎ І КАМЕНТАРЫІ
Т. М. ЖУК

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1980

# ДАРОГІ НА ЎСХОД І НА ЗАХАД

Першая абарончая лінія ворага была прабіта.

Танкавая брыгада Шутава адразу рушыла далей. Але прарвацца ўдалося недалёка: разведка, што ішла ўперадзе, неўзабаве выявіла на вышынях абапал дарогі замаскаваныя ствалы гармат, варожыя танкі. Яны былі ўсе нацэлены на дарогу, чакалі.

Пастка! Гітлераўцы чакалі, калі брыгада трапіць у пастку. Хоць ведаў карту да драбніц, Шутаў выняў яе, пачаў углядацца ў жоўтыя звілістыя лініі вышынь, у павуціны дарог. «Не, я не памыліўся — пастка. Іншых прыдатных дарог у гэтым напрамку няма. Яны былі ўпэўнены, што мы немінуча ўлезем у яе...»

Што рабіць? Абысці? Абысці няма як — вакол толькі горы і ўзгоркі, недаступныя для танкаў. Пачакаць, калі падыдуць стралковыя часці, артылерыя,— стаяць? Але стаяць нельга — трэба, не трацячы часу, развіваць вялікае наша наступленне, рушыць наперад. Зараз жа, не даючы праціўніку перадышкі.

Але ж як ісці? Яны з вышынь расстраляюць, папаляць усе яго танкі. Дарога адтуль як на далоні. Хоць і не хацелася, вельмі не хацелася, прыйшлося даць брыгадзе загад спыніцца.

Блізка быў вечар. Сонца хавалася ўжо за горы, калі Шутаў загадаў некалькім танкам выйсці на вышыню, што ўздымалася на флангу праціўніка, і прамой наводкай ударыць па машынах у засадзе. Шутаў нібы выклікаў гітлераўцаў на бой, але, як і чакаў, яны насустрач не захацелі выйсці.

Наступіла ноч. Вакол усё патанула ў густой цемры — абрысы ўзгоркаў, лагчыны, будынкі блізкага гарадка Тыргу-Фрумас. Вайна на румынскай зямлі прыціхла, адно ў небе шумелі начныя бамбардзіроў-

шчыкі ды час ад часу недзе ўводдалі грымелі выбухі бомб.

Мінула гадзіна, дзве, тры. Разведчыкі далажылі, што танкі абапал дарогі — з нямецкай дывізіі, якая толькі перад вечарам прыбыла з другога ўчастка фронту, што яна яшчэ не асталявалася як след. Шутаў таксама адзначыў сабе, што немцам прыйшлося да таго ж зрабіць вялікі марш, стаміцца.

Натаміліся і нашы танкісты, спяць. А камандзір брыгады не можа заснуць. Клопат не адступае, трывожыць — трэба прарывацца, чакаць нельга — заўтра зрабіць гэта будзе цяжэй. Праціўнік яшчэ не ўмацаваўся, не ў поўнай сіле. І ноч такая цёмная, такая зручная для прарыву. І яны здарожыліся, можа быць, спяць...

Але ўслед за гэтым браў одум: хоць і ноч, і праціўнік не асвойтаўся, усё ж рызыка якая, самому лезці на ражон, у пастку! Хто скажа загадзя, што ўдасца добра падысці, праламаць смелым ударам перашкоду? А можа, там толькі і чакаюць іх?

Франтавое чуццё, праверанае ў многіх начных баях, падказвала — трэба паспрабаваць, пайсці на рызыку! Нават такіх шанцаў заўтра не будзе...

Вывеў на вышыню збоку два ўзводы, паслаў у абход мотапяхоту, якія павінны былі адцягваць увагу праціўніка ад дарогі, а пры выпадку падтрымаць тых, каторым выпала ісці ў пастку. Выслаў наперад разведку і сапёраў, падцягнуў, сабраў напагатове іншыя танкі. Разведка і сапёры прабраліся ў размяшчэнне праціўніка ўдала, без аднаго стрэлу. Без стрэлаў прайшлі далей, за пазіцыі ворага. Тады Шутаў перастаў вагацца — адзін за адным кінуў наперад на вялікай хуткасці два батальёны.

З гэтай хвіліны жыў толькі адным — чаканнем. Удасца ці не ўдасца. У ляскаце гусеніц, у дужым лёце машын час плёўся на дзіва павольна, нібы гатоў быў зусім спыніцца. Вось машыны наблізіліся да варожых пазіцый, увайшлі ў небяспечную зону, слых мімаволі настрыўся — зараз немцы пачнуць страляць. Ён хутчэй адчуў, чым пачуў, гэты запознены стрэл з нямецкага танка, падумаў, што больш ні аднаго мігу марудзіць нельга, загадаў мотапяхоце, танкам: атакаваць!

У той жа момант ноч зазіхала частым полымем, загрымела — гарматы двух батальёнаў ударылі па ўзгорках абапал дарогі, па варожых машынах.

Гітлераўцы былі так збянтэжаны гэтым неспадзяваным, дзёрзкім налётам, што адказалі нядружна, бязладна. Некалькі іх машын неўзабаве запалала, другія, устрывожаныя страляніной пяхоты з тылу, не ведаючы добра становішча і баючыся акружэння, пачалі адступаць.

...На ціхім прыпынку, чакаючы вестак ад разведкі, Шутаў сеў на вежы адпачыць, астыць на халаднаватым начным ветры і раптам успомніў, што ў кішэні звечара ляжыць нячытанае пісьмо. Ён дастаў канверт, вярнуўся ў вежу — пісьмо было ад сястры, першая за тры гады вестачка з роднага Дварца! Няхай было яно кароткае і вельмі ж скупое, яно сказала Шутаву так многа, так усхвалявала. Сёстры былі жывыя, хоць і зазналі ліха цераз край, жывы быў і Дварэц, мілая на ўсё жыццё мясціна. Амаль забытая, наляцела, апанавала маладосць, памяць раптам адкрыла прасторы часу, далячынь пройдзеных дарог.

За згадкамі пра Дварэц прыйшлі на ўспамін ноч пад Спас-Дзямянскам, першая кіеўская ноч, многія ночы і дні. Такое было яно, скупое, дарагое пісьмо...

## 1. ЭШАЛОН РАЗГРУЗІЎСЯ Ў СПАС-ДЗЯМЯНСКУ

Быў ціхі, вельмі гарачы дзень, дзень адпачынку. Калі Шутава выклікалі ў штаб палка, ён і не здагадваўся, што мог значыць гэты выклік. Толькі ў будынку штаба пачуў ён ад таварышаў навіну, якую чамусьці перадавалі адзін аднаму як сакрэт — вайна...

Тое, што сказаў камандзір палка, пацвердзіла чутку: вайна пачалася. Вайна ўжо ішла, гітлераўцы бамбілі пагранічныя гарады, Севастопаль, Кіеў. Танкістам загадалі быць у баявой гатоўнасці.

Шутаву гэтая вестка прынесла і свой асабісты непакой: у Кіеве, які бамбілі варожыя самалёты, жыла яго сям'я. Жонка Галіна Андрэеўна з сынам Валодзем ад вясны гасцявала ў бацькі. Першай думкай было пабегчы на пошту, паслаць у Кіеў тэлеграму, даведацца, што з імі. Але трэба было ісці ў батальён, з тэлеграмай не было калі важдацца.

У той жа дзень часць, у якую ўваходзіў батальён Шутава, пагрузіла танкі на платформы і пакінула ціхі, звыклы гарадок. Амаль не спыняючыся, і дні і ночы ішоў эшалон цераз бяскрайнія казахстанскія стэпы, па шырокіх прыволжскіх палях, мінаў неспакойныя гарады, узварушаныя вёскі. Капітан Шутаў, як і другія камандзіры, з трывогай лавіў навіны з фронту: вораг, як саранча, распаўзаўся па зямлі...

Слухаючы навіны, ён думаў здзіўлена, што там такое дзеецца на фронце, чаму яна, саранча фашысцкая, паўзе і паўзе? І дакуль жа будзе гэтае незразумелае, небяспечнае, пагрознае? Шутаў прывык браць на сябе адказнасць за ўсё, што датычылася арміі,— як-ніяк з арміяй жыў ужо два дзесяткі гадоў. І цяпер чуў сябе так, нібы віна за няўдачы на фронце была і на ім.

Трывога за фронт змянялася трывогай за свой батальён, за яго камандзіраў і байцоў. Шутаў ведаў іх пакуль што толькі з вучэбных заняткаў,— як яны будуць паводзіць сябе ў баі, у выпрабаванні вайны?

На станцыі Спас-Дзямянск у цемры эшалон разгрузіўся, і танкісты сабраліся ў лесе. Ніхто не заснуў у гэту, адчувалі, апошнюю ціхую ноч, усе былі ўзрушаны блізкасцю фронту, бою. Не спаў і Сцяпан Шутаў. Ці гаманіў з байцамі, ці сядзеў стомлена каля машыны, неяк асабліва неспакойна думаў, разважаў, успамінаў.

Непакой ад нядобрых навін з фронту пераплятаўся з неадступнымі думкамі пра сям'ю. Фронт падыходзіў да Кіева, а ў яго хоць бы вестачка пра блізкіх сваіх. «Што з імі, дзе яны? У Кіеве ці эвакуіраваліся? Як ёй, Галі, мабыць, цяжка адной — вось-вось жа дзіця нарадзіцца павінна!.. Хто б мог падумаць, што радасць, якой жылі нядаўна, стане трывогай!»

Успамінаўся родны Дварэц на Бабруйшчыне, і балюча было думаць, што там ужо вораг. Дварэц, Дварэц, дзе было столькі і добрага, і ліхога, дзе жыў і памёр без пары бацька, дзе ў дванаццаць гадоў на Сцяпана зваліліся клопаты пра ўсю сям'ю. Дарагія лясы, дзе партызаніў, дарогі, па якіх хадзіў чырвонагвардзейцам. Ён нібы зноў бачыў дварэцкую вуліцу, сясцёр, знаёмых. Як там цяпер яны — у няволі?..

На досвітку быў атрыманы першы баявы загад — знішчыць дэсант праціўніка ў раёне горада Рослаў. На

світанні батальён рушыў на Рослаў. У адзінаццаць гадзін ён ужо вёў першы бой, акружаў варожых дэсантнікаў. Бойка не сціхала цэлы дзень. Дэсант меў не менш тысячы чалавек, шмат мінамётаў, кулямётаў, аўтаматаў, супрацьтанкавых гранат. Толькі ўвечары сюды, на палі, вярнулася цішыня — дэсант быў ушчэнт разгромлены...

Не паспелі яшчэ астыць маторы, не паспелі байцы падзяліцца ўражаннямі першага бою,— Шутаў атрымаў новы загад: зараз жа выступіць насустрач часцям ворага, якія прарваліся з боку Смаленска і занялі горад Ельню.

Неўзабаве яго танкі, ляскочучы гусеніцамі, ішлі па апусцелай к вечару дарозе, ішлі паўз нязжатыя палі, праз маўклівыя сёлы. Раніцой былі на зыходным рубяжы.

Тут ужо давялося весці бой не з дэсантам, а з вялікім нямецкім злучэннем, з артылерыяй і цяжкімі танкамі. Бой з дэсантам быў у параўнанні з гэтым боем дробяззю. Тут упершыню Сцяпан Фёдаравіч адчуў сапраўдныя памеры падзей. Крывапралітны бой як пачаўся, дык і не сціхаў чацвёра сутак: немцы кідалі ў наступленне ўсё новыя танкі, новых салдат...

* * *

У кастрычніку вялі бай ў акружэнні, прарываліся да сваіх. Дружная сям'я танкістаў радзела з кожным днём, з кожным боем. Усё менш і менш ішло ў страі спраўных машын, усё цяжэй было даставаць гаручае, канчаліся снарады.

Гітлераўцы аб'яўлялі, што яны ўжо каля Масквы, бяруць Маскву. Мабыць, у танкістаў Шутава ніколі не было такіх цяжкіх дзён, як гэтыя. Хто-ніхто гатоў быў паддацца адчаю.

І тут капітан Шутаў як бы вырас у вачах сваіх падначаленых і таварышаў. Там, на мірных занятках пад гарачым азіяцкім сонцам, нічым асаблівым не вылучаўся ён, гэты капітан. Быў, праўда, старанны, працавіты, але гэта, бадай, усё, што маглі б сказаць пра яго як камандзіра тады, да вайны. Затое нямала хто мог бы сказаць і тое, што ў капітана, хоць і школілі яго не ў абы-якой, а ў Крамлёўскай школе, малавата афіцэр-

скай хвацкасці, той баявітасці, якая за вярсту відаць. Марудлівы ён, флегматычны на ўсё жыццё, проста дзіўна, як можна было застацца такім, не змяніцца за доўгія гады службы ў імклівай кавалерыі, танкавых войсках. Дзіўна, як можна было, пасля стольніх гадоў ваеннай службы, застацца, шчыра кажучы, цывільным чалавекам, захаваць разам са сваёй беларускай гаворкай, з вельмі ж ужо лагоднай усмешкай столькі былога, сялянскага. Хто ў палку не ведаў, што ў капітана Шутава неадольная слабасць — апавядаць пра тое, хто і як жыве ў Дварцы, пра свае колішнія пастухоўскія справы, пра партызанства...

Такім Шутаў быў і ў гэтыя горкія дні. Але ні флегматычнасці, ні сялянскай праставатасці яго ніхто цяпер не заўважаў. Заўважалі другое, што, як бы ні даводзілася цяжка, Шутаў не губляўся, нават часам, здавалася, і не заўважаў бяды. Людзі дзівіліся яго зацягавітасці і цярплівасці, яго нейкай дзіўнай, нібы зусім абыякавай да смяротнай небяспекі, смеласці. І калі ён, у акружаным гітлераўцамі лесе, перад няроўным, страшным боем раптам расказваў пра якую-небудзь дробную вясёлую прыгоду са свайго дварэцкага маленства ці юнацтва, слухалі яго інакш, чым раней. Слухалі і як бы набіраліся ад яго спакою, цярплівасці, смялелі самі...

Хоць і са стратамі балючымі, а ўсё ж вырваліся са смяротнай пятлі гітлераўскага акружэння.

А ў лістападзе, ужо ў складзе танкавай брыгады, рушылі на Кашыру, вызваляць важны для Масквы горад, да якога лезлі падраздзяленні праціўніка. Брыгада ішла фарсіраваным маршам. Усю ноч стукацелі гусеніцы па мёрзлых падмаскоўных дарогах. У начной шэрані значыліся то заінелыя голыя бярозы, то дачныя будынкі, то мачты з правадамі высокага напружання.

Раніцою брыгада падышла да Кашыры. Адразу, не перадыхнуўшы пасля доўгага пераходу, кінуліся ў бой. Павёў свой батальён і Шутаў. Хоць спраўных машын было вельмі мала, імклівым ударам ён выбіў раз'езды гітлераўцаў з ускраіны і адагнаў на некалькі кіламетраў за горад.

Гітлераўцы, сабраўшыся з сіламі, пачалі контратакаваць. Нялёгка было танкавай брыгадзе разам з кон-

нікамі генерала Бялова стрымліваць гэты варожы націск, але пазіцый сваіх не аддалі. Пасля таго ж, як выматалі гітлераўцаў у чатырохсутачных баях, танкісты і коннікі самі перайшлі ў наступленне.

Сцяпан Шутаў павёў свой батальён на прарыў. У паслухмянай, вернай «трыццацьчацвёрцы» памчаў у снежнае ў чорных плямах і дыме поле, туды, адкуль білі варожыя гарматы, дзе завіхаліся чужыя постаці. Разам з ім дружна пайшлі іншыя машыны.

Хутка танкі прарваліся ў варожы тыл. Гэта быў першы глыбокі рэйд у баявым жыцці Шутава. Тут упершыню спазнаў ён гордае пачуццё, якое акрыляе танкіста, што выйшаў на прастор і можа нарэшце разгарнуцца як след. Камандзір батальёна яшчэ не меў вялікага баявога вопыту, яшчэ як бы ішоў навобмацак; ён вучыўся ў часе рэйду. Тым не менш ужо ў гэтым маршы добра выявіліся тыя якасці Сцяпана Фёдаравіча — уменне манеўраваць, смеласць, рашучасць,— якія пазней умацаваліся і прынеслі яму не адну заслужаную перамогу.

Танкі, якія вёў Шутаў, налятали на нямецкія штабы і тылавыя базы, гра́мілі іх, перарэзвалі шляхі, па якіх ішлі баявыя прыпасы для фронту. Усё, што сабралася ў Сцяпане Фёдаравічу за горкія дні адступлення, рабіла яго нястомным, не давала спакою ў гэтыя дні. Чуткі пра з'яўленне савецкіх танкістаў і коннікаў у тыле наганялі страх не толькі на нямецкіх абознікаў, а і на варожых генералаў. Танкісты з батальёна, які ішоў побач, гаварылі, нібы захапілі загад рэйхсфюрэра, які патрабаваў знішчыць рускую танкавую групу.

Пад Масквой разгаралася наша слаўнае наступленне. Войскі з баямі ішлі на захад. З імі з-пад Кашыры ішоў і Шутаў...

* * *

Ваенная праца, як і ўсякая іншая, бывае нярэдка малапрыкметнай. Яна не заўсёды вымерваецца кіламетрамі адваяванай зямлі, лічбаю адбітых вёсак... У франтавым жыцці Сцяпана Фёдаравіча неаднойчы здаралася так, што які-небудзь непрыкметны ўзгорак

браць было цяжэй, чым іншы раз вялікі горад. А такіх непрыкметных узгоркаў траплялася багата.

Асабліва запомніўся яму адзін бой пры наступленні на Сінявіна. Гэта было ў лютым 1943 года на Волхаўскім фронце; ён тады камандаваў гвардзейскім палком прарыву. Ішла ў той час бітва за Ленінград. Толькі што здабылі вялікую перамогу — прарвалі шматмесячную блакаду, расціснулі смяротную жалезную руку, якая душыла горад.

Баі былі цяжкія. Даводзілася адваёўваць метр за метрам. Немцы ўпарта чапляліся за кожны дот, за кожны акоп. У дотах сядзелі «смяротнікі». З танкамі тут не было дзе разгарнуцца — лінія фронту праходзіла па балотах. Наступаць танкісты маглі толькі па спецыяльных дарогах. Бывала, збочыць крыху танк з дарогі — і праваліцца ў дрыгву так глыбока, што да яго нельга і дакапацца.

...Наступленне, як звычайна, пачалі артылерысты — дзяўбалі дот за дотам, хавалі пад іх абломкамі ворага. Калі артылерысты перанеслі агонь углыбіню, у бой пайшлі танкі і пяхота. Праціўнік займаў выгадную вышыню, з якой біў з гармат і кулямётаў, што ўцалелі пасля нашага артылерыйскага наступу. Некалькі танкаў пры падыходзе да вышыні загразлі ў балоце. Усё ж частка танкаў прабілася да нямецкіх акопаў, і вышыню заваявалі. Наперадзе была другая лінія абароны, якая праходзіла па другой вышыні, але падысці да яе танкам было немагчыма — перад вышынёю ляжала гнілое балота.

У начным змроку, пад абстрэлам ворага, танкісты рыхтавалі праходы для баявых машын праз гэтае балота — ладзілі грэблі з бярвенняў, і галля, выцягвалі танкі, што загразлі ў дрыгве мінулым днём, рамантавалі падбітыя. Калі развіднелася, пачалі зноў наступаць. Шутаў з каманднага пункта кіраваў боем. Танкі ішлі наперадзе, услед за імі — пехацінцы. Густа ўздымаліся рудыя грывы выбухаў. Немцы падцягнулі за ноч сюды новыя батарэі, устанавілі кулямёты. Ледзь толькі танкі і пяхота праб'юцца крыху да праціўніка, шквальны кулямётны агонь адсякае пехацінцаў ад машын, прымушае іх падаць і ўціскацца глыбей у снег. Танкам, што ідуць наперадзе, даводзіцца спыняцца, адыходзіць назад да пехацінцаў — пачынаць спачатку.

Гэтак паўтаралася некалькі разоў. Часці тапталіся на месцы, наступленне, было відаць, пачынала зрывацца. Сцяпан Фёдаравіч ведаў, якая важная гэта аперацыя, і вельмі востра перажываў нашу няўдачу. Шутаў, аднак, не хацеў згадзіцца з тым, што становішча зусім непапраўнае.

— Дазвольце мне самастойна,— папрасіў ён камандзіра дывізіі, якой быў прыданы полк. План яго быў просты: танкі прарвуць умацаванні немцаў, а тады іх поспех павінны падтрымаць і развіць пехацінцы.

Камандаванне згадзілася з прапановай Шутава.

— Наперад, не зважаючы на запалкі! — загадаў Сцяпан Фёдаравіч капітану Белабародаву, камандзіру галаўной роты. «Запалкі» ўмоўна абазначалі пяхоту.

Рота пайшла наперад. Немцы ўвесь артылерыйскі агонь цяпер нацэлілі на невялікую групку танкаў. Адна за адной загарэліся і падарваліся на мінах некалькі машын, але капітан не спыняўся, настойліва вёў роту на нямецкія пазіцыі.

Пад вечар рота прабіла абарону і ўварвалася ў сярэдзіну варожага апорнага пункта. Гэта была невялікая лагчына, акаймаваная з трох бакоў грэбнем, на якім знаходзіліся немцы. Да іх акопаў было рукой падаць.

Танкі сталі веерам, падрыхтаваліся да кругавой абароны... Ноччу на падмогу Белабародаву Шутаў паслаў другую роту.

Увесь дзень танкісты перастрэльваліся з немцамі, нецярпліва чакалі падыходу пяхоты, што павінна прабіцца да іх. Але так і не дачакаліся — пехацінцам у гэты дзень падысці не ўдалося.

На трэці дзень у лагчыне вялі бой з немцамі тры роты. З апошняй прабіўся сюды і Сцяпан Фёдаравіч. Патрэбна было, нягледзячы ні на што, утрымаць важную заваёву. Між нашымі танкістамі і ворагам завязаліся зацятыя баі, якія не сціхалі цэлымі днямі, а часам і ўночы.

— Чаму не падыходзіць пяхота?.. Пяхоту давайце! Чакаю пяхоту! — патрабаваў Шутаў.

Калі і выпадала спакойная ноч, яна не прыносіла спачынку, бо ўсе былі насцярожанымі — вакол немцы. Асабліва цяжка даводзілася Сцяпану Фёдаравічу, камандзіру — трэба было трымаць людзей напагатове,

хутка разгадваць планы немцаў і зараз жа прымаць патрэбныя захады. Ад яго, як ніколі, залежаў і поспех справы і лёс людзей...

Нашы танкі рабілі ворагу багата клопату, таму яму не цярпелася хутчэй расправіцца з танкістамі. Немцы рашылі ўзяцца за справу больш рашуча, імклівым ударам знішчыць нарэшце ўпартую групку рускіх. Выбраўшы зручную хвіліну, варожыя салдаты кінуліся ў атаку з усіх бакоў.

Танкісты сустрэлі іх дружнай стралянінай, аднак спыніць не маглі. Здарылася самае страшнае — гітлераўцам удалося падысці да машын, забрацца на вежы. Танкісты хаваліся за шчыльна зачыненымі люкамі, ім цяпер можна было страляць толькі праз пісталетныя шчыліны. Становішча, здавалася, стала безвыходнае...

— Рус, здавайся! — стукалі знадворку.— Падпалім танк...

Цяпер адна надзея была на падмогу з Вялікай зямлі. Сцяпан Фёдаравіч папрасіў: «Выручайце! Дайце шрапнель». Паведаміў каардынаты.

Артылерысты хутка адгукнуліся, зрабілі першыя прыцэльныя стрэлы.

— Добра!.. беглы агонь!..— перадаў ён, ледзь толькі шрапнельныя снарады выбухнулі над размяшчэннем танкаў.

Снарады сталі густа, са скрогатам лопацца над танкамі. Як вогненным градам, секанула шрапнеллю. Немцы схлынулі, кінуліся наўцёк; у лагчыне засталося нямала забітых і раненых.

На гэтым, аднак, не скончылася — гітлераўцы рашылі расстраляць танкі з супрацьтанкавых гармат. Яны спрабавалі выставіць на грэбень для прамой наводкі адну за адной некалькі гармат, але стрэлы з танкаў разнеслі іх ушчэнт яшчэ да таго, як яны ўправіліся зрабіць хоць адзін стрэл. Немцы страцілі пры гэтым не адну гармату і нарэшце вымушаны былі адмовіцца ад сваёй задумы.

Паспрабавалі абстрэльваць гарматамі з закрытых пазіцый, але снарады траплялі не толькі ў танкі, а і ў нямецкія акопы паблізу. Давялося адмовіцца і ад гэтага. Надышло, можна сказаць, зацішша; праўда, з акопаў яшчэ часам кідалі ў лагчыну гранаты, але тыя мала трывожылі танкістаў.

Мінулі чацвёртыя суткі, за імі пятыя, прыйшлі шостыя...

Пяхота ўсё не падыходзіла. Боепрыпасы і гаручае былі на зыходзе...

Ноччу па радыё прынялі загад — «Вярнуцца назад», і танкі пачалі прабівацца з акружэння. Ураннi яны былі ўжо сярод сваіх...

## 2. ЦЕРАЗ ДЗЯСНУ І ДНЯПРО

У канцы трэцяга ваеннага лета Сцяпан Фёдаравіч атрымлівае назначэнне — камандаваць гвардзейскай танкавай брыгадай. Гэта была заслужаная брыгада, якая ўславіла сябе яшчэ пад Сталінградам, калі першай завяршыла акружэнне немцаў; цяпер яна толькі што скончыла баі на Курскай дузе. Сцяпан Фёдаравіч прыняў брыгаду ў гарачы час — атрымаўшы невялікі адпачынак, яна хутка рыхтавалася да наступлення на Кіеў. Не было часу як след пазнаёміцца з людзьмі, знаёміцца давялося ўжо ў баях.

Брыгада з ходу ўзяла некалькі прыбярэжных вёсак, прарвалася да Дзясны. Рака стала на шляху танкістаў, запыніла іх.

На вайне перамагае той, хто больш знаходлівы і смелы. Быць смелым — значыцца, не толькі смела ісці ў бой, але і няспынна шукаць новага і ажыццяўляць яго.

Камандзір корпуса генерал Краўчанка вырашыў фарсіраваць Дзясну па дне ракі, не чакаючы, калі прывязуць пантоны. Ён паставіў перад Сцяпанам Фёдаравічам задачу:

— Твая брыгада — галаўна́я. Будзеш фарсіраваць першы... Здолееш?

— Пастараюся, таварыш генерал,— сказаў Шутаў.— Справа далікатная...

— Далікатная,— згадзіўся камандзір корпуса.

Раней за ўсё трэба было знайсці зручнае месца для пераправы, месца, дзе рака мае найменшую глыбіню, спакойную плынь, бераг з павольным схілам, роўнае, без ям, дно. Сцяпан Фёдаравіч сабраў камандзіраў і мехвадзіцеляў і выйшаў на разведку.

Быў верасень. Халодны асенні вецер гнаў па вадзе хмурныя цені. Хіліліся з лодак з кіямі, хадзілі ў сцю-

дзёнай вадзе — выведвалі дно, прабавалі яго трываласць, мералі глыбіню, шукалі месца для пераправы. Метр за метрам даследавалі грунт пад вадою. Нарэшце вырашылі перапраўляцца каля вёскі Ліпкі, дзе шырыня ракі не перавышала васьмідзесяці метраў, дно было роўнае і цвёрдае, сярэдняя глыбіня — каля двух метраў.

Уночы рыхтаваліся да пераправы — шчыльна прыганялі люкі, пакуллем забівалі шчыліны,— каб вада не заліла танк, калі машына глыбока зойдзе ў раку.

Шутаў разлічваў на тое, што хоць вада пранікне ў машыну, яна не паспее падняцца да ўзроўню галавы вадзіцеля. Вядома, гэта залежыць ад таго, як хутка перасячэ танк глыбокае месца. Тут поспех у значнай ступені вырашала майстэрства камандзіра і вадзіцеля.

Вадзіцелям на пераправе трэба было весці танк «без вачэй», у шчыльна закаркаванай машыне.

«Вачыма» машыны быў камандзір танка. Ён павінен быў стаяць каля вежы і адтуль праз ТПУ [1] даваць вадзіцелю напрамак. Такім чынам вышыня машыны «павялічвалася».

На світанні, яшчэ ў змроку, танкі гвардзейскай брыгады падышлі да ракі.

Сцяпан Фёдаравіч даў каманду — першым у раку ён паслаў адзін з самых выпрабаваных экіпажаў: ад вынікаў першага рэйса залежала ўся пераправа.

Танк, ідучы па спадзістаму дну, стаў паступова апускацца ў ваду. У групе афіцэраў, што сачылі за танкамі, стаялі камандзір корпуса і камандзір брыгады. Панавала напружаная цішыня. Прысадзістая, у сінім камбінезоне, постаць камбрыга нібы скамянела; шэрыя, лагодныя вочы не адрываліся ад машыны.

«Пройдзе ці не?..»

Вось рака амаль схавала гусеніцы.

Танк, рассоўваючы шырокім ілбом ваду, уздымаючы два высокія вадзяныя валы, што разбягаліся ад машыны ў бакі, хутка апускаўся ўсё глыбей і глыбей.

Вадзіцель ужо пад вадою. Сцяпан Фёдаравіч мімаволі ўявіў — вада нястрымана прабіваецца знадворку, залівае педалі, падымаецца да каленяў... «Ці ўправіцца давесці?»

---

[1] Танкавае перагаворнае прыстасаванне.

Гэта былі хвіліны вялікага непакою.

Нарэшце машына стала хутка выпаўзаць з вады. Яна набліжаецца да берага. Побач увесь час б'е моцны вадзяны струмень — вентылятар выкідае з танка ваду.

Калі танк выйшаў на бераг, камандзір брыгады зварухнуўся, нібы скідваючы сябе анямеласць, выдыхнуў шырока:

— Прайшоў!

— Віншую...— задаволена сказаў камандзір корпуса падпалкоўніку.— У дванаццаць каб быў на тым баку... з усёй брыгадай.

— Буду, таварыш генерал.

Сцяпан Фёдаравіч даў знак — у раку стаў спускацца другі танк; іншыя напагатове стаялі на беразе, чакалі сваёй чаргі. Цяпер пераправа пайшла хутка і безупынна.

Яшчэ трохі да прызначанага часу Сцяпан Фёдаравіч пераправіў на другі бок усю брыгаду. Танкі сабраліся ў прыбярэжным ляску. Неўзабаве перайшоў і ўвесь корпус. Над нямецкімі часцямі, што ўчапіліся ў нашу зямлю паміж Дзясною і Дняпром, быў занесены магутны танкавы кулак.

Удар гэтага кулака скрышыў усе надзеі ворага. Рэшткі нямецкіх войск, што спрабавалі былі ўтрымацца на Дзясне, кінулі свае пазіцыі і пачалі ратавацца ўцёкам: палохала пагроза акружэння. К вечару вялікая прастора паміж рэкамі была ачышчана ад ворага.

* * *

Падпалкоўнік загадаў батальёнам размясціцца ў прыбярэжным лесе. Не выходзячы з «віліса», зрабіў некалькі кароткіх заўваг пра тое, як размясціць батальёны, затым паклікаў да сябе ў машыну капітана Швыдкага, камандзіра мотастралкоў, і сказаў шафёру:

— Да Дняпра.

Дрэвы пачалі радзець, між ствaламі зашарэла роўнядзь берага. Машына спынілася. Вось ён, Дняпро! Падпалкоўнік, пазіраючы ў цемру, за якой хаваўся нябачны правы бераг, хвіліну з прагнасцю ўбіраў насычаны вільгаццю дняпроўскі вецер, потым, нібы

ачнуўшыся, пачаў коратка тлумачыць капітану задачу мотабатальёна: падрыхтавацца да пераправы, фарсіраваць Дняпро, захапіць плацдарм глыбінёю ў 3—4 кіламетры і ўтрымліваць яго да падыходу асноўных сіл брыгады. Злева разам з батальёнам будзе перапраўляцца стралковая часць. Пераправачных прылад няма, пантоны затрымаліся ў дарозе; для пераправы зброі капітан атрымае гумавую лодку...

У тым месцы, дзе мелася пераправіцца брыгада, стромкая града правага берага ішла не пры самай рацэ, а кіламетраў праз чатыры-пяць. Адразу за ракой пачыналася каса, на якой буяў густы лазняк. Сюды і павінны былі пераправіцца стралкі, захапіць плацдарм на беразе.

Падпалкоўнік ведаў, што барацьба за той бераг будзе цяжкай; немцы зробяць усё, каб затрымаць наша наступленне. Палонныя, якія былі захоплены ў апошнія дні, казалі, што да ракі падышло многа новых войск — танкі, пяхота, артылерыя. Заходні бераг — высокі і стромкі — вельмі выгадны для абароны. З наглядальных пунктаў адтуль можна добра бачыць усё, што робіцца на рацэ, і батарэі праціўніка здолеюць весці трапны агонь па пераправах.

Шутаў ведаў, што бой чакаў цяжкі яшчэ і таму, што праціўнік зможа пасылаць не толькі пяхоту, але і танкі, і артылерыю, тады як нашы сілы спачатку будуць абмежаваныя; невялікім групам давядзецца біцца супроць батальёнаў і палкоў.

Пераправа пачалася ў цішыні. Першымі пайшлі ў раку байцы, што ўмелі добра плаваць. Услед за імі — іншыя — на палатках з сенам, на дошках, на мяшках з саломай, на збітых наспех плытах. Першыя байцы былі ўжо недзе на беразе, а тут усё падыходзілі і падыходзілі да ракі. Злева непадалёк перапраўляліся пехацінцы.

Раптам на тым беразе затрашчалі кулямёты і аўтаматы. Адна за адной успыхнулі некалькі ракет, з цемры вырас бераг — нізкая, плоская, зарослая лазняком прыбярэжная каса. З вады выбягалі постаці, знікалі ў лазняку... Бойка пачалася. Пачалася вялікая пераправа цераз Дняпро.

Усю ноч і ўвесь дзень на тым беразе не ўціхаў бой. Немцы раз за разам хадзілі ў контратакі, парываліся

скінуць нашу пяхоту з берага. На рацэ кіпела вада ад выбухаў снарадаў і бомб, але пераправа амаль не спынялася. На заходні бераг, на падмогу ішлі новыя ўзводы, роты, плыты з боепрыпасамі.

Нашы гарматы без супынку білі па нямецкіх батарэях і акопах.

А танкі пакуль што маўчалі. У лесе ішла падрыхтоўка да пераправы — падвозілася гаручае, снарады, пантанёры ладзілі для пераправы танкаў пантоны. На дне ракі знайшлі два затопленыя немцамі буксіры, адзін з іх паднялі. Партызаны, былыя кіеўскія рабочыя, не зважаючы на абстрэл, рыхтавалі яго да баявой начной працы.

Сцяпан Фёдаравіч з нецярплівасцю чакаў вечара. Камандзір корпуса даручыў яму цяжкую і пачэсную задачу, як і пры пераправе праз Дзясну, яго танкі будуць ісці наперадзе злучэння.

Калі добра сцямнела, пачалі перапраўляцца. На пантон, уціскаючы яго ў ваду, асцярожна ўспоўз важкі танк; запляскалі лопасці буксіра, выпрастаўся, напяўся трос, і пантон стаў паволі адыходзіць ад берага. Першы рэйс абышоўся добра. Калі ж буксір падаўся ў другі рэйс, немцы заўважылі яго і пачалі страляць па ім снарадамі і мінамі. Адзін снарад трапіў між буксірам і пантонам. Трос перарвала, як нітку. Хуткая плынь ракі адразу панесла пантон з танкам усцяж берага. Гэта магло на доўгі час затрымаць пераправу. Але каманда буксіра і танкісты не разгубіліся — пантон злавілі, прымацавалі да параходзіка і прывялі да месца выгрузкі. Неўзабаве на той бераг накіраваўся і камандзір брыгады. Спераду, збоку, уоддалі, блізка рваліся снарады, але параходзік ішоў па свайму напрамку. Не адзін раз скалатнуўся ён ад блізкіх выбухаў, якія побач узнімалі ўгору высокія слупы вады, аблівалі людзей, што стаялі на палубе.

Бераг паволі набліжаўся. Вось нарэшце зямля — цвёрдая і ўстойлівая.

Сцяпан Фёдаравіч адразу ж сабраў камандзіраў і паставіў задачу — не чакаючы, пакуль пераправяцца іншыя танкі, пачаць наступленне на Люцеж.

Баявыя машыны рушылі наперад. Мінулі акопы пяхоты; у цемры вызначыліся чорныя абрысы хат — Люцеж... Уварваліся на гароды, на вуліцы. Немцы

ўпарта абараняліся; гарматы і кулямёты білі з дотаў, з акопаў, з хат. Біліся ледзь не за кожны дом. Урэшце немцы не ўстаялі перад гвардзейцамі і пачалі адступаць.

Сцяпан Фёдаравіч парашыў у Люцежы спыніцца, каб замацавацца і прычакаць падыходу рэшты брыгады. У мотабатальёне пасля баёў заставалася ў страі не больш трэці байцоў, было падбіта два танкі. Наступаць далей з такой сілай станавілася рызыкоўна.

Пакінуўшы Люцеж, немцы страцілі некалькі добрых назіральных пунктаў, што дазвалялі весці прыцэльны агонь па пераправе. З гэтага часу снарады і міны сталі менш замінаць буксіру, і праца на пераправе пайшла спарней. Шлях для танкаў, што ішлі ўслед, быў адкрыты. За ноч у Люцежы сабралася амаль уся брыгада, і Шутаў павёў яе далей, на Ірпень, у прасторы правага берага.

## 3. НА КІЕЎ

Баі на правабярэжжы Дняпра з кожным днём станавіліся ўсё больш моцнымі. Немцы неўзабаве пераадолелі замяшанне, якое было ў іх першы час, хутка збіралі сілы да месцаў прарыву, намерваючыся прыціснуць нашы часці да берага і скінуць іх у раку.

Між тым брыгада Сцяпана Фёдаравіча, без упынку адбіваючы нямецкія атакі, упарта ішла наперад, развівала поспех. Пад вечар танкісты ўступілі ў вёску Ракаўка, а ў дванаццаць гадзін ночы вызвалілі ўжо горад Гастомель, за трыццаць кіламетраў ад Ракаўкі.

На світанні пасля кароткага, але гарачага бою немцы вымушаны былі пакінуць станцыю Буча. На пуцях стаяў мёртвы бронецягнік, палалі эшалоны з боепрыпасамі. Шутаў загадаў наступаць далей.

У гэты час да яго падышоў афіцэр, перадаў тэрміновы пакет. Сцяпан Фёдаравіч разарваў канверт — загад ад камандзіра корпуса: вярнуцца назад.

Вярнуцца?! Шутаў спачатку нават не паверыў, падумаў, што здарылася нейкая памылка. Наступленне брыгады ідзе паспяхова, толькі што вырваліся на прастор, дзе можна папрацаваць па-сапраўднаму, і рап-

там — вярнуцца назад, без бою аддаць адваяванае. «Відаць, у тылах справы кепскія»,— кальнула здагадка.

І праўда — становішча ў цэлым было цяжкае. Як толькі выйшлі з Гастомеля на дарогу, адразу над танкамі з'явіліся нямецкія самалёты. На ўсім шляху — амаль пяць гадзін,— пакуль не падышлі да Ірпеня, яны не адставалі ад танкаў, няспынна абстрэльвалі і бамбілі. Іх было вельмі многа; яны праносіліся над танкамі так нізка, што здавалася, вось-вось зачэпяцца за вежы...

Перад Ірпенем брыгада вымушана была спыніцца — разбамбілі мост цераз рэчку. Нічога іншага не заставалася, як схаваць танкі ў лесе, замаскавацца і чакаць надыходу ночы.

Уночы шумелі пілы, стукалі сякеры — танкісты будавалі пераправу. На берагах рэчкі — багністых і зыбкіх — слалі адно ля другога бярвенні, на вадзе збівалі мост. Усю ноч увіхаліся, але не ўправіліся, скончылі толькі ўдзень.

Ледзь перабраліся на другі бераг, Сцяпан Фёдаравіч атрымаў вестку, што праціўнік перайшоў у наступленне. Брыгадзе было загадана неадкладна выступіць, каб адрэзаць варожыя часці ад Кіева.

Немцы біліся за кожны кавалак зямлі. У вёсках даводзілася іх выбіваць літаральна з кожнага дома. У Ябланаўцы яны паспрабавалі задушыць брыгаду — акружылі яе і павялі з усіх бакоў наступленне. У немцаў было многа самаходак і танкаў; яны ўсё больш настойліва падыходзілі да сяла, дзе былі заціснуты нашы танкі. Бой не сціхаў да вечара. Шутаў адбіў усе атакі, а ўночы сам перайшоў у наступленне і заняў прырэчную вёску Новыя Пятроўцы, а затым і Валкі. З заняццем Валкаў нямецкая група, якая захапіла Лютэж і адрэзала нашы часці ад Дняпра, сама аказалася адрэзанай.

Наступныя дні брыгада вытрымлівала атакі новых часцей праціўніка, якія падыходзілі з боку Кіева. І гэтыя атакі былі адбіты. Камандзір корпуса падзякаваў Шутаву — брыгада дапамагла выратаваць становішча войск, што былі на плацдарме...

Хутка Шутаў пачаў наступленне на Вышгарад — моцны апорны пункт немцаў на Кіеўскім напрамку.

Вышгорад — вельмі выгадны для абароны, ён стаіць на высокім беразе, які ўвесь парэзаны з трох бакоў глыбокімі, нібы супрацьтанкавыя равы, ярамі. З усходу — стромкі, як сцяна, спад да Дняпра вышынёю больш за трыццаць метраў. Акрамя таго, гэта прыродная крэпасць была ўмацавана бліндажамі і траншэямі. Немцы адчувалі сябе тут упэўнена. У цяжкім баі, які ішоў цэлы дзень, танкісты прарваліся да Вышгорада і завязалі бойку за ўскраіну. Немцы кінулі ў контратаку танкі і пяхоту. Суседняя наша брыгада не вытрымала націску немцаў і пачала адступаць, аддаючы гэтую важную заваёву. Услед за «суседам» сталі адыходзіць і батальёны брыгады Шутава.

— Куды?! Назад?.. Хто дазволіў?! — абурана пытаўся ён па рацыі ў камбатаў. Гнеўны, жорсткі, загадваў: — Спыніць паніку! Спыніць адступленне!..

Але батальёны адыходзілі. Тады сам кінуўся ў баявыя парадкі к танкістам, к пяхоце. З вялікай цяжкасцю дабіўся, што брыгада стала, зачапілася за рубеж, вытрымала варожы націск. Як толькі сціхла трохі, сабраў камбатаў, загадаў вярнуць рубеж.

Па голасе яго ўсе зразумелі, што гэтае рашэнне нязменнае і неадкладнае.

Неўзабаве наступіла ноч. Шутаў уважліва сачыў за тым, як брыгада рыхтавалася да наступлення. Падабраў усе рэзервы, падчысціў дапаможныя падраздзяленні і ўмацаваў батальёны.

Немцы таксама — выявіла разведка — старанна рыхтаваліся да заўтрашняга бою.

Хто каго адолее?

Ледзь пачало світаць, Шутаў кінуў свае батальёны на Вышгорад. Ён апярэдзіў нямецкае наступленне, узяў ініцыятыву ў свае рукі і ў жорсткім, упартым баі прымусіў немцаў адысці. Да вечара было адваявана паўгорада, уступлены рубеж быў вернуты, і падпалкоўнік паспакайнеў.

Наступныя трое сутак немцы спрабавалі вярнуць гэтыя вуліцы, але не здолелі адбіць ні аднаго дома.

Цяпер становішча трохі ўсталёўвалася; варожыя часці сталі ў абарону. Гэтая заваёва мела вялікае значэнне — наша «малая зямля» на правым беразе пашырылася, на ёй паступова збіраліся новыя палкі і дывізіі,

рыхтаваліся да бою за Кіеў. Набліжаўся дзень вызвалення сталіцы Украіны.

...І ён, гэты дзень, неўзабаве прыйшоў. Ноччу на трэцяе лістапада часці занялі зыходныя пазіцыі для наступлення на Кіеў. Брыгадзе Шутава паставілі задачу: к вечару, узаемадзейнічаючы з пяхотнай дывізіяй, заняць дзіцячы санаторый «Пушча-Вадзіца».

У шэсць гадзін раніцы пачалася артылерыйская падрыхтоўка. У цемры раптам шуганулі ўгору маланкі, разлёгся гром. Адразу загаварылі сотні гармат. Залпы і паасобныя стрэлы ўсё мацнелі, гусцелі і ўрэшце зліліся ў суцэльны гул. Святло трапятала на дрэвах, на тварах байцоў, на танкавых вежах. Незабыўнае, вялікае відовішча!

Сэрца Сцяпана Фёдаравіча перапаўнялася радасцю: не доўга, не доўга засталося чакаць Кіеву свята на сваіх вуліцах.

Хутка і ён убачыць сваю сям'ю. Абдыме сына, жонку...

Артылерыйскі гром не сціхаў дзве гадзіны. У восем гадзін, калі гарматныя стрэлы паступова пачалі слабець, Сцяпан Фёдаравіч скамандаваў сваім батальёнам — у атаку. Танкі адразу ажылі, рушылі наперад, цяжка падмінаючы гусеніцамі мокрую траву.

Неўзабаве танкісты вялі гарачы бой. Давілі гусеніцамі нямецкія гарматы, выганялі з акопаў ашалелых ад выбухаў пехацінцаў. Білі па шызых варожых танках.

Сцяпан Фёдаравіч застаўся на камандным пункце разам з камандзірам пяхотнай дывізіі. Гукі бою спакваля адыходзілі ўсё далей, цішэлі, танкі адзін за адным хаваліся за невысокім узгоркам. Адсюль, з КП, цяпер цяжка было сачыць за ўсім, што робіцца ў батальёнах, якія тараняць абарону. Становішча ўвесь час мянялася, усё было ў безупынным руху, а ён не бачыў танкаў, не мог кіраваць імі.

Сцяпан Фёдаравіч любіў усё бачыць сваімі вачыма. Даўно-даўно звык ён — яшчэ ў тыя часы, калі камандаваў ротай ці батальёнам,— быць у самым пекле бою. Пазней, калі ён стаў камандзірам брыгады, неабходнасці ў гэтай звычцы часта не было, яму звычайна належала быць на КП. Між тым звычка не забывалася. Яна і не магла забыцца, бо ў ёй выяўлялася адна з галоў-

ных рыс характару цяперашняга камандзіра брыгады, яго вядучае жыццёвае правіла.

Сцяпана Фёдаравіча заўсёды вяло туды, дзе самая гарачая схватка, дзе найбольш складаныя абставіны, дзе цяжэй...

І на гэты раз характар узяў сваё.

— Барысаў, падай ППШ сюды!..

Шутаў сеў у танк, памчаў у поле. З ім — неразлучны ардынарац сержант Барысаў.

Вакол — сляды нядаўняга бою: пранізаныя навылёт машыны, сплюшчаныя, скарэжаныя гарматы, трупы немцаў, павілястыя раўчакі гусеніц. Далі прыкурыць немцам хлопцы!

Пад вечар Сцяпан Фёдаравіч са сваімі танкістамі вёў бой на ўскрайку ўрочышча Пушча-Вадзіца. Да Кіева заставалася сем кіламетраў. Адсюль была добра відаць кіеўская ўскраіна — купкі дамоў, чорныя голыя дрэвы; іх спакваля агортвала вячэрняя цемра.

Вось ён, Кіеў. Там недзе самыя родныя яму людзі: Галіна Андрэеўна — Галя, Валодзя. Трэці год у нечаканай ростані, у невядомасці... Яны і не ведаюць, што ён тут — рукой падаць...

Сэрца яго, думкі рваліся нецярпліва ў горад. «Ну нічога,— заспакойваў ён сябе,— цяпер ужо нядоўга засталося чакаць».

Сцяпан Фёдаравіч ведаў, што наперадзе яшчэ нялёгкі бой, але думкамі і сэрцам быў ужо ў горадзе. Ён тады і ўявіць бы не мог, якое яшчэ выпрабаванне чакае яго тут, перад самым горадам...

Наступіла ноч. Пацішэла. Толькі недзе ўдалечы раз-пораз глуха грымяць гарматы. «Чаму так ціха побач? — думае ўстрывожана Сцяпан Фёдаравіч.— Няўжо суседзі не здолелі адагнаць праціўніка?»

— Звяжы з КП! — папрасіў ён тэлефаніста.

Трывожнае адчуванне апраўдалася — адтуль паведамілі, што суседзі так і не змаглі прарваць лінію абароны. Такім чынам, брыгада і пяхотны батальён глыбока ўкліniліся ў размяшчэнне нямецкіх войск, флангі аказаліся адкрытымі.

Падпалкоўнік адразу насцеражыўся — праціўнік, напэўна, пастараецца атакаваць справа ці злева, а можа, нават адрэзаць брыгаду. І праўда, не паспеў ён як след расказаць пра вынікі бою, як тэлефон-

ная сувязь, што звязвала брыгаду з КП, была перарвана.

Сцяпан Фёдаравіч паслаў на КП аднаго разведчыка, другога — загінулі без вестак. Перахапіў праціўнік. Цяпер было ясна — брыгада адрэзана, брыгада ў акружэнні.

Танкісты аб гэтым яшчэ не ведалі. Стомленыя боем, яны, дзе каму давялося, спалі. Сон валіў усіх; з чорнага неба цадзіўся нудны дождж, і ад гэтага спаць хацелася яшчэ мацней. Сон апаноўваў і камандзіра брыгады, які ледзь не валіўся ад зморы.

Трэба было думаць, шукаць выйсця са становішча. У зморанай галаве пачало акрэслівацца рашэнне — заняць кругавую абарону. Падрыхтавацца да бою, быць увесь час напагатове; калі нашы будуць наступаць, дапамагчы ім, ударыць немцаў з тылу.

Тады, як добра абдумаў усё, выклікаў камандзіраў, расказаў аб абстаноўцы, аб акружэнні, паставіў задачы кожнаму падраздзяленню, намеціў участкі абароны.

— Кіеў перад намі — рукой падаць, будзем трымацца тут, што б ні было,— сказаў ён напаследак.— Ідзіце, рыхтуйцеся — ды добра. Прыйду, праверу ўсё сам...

Да світання падраздзяленні занялі вызначаныя месцы, акапаліся. Сцяпан Фёдаравіч, як і сказаў, абышоў абарончы рубеж, праверыў усё.

У рэзерве пакінуў толькі некалькі танкаў ды ўзвод разведчыкаў. На ўсякі выпадак.

Дзень надыходзіў марудна. Світанне доўга не магло адолець змроку — на зямлі густым даўкім пластам ляжаў туман, сонца не было відаць; аб тым, што пачаўся дзень, можна было здагадацца па цьмянай шэрані, якая змяніла ноч.

Наступленне немцы пачалі шалёным абстрэлам з гармат. Не было, здаецца, такога месца на гэтым вузенькім кавалачку зямлі, дзе б ні рваліся варожыя снарады. Амаль не відаць ні выбліскаў агню, ні паўзучага дыму. Даходзяць толькі гукі — выццё снарадаў, скрогат выбухаў, сіпенне асколкаў... Валяцца дрэвы, зламаныя выбуховымі хвалямі, падае галлё, зрэзанае асколкамі.

Цяжэй за ўсіх давялося танкаваму батальёну маёра Бінеўскага, які стрымліваў нямецкі націск з боку

вёскі Пушча-Вадзіца. З вёскі, з туману, што паволі разыходзіўся, адзін за адным, абстрэльваючы батальён, выпаўзалі варожыя танкі з аўтаматчыкамі. У Бінеўскага загарэўся адзін танк, другі. Нямецкія танкі і аўтаматчыкі ўзмацнілі націск. Вось-вось нашы не вытрымаюць.

Камандзір брыгады бярэ свой апошні рэзерв, кідаецца на дапамогу. Батальён адбівае немцаў, а ўслед за гэтым па загаду Шутава сам пераходзіць у контратаку. Варожыя танкі адзін за адным адступаюць назад. Некалькі варожых аўтаматчыкаў трапляе ў палон. Яны паказваюць, што іх дывізія толькі што перакінута з другога ўчастка...

Аднак першая няўдача не спыніла немцаў. Не паспеў Шутаў дапытаць палонных, як на паўднёвым баку ўзгарэўся бой. Да яго падбег, задыхаўшыся, сувязны пехацінцаў:

— Таварыш гвардыі падпалкоўнік, немцы прарваліся...

— Як прарваліся?!

— Выбілі з акопаў... Артпазіцыі захапілі...

Падпалкоўнік, пачуўшы гэта, сеў у танк, узяў з сабою некалькі машын і, не трацячы ні хвіліны, заспяшаўся на выручку. Падмацаванне паспела якраз у час. Танкі, страляючы на хаду, хутка рушылі наперад. Следам за імі пайшлі пехацінцы, стараючыся не адставаць...

Страчаныя пазіцыі былі адваяваны. Артылерысты вярнулі свае гарматы. Немцы пры паспешным уцёку не паспелі іх падарваць. Становішча выправілі. Зноў захапілі палонных; Шутаў дапытаў іх — яны належалі да іншай, чым папярэдняя, дывізіі. Значыцца, вораг сабраў тут вялікую сілу і ўстаяць супроць яго будзе нялёгка.

А сувязі са сваімі часцямі няма. Ці хутка прыйдзе падмога — невядома.

Туман растаў, угары завіднелася шэрае, з сінімі прагалінамі, неба. Адразу з'явіліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Пасля бамбёжкі і абстрэлу з самалётаў нямецкая пяхота зноў пайшла ў атаку... Гарачы выдаўся дзень!

Шутаў увесь час быў насцярожаны, уважліва сачыў за сваім войскам. То тут, то там ствaралася пагро-

за, і трэба было зразу ўжыць неабходныя меры. Ён пасылаў на выручку свой рэзерв з танкаў, хуткія «трыццацьчацвёркі» з'яўляліся то ў адным, то ў другім месцы. Сцяпан Фёдаравіч выявіў сябе спрытным камандзірам і энергічным чалавекам. Яго камандзірскае ўмельства не адзін раз ратавала становішча ў гэты дзень.

У хвіліны зацішша байцы хавалі забітых, санітаркі перавязвалі раненых. Падпалкоўнік не спачываў сам і не даваў спачываць байцам — па яго загаду глыбей укапваліся ў зямлю.

За дзень адбілі трыццаць нямецкіх атак.

Уночы падышлі сюды танкі, занялі рубеж побач. Чорныя, ледзь бачныя ў восеньскай цемры, яны адзін за адным, грукочучы, ішлі па полі. Калоне, здавалася, не было канца.

«Вось гэта сіла! — радаваліся байцы, сочачы за танкамі.— Ну, цяпер немцу не ўтрымацца». Усе адчувалі, што заўтра пачнецца бой, які вырашыць лёс Кіева.

У адзінаццаць гадзін пятага лістапада Шутаў павёў сваю брыгаду на штурм Кіева. Разам з пяхотай смелым націскам уварваўся ў прыгарадны пасёлак Святошына, са Святошына накіраваў батальёны к паўднёвай ускраіне Кіева. Хаваючыся ў чыгуначнай выемцы, непрыкметна падабраўся з танкамі к самаму нямецкаму аэрадрому, за якім пачынаўся ўжо горад.

Над Кіевам чорнаю хмараю вісеў дым, дым слаўся па вуліцах. Нават праз шум матораў былі чуваць выбухі — гітлераўцы падрывалі дамы... Танкі Шутава з ходу ўскочылі на ўскраіну, завязалі баі на вуліцах, на плошчах, у прысадах. К пяці гадзінам вечара брыгада, якую вёў Шутаў, заняла Вялікую Баршчагоўскую вуліцу, з Чэхаславацкай брыгадай адбіла Саломенку і апоўначы пачала бой за Арсенал...

Адсюль зусім блізка быў дом, дзе жыла сям'я. Але бой не сціхаў, і нельга было і на хвіліну адлучыцца, каб даведацца пра тое, што трывожыла ўжо столькі дзён. Толькі на світанні, калі бітва закончылася, Шутаў атрымаў нарэшце права зазірнуць на вуліцу імя Галі Цімафеевай, забегчы ў дом, які даўно ўжо быў родным. Здавалася, што машына імчыць марудна, усё хацелася падагнаць — хутчэй, хутчэй. Калі ўскочыў у пад'езд, сэрца гатова было вылецець з грудзей. Як пуста, ціха!..

Ірвануў дзверы, у пакоі нікога. Усё раскідана, пабіта... Ні жонкі, ні дзяцей. Дзе яны?

У суседняй кватэры знайшоў жанчыну.

— Жывыя былі... Выехалі з горада...

— Куды?

— Не сказалі...

Шукаць не было калі. Хутка накідаў алоўкам некалькі слоў, напісаў свой адрас: куды даць вестку, калі вернуцца. Напісаў — і бегам на двор к машыне, паехаў назад да сваіх танкаў. На вуліцах кіеўляне абдымалі і цалавалі байцоў, плакалі і смяяліся.

Выгнаныя з Кіева, гітлераўцы яшчэ доўгі час не трацілі надзеі вярнуцца ў яго зноў. Амаль увесь лістапад яны атакавалі нашы часці, імкнучыся прарвацца да горада. Палкоўніку Шутаву давялося доўгі час абараняць Кіеў.

Прыехаўшы аднойчы ў горад, ён спаткаў у сваёй кватэры жонку і малога. Шутаў упершыню ўзяў на рукі сына, якога яшчэ ніколі не бачыў.

Сустрэча выйшла хмарнай. Старэйшага сына, Валодзі, не было. Галіна Андрэеўна са слязамі гора і роспачы расказала, што яны ўтраіх хаваліся ў вёсцы, блізка ад Кіева; калі к вёсцы падышлі нашы, яна ноччу з малымі кінулася насустрач ім. У цемры і мітусні Валодзя неяк згубіўся, можа быць, вярнуўся назад, але пашукаць яго там нельга, бо нашым пакуль не ўдалося ўзяць сяло. Валодзя, мабыць, на тым баку...

Здарылася так, што Шутаву давялося весці баі якраз на тым напрамку, дзе была вёска, у якой мог жыць сын. Зімовым днём яго танкісты ўварваліся ў гэту вёску, і Шутаў стаў нецярпліва распытваць, ці няма тут хлапчука з Кіева.

Хлапчук такі быў. Яго неўзабаве падвялі к палкоўніку. Хоць сын і вырас вельмі, Шутаў пазнаў яго.

— Валодзя?!

Сын глядзеў на яго здзіўлена, як чужы.

— Не прызнаеш?! Сын! — парывіста, з раптоўным болем абняў хлопца бацька.

— Тата?! — не адразу паверыў Валодзя.

Абвыкшыся з бацькам, аблашчаны танкістамі, ён адчуў сябе хутка нібы ў добрай, шчырай сям'і. І шкада яму было, што з сям'ёй гэтай давялося развітацца: на спадарожнай машыне бацька адправіў яго ў Кіеў...

Дні гэтыя прынеслі Шутаву і яшчэ адну радасць: стала вядома, што за кіеўскія баі яму прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза.

Брыгадзе далі невялікі адпачынак. Калі прыйшоў загад вярнуцца ёй на фронт, наша камандаванне якраз ажыццяўляла акружэнне нямецкіх часцей у раёне Корсунь-Шаўчэнкаўскага.

За вёску Рубаны Мост брыгада білася цэлы дзень. Спачатку ўсё ішло добра, непрыкметна падабраліся амаль да самай вёскі, зблізку адкрылі агонь па немцах. У сяле паднялася паніка. Але, калі танкі падышлі бліжэй, раптам давялося спыніцца — перад вёскай цягнуўся глыбокі яр. Немцы ж хутка апамяталіся, пачалі страляць па танках і адну за адной запалілі дзве самаходкі. Палкоўнік загадаў адысці назад, зрабіць вялікі абход і ўдарыць з паўднёвага боку.

Заваждаліся пры гэтай вёсцы — узялі толькі тады, як надышоў вечар. Пачуццё перамогі не радавала палкоўніка — не выканалі дзённага задання. А тут ноч — цёмная, сырая. Цемра такая, хоць вочы выкалі...

— Ноч, ноч — сядзець бы толькі ля печкі... ды страшныя гісторыі выдумляць,— нявесела пажартаваў адзін з камандзіраў батальёна.

— Сядзець, казкі выдумляць...— хмура прамовіў Шутаў.

— Канешне, непрыемна, што задачу не выканалі,— адгукнуўся другі камбат.

— Сягоння не дацягнулі, заўтра падгонім...

— Падгонім...— Шутаў зірнуў на камбатаў.— Ведаеце, што ў нас у Дварцы пра такія справы кажуць?

Танкісты маўчалі, чакалі — што ж гавораць гэтыя дварэцкія мудрацы, якіх не забывае ўсё камбрыг.

— У нас кажуць: адклад не ідзе ў лад...— Шутаў раптам змяніў размову.— Не ведаю, чаму ты не любіш ноч,— сказаў да камбата, які лічыў, што ў такую ноч лепш за ўсё каля печкі.— А я люблю ноч... Асабліва такую, як сёння, цёмную, глухую. У яе ёсць такія прынады...

Камбат паглядзеў на Шутава, нібы хацеў праверыць — сур'ёзна ён гаворыць ці жартуе.

— Ей-богу, падабаецца гэта ноч!..

Хутка камбат упэўніўся, што палкоўнік гаварыў сур'ёзна: Шутаў скамандаваў брыгадзе выступаць.

Ішлі павольна, асцярожна. Выслалі моцную разведку. На дарозе нідзе ні аднаго чалавека і такая цішыня, нібы ўсё вымерла навокал, хоць толькі нядаўна тут было поўна немцаў. Узіраліся, услухоўваліся. Нейкім асаблівым пачуццём, выпрацаваным на вайне, угадаў камандзір узвода разведкі ў гэтай цемры паселішча. Загадаў танкам прыпыніцца, узяў з сабою чатырох аўтаматчыкаў-разведчыкаў і пайшоў наперад.

І праўда, хутка наткнуліся на плот, убачылі цёмны абрыс будыніны. Аўтаматчыкі агледзелі на ўскраіне адну хату, другую — няма нідзе нікога. Між тым ціха падпаўзлі танкі, палкоўнік загадаў быць напагатове. Нарэшце на бязлюднай вуліцы, калі агледзелі дзесятак хат, знайшлі чалавека. Гэта быў стары селянін.

— Дзе людзі?

— Ведама дзе. Адны пахаваліся, другіх хрыц пагнаў...

— Немцаў у сяле няма?

— Былі. Зусім нядаўна былі...

— Як — нядаўна? Днём, ноччу гэтай?

— Ды, можа, з паўгадзіны, а то і менш. Чуў: ішлі, гергеталі...

— Дзе ж яны падзеліся?

— Хто іх ведае!.. А толькі — у той бок ішлі...

Шутаў паслаў разведчыкаў туды, куды паказаў стары,— аказалася, на ўскраіне нямала гітлераўцаў і яны спяць, як дома.

— Спяць?— перапытаў Шутаў.

— Так точна, таварыш палкоўнік, спяць,— паўтарыў разведчык.— Як у цешчы...

Шутаў задумаўся і сказаў:

— Ну і няхай спяць!

Рашыў — пакуль што, да світання, не пачынаць бою: «У цемры можна сапсаваць усю справу... Разбягуцца хто куды, паспрабуй — злаві». Гэта быў ужо не першы год вайны, калі яму davolі было б разагнаць іх...

Каб зручней было браць немцаў, арганізаваў дзесяткі два груп. У кожнай з іх танк і некалькі аўтаматчыкаў. Загадаў, каб на ўсякі выпадак паставілі на вуліцах ахову.

Немцы спакойна спалі, не ведаючы, што іх сцерагуць, што яны, можна сказаць, у палоне.

Ледзь пасвятлела, аўтаматчыкі і танкісты пачалі «будзіць».

Убачыўшы каля хаты дула савецкага танка, а ля дзвярэй аўтаматчыкаў, немцы разгублена паднімалі рукі. Мястэчка было вызвалена без адзінага стрэлу. Ні адзін немец не ўцёк ад нашых танкістаў.

Праз некалькі гадзін брыгада вяла бой ужо ў Звянігарадцы. Насустрач ёй з поўдня прабіваліся танкісты 2-га Украінскага фронту. Неўзабаве танкісты абодвух франтоў сышліся; Сцяпан Фёдаравіч па-братняму абняў камандзіра сустрэчнай брыгады Героя Савецкага Саюза палкоўніка Прошына. Салдаты частавалі адзін аднаго небагатым сваім пайком. Корсунь-Шаўчэнкаўская групіроўка немцаў была акружана.

Каб прабіцца да акружаных часцей і выратаваць іх, немцы на асобных участках фронту пачалі наступаць. Вялікая група нямецкіх танкаў адкінула нашы падраздзяленні і стала набліжацца да акружаных войск. Становішча рабілася пагрозным.

Камандуючы арміі паслаў сюды брыгаду Шутава, якая была якраз недалёка ад гэтага месца. Ён ведаў, што Сцяпан Фёдаравіч не адступіць, як бы ні было цяжка. У той час, калі нашы танкі падышлі да перадавой лініі, немцы пачалі перапраўляцца цераз рэчку. Шутаў адразу ўступіў у бой з першымі танкамі, што пераправіліся — іх, на шчасце, было небагата,— разбіў іх і захапіў пераправу.

Цяпер ён дамагаўся аднаго — не прапусціць немцаў на гэты бераг, утрымаць пераправу. Рэчка паслабляла нямецкі націск, варожыя танкі вымушаны былі стаяць перад .вадзяной перагародай. Але спыніць іх нават пры такіх абставінах было незвычайна цяжка, бо нямецкае злучэнне было намнога большае за нашу брыгаду. Наглядаючы са свайго КП, з узгорка, палкоўнік стаў лічыць танкі, што былі за ракой.

Ён налічыў іх каля сотні і кінуў лічыць: сумны, непатрэбны занятак. І так відаць, што іх у некалькі разоў больш, чым у яго брыгадзе, якая ў няспынных баях страціла багата і людзей і машын. Але хоць сілы і былі няроўныя, хоць гітлераўцы ашалела кідаліся прабіцца, танкісты пад камандай Шутава не паддаваліся. Усе добра ведалі значэнне таго рубяжа, які трэба было адстаяць.

Кароткія зімовыя дні здаваліся незвычайна доўгімі; з кожным днём стрымліваць немцаў станавілася цяжэй. Усё менш аставалася спраўных танкаў, усё мацней націскаў вораг.

На пяты дзень падышла падмога. Пехацінцы хутка займалі пры рацэ рубяжы, акопваліся. Танкі пакуль маўкліва стаялі ў ярах, запраўляліся гаручым. «Цяпер можна ваяваць!» — падумаў Сцяпан Фёдаравіч, пазіраючы на танкі, што размясціліся побач з яго брыгадай,— падумаў упершыню за гэтыя дні спакойна, без трывогі...

Тым часам другія нашы брыгады і палкі дабівалі рэшткі Корсунь-Шаўчэнкаўскай групіроўкі.

## 4. ЗА ГРАНІЦАЙ — КАЛЯ ГОРАДА ЯСЫ

Новае наша наступленне пачалося ў першыя дні вясны. Была незвычайная бездараж. Дарогі ўсе распусціла. Нямецкія танкі і аўтамашыны буксавалі ў снежным месіве, грузлі ва ўкраінскім чарназёме; пры набліжэнні нашых салдат немцы вымушаны былі пакідаць машыны. На шляхах усюды тырчалі гарматы, прычэпы, цягачы, аўтамашыны. У лесе каля Вапняркі Сцяпан Фёдаравіч бачыў склад — безліч снарадаў было складзена ў акуратныя штабялі; немцы, відаць, спадзяваліся, што асталююцца тут надоўга. Цяпер было не да таго — кідалі ўсё і спяшаліся адыходзіць з аднойдумкаю — ці хутка граніца. Яны думалі, што граніца іх выратуе...

Цяжка было ісці па бездаражы танкам Шутава. Яны таксама грузлі і таксама буксавалі, і бензавозкі грузлі таксама, як і нямецкія. Ніколі Шутаву не даводзілася столькі турбавацца пра гаручае для машын,— крута было з гаручым. А да ўсяго, вораг, адступаючы, узрываў масты, мініраваў пераправы.

Але танкісты Шутава, як і сам ён, умелі не толькі ваяваць, але і працаваць, цярплівымі і цягавітымі былі, як і іх камандзір. І цераз бездараж прабіваліся, і гаручае на танках падвозілі, і пераправы ладзілі як толькі можна хутка,— усё адольвалі і ішлі, ішлі, гонячы ворага.

Нярэдка танкісты прарываліся далёка наперад, абходзілі калоны праціўніка і знянацку нападалі на іх або пераразалі шляхі адступлення.

Падводзячы вынікі баявога дня, Шутаў не раз думаў, наколькі больш шырокімі і смелымі сталі яго планы, яго дзейнасць. Ён вымерваў адваяваную зямлю дзесяткамі кіламетраў — за дзень, сотнямі — за тыдзень.

Вымаючы з планшэта карту, Шутаў з хваляваннем пазіраў-вылічваў — колькі яшчэ да граніцы.

Вось ужо ззаду Паўднёвы Буг. Не затрымаў і Днестр. І нарэшце — Прут, дзяржаўная мяжа. Шырокая рака, што сабрала веснавыя ручаі з гор і палёў, хутка, бурліва гнала свае воды на поўдзень. Неспакойныя хвалі паблісквалі на ясным красавіцкім сонцы.

— Зірніце, таварыш гвардыі палкоўнік,— акопы,— сказаў ардынарац-сержант, які замяніў Барысава, што быў ранены пры наступленні пад Корсунь-Шаўчэнкаўскім.

Сцяпан Фёдаравіч убачыў некалькі неглыбокіх, з асыпанымі краямі і кусцікамі травы ям.

— Я тут на гэтым Пруце пачынаў...— прамовіў узрушана сержант.— Недзе недалёка адсюль... А вы дзе, не тут?

— Не,— адказаў Шутаў і дадаў задуменна: — Пачынаць тут пачыналі, а канчаць будзем далёка адсюль...

Ён заклапочана глядзеў на другі бераг, на які, ён ужо ведаў, трэба будзе скора перапраўляцца.

Шутаў перабраўся туды адразу пасля таго, як нашы часці захапілі плацдарм, дастатковы для пераправы танкаў. Увесь час ішлі тут баі. Гітлераўцы вельмі непакоіліся за лёс сваёй групіроўкі пад Ясамі, лёс паўднёвага фланга свайго фронту. Яны хацелі адкінуць нашы часці за Прут, водная мяжа ўзмацніла б іх пазіцыі і дала б магчымасць выдзеліць частку сіл для рэзерву. Шмат дзён не сціхалі баі. Нарэшце, не дабіўшыся жаданай мэты, немцы вымушаны былі перайсці да абароны.

У гэтыя дні пасля цяжкіх баёў брыгада палкоўніка Шутава атрымала невялікі адпачынак.

Хоць фронт быў толькі праз дзесяць кіламетраў, хоць машыны стаялі ўвесь час напагатове, у брыгадзе было «мірнае» жыццё. Акапалі і замаскіравалі танкі (іх гарматы былі накіраваны ў бок фронту), абсталявалі ўтульныя прасторныя зямлянкі.

Перш за ўсё трэба было наладзіць пабітыя танкі, замяніць папсаваныя часці, падрыхтаваць усё да бою. Гэта была вялікая і важная работа, яе неабходна было хутка скончыць, і экіпажам давялося працаваць і дзень, і ноч.

Камандзіры складалі даклады аб выніках баёў, думалі, як лепш зрабіць расклад заняткаў. Палкоўнік сам правяраў расклады і ўважліва сачыў за тым, каб іх выконвалі. Па яго загаду ў батальёнах і ротах склікалі сходы, на якіх камандзіры і салдаты разбіралі мінулыя баі. Разбіралі строга, сумленна — прыгадалі і слаўнае і такое, за што давялося таму-сяму пачырванець; людзі абдумвалі ўсё, вучыліся. Танкісты-ветэраны былі частымі прамоўцамі на гэтых сходах — выкладвалі свае запаветныя баявыя «сакрэты».

Часта танкі выходзілі ў поле — танкісты вучыліся ўзаемадзейнічаць з пяхотай, з артылерыяй, уваходзіць у прарыў, весці баі ў акружэнні. Акрамя тактычных заняткаў, камандзіры праводзілі палітычныя заняткі, якім Сцяпан Фёдаравіч надаваў вялікае значэнне. Ён сам асабіста кіраваў вучобай афіцэраў.

Увечар, калі спадала гарачыня вучэбнага дня, людзі збіраліся ў клубе, дзе на сцэне выступалі свае артысты.

Аднойчы сюды прыехаў камандарм — генерал Краўчанка. Ён пазнаёміўся з жыццём танкістаў, з іх поспехамі, праверыў, як яны рыхтуюцца да баёў.

— Люблю тваю брыгаду,— сказаў Сцяпану Фёдаравічу пасля праверкі камандарм,— і ў баі першыя, і ў вучобе не апошнія...

Смелы, настойлівы ў час бою, Сцяпан Фёдаравіч, выявілася, мог быць строгім і ўдумлівым настаўнікам на «адпачынку». Ён выкарыстаў гэтыя ціхія дні як належыць: брыгада падыходзіла да новых баёў моцнай, упарадкаванай, а танкісты — узбагачанымі вопытам і ведамі...

* * *

У сярэдзіне жніўня, вечарам, палкоўніка тэрмінова паклікалі на нараду ў штаб корпуса.

У штабе сабраліся ўжо камандзіры іншых брыгад. Нарада была вельмі кароткай — камандзір корпуса па-

ставіў усім брыгадам задачы і загадаў зараз жа выступіць на зыходныя рубяжы. Калі Шутаў вярнуўся ў брыгадны лагер, было ўжо за поўнач. Людзі спалі, толькі каля зямлянак і пры танках хадзілі маўклівыя вартавыя. Ад лесу павявала халадком, мірнымі пахамі, спакоем.

— Трывога! — узвіўся над лагерам кліч. І ўсё раптам ажыло, заварушылася, здаецца, нават дрэвы пачалі гаманіць аб нечым між сабою.

Зборы былі кароткія; хутка зарычалі маторы, і танкі, узвод за ўзводам, сталі выцягвацца на дарогу. За ноч брыгада зрабіла шасцідзесяцікіламетровы марш і падышла да зыходнага рубяжа.

Наступленне пачалося праз дзень, пасля таго, як камандзіры добра азнаёміліся з мясцовасцю. Пачатак быў удалы: за першыя суткі прарвалі адну моцную лінію абароны і падышлі ўсутыч да другой.

Другая лінія праходзіла на вышыні 387. Вышыня гэта была вельмі выгадная для абароны. Наступаць на яе танкамі можна было толькі па адной вузкай дарожцы, якая вяла проста ў «лоб» нямецкіх пазіцый. Дарожка падымалася ўгору па крутому схілу, які часам дасягаў амаль трыццаці градусаў. Па такому схілу ўзбірацца і то цяжка, а тут трэба, падымаючыся, яшчэ і весці бой — бой з праціўнікам, які ўмацаваўся.

Брыгада падышла да гэтай вышыні ноччу. Сцяпан Фёдаравіч загадаў спыніцца, даў танкістам малы адпачынак — заправіць танкі гаручым, павячэраць, паспаць гадзіну-дзве. Наперад ён паслаў адну роту пад камандаваннем капітана Селюкова, якой трэба было падняцца на вышыню, захапіць яе і ўтрымаць, пакуль падыдзе ўся брыгада. У дапамогу танкістам прыдаў аўтаматчыкаў.

Рота знікла ў цемры. Не прайшло і дзвюх гадзін, як Шутава паклікалі да рацыі. Надзеўшы навушнікі, Сцяпан Фёдаравіч пачуў задаволены голас Селюкова: загад выканалі, немцы выбіты, кінулі некалькі бранявікоў, многа матацыклаў.

— Далі прыкурыць немцам як належыць,— скончыў капітан прымаўкай камбрыга.

— Добра,— адказаў палкоўнік.— Цяпер, хлопцы, глядзіце, учапіцеся мацней, бо гэта важная горка...

Ледзь пачало развідняцца, Сцяпан Фёдаравіч загадаў выступаць. Ён не стаў чакаць брыгады, на сваім «вілісе» памчаў да роты. Хутка ён убачыў танкі і вынікі іх начной атакі — пабітыя браневікі, матацыклы.

— Папрацаваў, Селюкоў, бачу... А што разведка кажа?.. Не пасылаў?

— Не...

— А можа, яны яшчэ тут... наперадзе?

— Ды не — яны так драпалі адсюль.

Аднак, калі палкоўнік паслаў наперад разведку, выявілася, што рота ўсё ж выканала сваю задачу часткова. Немцы не вытрымалі нечаканага ўдару танкістаў, пабеглі, але пабеглі недалёка. Яны занялі новы пояс умацаванняў, вышэй за першы, і па-ранейшаму сядзяць на вышыні.

— Што ж ты — наламаў дроў і думаеш: усё. Вунь яны, пабітыя фрыцы! Бачыш — чакаюць...

— Не можа гэтага быць...

— Не можа! Так толькі вераб'ёў ганяюць.

«Мала пабіць, трэба дабіць»,— не раз паўтараў сваім танкістам Сцяпан Фёдаравіч гэтыя словы. У іх — важнейшае камандзірскае правіла Шутава, якога ён трымаўся ўвесь час на вайне. Ён ніколі не задавальняўся толькі поспехам, яму трэба была перамога, сапраўдная, поўная. Камандзір роты заспакоіўся пры першым поспеху, не давёў яго да поўнай перамогі. Ён даў немцам замацавацца, упусціў зручны час. Цяпер узяць вышыню будзе многа цяжэй.

Камандзір брыгады недарэмна трывожыўся. Калі батальён танкаў пайшоў у наступленне па адзінаму шляху — дарозе, праціўнік сустрэў іх зверху моцнаю страляніною. Танкі сталі біць па ворагу, увесь час падымаючыся вышэй і вышэй па цеснаму адхону.

З гары некалькі нашых машын падбілі,— яны раптам нерухома замерлі на дарозе, іншыя ўсё ж настойліва ўзбіраліся на вышыню.

Але хутка давялося спыніцца і ім: дарогу перагарадзілі каменныя клыкі супрацьтанкавых надаўбаў. За клыкамі, выявілася,— свежыя ямкі — міннае поле. Пачалася перастрэлка; было відаць, што немцы добра ўмацаваліся і што выбіць іх цяпер будзе нялёгка. Стаяць з танкамі на адкрытым месцы, дзе ўвесь час ірва-

ліся снарады і міны, было небяспечна, і палкоўнік загадаў схавацца за выступам вышыні.

Наступаць далей без пяхоты — значыла б загубіць і танкі і людзей. Ён паслаў наперад разведку — даведацца пра сілу немцаў і пашукаць, ці няма дзе больш зручнага шляху на вышыню.

Разведчыкі вярнуліся з палонным румынам і цікавымі весткамі. Яны выявілі, што на дапамогу разбітай танкавай дывізіі, якая заняла новы рубеж абароны, падышлі яшчэ дзве — нямецкая кавалерыйская і румынская, прычым румынскую дывізію толькі што знялі з венгерскай граніцы.

Вестка аб тым, што немцы паставілі на абарону вышыні столькі частей, занепакоіла: «Чаго іх прыгналі сюды столькі? У іх жа не такое багацце, каб раскідвацца». Гэта навяло Шутава на думку, што яны тут баяцца прарыву і, напэўна, не без падстаў. «Відаць, вось-вось прарвёмся...» Ён у гэты час адчуў подых важнай перамогі, да якой ішоў.

А пра шляхі весткі былі нярадасныя: схілы ўсюды крутыя, частыя абрывы, на адхонах амаль усюды густы лес.

Пасля поўдня падышла пяхота — мотамехбрыгада палкоўніка Асадчага.

— Асадчы! Дружа! — узрадаваўся Сцяпан Фёдаравіч, убачыўшы камандзіра брыгады, свайго даўняга таварыша.— Якраз у час падышоў.

Ён расказаў Асадчаму пра абстаноўку і тут жа выклаў свой план наступлення: танкі наступаюць у «лоб», пяхота абыдзе немцаў і ўдарыць з флангаў. Тое, што для танкаў было тут перашкодай — стромкі схіл, густы лес,— пяхоце дапаможа непрыкметна падабрацца і пачаць атаку.

Асадчы згадзіўся са Сцяпанам Фёдаравічам.

Да вечара занялі рубяжы для наступлення. Мехбатальёны акрамя аўтаматаў і кулямётаў узялі з сабой толькі лёгкія мінамёты — усё, з чым можна ўзбірацца па стромкаму схілу ў лесе, дзе дрэвы часамі растуць адно над другім.

Надыходзіў вечар. Вышыню, маўклівы строгі лес паволі агортваў сіняваты прыцемак. На схілах, куды пайшлі пехацінцы, было па-ранейшаму ціха. Відаць, немцы, непакоячыся за свой фронт, на якім стаяць

танкі, мала сачылі за флангамі, лічылі іх непрыступнымі.

Самы напружаны час — перад боем. Колькі мінулася баёў, а ўсё ж перад кожным — мімаволі ўзварушваешся, насцярожваешся. Шутаў нецярпліва сачыў, як пад прыкрыццём артылерыйскага агню сапёры брыгады расчышчаюць дарогу ад мін, падрываюць надаўбы. Ён кіраваў танкістамі, што падтрымлівалі сапёраў агнём. І ўсё ж не раз зірнуў занепакоена на ручны гадзіннік свой — ці хутка?.. Што б ні рабіў, ён з насцярожанасцю прыслухоўваўся да пяхоты.

Злева і справа ў небе ўзвіліся дзве чырвоныя кветкі і апалі, асыпаючы пялёсткі,— сігнал да атакі. Значыць, пехацінцы падышлі да нямецкіх пазіцый непрыкметна.

Каля нямецкіх флангаў затрашчалі кулямёты, сталі часта лажыцца міны. Мотамехбатальёны пайшлі ў атаку...

Палкоўнік скамандаваў танкістам — наперад. «Трыццацьчацвёркі», страляючы, сталі ўзбірацца ўгору. Немцы ўпарта адбіваліся, але машыны ўсё ішлі ды ішлі ўгору. Павольны і цяжкі быў іх рух. Метр за метрам — з бою, лютым штурмам... Штурмам з трох бакоў дзвюма брыгадамі... І вось — танкі ўварваліся на вяршыню. Кідаючы коней, гарматы, зброю, немцы ратаваліся, як хто мог.

Каб не даць ім апамятацца і ўмацавацца за ноч, палкоўнік адразу павёў танкістаў далей. Неўзабаве Шутаў і яго танкі былі ў вёсцы, каля якой праходзіла трэцяя, апошняя, лінія нямецкай абароны пад Ясамі.

На наступны дзень і гэтая апошняя лінія была прабіта. Каб як-небудзь стрымаць танкістаў, немцы наслалі на іх самалёты; бомбы шматавалі прыдарожныя дрэвы, карэжылі зямлю, раскідваючы каменні і гліну...

Уноч палкоўнік правёў сваю брыгаду па вузкай, звілістай дарозе, над горнымі кручамі, дзе раней адважваліся ездзіць толькі з коньмі і толькі днём,— і да світання выйшаў на раўніну, на прастор. Ляскочучы гусеніцамі, сталёвыя важкія машыны — адна за другою — хлынулі з гары па шырокаму шляху, як нястрымны горны паток, што крышыць перад сабою ўсе перашкоды.

— Наперад! Наперад, хлопцы! — не даваў супынку ні ўноч, ні ўдзень палкоўнік.

24 жніўня Шутаў вёў бой ужо на вуліцах горада Бырлад. Гэтая перамога мела вялікае значэнне: заняўшы Бырлад, нашы часці поўнасцю акружылі стотысячную Яса-Кішынёўскую групіроўку.

За гэтыя бai Сцяпан Фёдаравіч Шутаў быў узнагароджаны другой Залатой Зоркаю.

## 5. ДАЛІНЫ І ГОРЫ, СУСТРЭЧЫ І РОСТАНІ

Гвардзейская Сталінградска-Кіеўская брыгада бесперапынна — і днём, і ўночы — вяла баі, ідучы ў першых радах наступлення. Засталося ззаду многа румынскіх гарадоў і вёсак, многа баёў сціхла да таго дня, калі, выбіўшы немцаў з горада Тэкучы, танкісты атрымалі маленькі адпачынак.

Сцяпану Фёдаравічу давялося наладжваць часовую ўладу — ваенную і грамадзянскую. З ваеннай было проста — назначыў каменданта-афіцэра, расказаў пра абавязкі яго, і ўсё. Не тое з грамадзянскай уладай. Перад тым як выбраць чалавека на пасаду часовага кіраўніка горада, палкоўнік, колькі было магчыма, знаёміўся з гарадскім насельніцтвам, з яго настроем, з нацыянальнымі звычаямі. Трэба, каб прымар быў паважаным між гараджан чалавекам і, вядома, прыхільнікам дэмакратычных парадкаў.

Сцяпан Фёдаравіч раіўся з прадстаўнікамі прагрэсіўных партый, улічыў іх меркаванні. Тут румынам упершыню давялося блізка пазнаёміцца з савецкім афіцэрам — сціплым і чулым чалавекам.

Калі брыгада пакідала горад, праводзіць яе выйшлі тысячы людзей. Людзі махалі рукамі на развітанне, крычалі ўслед штосьці добрае, зычлівае. Шутаў, які сачыў, як праходзіць брыгада, бачыў, што людзей шчыра смуткуе гэтае развітанне. Ён і сам адчуў сябе так, быццам быў у акружэнні сяброў. Як з сябрамі і развітаўся, з жалем і прыязнасцю...

Цеплыня гэтага развітання яшчэ доўга грэла сэрца яго...

Брыгада зноў уступіла ў бой. Сцяпан Фёдаравіч ішоў цяпер дарогамі свайго любімага героя — Суворава: наступаў на Факшаны і Рымнікул-Сэрэт. Неўзаба-

ве і гэтыя гарады засталіся ззаду: наперадзе, на шляху да румынскага нафтавага цэнтра Плаешці, быў цяпер адзін умацаваны пункт — горад Бузэу.

Вечарам брыгада падышла да горада і адразу пачала наступленне. Немцы не чакалі, што нашы танкі падыдуць да іх так хутка,— брыгада застала іх знянацку.

Палкоўнік імгненна ацаніў абстаноўку і накіраваў свае танкі ў «лоб» нямецкіх пазіцый, каб захапіць мост. Гэта быў смелы, імклівы ўдар. Танкі ўскочылі на мост і рвануліся наперад. Немцы схамянуліся, ударылі па танках з некалькіх гармат і мінамётаў, спрабуючы адбіць атаку, але позна — перадавыя «трыццацьчацвёркі» грукаталі ўжо на іх баку; мост быў наш.

А ўслед за мостам, вуліца за вуліцаю, з боем занялі ўвесь горад. Такі хуткі поспех танкістаў Шутава быў нечаканы для немцаў, яны былі цвёрда ўпэўнены, што тут іх пазіцыі надзейныя.

Настолькі ўпэўнены, што без папярэдняй разведкі ў горад накіраваўся камандзір супрацьпаветранай нямецкай дывізіі, дарэчы, новапрызначаны начальнік абароны Бузэу.

Пасля таго як нашы танкі занялі горад, над Бузэу з'явіўся нямецкі самалёт. Ён мірна развярнуўся ў небе і стаў спакойна зніжацца. Сцяпан Фёдаравіч, які з цікавасцю сачыў за ім, загадаў не страляць, у той жа час паслаў да месца пасадкі аўтаматчыкаў і матацыклістаў. Ледзь самалёт сеў, важны госць — нямецкі палкоўнік прытка выскачыў з кабіны і... у палкоўніка раптам вочы палезлі на лоб і анямелі ногі — проста перад ім былі савецкія салдаты.

Лётчык, убачыўшы побач рускіх байцоў, адразу рвануў машыну ўперад, хацеў падняцца, пакінуўшы свайго важнага пасажыра. Шызая нязграбная птушка раптам падскочыла і панеслася ў поле. Але аўтаматчыкі не разгубіліся, секанулі ўслед — машына клюнула носам у зямлю і застыла з паднятым хвастом.

Начальнік абароны Бузэу не паспеў прыступіць да выканання сваіх абавязкаў.

...У наступленне на Плаешці разам з нашымі танкістамі ішлі румынскія часці: Румынія ў той час аб'явіла вайну Германіі. Перад боем група нашых і румынскіх афіцэраў сустрэлася на камандным

пункце. Сцяпан Фёдаравіч, знаёмячыся, назваў сваё прозвішча.

Румыны пры гэтым раптам здзіўлена пераглянуліся — прозвішча праслаўленага танкіста, аказалася, было ім добра знаёма.

— Палкоўнік Шутаў?!

Яны з пашанай і здзіўленнем акінулі вачыма прысадзістую, не па-вайсковаму трохі сутулаватую, зусім не ваяўнічую з выгляду постаць — той самы Шутаў? У позірках іх можна было ўлавіць расчараванне і недавер'е: той Шутаў, які прабіўся праз абарончыя паясы пад Ясамі, які перабраўся з танкамі цераз горы? Яны глядзелі на Шутава, шукалі чаго-небудзь асаблівага — звычайны, нават невыразны загарэлы твар, добрыя вочы, каля якіх сабраўся вузельчык маршчын, мяккая, сціплая ўсмешка. У ім, у яго манеры трымацца, гаварыць ёсць нешта сялянскае...

Здзівіцца давялося яшчэ раз, калі загаварылі пра будучы бой за Плаешці.

— Плаешці! Цяжкая задача. Дні тры-чатыры ў лепшым выпадку. Не раней...— выказаў меркаванне пажылы румын, камандзір кавалерыйскага палка.

— Але нам трэба быць там заўтра,— сказаў Шутаў.

— Заўтра?

— Заўтра. Ранкам. Такі загад.

— Загад ёсць загад. Мы павінны выконваць загады. Але баюся, так хутка... мы не здолеем, пан палкоўнік...— запярэчыў малады смуглы афіцэр, зацягнуты ў вузкі фрэнч.

— Чаму?

— Там многа войск і моцныя ўмацаванні... Я там днямі быў,— дадаў ён.

— Мы ўлічваем гэта,— сказаў Шутаў.— Камандаванне ўзважыла іх сілы і нашы і рашыла, што такая задача нам па плячы. І я думаю таксама, што мы можам іх выбіць. Павінны — як найхутчэй, каб не даць загубіць Плаешці...

— О Плаешці, колькі яму давялося перажыць!..— прамовіў са спачуваннем камандзір палка.

— Будзе, вядома, нялёгка, але я думаю, што сядзець «гасцям» у Плаешці засталася адна ноч...

Шутаў спадзяваўся таму, што быў упэўнены не толькі ў сваёй брыгадзе, але і ў іншых — не адзін жа

раз побач ваявалі. I ўсё ж перад боем за Плаешці ён непакоіўся больш як калі-небудзь. А раптам, сапраўды, выйдзе не так, як ён гаварыў, а так, як яны, больш асцярожныя паплечнікі? Усяляк можа быць, вядома...

Бой быў нялёгкі. Ледзь танкі Шутава пачалі набліжацца да горада, немцы сустрэлі іх моцнай артылерыйскай стралянінай. Некалькі нашых машын загарэлася. Дайшоўшы да кіяшнага поля, што жаўцела перад горадам, танкісты вымушаны былі спыніцца. Страляніна з нямецкіх пазіцый была такая моцная, што прабівацца далей праз поле не было ніякай магчымасці.

Убачыўшы, што нашы спыніліся, немцы раптам пайшлі ў контратаку.

Нашы пехацінцы з дапамогаю танкістаў адбілі гэтую атаку немцаў, адагналі іх назад, на ранейшыя пазіцыі. Але прарвацца наперад хоць колькі-небудзь параненейшаму не ўдавалася.

Між танкістамі Шутава і нямецкімі батарэямі завязалася ўпартая перастрэлка. Танкістаў падтрымалі мінамётчыкі з мотабатальёна. Неўзабаве падышоў на дапамогу артылерыйскі дывізіён з суседняй мехбрыгады.

Агонь з нямецкіх пазіцый слабеў. Асабліва добра папрацавалі ў гэтым баі мінамётчыкі Сцяпана Фёдаравіча. Іх міны разбілі некалькі варожых гармат.

Нарэшце настаў час скамандаваць запаветнае: наперад!

Жоўта-зялёныя прыземістыя машыны, да паловы закрытыя кіяшнікам, падобныя да чарапах, страляючы на хаду з гармат, хутка папаўзлі к гораду. За імі ўзняліся аўтаматчыкі...

Уночы Шутаў вёў бой на вуліцах Плаешці. Палкоўнік не памыліўся — уранні Плаешці быў цалкам у нашых руках.

Тут брыгада атрымала пяцідзённы адпачынак. Па вуліцах Плаешці цяпер няспыннай плынню каціліся запыленыя аўтамашыны, фурманкі, гарматы, праходзілі калоны пехацінцаў, грукаталі самаходкі...

Дайшоўшы да цэнтра горада, большая частка іх паварочвала на поўдзень. На дошчачцы-стрэлцы, прыбітай да слупа, было наспех напісана — «Бухарэст».

* * *

Зноў горы. Трансільванскія Альпы. Палкоўнік вядзе брыгаду па вузкіх звілістых дарогах, якія то апускаюцца, то падымаюцца ўгару. Крутыя абрывы то падаюць уніз, адкуль глуха даносіцца шум горнага патоку, то падымаюцца сцяною ў неба. Нечаканыя рэзкія павароты.

Цяжка і небяспечна было ісці па гэтых дарогах танкістам, дзе з-за адной памылкі вадзіцеля можна сарвацца ў бездань, дзе адзін танк можа спыніць цэлую брыгаду. Але наколькі цяжэй ваяваць! Часта налятталі нямецкія самалёты; сыпалі бомбы, ашалела білі з гармат.

Немцы мелі выгадныя, загадзя ўмацаваныя пазіцыі. Часамі даводзілася па некалькі дзён біцца за якую-небудзь горку...

У гэтыя дні адразу пасля бою, у толькі што адваяваным трансільванскім гарадку, Сцяпан Фёдаравіч развітаўся са сваёй брыгадай, са сваімі баявымі афіцэрамі і салдатамі, якіх столькі разоў вадзіў у бой. Хоць прычынай развітання была радасная падзея — палкоўніка назначылі на пасаду намесніка камандзіра корпуса,— Сцяпан Фёдаравіч пакідаў брыгаду не без суму.

Як жа не засумаваць! Ён з гэтай брыгадай ішоў аж ад самай Курскай дугі, ведаў тут ледзь не кожнага салдата, з якім ішоў у бой. Колькі неспакойных начэй недаспаў, колькі думак перадумаў, каб «даць прыкурыць» гітлераўцам, каб правесці танк наперад. Тут былі праца, трывога, слава і боль такіх бітваў, такіх дарог...

Ростань была кароткая: брыгада, якая толькі што выйшла з бою, хутка павінна была зноў выступаць. Афіцэры наспех зрабілі «праводзіны» — дасталі некалькі пляшак гарэлкі, румынскай «цуйкі», сабралі закуску — чым багаты, тым і рады.

Шутаў абышоў экіпажы, развітаўся з камандзірамі і салдатамі. На вуліцу да машыны, якая чакала яго, выйшаў акружаны шчыльнай групай танкістаў.

— Шчаслівa вам, хлопцы! Дзякую, што служылі добра.— Не ўтрываў, расчуліўся: — Можа, каго калі

пакрыўдзіў у крутую хвіліну — чалавек я, каюся, гарачы — у баі ўсяляк прыходзілася...

— Без прычыны не крыўдзілі,— пачуліся таксама расчуленыя, добразычлівыя галасы.

— А калі і пакрыўдзіў, каб не паміналі ліхам... У нас, у Дварцы,— Шутаў усміхнуўся,— кажуць, што таму, каго ліхам успамінаюць, шчасця не будзе...

— Будзем успамінаць толькі добра!

— Без прычыны не крыўдзілі.

— Не забывайце. Пішыце аб сабе! — папрасіў нехта з танкістаў.

— І вы... пішыце аб усім...

І зашчымела сэрца — ці прыйдзецца хутка ўбачыцца — не даказаў, адвярнуўся, маўкліва сеў у свой «віліс». Так, не прамовіўшы больш ні слова, паехаў...

На жаль, на новым месцы, дзе столькі было вялікай і цікавай работы, працаваць давялося мала. Аж горка, як нечакана і бязглузда прыляцела бяда...

Не забыць таго дня пад трансільванскім горадам Клужам.

Нямецкі фронт быў прабіты. Танкі — рота за ротаю, батальён за батальёнам — хутка ўваходзілі ў прарыў. Пачыналася тая праца, якая асабліва радуе сэрца танкіста,— рэйд у варожым тыле.

Палкоўнік, выйшаўшы з «віліса», стаяў паблізу ад дарогі, сачыў за танкамі. Яны ішлі няспынна, на роўнай адлегласці адзін ад другога — па ўзгорку, потым прападалі ў лагчыне і з'яўляліся зноў на вочы, калі былі, як карабкі ад запалак. Яны ўсё аддаляліся. Шутаў, як брыгадзір, які выправіў людзей на важную работу ў полі, пазіраў услед. Ён, які заўсёды жыў нецярпліва, у гэтую хвіліну быў думкаю наперадзе, разам з першымі танкамі, што рушылі ў прарыў.

Непадалёк па дарозе ўсё яшчэ ішлі і ішлі танкі.

Аднекуль з нямецкага боку са свістам прыляцеў снарад, разарваўся поблізу.

Ад'ютант затрывожыўся:

— Адышлі б вы, таварыш палкоўнік. Пaберагліся...

— Яшчэ што выдумаеш! Усялякай дурной вароне паклоны біць!

Сам сабе падумаў: снарад цяжкі, выпадковы,— дурны снарад. На такія Шутаў і ўвагі не звяртаў даўно.

І раптам зусім побач успыхнула агнём, ударыла тугая хваля. Кінула на зямлю...

— Эх, чорт!..

Убачыў над сабой спалоханы твар ад'ютанта, які хацеў дапамагчы ўстаць.

— Не трэба! Я сам...

Ён, перамагаючы вялікі цяжар, што напоўніў разам усё цела, падняўся, але праз хвіліну, падкошаны страшным болем, бяссільна асеў на траву.

На дарозе Сцяпана Фёдаравіча, цяжка параненага, спаткаў камандарм. Ён ужо ведаў пра тое, што здарылася. Сцяпан Фёдаравіч ляжаў бледны, пахудзелы ад страты крыві і болю. З-пад шыняля, якім яго накрылі, былі відаць на левай руцэ белыя, заплямленыя крывёю, павязкі.

Камандарм схіліўся над Шутавым.

— Пазнаеш? — запытаўся ён. На смуглявы твар генерала, што бачыў на вайне багата горкіх страт, ценем лёг смутак.

— Пазнаю,— прамовіў слабым спакутаваным галасам Шутаў.

Ён паспрабаваў падняцца, але боль пранізаў усё цела, і палкоўнік, сціснуўшы зубы, паваліўся на падушкі.

Сцяпан Фёдаравіч усё ж не хацеў паддавацца.

— Я яшчэ вярнуся! — сказаў ён камандарму ўпарта, дужаючыся з болем, з бяссіллем, ад якіх цела станавілася непаслухмяным.

* * *

Вярнуцца не давялося. Раненне было вельмі цяжкае, дактары выратавалі яму жыццё, але не змаглі вярнуць у армію. У родную баявую сям'ю, якой ён аддаў больш за дваццаць гадоў, дарогі больш не было.

...Прайшоў год.

У лістападзе 1945 года Сцяпан Фёдаравіч Шутаў прыехаў у Беларусь. Некалькі дзён ён пабыў у Мінску, які гасцінна яго сустрэў, а потым наведаўся на Бабруйшчыну, у родны Дварэц.

Аднавяскоўцы бачылі, як палкоўнік, кульгаючы, абапіраючыся на кій, ішоў па полі, па вуліцы, усхваляваны, прыглядаўся да наваколля. Ён пазіраў на знаё-

мыя з маленства краявіды і нярэдка не мог пазнаць: так яны змяніліся за вайну...

Вестка аб яго прыездзе хутка абляцела ўсіх двар-чан, узрушыла іх. У хату, што зрабілася на некалькі дзён яго прыстанкам, пачалі сыходзіцца землякі — салдаты, якія толькі што знялі пагоны, гаваркія кал-гасніцы, гарэзныя, цікаўныя да ўсяго хлапчукі — па-бачыць героя, паслухаць. У сяле было багата людзей, што добра ведалі яго — адны з самага маленства, дру-гія пазней, калі ён прыязджаў на пабыўку да сясцёр.

Сёстры, знаёмыя ахалі, казалі, што ён вельмі змя-ніўся з аблічча. Пастарэў Сцяпан, ой, як пастарэў,— відаць, што далася чалавеку вайна ў знакі. Асабліва жалю, спачування было за пусты левы рукаў, засуну-ты ў кішэню, за кульганне і кіёк у руцэ.

Доўга давялося Шутаву апавядаць землякам, якія вельмі ж хацелі ведаць, дзе быў, што рабіў, чым заслу-жыў такую славу.

— Пахадзіў, чалавеча,— сказала сястра, паслухаў-шы яго апавяданняў. Паспачувала: — Пахадзіў. Па-таптаў зямлі нагамі...

— Не так нагамі, як гусеніцамі танкавымі,— па-правіў Шутаў.

— Зведаў дарог усялякіх.

— Дарог зведаў. І на ўсход, і на захад...

— Адваяваліся, значыцца, таварыш палкоўнік? — сказаў хлопец, з былых франтавікоў.— Па чыстай?

— Хто? Я адваяваўся? — У тым, як Шутаў запы-таў, усе пачулі: дрэнна ты мяне ведаеш!

— Без рукі, хоць і левай... не разваюешся...

— Рукі няма, а галава на плячах нашто? Хопіць работы, абы ахвота ды здароўе!..

— Будзе, Сцяпан, здароўе, будзе...

— Ну дык і жыць будзем... Рабіць будзем...

# ПАЕЗДКА Ў ПРАГУ

## Старонкі з запісной кніжкі

### 1

Хвіліны, калі пад'язджаеш да граніцы, незвычайна хвалююць, неяк асабліва ўрэзваюцца ў памяць. Ужо засталіся за намі ціхія вулічкі Чопа, апошняй станцыі на сваёй, на савецкай зямлі, ужо развіталіся мы з пагранічнікамі-афіцэрамі, што пажадалі шчаслівай дарогі. Вакол ідзе, круціцца поле, і не далёка, як звычайна, не за многімі сотнямі кіламетраў ніколі не бачаны рубеж-мяжа, ён недзе зусім побач.

Мы яшчэ ў сваіх — з Мінска — вагонах. Але і ў нашых купэ, звыклых, абжытых за тры ночы і два дні, быццам з'явілася штосьці новае. Гэта адчуванне таксама ад таго, што паблізу граніца, што мы адны, без праваднікоў, якія ўжо сталі добрымі знаёмымі. У купэ няўтульна,— забраны пасцелі, складзены рэчы, па ўсім адчуваецца, што жыць нам у гэтых вагонах засталося нядоўга.

Нібы разумеючы ўсю значнасць хвілін, нібы адцягваючы апошняе развітанне з роднай зямлёй, цягнік не спяшаецца, цягнецца павольна, спыняецца. Мы стаім каля вокан, глядзім вачыма, якія ўсё бачаць і ўсё запамінаюць. Яшчэ адзін прыпынак — каля аркі, два пагранічнікі — афіцэр і салдат,— і раптам мы здагадваемся: гэта і ёсць граніца. Здагадваемся па слупках, па палосцы акуратна пабаранаванага ворыва, якія ідуць ад аркі ў спакойнае поле, прытуманенае лёгкай кастрычніцкай смугой. За радком слупкоў, крыху наводдаль, адзінокае дрэва,— яно ўжо на тым баку.

Хутка на тым баку і мы. Усё гэта адбываецца так проста, што спачатку здаецца, нібы глядзіш кадр фільма, які апавядае пра нешта незнаёмае і дзіўнае. Пастаяў цягнік, крануўся — і вось ужо іншая зямля, іншая краіна. Чэхаславакія.

Зноў круціцца, ідзе назад поле, ужо чэхаславацкае.

На прыпынку ў калідоры вагона паяўляецца першы прадстаўнік чэхаславацкага народа, дабрадушны, крыху паўнаваты для сваіх маладых год, каравокі старшына-пагранічнік з папкай пад пахай.

— Чэст працэ! — па-таварыску вітае ён нас і просіць здаць пашпарты для праверкі.

Першая чэхаславацкая станцыя. Пытаемся, як яна называецца: станцыя Чыерна над Цісоў — Чыерна над Цісай. Дзе ж Ціса? Яе не бачна, але яна, кажа пагранічнік, недалёка,— старшына махнуў рукой кудысьці на поўдзень.

Тут нам давядзецца пастаяць, і мы выходзім з вагона. Сабраўшы пашпарты, выходзіць і старшына, бярэцца правесці да вакзала, і мы, распытваючы, жартуючы, крочым з ім цераз рады рэек.

— Вакзал нядобры,— нібы просіць прабачэння старшына, дабрадушна ўсміхаючыся.— Часовы. Будуем новы, але яшчэ не скончылі.

Паблізу вялікі будынак з рыштаваннямі, ён ужо амаль гатовы, з дахам.

— Тут раней нічога гэтага не было. Усё новае.

Ён паказвае на вялікія карпусы за прывакзальнымі баракамі і, казырнуўшы, ідзе ад нас. Мы азіраемся ўсё з той жа вострай цікаўнасцю іншаземцаў, ціснемся каля газетнага кіёска, дзе ляжаць побач і чэхаславацкія «Рудэ права», «Кветы», і наша «Правда» за ўчарашні дзень.

Нас неспадзявана сустракае «бяда». Старшы групы, які зайшоў да начальніка станцыі даведацца, калі паедзем далей, вяртаецца з весткай, што прадстаўніца з Прагі чакала нас двое сутак, не дачакалася, выехала і што вагоны таксама адпраўлены.

— Яна зусім нядаўна паехала,— кажа збянтэжана чыгуначнік.— І вагоны таксама толькі сёння адправілі. Мы не мелі вестак, калі вы будзеце...

Ён супакойвае нас, што ўсё будзе добра.

Здаецца, ніхто і не трывожыцца. Той-сёй з нас са свайго боку супакойвае чыгуначніка, нелагодна ўспамінае «Інтурыст», які невядома чаму выбраў такі дзіўны маршрут,— у Кіеве і Львове мы прамарнавалі больш за суткі!

Ходзім па пасёлку, да ўсяго прыглядаемся. Тое, што гэта заграніца, братняя чэхаславацкая зямля, робіць

нават самыя звычайныя, нядзіўныя рэчы цікавымі, незвычайнымі. Нас пазнаюць, сардэчна вітаюць. Завязваюцца самі сабою размовы з чэхамі і славакамі, роспыты. Не заўсёды і не адразу разумеем мы сэнс іх гаворкі, хоць і хвалюе, радуе славянская блізкасць яе, але там, дзе ты не ўсё зразумееш, зразумее хто-небудзь з тваіх таварышаў, здагадаецца — і вось ужо цвітуць усмешкамі твары.

— Усё зразумела! — здзіўляецца задаволена хтосьці з мінчан.

Чыгуначнікаў частуюць папяросамі — «Казбекам», «Беламор-каналам»,— шчырыя славакі кураць, хваляць, частуюць сваімі. Між зацяжак дыму па-ранейшаму роспыты, расказы. Хтосьці запытаў маладога прыгожага славака з далікатным, як у дзяўчыны, крыху сарамлівым тварам, колькі ён атрымлівае ў месяц.

Пажылы славак адказвае за юнака:

— Ён менш...

Мы ківаем: вядома — кваліфікацыя яшчэ невялікая, але чыгуначнік паведамляе нечакана:

— У яго няма дзяцей...

Аказваецца, да зарплаты штомесяца дадаецца прыбаўка на дзяцей, на аднаго, на дваіх, на траіх.

— У мяне трое дзяцей,— усміхаючыся, кажа славак.

У архітэктуры будынкаў, што ўзведзены каля станцыі, нам падабаецца прастата,— ніякіх непатрэбных прыкрас. Нічога лішняга, вокны шырокія, многа святла.

— Вось бачыш, ніякіх штучак, а на будынак усё ж прыемна глядзець,— кажа мой таварыш, пісьменнік, маладому архітэктару. Яшчэ ў купэ, дзесьці пад Гомелем, яны пачалі дыскусію пра розныя архітэктурныя праблемы, і яна, здаецца, зноў абяцае ажывіцца.

Пакуль хадзілі, глядзелі, вагоны нашы пераганалі бліжэй да станцыі, і пад поўдзень нас папрасілі перайсці ў чэхаславацкія вагоны. Сказалі, што далей паедзем гадзіны праз дзве, калі павінен адправіцца састаў на Кошыцэ, што ў Кошыцэ нас чакае прадстаўніца «Чэдака», чэшскага «Інтурыста».

Мы ўладоўваемся ў вагонах. Яны не зіхацяць той навізной, да якой мы прывыклі, адчуваецца, што яны ўжо нямала папрацавалі на сваім вяку. Месцы толькі

для сядзення, вельмі зручныя — мяккія, абабітыя прыгожым чырвоным плюшам, між сядзенняў падлакотнікі. Паліц для ляжання няма, ёсць толькі палічкі з сеткамі для багажа.

— Як жа, калі далёка ехаць? — згадвае сусед.— Вядома, адлегласць тут не тая, але ўсё ж...

— Некалькі гадзін і пасядзець можна. Пры такой адлегласці няма сэнсу рабіць спальныя...

Трэці гаворыць з непахісным перакананнем:

— Нашы зручней.

Калі цягнік кранаецца, застаецца ўжо мала часу да заходу сонца. Цягнік ідзе вельмі хутка,— тэлеграфныя слупы пралятаюць ля вокан, каля якіх у гэты час так багата цікаўных пасажыраў.

Мясціны — узгоркавыя, з частымі пералескамі, здаюцца знаёмымі,— яны вельмі напамінаюць тое, што многа разоў мы бачылі пад Мінскам, на Вільнюскім ці Ракаўскім шасэ. Вабяць позірк будынкі — каменныя, прасторныя, з чарапічнымі дахамі, сярод цёмнай зеляніны садоў.

На адной станцыі праваднік-чэх, што гутарыць з нашымі таварышамі, паказвае на стромкую сопку, зарослую вастраверхімі ялінамі.

— Гэта ўжо венгерская. За мяжой.

Да сопкі, напэўна, усяго некалькі сотень метраў.

— Нічога, сусед добры,— жартуе праваднік.— Жывём дружна, не сварымся.

У першых прыцемках мы пад'ехалі к Кошыцэ.

Кошыцэ — адзін з буйнейшых гарадоў на ўсходзе Чэхаславакіі, па колькасці насельніцтва другі, пасля Браціславы, славацкі горад. Адзін з самых старажытных гарадоў рэспублікі, Кошыцэ і ў гісторыі новай Чэхаславакіі запісан выдатнай падзеяй — тут была прынята першая праграма ўрада нацыянальнага фронту, праграма народнай дэмакратыі. Ёй далі назву Кошыцкай дэкларацыі.

На станцыі паведамілі, што вагоны будуць прычэплены да цягніка, які адправіцца праз тры гадзіны, і мы карыстаемся прыпынкам,— ідзём паглядзець горад. На прамой вуліцы, якая ідзе ад станцыі к цэнтру, хутка цямнела. У вокнах дамоў, шматлікіх закусачных і рэстаранаў запальваліся агні. Непадалёк ад вакзала сустрэлася некалькі славацкіх дзяўчат у маляўнічых

народных уборах. Яны кудысьці заклапочана спяшаліся з кошыкамі ў руках,— можа быць, к цягніку.

Цішыня вечара прыглушвала гукі шумнага гарадскога жыцця,— можа быць, горад у гэты час і сапраўды быў ціхі, як натомлены за дзень працаўнік. Але ў асветленых вокнах і дзвярах магазінаў, рэстаранаў, закусачных — усюды рухаліся, размаўлялі аб нечым, смяяліся людзі. Жыццё ў асветленых вокнах здавалася нібы кантрастам паўпустаце вуліцы.

Вялікія, аздобленыя вокладкамі знаёмых кніг вітрыны магазіна «Савецкая кніга» мы сустракаем з такім адчуваннем, з якім сустракаюць далёка ад роднага кутка добрага прыяцеля. За магазінам збочваем на другую вуліцу.

Адразу трапляем у людскі натоўп. Людзей так многа, што яны не змяшчаюцца на тратуары. Яны ідуць павольна, дзвюма плынямі — адны ў адзін бок, другія насустрач. Узіраемся ў іх твары, асветленыя вулічнымі ліхтарамі і вітрынамі. Мужчыны і жанчыны апрануты проста, але з густам,— кідаецца ў вочы, што багата хто ў стандартных лёгкіх плашчах з паясамі, пагончыкамі. Плашчы, відаць, вельмі зручныя. Галаўныя ўборы, здаецца, не ў пашане,— толькі салдаты і афіцэры ў пілотках ды фуражках: астатнія добра абыходзяцца без капелюшоў. Хоць, гэта натуральна,— людзі іх узросту і ў нас не вельмі любяць галаўныя ўборы,— большасць з тых, хто гуляе, моладзь.

Якія цудоўныя гэтыя маладыя, часта яшчэ зусім юныя твары. У іх адкрытыя ясныя позіркі людзей, якія ўпэўнены, што жыццё належыць ім, яны бадзёрыя, яны смяюцца, ведаючы, што ўсе радасці ў свеце існуюць для іх. Амаль усё маладыя, маладыя, маладыя твары. Мне здалася гэтая першая сустрэча сімвалічнай: ці не такая маладая і сама краіна чэхаў і славакаў. Ці не так па-маладому цудоўны яе воблік!

2

З Кошыцэ мы выехалі вечарам. За вокнамі было цёмна, і толькі частыя агеньчыкі расквечвалі непраніклівую цемень. Нам трэба было ноччу перасекчы амаль усю Чэхаславакію.

Цягнік ішоў у Прагу.

Раніцай усе ціснуліся ля адчыненых вокан. Прыгожыя, новыя для нас пейзажы Чэхіі, якія шпарка мяняліся перад нашымі вачыма, здзіўляючы багаццем фарб і хараствам, бязвоблачная яснасць пагодлівай раніцы нараджалі нейкае вельмі радаснае, святочнае адчуванне.

Цягнік яшчэ толькі адышоў ад Пардубіцэ, а ўсе ўжо жылі Прагаю, чакалі яе. Любуючыся шматлікімі пасёлкамі і заводамі, што беглі сярод зялёных і залацістых працягаў палёў і лясоў, пасажыры нецярпліва пазіралі на гадзіннікі, выглядвалі з адчыненых вокан наперад.

Карта яшчэ паказвала немалую адлегласць, хоць па раскладу мы павінны былі набліжацца да Прагі. Цягнік пазніўся.

Вось ужо прайшлі высокія ажурныя мачты,— відаць, радыёстанцыі, вось ужо праплылі многія іншыя звыклыя прыкметы вялікага горада, а Прагі ўсё не было відаць. Раптам справа ў катлавіне паявіліся вежы, дахі, вуліцы, паявіліся і зніклі за адхонам. Неўзабаве злева, проста пры акне вагона, прайшоў дом,— мы на вышыні трэцяга паверха. Унізе вуліцы, пешаходы.

Прага!

Цягнік усё запавольвае бег. Яшчэ некалькі хвілін, і ён спыняецца пад шкляным дахам вакзала.

— Пойдзем пешкі. Наш атэль тут недалёка,— гаворыць дзяўчына, прадстаўніца «Чэдака».

Мы ахвотна згаджаемся. Першыя хвіліны ў новым горадзе заўсёды добра запамінаюцца. Знаёмства з Прагай было асабліва ўражлівым,— вельмі ж вялікая цікавасць у нас была да сталіцы чэхаславацкага народа, вельмі чула адгукаліся нашы сэрцы на кожную праяву хараства.

Праходзячы па вуліцы, заўважаем пільнымі позіркамі розныя рыскі, асаблівасці жыцця горада. Прыглядваемся да архітэктуры будынкаў,— любуемся прыгожым, у стылі рэнесансу будынкам опернага тэатра імя Сметаны. Стаім з пашанай перад велічным цёмнашэрым з высокім купалам будынкам Нацыянальнага музея. Ад яго пачынаецца Вацлаўскае намесце — цэнтральная плошча Прагі.

Перад будынкам Нацыянальнага музея скульптура конніка на нецярплівым дужым кані,— у правай руцэ

коннік трымае паднятую ўгору піку са сцяжком. Наша спадарожніца-чэшка тлумачыць — гэта святы Вацлаў, у гонар якога і названа плошча.

Я гляджу на помнік, на скульптуры каля музея так, нібы ўжо недзе іх бачыў. Ды і плошча гэтая, здаецца, знаёмая. Ці не яе бачыў я ў 1948 годзе, запоўненую да краю народам, што прыйшоў сюды з усёй Прагі, і многіх гарадоў і вёсак Чэхаславакіі. Ці не там, каля балюстрады, між магутных скульптур стаяў Клемент Готвальд са сваімі паплечнікамі-камуністамі, гаварыў з народам...

Гэта быў кадр з кінахронікі, якую паказвалі ў Мінску. Мне прыгадаліся трывожныя дні таго года, калі вырашаўся лёс Чэхаславакіі, прыгадаліся не як далёкае, чужое, а як блізкае сэрцу, хвалюючае,— нам заўсёды ж быў дарагі лёс чэхаў і славакаў.

Стоячы перад музеем, пры ўваходзе на Вацлаўскую плошчу, мы асабліва блізка адчулі подых бурнай чэшскай гісторыі.

У той дзень, калі мы выйшлі на славутую плошчу, яна была зусім іншай, чым у кадры кінахронікі. Яна жыла спакойным, звычайным жыццём цэнтральнага раёна вялікага горада. Каціліся, абыходзячы з двух бакоў помнік святому Вацлаву, трамваі з пражанамі, бясшумна імчаліся аўтамашыны, мірна варушылася лісце на дрэвах, што раслі ўсцяж тратуара.

Запомнілася, хораша адгукнулася ў душы — першы кінатэатр, паўз які мы ішлі, называўся «Ялта». Вось справа яшчэ адзін «знаёмы» — магазін «Савецкі друк», вось чырвоны транспарант з заклікам — «На баку Савецкага Саюза — за мір, за сацыялізм».

...Ледзьве ўладкаваўшыся ў гасцініцы, не адпачыўшы пасля дарогі, мы выправіліся пахадзіць па пражскіх вуліцах. Брылі мы, не задумваючыся над тым, куды кіруем, на якой цяпер вуліцы. Былі мы вельмі цікаўныя і амаль не ведалі горада.

Мы чулі пявучую, лагодную чэшскую гаворку, чыталі зразумелыя і не зразумелыя нам надпісы, аб'явы. Мы былі апанаваны стыхіяй братняй мовы, зачараваны былі ёй, яе цудамі, якія адкрывалі з кожным крокам. Яшчэ ў цягніку, перагортваючы слоўнічак, мы даведаліся, што цягнік звычайны пасажырскі, на якім мы ехалі да Кошыцэ, па-чэшску называецца «влак».

Слова гэта здалося нам знаёмым,— «влак», «влачиться», «валачыцца» — словы-сваякі. Затое даведаўшыся, што хуткі цягнік — «рыхлік» і што хутка — «рыхле», мы здзіўленыя кінуліся ў блытаныя лінгвістычныя пошукі.

Колькі цудоўных рэчаў знаходзілі мы, чытаючы, чуючы, распытваючы. Вагон, аказваецца,— «воз», а спальны вагон — «ложкавы воз», воз з ложкам. Вітаюцца чэхі так жа, як беларусы,— «добры дзень», «добры вечар», і лазня па-чэшску таксама — «лазня», і панчохі — «пунчохі», але што азначае «гудба» на шыльдзе магазіна? Зірнуўшы на вітрыну, здагадваемся — «музыка». Вельмі хораша па-чэшску тэатр — «дзівадло», — слова, якое нібы беражэ ў сабе водар славянскай старадаўнасці!..

Вуліца неспадзявана вывела нас да Влтавы. У той час яна была цьмяная, шэрая, спакойная. Мы пайшлі па мосце, прыгожым, шырокім, шумлівым,— па ім у абодва бакі імчалі аўтамабілі, ішлі людзі. Мы тады яшчэ не ведалі, што мост гэты зусім новы.

Стоячы пры чыгунным парапеце, любаваліся Влтавай, стрэламі другіх мастоў, што перасякалі раку паблізу і наводдаль. Велічная і лагодная была Влтава, прыгожыя былі яе берагі, адзін у аздобе стройных будынкаў, другі, вышэйшы, круты, у зеляніне і золаце дрэваў. На высокім беразе, падалей, віднеліся вострыя гатычныя шпілі сабораў. Мы здагадаліся: гэта Градчаны.

Па стромкай лесвіцы ўзняліся на вышыню Летненскага саду. Ён сустрэў харастом асенняга ўбору,— лісце гарэла на хмызняку, што дзёрся знізу па схіле, на стройных клёнах, якія ішлі па баках алеі, шумела пад нагамі, на чырванаватым пяску.

На лавачках сядзелі жанчыны, гаманілі, чыталі, вязалі панчохі ці пальчаткі, каля лавачак гулялі прыбраныя жыццярадасныя дзеці.

Непадалёк за дрэвамі віднеліся будынкі. Я азірнуўся — адсюль быў цудоўны агляд галоўнай часткі Прагі. Яна ляжала між зялёна-жоўтых узгоркаў,— над дахамі яе, асабліва справа, там і тут падымаліся вежы, вежкі, купалы... Вось ты, ставежавая Злата Прага!

Цікава, што ты нам пакажаш, якой ты ўвойдзеш у нашы душы!

## 3

Першыя дні знаёміліся са старой Прагай.

Прага — горад, у якім адбіта бадай уся гісторыя чэшскага народа. Падзеі старажытнай даўнасці і падзеі, якія помняць юнакі, жывуць на яе плошчах, у яе помніках, на яе будынках, бруку.

Цэнтр старой Прагі — Старамесцкая плошча. Яна выбрукавана недалёка ад Вацлаўскай. Узнікла яна каля пачатку трынаццатага стагоддзя. На плошчы ёсць некалькі выдатных помнікаў, сярод якіх, мусіць, самы слаўны — Старамесцкая ратуша.

Чэхі з гонарам паказваюць прыезджым устаноўлены на вежы ратушы астранамічны гадзіннік, дасціпны твор старажытнага чэшскага майстра. Кожны раз, калі мінутная стрэлка падыходзіць да дванаццаці, адна з сімвалічных фігур, што аздабляюць гадзіннік,— «смерць» — цягне за вяровачку, якая спускаецца ад звана, і над плошчай гучаць роўныя ўдары. У акенцах над гадзіннікам, змяняючыся пры кожным удары, паяўляюцца па чарзе абліччы апосталаў. Каляндарная дошка гадзінніка ўпрыгожана цудоўнымі фрэскамі выдатнага чэшскага мастака Йёзэфа Манеса.

У цэнтры Старамесцкай плошчы стаіць велічная постаць Яна Гуса, помнік гераічнаму сыну ад чэшскага народа.

За Влтавай ціснецца другі стары раён Прагі — Мала страна. Над Малай странай высіцца Пражскі крэмль, Градчаны. Пабудаваны на высокім узгорку, з вострымі гатычнымі шпілямі сабора святога Віта, што ўразаюцца ў неба, Пражскі град нібы пануе над усім горадам. Ён добра бачны, здаецца, з любой вуліцы, з любога куточка горада і з'яўляецца адной з цудоўнейшых рыс вобліка Прагі.

Ёсць дзве думкі пра тое, калі ўзнік Град,— адны лічаць, што заснавалі яго ў шостым стагоддзі, другія — у дзевятым. Доўгі час, на працягу некалькіх стагоддзяў, Пражскі град быў рэзідэнцыяй чэшскіх каралёў. Некалькі разоў яго перабудоўвалі, мадэрнізавалі будынкі. Найбольшую перабудову рабілі два стагоддзі назад,— тады Пражскі град набыў той выгляд, які ён мае і цяпер.

Пражскі град — рэзідэнцыя прэзідэнта Чэхаславацкай рэспублікі, тут праводзяць пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі.

У Пражскім градзе багата выдатных архітэктурных помнікаў. Адзін з іх — велічны сабор святога Віта, які быў пачаты яшчэ пяць стагоддзяў назад і закончаны ў нашы дні, у 1929 годзе. Гатычная архітэктура сабора робіць моцнае ўражанне сваёй манументальнасцю, смеласцю формы, вышынёй скляпенняў, адмысловасцю мастацкіх дэталей. У каралеўскім палацы асабліва цікавы старажытны Уладзіслаўскі палац, у якім у 1948 годзе была прынята народная канстытуцыя Чэхаславацкай рэспублікі. Вельмі прыгожа, эфектна выглядае Іспанская зала, у якой адбываліся найбольш важныя палітычныя сходы нашых дзён. У Іспанскай зале было ў 1948 годзе пасяджэнне ЦК КПЧ, якое намеціла шляхі жыцця новай Чэхаславакіі.

З вялікай цікавасцю хадзілі мы па Златай вулічцы — залатой вулічцы, між сярэдневяковых дамочкаў з цёмнымі пакойчыкамі і малюсенькімі акенцамі,— тут вельмі натуральна паказваюць быт старажытных жыхароў. Нерухомая постаць, што схілілася задуменна каля рэторты ці зморана сядзіць з ружжом у руках, тоўстыя коўдры на нязграбных ложках, посуд на статах, рассыпаны ў старых печах, яшчэ нібы цёплы вугаль — усё гэта надае асаблівы каларыт музею-вулічцы.

Многа стагоддзяў мае і гісторыя Вышэграда. Ён, як і Град, пабудаван на высокім узгорку, што стромка падае да Влтавы. Узгорак гэты даволі далёка ад Града. З яго можна бачыць на дзіва чароўныя віды горада, ракі. Проста ўнізе, за сцяной Вышэграда, доўгі вузкі паўвостраў робіць ціхую бухту,— на паўвостраве нейкая лёгкая спартыўная пабудова, а ўся бухта застаўлена незлічонай флатыліяй самых розных яхт, лодак, лодачак.

Лодкі віднеюцца там і тут і на празрыстай роўнядзі Влтавы, што хаваецца ўдалечы за лёгкай сонечнай смугой. За смугой усё здаецца на дзіва прыгожым: і дрэвы на беразе і пагорках, і домікі ўскраіны, і заводскія пабудовы.

Над Вышэградам таксама нацэлены ў неба вострыя

пікі гатычнага сабора; яны, як і вежы святога Віта, узносяцца над горадам.

З паданняў вядома, што Вышэград быў першай рэзідэнцыяй чэшскіх каралёў. Цяпер у засені вялізных дрэваў на замшэлых могілках каля сабора сумныя рашоткі, крыжы, помнікі. Тут пахаваны выдатныя пісьменнікі, кампазітары, палітычныя дзеячы мінулага,— тут магілы Сметаны, Дворжака, Немцовай, Чапека.

Вышэград, Градчаны, Старэ места, Мала страна — самыя даўнія раёны горада.

Але Прага цікавая не толькі старажытнасцю. Цікавыя таксама і раёны, што выраслі пазней, у мінулым стагоддзі і ў нашыя дні, раёны, якія разам са старымі і складаюць воблік сучаснай Прагі. Прагу нельга ўявіць сабе без Нацыянальнага музея, без цудоўнага Нацыянальнага тэатра, без Летненскага саду, без Гібернскай вуліцы, без рабочых кварталаў Сміхава, Вісачані, Виршовіцэ, без Страгаўскага стадыёна.

У старажытных кварталах Прагі жыве не толькі свая даўняя, але і новая гісторыя,— яна робіць Злату Прагу шчырай сястрой нашых гарадоў. Ёсць на ціхіх і цемнаватых яе вуліцах сцены, дзе відны сляды куль, памяць бурных дзён баёў сорак пятага года. У тыя дні была пабіта варожым снарадам ратуша на Старамесцкім намесці,— яна таксама ўдзельнічала ў помнай крывавай бітве, і на старажытным яе целе ёсць незалечаныя раны. У Градчанах 5 мая паўстанцы паднялі сцяг вызвалення, на Градчанскім бруку пралілася гарачая кроў першага раненага ў баях.

На вуліцах старой Прагі мы не адзін раз бачылі чорныя чыгунныя пліты,— на іх адліта рука з паднятымі двума пальцамі, якая заклікае — не забываць, помніць! На плітах высечаны імёны салдат рэвалюцыі, што загінулі ў апошняй бітве...

Не, не толькі даўняй мінуўшчынай праславілася старажытная Прага.

Ёсць у чэхаславацкай сталіцы месца, якое асабліва ўсхвалявала нас, асабліва дарагое нам. Гэта дом на Гібернскай вуліцы. Тут у 1912 годзе збіралася Пражская канферэнцыя РСДРП. Клапатлівыя рукі нашых чэшскіх сяброў старанна аднавілі сціплую абстаноўку, у якой праходзілі гістарычныя пасяджэнні.

Невялікі, вузкі пакойчык на трэцім паверсе дома.

У пакойчыку ціха,— сюды зусім не прабіваецца шум з вуліцы,— дом стаіць на дварэ. Уздоўж пакойчыка ненакрыты даўгаваты стол, вакол стала гнутыя венскія крэслы, што былі ўзяты напракат з рэстаранчыка паблізу. Гледзячы на ўсё гэта, уяўляючы тут жывога, заклапочанага Леніна, што думаў аб будучыні партыі, народа, мы стаялі маўклівыя і ўзрушаныя,— гісторыя ажывала перад намі з незвычайнай жыццёвай непасрэднасцю.

Многія з нас думалі пра Радзіму, якая была для нас у тыя хвіліны не блізка — за мяжой, думалі пра цяжкі і слаўны шлях, які ішоў ад гэтага пакойчыка, ад ленінскіх выступленняў тут — да нашых дзён...

У прасторным пакоі побач, светлым, у чырвані сцягоў, было ціха. Але ў ім не заўсёды так прасторна і ціха,— сюды часта прыходзіць будучыня Прагі, яе юныя жыхары. Тады ў пакоі чуваць словы клятвы,— юныя ленінцы Прагі клянуцца быць вернымі вялікай ленінскай справе...

Калі мы выйшлі на вуліцу, ужо адчувалася, што блізка вечар, хаця і было яшчэ светла. Ледзь прыкметна пачыналі падбірацца прыцемкі. На Гібернскай ішлі, сустракаючыся, апярэджваючы нас, адзінокія пешаходы. Каля Плошчы рэспублікі, супраць старажытных парахавых варот, мы збочылі да Вацлаўскага намесця. Мы ішлі цяпер у вірлівай плыні пражан.

У той перадвячэрні час Прага і пражане сталі нам больш, як калі-небудзь раней, блізкімі...

## 4

Дні запоўнены да краю. Мы жывём па строгаму раскладу, і паракладчыкі нашы, прадстаўнікі «Чэдака», пільна сочаць, каб расклад гэты шанавалі.

Снедаем тут жа,— у адным з ніжніх паверхаў атэля размешчан рэстаран. У нас «свая» невялікая зала: тры доўгія сталы, на сярэднім з якіх падстаўка са сцяжкамі, чэхаславацкім і савецкім. На снеданне звычайна падаюць вяндліну, традыцыйныя чэшскія рагалікі, пасыпаныя соллю, чорную каву.

На пакецiках з цукрам аптымістычны надпіс: «Чай вас освежы». З поваду гэтага ў нас на снеданні звычайна дабрадушныя жарцікі...

Ужо большасць таварышаў паснедала, калі паяўляюцца двое, што, напэўна, заспаліся.

— Ой, таварышы! — спалохана ўскрыквае неспакойная перакладчыца.— Хутчэй! Машыны даўно стаяць!..

Так, машыны стаяць. Два вялікіх аўтобусы ■ блакітнай, імклівай у палёце птушкай — знакам «Чэдака» — і чырвоным сцяжком на шкле бакавога акна наперадзе. Яны стаяць, тулячыся да галля дрэваў.

Ужо стала прывычным: пакуль мы чакаем таварышаў, каля аўтобуса збіраюцца групкі — нашы і пражане. Завязваюцца роспыты, успаміны. Пажылы чэх, перамешваючы рускія і чэшскія словы, гаворыць задаволена, што быў у Расіі, на Смаленшчыне, і ў Данбасе быў...

— Даўно... Перад вайной чатырнаццатага...

Ён пытаецца, як выглядае наш Мінск. Выкладчык-географ з Мінска, карчакаваты, з энергічнымі жэстамі, замілавана малюе яму выгляд роднага горада.

То той, то другі з мінчан кароткімі рэплікамі дапаўняюць або паясняюць. Так, горад цудоўны,— пра гэта кажуць не толькі словы, пра гэта яшчэ лепш гавораць твары таго, хто апавядае, і яго памочнікаў! Чэх ківае галавой, радуецца разам з намі.

— Вельмі хочацца яшчэ раз пабыць у Расіі. Паглядзець зараз!..

— Прыязджайце! — запрашае адразу некалькі галасоў.

Захопленыя размовай з чэхам, мы не адразу заўважылі, што наша маленькая групка вырасла. Да нас усё падыходзяць і падыходзяць прахожыя, спыняюцца, прыслухоўваюцца.

Немаладая, з сівымі пасмамі жанчына, скарыстаўшы паўзу, гаворыць, што ў сорак пятым у маі, калі на дапамогу Празе прыйшлі савецкія таварышы, у іх жыў сяржант. Не, ён не з Мінска, ён з-пад Казані, але, можа быць, хто-небудзь выпадкова ведае яго, скажа, што з ім. Яна называе прозвішча.

Гэтае пытанне, якое ў іншы час, у іншых абставінах магло б здацца недарэчным, цяпер нікога не здзівіла. Больш таго, з твараў таварышаў відаць, што яны адчуваюць сябе крышачку вінаватымі, што не бачылі, не ведаюць...

— Такі вясёлы ён... дабрадушны... Мы ўсе яго ўспамінаем...— з пашанай кажа жанчына.

Так, шкада, што мы не можам расказаць пра яго...

Аказваецца, малады чалавек у капелюшы таксама мае знаёмага — праўда, не з Казані, а з Магнітагорска. Таксама жыў у іх, на Браніку. Фотакартка яго ёсць,— у двары, на Браніку, здымаліся. Усёй сям'ёй...

— Тацінко, мацінко, сестра, я і Андрэй Іванавіч...

У суседняй групцы, каля другога аўтобуса, мінчане і мінчанкі гавораць з маладым мужчынам у сінім берэце. У яго прыгожы твар, чорныя бровы і цёмныя, задуменныя вочы. Ён гаворыць па-руску, праўда, нялёгка, павольна,— падбіраючы, прыгадваючы словы.

— Хто гэта? — цікаўлюся я.

— Мілан,— чую кароткі, мнагазначны адказ.

Яго так і называюць у гаворцы, па імені, проста — Мілан. Мілан бярэ гэты ці то фамільярны, ці то сяброўскі зварот як натуральны. Здзіўляюся — дзе і калі яны ўправіліся так добра пазнаёміцца? Трэба сказаць, мяне не раз здзіўляла тое, як хутка, незвычайна хутка знаёміліся нашы людзі з чэхамі, а чэхі з намі, як імкліва першае знаёмства пераходзіла ў гарачую дружбу.

Мілан, аказваецца, мастак. Размова ідзе пра тое, якія заўтра музеі наведаць. Мяркуючы па гаворцы, пытанне, хто будзе праваднікам, экскурсаводам, ужо вырашана,— цяпер проста дамаўляюцца пра маршрут.

Падыходзіць клапатлівая перакладчыца, просіць садзіцца ў аўтобусы, і ўсе развітваюцца з мастаком.

— Заходзьце, заходзьце, таварышы! Зараз едзем! — падганяе перакладчыца.

...У гэты дзень мы пазнаёміліся з ускраінамі Прагі. Мы пабылі ў рабочых раёнах — у Вісачані, у Лібені, у Сміхаве. Тут месціцца большасць прамысловых прадпрыемстваў сталіцы,— у Сміхаве, напрыклад, працуюць паравоза- і вагонабудаўнічыя, шкляныя заводы.

Ускраіны маюць іншы, чым старажытныя раёны, воблік, іншае характва. Тут няма сабораў, няма даўніх помнікаў. Тут хвалюе выгляд новых вуліц з новымі будынкамі для рабочых. Мы бачылі цэлыя кварталы вялікіх шэрых дамоў простай архітэктуры, з шырокімі вокнамі, са светлымі пакоямі, з усімі выгодамі. У гэ-

тых дамах размешчаны таксама магазіны — прадуктовыя, прамтаварныя, кніжныя, кінатэатры, яслі.

Знаёмячыся з гэтым раёнам, я мімаволі прыгадаў адну нядаўнюю размову. Гэта было ў старой Празе. Хтосьці з нас, што аглядвалі старажытны квартал, запытаўся ў чэха, ці добра жыць у такіх дамах чалавеку ў нашы дні. Чэх паскардзіўся,— цяжка жыць, няма газу, нядобра з каналізацыяй. Народны ўрад робіць многа, каб палепшыць умовы жыцця ў старых раёнах, але задача гэтая нялёгкая...

У новых кварталах усё зроблена для таго, каб чалавек мог добра, зручна жыць...

Радасна было бачыць будаўнічыя пляцоўкі, чырвоныя недавершаныя сцены, вежавыя краны з выцягнутымі стрэламі. Усё гэта было нам знаёмае, роднае! Усё гэта рабіла старую Прагу такой падобнай на наш Мінск, такой зразумелай!

5

Можа, самым добрым, самым дарагім уражаннем ад гэтых дзён была атмасфера незвычайна сардэчнай дружбы, якая акружала нас усюды, дзе б мы ні з'яўляліся.

Гэтую сяброўскую прыхільнасць мы адчулі яшчэ ў першы дзень. Гуляючы па пражскіх вуліцах, прыглядаючыся да іх жыцця, мы раптам рашылі пайсці ў кіно.

Каля кінатэатра «Севастопаль», дзе ішоў новы чэхаславацкі кінафільм «Танкавая брыгада», які нам захацелася паглядзець, нас спаткалі вельмі знаёмым пытаннем — ці няма білета? Нам не цяжка было зразумець сэнс гэтага пытання, вядомага з Мінска.

Людзей, якія хацелі трапіць у кінатэатр, паглядвалі з надзеяй на тых, што падыходзілі, было многа. Мы разгубіліся. Але каля касы стаяла некалькі чалавек, і мы таксама захацелі паспрабаваць шчасця. Не, білетаў на вячэрнія сеансы не было, заставаліся толькі на вельмі позні. У нас амаль не было ніякай надзеі, калі мы назвалі бліжэйшы сеанс. Касірка ж, мелькам, з увагай зірнуўшы на нас, раптам падала білеты.

Нас тады вельмі крануў гэты сціплы знак гасціннасці!

Кінатэатр пабудаваны пад зямлёй. Уніз вядуць шырокія і зручныя лесвіцы, памяшканне таксама прасторнае і зручнае. Многія гледачы заходзілі ў гардэроб, здымалі верхнюю вопратку...

Першы фільм, які мы бачылі ў Празе, быў фільм пра баявое братэрства савецкіх і чэхаславацкіх танкістаў. Фільм пра дружбу, якая тут мела такі жывы, глыбокі сэнс!

Вярнуўшыся вячэраць у гасцініцу, мы неспадзявана трапілі на сустрэчу, што нібы пераклікалася з тымі падзеямі і вобразамі, якія толькі што бачылі ў фільме. У пакойчыку рэстарана было амаль пуста — мы спазніліся. Але за адным сталом сядзела некалькі нашых таварышаў і чэх. Мы падселі да іх,— вельмі ж шчырую, прыяцельскую гаворку яны вялі.

Размова была цікавая. Турыст з Мінска, былы капітан і танкіст Мікалай Куцан, хударлявы, светлавалосы, усхваляваны ўспамінамі, апавядаў, як ён у сорак пятым на чале ўзвода разведкі прабіваўся з поўначы к Празе. На шляху да Прагі ў разведчыкаў быў гарачы бой. Параніла яго сябра...

Чэх Міхаль Штэмар, што сядзеў насупраць Куцана, ваяваў у Чэхаславацкім корпусе. Быў пад Белай Царквою, у Карпатах... Ці трэба здзіўляцца, што ў абодвух была такая прыхільнасць адзін да аднаго!

...Праз тры дні мы ездзілі за горад глядзець Карлштэйн, адзін з самых прыгожых чэшскіх замкаў. Замак заснаваны каралём Карлам Чацвёртым шэсцьсот гадоў назад,— ён можа быць узорам далёкай будаўнічай культуры чэхаў, помнікам іх мастацкай творчасці. У замку ёсць многа старых фрэсак.

Карлштэйн пабудаван прыкладна ў трыццаці кіламетрах ад Прагі, на высокай скале, у надзвычай прыгожых лясістых гарах.

Мы выехалі з Карлштэйна перад вечарам. Не даязджаючы да шумлівых вуліц Прагі, аўтобус збочыў на шасэ, што вяло да прыгарада Барандаў. Барандаў — вельмі любімая пражанамі мясціна,— тут, на абрывістым беразе Влтавы, на тэрасах славутага на ўсю Чэхаславакію рэстарана любяць пасядзець у выхадны дзень ці прабавіць вечарок у кампаніі добрых сяброў. У пагодлівыя летнія дні на балконах, на верандах рэстарана, за столікамі, што цягнуцца ў некалькі радоў

проста над кручай, збіраецца, мусіць, не адна тысяча пражан...

Прыехалі мы ў Барандаў вечарам. Ракі, маляўнічых схілаў за ёй не было відаць, за шырокімі вокнамі толькі трапяталі ўдалечы радасныя агеньчыкі...

Мы занялі прыкладна палавіну невялікай залы. Астатнія сталы спачатку пуставалі. Але, калі наша вячэра падыходзіла «к канцу», у залу ўвайшла купка незнаёмых. Яны селі за адзін з суседніх сталоў.

Даведаўшыся, хто мы, суседзі ўсталі, пачалі шумна вітаць нас. Мы падумалі было, што гэта чэхі, але хутка даведаліся — немцы, таварышы з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Яны адпачывалі на адным з чэшскіх курортаў і зараз збіраюцца дамоў.

— Фройндшафт! Дружба! — немцы ўздымалі рукі з моцна пераплеценымі пальцамі.

— Дружба! — адказалі мы.

— Няхай жыве Савецкі Саюз!

— Няхай жыве дэмакратычная Германія!

Немцы і беларусы выйшлі з-за сталоў, сышліся. Горача, па-сяброўску ціснулі рукі. Запомнілася, як пажылы загарэлы гарняк-немец па-бацькоўску пяшчотна абняў бялявую дзяўчыну-мінчанку...

Такіх сустрэч за нашу паездку было нямала. Я ўжо не кажу пра гасцінных гаспадароў — славакаў і чэхаў,— на іх зямлі мы пабачыліся і пазнаёміліся з кітайцамі, палякамі, венграмі. З кітайцамі і венграмі сустрэліся далёка за Прагай, у высокіх Татрах. У вестыбюлі гасцініцы ў Татранскай Ломніцы, гасцініцы, якая таксама называлася «Прагаю», мы гутарылі з кітайскімі сябрамі. Яны даволі добра гаварылі па-чэшску,— нашы таварышы каля двух год стажыраваліся на шкодаўскіх заводах у Плзені; цяпер кіраваліся да родных берагоў. З венграмі мы пазнаёміліся ў незвычайных абставінах, далёка ад сяліб, у гарах — яны былі ў касцюмах альпіністаў, з рукзакамі. Гэта сустрэча запомнілася такой жа сардэчнай, таварыскай, як і сустрэча з кітайскімі братамі.

Чэхаславацкая зямля, што саграВала нас цяплом сваёй любові, дала нам адчуць і цеплыню братняй дружбы другіх, такіх жа яе гасцей, як і мы...

6

Мы знаёміліся не толькі з пражскімі музеямі і новымі жылымі кварталамі. Цікавіла нас і звычайнае, будзённае жыццё чэхаславацкай сталіцы.

Мы прыглядваліся да вітрын на вуліцах і плошчах, заходзілі ў магазіны, у закусачныя...

На вуліцах Прагі многа вітрын. Яны звычайна аздоблены з любоўю, з добрым густам, і іх прыгожы выгляд надае пражскім вуліцам нейкую святочнасць. Асабліва многа вітрын у цэнтры — на вуліцах Народна тржыда, на Пржыкопе, на Юнгманаўскай плошчы і, вядома, на Вацлаўскім намесці.

У вітрынах кніжных магазінаў цесна ад кніг. Гэта амаль усё новыя кнігі,— на іх вокладках дата 1955 года. Раман класіка чэшскай літаратуры Алоіза Ірасека, цудоўна аформлены, аповесці Тургенева, выдадзеныя ў серыі лепшых твораў пісьменнікаў свету, тамы Горкага, Фучыка, Неймана. Кнігі сучасных пісьменнікаў Чэхіі і Славакіі — Марыі Пуйманавай, Вітэзслава Незвала, Вацлава Ржэзача, Алены Бернашкавай...

Побач з іх кнігамі — творы савецкіх пісьменнікаў. Яны выйшлі найбольш у выдавецтве «Свет Саветаў», якое робіць вельмі многа для папулярызацыі савецкай літаратуры. Але кнігі нашых пісьменнікаў выдае не толькі «Свет Саветаў», займаюцца гэтым і выдавецтвы «Чэхаславацкі пісьменнік», «Наша войска», «Млада фронта». Многа кніг выходзіць і на славацкай мове. Перад самым нашым прыездам у магазіны Прагі прывезлі анталогію «Паэты Беларусі». У кнізе надрукаваны лепшыя, удала выбраныя вершы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы і іншых беларускіх пісьменнікаў. Артыкул у канцы кнігі добра расказвае пра развіццё беларускай паэзіі, дае кароткія, але дакладныя характарыстыкі нашых паэтаў.

Кніг багата не толькі ў вітрынах магазінаў, але і ў асабістых бібліятэках. Многія назвы гэтых кніг праз некалькі дзён я бачыў у Готвальдаве на палічках у кватэры рабочага абутковай фабрыкі. Пра тое, як любяць у Чэхаславакіі кнігу, можна меркаваць з таго, што лепшыя кнігі чэшскіх, славацкіх і савецкіх пісьменнікаў многа разоў перавыдаюцца, дасягаюць вялікіх тыражоў.

Нам вельмі спадабалася тая шчырая любоў да кнігі, якую мы адчувалі ў чэшскіх кніжных магазінах. Кнігу любяць усе — работнікі выдавецтваў, тыя, хто рассылае іх, хто развозіць і хто прадае. Кніжныя магазіны Прагі могуць быць узорам, як трэба адносіцца да кнігі.

Асабліва спадабаліся нам кніжныя магазіны выдавецтваў «Наша войска» і «Чэхаславацкі пісьменнік», магазін «Савецкая кніга», што на Вацлаўскай плошчы.

Магазін савецкай кнігі на Вацлаўскай плошчы, таксама як і магазін савецкага друку,— насупраць яго,— можа, ці не самыя папулярныя кніжныя магазіны ў чэхаславацкай сталіцы. Тут каля вялізных сталоў і стэндаў з кнігамі, часопісамі і газетамі з Савецкага Саюза заўсёды многа людзей — глядзяць, выбіраюць, купляюць. Тут можна купіць і кнігі нашых, беларускіх пісьменнікаў, што выдадзены ў Маскве. У магазіне друку многа ўкраінскіх часопісаў і газет; мімаволі шукалі мы вачыма і беларускія часопісы — перш за ўсё «Беларусь», — але іх не было. У тым, што іх не было, вінаваты мы: у Празе скардзіліся, што Мінск не прысылае часопісаў.

У вітрынах магазінаў сталіцы — мноства разнастайных бытавых рэчаў — газавыя пліты, халадзільнікі, пыласосы, простая, але зручная мэбля; добрыя вырабы з трыкатажу — дзіцячая, жаночая, мужчынская бялізна; прыгожы і носкі абутак; цудоўныя рэчы з чэшскага хрусталю і шкла...

Вельмі радуе, як многа ўвагі аддаецца дзецям. Дзіцячая вопратка і абутак звычайна вельмі зручныя, лёгкія і прыгожыя. Дзяцей і ў Празе і ў далёкіх ад сталіцы пасёлках апранаюць добра, з любоўю.

Вітрыны не толькі аздабляюць вуліцы, але і дапамагаюць гандляваць,— стоячы перад пражскімі вітрынамі, гэта добра адчуваеш. Усё, што выстаўлена на вітрыне, ёсць на паліцах магазінаў. Пражане не любяць застаўляць вітрыны бутафорыяй, на кожнай рэчы абавязкова адзначана яе цана. Жыхары Прагі прывыклі глядзець на вітрыну як на твар магазіна, таму выбар рэчы адбываецца звычайна перад шклом вітрыны. У магазін уваходзяць не для таго, каб паглядзець, а каб купіць. Так звычайна глядзяць на тых, што ўваходзяць, і прадаўцы пражскіх магазінаў. Ледзь пакуп-

нік падыходзіць да прылаўка, прадавец сустракае яго далікатным:

— Просім?

Гэта можна перакласці нашым: «калі ласка?» Пакупніку падаюць тое, што ён просіць, заплаціўшы грошы, ён выходзіць. У магазінах Прагі, мы заўважылі,— звычайна свабодна, прасторна, няма мітусні...

У гэтым немалая заслуга пражскіх вітрын.

Спадабалася таксама, як працуюць пражскія закусачныя. Яны размешчаны ў розных раёнах горада і добра спраўляюцца са сваёй задачай. У такой закусачнай гарадскі жыхар, якому даводзіцца заўсёды спяшацца, можа купіць бутэрброд, свежую, яшчэ цёплую булачку, шклянку кавы. Тут не трэба баяцца прамарнаваць час, калі вы ім даражыце,— у закусачнай, стоячы за высокім столікам, можна падсілкавацца за некалькі хвілін, проста «на хаду»...

У Празе любяць берагчы час.

Мы былі ў лепшым тэатры сталіцы — Нацыянальным тэатры. Велічны, урачысты будынак Нацыянальнага тэатра, што стаіць у канцы неспакойнай Народнай тржыды, на беразе Влтавы, перад маляўнічымі Стралецкім і Славянскім астравамі, лічыцца адным з прыгажэйшых у Празе па сваёй архітэктуры.

У Нацыянальным тэатры выступалі слаўныя музыканты і спевакі свету. Тут дырыжыраваў аркестрам Чайкоўскі, спяваў Шаляпін.

Пражане любяць свой тэатр. Усе месцы, і ў партэры, і на ярусах, былі запоўнены. Зала глядзела і слухала з хваляваннем і вялікай увагай, хоць многія, відаць, слухалі не ўпершыню. Ішла адна з папулярных опер — «Месінская нявеста» Фібіха.

Праўда, хвалявала слухачоў не толькі музыка оперы. У оперы спявалі таленавітыя спевакі, спявалі з сапраўдным майстэрствам; у тэатры цудоўны аркестр...

7

Апошнія два вечары ў Празе мы былі сярод чэшскіх братоў па «зброі» — пісьменнікаў.

Ідучы па Народнай тржыдзе к Саюзу чэхаславац-

кіх пісьменнікаў, мы думалі, што будзе толькі гутарка з Янам Дрда, старшынёй Саюза.

Але калі мы ўвайшлі ў залу Саюза, убачылі ў ім многа чэшскіх пісьменнікаў. Яшчэ да таго, як нас пазнаёмілі, пазналі каржакаватага, дужага з выгляду, з шапкай густых валасоў на вялікай галаве Яна Дрду і маленькую, ветлівую Марыю Майераву. Мы бачылі іх у Маскве, на з'ездзе пісьменнікаў.

Марыя Майерава — аўтар «Шахцёрскай балады» і «Сірэны» — народная пісьменніца, усё творчае жыццё якой аддадзена рабочаму класу Чэхаславакіі,— адзін са слаўных прадстаўнікоў старэйшага пакалення чэшскіх літаратараў. Ян Дрда многа маладзей за Марыю Майераву — яму толькі сорак гадоў, але за яго плячыма таксама вялікае жыццё. Ён аўтар вядомых у Чэхаславакіі раманаў — «Гарадок на далоні» і «Жывая вада», знаёмай нашым чытачам і чытачам іншых краін «Нямой барыкады». Ён відны палітычны дзеяч, шэсць год узначальвае Саюз чэхаславацкіх пісьменнікаў.

Знаёмімся і з другімі пісьменнікамі. «Вітэзслаў Незвал»,— моцна цісне руку вясёлы, з маладым, юнацкім бляскам у вачах таварыш. Гэта таксама знаёмы, няхай — завочна, але знаёмы,— мы яго ведаем па вершах, па артыкулах. Вітэзслаў Незвал — паэт глыбокі, складаны, які шмат і ўпарта шукаў у сваёй творчасці,— ён даўно прызнаны як адзін з лепшых паэтаў Чэхаславакіі. Незвал — лаўрэат Міжнароднай прэміі міру.

На сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі прыйшлі паэты і пісьменнікі, супрацоўнікі выдавецтва «Свет Саветаў», навуковыя работнікі. Самі сабой узнікаюць гутаркі, чуецца смех. Мы запрасілі перакладчыцу, але абыходзімся без яе. Ян Дрда добра, хоць і з акцэнтам, гаворыць па-руску, Вітэзслаў Незвал таксама добра разумее рускую гаворку. Мы яшчэ раней заўважылі, што ў чэшскай і беларускай мовах вельмі многа агульных слоў і, на просьбу нашых сяброў, гаворым па-беларуску. Чэхі нас цудоўна разумеюць! Мы разумеем, што яны кажуць.

Гутарым спачатку каму з кім давялося. У мяне вельмі цікавы субяседнік — Вітэзслаў Незвал. Аднак хутка Каміла Іраудкова, сакратар замежнай камісіі,

надае нашым выпадковым сустрэчам «арганізацыйны лад».

— Вам, як празаіку, трэба — у камісію прозы...— жартуе яна і садзіць мяне поруч з Марыяй Майеравай.

Пісьменніца цікавіцца Мінскам, нашай прозай...

Ян Дрда, папрасіўшы ўвагі, у кароценькім уступе сардэчна, па-сяброўску вітае нас — беларускіх таварышаў. Прыпамінае сустрэчы ў Празе з Максімам Танкам і Петрусём Броўкам... Ён просіць расказаць пра новыя, цікавыя падзеі і творы нашай літаратуры. Першы гаворыць Алесь Кучар. Ён крыху хвалюецца — нам усім прыходзіцца выступаць тут упершыню. Кучар кажа пра тое, якія глыбокія і даўнія культурныя сувязі чэхаў і беларусаў, напамінае прыезд у Прагу Скарыны, які знайшоў у ёй прыяцеляў яшчэ тады, чатыры стагоддзі назад. Прыгадвае, як шчыра сустракалі тут Купалу, як любяць у нас творы чэшскіх пісьменнікаў. Вітэзслаў Незвал, аказалася, сустракаўся з Купалам і добра помніць гэтыя сустрэчы ў Брно,— ён расказаў пра таварыскія размовы з нашым народным паэтам. Незвал не адзін раз перакладаў вершы Купалы на чэшскую мову. Ад Незвала мы даведаліся, што народны мастак Людвік Куба многа гадоў аддаў збіранню і вывучэнню беларускага фальклору,— Людвік Куба склаў глыбокія, поўныя вялікай любві да беларускіх народных песень каментарыі. Максім Лужанін прачытаў верш, напісаны ўжо тут, у Празе, і прысвечаны Празе. Я гаварыў пра партызанскія справы на нашай беларускай зямлі, пра тое, што ў шмат якіх атрадах разам з беларусамі і рускімі добра ваявалі славакі.

Як часам пераплятаецца лёс людзей нашых народаў! Помню, ■ якім хваляваннем слухаў Вітэзслаў Незвал апавяданне пра тое, што мае аднасяльчане ў гады акупацыі некалькі разоў праводзілі па лясах і сцежках партызан Сабурава, сярод якіх быў славуты сын чэхаславацкага народа Ян Налепка. Налепка ж, можа быць, сустракаўся і гаварыў з імі!..

Мне давялося яшчэ раз думаць пра лёс і жыццё Налепкі. Было гэта ўжо далёка ад Прагі, але ў такой жа таварыскай сям'і. Мы сядзелі ў нумары гасцініцы «Дэвін» у Браціславе, у пакоі, з вокан якога можна было бачыць пахмурны Дунай. За сталом шумліва гаманілі пісьменнікі — славакі і беларусы. Гаспадыня — удава

аднаго з віднейшых дзеячоў Чэхаславацкай кампартыі С. А. Шмераль — толькі што пазнаёміла нас, а між нас ужо ішла сяброўская гаворка. Тады мы сустрэліся з пісьменнікам Мілашам Крно, маладым, вельмі сімпатычным чалавекам. Крно зусім нядаўна пачаў штодзённа працаваць за пісьмовым сталом,— ён шэсць год аддаў на дыпламатычную работу. Жыў у Маскве і добра ведае і любіць нашу краіну. Можа, іменна таму пісьменнік захацеў сваю новую кнігу напісаць пра Яна Налепку, Героя Савецкага Саюза, чалавека, які ўсім сэрцам любіў нашу краіну і аддаў за яе жыццё.

Летам гэтага года Мілаш Крно з бацькам і маткаю Налепкі быў на Палессі, у маіх родных мясцінах. Крно казаў, што народ наш дапамог яму лепш адчуць, зразумець Налепку і што ён з вялікім задавальненнем працуе над кнігай.

Я таксама быў на Палессі ў гэтае лета,— крыху пазней, чым Крно. Мы не спаткаліся тады. Але спаткаліся ў Браціславе, у яго родным горадзе!

...У той вечар у Празе ў Саюзе пісьменнікаў мы пазнаёміліся яшчэ з адным чалавекам, які ваяваў за нашу Радзіму. Ужо шмат што ўспамянулі і перагаварылі мы, калі ў пакой увайшоў чалавек у форме афіцэра Чэхаславацкай арміі, танкіст, палкоўнік. Над ордэнскімі лентачкамі, што азначалі савецкія і чэхаславацкія ордэны, паблісквала зорка Героя Савецкага Саюза. У яго быў твар і жэсты рашучага, мужнага чалавека; пра тое, што перад намі франтавік, можна было здагадацца не толькі па ордэнах,— левае вока яго прыкрывала чорная павязка.

Ян Дрда пазнаёміў нас. Гэта палкоўнік Рыхард Тэсаржык, даўні знаёмы аўтар «Нямой барыкады». Калісьці разам хадзілі ў школу, потым надоўга расталіся, і зноў Дрда «сустрэў» свайго земляка толькі многа гадоў пазней, прачытаўшы ў газеце, што Рыхарду Тэсаржыку прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

— Не паверыў адразу,— жартуе пісьменнік.— Не думаў, што гэта ён. Я нават не ведаў, што ён быў у Савецкім Саюзе.

Палкоўнік не любіць цырымоніі. Пачынае размову з намі адразу, як са знаёмымі, проста: на «ты». Расказвае,— у 1938-м, пасля нападу немцаў на Чэхаславакію, ён перайшоў у Польшчу. Марачы ваяваць за Ра-

дзіму, з Польшчы Тэсаржык перабраўся ў Савецкі Саюз. Адтуль вярнуўся дамоў з Чэхаславацкім корпусам...

Палкоўнік з жартаўлівай усмешачкай кажа, што ён таксама паэт і нават друкаваўся ў перакладах. Адзін яго верш увайшоў у зборнік чэхаславацкіх пісьменнікаў, выдадзены ў Маскве...

Хутка палкоўнік здзіўляе нас яшчэ больш. Мы, аказваецца, «землякі» — яго жонка — беларуска!..

Выходзім позна вечарам. Расстаючыся на вуліцы, ведаем, што развітваемся ненадоўга. Заўтра зноў сустрэнемся: Ян Дрда запрасіў нас на вечар у загарадны дом творчасці чэхаславацкіх пісьменнікаў.

8

Удзень былі ў маляўнічым Слапі,— глядзелі гідраэлектрастанцыю. Гідраэлектрастанцыя ў Слапі, разам з цеплавымі станцыямі Падкрушнагор'я і гідрастанцыямі ў Штэховіцэ і Вране, жывіць Прагу і шматлікія яе заводы і фабрыкі электрычнай энергіяй. Усе тры гідрастанцыі збудаваны на Влтаве, на поўдзень ад Прагі. Гідрастанцыя ў Слапі адна з самых вялікіх гідрастанцый народна-дэмакратычнай Чэхаславакіі. Будаўніцтва яе закончылі ўсяго паўтара года назад, у 1954 годзе. Яна не толькі дала Празе электраэнергію, але і зрабіла суднаходнай Влтаву на поўдзень ад сталіцы. Цяпер судны плывуць у Прагу па Влтаве не толькі з поўначы, але і з поўдня...

Увечары машыны імчалі нас зноў на поўдзень, цяпер ужо к Добржышу, дому творчасці пісьменнікаў. Па дарозе, збочыўшы з шасэ, заехалі ў адзін сельскагаспадарчы кааператыў. У канторы кааператыва ўжо нікога не было, але ў суседнім, рабочым памяшканні мы спаткалі сялян. Не прайшло і некалькі хвілін, як між нас завязалася адна з тых гутарак, якія так багата кажуць пра настроі і пачуцці простых людзей.

Настрой у сялян добры,— гэта мы адразу адчулі. На тое ёсць падставы: сабралі багаты ўраджай, у кааператыве парадак. Толькі грашыма сяляне павінны атрымаць па 12 крон за дзень, такой добрай аплаты ў іх яшчэ не было... Вельмі ўсхвалявалі нас вялікая цікавасць і любоў да нашай радзімы людзей, якія жылі

тут, у звычайнай чэшскай вёсцы. Тут таксама многія мараць пабыць у Савецкім Саюзе, пабачыць сваімі вачыма дзівосную нашу краіну...

У Добржышы нашым «праваднікам» быў Ян Дрда. Ён вадзіў па залах замка, расказваў гісторыі, якія бачылі высокія маўклівыя сцены. У рабочым пакоі Яна Дрды, невялікім, сціплым, на пісьмовым стале ляжалі спісаныя лісткі нейкай незакончанай працы.

Замак падарыў пісьменнікам урад. Тут ёсць усе ўмовы для творчай работы, і пісьменнікі жывуць у ім многія месяцы. У Добржыскім замку напісаны лепшыя старонкі чэшскіх раманаў і паэм апошніх год.

— Тут, між іншым, нашым госцем жыў Жоржы Амаду,— кажа Ян Дрда.— Жоржы Амаду працаваў у Добржышы над раманам «Падполле свабоды»...

У Добржышы былі Луі Арагон, Вадзім Кажэўнікаў, Пабла Нэруда...

Мы сядзім за сталом, што ўсыпаны чырвонымі кветкамі, гутарым, і, як заўсёды, калі сустракаюцца сябры, няма недахопу на тэмы для размоў. Ян Дрда вельмі маляўніча апавядае пра паездку па Каўказу, і мы нібы перачытваем некаторыя старонкі яго «Чырвонай Тарцізы». Ён апавядае весела, з гумарам. Смех амаль не сціхае за сталом.

Гэты вечар авеяны хараством чэшскіх і славацкіх песень. Мы чулі і раней чэшскія песні, але ніколі не адчувалі іх хараства так, як у гэты час, на чэхаславацкай зямлі, сярод чэшскіх сяброў. Мы амаль не ведалі славацкіх песень,— а яны такія шчырыя, такія меладычныя, такія прыгожыя, песні гэтага паэтычнага народа!

Асабліва ўсхвалявалі, запомніліся дзве. Адна просценькая, на дзіва душэўная песенька пра сокала, пра ягера (паляўнічага), пра сокалаву фраярэчку (сяброўку).

Седзі сокол на яворы,
Прэбіра се дробна пёры.
Прышэл к нему стары ягер.
«Я ця, сокол, застрэліць мам».
«Не страляй мя, ягерэчку,
Мам я дома фраярэчку».

Мелодыя песні, сціплая, вельмі мілагучная, поўніць сэрца хараством і ціхай, такой зразумелай па нашых народных песнях журбою.

Другая песня журыцца ўжо не над доляю сокала, яна спачувае маладым Каці і Марціну, якія жэняцца. У Каці ў косах пентле (істужка), днесь (сёння) у дзяўчыны апошні дзявочы дзень: увечары яна будзе зачэпечэна (надзене чапец):

От Бухлова, ей, вітр вее,
Юж тэй Качынцэ пентле берэ.
Днеська невеста, зітра жэна,
Днесь вечэр будэш зачэпечэна.

Песня з хвалюючай сардэчнасцю журыцца:

Ты йсі, Качынко, біла ружа,
Тобе не було трэба мужа,
Тысь могла ходзіць по свободзе,
Як та рыбечка ў чыстай водзе.

Так жа смуткуе песня і над доляю Марціна, якога называе стромам (дрэвам) зялёным. Марцін мог бы хадзіць да галанак (дзяўчат, паненак), як той голуб па гамбалках (крокваx):

Ты йсі, Мартыне, стром зелены,
Тобе не було трэба жэны,
Тысь могл ходзіць по галанках,
Як тэн голубек по гамбалках.

Беларускія песні, што змянялі чэшскія і славацкія, таксама прыйшліся да душы сябрам. Нездарма ж прасілі яны паўтарыць партызанскую «Лясную песню», спявалі з намі!..

9

Мы былі ў маўзалеі Клемента Готвальда і на могілках у Альшанах.

У Альшанах пахаваны савецкія воіны, што загінулі ў баях за Прагу. Побач з магіламі нашых салдат магілы чэхаў, славакаў, балгараў,— сапраўды братнія могілкі. Могілкі братоў па зброі, па крыві, па ідэалах.

Савецкі генерал Максім Козыр, старшына Іван Шабельнік, які загінуў на дваццаць восьмым годзе, чэхаславацкі партызан Пятро Ніскоўскі, чэхаславацкія воіны Яраслаў Новатны, Яраслаў Доўша, балгарын Марын Ангелаў Дзімітраў. Асабліва многа магіл нашых салдат — рускіх, украінцаў, беларусаў. Багата каму з іх, што загінулі ў тыя блакітныя дні мая, не было яшчэ і дзевятнаццаці. Яны аддалі вясну свайго жыцця дзеля вясны чалавецтва.

На некаторых магілах няма імён: «Тут пахаваны невядомы воін Чырвонай Арміі». Тое ж на чэшскіх магілах — «Незнамы».

Нас вельмі ўзрушыла вялікая любоў, з якой чэхі даглядаюць магілы нашых, чэхаславацкіх і балгарскіх воінаў. Ніколі не забыць нам пражскіх чырвоных руж на салдацкіх магілах, чырвоных жывых руж, якія нібы працягваюць жыццё тых, хто ляжыць у братняй зямлі. Ніколі не забудзецца маленькі чэх Урбанэк з кветкамі, які прыйшоў разам з маткаю пакланіцца загінуўшым.

Стоячы тут, асабліва моцна разумееш, адчуваеш усю веліч справы нашай Радзімы, нашай Арміі, усю глыбіню той удзячнасці і любові да нас, якія жывуць на чэхаславацкай зямлі...

* * *

Мы былі ў Празе пяць дзён. Раніцай аўтобус павёз нас у бок Плзеня. Пасля Плзеня мы пабачылі курортныя Марыянскія лазні і Карлавы Вары.

Былі на трактарным заводзе ў Брно, на абутковых фабрыках у Готвальдаве, у гасціннай Браціславе. Наведалі школу, дзіцячы сад, жылі два дні ў гарах Татранскай Ломніцы...

Мы бачылі краіну, пазнаёміліся з ёю, наколькі гэта можна за паўмесяца, што хутка праляцелі ў экскурсіях і паездках. Багата чаго мы не ўправіліся ўбачыць глыбока. Але галоўнае ўведалі, уведалі ўсёй душой — гэта краіна сяброў.

Дзе б ні былі, ці блізка, ці далёка ад чэхаславацкай сталіцы, мы ўсюды дыхалі «паветрам» Прагі,— нас атулялі шчырая ўвага і любоў.

Мы бачылі чырвоныя палотнішчы і словы-заклікі, словы-клятвы на іх: «На баку Савецкага Саюза, за мір, за сацыялізм!», «З Савецкім Саюзам на вечныя часы!» Гэтыя словы, адчулі мы, не толькі ў лозунгах — яны ў сэрцы народа!

# ЛІПЕНЬ У ДАРОЗЕ

Лісткі з блакнота

## 1

Выйшлі з Ленінграда апоўначы.

Буксіры доўга, марудна адцягвалі магутны цеплаход. Мы сачылі, як паступова шырылася паска цёмнай вады між белым корпусам цеплахода і прычалам: паўметра, метр, тры... Неўзабаве «Пабеда» ўжо ішла па канале, не сама ішла — яе цягнулі кармой наперад. Паступова плылі абапал берагі, будынкі, краны. Будынкі, што раней былі блізка, аддаляліся, меншалі, падступалі берагі без будынкаў, з рэдкімі дрэвамі, а канал усё не канчаўся. Збоку адкрылася нейкая бухта, за ёй другая.

Нарэшце на нешырокай вадзе «Пабеда» павольна, асцярожна развярнулася перадам у бок мора, запрацавалі маторы, задрыжала палуба.

У памяці засталася хвіліна, калі зусім адступіла вузкая цёмная рыска зямлі і перад вачыма адкрыўся бязмежны, вольны вадзяны шлях. Ужо днела. Белая ленінградская ноч непрыкметна пераходзіла ў досвітак. У небе над Ленінградам свяціўся малады месяц, мора ў тым баку было фантастычна бэзавага колеру. Чыстае, ціхае-ціхае і — бэзавае. За ім дрыжалі, гаслі ўдалечы агеньчыкі вялікага цудоўнага горада, здзіўляюча агромністага порта.

Недзе злева праходзяць берагі Петрадварца. Справа ў моры акрэсліваецца, дзіўная ў гэты час, нейкая яхта.

Вочы шукаюць наперадзе абрысы Кранштата. Агні яго паступова набліжаюцца з пасвятлелай, але ўсё ж яшчэ цемнаватай далечы. Здалёк відаць вялікі купал, напэўна, сабора, прыгожыя будынкі, прычалы з суднамі, сярод вайсковых суднаў узвышаюцца мачты парусніка. Хвалююць руіны нейкай крэпасткі на астраўку. Яны засталіся, нібы знарок, у памяць ад вайны.

Вось і Кранштат адыходзіць назад. Мінаем вартавы кацер, з якога матросы пазіраюць, праводзяць вачыма ў далёкую дарогу наш плывучы дом.

Наперадзе шырокі, па-ранішняму пахмурны, з лёгкім рабаціннем прастор.

Гэты прастор мы бачым і ўвесь наступны дзень. Узброеныя біноклямі, як уладары мора, многія вышукваюць з палубы далёкія маякі, рыскі астраўкоў, гадаюць, што гэта. Прайшлі блізка міма вялікага фінскага вострава. Ён увесь у лясах, на беразе некалькі невялікіх будынкаў, маяк.

Жыццё хутка ўваходзіць у норму, экзотыка становіцца будзённасцю. За абедам аб'явілі, што мінаем ■ левага борта яшчэ нейкі востраў, некалькі чалавек усталі, вярнуліся і — ні слова больш пра яго. Вабіць іншае: напаўняецца пусты яшчэ зранку басейн, з помпаў шыпіць, б'е вада. На карме за басейнам збіраюцца, грэюцца ў шэзлонгах на сонцы. Назіраюць за тымі, хто загарае, купаецца, потым і самі раздзяваюцца і купаюцца. Тут найбольш людна і шумна.

Даволі людна, хоць і не шумна, у салоне бібліятэкі — перабіраюць кніжкі, часопісы. Пасля абеду на палубе першага класа пачалі стукаць «казла» — настрой узрушаны, воклічы. Гэта не перашкаджае другім паблізу ляжаць, драмаць у шэзлонгу. На моры і спіцца добра. Кругом — мора, мора. Раніцай будзем у Стакгольме...

## 2

Шведскае надвор'е сустрэла нас непрыветліва. Над морам нізка вісяць цёмныя хмары, хвалі таксама цёмныя, хмурныя. То пойдзе, то перастане дождж, б'е мокры парывісты вецер.

Далеч зацягнула смугою, шэрай, дажджавой. Стаім, хутаемся, стрымліваючы дрыжыкі, гледзячы на гарбы скалістай зямлі, што выступаюць то ў тумане — няясна, загадкава, то падыходзяць зусім блізка да парахода. Тады добра відны на іх не толькі сосны, палянкі, маякі, розныя пабудовы з пафарбаваных дошак, з чарапічнымі дахамі, але і дробныя прычалы на беразе, і адзінокія людзі. Астраўкі, нягледзячы на пабудовы, здаюцца нежылымі — да таго ўсё тое, што мы бачым,

незвычайнае. Хмурнае надвор'е, дажджавая смуга, якая прыкрыла, змяніла навакольнае, нібы ўзмацняюць незвычайнасць, нерэальнасць усяго.

Прабіваючы мокры вецер і дождж, што сякуць насустрач, падыходзім да Стакгольма. Ён ужо скора. Вось паяўляюцца наперадзе першыя пабудовы горада — на высокім скалістым беразе стромкія будынкі, мяркуючы па абрысах — элеватары. Адзін блізка, крыху далей — другі. З правага боку таксама будынкі. Здалёк відаць вялізная рэклама; сярод незнаёмых шведскіх слоў разбіраем знаёмае — «Додж»: рэклама па продажу амерыканскіх аўтамабіляў. Яшчэ адна далей, таксама «Додж». Гэта першыя рэкламы...

«Пабеда» ідзе глыбей у затоку. Адступаюць назад элеватары, нейкі ні то палац, ні то замак са шпілем, што прыгожа выглядае на гары сярод зеляніны, чырвоныя будынкі (пазней аказалася — млын); на другім узгорку, за шэрай затокай,— некалькі плоскіх, вузкіх будынкаў на дзесяць — пятнаццаць паверхаў з чырвонымі шапкамі-дахамі. Будынкі падобны на запалкавыя карабкі. Мінаем густы, доўгі рад кранаў. За кранамі цеплаход зусім запавольвае ходу. Ужо з борта заўважаем шэраг вялікіх сіне-жоўтых аўтамашын са сцяжкамі, дробную групку людзей. У некаторых з іх фотаапараты.

Карэспандэнты. Значыцца, мы прыехалі...

Сышлі на бераг пад наглядам фотаапаратаў прэсы. Яны моўчкі, загадкава выбіраюць з чарады, што спускаецца па трапу на шведскі брук, аднаго, другога, хутка нацэльваюцца — гэта мімаволі насцярожвае. Акрамя карэспандэнтаў, гідаў, двух-трох служачых у форме, нікога. Сустрэча, як надвор'е.

Пасеўшы ў аўтобусы, едзем аглядваць горад. Дажджу ўжо няма, але хмурна. Горад здзіўляе, зацікаўлівае своеасаблівым каларытам: скалы, будынкі на скалах, на ўзгорках; пабудовы нияк зрасліся з узгоркамі, дапоўнілі іх дзікае хараство. Віды ўвесь час мяняюцца, узнікае ўсё новае, не падобнае на ранейшае. Вельмі аздабляе горад вада, якой тут наліта незвычайна шчодра. Затокі, затокі, масты, астравы, на затоках — параходы, вялікія і малыя, чорныя і белыя, яхты цэлымі чародамі каля берагоў. Здзіўляе мноства машын і веласіпедаў на стаянках, на плошчах, на набярэжных. Ма-

шыны самыя разнастайныя, з усяго свету — багата амерыканскіх, італьянскіх, французскіх, свае маркі: у Швецыі ёсць аўтамабільныя заводы. Замежныя машыны відны ў вялікіх люстраных вітрынах — іх прадаюць іншакраінныя фірмы.

Замежнага наогул вельмі многа прыкмячаем ужо з першых крокаў. У магазінах — амерыканскія, галандскія, французскія тавары, італьянскія апельсіны, у кінатэатрах — англійскія фільмы, фільмы ЗША, іх хроніка; у цэнтры горада — бюро шведска-амерыканскіх паветраных ліній, паветраных зносін з Францыяй.

У нацыянальнай галерэі, дзе выстаўлены шэдэўры Цорна і Рубенса, вісіць таксама мазня новых модных мастакоў, якая як дзве кроплі вады падобна на «творы» амерыканскіх і французскіх мадэрністаў.

На вуліцах часта, знаёмая па карэспандэнцыях, рэклама-заклік, якую мы лёгка перакладаем: «Drink koka-kola» — піце кока-кола. Яго могуць падаць у любым кафэ разам з трубачкай-саломінкаю.

Архітэктура большасці пабудоў простая. У стылі многіх новых будынкаў адчуваецца імкненне да найменшых затрат. Шведы, будуючы, вельмі прытрымліваюцца эканоміі, пільна сочаць за тым, каб перш за ўсё было зручна жыць. З мноства будынкаў вылучаецца сваёй архітэктурай ратуша: з чырвонай цэглы, з высокай строгай вежаю, над якой блішчыць купал з трыма залатымі каронамі. Будынак — манументальны, суровы, у ім багата выкарыстаны традыцыі шведскай архітэктуры. Прыемна было бачыць у вестыбюлі ратушы, у нішах, бюсты будаўнікоў і архітэктараў. Запамінаецца таксама велічны, ціхі каралеўскі палац, квадрат якога з унутраным дваром займае амаль цэлы квартал на беразе затокі. Шведы з гонарам паказваюць будынкі оперы, нацыянальнага музея.

Новае ў Стакгольме пераплятаецца са старым. Нібы сімвал гэтага адзінства, бачылі мы каля лесвіцы, што вядзе ў палац, нерухомага вартавога ў сучаснай ваеннай форме, з сучасным аўтаматам і камердзінера ў старажытным мундзіры і старажытным капелюшы. Каля панурага старажытнага будынка караля мок пад дажджом маршчыністы стары ў белай куртцы, зазываючы паесці гарачых сасісак,— печка, пры якой клубілася воблачка пары, была тут жа...

Палац стаіць у старым горадзе. Кварталы старога горада з неймаверна вузенькімі вулачкамі, дзе цяжка размінуцца і дваім, складаюць таксама частку аблічча сталіцы.

У Стакгольме многае гаворыць аб працавітасці народа. Як манумент ёй, ляціць над халоднай шведскай вадой смелая страла Вестэрброна — моста, што злучае два раёны горада. Зусім нядаўна ў скалах высечан будынак для агромністага аўтамабільнага гаража, на берагах затокі ідуць падземныя работы — злучаюцца дзве лініі метрапалітэна, які раней затока разрывала. Мы ездзілі са шведам Віктарам Туландэрам, бялявым маладым чалавекам з прыветлівым позіркам шэрых вачэй, у новы гарадок Велінгбю, «спальны гарадок», як сказаў Туландэр, дзе жыве многа стакгольмскіх рабочых і служачых. Гарадок, разнашэрсны, з частымі ў Швецыі паўнебаскробамі, а таксама з катэджамі і звычайнымі цаглянымі будынкамі, добраўладкаванымі універсальнымі магазінамі ў цэнтры, выстаўляецца як узор будаўнічых поспехаў шведаў і клопатаў аб жыллёвых умовах.

— Як у вас цяпер з жыллём? — запыталіся мы ў Туландэра.

— Кватэр не хапае,— коратка адказаў швед.

Жыллёвы крызіс не ліквідаваны ў Стакгольме, горадзе, які стагоддзі не ведаў разбурэнняў.

Шведы — народ стрыманы, але Стакгольм жыве на дзіва кіпучым жыццём, поўным вялікага руху. Гэты пульс жыцця адчуваецца і ва універмагу на Свеявеген, агромністым камбінаце гандлю, і на рынку, жывапісныя рады якога ўладзіліся побач з універмагам у цэнтры горада, і на саміх вуліцах, асабліва на Кунстгатан і Свеявеген. Каб паменшыць скапленне машын на стаянках у цэнтры горада, улады ўвялі закон, па якому стаянка больш за дзве гадзіны забараняецца. Стаянка да дзвюх гадзін павінна быць аплочана. Для гэтага перад кожнай машынай стаіць аўтамат, які дакладна, няўхільна адлічвае час. Па паказчыку аўтамата паліцэйскія і сочаць за тым, як прытрымліваюцца закону ўладальнікі машын.

Мы ехалі пасляабедзеннай парой з цэнтра горада. Надышоў «час пік» — кончылася работа. Паток машын, пешаходаў стаў такі густы, што машына спыня-

лася амаль на кожным метры. Выпадкова мы сталі сведкамі аварыі — непадалёк ад нас трапіў пад машыну чалавек. Няшчаснага, які крыкам і стогнамі адразу сабраў натоўп, ледзь толькі прыляцела машына паліцыі, адправілі на таксі, і праз мінуту на скрыжаванні ўсё ўвайшло «ў норму».

Хадзіць цераз вуліцы ў Стакгольме нам было справай нялёгкай: рух на шведскіх вуліцах незвычайны — па левы бок. Мне здавалася, што весці машыну пры такіх умовах значна цяжэй, чым у нас. Я не раз здзіўляўся, як спрытна ўнікалі шафёры амаль непазбежных аварый.

За невялікі час, што мы прабылі ў Стакгольме, мы бачылі шведаў і ў працы, і ў весялосці. Мы чулі іх прыгожыя, не знаёмыя нам дасюль, мелодыі і глядзелі на іх простыя, але грацыёзныя танцы. Танцавалі пад камандай апранутага ў стары нацыянальны ўбор танцмайстра сотні дзве дзяўчат, юнакоў і пажылых людзей. Выгляд у гэтых маўклівых, стрыманых людзей быў жыццярадасны і нават бесклапотны. Старыя весяліліся, як юнакі.

Пад вечар неба праяснілася, і горад заззяў ад праменняў сонца. Ён нібы змяніў сваё хмурнаватае аблічча.

— Добра, што сонца,— сказаў задаволена наш спадарожнік Туландэр.— Вы маглі б падумаць, што Стакгольм горад шэры і пануры, а гэта не так.

Што Стакгольм можа быць не толькі стрыманы, халаднаваты, мы адчулі яшчэ ўдзень, праязджаючы паўз групу рамонтных рабочых, якія, убачыўшы наш аўтобус, выпрастаўшы спіны, бурна, па-братэрску віталі нас. Гэта мы яшчэ больш адчулі ўвечары, вяртаючыся на цеплаход. Калі мы пад'ехалі да сваёй стаянкі, то былі ўражаны — мноства машын поўніла пусты ўранку пляц. Каля цеплахода стаялі натоўпы людзей, нашых і шведаў.

Былі тут розныя. Былі людзі багатыя і бедныя, шведы і рускія, так званыя перамешчаныя. Сярод гэтых «перамешчаных», мы ведалі, ёсць злачынцы, ворагі, гатовыя на ўсякі выпад. У мінулы рэйс нашым турыстам падкідвалі, пад выглядам сувеніраў, правакацыйныя, злосныя лістоўкі ў прыгожа аздобленых, з партрэтам нейкай прыгажуні-актрысы і здымкам горада канверціках.

Я далучыўся да групкі нашых людзей і незнаёмых, што гаварылі па-руску. Іх было двое. Адзін — апрануты ў плашч, яшчэ малады, з мяккімі бялявымі валасамі і ціхім позіркам, і другі, чарнавокі, пануры.

Распытваемся — хто, адкуль. Бялявы, аказваецца, ваеннапалонны, ваяваў на паўднёвым фронце, амаль што там, дзе давялося быць і мне ў пачатку вайны. Таксама артылерыст, быў лейтэнантам, узнагароджаны ордэнам. У палон трапіў у Ізюм-Барвенкаўскім акружэнні. Родам са Сталінскай вобласці.

— Не сумна тут?

— Не... прывык,— асцярожна адказвае.— Сям'я...

— Ажаніўся?

— З рускай дзяўчынай.

— Ёсць дзеці?

Ківае галавой: «Ёсць».

— Як так можна? — горача прамовіла, не ўтрывала адна наша жанчына.

— Што?

— Што? Забыць радзіму! Вас жа там нарадзілі, вывучылі, вырасцілі...

Мужчына, [redacted] нашых, здзіўляецца:

— Няўжо не цягне?

— Цягне...

— Дык чаго ж вы... седзяце тут?

Умешваецца другі, пануры, недаверлівы:

— Паедзеш, а там... Не пагладзяць, мусіць, за палон!

— Калі не вінаваты, няма чаго баяцца.

— Не вінаваты,— гаворыць бялявы.— Ні ў чым.

Другі маўчыць. Яго маўчанне, адчуваецца, стрымлівае былога лейтэнанта. Расказваем, што многа палонных даўно вярнулася, даўно жывуць спакойна на роднай зямлі, разам з бацькамі, з братамі, працуюць...

Пакідаем абодвух, асабліва бялявага, у сумным роздуме, заклапочанымі. Абодва доўга глядзяць з натоўпу ўгару, на нашы палубы, на людзей, што стаяць на ўсіх паверхах.

Вось — іншыя. Заўважаем у натоўпе сярод шведаў п'янае, няголенае аблічча. Ён непрыстойна крыўляецца, штурхаецца, як паяц, прытанцоўвае — хоча парушыць шчырасць, добрую прыязнасць, што яднае цяпер нас і шведаў. Нашы мяняюцца са шведамі паш-

тоўкамі, манетамі, разглядваюць, дзівяцца, дзякуюць усмешкамі, паклонамі. Цёпла стала, добра на стакгольмскім, уранку панурым, прычале.

Яшчэ адзін побач з п'яным. Гэты падобны і не падобны да п'янага. Акуратна збірае паштоўкі, усміхаецца няшчыра, неахвотна — збірае паштоўкі, вядома, толькі для таго, каб менш трапіла іншым. На жалезнай лесвіцы крана сядзіць маладая, бадай юная, шведка. Яна шчыра ўсхваляваная, шчаслівая, усміхаецца, кладзе ў сумачку шчодрыя сувеніры. Ніжэй сядзіць пажылы — гаворыць па-руску. Хто ён — не зразумець, але яны нібыта знаёмыя. Ёй гаворыць ён па-шведску штосьці зусім прыстойнае, і яна адказвае даверліва, шчыра. Нам, па-руску, ён кажа іншае:

— Іх тут многа такіх. Яны з лю́бым. Абы грошы... Амерыканцы тут не цырымоняцца. Абы грошы!..— Ён падміргвае «па-прыяцельску».

Нашы абураюцца. Ён пасміхваецца, напявае вясёлую непрыстойную песеньку.

Патугі непрыяцеля марныя. Яны не засцяць галоўнага — шчырасці, дружбы, што мацнее, цяплее над прычалам. Смех, вясёлыя, прыхільныя твары.

На палубах узнікае песня. Спачатку не вельмі ўпэўнена — высока ўзялі, потым ладней, мацней. Шведы слухаюць. Раптам песня перайшла на бераг — заспявалі па-шведску «Ой, цвіце каліна». З палубы на гэта адказваюць бурай авацый. Дарэмна крыўляецца, размахвае рукамі п'яны паяц, яго ніхто не заўважае.

Пад песні цеплаход спакваля і адыходзіць ад прычала. Калі песня сціхае, з берага, над якім узняліся дружныя рукі, гучыць:

— Рот фронт! Рот фронт! Рот фронт!

З цеплахода адказваюць па-шведску, скандуюць — моцны голас гэты гучыць над затокай:

— Дзя-куй! Дзя-куй!

Цеплаход паволі разварочваецца, выходзіць на сярэдзіну затокі. А з берага яшчэ доўга махаюць і махаюць рукамі.

3

Злева на лясістым беразе маяк, чарапічныя дахі, справа таксама чарапічныя дахі, дзіўны, цаглянага колеру манумент-абеліск. Адзін бок, што к мору,— пра-

мы, другі — увагнуты, дугою. Манумент агромністы, гэта прыкметна здалёк. Бераг жоўты, пясчаны, на ім здалёк відаць лазовыя будачкі, людзі. З лодкі паблізу прывітальна махае рукой чалавек. Наводдаль бялеюць некалькі яхт...

Неўзабаве, апаўдні, спыняемся каля прычала Кіля. На бетонных дарожках стаяць маўклівыя, незнаёмыя людзі. Немцы. Заходняя Германія. Успамінаюцца Адэнауэр, рэмілітарызацыя. Стаім — мы на палубе, яны — на бетонных дарожках, прыглядаемся адны да адных. Цеплаход амаль прыціраецца да прычала, і мы разглядваем, можна сказаць, усутыч, твар у твар.

Праз нейкі час завязваецца гаворка. Пачынаюць нашы — на нямецкай мове. Ім адказалі. Абмяняліся манетамі. Насцярожанасць дзе-нідзе знікае. Але не ўсюды. Вунь стаіць чалавек: строгі, халодны, з жанчынаю,— ён не адказаў на прывітанне. Другія лічаць за лепшае таксама быць падалей, назіраюць.

А ў тых, хто бліжэй, лёд кранаецца. Хлопец-юнак штосьці хутка піша на лістку з блакнота, укладвае яго ў карабок запалак і кідае на палубу цеплахода чарнявай дзяўчыне. Дзяўчына — яна звычайна цэлымі днямі сядзіць на карме з альбомам і алоўкам, робіць замалёўкі — дастае карабок, які трапіў у шчылінку, дзе выхад з палубы на трап, разгортвае лісток, чытае.

Не адразу разабраць хутка, усхвалявана напісаныя радкі, з усяго зразумела адно слова: «Blüme» — кветкі. Што яшчэ, што з гэтымі кветкамі — невядома.

— Гэта прозвішча — Blume,— падказваюць ёй.— Увэ Блюм. Увэ — імя.

Ну так, далей адрас: Гамбург, вуліца, нумар дома. Просіць напісаць, значыцца.

Дзяўчына паднімае галаву, ківае юнаку. На яго ўсхваляваным не на жарт, заклапочаным чаканнем твары радасная ўсмешка.

Цеплаход, узяўшы лоцмана, ціха кранаецца, і юнак ідзе ўслед, махаючы спачатку рукой, а потым, калі цеплаход аддаляецца — хусцінкай. Твар яго задуменны, узрушаны. Шкада, так і не пагаварылі.

Ён махае доўга, аж пакуль прычал не знікае за паваротам.

Мы мінаем Кіль, зялёны ад садоў і чырвоны ад ча-

рапіцы дахаў, ідзём па ціхаму каналу. Над намі высокая, смелая, праз усё неба, дуга моста. Мачта, здаецца, вось-вось зачэпіць за яго — не, прайшла нізам. З моста махаюць рукамі людзі.

Кіль — вельмі жывая траса. Паўз нас насустрач ідуць параходы з Гамбурга, Брэмена, з фінскімі, шведскімі, галандскімі, польскімі сцягамі. Польскі параход называецца «Новая Гута». З яго таксама памахваюць прывітальна рукамі.

Сёння выхадны дзень, нядзеля, і на зялёных, такіх жа, як на Прыпяці ці Нёмане, берагах многа народу. Ляжаць у засені, на траве поруч — машыны, веласіпеды, ляжаць пажылыя, дзяўчаты і хлопцы; часта трапляюцца рыбаловы, знакамі паказваюць нашым рыбаловам, што дрэнна ловіцца. Праходзяць яхты з белымі парусамі, маладыя хлопцы і дзяўчаты часта вельмі прыхільна вітаюць нас. У невялікім гарадку, каля рэстаранчыка, тэраса якога цвіце, нібы кветкамі, нас сустракаюць асабліва бурна — дзяўчаты і хлопцы натоўпам падбягаюць да самага берага, праводзяць вясёлым, выбухлівым разнагалоссем добрых слоў. З недалёкага буксіра чуецца моцны малады голас:

— Дружба!

— Freundschaft,— адразу адказваюць з цеплахода многія галасы.

— Друж-ба! Друж-ба! — паўтарае юнак.

Бачылі мы і постаці людзей, што панура, злосна адварочваліся ад нас, чулі мы, як адзін з берага крыкнуў: «Nach Osten!» Але гэта былі адзінкі, а іншыя, большасць, глядзелі на нас добразычліва і віталі. Прызнацца, тут такая прыхільнасць, такая шчырая цеплыня былі прыемнай нечаканасцю. Тым больш грэла яна нашы сэрцы, гэтая цеплыня.

— Soviet, ura! — пачулася ў адным месцы з берага.

На ўсім, амаль стокіламетровым шляху па Кільскаму каналу стаялі мы на палубе, вітаючы і адказваючы на прывітанні.

Мясціны, праз якія мы ішлі, былі вельмі падобны на нашы, рускія і беларускія. Такія ж пералескі, зялёнае, ужо кранутае жаўцізной жыта, родныя вербы, палявыя дарожкі, лугі, як на Палессі,— усё гэта выглядала знаёмым і вельмі мірным, і прывітальныя знакі

рук, і воклічы браліся з асаблівым хваляваннем і давер'ем.

Увечары прыехалі ў Брунсбютэлькоог, маленькі гарадок, за якім пачынаецца мора.

Ледзь параход прышвартаваўся да прычала, як на каменнай пляцоўцы на беразе сталі збірацца людзі. І тут неўзабаве таксама павеяла цеплынёй прыязнасці, якую не маглі астудзіць нават чорныя постаці паліцэйскіх, што снавалі на беразе.

Мы не былі на германскай зямлі, але бачылі немцаў, можна сказаць, сустракаліся з імі. Мы глядзелі твар у твар. Я загаварыў з мараком, што стаяў паблізу з малым сынам. Размова пачалася пра сына — яго звацъ Петэр, вучыцца ў школе. Акрамя яго ў майго знаёмага яшчэ трое дзяцей: два сыны і дачка. Старэйшы сын таксама марак. Брунсбютэлькоог наогул горад маракоў. Знаёмы мой служыць на аварыйным судне. Жыць нялёгка з такою сям'ёю, але ён спадзяецца, што сыны падрастуць, будзе лепш...

Мы з ім не гаварылі пра мір, але я адчуў і без таго, што ён думае не пра вайну. Ён жыве ў клопаце пра сям'ю, пра сыноў. Я запомніў яго вочы, якія многа сказалі,— гэта вочы чалавека, што вельмі цікавіўся намі і якому савецкія людзі падабаліся. Мы абмяняліся сувенірамі. Ён, расчулены, выняў маленькі кашалёк, пакапаўся ў ім і нечакана падарыў дарагую манету. Я здзівіўся, чаму так многа, але ён зірнуў, і я зразумеў: так ён выказаў свой настрой, свае адносіны да нас...

Другія — спявалі песні, і гэта рабіла асабліва чулай нашу сустрэчу. Спявалі дружна, з уздымам — немцаў гэта ўражвала. Мяняліся, як звычайна, паштоўкамі.

Выказвалі свае сімпатыі часам вельмі арыгінальна. Двое маладых немцаў, расчырванелыя, вясёлыя, прынеслі некалькі пляшак піва і пад гул адабрэння ўручылі нашым таварышам. Неўзабаве яны атрымалі пляшку жыгулёўскага, якое бегам прынёс з буфета адзін з турыстаў.

Над усім гэтым — песні, песні, воклічы дружбы. З песняй і адышлі ад гарадка ў цёмнае мора, сагрэтыя надоўга нечаканым цяплом сустрэч гэтага дня...

Уранні, выглянуўшы з палуб, з люкаў на свет, мы ўбачылі паблізу і ўдалечы, у ранішнім тумане, мноства параходаў. Параходы англійскія, амерыканскія, шведскія, аргенцінскія, непадалёк прывідам віднеўся старажытны, добра дагледжаны паруснік, з тых, якія ўжо даўно аджылі век,— відаць, вучэбнае судна.

Ротэрдам — старажытная радзіма і прыстанак галандскіх мараплаўцаў.

Карціна, што адкрывалася перад намі, была прыгожая, каларытная. Яна да таго ж здалася нам вельмі характэрнаю для горада, які галоўным чынам жыве гаванню, портам. Дзякуючы пракапанаму восемдзесят год назад каналу «Ніве Ватэрвег», даўжынёю ў пятнаццаць кіламетраў, які ідзе з адкрытага мора ў гавань Ротэрдама, амаль у цэнтр горада могуць заплываць вялікія акіянскія грузавыя і пасажырскія судны. Пры рацэ размешчаны докі, доўгія рады зернясховішчаў, розных складаў.

Выйшаўшы з пустой плошчы ля Маас-гавані, у якой стаяў наш цеплаход, аўтобус неўзабаве ўбег у падземны тунель — паляцелі па баках жоўтыя занізі электрычных лямпачак. Гід, бялявая, з кудзеркамі маладая жанчына, не без гонару сказала, што тунель называецца Маастунелем і што ён пабудаваны пад ракою нядаўна, усяго дзесятак гадоў, што даўжыня яго больш за кіламетр.

Выбраўшыся з тунеля, прыглядаемся да горада. Як і для многіх еўрапейскіх гарадоў, для яго характэрна мешаніна старога, больш правільна — старажытнага і новага. Калі ля гавані многае ў строі будынкаў гаворыць пра ўчарнелую ад даўнасці, дыму, гары старыну, то тут горад выглядае інакшым. Роўненькія, на дзіва роўныя, акуратныя кварталы роўных стандартных двух- і трохпавярховых дамочкаў, добра відаць, выраслі не так даўно; гэта аблічча новага горада. Ва ўсіх дамах на дзіва аднолькавыя плоскія дахі, шырокія вокны, бадай усе дамы стаяць аднолькава без абліцоўкі — сцены цямнеюць шэрай цэглай. Перад дамамі — агародчыкі з кветкамі, што вельмі аздабляюць шэрую цаглянаю аднастайнасць горада. Кветкі глядзяць таксама з вокан. У агародчыках найбольш чырвоных руж,

хоць Галандыя на ўвесь свет славіцца сваімі цюльпанамі. Цюльпаны ўжо адцвілі.

Між іншым, нам расказалі, што кватэры ў Галандыі падзяляюцца інакш, чым у нас. Кватэры складаюцца па вертыкалі — два пакоі ўнізе, два ўгары. Унізе звычайна гасцінная, кухні, угары — спальні і г. д.

Па шырокіх асфальтаваных дарожках з абодвух бакоў, насустрач нам і з намі, рушылі веласіпедысты. Праехаўшы некалькі кіламетраў, мы адчулі сум па пешаходах — іх было так нікчэмна мала між гэтай арміі юнакоў, пажылых і старых, што кацілі на веласіпедах. На веласіпедах везлі скруткі, крэслы, ехалі самі, ехалі па адным, па двое, абняўшыся. Юнак і дзяўчына, якія каціліся абняўшыся, адчувалі сябе настолькі ўпэўнена, што мімаволі падумалася — яны, мусіць, і цалуюцца, не злазячы з веласіпеда.

Адзін ці два веласіпедысты не толькі ехалі самі на машынах, але і кудысьці вялі, нібы коней, яшчэ па веласіпеду. Наша правадніца з гонарам заявіла, што ў Галандыі веласіпедаў больш, чым жыхароў.

У старым Ротэрдаме мы бачылі нямала новых будынкаў, бачылі будынкі яшчэ не скончаныя, толькі пачатыя. Вось непадалёк ад дарогі вялікі будынак у рыштаваннях — будуецца новая бальніца — «Тэгзіхт». Вось падрыхтавана некалькі катлаванаў: будзе будавацца квартал жылых будынкаў.

Жылля ўсё ж не хапае. Частка галандцаў вымушана гібець да сённяшняга дня на вадзе, у пабудовах, падобных ні то на баржы, ні то на лодкі. У баржах-лодках ёсць газ, электрычнасць, падаецца вада, але гэты камфорт наўрад ці робіць іх вельмі прынаднымі для жыхароў.

Цяжка ўявіць, як туляцца тут людзі ў мокрыя дні, якіх так многа на іх зямлі, або ў маразы, да якіх такія падатныя рачныя дамавіны...

Пакінуўшы горад, аўтобус выехаў у панурыя прасцягі палёў. Над намі нізка ішлі дажджавыя хмары, і хоць дажджу не было, адчувалася, што ён можа ў любую хвіліну пацерусіць. Нас супакоілі, што гэта звычайнае галандскае надвор'е, што сонечных дзён тут вельмі мала.

Ёсць на свеце многа краін, якіх прырода абдзяліла, не дала дастаткова вады. У Галандыі вада, якая так

многа робіць для яе дабрабыту, лічыцца, бадай, і галоўнай бядою. Зусім нядаўна, у 1953 годзе, вада, што прарвалася на сушу, загубіла каля тысячы сямісот чалавек, знішчыла многа плёну сялянскай працы. Барацьба з вадою стала справай народа, надала краіне своеасаблівы каларыт. У гэтай барацьбе з вадою будуюцца шматкіламетровыя дамбы, капаюцца незлічоныя каналы. Калі глядзіш на іх, мімаволі ўспамінаеш галандскую прымаўку, жарт пра тое, што зямлю стварыў бог, а Галандыю — галандцы...

Каб не даць паўтарыцца страшнай паводцы, у Галандыі намецілі план закрыцця плацінамі марскіх праходаў паміж паўднёвымі астравамі. План гэты называецца «дэльта-планам», на яго спатрэбіцца больш за дваццаць пяць мільярдаў гульдэнаў.

Пейзаж Галандыі надзвычай падобны да нашага палескага. Такія ж нізіны, лугі, вербы, канавы, зацягнутыя зялёнай бросняй, з лягушыным кваканнем. Як неад'емную рысу гэтага пейзажу, тут усюды бачыш каналы і канавы, што пераразаюць палі ў розных кірунках. Каналы часта цякуць вышэй за палі, па баках іх ідуць штучна насыпаныя, зарослыя травою берагі.

На каналах трымаюць строгі водны рэжым. Каб яны не перапаўняліся, ваду адпампоўваюць спецыяльнымі машынамі, пераганяюць да стокаў. Па ўсёй краіне можна бачыць ветрарухавікі, што гоняць і выцягваюць ваду.

Многа вельмі ў вёсках парнікоў — відаць, яны неабходны, каб прыхоўваць гародніну ад залішне шчодрых дажджоў. Зямля звычайна як належыць дзякуе хлебаробам за старанную працу: ураджаі і гародніны, і збожжа ў Галандыі высокія, на палях, праз якія ішла наша дарога, пшаніца і жыта, што толькі пачыналі спець, раслі густыя і на дзіва дружныя. Асабліва славяцца ўрадлівасцю нядаўна асушаныя землі, якія, аднак, каштуюць праз меру дорага для простага чалавека.

За апошнія гады ў Галандыі асушаны Харлемскае возера і частка шырокага Эйсельмера.

Зямлі, аднак, не хапае. З-за недахвату яе сотні і тысячы галандцаў вымушаны пакідаць сваю краіну і шукаць заробку на далёкіх палях Канады, Аўстраліі і іншых краін. Таму тут вельмі востра ставіцца пытанне аб

павелічэнні пасяўной плошчы шляхам асушэння балот і азёр.

Каровы, што мірна пасвяцца на пашы, амаль усе чорна-белай галандскай пароды. Галандыя славіцца сваімі малочнымі прадуктамі — сырам, шакаладам, маслам, якія ў вялікай долі вывозяцца за граніцу. Трэба сказаць, што вывозяцца сыр і масла не таму, што ў іх ужо няма патрэбы ў краіне, а таму, што для сярэдняга працоўнага чалавека яны часта задарагія. Гэта можа здацца парадоксам, але ў краіне, якая славіцца сваім маслам, большасць людзей сярэдняга дастатку амаль не ядуць яго.

— Я забыла смак добрага масла,— уздыхнуўшы, шчыра прамовіла адна з жанчын, жыхарка гарадка пад Амстэрдамам.

Жанчына сказала, што ім прыходзіцца есці маргарын. Гэта горш, але затое па дастатку...

Гаага і Амстэрдам, якія мы наведалі ў той жа дзень, былі многім падобны на Ротэрдам, у іх утрымалася, можа, толькі больш старажытнасці. Сталіцы Галандыі Амстэрдаму, гораду з амаль мільёнаым насельніцтвам, надаюць асаблівае, непаўторнае хараство старажытныя каналы, што перасякаюць увесь горад. Усцяж каналаў растуць густыя старыя дрэвы, у засені якіх абапал ідуць каменныя і асфальтаваныя істужкі цесных тратуараў і вуліц, чародамі ціснуцца старыя дамы, вузкія, з высока ўзнятымі чарапічнымі дахамі. Большасць іх стаіць з семнаццатага, васемнаццатага стагоддзяў. Пры адным з галоўных каналаў нам паказалі дом, у якім жыў Пётр Першы, непадалёк ад яго на скрыжаванні вуліц — дом Рэмбранта з расчыненымі, пафарбаванымі ў чырвоную фарбу аканіцамі.

Над каналамі тут і там выгінаюцца дугамі каменныя масты, па якіх цераз каналы перабягаюць вуліцы.

У засені дрэваў дрэмле ў канале старажытная пасудзіна, амаль прагнілая, з зялёна-замшэлымі знізу бартамі,— на ёй зрэдку гуляюць дзеці. Але канал — не музей для горада. На цёмнай вадзе каля каменных берагоў, у цэнтры горада, часта можна бачыць баржу, на якой прывезлі прадукты ці тавары ў магазін. Баржы тут замяняюць грузавікі, і транспарт гэты ў немалой пашане.

На дамах абапал каналаў дасюль тырчаць бэлькі з кручкамі і блокамі. Калісьці на гэтых блоках падымалі купцы прывоз з барж, цяпер практычныя амстэрдамцы карыстаюцца імі, каб падняць на трэці ці чацвёрты паверх купленую шафу або ложак.

Каналы, праўда, робяць часам гараджанам непрыемнасці. Усцяж берагоў пад дрэвамі стаяць звычайна чароды машын і бадай штодня якая-небудзь з іх купаецца разам з шафёрам, што каля берага неасцярожна паводзіў сябе за рулём. Нярэдка здараецца і так, што купаецца падвыпілы муж, якога ногі не вядуць прама. Каналы тады хутка працвярэжаюць.

На кацеры, плывучы па амстэрдамскім канале, мы разгаварыліся, успомнілі Беларусь. Адна з жанчын, што суправаджала нас, запыталася недаверліва:

— Вы з Беларусі?

— Так. З Беларусі.

— Праўда? Адкуль?

— З Мінска.

— А васілевіцкіх...— раптам прамовіла яна,— няма?

З Васілевіч не было. Аказалася, яе вывезлі ў вайну з Васілевіч у Германію. Ёй тады было гадоў шаснаццаць. У Нямеччыне яна сустрэлася з галандцам, выйшла замуж і пераехала ў Галандыю. Цяпер у яе сям'я ў маленькім гарадку на поўдні...

— Як там у нас? Не ведаеце? Не былі?

Там, у Васілевічах, няма ў яе ні маці, ні бацькі, але душа не ўціхае, ірвецца туды...

Зноў пра такую самоту, сум па радзіме, мы пачулі праз якую-небудзь паўгадзіну ў амстэрдамскім рэстаране, дзе суседкай нашай аказалася другая такая ж, закінутая лёсам на чужыну, Наталля Палякова, родам з Таганрога. Гэтай было таксама гадоў пятнаццаць, калі яе прывезлі ў далёкую Нямеччыну. Жылося цяжка, сумавала вельмі па родных краях. Захварэла на туберкулёз. «Надзеі было мала... родных дома нікога не засталося...» Хворая выйшла замуж, паехала з мужам-галандцам да яго. Ці то марское паветра, ці маладосць вывелі з бяды — вылечылася.

— Ды хіба ж можна параўнаць гэтую Галандыю з нашым Таганрогам? Са стэпам! — з паўднёвай экспансіўнасцю гаварыла яна.

Збіраецца паехаць на радзіму — пакуль у адпачынак, а там, можа, і назусім. Хоць гэта і цяжка.

— А што ж вам перашкаджае?

— Дзеці ў мяне. Трое дзяцей. Не аддадуць іх, калі мы разыдземся. Дзеці!..

Увечары абедзве былі каля прычала сярод групкі галандцаў і рускіх. Яны глядзелі на нас з хваляваннем і роздумам. Калі на цеплаходзе заспявалі:

А парень с милой девушкой
На лавочке прощается...—

ледзь не ўся група — усе жанчыны — раптам горка зарыдалі. Так пад іх рыданні мы і скончылі песню...

Стары, цяністы Амстэрдам жыве кіпучым жыццём. Рух на вузкіх амстэрдамскіх вуліцах напружаны, машынам цесна на іх. У гавані высяцца мачты караблёў са сцягамі і назвамі многіх краін свету, спаткаліся там мы і са сваім суайчыннікам, грузавым параходам «Калуга». Радасна было бачыць нам чырвоны сцяг над параходам — як роднага, віталі мы яго!

У Амстэрдаме ёсць цікавы, багаты нацыянальны музей. У тыя дні, калі мы прыехалі, была адкрыта выстаўка карцін Рэмбранта. І ў музеі, і на выстаўцы тоўпілася нямала людзей, найбольш моладзі.

У параўнанні з Амстэрдамам Гаага здалася ціхай. Больш за ўсё мы тут аддалі часу Палацу міру, у якім праводзіць цяпер свае пасяджэнні міжнародны суд. З горада аўтобус павёз нас к прыбярэжнаму гарадку Схевенінгену. Мы ўбачылі паблізу няроўную, узгоркаватую граду паўзарослых учэпістай травой дзюн, узбярэжную дамбу, па якой бегла асфальтаваная дарога, шэрае, панурае мора.

Уздоўж набярэжнай Схевенінгена стаяць фешэнебельныя атэлі, рэстараны, магазіны. Тут у іншыя дні, мяркуючы па здымках, збіраецца безліч галандцаў і замежных турыстаў. У той жа дзень на беразе, да якога павольна падпаўзалі шэрыя халодныя хвалі, было пуста. Дзьмуў пранізлівы марскі вецер. На тэрасе рэстарана з нудным выглядам сядзелі пажылы мужчына і маладая пешчаная жанчына, што курыла папяросу.

Выгляд гэтага панурага мора, што гнала і гнала хвалі к берагу, грады пустынных дзюн, над якімі свістаў

вільготны вецер, былі апошнім уражаннем нашай паездкі па краіне, у якой з морам звязана так многа славы і няшчасця.

## 5

Ідзём Ла-Маншам. Відны берагі Англіі. Да іх усяго некалькі кіламетраў...

...Ні адна краіна, мусіць, не цікавіла так, як Францыя, ні аднаго горада мы не чакалі, як Парыжа. Парыж, Францыя здаваліся нам, можа быць, асноўным пунктам нашай паездкі, яе найбольш яркім часам.

Да Гаўра прыйшлі пасля поўдня. Стоячы на палубах, здалёк углядаліся мы ў маляўнічы бераг, бераг французскай зямлі, што марудна набліжаўся разам са сваімі дробнымі і вялікімі, светлымі, простай сучаснай формы будынкамі на набярэжнай, маяком на канцы доўгага мола, партовымі пабудовамі.

На канцы мола, над якім узвышаліся маяк-мачта, насустрач нам глядзела групка людзей; было відаць, што гэта больш юнакі і дзяўчаты. Яны ўзіраліся ў наш цеплаход, махалі нам. Калі наблізіліся да мола, стала добра бачна злева доўгая пясчаная кайма берага, усеяная рыскамі чалавечых цел.

На прычале, пад магутным партовым кранам, нас сустрэў натоўп — дарослыя і дзеці, што прыйшлі са сваімі піянерскімі сцягамі, з важатымі. Стаялі ў натоўпе жанчыны, адзін ці два ваенныя маракі, некалькі паліцэйскіх у форме, як нам сказалі, пагранічнай аховы.

Тут не было той спачатку насцярожлівай цішыні, калі і на моле і на цеплаходзе прыглядваюцца, нібы чакаюць: на прычале гаўрскага порта, здавалася, сустрэліся сябры, што даўно і добра ведаюць і любяць адзін аднаго. Дружба, шчырая прыхільнасць злілі нас разам з першых хвілін, яшчэ да таго, як цеплаход надзейна прышвартаваўся.

Адразу загучалі песні. Мы спявалі па-руску, французы — па-французску. Адны мелодыі, адны словы з адным пачуццём, з аднолькава напоўненымі сэрцамі. Нам асабліва радасна было чуць і бачыць перад сабой дзяцей — будучыню, заўтрашні дзень французскай на-

цыі. Мы ўзіраліся ў іх твары з любоўю, мы слухалі іх і спявалі з імі ■ асаблівым задавальненнем.

Яшчэ мы на палубах, а яны на партовым бруку, яшчэ між нас цёмная істужка вады, што хлюпае ўнізе,— рыса граніцы, але мы ўжо нібы на зямлі, на беразе. Ідзе абмен сувенірамі, ляцяць запіскі з берага і на бераг. Ужо ёсць свае знаёмыя, свае сябры, мы ўжо ведаем, хто яны, іх лёс. Расчулены смуглявы, з інтэлігентным тварам матрос парывіста здымае істужку з бесказыркі і аддае нашаму таварышу — вышэйшы знак матроскай дружбы! Усміхаючыся, рашуча засоўвае бесказырку ў кішэню...

Гэты знак дружбы адзначаюць бурнымі крыкамі, воплескамі...

Неўзабаве многіх з іх мы ўбачылі на цеплаходзе. Дзеці з цікавасцю ступалі па дыванах музычнага салона, бібліятэкі, азіраліся, акружаныя турыстамі. Разам з першымі гасцямі прыйшла да нас прыгожая чарнявая француженка, жонка аднаго з супрацоўнікаў мэрыі,— яна вяла маленькую сінявокую дзяўчынку, дачку, якую ўсе сустракалі з асаблівай ветлівасцю.

На пероне вакзала, дзе нас чакаў спецыяльны поезд, акрамя нас нікога не было. Не прайшло і дзесяці хвілін, як поезд ужо выходзіў з-пад цемнаватых навесаў, адразу набіраючы хуткасць.

Цягнік мігам адвёў назад гасцінны Гаўр. За вокнамі закружыліся, замільгалі, паляцелі ўзгоркі, прысады, будынкі з чарапічнымі дахамі, палі.

Цягнік ішоў са стокіламетровай хуткасцю.

Пачынала цямнець. Руан праязджалі ўжо ўпоцемках— на фоне жоўта-барвовага вячэрняга неба ажурна акрэслівалася вежа сабора, віднеліся, нібы вышкі, нейкія краны. Час ад часу цягнік улятаў у тунель, і тады грукат колаў мацнеў, пераходзіў у гром, і на вушы, як у самалёце, пачынала гнясці сціснутае паветра.

З лязгатам і грукатам цягнік і ўляцеў у агні Парыжа, што расквечвалі моцную начную цемру. Было ўжо каля дванаццаці гадзін. З пільнай цікаўнасцю і хваляваннем сышлі мы на перон вакзала Сен-Лазар, што адкрываў нам дарогу ў горад, у Парыж.

Як на пероне, так і на першых вуліцах народу было небагата, але горад усё ж не здаваўся пусты або сумны. Гэтае ўражанне было, мусіць, ад вітрын, што яркім

розпакаляровым сваім бляскам ажыўлялі вулічную пустату. Хутка і людзей, і машын стала больш, вітрыны зазіхацелі ярчэй і святочней. Мы пад'ехалі к будынку Гранд-опера, опернага тэатра. Наша спадарожніца-гід паказала на вірлівую, у яркіх агнях шырокую вуліцу.

— Вуліца Міру. Rue de la Paix. Самая шыкоўная вуліца Парыжа...

Мы павярнулі, не даязджаючы да самай шыкоўнай вуліцы, па Лацінскаму бульвару на Манмартр. Тут, на Манмартры, у ціхім завулачку Сітэ Бержэр мы ўвайшлі ў свой парыжскі дом, атэль «Мандз'яль». Атэль з вельмі гучнай назвай «Мандз'яль», што азначае — сусветны, аказаўся зусім звычайнай гасцінічкай, са старымі вузенькімі калідорчыкамі, старымі пакойчыкамі, агромністымі старымі ложкамі, на якіх аднолькава можна ляжаць удоўж і ўпоперак, і патрыярхальнай цішынёй.

Вачам нашым перш за ўсё адкрыўся начны Парыж. Хутка ўладзіўшы фармальнасці з гасцініцай, павячэраўшы апоўначы, мы ў пачатку ці ў сярэдзіне першай гадзіны ночы накіраваліся ў незнаёмы і знаёмы маўклівы горад. Пайшлі адны, без праваднікоў,— спачатку на Манмартр, потым на Лацінскі бульвар, зноў убачылі цёмную Оперу.

На бульварах, ярка асветленых, у бляску вітрын, было пуста. Траплялiся толькі рэдкія прахожыя. Кафэ былі ўжо зачынены, столікі знесены з тратуараў. Ля пад'ездаў дамоў дзе-нідзе дзяжурылі адзінокія жаночыя постаці, што з надзеяй, з нудою, з нецярплівасцю паглядвалі на спусцелыя вуліцы.

Мы, уражаныя гэтай «экзотыкай», мімаволі змаўкалі, паскаралі крок...

Па бульварах Капуцынаў, Мадлен, авеню Райяль выйшлі на славутую Плошчу Згоды — Пляц дэ ля Канкорд. Плошча Згоды, сціпла асветленая, акружаная васьмю цьмянымі статуямі — вобразамі галоўных французскіх гарадоў, з егіпецкім абеліскам пасярэдзіне, была ў гэты час яшчэ цішэйшая, чым бульвары. Яна б здавалася зусім пустыннай, каб не рэдкія машыны, што з шалёнай хуткасцю праносіліся ў розных кірунках — на мост Канкорд, на вуліцу Рывалі, на набярэжную Цюільры, на прастор Елісейскіх Палёў...

Нават у гэты начны час яна ўражвала хараством і велічнасцю. Мімаволі ўспаміналіся радкі Маякоўскага, які, убачыўшы плошчу, напісаў:

Если б был я
Вандомская колонна,
Я б женился
На Place de la Concorde.

Калі мы стаялі на маўклівай плошчы, перад намі з асаблівай яскравасцю ажыла яе багатая рэвалюцыйнымі падзеямі гісторыя. На ёй, на гэтай плошчы, якая была тады лобным месцам, паўтара стагоддзя назад перад натоўпамі парыжан, што святкавалі перамогу, гільяцінавалі Людовіка XVI, звергнутага караля. На гэтай плошчы, што ўжо называлася Плошчай Рэвалюцыі, пакаралі здрадлівую Шарлоту Кардэ, забойцу Марата. Тут пралілі кроў Рабесп'ер, Дантон, Дэмулен.

Плошча бачыла перамогу народа ў дні Парыжскай камуны, бачыла яе апошнія дні, калі на ёй, абгароджанай барыкадамі, выбухалі снарады версальцаў. Дваццаць год назад тут адбываліся сутычкі парыжскіх рабочых з фашыстамі, што наважваліся захапіць уладу. У дні вызвалення Парыжа ад гітлераўцаў на старажытных камянях плошчы зноў загрымела бітва, тут вялі баі з акупантамі рэвалюцыйныя парыжане, студэнты, рабочыя, салдаты...

Плошча Згоды адным краем падыходзіць да Сены. Пастаяўшы моўчкі перад плошчай, мы прайшлі ўсцяж цёмнай Сены ў ценю чорных дрэваў, паўз сад Цюільры з зачыненымі кратамі варот, да Луўра. Вярнуліся назад стомленыя, ціхія, перад самым світаннем з тым, каб праз некалькі гадзін зноў падарожнічаць па горадзе, глядзець, знаёміцца. Няхай не здаюцца дзіўнымі гэтыя нашы нецярплівасць і прагнасць. Мы так многа хацелі ведаць пра гэты вялікі, багаты гісторыяй і хараством горад і так мала часу мелі на гэта!

Раніцай мы ўбачылі яго пры дзённым святле, шумлівым, поўным неўтаймавальнага руху, разнастайнага жыцця, што кіпела на цяністых, яркіх бульварах і ў сціплых, вузкіх вулічках.

Столікі ў кафэ стаялі акуратнымі радамі, за імі снедалі, размаўлялі, былі адчынены дзверы магазінаў, банкаў, кантор. Пешаходы снавалі ў розных кірун-

- 43 -

замуж.

ГАЛЯ. Замуж? Ты-ж замужам.

АЛА. Я біру развод.

ГАЛЯ. А...

АЛА. Не здагадалася/Чаквае/ – за каго?

ГАЛЯ. Не.

АЛА. /да Ігара/. Вось за каго!

ГАЛЯ. За Ігара?! Ну, што-ж... Віншую... Да пабачэння.

/Галя/ Выходзіць.

ІГАР. Нашто ты гэта?

АЛА. Табе трэба, Гарык, адпачыць... Дык як, каць, – паедзем?

/Ён абыякаваківае галавой/

З а с л о н а

ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Карціна пятая

Двор завода. Справа вялікі заводскі корпус – чырвоны, з шырокімі вокнамі. Адтуль час-ад-часу чуваць гул станкоў, ляскат металу. На двары некалькі дрэваў, газоны, столік, лавачкі. Столік недалёка ад сцяны. Тут цень, – добрае месца адпачыць хвіліну. Блізка ад століка дзверы – праз іх уваходзяць у цэх.

АНДРЭЙ. Чорт пабяры, што-ж з валікамі такое? Чаму яны ...

...

ГАЛЯ. Я таксама думаю, чаму яны не цягнуць ліст.

АНДРЭЙ. Хоць ты яго гэты ліст рукамі цягні! У аўтамацічны!

ГАЛЯ. Пацягнеш. На такі стальны лісток дзесятак малоў трэба.

АНДРЭЙ. А тут нібы знарок, у галаве туман ...

І да ўсяго – гэты Вазоўскі стаіць над душой.

ГАЛЯ. Чаго ты увесь час моршчышся?..

Машынапісная старонка тэксту п'есы «Пакуль маладыя» з аўтарскімі праўкамі

ках — павольныя і хуткія, заклапочаныя і бесклапотныя, панурыя і вясёлыя.

Мы заўважылі, што вокны многіх кватэр былі і ўдзень цёмныя, закрытыя жалюзі — гэта, сказалі нам, вокны парыжан, што пакінулі горад, выехалі на адпачынак. У жніўні такіх кватэр стане яшчэ больш, і жыццё ў Парыжы прыціхне. У той жа дзень, калі мы ехалі па горадзе, ён жыў шумліва, неспакойна.

У патоку машын цяжка было прабівацца наперад, часта даводзілася рабіць прыпынкі.

— Гэта адна з лепшых парыжскіх забаў,— пажартаваў наш шафёр, безнадзейна і спакойна пазіраючы на цеснату машын, што закрылі дарогу.

Жывое жыццё надавала асобае хараство і значэнне помнікам Парыжа, яго гістарычным скарбам. У шматлікіх помніках французскай сталіцы адбіта складаная гісторыя, гісторыя ўздымаў, перамог і паражэнняў.

Не мёртвай зданню, а жывой сведкай паўстала перад намі ў канцы Елісейскіх Палёў Трыумфальная арка. Арка стаіць на Плошчы Зоркі — Пляц дэ ль'Этуаль,— ад якой разыходзяцца праменнямі ва ўсе бакі дванаццаць вуліц.

На сценах Трыумфальнай аркі выбіты назвы гарадоў і мясцін, слава напалеонаўскіх перамог. Ёсць тут назвы і рускіх, і беларускіх гарадоў — Магілёў, Полацк, Краснае, ёсць і імя Масквы, якому належала б быць першым на іншым помніку, якога няма ў Парыжы, помніку гібелі напалеонаўскіх войск.

У Парыжы многа памятных мясцін, што нагадваюць пра Напалеона. Ёсць масты, названыя ў гонар яго перамог, вуліцы і бульвары — у гонар яго маршалаў, ёсць карціны, статуі, ёсць велічны Дом інвалідаў, дзе ляжыць прывезены са Святой Елены прах палкаводца.

Пад Трыумфальнай аркай на Плошчы Зоркі ўмуравана магіла Невядомага салдата, над мармуровымі плітамі якой ні ўдзень ні ўночы не гасне жывы, неспакойны агонь. Гэты помнік мільёнам французаў, што загінулі на блізкіх і далёкіх палях баёў, цяпер успрымаецца як смутак ад вайны, ад смерці, як песня спакою, міру...

На поўдзень ад Плошчы Зоркі ў канцы авеню Клебера месціцца Плошча Тракадэро. З боку плошчы ста-

іць вядомы Палац Шайо, з якім звязана нямала з сучаснай гісторыі не толькі Францыі, але і многіх іншых краін свету. Тут яшчэ зусім нядаўна адбываліся нарады міністраў замежных спраў...

Перад Палацам Шайо, за мостам Сены, узвышаецца агромністае плеціва Эйфелевай вежы, якая даўно стала адной з важнейшых «рыс» вобліку Парыжа.

Парыж — горад вялікіх мастацкіх скарбаў. Нас вельмі ўсхваляваў Луўр — музей, славутая карцінная галерэя, цудоўны помнік сусветнаму мастацтву. Гэта было вельмі рэдкае па багаццю геніяльных тварэнняў, па яркасці вобразаў, фарб відовішча. Цудоўныя Венера Мілоская і Ніка-Перамога Самафракійская, шэдэўры Тыцыяна, Веласкеса, Дэлакруа, Рубенса, Гойя, Джарджоне, Леанарда да Вінчы, сабраныя тут так шчодра, глыбока ўражваюць, напаўняюць сэрцы гордасцю і захапленнем магутнасцю чалавечага таленту.

Пакінуўшы Луўрскі палац, мы яшчэ вельмі доўгі час жылі ім, яго незабыўным, вялікім светам...

Ёсць на парыжскай вуліцы Ваграм навінка, якую французы лічаць за абавязак паказаць кожнаму прыезджаму. Гэта шырокаэкраннае кіно «Сінерама».

Вялікая зала кінатэатра задрапіравана цёмна-чырвонай тканінай, застаўлена мяккімі чырвонымі крэсламі; шырокі дваццацідвухметровы экран «Сінерамы» паўдугой абгінае пярэднюю сцяну. Калі пагасла святло ў зале, некаторы час паказвалі вельмі звычайныя рэчы: кадры са старых фільмаў, на якіх людзі выглядалі смешнымі мітуслівымі чалавечкамі. Тлумач, што гаварыў з экрана з залай, расказваў гісторыю кіно, яго мінулае. Незвычайнае пачалося тады, калі чалавек сказаў: «А вось што такое «Сінерама». Тады раптам успыхнуў экран жывымі фарбамі прыроды, і з яго са свістам і грукатам панёсся ўніз па дарозе амерыканскай горкі вагон, і разам з вагонам панесліся ўніз і гледачы, уся зала. Ілюзія руху была настолькі вялікая, што ад хуткасці зацінала дыханне. Калі вагон з віскам рабіў паварот, мімаволі хацелася ўхапіцца за крэсла, каб утрымацца. Зноў узлёт угару — праносяцца ўніз фермы, рэйкі дарог, круты паварот і зноў — шалёнае падзенне ўніз, уся зала ляціць уніз. Некаторыя з жанчын закрываюць вочы, робіцца нядобра...

Папрабаваўшы моц нашых нерваў, «Сінерама» мя-

няе план. Цішыня. Яркія фарбы, дзіўна, крыху какетліва гучаць трубы аркестра шатландскіх стралкоў. Стралкі цырымонна, у старамодных фарсістых касцюмах пярэстымі радамі маршыруюць перад гледачамі... Потым на экране з'яўляецца Мілан, асветлены агнямі будынак тэатра. Сцэна з оперы — павольная, поўная велічнай гармоніі мелодыя гучыць у зале. Гукі ідуць адусюль: збоку, ззаду, абкружваюць гледачоў, бяруць пад сваю ўладу. Сімфонія гукаў надзвычай багатая рознымі адценнямі. Мяняецца кадр, і гледачоў вабяць, захапляюць прастор, незвычайная шырыня — яны ўздымаюцца на верталёце над Парыжам, бачаць з вышыні ўжо дзе-нідзе знаёмыя краявіды вялікага горада. Вачам адкрываюцца хвалюючая далеч, агромністая шырыня, глыбокая, неабсяжная...

Праграма, якую мы бачылі, мела, можна сказаць, рэкламны характар: яна паказвала, якія вялікія магчымасці мае кіно тыпу «Сінерамы», якія ў яго перавагі перад звычайным кіно.

Даказвае яна гэта з поспехам. Шырокаэкраннае кіно тыпу «Сінерамы», бясспрэчна, мае добрую будучыню.

Вобліку Парыжа нельга ўявіць без Пантэона, без Люксембургскага палаца і Люксембургскага саду, дзе вясной студэнты рыхтуюцца да экзаменаў, без старажытнай, з цёмнымі сценамі Сарбоны, дзе жыла і жыве слава французскай навукі, без панурых і велічных веж сабора Парыжскай божай маткі, без усяго Сітэ, што, нібы карабель, разразае ціхую ваду Сены ў самым цэнтры Парыжа.

Як неад'емныя рысы — у вобліку сталіцы ўжываюцца шум, багатая магазінная раскоша вуліцы Рывалі і цішыня, цяністая прахалода славутых крамак букіністаў на набярэжнай Сены.

Многае можа расказаць аб некаторых важных з'явах парыжскага жыцця цэнтральны рынак горада, «чрэва Парыжа», апісаны ў свой час Заля. Рынак корміць горад. Усю ноч пад'язджаюць і пад'язджаюць у гэты своеасаблівы камбінат, горад у горадзе, аўтамабілі і павозкі; усю ноч тут прадаюць, купляюць і перапрадаюць; пахне цыбуляй, персікамі, памідорамі, зямлёй. Жыццё тут не ўціхае ў самы позні час. Стомленыя рабочыя валяцца і спяць як і дзе прыйдзецца.

Парыж нельга ні ўявіць, ні правільна зразумець без Пер-Лашэз са сцяной камунараў, без вуліцы гераічнай парыжанкі Даніэль Казановы, што загінула за Францыю ў апошняй вайне, без плошчы Сталінграда, без залы Мюцюалітэ, дзе часта чуцен жывы, магутны голас працоўнага Парыжа, без яго слаўных рабочых раёнаў.

Але ў Парыжы жылі і жывуць не толькі патомкі камунараў. Жывуць у ім і тыя, хто прывёў Францыю ў мінулай вайне на мяжу катастрофы, жывуць тыя, хто пачынаў і падтрымліваў вайну ў В'етнаме, хто кідаў паліцыю на рабочыя дэманстрацыі. Жывуць банкіры, капіталісты, каланізатары, палітыкі Атлантычнага пакта.

Яны выдаюць мноства газет, часопісаў, у іх руках друкарні і радыёстанцыі. Ім дапамагаюць парадамі і грашыма саюзнікі з-за акіяна, якія ў французскай сталіцы паводзяць сябе як дома.

Няма патрэбы маляваць агульныя асаблівасці жыцця ў Парыжы, якія ў асноўным усім вядомы, хочацца толькі сказаць некалькі слоў пра тых, хто называецца рускімі эмігрантамі. Яны таксама маюць свае арганізацыі, свае газеты, свае ідэалы.

Трэба зазначыць, частка эмігрантаў зрабіла вывады з урокаў гісторыі, зразумела свае памылкі, жыве добрымі патрыятычнымі настроямі. Аднак многа сярод іх і да сённяшняга дня людзей, якіх доўгія гады жыцця нічаму не навучылі, якія па-ранейшаму не трацяць надзеі вярнуць тое, што назаўсёды сышло ў нябыт. У тыя дні, калі мы былі ў Парыжы, яны рыхтавалі паніхіду па ўсопшым апошнім манарху расійскім і, як звычайна, паклёпнічалі на нашы парадкі. Некаторыя з іх спрабавалі на вакзале Сен-Лазар падкідваць нам правакацыйныя лісткі.

У іх ёсць свае клубы і свае газеты, якія прадаюць у кіёсках на Манмартры і на Елісейскіх Палях, яны звязаны з такімі ж манархістамі і белагвардзейцамі ў Канадзе і Нью-Йорку, але яны і самі ў душы адчуваюць, што іх рады нікчэмныя. Мы гэта ўбачылі, гаворачы з былым белагвардзейскім афіцэрам, харкаўскім ураджэнцам, які прыслужваў у «нашым» рэстаране...

Каля Дома інвалідаў выпадкова пазнаёміліся мы з шафёрам і ўладальнікам таксі нейкім Саўранскім з-пад Белай Царквы. Ён стаяў перад сваёй дапатопнай, падоб-

най на катафалк, аўтакарэтай і скардзіўся на беднасць, на непамерна вялікія падаткі...

— Палавіна заробку — на падаткі,— уздыхнуў ён.

Мы былі ў Парыжы напярэдадні 14 ліпеня, Дня Бастыліі, які сталіца звычайна сустракае як вялікае нацыянальнае свята. На высокай калоне, узведзенай на Плошчы Бастыліі, вывешвалі ў гонар свята трохкаляровыя сіне-бела-чырвоныя французскія сцягі. На Елісейскіх Палях каля Плац дэ ля Канкорд будавалі трыбуну — меўся быць ваенны парад. Рыхтаваліся і ў Версалі, куды мы прыехалі наведаць Версальскі палац.

Рыхтаваліся па-рознаму. Левыя партыі вырашылі правесці гэты дзень пад знакам барацьбы за мір у Алжыры, за спыненне кровапраліцця, правыя намагаліся выкарыстаць свята для прапаганды вайсковых спраў. Гэтай мэце і павінен быў служыць ваенны парад на Елісейскіх Палях.

Падрыхтоўка да свята праходзіла прыкметна стрымана. Парыж не збіраўся на дэманстрацыю: дэманстрацыі ў гэты дзень былі ўжо некалькі год забаронены, і забарону не адменьвалі.

Нельга зразумець «душы» Парыжа, правільна ўявіць яе, не адчуўшы дружалюбнасці працоўных людзей сталіцы, іх сімпатый да нас.

Калі здарылася затрымка руху на вуліцы, я, стоячы ля краю тратуара якраз перад Операй, зрабіў здымак. Шафёр грузавіка, чарнявы пажылы француз, кінуўшы бесклапотны позірк наперад, пацікавіўся:

— Vacance? (Адпачынак?)

Я адказаў:

— Турыст.

Ён запытаўся, адкуль. Варта было назваць краіну — Савецкі Саюз, як твар шафёра заззяў:

— O! Camarade!

Ён парывіста працягнуў руку і горача пацісну́ў маю моцным поціскам.

Калі машыны крануліся, ён, трымаючыся адной рукой за руль, другую падняў па-ротфронтаўску.

«Душу» рабочага Парыжа мы асабліва добра адчулі на заводзе Рэно.

Мы ішлі па заводскім двары, і інжынер-механік Жорж Гуамбо гаварыў пра гісторыю завода, буйнейшага аўтамабільнага прадпрыемства Францыі, пра пяць

марак легкавых аўтамабіляў, якія выпускаюць на Рэно. На заводзе працуе 36 тысяч рабочых, якія робяць кожныя суткі 1 208 машын.

Гуамбо аддае заводу ўжо дваццаць сёмы год свайго жыцця, але ён выглядае яшчэ даволі маладжава, з прыветлівым, можна сказаць, славянскага складу тварам, з бялявымі мяккімі валасамі. Ён не прыроджаны парыжанін — нармандзец, але ў Парыжы з юнацтва, і горад даўно ўжо для яго родны дом. Прыйшоўшы на завод простым рабочым, Гуамбо з нармандскай настойлівасцю адолеў цяжкую дарогу ўгару, скончыў вячэрняе аддзяленне вышэйшай школы, стаў інжынерам...

Жорж Гуамбо паказаў нам магутны, сілай у 1 150 тон, прэс, з якога кожныя трыццаць секунд здымалі толькі што адціснуты кузаў аўтамабіля. У грукаце цэха не было чуваць слоў французаў-рабочых, але мы ўсё разумелі па добрых шчырых усмешках, усмешках сяброў, прывітальных кіўках, рухах рук. Каля канвеера, што няспынна трымаў пры сабе, нас упраўляліся пачаставаць папяроскай, сказаць добрае слова, пастукаць па-прыяцельску па плячы.

— Совіет. Аміцье!.. Таварыш!..

Мы абменьваліся сувенірамі, цiснулі адзін аднаму рукі, гаварылі кароткія, таварыскія словы. Мы адчувалі сябе ў сям'і сяброў, адчувалі свабодна, лёгка, радасна. Як часам цяжка зразумець настрой іншага чалавека, схаваны ў глыбіні яго душы, і як, бывае, раскрываецца ён і без слоў — у адным позірку, у адной усмешцы!

Калі мы ішлі па заводскім двары, нас віталі рабочыя і шафёры, што ехалі на аўтакарах, віталі прахожыя, віталі здалёк, з вокан... Гэта была адна з самых лепшых гадзін у Францыі, адна з тых гадзін, цеплыня якіх надоўга ўвайшла ў нашы сэрцы.

Доўга будзе жыць, хвалярваць і памяць аб апошнім вечары ў Францыі. Над гаўрскім прычалам, дзе стаяла наша «Пабеда», ішоў няспынны, назойлівы, як у Мінску ў лістападзе, дождж. Ад цьмянага бляску святла сумна паблісквалі лужыны. Людзей было небагата, тыя, хто заходзіў на прычал, хуталіся ў каўняры, хаваліся пад парасоны і неўзабаве сыходзілі. Але пайшлі не ўсе. Там і тут было відаць некалькі купак па тры-чатыры постаці. У адной з іх чалавек у паліто з паднятым каў-

няром спяваў арыі з опер, «Полюшка-поле». Гэта быў гаўрскі рабочы.

Непадалёку стаяў цёмнай купкай гурток юнакоў і дзяўчат. Помню, як яны, худзенькія, яшчэ па-юнацку кволыя з выгляду, смеючыся, туліліся адзін да аднаго, каб сагрэцца. Іх прасілі пайсці, не мокнуць на дажджы, а яны не слухаліся. Яны нібы спрачаліся з непагодай.

Час ад часу нястройна, нямоцнымі, ужо ў некаторых асіплымі галасамі яны спявалі французскія, савецкія песні. І туліліся, смяяліся наперакор непагодзе, наперакор усяму! Між іншых песень разы два ці тры яны паўтарылі адну, сваю, песню докераў, сынамі і дочкамі якіх, мусіць, яны былі, песню, у якой ёсць такія цудоўныя словы:

Ніколі, ніколі людзі Францыі
Не будуць ваяваць супраць краіны Саветаў!

Мы пачулі гэтую песню апошні раз, ужо адышоўшы ад прычала. У мокрай, непагоднай цемры над затокай яна ішла да нас як развітальнае пажаданне, як клятва!

6

Мы ў Атлантычным акіяне. Цеплаход даволі моцна водзіць з боку на бок. На палубах нешта падобнае на шпіталь, у некаторых амаль нежывы выгляд.

Вакол густы туман, параход увесь час трубіць.

...Абышлі берагі Іспаніі, Партугаліі, зноў Іспаніі. Мінаем Гібралтар. Справа добра відаць бераг Афрыкі, злева — зусім недалёка Тарыфа з белымі дамочкамі ў катлавіне. За ёй рудыя адхоны гор.

Цеплаход гайдае. Далеч затулена туманам.

...Ідзём паўз Сардынію. Яна вельмі блізка: горы, лясы, рэдкія будынкі.

7

Неапаль убачылі спачатку з мора, у перадвячэрняй цішыні. Зыб на моры была ціхая, неба высокае, чыстае і таксама нібы ціхае, і ціхім здаваўся недалёкі, разлеглы горад на беразе і на горным схіле. Справа выгіналася нерухомая груда гары, пра якую пыталіся: гэта, мусіць, Везувій?

Гэта быў Везувій, таксама ціхі, спакойны. Мы пазіралі то на яго, то на кацер, што гайдаўся ўнізе, каля трапа цеплахода, на які ўзыходзілі чарадой таможныя і паліцэйскія чыны. Больш за суткі перад Неапалем мы не ішлі, а цягнуліся, бо ўлада порта не дазваляла прыбыць раней...

Гадзіны праз дзве, калі скончыліся справы з чынамі, што ўзышлі на наш цеплаход, мы змаглі ўбачыць горад бліжэй. У парту стаяла некалькі суднаў, два вялікія акіянскія параходы, між якіх — побач з амерыканскім, нам далі месца для прычалу. Зусім непадалёк быў даволі доўгі ваенны карабель з англійскім сцягам, з гарматамі ў чахлах, з паўголымі, у трусах, матросамі, што ўсюды стаялі на палубе, разглядваючы нас.

Калі мы сышлі на зямлю Неапаля, запальваліся агні. Вуліцы горада ўбачылі ўжо ў электрычным святле. Мінуўшы цэнтр, мы ўехалі ў вузкія, крывыя вуліцы, слаба асветленыя, з цёмнымі сценамі дамоў. У дамах свяціліся адчыненыя вокны і дзверы, праз якія адкрывалася нашым вачам «тайнае тайных» неапалітанскіх кватэр. Гэта былі пакоі небагатыя, без дываноў, без дарагіх карцін, без мяккай мэблі — ім не было чым уразіць іншаземцаў, але яны і не саромеліся галечы сваёй. Каля дзвярэй на прыступках віднеліся чорныя постаці ціхіх, мусіць, натомленых людзей. Угары каля іх, як сцягі, там і тут, віселі сарочкі і споднікі, і гэта — разам з адчыненымі дзвярамі — стварала вузкім вулачкам асаблівы каларыт.

Іншым — каменнем, звілістай цеснатою, гарыстым уздымам, цёплым, поўным пахаў паветрам — вуліца вельмі нагадвала нашы паўднёвыя вулічкі. Вулічкі Неапаля здаваліся амаль знаёмымі — нібы дзе-небудзь у Грузіі ці ў Крыму...

Потым мы сталі на гары, каля старой крапаснай сцяны, глянулі ў бок горада і застылі, маўклівыя ад захаплення. Унізе, збягаючы па схіле і на раўніне, гарэла, пералівалася залатым, незлічоным россыпам цудоўнае, казачнае хараство агнёў. Купкамі, занізямі, радкамі ззялі, пераліваліся, зырчалі — агні, агні, агні, здавалася, без канца і краю. Мімаволі ўзнікала мелодыя:

О мой Неапаль, ты край цудоўны!

Уражанне хараства было настолькі моцнае, што мы ў той момант ужо амаль не верылі таму, што нядаўна бачылі сваімі вачыма праз адчыненыя дзверы на вузенькіх вулічках.

«Пабачыць Неапаль — і памерці»,— сказаў хтосьці, убачыўшы горад у такую хвіліну...

Мы глядзелі на яго, стаялі, зачараваныя ім, не маючы, аднак, ніякага настрою паміраць. Мы хацелі, наадварот, жыць, бачыць яшчэ небачанае, тое, для чаго прыехалі сюды: Італію, якая толькі-толькі пачынала адкрываць нам свае таямніцы.

Як і пра Францыю, мы пра Італію многа чыталі, многа ведалі. І ўсё ж чытанне, бачанае нечымі іншымі вачыма, ніколі не можа па яркасці, па жывой маляўнічасці параўнацца з тым, што адкрываюць свае вочы. Мы нібы адкрывалі краіну нанава...

Італія яшчэ не раз зачароўвала нас сваімі цудамі — морам, небам, зямлёю.

Мы любаваліся ёю ясным, празрыстым раннем, стоячы ля вокан цягніка, што імчаў нас на наступны дзень з Неапаля ў Рым. Зноў памяць шукала параўнанняў, і здавалася, што краявіды, якія праляталі і праходзілі паўз нас, вельмі нагадваюць знаёмыя крымскія. Такія ж горы, такія ж дрэвы, і дарогі, і агарожы, і неба...

Мусіць, яна не была б такая прыгожая, італьянская зямля, калі б не абрабілі, не аздобілі яе сваім потам і рукамі працавітыя людзі. Тэраскі на схілах гор, створаныя людзьмі, і сады з персікавых і абрыкосавых дрэў, асфальтаваныя дарогі, беласценныя будынкі рабілі яе асабліва прывабнай. Між садоў на прасторнай даліне стаялі шыза-зялёныя загоны дружных канапель, дзе-нідзе каноплі ўжо ляжалі акуратнымі радкамі на зямлі.

Мы амаль не бачылі людзей у працы, толькі ў адным месцы прайшла дружная купка італьянцаў, што малацілі збожжа, але, і не бачачы іх, мы добра адчувалі працавітасць народа. Мы глядзелі на адзнакі яго працы са здавальненнем, з павагай, і з павагай думалі пра яго.

Гэтае пачуццё пашаны, нават захаплення, не раз хвалявала нас тады, калі мы яшчэ праз дзень ехалі берагам Тырэнскага мора ад Салерна да Сарэнта. Па баках нашай звілістай і вузкай горнай дарогі ўздымаліся

і спадалі схілы гор і крутыя шэрыя скалы, а ўнізе, амаль у прадонні, жаўцеў пясочак з людскімі постацямі, каляровымі парасончыкамі і празрыста сінела чыстая-чыстая вада мора. Хараство гэтых берагоў і дарогі выклікала паэтычныя водгукі, мусіць, у самых халодных, чэрствых з нас.

Памяць надоўга зберажэ сонечную яснасць, што панавала над зялёнай зямлёю і сінім морам, надаючы ўсяму светлыя, радасныя адценні. Але самым дарагім у памяці будзе тое, што зрабіў і робіць тут чалавек. Нельга было без здзіўлення і павагі пазіраць на будынкі, высечаныя ў скалах, сцэментаваныя з імі, на прабітыя ў гэтай каменнай, абрывістай вышыні дарогі, на масты, смела перакінутыя над глыбокімі праломамі. Людзі ўсё адолелі, усё прыладзілі для свайго дабрабыту.

На ўсім шляху — між Майоры, Міноры, Амальфі, Сарэнта да Кастэлямарэ — на круцізне схілаў, што часам стаялі сцяною, мы бачылі пляцоўкі апельсінавых дрэў, вінаграднікаў. Яны былі створаны людзьмі між скал, над абрывамі, насыпаны і ўмацаваны з боку спаду. Тэраскі часта мелі драбнюсенькія лапікі, з далонь, зямлі — больш ніяк нельга было насыпаць пры гэтакай круцізне! Ад тэраскі да тэраскі нярэдка трэба дзерціся па строме; лезучы на яе, лёгка можна сарвацца ў прадонне і загінуць. А людзі ўсё гэта скарысталі, падначалілі сабе.

І на абрывістых, скальных берагах, высока над морам, зелянеюць лімонныя дрэўцы, спее вінаград!

З тым жа пачуццём пашаны да людзей Італіі і да яе зямлі мы хадзілі па вуліцах Рыма. Яшчэ да таго, як цягнік спыніўся пад дахам пабудаванага ў стылю найнавейшай заходняй архітэктуры будынка вакзала Тэрміні, мы ўбачылі старажытныя, абдзьмутыя вятрамі многіх стагоддзяў сцены водаправода, «сработанного еще рабами Рима».

Аб даўняй славе і дасягненнях народа гавораць у Рыме многія помнікі. Сярод іх, напэўна, найбольш выдатныя — Калізей і Форум, руіны якіх надаюць вобліку Рыма непаўторнае хараство і значэнне. Калізей, пабудаваны амаль дзве тысячы гадоў назад, і цяпер захапляе смеласцю задумы, сваёй веліччу і магутнасцю. Агромністая, цыліндрычнай формы сцяна пяцідзесяціметровай вышыні, са стройнымі, у тры паверхі аркамі,

з радамі разбітых вятрамі, дажджамі і часам ступенек, сама напалову разбураная, мімаволі вядзе нашы думкі ў далёкую мінуўшчыну, быццам апавядае аб тым, якія бурныя падзеі прайшлі паўз яе камяні.

У гэтым старэйшым раёне старажытнага горада — на левым беразе Цібра, акрамя Калізея і Форума дажылі да нашага часу горды, строгі Пантэон і калона Траяна. Іх акружаюць будынкі розных эпох і розных стыляў, ёсць сярод іх і пабудовы апошніх год...

Частку Рыма займае Ватыкан, на тэрыторыі якога ў палацы з тысячы пакояў месціцца багаты музей, вялікае сховішча рэдкіх рукапісаў, карцінная галерэя. У Ватыкане таксама шэдэўры сусветнага мастацтва: Сікстынская капэла і сабор святога Пятра.

Сабор святога Пятра, які стварылі Брамантэ, Мікеланджэла і Мадэрна, каланада перад саборам Берніні — цудоўныя архітэктурныя помнікі Рыма.

Рым, размешчаны на сямі ўзгорках, падзелены на дзве часткі Цібрам, здаўся нам горадам раскіданым і стракатым. Як у цэнтры каля плошчы П'яцца Венецыя, так і ў іншых раёнах — багатыя, шырокія і зялёныя вуліцы — Трытоне, Нацыянале і іншыя, з яркім шматфарбным бляскам вітрын, перамежваюцца з беднымі, глухімі вулачкамі і завулкамі...

Пад палючым італьянскім ліпеньскім сонцам хадзілі мы па расчышчаных вулічках пустой, маўклівай Пампеі. Трагедыя двухтысячагодняй даўнасці дзіўна ажыла, наблізілася да нас, калі мы глядзелі ў музеі на скурчаныя адбіткі зажыва спаленых гарачым попелам Везувія. Засыпаўшы горад, попел Везувія захаваў да нашага часу рэшткі пабудоў — Форума, грамадскіх лазняў, жылых дамоў, захаваў як знак на дзіва высокай культуры даўніх жыхароў італьянскай зямлі.

Яркае хараство берагоў і гарадоў, багатая гісторыя прыводзяць у Італію мноства турыстаў. Дзе б мы ні былі, ці ў Рыме, у музеі Ватыкана або саборы святога Пятра, ці між руін Пампеі, ці на Капры — усюды хадзілі з натоўпамі замежных турыстаў. Яны гаварылі па-англійску, па-французску, па-нямецку, па-іспанску. Асабліва многа было амерыканцаў.

Згодна афіцыйных дадзеных, у мінулым годзе колькасць турыстаў у Італіі дасягнула адзінаццаці мільёнаў чалавек.

Турызм дае свой адбітак на воблік краіны, на стыль жыцця многіх яе людзей і гарадоў. Для турыстаў пабудаваны шматлікія раскошныя і сціплыя атэлі, вілы, рэстараны, кафэ, купальні. Для іх выдаюцца паштоўкі, кніжкі, рыхтуюцца самыя разнастайныя рэчы — сувеніры.

У краіне тысячы людзей жывуць тым, што абслугоўваюць турыстаў. Часамі гэтым займаюцца, напэўна, усе жыхары — каля руін Пампеі, на скалістым, зялёным Капры, у курортных гарадках узбярэжжа.

У вялікім горадзе Неапалі ёсць нямала рабочых, што працуюць на неапальскіх заводах і фабрыках, ёсць порт, ёсць канторы, ёсць грузчыкі і служачыя. І ўсё ж і тут вельмі многія жывуць за кошт турыстаў. Турыстаў з аднаго беглага позірку ўгадваюць, пазнаюць гаспадары і служачыя незлічоных магазінаў Неапаля, што ўсейваюць асабліва густа цэнтр, набярэжныя, раён порта.

У Неапалі дух камерцыі вельмі моцна адчуваецца і ў прасторных магазінах за багатымі вітрынамі, дзе вас сустракаюць са стрыманай далікатнасцю паважныя прадаўцы ў бездакорных касцюмах, і на прыпартовых вулічках, дзе чорнагаловыя, загарэлыя, абшарпаныя бедпякі назойліва суюць вам у рукі бліскучую, танную драбязу.

Варта было выйсці з варот порта, каля якіх заўсёды тырчалі постаці некалькіх паліцэйскіх, як хто-небудзь з такіх «камерсантаў», падступаючы няўхільна, усутыч, атакаваў:

— Сіньёр!..

Перад вашымі вачыма пераліўчата блішчаў залаты— не інакш — гадзіннік.

— Сем долараў!

Часам гаспадар падстаўляў да вашых вачэй адразу паўтузіна гадзіннікаў.

— Кожны — толькі сем долараў!

Мы адмахваліся, ішлі далей. Але багаты ўладар гадзіннікаў, лёгка, порстка перабіраючы нагамі ў паношаных туфлях, не адставаў:

— Шэсць долараў! Пяць!

Убачыўшы, што позіркі нашы па-ранейшаму абыякавыя, ён рашуча кідаў гадзіннікі ў кішэню, і перад

нашымі вачыма з'яўляліся ручкі з пазалочанымі каўпачкамі і стрэлкамі.

— «Parker»! Тры долары!

— Troppo caro! — Вельмі дарага! — сказаў адзін з нас і назваў: — Адзін долар!

Загарэлы прадавец «Паркера» энергічна замахаў галавою: «Не, не! За такую ручку!» Праз хвіліну на яго твары з'явілася іншае: так і быць, ён саступіць крыху. Перад намі паблісквакоць ужо дзве ручкі, і пальцы на другой руцэ паказваюць, што гэтыя дзве ручкі могуць аддаць за пяць долараў. Не менш.

Мы ідзём, паскорваем хаду, чалавек з ручкамі не адстае.

— Два долары!.. За адну.

— Не.

— Бярыце! — прадавец спакойна аддае «Паркер» і, хутчэй разлічыўшыся, спяшаецца зноў к партовым варотам.

Купіўшы рэч, мы стаім і разглядваем: на металічным стрыжні ўсярэдзіне ёсць нават сапраўднае фабрычнае кляймо на англійскай мове!..

У Ватыкане таксама гандлююць. Але там гандаль іншы. Пад багатай столлю папскага палаца ціхія, негаваркія, пасівелыя людзі малююць і прадаюць дробныя абразкі. Набожныя пакупнікі моўчкі сочаць за асцярожнымі рухамі мастакоў, што дарабляюць абразкі.

Пакупнікі — пажылыя, сталыя людзі і маладыя дзяўчаты— здаецца, амерыканкі...

На адной жывапіснай плошчы гарадка на Капры, да якой вядуць вузенькія гарыстыя вулічкі, поўныя турыстаў, мы ўбачылі двух хлопцаў, што трымалі на павадках чысценькіх ослікаў з акуратнымі сёдламі. Не ведаю, ці даводзілася жывёлінам займацца тым, чым займаюцца іх браты: цягаць арбы паклажы, бо давялося бачыць іх за справай незвычайнай. Яны таксама служылі турыстам. На пакорлівых жывёлін узлазілі, сядзелі на іх, шчасліва ўсміхаючыся, вясёлыя, бесклапотныя людзі, і ослікам трэба было цярпліва стаяць, пакуль пстрыкалі кнопкі фотаапаратаў. Людзям хацелася крыху экзотыкі на цывілізаваным, абжытым да апошняга куточка курортным астраўку. І ослікі паслухмяна служылі ім.

— Кожны зарабляе хлеб, як можа,— прамовіў сіньёр Джордж, італьянец, што разам з намі пазіраў на асілкаў. У голасе яго не было здзіўлення, крыху чуўся сум.

Ослікі зарабляюць самі і кормяць сваіх небагатых гаспадароў...

У Сарэнта для тых, хто хацеў экзотыкі, на цэнтральнай плошчы, побач ■ раскошнымі кафэ, з багатымі сучаснымі аўтамабілямі, дзяжураць рамізнікі з экіпажамі...

«Кожны зарабляе хлеб, як можа». І ўсё ж нельга было спакойна пазіраць, як па вуліцах маўклівай Пампеі два маладыя хлопцы неслі на насілках з крэслам поўнага, ганарлівага выгляду чалавека. Гледзячы на іх, хацелася думаць, што той, каго яны нясуць, калека. Мы насцярожана сачылі за імі, пакуль насілкі не дайшлі да дзвярэй пампейскай лазні...

Каля дзвярэй насілкі паставілі на рудаваты бур'ян, што прабіўся між камення, і чалавек устаў. Ён пайшоў у лазню адзін...

Сярод замежных турыстаў у Італіі найбольш, здаецца, амерыканцаў. Але амерыканцы гуляюць па Італіі не толькі бесклапотнымі турыстамі. Яны сыходзяць на бераг не толькі з мірных, пафарбаваных у белы колер акіянскіх цеплаходаў, але і ■ іншых караблёў: шэрых, панурых, ■ радамі дулаў, прыкрытых брызентавымі чахламі.

Мне моцна запомніліся натоўпы п'яных англійскіх матросаў, што бадзяліся па вуліцах і плошчах каля порта, крычалі штосьці незразумелае, размахвалі рукамі, чапляліся да італьянак і да нашых жанчын.

Некалькі матросаў стаяла каля цеплахода «Пабеда». Жанчыны, убачыўшы іх, паскаралі хаду, стараліся хутчэй адысці. Прыкра было бачыць п'янае крыўлянне, чуць бязладныя, дзікія крыкі... Адзін з іх, маленькі, зусім малады, з пляцоўкі, па якой мы ўзыходзілі на палубу і якая ўзвышалася над прычалам прыкладна на тры паверхі, пералез цераз агарожу на прэнт краштэйна і сеў, ледзь утрымліваючы раўнавагу. Ён у любы момант мог сарвацца і разбіцца. Але ён не думаў пра гэта — яму, п'янаму, хацелася дурэць, падабалася, што на яго глядзелі. Невядома, чым бы скончылася гэтая цыркавая штучка, калі б не ўмяшаўся

афіцэр. Афіцэр, праўда, схаваўся за будку, што была побач, але я бачыў, як ён адтуль штосьці загаварыў непаслухмянаму матросу. Заўважыўшы, што ўгаворванне не памагае, афіцэр, у падтрымку сваіх слоў, паказаў складзенымі накрыж пальцамі краты. Мусіць, паабяцаў гаўптвахту.

Матрос нязграбна пералез на пляцоўку.

За той час, што мінуў у Італіі, мы многа ездзілі. Мы вярталіся ў порт, на цеплаход, толькі для таго, каб пераначаваць, перадыхнуць і з надыходам новага дня рушыць зноў у дарогу.

Мы амаль нідзе надоўга не затрымліваліся.

Пры такім імклівым жыцці нашым вельмі цяжка было заводзіць якія-небудзь знаёмствы з людзьмі, зблізіцца з імі. Мы, вядома, шкадавалі аб гэтым, нам хацелася пабольш уведаць людзей Італіі, гаварыць з імі, адчуць іх душу.

І ўсё ж многае мы адчулі. Часам многае адкрываецца ў звычайным.

У Неапалі на вячэрняй вуліцы, дзе мы спыніліся, падышлі да нас два юнакі.

— Русь? Сов'ет? — запыталіся яны і, калі пачулі адказ, заззялі, шчаслівыя.

— Мо́сква! Ленін-град!

Гэтыя два для нас прывычныя словы былі вымаўлены так, што мы адчулі: перад намі гарачыя нашы прыхільнікі, нашы сябры.

Пра многае сказала нашым сэрцам тое, як прасілі ў нас сонечным ранкам каля вакзала Тэрміні ў Рыме загарэлыя, абветраныя людзі значкі з воблікам Леніна з абрысам Крамлёўскай вежы.

Вяртаючыся з Капры, мы чулі на палубе кацера цудоўныя неапалітанскія песні, якія спявалі служачыя з Неапаля і студэнтка рымскага універсітэта. Як хораша гучала ў іх выкананні наша «Дубинушка» і асабліва «Широка страна моя родная!».

У Амальфі мы пазнаёміліся з шафёрам Джованні.

Наш таварыш падарыў шафёру сувенір. Джованні ў адказ нешта загаварыў, з адчаем бачачы, што яго не разумеюць. Мы адчувалі, што ён кажа штосьці важнае для яго .

Паклікалі перакладчыка сіньёра Джорджа.

— Ён гаворыць, што ў вас, у людзей з Савецкага Саюза, тут вельмі многа сяброў.

Джованні задаволена заківаў галавой...

Да нас у порт прыйшоў пажылы італьянец з чорнымі, як паўднёвая ноч, вачыма пад чорнымі бровамі, з зачэсанымі гладка назад бліскучымі валасамі.

— Андрэй Іванавіч... Фрыджэрыо, Андрэй Іванавіч...— назваў ён сябе.

Так сіньора Фрыджэрыо называлі, калі ён палонным працаваў на адным савецкім заводзе.

Андрэй Іванавіч, хоць і з моцным акцэнтам, гаворыць па-руску. Стоячы між нас, савецкіх людзей, Андрэй Іванавіч успамінаў тыя дні, калі ён, былы рабочы ваенна-тэхнічнага італьянскага атрада, трапіў у палон і жыў сярод украінцаў і рускіх.

— Велікадушныя ў вас людзі... сардэчныя людзі. Я гэта адчуў нават тады, калі вам самім было цяжка... І памяць аб вайне была такая свежая, а вы былі велікадушныя...

Ён прамовіў горача:

— Я ваш друг. Назаўсёды. Я палюбіў вас...

Сярод многіх іншых сустрэч адна ўспамінаецца з усмешкаю. Калі стаялі на плошчы ў Сарэнта, малады кучаравы італьянец у беднаватым адзенні, з задуменнымі, крыху меланхалічнымі вачыма загаварыў з бялявай, вясёлай мінчанкай. З дапамогай універсальнай мовы жэстаў італьянец расказаў, што ён служыць у магазіне, але, акрамя таго, іграе на мандаліне!.. Ах, шкада, няма яе тут, ён праспяваў бы песню для сіньёрыны!

Хутка аўтобусы нашы сталі выпраўляцца ў дарогу, і малады жыхар Сарэнта папрасіў які-небудзь сувенір.

Сувеніра не знайшлося. Хлопец выказаў тварам пакуту: як шкада! Але раптам вочы яго заблішчалі ад нейкай нечаканай добрай думкі. Вагаючыся, ён нясмела паказаў на пасму валасоў:

— Сіньёрына...

Вочы яго прасілі, чакалі прысуду.

Дзяўчына і яе сяброўкі весела засмяяліся. Італьянец гэта зразумеў па-свойму: ён кінуўся ў дзверы і паявіўся, задаволены, з нажніцамі.

— Пасму, сіньёрына, адну маленькую пасму!

Дзяўчына, пры нашых жартах і лагодных усмешках італьянцаў, дакранулася нажніцамі да пасмы

валасоў. Атрымаўшы дарагі сувенір, італьянец аж заззяў.

«Дзякаваць вас, сіньёрына,— гаварылі яго вочы,— гэта вельмі дарагі сувенір».

Такі задаволены, шчаслівы, ён і знік за паваротам дарогі...

Я ўспамінаю сур'ёзныя, глыбокія вочы сіньёра Джорджа, інтэлігента з Рыма, з якім мы правялі ў Італіі не адну гадзіну. Сіньёр Джордж дапамог нам многае зразумець у Італіі, больш палюбіць яе вясёлы і працавіты народ... Ён сам жыве радасцямі і горам гэтага народа, сам добра паспытаў, што такое беспрацоўе, беднае, галоднае існаванне.

— У Італіі, якая магла б уся быць квітнеючым краем,— сумна гаварыў ён,— вельмі многа бедных. З афіцыйных звестак, у нас семсот тысяч беспрацоўных. Але гэта няпраўда, беспрацоўных значна больш — не менш за два мільёны.

Сіньёр Джордж, адчувалася, вельмі непакоіўся за Італію. Калі мы развітваліся перад варотамі порта ў Неапалі, ён спяшаўся ў Рым, к апошняму поезду. У Рыме пачыналася агульная забастоўка чыгуначнікаў.

— Я буду вельмі добра ўспамінаць гадзіны, якія правялі мы разам,— сказаў ён.— Вы сталі маімі сябрамі.

Што ж, мы таксама адчулі ў ім сябра свайго.

Вельмі шчырая, сяброўская была сустрэча на пляцоўцы каменнай лесвіцы, што вядзе к старажытным руінам Пампеі. Мы спаткаліся з італьянскімі рабочымі, з тымі, хто дае моц сённяшняй Італіі і ў чыіх мазольных руках яе будучыня.

Мы разам сфатаграфаваліся на пляцоўцы. Нашы знаёмыя стараліся глядзець у бок фотаапаратаў як мага больш бадзёра, і ў вачах іх гарэла вялікая вера, надзея на будучыню. Яны, як пры клятве, трымалі сціснутыя па-ротфронтаўску рукі.

— Мы заўсёды будзем разам! Як браты! — сказаў адзін з іх, расчулены.

Другі, усхваляваны, зняў з сябе медаль-узнагароду і працягнуў мне.

— Сувенір. Неапаль.

І заўважыўшы, што я вагаюся браць каштоўны

сувенір, ён паглядзеў, нібы гаварыў, што гэта — дар дружбы, любові, для якіх не дарагі любы сувенір...

Цеплыня гэтай кароткай сустрэчы будзе доўга саграваць і радаваць нашы сэрцы.

У апошні дзень перад ад'ездам я доўга хадзіў па вузкіх, цёмных вуліцах рабочых кварталаў Неапаля. Хацелася пабачыць, як жывуць жонкі, сёстры і дзеці рабочых Неапаля, як жывуць яны самі. Цяжка было думаць, што іх вільготныя, з задымленымі сценамі, з развешанымі нізкамі бялізны вулачкі, дзе так мала бывае шчодрае неапалітанскае сонца, цiснуцца ўсяго праз якую-небудзь сотню метраў ад раскошных праспектаў цэнтра горада, ад найбагацейшых атэляў Санта-Лючыі.

«О мой Неапаль, ты край цудоўны!» — словы чароўнай песні пра Санта-Лючыю ў гэты час набывалі даволі іранічнае значэнне.

Але сэрца супакойвала вера, што будзе час, калі сонца засвеціць і ў вузенькіх вулачках кварталаў неапалітанскіх гаротнікаў, засвеціць не на кароткі час, а надоўга, назаўсёды.

Недарма ж жывуць на гэтай багатай зямлі такія слаўныя, працавітыя людзі!..

## 8

Адзін дзень былі ў сталіцы Грэцыі. Выехаўшы сонечнай раніцай з Пірэя, мы праз паўгадзіны ўжо ўздымаліся па лесвіцы на Акропаль. Групкі турыстаў аглядалі велічныя беламармуровыя калоны Прапілей, фатаграфавалі храм бяскрылай Перамогі і славуты, паўразбураны Парфенон. Хадзілі, зацікаўленыя, між руін Эрэхтэйёна з цудоўнымі карыятыдамі...

Адсюль, з гары, адкрываўся шырокі від на сучасную сталіцу Грэцыі. З усіх бакоў унізе відneліся шэрарудаватыя будынкі, вуліцы і вулачкі, за якімі гарбаціліся рудаватыя, абпаленыя сонцам горы. Вочы мімаволі шукалі яркіх зялёных фарб, як у Італіі, але амаль не знаходзілі.

Спусціўшыся з Акропаля, мы наведалі тэатр Дзіяніса, хвіліну пасядзелі на выветраных тысячагоддзямі каменных ступеньках.

Жыццё раўніва вяртала нас ад старадаўнасці да нашага дня. Каля аўтобуса стаяў бедны сівы чалавек, абвешаны нечым падобным да дзіўных жоўтых кветак. Чалавек прадаваў турыстам марскія губкі.

Неўзабаве аўтобус правёз нас паўз помнік Байрану, акружаны прыпыленымі цьмянымі дрэвамі. Пакуль знаёміліся з горадам, з археалагічным музеем, запанавала на афінскіх вуліцах страшэнная гарачыня, подых якой чуваць быў з самага ранку.

Жыццё ў Афінах у гэты час замірае, усе жыхары хаваюцца ў цень, і нас таксама павезлі ў цень, за горад, у прадмесце Кіфісія, дзе мы павінны былі тым часам паабедаць.

Абедалі на вялізнай зашклёнай верандзе гасцініцы «Палас».

На праграмцы, якую мы атрымалі, да нас звярталіся са словамі добрай зычлівасці: «Дарагія сябры! Калі ласка, просім у Грэцыю. З вялікай радасцю мы сустракаем вас, савецкіх турыстаў. Даём вам нашу сціплую, але шчырую гасціннасць... Мы цвёрда ўпэўнены, што гэты ваш прыезд адкрывае шлях для далейшых наведванняў савецкімі турыстамі нашай краіны. Мы таксама спадзяёмся, што і нашы грэчаскія турысты здзейсняць сваю запаветную мару і ў хуткім часе наведаюць вашу радзіму, якую мы так любім...»

Грэкі сапраўды былі гаспадары вельмі гасцінныя. Па тым, як усе абыходзіліся з намі: і афіцыянты, і музыканты, і гіды, адчувалася, што мы госці тут прыемныя.

Пасол Савецкага Саюза ў Грэцыі М. Г. Сяргееў, які выступіў на абедзе, сказаў, што грэкі адносяцца да нашай краіны з гарачай сімпатыяй, што нас, турыстаў, тут даўно чакалі...

Седзячы за столікамі, мы пазнаёміліся з двума прагрэсіўнымі журналістамі. Адзін з іх быў у мінулым вязнем Макранісаса. Ён перанёс цяжкія катаванні, якія падарвалі яго здароўе, але не зламалі любові да жыцця, да народа Грэцыі...

Ён сказаў, што цяпер у Грэцыі вялікая прыхільнасць да савецкіх людзей.

— Грэкі вельмі ўдзячны вам за братэрскую падтрымку ў барацьбе за Кіпр. Мы гэтага не забудзем...

Памаўчаўшы, журналіст дадаў:

— У нас абвастрыліся адносіны з англічанамі. Вы заўважылі — у Афінах зусім няма англійскіх турыстаў, якія раней хадзілі тут як дома...— Ён працягваў: — Не любяць у нас і амерыканцаў. Яны прывозілі гузікі і вінтоўкі і зусім не цікавіліся тым, як адолець нам нашу беднасць...

Хутка, адправіўшыся групкамі і па адным хадзіць па горадзе, мы самі ўбачылі, як шчыра, сардэчна адносяцца да нас грэкі. Тыя, хто ведаў рускую мову, падыходзілі да нас і заводзілі сяброўскія размовы, з цікавасцю распытваліся пра жыццё нашай краіны. Гаварылі з радасцю пра тое, што адносіны між нашымі краінамі палепшыліся, з захапленнем успаміналі прыезд савецкіх акцёраў, выступленне ансамбля «Бярозка». Многія грэкі ведаюць і любяць рускую літаратуру. Прадавец з дробнага ларка, у якім былі і лімонная вада, і тытунь, пахваліўся, што ў яго бібліятэцы на пачэсным месцы стаяць Талстой, Тургенеў і Шолахаў.

Аб прыбыцці «Пабеды» ў горадзе ведалі многія, і нас, узброеных фотаапаратамі, лёгка пазнавалі на вуліцах.

— Русь? Турыст? — чулі мы не раз ад сустрэчных.— Ха-ра-шо!..

Нашы сустрэчныя, якія часцей за ўсё ведалі адно гэтае слова, лічылі, што аднаго яго — разам з добрай, прыязнай усмешкай — зусім дастаткова, каб выказаць свае адносіны да гасцей.

— Гаспадзін-таварыш! Здраст-вуй! — весела прывітаў мяне загарэлы да чарнаты грэк.

І калі я адказаў на прывітанне, ён дадаў:

— Ха-ра-шо!..

Сапраўды, часам даволі аднаго слова!..

Да нашага турыста прафесара Рагавога падышоў ветлівы грэк і штосьці сказаў на сваёй мове. Перакладчыца, што стаяла побач, дапамагла:

— Ён просіць дазволу пацiснуць вам руку.

Убачыўшы, што яго зразумелі, грэк маўкліва і ўрачыста сціснуў руку турыста.

Падыходзілі да нас жыхары не толькі Афін, але і далёкіх гарадоў і паселішчаў. Адна жанчына прыйшла з хворым, амаль сляпым сынам, гадоў трынаццаці.

— У нашым сяле гавораць, што з вамі едзе ўрач... цудадзейны ўрач, які вылечвае ад усіх хвароб,— прамовіла ціха, вельмі ўсхвалявана яна.

Маці папрасіла, каб гэты цудадзейны ўрач паглядзеў яе сыночка.

Ёй адказалі, што цудадзейны ўрач у нас, у Савецкім Саюзе, сапраўды ёсць — гэта акадэмік Філатаў,— жанчына кіўнула галавою: чула яго прозвішча,— але яго з намі тут няма. Ён жыве ў Адэсе.

Жанчына з адчаем правяла позіркам па нашых тварах. Няма! А яна так спадзявалася на гэтага ўрача.

— Што ж рабіць?

Яна з надзеяй чакала парады, трымаючы за руку сына, які стаяў моўчкі. Параіўшыся, нашы жанчыны сказалі, каб яна напісала свой адрас і дала фотаздымак сына. Фотакарткі не было, і грачанка засумавала. Пад вечар яна прыехала ў порт, знайшла сваіх новых знаёмых і, задаволеная, падала картку-пяцімінутку.

На адвароце карткі разам з адрасам былі напісаныя па-грэчаску словы: «Дарагія рускія! Не забывайце нас. Мы на вас усёй душой спадзяёмся!»

## 9

Раніцай у Эгейскім моры нам нечакана сказалі, што між нашым Урадам і Турцыяй ішлі перагаворы пра дазвол прыехаць нашым турыстам у Стамбул і што гэтыя перагаворы скончыліся добра — мы можам зайсці ў Стамбул, пазнаёміцца з ім.

Усе турысты ўзялі гэтую навіну з цікаўнасцю. Мы вельмі мала ведалі пра Турцыю, краіну-суседку, з якой калісьці былі добрыя адносіны і якая была для нас доўгі час загадкаю.

Перад вечарам да нашага цеплахода сталі з двух бакоў спакваля набліжацца берагі. «Пабеда» ўваходзіла ў прытоку Дарданелы. Каля гарадка, што віднеўся на правым беразе, да цеплахода накіраваўся кацер з турэцкім сцяжком на мачце. Мы былі ўжо ў турэцкіх водах.

Ноччу «Пабеда» прайшла Мармуровае мора і на світанні ўжо набліжалася да Стамбула. Ён паявіўся пры ранішнім сонцы, якое паблісквала на шпілях мінарэтаў некалькіх мячэцей, што стаялі ўсцяж берага. Па меры

таго, як перад цеплаходам расступалася вузкае рэчышча Басфора, горад раскрываўся ўсё шырэй і разнастайней. Па схілах берага ішло мноства простых і плоскіх, падобных, як блізняты, небагатых будынкаў. Выгляд горада вельмі ажыўляла сіняя палоска Залатога Рога, затокі, што дзеліць левы край Стамбула на дзве часткі. Па затоцы бегалі кацеры, дымілі параходы, далей віднелася мноства яхт, лодак...

У парту нас чакалі натоўпы цікаўных. Большасць іх стаяла не каля прычала, а за жалезнымі варотамі, на балконах і на дахах бліжніх будынкаў. Цікаўнасць іх няцяжка зразумець: мы былі першыя турысты з Савецкага Саюза, здаецца, больш як за дваццаць год.

Стамбул выбраў сабе вельмі арыгінальнае месца: адна частка яго стаіць у Еўропе, а другая, што за Басфорам,— у Азіі. Для таго каб трапіць тут з Еўропы ў Азію ці наадварот, даволі толькі пераехаць вузкую пратоку. Гэта штодня робяць звычайныя паромы і кацеры — робяць з будзённай абыякавасцю.

Стамбул лічыцца адным са старэйшых еўрапейскіх гарадоў: ён быў заснаван візантыйцамі дзве тысячы семсот гадоў назад...

Нас вельмі ўразіў сваёй архітэктурай сабор святой Сафіі, пабудаваны візантыйцамі чатырнаццаць стагоддзяў назад. Тысячу гадоў сабор быў лепшым збудаваннем па свайму харастве і памерах, уступіўшы пазней гэтае месца рымскаму сабору святога Пятра.

З цікавасцю ўвайшлі мы ў Блакітную Мячэць, адну з лепшых мячэцей Стамбула. Дарэчы, усяго ў горадзе, мы даведаліся, больш за пяцьсот мячэцей, трыста цэркваў і дванаццаць сінагог... Нам паказалі егіпецкую калону, збудаваную за дзве тысячы гадоў да нашай эры, руіны візантыйскай сцяны, султанскі палац з найбагацейшымі калекцыямі фарфору, керамікі, зброі. Непадалёк ад палаца султана ў засені дрэваў месціцца вельмі каштоўны археалагічны музей, у якім сабрана многа выдатных помнікаў візантыйскай і грэчаскай старажытнасці. З даўкім пачуццём аглядалі мы былую турму і «калодзеж смерці», куды турэмшчыкі, адсекшы зняволеным галовы, кідалі трупы, якія вада несла ў мора.

Аўтобусы вазілі ад адной мячэці да другой, ад музея да музея. З акон аўтобусаў, што імчалі па спакот-

ных вуліцах старога і новага горада, мы стараліся ўбачыць, як жыве Стамбул цяпер. Мы бачылі багатыя асабнякі і палацы, шырокія вуліцы з зіхатлівымі вітрынамі і бачылі цёмныя вулачкі і пакрыўленыя ад веку страшэнныя халупы, знакі жахлівай беднасці. Гэтых халуп вельмі многа ў «старым горадзе» — цэлыя кварталы.

Шкада, не давялося нам пахадзіць па вуліцах горада самім, мы амаль ні з кім, акрамя гідаў, не сустракаліся, не гаварылі. А час для гэтага быў — увесь вечар, усю ноч стаяў наш цеплаход каля прычала стамбульскага порта.

На світанні цеплаход «Пабеда» праплыў Басфор, і вось перад намі разліло сваю шыза-зеленаватую шыр роднае Чорнае мора. У ім мы адчулі сябе нібы дома. З гэтым адчуваннем, што ўжо амаль дома, уваходзілі мы і ў балгарскі порт Сталін і гулялі па ціхіх нядзельных яго вуліцах...

Яшчэ тады, калі вочы шукалі наперадзе які-небудзь знак берага, спаткалі мы дызель-электраход «Расія». Гэта быў першы наш знаёмы ля берага роднай краіны, ад якой аддзяляў нас амаль цэлы месяц далёкіх марскіх дарог. Гадзіны праз дзве, ужо ў вячэрнім прыцемку, наша «Пабеда» ўвайшла ў адэскую гавань, што ветліва вітала нас дарагімі агнямі, радаснымі воклічамі сустрэчных, якія стаялі каля прычала густым, неспакойным натоўпам...

Гэта былі добрыя, светлыя дні, яснае лета. Пасля многіх месяцаў «халоднай вайны» павеяла лагодным ветрам супакаення і надзей на мір. Над зямлёй велічна сінела неба, свяціла сонца.

Але хмары сышлі з неба ненадоўга. Мір не ўсім даспадобы. Восень прынесла весткі пра крывавы напад на егіпецкую зямлю, пра натоўпы фашысцкіх налётчыкаў у Парыжы. Зноў, як у часы Гітлера, на захадзе Германіі яго паслядоўнікі загналі ў падполле кампартыю. Патокі нечуванага паклёпу і маны хлынулі на вуліцы, завулкі і двары старога еўрапейскага Захаду.

Над светам навіслі важкія асеннія хмары.

У гэтыя дні бачыш асаблівы сэнс у шчырых, сардэчных сустрэчах з людзьмі, са сціплымі, простымі людзьмі, якія прагнуць спакою і дружбы.

Мы прыехалі дамоў багатыя не толькі ўражаннямі і ўспамінамі. Мы прыехалі багатыя сябрамі. Мы надоўга зберажом, як самае дарагое з нашай паездкі, іх моцныя поціскі рук, бляск іх вачэй, цеплыню іх сэрцаў, якія мы адчувалі так блізка, так добра.

# ХТО ПРЫЙШОЎ УНОЧЫ

**П'еса ў адной дзеі**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Стрыбульскі.
Хальс (Дубовік).
Цобель (Пятро).
Насця.
Паліцэйскі.
Партызан.

Дзея адбываецца ў пакоі начальніка валасной паліцыі ў часы нямецка-фашысцкай акупацыі.

## З'ЯВА ПЕРШАЯ

Звычайны сялянскі пакой часоў акупацыі, пануры, цёмны. Стол, лава пры сцяне, шафа, некалькі крэслаў — уся яго абстаноўка. Вокны завешаны. На стале гарыць лямпа. Кнот прыкручан, і гэта робіць пакой яшчэ больш змрочным. У пакоі адзін С т р ы б у л ь с к і, які неспакойна ходзіць, насцярожана азіраецца.

С т р ы б у л ь с к і. Дзіўна — няма і няма. Нібы вымерлі ўсе! *(Прыслухоўваецца.)* Шум... Машыны! Яны! *(Пачакаўшы, расчаравана.)* Здалося. Вецер. Няма і няма. Не едуць! *(Кліча.)* «Дзяжурны!»

Убягае п а л і ц а й.

П а л і ц а й. Слухаю, пан начальнік!

С т р ы б у л ь с к і. Што там, не чуваць нічога?

П а л і ц а й. Нічога. Слізнякі,— чаму яны так доўга цягнуцца?

С т р ы б у л ь с к і. Сам не разумею.

П а л і ц а й. Запіхваючы намі гэтую дзірку, маёр Клюге кляўся, што ў любы момант падтрымае. І вось — падтрымка!

С т р ы б у л ь с к і. Што такое, дапетрыць не магу.

П а л і ц а й. Яны ўжо гадзіны тры павінны б тут быць.

С т р ы б у л ь с к і. Нешта з Крываручкам. Дарога невялікая, конь — куля, даўно павінен заехаць. К вечару, самае большае, ён павінен быў стаяць перад Клюгаю. Павінен быў!.. Тут таўкціся з карнікамі павінен ужо! Ім сюды, на машынах,— плюнуць! *(Падазрона.)* Не мог ён уцячы, Крываручка?

П а л і ц а й. Не. Гэта — не... Вы добра зрабілі, што паслалі потым яшчэ аднаго.

С т р ы б у л ь с к і. Ты думаеш, Крываручка мог і не дапасці да горада?

П а л і ц а й. Усё можа быць. Дарогі цяпер — самі ведаеце.

С т р ы б у л ь с к і. Цэлы дзень сядзіш, як глухі. Тэлефонныя правады перарваны. Конныя пасыльныя знікаюць! Д'ябал яго душу ведае, што робіцца!.. А тут гэтае нахабнае пісьмо!

П а л і ц а й. Трэба ж дайсці да такога! Напісаць прысуд на самога начальніка паліцыі!

С т р ы б у л ь с к і. Застрашыць хочуць!.. Нічога, мы яшчэ паглядзім, хто каго засудзіць раней! Чыя

чарга раней здохнуць! *(Загадваючы.)* Калі што якое, будзем з партызанамі біцца адны! Ясна?

П а л і ц а й. А як жа, ясна. Адны...

С т р ы б у л ь с к і. Скажы, каб ніхто там не напіваўся! Застрэлю на месцы, калі хто наліжацца! І не спаць. Днём можна надрыхнуцца!

П а л і ц а й. Не спаць. Перадам, пан начальнік!

С т р ы б у л ь с к і. Вінтоўкі і кулямёты трымаць напагатове! Не разраджаць!

П а л і ц а й. Не разраджаць!

С т р ы б у л ь с к і. Ідзі.

П а л і ц а й. Іду, пан начальнік!

П а л і ц а й выходзіць.

С т р ы б у л ь с к і *(задуменна, трывожна пахадзіўшы, нечакана ўздрыгвае і, хутка абярнуўшыся назад, выхоплівае пісталет).* Хто тут? Ні з месца! Страляць буду!

На шум зноў убягае п а л і ц а й.

П а л і ц а й. Што яшчэ загадаеце, пан начальнік?

С т р ы б у л ь с к і *(азірнуўшыся, супакойваючыся).* Нічога. Калі трэба, паклічу...

П а л і ц а й. Мне здалося.

С т р ы б у л ь с к і. Табе здалося!..

П а л і ц а й выходзіць.

С т р ы б у л ь с к і *(азіраючыся).* Нікога няма! Нервы!.. Чаўпецца, быццам з кожнага кутка партызаны цікуюць! *(Падкручвае кнот у лямпе. Разважае сам з сабой.)* У мяне яшчэ паўтары гадзіны. Можа, пакуль не позна, рукі ў ногі ды... Уцячы? Уцячэш тут! Спаймаюць дзе-небудзь на дарозе, кішкі выпусцяць... А то, чаго, Клюге раптам прыедзе, а мяне няма! Трусасць, здрада! Усе заслугі — у гроб! Шыбеніца, як аблезламу сабаку?! І ўся кар'ера, усё, да чаго лез, адразу!.. А што, як не прыедзе Клюге? І партызаны нападуць! І як абяцалі — прыйдуць па душу маю! О! *(Узрушана.)* Дыхавіца дохлая!.. Што ж рабіць?..

Убягае п а л і ц а й, узрадаваны, шчаслівы.

П а л і ц а й. Пан начальнік паліцыі! Яны едуць!

С т р ы б у л ь с к і *(не верачы).* Хто яны?

П а л і ц а й. Ну, яны, ад Клюгі! Падмога, значыцца!

С т р ы б у л ь с к і *(з палёгкай).* Так і трэба дакладваць адразу! Калі я цябе, дурня, навучу? Хто паведаміў?

П а л і ц а й. Патруль. Яны дакументы правяраюць.

С т р ы б у л ь с к і. А, добра. Бяжы, вядзі іх! Сюды!

П а л і ц а й выбягае. На вуліцы чуваць гаворка, нямецкія камандныя воклічы.

О, адразу чуваць прыезд гаспадароў!

Выбягае таксама.

## З'ЯВА ДРУГАЯ

У пакой уваходзяць Х а л ь с у форме нямецкага обер-лейтэнанта і п а л к о ў н і к Ц о б е л ь, перад якімі ліслíва, радасна круціцца Стрыбульскі. Обер-лейтэнант, парывісты, рэзкі, гаворыць з нямецкім акцэнтам. Палкоўнік — паважаны, высакамерны, маўклівы.

С т р ы б у л ь с к і. Нарэшце, дарагія госці! Я тут проста зачакаўся! Ператрывожыўся колькі! Смех успомніць!.. Але добра, што добра канчаецца!.. Праходзьце, найдаражэйшыя госці! Садзіцеся, калі ласка!

Х а л ь с. Вы ест начальнік паліцыі?

С т р ы б у л ь с к і. Так. Я начальнік паліцыі воласці.

Х а л ь с. Ірэ намэ унд форнаме!

С т р ы б у л ь с к і. Даруйце, пан обер-лейтэнант. Не разумею...

Х а л ь с. Прозвішча!

С т р ы б у л ь с к і. А! Стрыбульскі. Стрыбульскі — прозвішча.

Х а л ь с *(паказваючы ў бок Цобеля).* Палкоўнік Цобель, камандзір палка «Фрыдрых Вялікі».

Ц о б е л ь *(ледзь кіўнуўшы галавой).* Цобель.

С т р ы б у л ь с к і. Вельмі рад, пан палкоўнік. Такая чэсць...

Х а л ь с. Обер-лейтэнант Хальс. Камандзір роты.

С т р ы б у л ь с к і. Святы божа! Ці бачыш ты, якія госці ўшанавалі наш куток!..

Цобель і Хальс сядаюць. Маўклівы Цобель паважна, крыху пагардліва азірае пакой Стрыбульскага.

Хальс. Перш за ўсё справы. Далажыце, што тут у вас робіцца?

Стрыбульскі. Зараз, зараз. Але паны з дарогі, напэўна, галодныя?..

Хальс *(мякчэй)*. О, гэта правільна. Вы амаль угадалі!

Стрыбульскі. Чым жа мне пачаставаць дарагіх гасцей? Паны, напэўна, любяць далікатныя стравы. А тут — глуш, цемра. Але, можа, паны афіцэры не пагрэбуюць каўбасамі тутэйшага вырабу?

Хальс. Каўбасы — даст іст... *(Паморшчыўся.)* Яны могуць быць нездаровыя для страўніка. Нясвежыя...

Стрыбульскі. Мы іх толькі ўчора забралі. Тут, у адной сялянкі. Партызанам, дыхавіца, гатавала!

Хальс *(рашуча)*. Не, не. Яна магла гэта знарок зрабіць. Атруту магла падлажыць!

Стрыбульскі. Мы іх паспыталі. Нічога!..

Хальс. Не! Давайце што-небудзь іншае! Сала, хлеб, яйкі! Яйкі ест?

Стрыбульскі. Няма. Тут стаяў батальён. Паны салдаты ўсіх кур паелі.

Хальс. Салдаты потым пайшлі абараняць радзіму. Нельга шкадаваць для іх кур! *(Не даючы гаварыць Стрыбульскаму.)* Віно ест?

Стрыбульскі. Толькі самагонка! Але добрая! Пяршак! Першы сорт!

Хальс. Не маглі віна прыберагчы!.. Ну добра, давай гэты са-ма-гон.

Стрыбульскі. Зараз дастану. Айн мамент!.. Я тут у шафе трымаю, на ўсякі выпадак.

Кладзе на стол сала, хлеб, ставіць самагонку.

Можа, сала пасмажыць? Я загадаю. Мігам зробяць.

Хальс *(Цобелю)*. Волен зі, гер оберст, дас швэйнефет гебратэн габэн? Шпэтэр айнвеніг? [1]

Цобель. Я. Йетц ессэн! Унд — захе! [2]

---

[1] Ці не хочаце вы, пан палкоўнік, пакаштаваць сала? Ці, можа, пазней крыху?

[2] Так. Цяпер есці! І — справы!

Хальс. Яволь, гер оберст! *(Стрыбульскаму.)* Палкоўнік хоча есці. Давайце пакуль так... *(Бярэ пляшку з самагонам, налівае.)*

Стрыбульскі. Зараз.

Ён наразае хлеб, сала. Кліча дзяжурнага, які адразу ўбягае.

*(Дзяжурнаму.)* Гуркоў салёных панам афіцэрам! І капусткі выберы добрай!

Паліцай. На адной назе!

Выбягае. Хальс бярэ шклянку з самагонкай, нюхае.

Хальс *(моршчыцца)*. Фі, смярдзючая!

Стрыбульскі. Смярдзючая без прывычкі. А прывыкнеце — лепш за ўсякае віно. Агонь!

Паліцай прыносіць гуркі і капусту. Выходзіць.

Хальс. Што ж, калі няма віна, прыйдзецца паспрабаваць гэтае пойла... *(Бярэ шклянку.)* За палкоўніка! *(Цобелю.)* Фюр зі, гер оберст!

Цобель. Данке, обер-лейтэнант!.. *(П'е, моршчыцца.)*

Стрыбульскі. Гэта без прывычкі, пан палкоўнік! Закусіце хутчэй!.. За ваш прыезд, дарагія госці. *(Выпівае шклянку.)*

Хальс. Ледзь не забыў! Вам ёсць паклон ад ваш памочнік... О, дызэ русішэ фаміліеннаме! Няроўнарутшка!

Стрыбульскі. Крываручка?

Хальс. Я, я. Так, Крываругшка! Яго затрымаў па важнай справе Клюге. Габэн зі... Вазьміце, ад Крывар утчка!
*(Падае Стрыбульскаму пісьмо, ён адразу пачынае чытаць.)*

Стрыбульскі. Значыцца, заўтра сюды прыедзе цэлы карны полк?!

Хальс. Адна рота і камандзір палка, як вы бачыце, ужо тут!

Стрыбульскі. Значыцца, пан Клюге не кідае абяцанняў на вецер!

Хальс. Вы сумняваліся ў пану Клюге?

Стрыбульскі. Не, не. Цяжка тут было, без вас... *(Пагрозна.)* Ну, чакайце, бальшавіцкія гады! У кроў душу вас, усіх цяпер! З пеўнем пойдзем. Дабяромся ў асіныя гнёзды! Мокрае месца ад ўсіх, падлы!..



Сцэна са спектакля па п'есе «Пакуль маладыя» ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным драматычным тэатры імя Янкі Купалы



Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Дзмітрый Кавалёў і Аляскей Кулакоўскі. *1950 год*

**Х а л ь с.** Аперацыю пачнём заўтра ж! Паліцыя павінна быць гатова таксама!

**С т р ы б у л ь с к і.** Усе, як штык, гатовы будуць! Можаце пра гэта не клапаціцца! Стрыбульскі справу разумее!

**Х а л ь с** *(успомніўшы).* Каго вы пасылалі, акрамя Няроўнарутчкі, да Клюге?

**С т р ы б у л ь с к і.** Жулегу. Паліцэйскага.

**Х а л ь с.** Калі гэта было? Колькі гадзін, дакладна!

**С т р ы б у л ь с к і.** Дванаццаць.

**Х а л ь с.** Мы сустрэлі яго, выязджаючы ад Клюге. Ён ішоў да Клюге. Яму там ужо не было чаго рабіць.

**С т р ы б у л ь с к і.** Я баяўся, што Крываручка не дойдзе. Але абышлося. *(Наліваючы самагонку.)* Паны афіцэры, я хачу выпіць за нашу дарагую нямецкую ўладу. І каб ад партызан было мокрае месца, у кроў іх душу!

**Х а л ь с** *(Цобелю).* Фюр ды ферніхтунг партызанэн бандэн!

**Ц о б е л ь.** Фюр ды ферніхтунг!

П'юць.

**Х а л ь с.** Дзе смажанае сала, якое вы абяцалі?

**С т р ы б у л ь с к і.** Зараз. Айн мінут!

Выбягае.

## З'ЯВА ТРЭЦЯЯ

**Ц о б е л ь.** Ну, уцягнуў ты мяне ў гісторыю!

**Х а л ь с.** Узяўся за гуж, трымайся мацней!

**Ц о б е л ь.** То ў холад, то ў пот аж шыбае!

**Х а л ь с.** Першую дзею мы сыгралі прыстойна. Асноўнае — болей нахабства, самаўпэўненасці і пагарды! Ты ж арыец, ды не які-небудзь фрыц смаркаты, палкоўнік! Інакш ты са сваімі ведамі нямецкай мовы падвядзеш усіх...

**Ц о б е л ь.** Ты яшчэ нібы жартуеш, а мне, яй-богу, аж рукі свярбяць. Так хочацца стукнуць гэту падлюгу па макаўцы, каб і хвост адкінуў! Гэта пачвара аж на сцэну лезе, каб выслужыцца перад гітлераўцамі!

**Х а л ь с.** Я за хлопцаў баюся: не паднялі б вэрхал

раней часу! Столькі паліцаяў абяззброіць — каб і не пікнулі,— на гэта патрэбен клас!

Ц о б е л ь. Хлопцы добрыя. На падбор.

Х а л ь с. Не пагарачыўся б хто-небудзь!.. *(Трывожна.)* І фрыцы наляцець могуць раней, чым мы думалі.

Ц о б е л ь. Як ён, гэты паліцай, паганец, праскочыў?!

Х а л ь с. Крываручку падлавілі і супакоіліся. Вось і праваронілі другога!

Ц о б е л ь. Сядзіць, мусіць, недзе ў Клюге, чакае экспедыцыі...

Х а л ь с. Уночы, можа, пабаяцца лезці. А калі асмеляцца, то праз гадзінку могуць дапасці, чаго добрага, і сюды. Значыцца, марудзіць нельга. Можна самім трапіць у пастку!

Ц о б е л ь. Што з нашымі разведчыкамі?!

Х а л ь с. Без іх мне ў атрад хоць не вяртайся! «Дзед» з разведкі прагоніць. З ганьбай. Ціш-ш... Ідзе!

## З'ЯВА ЧАЦВЁРТАЯ

Уваходзіць С т р ы б у л ь с к і, трымаючы перад сабой скавараду, якую стаўляе перад «гасцямі».

С т р ы б у л ь с к і. Частуйцеся, пан палкоўнік, пан обер-лейтэнант! Можа, яшчэ гарэлкі?

Х а л ь с *(Цобелю)*. Эр загт: нох шнапс?

Ц о б е л ь *(равучы)*. Генуг! Ферфлюхтэн!

Ён гаворыць такім тонам, што Стрыбульскі, які ўжо хацеў падліць самагонкі ў шклянкі, здзіўлена цягнецца перад ім. Цобель п'яна, нядобра паводзіць вачыма, панура глядзіць спадылба. Язык яго заплятаецца.

Ц о б е л ь. Генуг!! Доннэрветтэр!

Х а л ь с *(нібы стараючыся перад палкоўнікам)*. Хопіць гэтага пойла! Вы думаеце, што самагон закрые нам вочы, што мы не пабачым усяго...

С т р ы б у л ь с к і. Я не думаў нічога...

Х а л ь с. Ты не думаў! Нічога! Гэта зэр шлехт, што вы не думаў нічога! *(Не даючы Стрыбульскаму апамятацца.)* Вы дрэнна выконваеце свой абавязак — як начальнік паліцыі! Калі б не добрая атэстацыя маёра Клюге, якую ён даў вам, вам непаздаровілася б!

С т р ы б у л ь с к і. За што, пан обер-лейтэнант?!

Х а л ь с. За што?! Вы пытаецеся!.. Вы хто ест?! Вы ест начальнік паліцыі! Форгезэтцэ! Шэф паліцай! Хто такі начальнік паліцыі? Начальнік паліцыі ест вушы і вочы нямецкага камандавання! А вы — што бачыце?

С т р ы б у л ь с к і. Я... Мы як можам сочым і выведваем...

Х а л ь с. Вы — глухі і сляпы. Не спрачайцеся, калі обер-лейтэнант ад імя палкоўніка робіць вам заўвагу! За гэта адно можна, варта пакараць!.. Што вы выведваеце, дзе вынікі вашых выведванняў?!

С т р ы б у л ь с к і. Яшчэ вясной, калі я толькі прыехаў сюды, я...

Х а л ь с. Кайне эрынерунген! К чорту ўспаміны! Нам патрэбны новыя доказы!

С т р ы б у л ь с к і. Учора мы захапілі двух партызанскіх разведчыкаў...

Х а л ь с *(перабівае незадаволена)*. Што яны вам сказалі?!

С т р ы б у л ь с к і. Нічога. Яны нічога не сказалі.

Х а л ь с. Хто рабіў допыт?!

С т р ы б у л ь с к і. Я сам. Бог сведка, я зрабіў усё, але яны не сказалі. Я застрэліў аднаго!

Х а л ь с. Застрэліў?!

С т р ы б у л ь с к і. Прыстрэліў, як сабаку. Ён, у бога яго душу, кінуўся на мяне. Уцячы хацеў!

Х а л ь с *(стрымліваючыся)*. Бязглузда! Ні ў якім выпадку не трэба было расстрэльваць!.. Расстрэл ёсць... шчасце...

С т р ы б у л ь с к і. Пан обер-лейтэнант, у кожнага ёсць нервы. У мяне таксама. Калі ён кінуўся, я не вытрымаў.

Х а л ь с. Нервы! Нервы! А з другім, што з другім вы зрабілі?

С т р ы б у л ь с к і. Гэта дзяўчына, пан обер-лейтэнант.

Х а л ь с. Дзяўчына?! Вы... нават з дзяўчынай не можаце справіцца! *(Цобелю.)* Гір іст айнэ медхен, партызанэн. Зі антвортэт ніхт.

Ц о б е л ь *(гледзячы на Стрыбульскага)*. Зэр шлехт.

С т р ы б у л ь с к і. Яна ўпартая, як камень!

Х а л ь с. Таму што ты не ўмееш распытваць. У мяне яна загаварыла б!

Ц о б е л ь. Руфен зі гір!

Х а л ь с. Палкоўнік загадвае прывесці яе!

С т р ы б у л ь с к і *(падыходзячы на дзвярэй).* Дзяжурны!

Д з я ж у р н ы ўбягае.

Сюды партызанку! Вазьмі ключ! *(Ціха, пагрозна.)* Налізаўся, падла!..

Д з я ж у р н ы выходзіць.

Х а л ь с. Як яе прозвішча?

С т р ы б у л ь с к і. Яна не гаворыць.

Х а л ь с. Нават прозвішча ты не здолеў даведацца! А яшчэ хочаш даказаць!.. *(Перабівае.)* Маўчаць! Мне і так усё зразумела!

Ц о б е л ь *(да Хальса).* Во бефандэн партызанэн ін дэр летцэн цайт? Анцаль унд плянен!

Х а л ь с. Палкоўнік пытае, дзе знаходзяцца цяпер партызаны? Што вам вядома пра іх колькасць, склад, баявыя планы? К прыбыццю палка палкоўніку неабходна самая дакладная інфармацыя!

С т р ы б у л ь с к і. Дзейнічае тут партызанскі атрад. Ён размяшчаецца ў Залужскіх лясах... Камандуе атрадам нейкі былы камандзір, ён застаўся тут, як бальшавікі адступалі, ранены быў. Прозываецца «Дзед з барадою».

Х а л ь с *(дастаючы блакнот).* Дзед з барадою. Дзіўнае прозвішча. Стары ён?

С т р ы б у л ь с к і. Не, кажуць. Яшчэ малады, а ходзіць з барадою. Камісарам там парцейны раённы сакратар Паплаўскі.

Х а л ь с. А хто ў іх разведкай займаецца, не ведаеш?

С т р ы б у л ь с к і. А як жа, Дубовік, сволач, у кроў яго душу. З настаўнікаў, а такая зараза!..

Х а л ь с *(пішучы).* Дубовік! Сволач, кажаш? Няхай толькі пападзецца!.. Што вядома пра іх сілы?

С т р ы б у л ь с к і. Іх там каля дзвюх тысяч, не менш!..

Х а л ь с *(палкоўніку).* Эр загт: гір зінд цвай таўзэнд партызанэн!

Ц о б е л ь. Зо філь? Найн. Найн... Фраген зі, оберлейтэнант, партызанэн агентэн!

Х а л ь с. У вас павінны быць весткі пра партызанскіх агентаў. Палкоўнік гэтым вельмі цікавіцца. У вашых сёлах, відаць, таксама ёсць памочнікі партызан, сувязныя, разведчыкі?

С т р ы б у л ь с к і. Ёсць. Але мы іх выводзім патроху, у душу іх.

Х а л ь с. Габен зі... Вы маеце іх спіскі?

С т р ы б у л ь с к і. Ёсць.

Х а л ь с. Давайце сюды!

Стрыбульскі дастае з шафы сшытак, падае Хальсу. Хальс з цікавасцю разгортвае яго. Але ў гэты час уваходзіць п а л і ц а й з п а р т ы з а н к а ю.

## З'ЯВА ПЯТАЯ

П а л і ц а й *(дакладваючы).* Пан начальнік паліцыі! Прывёў!

С т р ы б у л ь с к і. Добра. Дакладваць пры панах афіцэрах не ўмееш, доўбня! Ідзі!

П а л і ц а й знікае. Бачачы перад сабой змардаваную партызанку, «обер-лейтэнант» і «палкоўнік» ледзь стрымліваюць хваляванне. Менш загрыміраваны Хальс апускае асцярожна галаву, потым надзявае пенснэ, каб дзяўчына ненарокам не пазнала, не выдала.

Х а л ь с. Вы не дапыталі гэты... дзіця, Стрыбульскі?!

С т р ы б у л ь с к і. Гэта разведчыца, пан обер-лейтэнант!

Х а л ь с. Такое кволае... дас гешёпф, як сказаць?.. Кволае стварэнне?!

С т р ы б у л ь с к і *(сам сабе).* Чаму ён так хвалюецца?! *(Хальсу.)* Яна цярплівая, як кошка, у душу яе! *(Падышоўшы да Насці, штурхае яе да стала.)* Ну! *(Паказвае яе рукі.)* Ну, якая работа? Гэта ад іголкі і цвікоў! Вельмі дзейнічае! Верны спосаб!

Ц о б е л ь *(стрымліваючыся).* Дас іст ніхт шлехт!

Х а л ь с. Палкоўнік кажа, што гэта нядрэнна. Ты можаш ганарыцца!

С т р ы б у л ь с к і. Стараюся!.. А то вы, гер обер-лейтэнант, накінуліся, гразіцца сталі, нібы сумняваліся!.. Калі яна не скажа, дзе бальшавікі, я, дыхавіцу сабачую, скручу яе ў трубу! Вяроўкі віць буду з яе!

Хальс *(прытоена, сумна)*. Цяпер я бачу, што мы сумняваліся дарэмна... Але метады вашы ўстарэлі. Тэхніка допыту ў германскай паліцыі пайшла далёка наперад...

Стрыбульскі. Нічога, я і так развяжу ёй язык! *(Падыходзячы да Насці, пагрозна.)* Хто пасылаў? Чыё заданне, ты, бальшавіцкая гадаўка?! Ну!

Насця. Каб вы ўсе здохлі! Каб вас...

Стрыбульскі *(раз'юшана накідваючыся на дзяўчыну)*. Не скажаш? Не скажаш?

Насця. Ой! Гад ты, гад!..

Хальс *(ледзь стрымліваючыся)*. Кіньце. Скора мы з палкоўнікам пагутарым з ёю! У нас яна загаворыць! *(Стрыбульскаму.)* За стол!

Стрыбульскі *(злосна штурхаючы Насцю)*. У, падла! *(Кліча)*. Дзяжурны!

Сядае за стол.

Хальс. Нашто дзяжурны?!

Стрыбульскі. Вывесці!

Хальс. Адставіць! Нам яна яшчэ будзе патрэбна! *(Пільна гледзячы на Стрыбульскага, які хоча ўстаць.)* Што вы думаеце?!

Стрыбульскі. Дзяжурны, у бога душу!Налізаўся!..

Хальс. К чорту дзяжурнага! Нашто ён!

Стрыбульскі. Так... Для парадку.

Ён непакоіцца.

Хальс *(рэзка, п'яна загадваючы)*. Потым!.. Для парадку тут мы! Пі!

Паказвае на шклянку з самагонкай. Стрыбульскі п'е. Насця, падняўшыся з падлогі, з нянавісцю спадылба пазірае на іх. Ёй здаецца нешта дзіўна знаёмае ў голасе, у жэстах немца.
Яна адганяе гэтую думку, як прывід, як недарэчнасць.

Хальс *(крыху адпіўшы са шклянкі)*. Мы, немцы, не любім піць так, як вы, шклянкамі...

За сцэнай раптам раздаецца стрэл. Стрыбульскі трывожна ўскоквае.

Стрыбульскі. Што гэта?!

Хальс *(абыякава)*. Глупства. Мусіць, хто-небудзь з салдат вінтоўку прачысціць захацеў...

Стрыбульскі. Вінтоўку прачысціць?..

Хальс. Нервы ў вас, як у... дэр хазэ, як сказаць? Як у зайца!

Стрыбульскі. Нервы, у душу яго... Работа...

Супакойваецца. Але непадалёк зноў стрэл, крык: «Ай!» Стрыбульскі рашуча ўскоквае.

Стрыбульскі *(Хальсу і Цобелю)*. Я хутка. Я зараз!

Вымае з кішэні пісталет.

Хальс. Стрыбульскі, вы трус!

Цобель. Зетцэн зі!

Стрыбульскі. Я павінен праверыць!

Хальс *(хапаючы Стрыбульскага за руку, рэзка)*. Палкоўнік загадвае вам сядзець. Саромцеся... Вы зневажаеце палкоўніка!

Стрыбульскі. Там нешта здарылася!

Хальс *(рэзка)*. Калі што-небудзь вартае, прыйдуць, даложаць.

Стрыбульскі, які яшчэ стаіць нерашуча, раптам спалохана ўздрыгвае.

Сядайце!

Стрыбульскі разгублена сядае. Пільна, насцярожана аглядае гасцей. Насця сочыць за ўсім, поўная і вялікага хвалявання, сумненняў і здагадкі.

*(Стрыбульскаму)*. Выпіўшы, трэба закусваць!..

Стрыбульскі. Што? А, закусваць? *(Раптам, хутка.)* Каб — расолу!

Ён хоча ўскочыць, але Хальс затрымлівае.

Дзяжурны!

Хальс. Нашто дзяжурнага зваць без прычыны!

Стрыбульскі. Расолу б добра... Пасля гарэлкі...

Зірнуўшы на Хальса, на «палкоўніка», які трымае руку ў кішэні, на пісталеце, Стрыбульскі сядае.

Хальс. Капусты даволі!

І яго тон, і выгляд «палкоўніка» прымушаюць падначаліцца. Стрыбульскі мяняе тактыку.

Стрыбульскі. Так, можна закусіць і... капустаю... *(Як бы супакоіўшыся.)* П'юць, падлы, на дзя-

журстве!.. Але — ваша праўда — хваляваццa не трэба... Калі вы тут!.. Пры вашай ахове!..

Хальс. Ты мне пачынаеш падабацца больш, як дагэтуль!

Насця ўжо амаль не сумняваецца, якія «афіцэры» перад ёю. Яна сочыць за абодвума — толькі адзін знак, і яна кінецца, шчаслівая, да іх. Але Хальс вачыма загадвае маўчаць.

Стрыбульскі. Вы будзеце яшчэ лепш... думаць, калі мы... пазнаёмімся бліжэй...

Цобель. Фраген зі... Брыф! Іст дас варгейт?

Хальс. Маёр Клюге казаў, што вы атрымалі нахабнае пісьмо. Палкоўнік пытаецца, ці праўда гэта?

Стрыбульскі. Праўда.

Хальс *(Цобелю)*. Дас іст вар!

Стрыбульскі *(сам сабе)*. Каб хоць паўгадзіны пратрымацца, а там бог... Клюге! Няўжо не выручыць?! *(Хальсу.)* Да чаго дайшлі!.. Партызаны... Нібы не мы, а яны гаспадары!..

Хальс. Што ж яны пішуць? Я не ўпэўнен, што Клюге ўсё правільна перадаў...

Стрыбульскі *(трывожна)*. Пагражаюць... За тое, што я служу... Выпусціць партызан загадваюць...

Хальс. Цяпер вы не трывожыцеся, спадзяюся? Ахова ў вас, як у райхсфюрэра!..

Стрыбульскі. Не... *(Ледзь выціскаючы словы ад неспакою.)* Цяпер я... абсалютна... спакойны... Такая ахова... Упершыню за ўсю службу... спакойны. Дзякуючы пану палкоўніку і вам, гер обер-лейтэнант... Я вельмі трывожыўся, чакаючы вас. Проста смех успомніць... Вып'ем за спакой!..

Хальс. Вып'ем!

## З'ЯВА ШОСТАЯ

Уваходзіць партызан, апрануты нямецкім салдатам.

Партызан. Кончылі, таварыш начальнік разведкі!

Дубовік *(Стрыбульскаму)*. Здай зброю!

Стрыбульскі *(прыкідваючыся)*. Я... Мне... Вы жартуеце?!

Раптам скідае маску, хапае з кішэні пісталет, хоча стрэліць, але Дубовік з «палкоўнікам» і другім партызанам кідаюцца на яго, выкручваюць руку. Пісталет адбіраюць.

**С т р ы б у л ь с к і.** Дубовік! Сам?! У, дыхавіца!.. Абдурыў!..

**Д у б о в і к.** Рукі ўгору!

Стрыбульскі падымае рукі.

*(«Палкоўніку».)* Абшукаць, Пятро!

**П я т р о.** З прыемнасцю!

Абшуквае. Насця, без меры ўсхваляваная, кідаецца на Дубовіка.

**Н а с ц я.** Ой, таварыш камандзір! *(Цалуючы, плача.)* Як гэта!.. Паверыць проста не магу...

**Д у б о в і к.** Хвілінку, Насцечка!.. Супакойся!.. Усё нармальна! *(Стрыбульскаму).* Ну, мы прыйшлі!

Стрыбульскі глядзіць, як загнаны воўк.

Мы табе загадвалі вызваліць людзей нашых. Мы цябе папярэджвалі, што зробім, калі не паслухаешся! Ты не паслухаўся! Ты забіў нашага чалавека, здзекаваўся *(на Насцю)* з яе... І ты атрымаеш што належыць!

**С т р ы б у л ь с к і.** Эх, позна, у кроў яго душу, гэты Клюге прыпаўзе! Чакаў яго, падлу, думаў дачакацца!..

**П я т р о.** І не дачакаўся, мусіць, мала. Збіраецца, напэўна, Клюга твая на падмогу. А можа, і ідзе ўжо.

**Н а с ц я.** Каб не падаспелі яны!

Пятро абшукаў Стрыбульскага.

**П я т р о.** Усё, Іван! Гатоў!

**Д у б о в і к.** Вывесці. Выканаць партызанскі прысуд!

**П а р т ы з а н.** Ёсць! Ідзі, гніда фашысцкая! Жывей!

Ён выводзіць С т р ы б у л ь с к а г а.

**П я т р о.** А цяжка быць палкоўнікам! *(Выціраючы пот.)* Аж замарыўся! Цьфу ты, служба! *(Адрывае вусы, кідае на падлогу.)*

**Н а с ц я** *(Дубовіку).* Непадобны вы які!.. Скіньце гэтыя шклы...

**Д у б о в і к** *(зняўшы пенснэ, заклапочана, строга).* Пятро!

**П я т р о.** Я, таварыш начальнік разведкі!

**Д у б о в і к.** Сабраць усіх! Зараз жа! Чакаць маёй каманды!

П я т р о. Мігам!

П я т р о выбягае.

Д у б о в і к. Насця, вось ключ. Вызвалі ўсіх! І да нас! За Залужкамі вядзі сцежкаю, паўз ветракі! Ведаеш?

Н а с ц я. Не забыла!

Выбягае.

## З'ЯВА СЁМАЯ

Дубовік адчыняе шуфляды ў стале, забірае паперы. Сабраўшы ўсё ў стус, піхае пад паху, хутка азіраецца.

Д у б о в і к. Здаецца, усё? Усё!

Выбягае.

*Заслона*

# ПАКУЛЬ МАЛАДЫЯ

П'еса ў 3-х дзеях, 6-ці карцінах

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Ігар Вазоўскі.
Андрэй Дубкоў.
Галя Жураўка.
Грачоў Аляксей Сяргеевіч.
Анна Апанасаўна, яго жонка.
Ала, іх дачка.
Аляксандра Сцяпанаўна.
Яўгень, яе сын.
Далінюк.
Студэнты.

## *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Сквер інстытуцкага гарадка. Зялёныя, у роскввіце, дрэвы. Наводдаль — будынак вучэбнага корпуса. Збоку, на пярэднім плане, частка другога будынка, дзверы ў яго. Каля дзвярэй расчыненае акно, у якім час ад часу паяўляюцца студэнты. Яны ходзяць і каля будынка. Чуваць іх галасы: «Ужо?», «Куды?», «Віншую!», «Спачуваю!» Перад кустамі, на пярэднім плане, лавачка. На ёй сядзяць Ігар і Андрэй. Андрэй думае аб нечым.

Андрэй. Можа б, у калідор пайшоў?

Ігар. У калідоры, не ў калідоры — раней не выклікаюць. А тут усё-ткі — улонне прыроды...

Андрэй. Улонне... Шчаслiўчыкі думаюць пра ўлонне прыроды!

Ігар. Настала, як кажуць, пара ростані.

Андрэй. Падобна на тое.

Ігар. Эх, Андрэй, як жа мы — у розныя бакі, а? Пяць год ложкі побач. Кніжкі разам, адны канспекты...

Андрэй *(іранічна)*. Адзін чайнік. З якім па чарзе хадзілі па кіпяток да тытана. Аднаго тытана...

Ігар. Іменна. Агульная заварка на дваіх!

Андрэй маўчыць.

І ўсё раптам скончыцца... Значыцца, у Круты Яр. Шчыра кажучы, табе, дружа, не надта пашанцавала.

Андрэй. Можа быць.

Ігар. Я цябе разумею і спачуваю, Андруша.

Андрэй. Дзякую... *(Заўважыў Галю, якая выходзіць з будынка інстытута.)* Галечка паявілася! Ззяе. Задаволеная.

Галя. Ой, хлопчыкі, калі б вы ведалі...

Андрэй. Ведаем ужо!

Галя. Ведаеце? Адкуль? Нічога вы не ведаеце!

Андрэй. Цябе, мяркуючы па тваім шчаслівым твары, пасылаюць разам са мной! У Круты Яр. Правільна?

Галя. Смяешся. Застаюся тут! Ды яшчэ на якім заводзе! «Слава рэвалюцыі»!

Ігар. Праўда?

Галя. А ці ж я буду маніць? Праўда, цудоўна,

дзевачкі? Ой, хлопчыкі! Здурэла ад радасці! Аж не верыцца.

Андрэй. Штосьці нячыста. І Ігар тут, і ты. *(Ігару.)* Хадзіў, мусіць, да Грачова? Угадаў?

Ігар. Не ўгадаў. Не хадзіў.

Андрэй. Тады — Галя прасіла?

Галя. Не прасіла я! І думаць не думала, што могуць тут пакінуць. І цяпер не верыцца!

Андрэй. Няўжо Грачоў сам здагадаўся? Пакла-паціўся не толькі пра свайго любімага студэнта, але і пра яго спадарожніцу. Верх чуласці...

Галя. Андрэй, што ты выдумляеш? *(Яна не тоіць шчасця.)*

Ігар. Кажу, не прасіў Грачова. Да таго ж, яшчэ невядома, куды мяне самога пашлюць.

Андрэй. Не люблю, калі людзі какетнічаюць. І жаночага какецтва не люблю, а калі гэтым пачынаюць займацца зусім дарослыя, здаровыя мужчыны, трываць не магу.

Ігар *(дабрадушна)*. Ты што, цярплівасць маю правяраеш?

Галя *(Ігару)*. Не слухай яго. Не зважай!..

Андрэй. Я, здаецца, лішні. *(Выходзіць.)*

Галя. Папрацуеш тут з Грачовым і так узляціш — не дастаць цябе. Толькі, Ігар, не зазнавайся! Не задзірай нос!

Ігар. Ну вось, сказала! Галка, слаўная Галечка. Ты ведаеш, мне і самому здаецца, што я зраблю штосьці незвычайнае. Такое, пра што з захапленнем загавораць усюды. Я яшчэ дакладна не ведаю, дзе ён, мой пункт, абапёршыся на які, я... перавярну свет, але я знайду яго. У мяне такое прадчуванне! Упэўненасць такая!..

Галя. Яна цябе не ашуквае.

Ігар. Галка, ты — цуд! Ты самая разумная з усіх. І самая прыгожая, вядома!.. Можна мне пацалаваць цябе?

Галя. Ой, што ты! Вар'ят! Людзей колькі.

Ігар. А што мне яны! Чаго нам саромецца? Акрамя таго, мы ж ужо выходзім з-пад апекі інстытуцкай. На сваё жыццё. Возьмемся рука за руку і пойдзем насустрач вятрам!..

Галя. Ты добра сказаў, Ігар. Цудоўна сказаў.

Непадалёку чуецца песня:

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою.
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Цудоўная песня. Праўда, Ігар? *(Падпявае.)*

Кожнай часінай к табе я лячу,
Каб быць з табою.
Толькі к табе прыхіліцца хачу
Сэрцам, душою...[1]

Ігар. Галка, я люблю цябе. *(У душэўным парыве.)* Галка, ведаеш што — давай пажэнімся! *(Бярэ Галю за руку, з надзеяй глядзіць на яе.)*

Галя маўчыць, збянтэжаная і радасная.

Сёння ж пойдзем у загс! Я зараз паклічу хлопцаў і аб'яўлю!

Галя. Ігар! *(Закахана.)* Ты вар'ят! Кажуць, што ўсе геніяльныя людзі трошкі вар'яты. Бачу па табе.

Ігар. Значыцца, згодна?

Галя. Ты не... ведаеш?

Ігар. Згодна?

Галя ківае галавой.

Галка, якая ты харошая! Ты будзеш заўсёды мне — з усяго мільярда жанчын — самаю прыгожаю і самаю любаю...

Галя *(шчасліва)*. Ігар... праўда?

Ігар. Ага! Ледзь не забыў. Учора на заводзе прынялі мой праекцік. Прайшоў на «пяцёрку»! Павінен атрымаць жменю грошай! Якраз у пару!..

Галя. Ты — малайчына!..

З акна высоўваецца студэнт, махае Ігару рукой, кліча: «Вазоўскі, цябе!»

Ігар. Іду! *(Подбегам падаецца да дзвярэй.)*

Убачыўшы, што Ігар адышоў, да Галі вяртаецца Андрэй.

Андрэй. Чаму ты такая? Што здарылася, Галя?

Галя. Нічога асаблівага.

Андрэй *(недаверліва)*. Але ж чаму ў цябе твар такі, асаблівы?

Галя. Які? Выдумляеш...

---

[1] Словы Адама Русака.

**Андрэй.** Такі, нібы ты экзамен Грачову здавала. І нібы — пяцёрка з плюсам! Што з табой, Галя?

**Галя.** Не пытайся!

**Андрэй.** Тайна. Што ж тут можа быць такое тайнае?

Чуваць шум машыны.

**Галя.** Алачка Грачова прыехала.

**Андрэй.** Што? А, Ала! На блакітнай бацькавай машыне і ў суправаджэнні мамы. Толькі чаму ж без канвоя? Без маёра?

**Галя.** Яго перавялі. На Урал, здаецца.

**Андрэй.** Такі ўдар! Адразу пасля вяселля і перад прызначэннем! Маладая жонка, трэба спадзявацца, з радасцю памчыць услед за ім?

**Галя.** Не... яна, здаецца, не збіралася.

**Андрэй.** І не збіраецца, мусіць.

**Галя.** Я на тым тыдні заходзіла да Алачкі, дык маці — як неба перад навальніцай: «Не пушчу!» А бацька — на сваім: «Паедзе! Сам буду прасіць!»

**Андрэй.** Прафесар — чалавек з характарам! Аднак і мадам Грачова — не мякіш! Не капітулюе без бою!..

Уваходзяць **Ала Грачова** і яе **маці**.

**Ала.** Добры дзень, Галечка! *(Абдымае яе, стрымана вітаецца з Андрэем.)* Добры дзень! Мама, я зараз прыйду.

**Анна Апанасаўна.** Глядзі, не затрымлівайся!

**Анна Апанасаўна** выходзіць.

**Андрэй.** Добры дзень, Ала Аляксееўна! Які настрой?

**Ала** *(нібы не заўважаючы яго нядобрага тону).* Дзякую, добры. *(Да Галі.)* Ну, табе ўжо вядома? Ужо рашылі? Куды?

**Галя.** Тут.

**Ала.** Пашанцавала! Віншую, Галечка! А Ігара куды?

**Андрэй.** Ігара таксама тут пакідаюць.

**Ала.** Праўда? Ну, вядома, гэтага трэба было чакаць!

Галя хоча сказаць ёй пра Ігара, але Ала не заўважае гэтага, не дае гаварыць.

Шчаслівая ты! А я... Ты і не ўяўляеш, колькі я перажыла за гэтыя дні! Праз маму ўсё. У яе такое хворае сэрца, а столькі даводзіцца хвалявацца! «Не перажыву»,— кажа.

Андрэй. Перажыве яна, усё перажыве! Абы ты перажыла.

Ала. Я? А што мне? Калі б не мама, я гатова куды хочаш. Хоць на цаліну, хоць... на Курылы.

Андрэй. Нашто на Курылы? Да мужа, на Урал.

Ала. Дурныя жарты!.. Ты — няўдачнік, і табе хочацца ўсіх крыўдзіць!..

Андрэй. Вунь маці знакі робіць! Ідзі.

Ала *(нібы не чуючы)*. Што ж Ігара няма?..

Прыбягае Анна Апанасаўна.

Анна Апанасаўна. Потым, потым нагаворышся. Хадзем!

Ала. Мама, я зараз.

Анна Апанасаўна. Потым, потым. Ах, дзіця бесклапотнае! Ні трохі думаць пра сябе не хоча!

Ала. Мама, я зараз.

З будынка выходзіць Ігар. Ён нездаволены.

Галя *(кідаючыся да яго)*. Ну, што?

Ігар маўчыць.

Ала. Што з табою? Чаму ты такі?

Андрэй *(жартам)*. У Круты Яр накіравалі!

Ала. Як — у Круты Яр? Ты ж казаў...

Галя. Куды?

Ігар. Андрэй угадаў...

Ала. Ты жартуеш? Гэта — непаразуменне. Гэта... Мы не пакінем гэта, мы даб'емся, каб камісія змяніла рашэнне!

Анна Апанасаўна. Алачка!

Анна Апанасаўна цягне Алу да дзвярэй. Нешта ціха гаворыць ёй. Галя спачувае Ігару. Андрэй рады і не тоіць гэтага.

Андрэй. У Круты Яр? Праўда? Цудоўна!.. Хто сказаў, што няма на зямлі справядлівасці?

Галя. Маўчы ты!

Андрэй. Яна яшчэ, вядома, не для ўсіх. Вось каб — ад душы — яшчэ Алачку Грачову яна не абы-

шла! *(Ігару, абдымаючы.)* Не бядуй, друг адзіны. Не, што гэта я? Радуйся! Разам будзем! А што да Галі, не шкадуй яе! Пажыве ў разлуцы — любіць больш будзе!

Галя *(з дакорам)*. Андрэй!

Андрэй. Ліха не без дабра. Разлука для кахання — як вецер для агню... Раней спецыяльна назначалі тэрмін жаніху: жаніцца хочаш, год-два пачакай. Па меншай меры! Выпрабоўвалі.

Галя. Андрэй! Змоўкні!

Андрэй. Я ж пра вас клапачуся. А ты замест падзякі... Ведаеш, Галечка, я — ад душы — больш за цябе непакоюся. Ён там закапаецца ў свае вопыты, у навуку, а ты, здаецца, натура ўлюбчывая! Да таго ж — горад які! Хлопцаў прыгожых...

Галя. Як ты смееш гаварыць так! Ігар, чаму ты маўчыш?

Андрэй. Ён згодзен са мной, таму і маўчыць.

Ігар. Што? У чым згодзен?

Андрэй. Ты бачыш, ён нават не чуў! Яго проста гэта не цікавіць!

Ігар *(расчаравана)*. Ні лабараторый, ні спецыялістаў... Вось табе і планы, і задумы!..

Галя. Ігар! Можа, яшчэ не ўсё? Не можа быць, каб з табой так абышліся!.. Грачоў жа гарой за цябе!

Ігар. Грачоў! Яго ласцы я і павінен дзякаваць!

Галя. Быць не можа! Ён жа сам казаў, што спадзяецца на цябе...

Ігар. Спадзяецца! З-за гэтага і зрабіў усё, не інакш. Пашкадаваў мяне!..

Андрэй. Пашкадаваў!

Галя *(Ігару)*. Усе навінкі, усё, што будзе выходзіць, ты будзеш мець! Я табе буду пасылаць... А калі трэба будзе сюды, параіцца, цябе ж адпусцяць!..

Ігар. Стары дзівак!

У дзвярах паяўляецца прафесар Грачоў.

Галя *(папярэджваючы)*. Грачоў!

Андрэй. Значыцца, Алачка пайшла на камісію. Не вытрымала душа прафесара. Каб не шкадавалі бацькоўскіх пачуццяў...

Грачоў падыходзіць да студэнтаў.

Г р а ч о ў. Дзень які сёння блакітны! Цяпер за горад бы, у поле ці на рэчку! Пахадзіць па беражку са спінінгам! Басанож! *(Да Ігара.)* Вы не спінінгіст?

І г а р *(гледзячы неўразумела).* Не.

Г р а ч о ў. На вудачку ловіце?

І г а р. Я не захапляюся рыбнай лоўляй.

Г р а ч о ў. Вы не рыбалоў? А я думаў, вы — рыбалоў! Паляваннем забаўляецеся?

І г а р. І паляваннем не захапляюся.

Г р а ч о ў. Дзіўна. У вашы гады! Вы ж выраслі сярод лясоў!.. А я, дарэчы, Круты Яр ведаю.

А н д р э й. Былі там?

Г р а ч о ў. Быў. Даўно, праўда... АГ-1 там мой рабілі... Канструктарская маладосць!

А н д р э й. Так што, Аляксей Сяргеевіч, землякі, можна сказаць.

Г р а ч о ў. Землякі!.. Круты Яр — на ўсё жыццё родны мне куток. *(Заўважыў, што Ігар пануры.)* Гм, а вы, Вазоўскі, нездаволены нечым? У вас непрыемнасць нейкая?

Г а л я. Непрыемнасць. Пакрыўдзілі яго.

Г р а ч о ў. Хто?

Г а л я. Вы.

Г р а ч о ў. Я? Чым?

Г а л я. Вы ведаеце. Ігар — адзін з лепшых вашых вучняў, а вы...

Г р а ч о ў. У Круты Яр? Круты Яр — мая маладосць! *(Інакш, стрымана.)* Вазоўскі там, дарагая Галя, можа, больш будзе значыць, чым тут Грачоў. Вы разумееце гэта?

Г а л я. Я разумею. Але нельга забываць і пра самога Ігара.

Г р а ч о ў. А хіба пра яго забылі? Разумныя думкі нараджаюцца не толькі на сталічнай глебе.

Г а л я. Сталіца ёсць сталіца.

Г р а ч о ў. У нас і без таго даволі кабінетных вучоных. *(Ігару.)* Нічога, паспытаць, як халаднаватым ветрам жыцця сцябае, не шкодна. Карысна — для галавы, для кровазвароту, наогул для нармальнага развіцця. Потым зразумееце, дзякаваць будзеце! *(Заўважае, што з будынка выйшлі Анна Апанасаўна і Ала. Павярнуўшыся да іх, насцярожана чакае.)* Ну, што? Задаволены?

Анна Апанасаўна. Задаволены.

Грачоў. Цудоўна! Віншую... *(З недавер'ем.)* Проста дзіўна!

Анна Апанасаўна. Дзякуем. Раптам такая неспадзеўка. Заяўка — трэба чалавек ва ўпраўленне. У сваім жа горадзе.

Грачоў. Што! Мне ж абяцалі Арэнбург!

Анна Апанасаўна. Заяўка там акурат прыйшла: патрэбен чалавек! Такая нечаканасць!..

Грачоў. Нечаканасць!

Анна Апанасаўна. Не можа ж пустым быць важнае дзяржаўнае месца!

Грачоў, гнеўны, ідзе да дзвярэй. Анна Апанасаўна бярэ дачку за локаць.

Хадзем!

Ала. Мама, я на адну хвілінку. Я зараз.

Анна Апанасаўна. Не забывай — нам трэба яшчэ заехаць.

Аля нецярпліва паводзіць плячыма.

Я буду каля машыны. *(Выходзіць.)*

Ала *(Ігару)*. Як добра мы ўчора павесяліліся! На возеры каталіся, абедалі там, у рэстаране!

Андрэй. Не разумею, чаму некаторыя, едучы ў Арэнбург, пакідаюць сваіх жонак...

Ала *(Ігару)*. Чаму ты не быў? Нядобра — абяцаў...

Ігар. За абяцанне даруй. А не прыехаў таму, што не хацеў.

Ала. Чаму ў цябе такі тон? Пры чым жа тут я, Ігар? Ты на мяне крыўдуеш дарэмна.

Ігар. Нічога я не крыўдую!

Ала. Не крыўдуй. Прыходзь. Сёння ж, гадзін у сем. *(Схамянуўшыся.)* І ты, Галечка, і ты, Андрэй. Будзе Салавіцкі з оперы. Арыю Дуброўскага абяцаў. Добра?

Галя. У мяне сёння... білеты ў кіно.

Ігар. Я таксама не прыйду.

Ала *(пакрыўджана)*. Ну, што ж, вольнаму воля! *(Хоча ісці.)*

На сцэну ўвальваецца натоўп студэнтаў.

Адзін са студэнтаў. Ігар! Вазоўскі! Дубкоў! Алачка! Увага! Усім — увага!

Студэнты. Увага! Цішэй!
Андрэй, цябе таксама датычыцца.
Урачыстая хвіліна!
Юрка, чытай!

Студэнт. Увага! Урачыстае абяцанне! Прашу ўсіх паўтараць як клятву!.. «Мы, студэнты пятага курса, у гэту гістарычную ў нашым жыцці хвіліну ўрачыста і з усёй сур'ёзнасцю, на якую толькі здольны, сумленна гледзячы друг другу ў вочы — карыя, сінія, шэрыя, зялёныя,— абвяшчаем...»

Ала. Заўвага. Трэба дадаць пра вочы — «а таксама з усімі адценнямі»...

Студэнт. Прашу не перабіваць!

Студэнты. Яна правільна кажа!
Не трэба!
Правільна!
Паставіць на галасаванне!

Андрэй. Хто за дапаўненне Грачовай, прашу падняць белыя інтэлігенцкія рукі! Большасць! Трэба ўнесці!

Студэнт. Ёсць! Пішу. Працягваю. «...аб'яўляем і клянёмся: дзе б мы ні былі, куды б нас ні занеслі хвалі бурнага жыцця, верна берагчы дружбу, гонар нашага курса, нашага факультэта і інстытута, перад сценамі якога адбываецца гэтая ўрачыстая цырымонія. Абяцаем — будучы барадатымі, вусатымі, жанатымі, вядомымі і невядомымі...»

Ала. Жанчын пакрыўдзілі! Трэба дадаць за «жанатымі» слова «замужнімі».

Андрэй. Светлая галава!

Студэнт. Прымаю без галасавання. Працягваю. «...жанатымі, замужнімі, вядомымі і невядомымі, худымі і тоўстымі... абяцаем не старэць душой, не чарсцвець, не тлусцець сэрцам, не паддавацца адной з самых страшных чалавечых хвароб — агіднай ленасці. Зберагаць у сэрцы на ўсё жыццё, да апошніх дзён, неспакойны агонь маладосці! Таму, хто адступіцца ад гэтага абяцання, мы дружна і рашуча заяўляем тройчы — ганьба, ганьба, ганьба!»

Усе паўтараюць: «Ганьба, ганьба, ганьба!»

Клятва лічыцца прынятай. Можна разысціся!

Студэнты, смеючыся, спяваючы, разыходзяцца. Застаецца толькі Галя.

Галя. Ігар!

Ігар вяртаецца.

Ігар. Што?

Галя. Не перажывай! Не трэба! Можа, і там добра будзе!.. Не бядуй да часу!.. І ведай, што мы... што я — твая!.. *(Шкадуючы.)* Мама такая хворая! Не можа яна адна, без мяне! Каб не такое няшчасце, я паляцела б у Круты Яр... За табою.

Ігар. Нічога. Гэта ненадоўга. Мы яшчэ будзем разам.

Галя. Ты свайго даб'ешся! Я табе веру!

Ігар абдымае яе.

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Круты Яр. Невялікі сціплы пакой. Пасярэдзіне сцэны — акно, распісанае марознымі ўзорамі. За акном — аснежаныя сосны, з-за сосен чырванеюць карпусы завода. У пакоі перад акном — стол, на якім ляжаць чарцяжы, кніжкі, каля стала — этажэрка, таксама з кнігамі і чарцяжамі. Збоку — печка, непадалёку ад печкі і каля стала — два ложкі, адзін з іх прысунуты да стала і замяняе канапу. На ложку таксама чарцяжы. У пакоі Андрэй і Ігар. Яны распранаюцца: толькі што прыйшлі з працы. Абодва расціраюць вушы, падбягаюць да печкі, грэюць рукі.

Ігар. Ну, разлютаваўся люты!..

Уваходзіць Аляксандра Сцяпанаўна.

Аляксандра Сцяпанаўна. Можна да вас? Ну, што, бачылі нашы даныя?

Андрэй. Бачылі. Парадак.

Аляксандра Сцяпанаўна. Ну вось і добра. Значыцца, мы праваждаліся недарма. А то я непакоілася. Ігар Іванавіч, табе пісьмо.

Ігар. Дзякую.

Ігар бярэ пісьмо, з цікавасцю чытае. Андрэй уключае радыё, з рэпрадуктара чуваць песня.

Аляксандра Сцяпанаўна. Ну, я пайшла... Дранікі пяку!

Аляксандра Сцяпанаўна выходзіць. Андрэй дастае булку, есць. Адчуваецца, што ён прагаладаўся.

Ігар *(адрываецца ад пісьма)*. Ёсць жа на свеце такія цудоўныя мясціны, як Масква, Мінск, Арбат... Нават у саміх гэтых назвах — своеасаблівы водар!

Андрэй. Калі гаварыць пра назвы, то самыя пахучыя ў Маскве ўсё ж Чаромушкі. А ў Мінску, вядома, Няміга.

Ігар. Туды прыехалі ленінградскія хакеісты. Там будуць хваляваццa, нямець ад адчаю, гарланіць ад шчасця... А мы...

Андрэй. Ты ж і так ледзь не штомесяц бываеш там. Цяпер і зусім хутка перабярэшся. Да наступнага матча.

Ігар. Так, хутка для мяне ўсё зноў вернецца...

Андрэй. Што ж, рабі як хочаш! Але я табе гэтага не раіў бы! Я ўжо казаў... *(Ківаючы на ліст.)* Ад Алачкі?

Ігар. Ад яе.

Андрэй. Не разумею, як лічыць,— у цябе з Алачкаю такая густая перапіска?

Ігар. Муж яе, напэўна, менш непакоіцца.

Андрэй. Проста, муж — сляпы, не ведае нічога... А можа, ты не да Галі, а да Алачкі наязджаеш?

Ігар. Да Галі, да Галі, не трывожся! *(Бярэ ручнік, мыла, ідзе ўмывацца.)*

Уваходзіць Аляксандра Сцяпанаўна, нясе на талерцы аладкі.

Аляксандра Сцяпанаўна. Вось пачастуйцеся!

Андрэй. Аляксандра Сцяпанаўна! Ды мы ў сталовую зараз! *(Накідваецца на дранікі.)*

Аляксандра Сцяпанаўна. Жаніліся б вы! Маладыя, прыгожыя, а жывяце, даруйце, як бабылі!

Андрэй. Не так усё гэта проста, як вам здаецца!

Аляксандра Сцяпанаўна. А чаго ж не проста? Хіба нявест мала?

Андрэй. Мала не мала, ды не хапае. Адной.

Аляксандра Сцяпанаўна. Бач, якія пераборлівы!

Андрэй. Аляксандра Сцяпанаўна, я ўжо знайшоў.

Аляксандра Сцяпанаўна. Ну дык чаго ж ты?

Андрэй. Не падабаюся. Таварыш, гэты самы, што вы бачылі, засланіў ёй свет. Яна яму пацалункі шле ў лістах, а мне толькі прывітанні — мімаходам, і то не заўсёды. Чаму гэта атрымліваецца так?

Аляксандра Сцяпанаўна. А можа, ты сам вінаваты?

Андрэй (*нявесела ўсміхаючыся*). Я, ведаеце, заўсёды задзіраўся з ёю. Сам не ведаю чаму.

Аляксандра Сцяпанаўна. Дзяўчаты любяць, каб з імі далікатна абыходзіліся.

Андрэй. Усё адно! Не горнецца ў яе да мяне душа. Сілаю мілы не будзеш. Ну, ды і наогул — не перабіваць жа таварышу дарогу.

Аляксандра Сцяпанаўна. А ён яе любіць?

Андрэй. Любіць, здаецца... (*Схамянуўся.*) Любіць, вядома. Такую дзяўчыну не любіць!

Уваходзіць Ігар, ружовы, туліцца ад холаду.

Ігар. Ну і сцюжа ў сенцах! А вада ва ўмывальніку — сіні агонь! Цела да касцей стыне!

Аляксандра Сцяпанаўна (*робячы выгляд, што разглядае кніжкі на этажэрцы*). Значыцца, вы давольны лабараторнымі вынікамі?

Андрэй. А? Так! Добрыя!

У дзверы стукаюць. Уваходзіць Далінюк.

Далінюк. Ну і мароз! Скажы за мэнэ «тпру», бо ў мэнэ губы померзлы!.. Доброго вечора!

Аляксандра Сцяпанаўна. Добры вечар!

Далінюк. Шэфствуеце? Цэ правільно! Воны, так бы мовіць самім богом — вашы подопечні. Під вашым крылом!

Аляксандра Сцяпанаўна (*жартам, безнадзейна*). Мала толку з гэтага крыла! Не слухаюцца. Беспарадак заўсёды... Падкажу каменданту, каб выселіў на мароз!

Андрэй. Аляксандра Сцяпанаўна, гэта бесчалавечна!

**Аляксандра Сцяпанаўна.** З вамі інакш нельга!

Уваходзіць **Яўгень.**

**Яўгень.** Мама, там прыйшлі...

**Аляксандра Сцяпанаўна.** Іду. *(Выходзіць.)*

**Далінюк.** Пораіцца, зайшоў, друзі. Ёсць заказ — сьогодні атрымалы.

**Андрэй.** Заказ?.. Больш канкрэтна?

**Далінюк** Аўтамат! Шчоб стругаць кромкі стальных лістоў. Цэй аўтамат будэ толькі звэном велыкой аўтаматычнай лініі. На лінію будуць падаваць стальні лісты, аўтаматы іх вырыўняюць *(услед за сваімі словамі паказвае, што яны зробяць)*, абстругаюць кромкі ім, згорнуць лісты ў трубы, зварць і выпусцяць ужо гатові трубы!

**Андрэй.** Тэхнічнае заданне ў вас?

**Далінюк.** У канструктарскім бюро. Заўтра пакажу. Усю аўтаматычну лінію будуць рабіць некалькі заводаў... Адзін аўтамат даручэно, як вы вжэ знаетэ, нам...

**Яўгень.** Для чаго гэтыя трубы?

**Далінюк.** Звісно. На газаправоды, нафтаправоды...

**Яўгень.** О!

**Ігар.** Але ж для стругання кромак ужо ёсць аўтамат Грачова.

**Далінюк.** Аўтамат Грачова не задаволюе. Міністэрства просіць новы... Цэ діло мы думаемо даручыць вам.

**Андрэй.** Вунь яно што!

**Далінюк.** Вядучым канструктарам пагодылысь рэкомендаваць вас, Ігар Іванавіч.

**Ігар.** Дзякую. *(Ён не ўзрадаваўся. Вестка гэта яго нават занепакоіла.)*

**Далінюк.** Заўтра мы дамовімся пра всэ гаразд. Ну, і піду. *(Выходзіць.)*

Ігар каля люстры прычэсвае валасы.

**Андрэй.** Ну-с, па шчырасці, з цябе належыць, таварыш вядучы канструктар!.. Кромкастругальны! На такім заводзе! Належыць!

І г а р. Чую.

Я ў г е н ь. Нішто сабе! Важнае заданне!

А н д р э й. Ты чаму такі дзіўны?

І г а р. Які? Адыдзі...

А н д р э й. Няўжо ты яшчэ можаш думаць пра тое, каб кінуць усё і ехаць?!.

Ігар маўчыць.

А н д р э й. Ігар, не рабі глупства. Ты не павінен ехаць. Ты цяпер, калі хочаш, не маеш нават права!

І г а р. Не маю права? Хто ў мяне яго адабраў?

Я ў г е н ь. А заказ як жа?

І г а р. Андрэй, я еду, паўтараю, не для гульбы-забавы. Я хачу пачаць нарэшце працаваць, па-сапраўднаму. Мне надакучыла гэтая саматужнасць!

А н д р э й. Саматужнасць?! Гэта — саматужнасць? Дзе ты знойдзеш такі прастор для працы?

І г а р. Нашто драматычны тон? Я разумею, што жыць тут карысна — для мозгу, для кровазвароту. Гэта мне вядома яшчэ ад Грачова, і таму не будзем спрачацца. Лічу, што на гэтым наогул лепш нашу дыскусію скончыць!

Андрэй маўчыць. І г а р апранаецца, выходзіць. Андрэй усхваляваны, ходзіць па пакоі. Яўгень са спачуваннем сочыць за ім.

Я ў г е н ь *(пра Ігара)*. Вось тып!

Андрэй не адказвае. Спыняецца ля акна, аб нечым думае.

Я ў г е н ь. Андрэй Пятровіч, не шкадуйце вы пра яго. Ёсць пра каго шкадаваць! Бярыцеся вы без яго!.. Андрэй Пятровіч, а калі вам патрэбна будзе дапамога...

А н д р э й. Дык што?

Я ў г е н ь. Разлічвайце на нас! *(Схамянуўся.)* Усе хлопцы нашы, уся брыгада, кожны ваш заказ — мігам!.. Са ўсёй душою!

У дзверы стукаюць.

А н д р э й. Можаце адчыніць!

У пакой уваходзіць Г а л я. Яна, відаць, з дарогі: на паліто і чаравіках снег. У руках чамаданчык.

А н д р э й. Галя? *(Кідаецца насустрач.)*

Г а л я. Я. Я, сама.

Андрэй. Дабралася! Нос не белы?..

Галя. Дарогі ўсе занесла. Цягнік спазніўся на сэм гадзін. Сцюжа, аж дух забівае!..

Яўген, не заўважаны імі, выходзіць з пакоя.

Андрэй. Ты з вакзала аўтобусам?

Галя. Не, на таксі... *(Азіраючыся, шукаючы вачыма.)* А дзе другі жыхар? Ігар дзе?

Андрэй. Ён хутка прыйдзе.

Галя *(знарок дакорліва)*. Доўга яшчэ стаяць мне ля дзвярэй? Так сустракаюць госця?!

Андрэй *(схамянуўшыся)*. Даруй. Чамадан — сюды. А паліто — дазволь дапамагчы... *(Узрадаваны, цягне няўмела, моцна.)*

Галя. Лягчэй! Так і рукі нядоўга адарваць. Кавалер з цябе, трэба сказаць, не надта ўмелы!.. *(Аддае яму паліто, хустку. Перад люстэркам прычэсваецца.)* Ух, калматая якая!

Андрэй. У цябе чаравікі ў снезе. Разуйся... Вось пантофлі мае.

Галя. Дзякую. *(Разуваецца.)*

Андрэй. Можа, чаю прыгатаваць? Ці печку запаліць?

Галя. Дзякую, чаю не хачу. А печка *(туліцца да яе)* цёплая. Якая цёплая! І пантофлі твае мяккія, прыемныя...

Андрэй. Пантофлі як пантофлі. Да таго ж паношаныя... Бабуля летась прыслала... Дарэмна ты чаю не хочаш.

Галя. Як тут у вас добра! Мне ўсё гэта такое знаёмае, нібы я не ў першы раз бачу. Ігар усё апісаў... Ён так умее апісваць! *(Трывожна.)* Андрэй, што ў вас здарылася? Чаму гэтая тэлеграма?

Андрэй. Нічога страшнага. Напалохаў я цябе, мусіць... Раскажы лепш, як ты жывеш?

Галя. Што ж расказваць? Ігар, можа, гаварыў... Мама памерла, ведаеш?

Андрэй. Ведаю.

Галя. Напакутавалася, гаротніца! Два з палавіной гады такой пакуты! Ні ўстаць, ні варухнуцца — гэта з яснай галавой! Яна ўсё жыццё, як я помню, бегала, мітусілася. Заклапочаная заўсёды была. А тут раптам — гэты жах!

Галя заплакала. Андрэй разгублена падыходзіць да яе, не ведае, што сказаць, як супакоіць.

Андрэй. Галя! Не трэба! Ну, не трэба!..

Галя. Даруй. Прывыкла ўжо, здаецца, а тут ты... Вось бачыш, якая я? *(Выціраючы вочы.)* Толькі ўвайшла — слёзы! Андрэй, я сюды не ў госці. Пасля вашай тэлеграмы я адразу падала заяву. Каб перавялі. І мне дазволілі!..

Андрэй. Сюды?!

Галя. Да вас. Вось і зноў будзе наша тройка ў поўным зборы. Толькі мы будзем дружныя, праўда?

Андрэй хвалюецца, і Галя заўважае гэта.

Чаму ты такі?

Андрэй *(не адразу).* Ігар збіраецца ехаць адсюль.

Галя. Зусім?.. Куды?..

Андрэй. Туды. Назад. Ва ўпраўленне.

Галя. Чаго?

Андрэй. Цесна яму, кажа, тут. Саматужніцтва мучыць. Галя, буду шчыра казаць усё. Ён едзе туды, але не павінен быў бы ехаць.

Галя *(здзіўлена).* Як жа... як жа так, раптам? Чаму ж ён мне нічога...

Андрэй. Ты, мусіць, ведаеш: тут усякае даводзілася рабіць. І цікавае, і нецікавае. Дробязь найбольш... Цяпер нам далі заданне. Яго прызначаюць вядучым канструктарам. І вось ён хоча кінуць усё! Засесці ў канцылярыі. Сярод папер — «входящих» і «исходящих»!

Галя. Андрэй, чаму ж я гэтага не ведала? Чаму ён, ты не напісалі мне пра ўсё?

У пакой вяртаецца Ігар. Убачыўшы Галю, здзіўлена глядзіць на яе.

Ігар. Галя? Адкуль ты?!

Галя. Ты б спачатку прывітаўся!

Ігар. Вінават. Даруй, Галка! Гэта так нечакана!

Галя. Нечакана? А тэлеграма?

Ігар. Якая тэлеграма?

Галя. Якая? *(Дастае з сумачкі тэлеграму.)*

Андрэй. Тэлеграму, Галя, пасылаў я.

Галя. Ты? Не Ігар?

Андрэй. Я. Я адзін.

Г а л я *(амаль гнеўна)*. Ты? Навошта ты гэта зрабіў?

А н д р э й. Я баяўся, што, калі я адзін падпішу, ты не прыедзеш...

І г а р *(чытае)*. «Калі можаш, прыедзь важнай справе. Патрэбна твая дапамога. Ігар. Андрэй». Так. Цікава! *(Андрэю.)* Для чаго гэта? Падтрымку хацеў знайсці? *(Да Галі.)* Спадзяюся, у цябе ўжо ёсць поўная інфармацыя?

Г а л я. Ігар, гэта праўда?

І г а р. Што? Што я еду?

Г а л я. Так. І што ты кідаеш усё?

І г а р. Я не кідаю нічога. Я еду набываць.

Г а л я. Дзе? У канцылярыі ўпраўлення?

І г а р. Я ў канцылярыі буду часова... Я вымушаны сапайсці на гэта, як на масток, які наблізіць мяне да сапраўднай справы. Я спадзяюся, што там хутка змагу паступіць у аспірантуру, у свет сапраўдных праблем, вялікай навукі. Галка, мне гэта неабходна. Разумееш, неабходна. Я хачу развіць некаторыя важныя тэарэтычныя палажэнні. Палажэнні, якія, я спадзяюся, адкрыюць новы раздзел у аўтаматыцы...

А н д р э й. Што ж табе не дае развіваць іх тут?

І г а р. Я табе ўжо ўсё растлумачыў. Не хачу паўтараць.

А н д р э й. Ты растлумач ёй.

І г а р. Ёй я растлумачу асабіста.

А н д р э й. Растлумач. *(Выходзіць.)*

Г а л я. Ігар! Я ўзяла перавод... Я пераязджаю...

І г а р. Куды?

Г а л я. Сюды.

І г а р. Нашто ты гэта зрабіла?

Г а л я. Ты пытаешся? Няўжо ты не ведаеш?.. Я так чакала, калі мы зможам нарэшце быць разам...

І г а р. Я разумею. Але хіба... нельга было пачакаць?

Г а л я. Пачакаць?! *(Раптам насцярожана.)* Хто цябе выклікае туды?

І г а р. Хто? Упраўленне. І Грачоў.

Г а л я. Грачоў цябе сюды паслаў.

І г а р. Відаць, перадумаў.

Г а л я. Ён быў супраць працы ва ўпраўленні!

**І г а р** *(пасля паўзы)*. Я лічу, што магу не апраўдвацца.

**Г а л я.** Чаму ты не сказаў пра гэта раней? Чаму ты таіў?

**І г а р.** Пакуль не было чаго гаварыць...

**Г а л я.** Ты таіў!

Паўза.
Галя насцярожана сочыць за Ігарам, за кожным яго рухам. Ёй раптам адкрываецца — гэта відаць па яе занепакоеным твары — нешта нядобрае, але яна не хоча верыць. Ігар неспакойна ходзіць.

Ігар, чаму ты маўчыш? Ты чуеш?

**І г а р.** Што табе сказаць!..

**Г а л я.** Ты не ведаеш? *(Са страхам.)* Ігар, ты мяне... не любіш!

**І г а р.** Пры чым тут любоў?

**Г а л я.** Не любіш! Не любіш!

**І г а р.** Што ты выдумляеш, Галя? Нашто табе гэта?..

**Г а л я** *(горка)*. Сустрэліся! Нарэшце!

**І г а р.** Я цябе, прабач, проста не разумею. У рэшце рэшт, я не бачу ва ўсім гэтым нічога жахлівага. Ты ж таксама можаш вярнуцца.

**Г а л я.** «Можаш»?..

**І г а р.** Ну, калі трэба больш дакладнае слова: павінна. Вярніся...

**Г а л я.** Для чаго?

**І г а р.** Я думаю, гэта вядома.

**Г а л я.** Цяпер я не ведаю. Каб бегчы за табою?

**І г а р** *(з крыўдай)*. Ну, што ж, калі так — я магу і застацца!

**Г а л я.** Гэта што — ахвяра?

**І г а р.** Ты хочаш гэтага — я застаюся. Задаволена?

**Г а л я.** Мне ахвяры тваёй не трэба!

**І г а р.** Я сказаў: застаюся. Радуйся...

Галя не стрымалася, заплакала. Уваходзіць **А н д р э й.**

**А н д р э й.** Можна ўвайсці?.. Галя, што ты, што з табой?

**Г а л я** маўчыць, стрымліваючы боль. Раптам яна зрывае з вешалкі паліто, кідаецца з пакоя.

**І г а р.** Куды ты?! *(Спрабуе затрымаць яе, але яна не слухаецца, выбягае.)* Галя! Галя!

Ігар кідаецца ўслед за ёй. Андрэй, усхваляваны, задумёны, неспакойна ходзіць па пакоі.

*Заслона*

## *ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пакой Галі. Ён падобны на той, што і ў другой карціне. Пасярэдзіне яго стол, два крэслы, каля адной сцяны чарцёжны стол, каля другой канапа. Ля канапы этажэрка з кнігамі, на этажэрцы некалькі флакопчыкаў, статуэтка. Над канапай фотакартка маці. За шырокім акном у сіняватым прыцемку відны асветленыя вокны дома, блізкія і далёкія агні і агеньчыкі. У пакоі Андрэй і Галя — чытаюць, крэсляць, запісваюць. Андрэй сядзіць за сталом, Галя, схіліўшыся над кнігай,— на канапе. Пад рукой у яе падушачка, ногі прыкрыты шалем. Яна, відаць, не зусім здаровая.

Галя. Колькі гэта часу?

Андрэй. Не ведаю. Гадзіннік дома пакінуў...

Галя. Паглядзі мой. На этажэрцы.

Андрэй. Ужо без семнаццаці адзінаццаць!.. Дзіва!

Галя. Угу!.. *(Дастае новую кнігу, раскрывае, стомлена адкідваецца на спінку канапы.)* Штосьці мне не працуецца!

Андрэй. Дзіва! Толькі што з бальніцы... Прастуда гэтая твая не ў час прыйшла.

Галя. Нібы хвароба бывае ў пару! Я ніколі раней не думала, што так цяжка звычайную задачу рашыць!..

Андрэй. Збоку ўсё здаецца простым... Адтуль усе лічаць сябе стратэгамі.

Галя. Колькі закавык!..

Андрэй. Нічога! А ты часам падымі вочы ад чарцяжоў, пафантазіруй крыху... *(Задуменна.)* Людзі вызвалілі энергію атама. А мы... такія аўтаматы, як наш, будуць вызваляць энергію, якую вякамі губіла ў чалавеку стома. Чалавек не будзе стамляцца. *(Захапляючыся.)* Энергія розуму будзе ўся, цалкам, аддадзена самаму прыгожаму — творчасці.

Г а л я. Філосаф ты!..

А н д р э й *(пасля паўзы).* Мне здаецца, што я толькі цяпер па-сапраўднаму вучуся. Быў у інстытуце, думаў — усё ведаю! А тут, як прыйшлося, аказваецца — невук!.. І таго не ведаеш, і другога. Вось хоць бы гідраўліка... Што я ведаў у ёй? *(Чытае. Галю хіліць на сон, яна цяжка адольвае дрымоту).* Нашаму брату настойлівасць патрэбна. Да зарэзу. І вера вялікая. Без гэтага не будзе нармальнага кровазвароту, як кажа Грачоў. *(Зноў чытае. Галя то задрэмле, то абудзіцца.)* Усё-такі мы зробім нешта сваё!

Г а л я *(праз сон).* ... сваё...

А н д р э й. Што сказала? Сваё? *(Крэсліць у сшытку, заглядваючы ў кнігу.)* А ты ведаеш, я не думаў — ад душы,— што ты такая настойлівая, такая вынос... такая вынослівая! *(Заўважае — Галя схіліла галаву на грудзі, спіць. Устае збянтэжаны, разважыўшы, асцярожна памагае ёй легчы. Кладзе падушку пад галаву. Прыкрыў лямпачку так, каб святло не падала на Галю.)* Стамілася... У, не мог здагадацца! *(Падумаўшы, накрыў Галю паліто.)* Вось так! Спі! *(Сеў за стол. Чытаючы, час ад часу лагодна пагдядвае на яе.)*

У дзверы стукаюць. Уваходзіць Д а л і н ю к.

Д а л і н ю к *(голасна).* Прошу велікодушна пробачыць, шчо ўворвався. Іду и поезда, бачу — вогнік...

Андрэй прыкладвае палец да рота, паказвае ў бок Галі, якая спіць. Далінюк моўчкі ківае галавою, ступае асцярожна, на пальчыках. Кладзе на стол пакунак.

А н д р э й. Ёй?

Д а л і н ю к. Нэ тобі ж! Вона, мабуць, любыць солодкае...

А н д р э й *(успомніўшы).* А я вас бачыў сёння ў сне.

Д а л і н ю к. В сні? З чого б цэ? Тобі б крашчэ — Галіну чы шчэ каго такого!..

А н д р э й. Паганае снілася. Бачыў наш аўтамат... Стаіць — аграмадзіна, прыгажун... Народу сабралася, як на свята. І я — як імяніннік. Зэяю... І вось — уключыў. У мяне пахаладзела ўсярэдзіне: стварэнне наша стаіць! Я яшчэ раз уключаю — не варухнецца нішто!..

Людзі пачынаюць смяяцца. Рагочуць. А вы на мяне пальцам паказваеце — хвалько, бездар!..

Д а л і н ю к. Непрыемны сон. *(Жартаўліва).* Але бабка моя Горпына колысь казала: бачыць поганэ ў сні — то до доброго...

А н д р э й. На душы прыкра! *(Азірнуўся на Галю, потым насцярожана — на Далінюка: што ён падумае пра гэта?)*

Д а л і н ю к. Шчо ж цэ господыня спочывае?

А н д р э й. Працавалі. Ну, і — пасля хваробы — не вытрымала!... А наогул — працаўніца!

Д а л і н ю к. Жынкі — народ упарты!

А н д р э й. Не ўсе! Ад душы — такіх, як яна... *(Стрымаўся.)*

Д а л і н ю к. Праўда?.. *(Пасля паўзы.)* Вазоўскі не заходзіць сюды, не цікавіцца?..

А н д р э й. Заходзіць...

Д а л і н ю к *(кінуўшы ў бок Галі).* Перажывае?

А н д р э й. Не ведаю. *(Хоча змяніць гаворку.)* У тупіку мы, Васіль Паўлавіч!..

Д а л і н ю к *(зірнуўшы ў бок Галі).* Відомо, у тупіку.

А н д р э й. Не, я не пра тое. Пра заказ... Ніяк не магу дадумаць. Думаю, думаю — аж галава пухне... Чытаю, гару кніг перачытаў — і хоць бы што!..

Д а л і н ю к. Ага, здогадуюсь, пра шчо ты... Цэнтраванне? І шчо, так нічого і не прыдумав?

А н д р э й. Ёсць накіды...

Д а л і н ю к. Пакажы!

А н д р э й. Не, Васіль Паўлавіч, не магу!

Д а л і н ю к. Чаму?

А н д р э й. Не тое! Сам ведаю — не тое... Складана. блытана. Не тое! Адчуваю сябе — ад душы — самым нікчэмным чалавекам на зямлі!

Д а л і н ю к. Сурово дужэ!

А н д р э й. Людзі чорт ведае што вынаходзяць! Атамам упраўляюць!.. А я...

Д а л і н ю к. Цэ часово. Пройдзе. Одразу, як тольк выйдзеш з тупіку!

А н д р э й. І, чорт пабяры, адступіцца не магу! Не магу!

Д а л і н ю к *(з запалам, павышаючы голас).* Трэба рассеяцца. Супакоіцца. У тэатр сходыць з Галяй. Чы

заняцца чым-небудзь... Мендзялееў быў таксама нэ поганы вучоны, а для адпачынку робів чамаданы, пераплятав кнігі...

Андрэй. Мендзялееў!..

Іх размова разбудзіла Галю. Яна падымаецца.

Галя *(збянтэжана)*. Як гэта я?

Далінюк. Цэ дужэ просто, колы здоров'я слабе.

Галя. Сама не заўважыла.

Далінюк. Я, мабудзь, розбудыв? Пробачтэ...

Галя. Нічога.

У дзверы стукаюць. Уваходзіць Ігар. Ён задуменны, заклапочаны.

Ігар. Зайшоў праведаць. Як здароўе?

Галя. Дзякую. Добрае.

Маўчанне. Усе адчуваюць сябе няёмка.

Далінюк. Андрэй Пятровіч... я штось хотів у вас запытацца...

Далінюкківае на дзверы. Ён і Андрэй выходзяць. Паўза.

Ігар. Галя... Мне так цяжка стала гаварыць з табою.

Галя. Што ты хочаш мне сказаць?

Ігар. Я многа думаў пра нашы адносіны і рашыў — мне ўсё ж трэба ехаць...

Галя. Калі рашыў, то едзь...

Ігар. Я не магу тут сядзець. Не магу больш!.. Мне трэба прастор вялікага горада, вялікага жыцця! Я задыхаюся тут. Ты разумееш?

Галя. Баюся, што ты памыляешся. Што цябе спакушае не тое, што табе трэба! Ты ахвяруеш такой справай...

Ігар. Я ахвярую ў імя большага, у імя... Не хачу паўтараць, ты ведаеш, у імя чаго. Я буду табе пісаць. Не крыўдуй.

Галя *(стрымана)*. Пастараюся...

Паўза.

Ігар. Можа быць, разлука зноў зблізіць нас...

Галя. Пабачым!..

І г а р *(адчуваючы вінаватасць, адольваючы яе, зайважае чарцяжы)*. Што гэта?

Г а л я. Гэта Андрэй пакінуў. Думаем...

Ігар нечакана зацікавіўся, схіліўся над чарцяжамі.

І г а р. Не там, не там ён шукае, памыляецца. Тут трэба плунжэры. Ясна? Як ён не разумее? Скажы яму!

Г а л я *(сумна назіраючы за ім)*. Скажу.

Ігар схамянуўся, адышоў ад чарцяжоў.

І г а р *(няёмка)*. Я ўжо аформіў перавод...

Г а л я. Аформіў?! Ну, што ж...

Уваходзіць А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а, нясе Галі на сподачку шклянку цёплага малака.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а *(строга)*. А... праведаць рашылі?

І г а р. Развітацца вось прыйшоў.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а *(ставіць шклянку перад Галяй, Ігару)*. Развіталіся?

І г а р. Так. Увогуле, так... развітаўся...

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Дык — дзякуем за ласку!

І г а р. Іду. *(Галі.)* Я сёння ноччу еду.

Г а л я. Што ж, едзь.

І г а р. Бывай. *(Нечакана.)* Дай я цябе пацалую...

Аляксандра Сцяпанаўна адварочваецца. Ігар цалуе Галю.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а *(нядобра)*. Не спазніцеся на цягнік. *(Амаль выводзіць Ігара. Вяртаецца.)* Выпі вось малака.

Галя не адказвае, нібы не чуе.

Пабераглася б ты. Яшчэ не паправілася, а ўжо... *(Бачыць, што Галя сумная, здагадваецца, што яна, мусіць, думае пра Ігара, пра развітанне, хоча адвесці ад яе невясёлыя думкі. Паказваючы на чарцяжы.)* Як справы ідуць?

Г а л я. Ніяк.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Нічога. З Андрэем Пятровічам вы даб'ецеся свайго. Які ён быў у інстытуце?

**Г а л я** *(з намаганнем, адольваючы смутак).* У інстытуце, Аляксандра Сцяпанаўна, ніхто не лічыў Андрэя асабліва здольным.

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Чаму гэта?

**Г а л я.** Не ведаю... Ён прыйшоў з арміі. Старэйшы быў за многіх. І яго лічылі як бы пераросткам. І сур'ёзнасць яго тлумачылі гадамі, узростам...

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Выдумалі! Веру я ў яго!..

Боль, смутак, якія Галя стрымлівала, прарываюцца. Горка, няўцешна рыдаючы, яна апускаецца на канапу. Аляксандра Сцяпанаўна сядае побач з ёй, пяшчотна гладзіць яе галаву, плечы, стараецца супакоіць.

Нічога, дачушка, перабаліць...

**Г а л я.** Пасля выпускнога банкета я, Ігар і яшчэ некалькі чалавек ішлі разам. Раніца была. На вуліцы — ні душы... Ігар... Якая я тады была шчаслівая! А аказалася, што ўсё гэта адзін прывід.

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Мы часамі лічым за шчасце толькі жаданне, чаканне шчасця і людзей бачым такімі, якімі нам хочацца.

**Г а л я.** Як мне крыўдна, як мне, цёця Саня, горка!.. Божа мой, чаму я ўсё думаю пра яго? Сама не ведаю, што са мной. Туман з вачэй маіх спаў, а боль не сціхае.

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Сціхне. Не такое сціхае. А аб гэтым я шкадаваць бы не стала.

**Г а л я.** Мы... мы блізкія былі. Ён як... муж мне быў... Жыць збіраліся разам. *(Зноў плача.)*

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Жыць збіраліся!.. Збіраліся, прыгледзеліся — разышліся. І на добрае. На добрае. *(Задуменна, вельмі шчыра.)* У мяне таксама калісьці было... таксама думала — не перажыву... Ён, Грачоў Аляксей, быў не гэтаму Ігарку пара. І любіў, здаецца, па-сапраўднаму.

**Г а л я.** Які Грачоў?

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Аляксей. Аляксей Сяргеевіч.

**Г а л я.** Аляксей Сяргеевіч! Дык... што ж вы?..

**А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а.** Позна сустрэліся. Спазніліся. Жанаты ён быў, калі злюбіліся. Дачка ў яго была...

**Г а л я.** Ала.

Аляксандра Сцяпанаўна. Не любіў ён жонкі, пакінуць яе рашыў, а без дачкі жыцця не бачыў. Так і было: тут — я, а там — дачка, а ён між нас, пасярэдзіне. Як плытнік: плыве і не ведае, да якога берага прыстаць. Перажываў ён, і я перажывала... А кінуць, парваць — не магла, бо любіла.

Галя. Моцна любілі?

Аляксандра Сцяпанаўна. Моцна... Потым скончылася яго тут праца. Выклікалі яго зноў у інстытут. Хацеў ён тады ўзяць мяне. Але я не згадзілася.

Галя. Чаму?

Аляксандра Сцяпанаўна. Сям'я ж у яго была. Дачку ён вельмі любіў. Думала, што не будзе ён шчаслівы без дачкі сваёй. Палова душы яго была там.

Паўза.

Як паехаў ён, засумавала, загаравала. Здалося, быццам нікога ў свеце больш няма, толькі ён. Адзін ён. Але як успомню — дачка ў яго, любіць ён яе,— сэрца адразу і пацверазее... Потым прыйшла новая трывога...

Галя. Што?

Аляксандра Сцяпанаўна. Даведалася, што і ў мяне дзіця будзе, ад Аляксея.

Галя. Дзіця? А Аляксей Сяргеевіч, што ж ён?

Аляксандра Сцяпанаўна. Не напісала я яму. Ён потым ужо даведаўся. Калі Жэня падрос.

Галя. Чаму ж вы ад яго хавалі?

Аляксандра Сцяпанаўна. А нашто было напамінаць? Жыццё толькі хмарыць і сабе і яму. Калі ўжо разыходзіцца, дык адразу, назусім. А што да Жэні, то хіба мала яму маёй ласкі? Так думала...

Галя. Што ж вы, так і жылі? Адна? Усё жыццё адна?

Аляксандра Сцяпанаўна. Удваіх. З Жэнем.

Галя. І не спаткалі больш нікога?

Аляксандра Сцяпанаўна. Так з адным каханнем і пражыла.

Галя *(задуменна)*. Каханне, што яно такое — каханне?

Аляксандра Сцяпанаўна. Здаецца, у кожнага яно сваё.

Галя. Кажуць, гэта самае лепшае... Ці сапраўды яно такое? У ім жа не толькі шчасце... І невядома, чаго ў ім больш, добрага ці злога. *(З роздумам.)* А можа, Ігар і не так ужо вінаваты?

Аляксандра Сцяпанаўна. «Не вінаваты»!

Галя. Ён не такі, як усе, ён — талент. Ён ірвецца к навуцы, к вялікай будучыні... А тут — я, на шляху. Што ж яму?.. Адмовіцца ад будучыні?

Аляксандра Сцяпанаўна. «Адмовіцца»... Калі ён талент, то яму і крыўдзіць можна?..

*Заслона*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Кватэра Грачова. Гасціная. Стыльная мэбля, піяніна, на сцяне карціны, фота. Адна з карцін, добра відная,— нацюрморт. Уся абстаноўка гаворыць пра тое, што гаспадыня сочыць за пакоем, што яна любіць жыць прыгожа, утульна.
З гасцінай адны дзверы вядуць у прыхожую, другія — у кабінет прафесара.
За піяніна ў шаўковым халаце сядзіць Ала, іграе. Звініць званок.

Ала. Арына!

Ніхто не адгукаецца.
Ала нездаволена ўстае, ідзе адчыняць. З калідора, узрадавана:

А! Гэта ты! Вось малайчына!

Яна вяртаецца з Ігарам. Увайшоўшы ў пакой, Ігар падносіць Але кветкі.

Ала. Што гэта? Адкуль кветкі?

Ігар. Кветкі палёў. Ездзілі з мамай дачу шукаць.

Ала. Ты проста з вакзала?

Ігар. Проста. Не заходзячы дамоў... Ведаеш, знайшлі — побач з вашай!

Ала. Ты — геній. *(Цалуе яго.)*

Паяўляецца Анна Апанасаўна. Ала хутка адыходзіць ад Ігара, робіць выгляд, нібы папраўляе абрус.

Анна Апанасаўна. А, Ігар Іванавіч! *(Па-сяброўску падае руку.)* Як здароўе?

Ігар. Наогул — добрае, калі не лічыць дробязі.

Анна Апанасаўна. Якой дробязі?

Ігар. Трошкі пад рабром паколвае! Прастудзіўся, ці што?

Анна Апанасаўна. Добрая дробязь! Прастрэл відаць.

Ала. Гэта недзе скразнячок нарабіў. Адчыненае акно!

Ігар. Ніколі такога не было раней. Не хварэў.

Анна Апанасаўна. Трэба асцерагацца, берагчы сябе... Хочаце, я вас прафесару Трубчэўскаму пакажу?

Ігар. Дзякую, Анна Апанасаўна. Але не варта турбавацца.

Анна Апанасаўна. Не, не, Ігар Іванавіч! Не кажыце, такімі рэчамі нельга жартаваць. Што ж вы стаіце? Будзьце як дома! Ала!

Ігар. Дзякую! Не турбуйцеся.

Анна Апанасаўна. Пайду. Не буду замінаць. *(Ігар хоча запярэчыць, але яна не дае яму сказаць.)* У маладых — маладыя размовы. А Барысу Аркадзьевічу я сёння ж пазваню пра вас... *(Выходзіць.)*

Ігар *(узіраючыся ў Алу)*. Ты нечым, Алік, занепакоена? Што здарылася?

Ала *(стрымана)*. Не пытайся!.. Не хочацца зараз казаць... Дарэчы, я пісьмо атрымала.

Ігар. Непрыемнае?

Ала. Звычайнае. Ад мужа... Ультыматум. Патрабуе прыехаць... Што рабіць, не ведаю...

Ігар. Што? Твой лёс у тваіх руках.

Ала *(хвалюючыся)*. Не люблю я яго! Якое я глупства зрабіла!

Ігар *(знарок)*. Чаму ж ты, даруй за цікаўнасць, разлюбіла?

Ала. Чаму? Ты б яшчэ запытаўся, чаму я палюбіла? Ведаеш, часам нібы зацьменне находзіць, розум траціш. Мы пазнаёміліся на катку, у парку Горкага. Снег пераліваецца, іскрыцца. Потым — лес у інеі, як казка. І ён здаўся казкай. Цар Берандзей! А я — лясная царэўна.

Ігар. Рамантычна.

Ала. А потым аказалася — ніякай казкі няма. Нудны ён, халодны, раўнівы. І шэры-шэры. Як кавер-кот... Я ўздыхнула з палёгкай, калі яго перавялі... Та-

ды пачалі пісьмы трывожыць. Кожнае — як напамінак, прыкры і дурны напамінак... Вось. Цябе не здзіўляе такая шчырасць?

І г а р. Я цаню яе, Алік.

А л а. Я толькі табе паказваю душу сваю. Для ўсіх іншых Ала будзе заўсёды бесклапотнай і легкадумнай... Ты не падобны на іншых. Ты — прынц. Ці не, ты — Герман, у якога закахалася бедная Ала... Калі ты быў у Крутым Яры гэтым, я пра цябе думала ледзь не ўвесь час. Я таму і пісала часта. Не магла не пісаць... Злавалася і — пісала...

І г а р. Чаму злавалася, бедная Ліза?

А л а. Таму, што Герман любіў мала. Раўнавала да Галі... Смешна, праўда?

І г а р. Не, не смешна.

А л а. Жонка, і — раўнуе чужога! Дурніца!.. Я сёння ж напішу яму! Сур'ёзна... Усё кончу... Надакучыла! *(Мяняе гаворку.)* Дарэчы, Захар Міхайлавіч быў учора вельмі незадаволены, што ты не скончыў цыркуляра ў Круты Яр.

І г а р *(з выразам нуды)*. Не гавары пра іх хоць сёння.

А л а. Так яны цябе хвалююць?

І г а р *(падражаючы начальніку, пагардліва перадае яго жэсты, тон)*. «Усё гэта сведчыць аб нездавальняючай рабоце завода... Такое становішча далей не можа быць цярпімым...»

А л а. Ты так добра падрабляешся. Разумець начальства — на гэта таксама талент патрэбен.

І г а р *(іранічна)*. Я хутка магу стаць падобны на яго так, як цень бацькі Гамлета на самога бацьку... Цень начальніка! Двайнік!.. Нуда! Зялёна-жоўтая нуда!

А л а. Няўдзячны ты! Які няўдзячны! Я столькі старалася. І вось табе — падзяка!

І г а р. Ведаеш, я адчуваю, што станаўлюся інжынерам паперы, душа мая афарбоўваецца фіялетавым чарнілам. Павесіцца можна! Я прадчуваю, што аднойчы і павешуся. На дзвярах сваёй канцылярыі.

А л а. Вярніся ў Круты Яр.

І г а р. Не магу. Мне і цяпер — ледзь толькі ўспомню яго — робіцца нудна і холадна.

А л а. Калі я толькі паступіла ў інстытут, мы най-

малі пакой у вёсцы. У нас тады дачы яшчэ не было. Ведаеш, які гэта быў жах — свінні, смурод, мухі!.. Я ледзь вытрымала некалькі дзён! Вось заклікаюць — едзьце на перыферыю, а як ехаць — я не магу без утульнасці! Без канцэртаў, без Баха! *(Раптам бесклапотна.)* Прынц мой добры, ты вольны заўтра?

І г а р. А што?

А л а. Ёсць два білеты на канцэрт Рыхтэра. З тытанічнай цяжкасцю дастала.

І г а р. Дзякую. Але, на жаль, буду заняты. Трэба ў лабараторыю...

А л а. Будуць фугі Баха, Бетховен!

І г а р. Сумленне грызе за дысертацыю. Без лабараторных доследаў я не магу рушыць ні на крок.

А л а. Рыхтэр, Бах, Бетховен,— ты разумееш, варвар?

І г а р. Не магу. Я і так ужо многа адкладваў.

А л а. Не, ты не прынц, ты — брыдкі Герман. Многа разоў адкладваў? Ну і яшчэ раз адкладзі! Бяда якая!

І г а р. Мітусішся, завіхаешся, хапаеш усё, баішся ўпусціць! І ўсё ж ніяк не ўпраўляешся. Сутак мала...

А л а. Дзівак ты, мілы! *(Туліцца да яго, цалуе.)* Але што гэта мы стаім тут? Хадзем да мяне, мой прынц.

І г а р. Ахвотна, Золушка.

Выходзяць.
Уваходзіць А н н а  А п а н а с а ў н а. Аглядае пакой, тоесёе папраўляе.

А н н а  А п а н а с а ў н а *(кліча)*. Аляксей. *(Мацней, больш настойліва.)* Аляксей!

Уваходзіць Г р а ч о ў.

Г р а ч о ў. Ну, што? Я прасіў не турбаваць!

А н н а  А п а н а с а ў н а. Трэба ж табе зрабіць перапынак. Адпачыць. Аляксей, ты зусім не думаеш пра дачку.

Г р а ч о ў. Проста дзіўна, як не ў час ты ўмееш пачынаць такія размовы.

А н н а  А п а н а с а ў н а. Табе яны заўсёды не ў час... Ігар Вазоўскі прыйшоў. Ты не думаў, чаму ён... наведваецца так часта?

Г р а ч о ў *(думаючы пра нешта іншае)*. А што?

А н н а  А п а н а с а ў н а *(дыпламатычна, тоячы намер)*. Ігар робіць такое ўражанне, быццам ён з інтэлігентнай сям'і. Проста цяжка ўявіць, што бацька яго быў усяго звычайны каваль.

Г р а ч о ў. Што з таго, што каваль! А я хто — стаўбавы дваранін? Не са свінапаса кар'еру пачаў?

А н н а  А п а н а с а ў н а. Калі сочыш за ім, здзіўляешся, адкуль у яго такая культура, тактоўнасць...

Г р а ч о ў. У гэтым ён, вядома, перагнаў. Зрэшты — ён, можа быць, нарадзіўся для немалых спраў.

А н н а  А п а н а с а ў н а. Вось-вось!

Г р а ч о ў. Але ён амаль не працуе.

А н н а  А п а н а с а ў н а. Ён усё роўна дасягне больш, як некаторыя, што лезуць угару з усіх сіл... Вялікім чалавекам будзе... Гэта будучы акадэмік ці міністр! Я прадчуваю, я ўпэўнена. Пабачыш... Толькі маці ў яго нейкая... нязграбная...

Г р а ч о ў. А што табе да маці?

А н н а  А п а н а с а ў н а. Так... Знаёмыя ж... Ну, але гэта нішто. *(Трывожна.)* Аляксей, ты не ведаеш, у яго няма, выпадкова, жонкі?

Г р а ч о ў. Якой жонкі? Навошта гэта табе? А! Ты ці не жаніць іх надумала?!.

А н н а  А п а н а с а ў н а. Яны самі не дзеці.

Г р а ч о ў. Не дзеці? Замест таго, каб аберагчы дачку ад легкадумнага, непрыгожага ўчынку, ты сама ёй патураеш!

А н н а  А п а н а с а ў н а *(зірнуўшы ў бок Алінага пакоя)*. Цішэй ты!..

Г р а ч о ў. Няхай чуе! Яе гэта датычыцца!.. Я скажу гэта ёй у вочы!

А н н а  А п а н а с а ў н а. Цішэй ты!.. Спадзяюся — не цяпер...

Г р а ч о ў. Цяпер скажу!

А н н а  А п а н а с а ў н а. Там — Ігар.

Г р а ч о ў *(рашуча)*. Ала!

А н н а  А п а н а с а ў н а. Адумайся!

Уваходзіць А л а.

А л а. Ты клікаў мяне, тата?

Г р а ч о ў. Так, я клікаў. Мы павінны пагаварыць.

А л а. Аб чым, тата? Што здарылася?

**Грачоў.** Здарылася тое, што я з некаторага часу не разумею цябе... Тваіх паводзін!

**Ала.** Чаму гэта?

**Грачоў.** У цябе муж, а ты дазваляеш сабе такі адкрыты флірт!

**Ала.** Ты кажаш пра маю дружбу з Ігарам? Я не бачу ў гэтым нічога нядобрага...

**Анна Апанасаўна.** І я таксама.

**Ала.** Мы з Ігарам — даўнія сябры!

**Грачоў.** Ваша сяброўства мне не падабаецца! Я зноў атрымаў пісьмо ад Анатоля... *(Выходзіць у кабінет, вяртаецца з пісьмом.)* Вось! Чытай! Ён чакае цябе!

**Ала.** Я ведаю.

**Грачоў.** Табе нельга больш адцягваць ад'езд. Ты павінна ехаць да яго.

**Ала.** Я не паеду!

**Грачоў.** Не паедзеш? Чаму?

**Ала.** Не магу.

**Грачоў.** Што значыць — не магу?

**Ала.** Я не люблю яго...

**Анна Апанасаўна** *(падтрымліваючы)*. Яна яго не любіць.

**Грачоў.** Ужо не любіш?

**Ала.** Я памылілася, ашукалася. Я каюся за гэты свой учынак.

**Грачоў.** Як ты можаш каяцца, амаль не ведаючы яго?

**Ала.** Я рашыла напісаць пісьмо, прасіць развод.

**Грачоў.** Развод?

**Ала.** Так!

**Анна Апанасаўна.** Яна гэта сур'ёзна абдумала.

**Грачоў** *(узрушана)*. Я разумею, гэта ён, Вазоўскі, усяму прычына...

**Ала.** Ён не вінаваты ні ў чым!.. Я люблю яго.

**Анна Апанасаўна.** Яна любіць яго.

**Грачоў.** Любіш? Паверым... А ты ўпэўнена, што ён, Вазоўскі, таксама любіць цябе?

**Ала.** Любіць. Я ведаю. Мы любім адно аднаго.

**Грачоў.** Але ж ён яшчэ зусім нядаўна, калі не памыляюся, любіў другую. У яго ў інстытуце была Галя Жураўка. Як жа гэта разумець?

**Ала.** Яны... Яны разышліся. Ён пакінуў яе.

Г р а ч о ў. Разлюбіў яе? Сёння адну палюбіў, заўтра — другую! *(Узрушана ходзіць. Спыніўся, рашуча.)* Ты жывеш бяздумна, як птушка! І пуста... Ты павінна працаваць — як усе. Я магу цябе ўладзіць! На сапраўдную працу!

А л а. У мяне ўжо ёсць праца.

Г р а ч о ў. Гэта не праца! Гэта — марнатраўства!

А л а. Не ўсім быць канструктарамі.

Г р а ч о ў. Але ўсе павінны займацца сапраўднай працай! А не прыкідвацца...

А л а. Тата, мы пагаворым пра гэта потым.

А н н а А п а н а с а ў н а. Чым табе гэтае ўпраўленне шкодзіць?

Г р а ч о ў. Не разумееш! Вось вырасцілі матылька, выхавалі, а ты ўсё не разумееш?

А н н а А п а н а с а ў н а. Ты адзін разумееш!

Грачоў кінуў на яе гарачы, непрыхільны позірк, але стрымаўся. Неспакойна захадзіў па пакоі.

Г р а ч о ў *(зірнуўшы ў бок пакоя, дзе Ігар)*. Пра што ён думае?!

А н н а А п а н а с а ў н а. Ты хоць яго ўжо не чапай.

Г р а ч о ў. А што ён за такая недатыкальная асоба, што яго і крануць нельга? *(Падыходзіць да дзвярэй.)* Малады чалавек, зрабіце ласку... дазвольце вас на хвілінку.

А л а. Тата, што ты надумаў?

Уваходзіць І г а р.

Г р а ч о ў. Даруйце, што патурбаваў. Але я павінен пагаварыць з вамі — высветліць, так сказаць, некаторыя нашы ўзаемныя дачыненні.

І г а р. Я слухаю.

Г р а ч о ў. Вам вядома, што мая дачка — замужам?

А л а. Тата!

Г р а ч о ў. Вам вядома, што заляцацца да замужняй — непрыстойна?

І г а р. Я люблю яе.

А л а. Мы любім адно аднаго!

А н н а А п а н а с а ў н а. Аляксей, ты думаеш, што гаворыш?

Грачоў. Мне не падабаюцца вашы заляцанні да маёй дачкі... Як бацька я адношуся да гэтага непрыхільна. Так, непрыхільна! Прашу ведаць!

Ала. Тата! Я не дзяўчынка ўжо...

Ігар. Аляксей Сяргеевіч...

Грачоў. І наогул, павінен сказаць... Я ў вас расчараваўся!

Ала. Тата!

Ігар. Вы спяшаецеся, Аляксей Сяргеевіч! Я спадзяюся, што вы пераменіце сваю думку пра мяне...

Грачоў. Рад буду, калі памыляюся... Але пакуль, даруйце, бачу, што вы робіце на маю дачку нядобры ўплыў. І лічу, што вам лепш бы...

Ала. Тата!..

Грачоў. Лепш бы хадзіць сюды не так часта.

Ала. Тата, гэта не твой клопат!

Анна Апанасаўна. Ігар Іванавіч, не крыўдуйце... *(На Грачова.)* Прафесар так — не ў настроі...

Ала. Тата, я ўжо даўно не дзіця. Я сама ведаю, як жыць.

Анна Апанасаўна. Так. Сама рашаць мае права.

Грачоў *(Ігару)*. Я сказаў усё. Прашу запомніць. *(Выходзіць.)*

Ігар. Што ж, я выканаю загад прафесара. *(Збіраючыся ісці.)* Даруйце, што прынёс такі неспакой...

Анна Апанасаўна. Не крыўдуйце, Ігар Іванавіч.

Ігар. Не, я не магу, Анна Апанасаўна, не крыўдаваць. Мяне так незаслужана абразілі, што я не магу застацца...

Анна Апанасаўна. Мы з Алачкай вельмі шкадуем, што так выйшла.

Ала. Нам гэта вельмі непрыемна.

Дае Анне Апанасаўне знак, каб тая выйшла.

Анна Апанасаўна. Вы для нас заўсёды жаданы госць — былі і будзеце. Прыходзьце.

Ігар. Не ведаю, Анна Апанасаўна.

Анна Апанасаўна. Мы вас запрашаем.

Выходзіць.

Ала. Гарык, праўда, не крыўдуй!.. Не трэба!.. Гэта ўсё, урэшце, дробязь.

І г а р. Нішто сабе дробязь! Так абразілі!
А л а. Гарык, у нас ёсць... клопаты больш важныя.
І г а р. Амаль выгналі, як...
А л а. Ігар... *(Пасля паўзы, неспакойна.)* У нас будзе дзіця.

Ігар момант нібы не разумее нічога.

І г а р. Дзіця?
А л а. Дзіця.
І г а р. Маё?
А л а. Тваё! Чыё ж?

Ігар, разгублены, сеў у крэсла, устаў. Ала панура сочыць за ім, чакае.

І г а р. Ты ўпэўнена? Ты не памыляешся?

Ала маўчыць.

Пра гэта хто-небудзь ведае?
А л а. Мама.
І г а р. А... прафесар?
А л а. Не.
І г а р. Трэба штосьці зрабіць, Ала... Яго не павінна быць!

Алу яго словы крыўдзяць.

А л а. Чаму не павінна быць?!
І г а р. У цябе — муж...
А л а. З мужам хутка будзе ўсё скончана. Я сказала.
І г а р. Дзіця цябе зввяжа...
А л а. Не мяне, а — цябе?!
І г а р. І цябе, і мяне... Я ўсё ж не трачу надзеі, што змагу вярнуцца да навукі. Мне і без гэтага цяжка, а з ім... Зразумей ты!
А л а. Я цябе разумею. *(Ледзь стрымліваецца ад абурэння.)*

Ігар падыходзіць, хоча абняць.

І г а р. Не злуйся.
А л а *(гнеўна)*. Адыдзі!..
І г а р. Ала!
А л а. Не падыходзь!.. *(Шкадуючы.)* Верыла, спадзявалася, дурніца!.. Забыла ўсё! *(З насмешкай.)* Прынца сустрэла!..

**Ігар.** Ала!

**Ала.** Ідзі адсюль! Зараз жа! Чуеш? Не хачу бачыць цябе!

**Ігар.** Ала, паслухай...

**Ала.** Не хачу! Бачыць не хачу! Ты чуеш?

**Ігар.** Што ж, я пайду, калі табе так хочацца. Але дай слова сказаць! Я не думаў, што гэта цябе так абразіць... Ва ўсякім выпадку, я... не хацеў абразіць...

**Ала.** Не хацеў?!

**Ігар.** Можа быць, я сказаў што-небудзь няўдала, але ж ты ўлічы — у якім я стане гаварыў...

**Ала.** «У якім я стане»!.. А пра мой стан ты падумаў? Ты падумаў, як я буду выглядаць, калі пра ўсё даведаюцца бацька, прыяцелькі. *(Моцна каючыся.)* Як я дазволіла сабе!

**Ігар.** Ала, я вінаваты. Але я не ашукваў: я люблю цябе.

**Ала.** «Люблю»! Ты даказаў гэта! Вельмі добра!

**Ігар.** Дай руку. Будзь маім паплечнікам... маёй... *(Абдымае яе, цалуе.)*

Але слаба супраціўляецца.

Ты згодна?

Паўза.

Я чакаю. Кажы.

Звініць званок.

**Ала** *(кліча)*. Арына! Домработніца — няма чаго казаць! Ніколі не даклічашся. *(Ідзе адчыняць.)*

Уваходзяць Андрэй і Галя.

**Ала.** А! Госці! Заходзьце, калі ласка!..

Ігар, убачыўшы Галю, вельмі непакоіцца. Галя таксама хвалюецца.

**Ігар** *(працягваючы Андрэю руку)*. А... Андрэй! Калега!..

**Андрэй** *(холадна)*. Добры дзень.

**Ігар.** Усё такі ж... Ты, здаецца, не змяніўся...

**Андрэй.** Не змяніўся.

Ігар насцярожана вітаецца з Галяй. Увесь час потым трывожна сочыць то за ёй, то за Алай.

А л а. Ну, як жывецца? Квітнее Круты Яр?

А н д р э й. Нічога. Квітнее.

А л а. Даруйце, калі я не памыляюся, вы не да мяне, да прафесара...

Г а л я. Нам Аляксея Сяргеевіча хацелася...

А л а. Ён дома. Толькі ён вельмі заняты. Сядайце, калі ласка! *(Ідзе ў кабінет, хутка вяртаецца.)* Ён зараз будзе.

Уваходзіць Г р а ч о ў, яшчэ хмурны, нездаволены.

Г р а ч о ў. А! Вітаю!

А н д р э й, Г а л я. Добры дзень, Аляксей Сяргеевіч!

Г р а ч о ў. Якім ветрам?

А н д р э й. З заданнем — клопат. Былі тут, на «Славе рэвалюцыі», глядзелі, як працуюць іншыя. Думалі, можа, што падкажуць...

Г а л я. Аляксей Сяргеевіч, прабачце, выгляд у вас... Вы, прабачце, не хворы?

Г р а ч о ў. Не, нічога, я здаровы... Вопытам пакарыстацца думалі?..

А н д р э й. Аляксей Сяргеевіч, нам патрэбна ваша дапамога. Вашы парады...

Г р а ч о ў. Паможам... Дарэчы, маё дзецішча бачылі?..

Г а л я, А н д р э й. Бачылі.

Г р а ч о ў *(з надзеяй)*. Ну, што скажаце?

Г а л я. Ёсць вельмі цікавыя знаходкі... у дэталях...

Г р а ч о ў. У дэталях...

А н д р э й *(пасля паўзы)*. Мне здаецца, Аляксей Сяргеевіч, што... Прабачце, але ў нас — па шчырасці — такая думка, што прынцып фотаэлементаў тут не зусім апраўдаў сябе...

Г р а ч о ў. Не апраўдаў?.. Цікава...

І г а р. Андрэй! Табе, мусіць, нагаварылі там? І ты паддаўся?

Г а л я. Ніхто нам не нагаворваў...

Г р а ч о ў. Гэта, значыцца... так сказаць, ваша перакананне?

А н д р э й. Так... Мы, Аляксей Сяргеевіч, можна сказаць, яшчэ раз пераканаліся,— можа, вам гэта і непрыемна чуць,— тое, што нам даручылі, патрэбна...

Грачоў. Вы, значыцца, хочаце зрабіць лепш?

Андрэй. Трэба.

Грачоў. Ну што ж, пабачым... А наогул — ці не занадта саманадзейныя вы, маладыя людзі? *(Горача, Андрэю.)* Вы ведаеце, што такое зрабіць новы аўтамат?

Андрэй. Па шчырасці, здагадваюся.

Грачоў. Вы здагадваецеся. А я спраектаваў дзесятак іх. Разумееце, дзесятак.

Андрэй. І ўсё ж гэта не дае вам права лічыць, што ў вас не могуць быць няўдачы...

Галя, бачачы, што Андрэй усхваляваны, бярэ яго за руку, хоча стрымаць.

Грачоў. Чаго ж вы тады прыйшлі да мяне? Пытацца, вучыцца — пасля такой атэстацыі маёй працы?

Галя. Прабачце, Аляксей Сяргеевіч, Андрэй пагарачыўся. Мы вельмі паважаем вас.

Грачоў. Дзякую за павагу!.. *(Непрыхільна глядзіць на Андрэя, Галю, рэзка паварочваецца, выходзіць.)*

Ала. Тата! *(Ідзе за ім.)*

Ігар. Нашто ты яго пакрыўдзіў? Ён проста захварэў з-за гэтай няўдачы. Гэта — балючы мазоль у яго.

Андрэй. Што ж, мне трэба было хлусіць?..

Галя. Андрэй, усё ж ты, здаецца, мог бы быць мякчэйшы.

Андрэй. Гэта ўжо форма. *(Ходзіць па пакоі, узрушаны сутычкай з Грачовым.)*

Галя *(пасля паўзы Ігару)*. А мы збіраліся табе пазваніць.

Ігар. У мяне, між іншым, другі тэлефон.

Галя. Ігар, як твая дысертацыя?

Ігар. Нішто. Нядрэнна.

Галя. Праўда? Многа зрабіў?

Ігар. Зрабіў крыху. Ты што так глядзіш?

Галя. Дзіўны ты. Нібы маніш.

Андрэй з роздумам, са шкадаваннем за тое, што гарачыўся, груба гаварыў, сапсаваў усё, падыходзіць да дзвярэй кабінета Грачова. Можа, увайсці, паправіць усё? Узрушана адыходзіць ад дзвярэй. Вяртаецца да Ігара і Галі. Злуе на Ігара.

**І г а р.** Не... *(Развaжыўшы.)* Хоць — сапраўды, я маню. Я напісаў мала. Вельмі мала.

**Г а л я.** Чаму ты так?

**І г а р** *(рукой правёўшы па горле)*. Час. Суткі вельмі кароткія, а клопату многа.

**А н д р э й.** На што ж ты іх траціш, суткі свае?

**І г а р.** Папрацавалі б вы тут, ведалі б!

**Г а л я.** Ігар, ты не баішся растраціць сябе на дробязі?

**І г а р.** Не баюся.

**А н д р э й** *(Ігару)*. Я чакаў — ад душы,— што ты за гэты час... адумаўся...

**І г а р.** Ці не здаецца табе, што ты робіш больш разумна?

**А н д р э й.** Можаш сумнявацца. Але я ведаю, у жыцці кожнага ёсць нейкая галоўная дарога. Трэба ісці прама, а не віляць... куды павабяць розныя прынады...

**І г а р.** Ты глядзі, замест таго, каб пра другіх непакоіцца, сам не заблытайся!

**А н д р э й.** Ты, здаецца, такой размовы не разумееш. Калі нам было цяжка, я асабліва адчуў, што ты зрабіў, кінуўшы нас, нашу справу...

**І г а р** *(насмешліва)*. Што ж я зрабіў?

**А н д р э й.** Па шчырасці, подласць.

**І г а р.** Праўда? Нельга лічыць другіх нягоднікамі толькі за тое, што ў цябе не клеіцца справа.

**А н д р э й.** Іх можна лічыць такімі хаця б таму, што яны стараюцца ўладзіцца, дзе пацяплей ды паўтульней...

**І г а р.** Сурова.

**А н д р э й.** Думаю, што не залішне. Праўда.

**І г а р.** Праўда ў кожнага свая. А чыя больш вартая, пакажа час...

**А н д р э й.** Пакажа. *(Зірнуўшы ў апошні раз на дзверы ў кабінет Грачова, вырашыўшы, што прасіць прымірэння не трэба, ідзе да дзвярэй.)* Пойдзем, Галя! *(Ігару.)* Жыві і радуйся!.. *(Галі.)* Ты што... застаешся?

**Г а л я.** Я... я хутка прыйду.

**А н д р э й** выходзіць. Галя хоча штосьці сказаць Ігару, штосьці важнае і цяжкае.

Г а л я. Ігар, скажы, ты праўда не шкадуеш... што пакінуў Круты Яр?

І г а р. Што з таго — шкадуеш, не шкадуеш? У жыцці часта прыходзіцца нечым ахвяраваць.

Г а л я. Гэта дарагая ахвяра...

І г а р. Усё гэта, можа быць, натуральна. Ці варта хваляваецца. Ёсць, у рэшце рэшт, толькі адна рэч, якой нельга ахвяраваць,— маладосць. І не трэба падганяць час. Гэта — нудна. Усё прыйдзе ў сваю пару. У запасе, як казаў адзін мудрэц, вечнасць!..

Г а л я. Ты, праўда, так думаеш? Ігар, гэта не твае словы.

І г а р. Чаму?

Г а л я. Ты не такі!.. «У запасе — вечнасць!..»

І г а р. Хіба гэта няпраўда?

Уваходзіць А л а, але Галя яе не заўважае. Ала ціха назірае за ёю.

Г а л я. Ігар, табе трэба... ты павінен вярнуцца... да нас.

І г а р. Не магу...

Г а л я. Чаму?

І г а р. Так... не адпусцяць...

Г а л я. Я разумею — ты не хочаш! Табе тут добра... *(Пасля паўзы.)* Ігар, тады... я даравала табе, я думала, ты ахвяраваў... у імя свайго таленту, будучыні... А ты...

І г а р. Што?

Г а л я. Ты аддаў усё, што было між нас... *(з гарыччу)* за нішто... Значыцца, яно табе было... нішто!

І г а р. Галя!

А л а *(падыходзячы да іх)*. Галечка, можаш павіншаваць мяне. Я выходжу замуж.

Г а л я. Замуж? Ты ж замужам.

А л а. Я бяру развод.

Г а л я. А...

А л а. Не здагадалася — за каго?

Г а л я. Не.

А л а *(у бок Ігара)*. Вось за каго!

Г а л я. За Ігара?! *(Яна момант стаіць, уражаная навіной. Разгубленасць змяняецца сорамам, абурэннем.)* Ну, што ж... Віншую... *(Кідаецца да дзвярэй, выходзіць.)*

Ігар *(збянтэжаны, Але)*. Нашто ты гэта?

Ала. Табе трэба, Гарык, адпачыць... Дык як, кажы,— пойдзем?

*Заслона*

## *ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

### КАРЦІНА ПЯТАЯ

Двор завода побач з цэхам, дзе выпрабоўваюць аўтамат. Справа вялікі заводскі корпус — чырвоныя цагляныя сцены з шырокімі вокнамі. Адтуль час ад часу чуваць гул станкоў, ляскат металу. На двары некалькі дрэваў, газоны, столік, лавачкі. Столік недалёка ад сцяны. Тут цень — добрае месца адпачыць хвіліну. Блізка ад століка дзверы ў цэх. Адтуль выходзяць Андрэй і Галя.

Андрэй. Чорт пабяры, што ж з валікамі такое?

Галя. Я таксама думаю пра гэта. Чаму яны падводзяць?

Андрэй. Хоць ты яго, гэты ліст, рукамі цягні! *(Нецярпліва.)* Да ўсяго яшчэ — гэты ўпаўнаважаны над душой...

Уваходзіць Далінюк.

Далінюк. Званілі з Трубапракатнага! «Уся затрымка цяпер од вас!»

Андрэй *(нервова)*. Ну і што?! Нашто вы мне гэта кажаце!..

Далінюк. Проста так. Званілі, кажу.

Андрэй. Не проста! Я ведаю!

Далінюк. Можа, і не проста так. Однак ты нэ кіпі. Будзь мужчыною!

Андрэй. Дзякую за параду.

Далінюк. Пойдзем, паглядым шчэ...

Уваходзіць Аляксандра Сцяпанаўна.

Аляксандра Сцяпанаўна. Галя! Пачакай!

Галя затрымліваецца. Далінюк і Андрэй выходзяць.

Ну, як там? Лепш?

Галя. Падводзяць усё.

Аляксандра Сцяпанаўна. От бяда!.. Чаго прыбыў сюды гэты... як яго... Вазоўскі?

Галя. Спецыяльны ўпаўнаважаны. Прыехаў ліквідаваць прарыў.

Аляксандра Сцяпанаўна. Глядзі ты, якое начальства!

Галя маўчыць, адчуваецца, што гаварыць ёй на гэту тэму не хочацца.

Аляксандра Сцяпанаўна. А што... прафесар?

Галя. Не крыўдуйце, цёця Саня,— не разумею, чаму яго паслалі сюды?

Аляксандра Сцяпанаўна. Чаму не разумееш?

Галя. Які ён кансультант нам? Былі ж ужо раз у яго.

Аляксандра Сцяпанаўна. Ты што ж, думаеш, што ён будзе помсціць?

Галя. Не ведаю. Але мне здаецца — нібы знарок прыслалі, каб звесці разам, сутыкнуць...

Аляксандра Сцяпанаўна. А не можа быць, што гэта ўпаўнаважаны падладзіў?

Галя. Не ведаю...

Аляксандра Сцяпанаўна. Галечка, трымайся, не вешай галавы! *(Стараючыся суцешыць Галю.)* А што прафесар прыехаў, гэтага, думаю, баяцца не трэба. Ён дзе цяпер?

Галя. У цэху.

Аляксандра Сцяпанаўна. Хадзем.

Галя і Аляксандра Сцяпанаўна падаюцца да дзвярэй. У дзвярах раптам сустракаюцца з Ігарам.

Ігар. А... Галя! Нарэшце! А я думаў, куды ты гэта знікла?

Галя. Заўважыў.

Аляксандра Сцяпанаўна выходзіць.

Ігар. З табой так цяжка і словам перамовіцца!..

Галя. Чаму цяжка? Я ўвесь час там была...

Ігар. Абстаноўка не такая, якую хочацца...

Галя. Якая ж... вам патрэбна абстаноўка?

**І г а р.** Я думаю, што мы ўсё ж пагаворым. Праўда? Як даўнія сябры... Ты быццам яшчэ пахарашэла!.. За тварэнне сваё перажываеш? Так, нядобра! Не ўправіліся, не ўправіліся!

**Г а л я.** Не ўправіліся. *(Выходзіць.)*

І г а р ідзе за ёй. Праз хвіліну з-за будынка паяўляецца Г р а ч о ў. Ён задуменны, сумны, адчуваецца, што ён нешта ўспамінае. У гэтым стане ён не адразу заўважае А л я к с а н д р у  С ц я п а н а ў н у, якая неўзабаве выходзіць з дзвярэй.

**Г р а ч о ў.** Шура?

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Добры дзень.

**Г р а ч о ў.** Добры дзень, родная...

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Зайшла вось, пабачыць бліжэй захацелася.

**Г р а ч о ў.** Значыцца, я недарэмна ехаў сюды...

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Аляксей... як табе ў нас?

**Г р а ч о ў.** Як? Так — нібы ў маладосць вярнуўся. Са спазненнем вялікім.

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Успамінаеш?

**Г р а ч о ў.** Успамінаю.

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Сумна, мусіць?

**Г р а ч о ў.** Ведаеш, я чамусьці тут асабліва адчуў, як багата вады сплыло. Вельмі багата.

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Так, нямала.

**Г р а ч о ў.** Большая частка сплыла...

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Мусіць, і не пазнаў бы, каб сустрэліся на вуліцы.

**Г р а ч о ў.** Пазнаў бы. *(Раптам.)* Дзіўна, людзі, якіх мы не бачым, здаецца — не старэюць.

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Што ж, усё як трэба. Час. Але ты не надта змяніўся. Вочы, як прыгледзецца, зусім такія ж... як тады...

**Г р а ч о ў.** Такія ж. Ты заўсёды была добрая. Пастарэў я, Шура, і вельмі. Я гэта асабліва тут адчуў. І адчуў зноў, што многае ў маім жыцці было не так. Прывыкае чалавек да страт... самых цяжкіх...

**А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а.** Не ўсё ж знікла без знаку...

**Г р а ч о ў.** Не ўсё... Шура, я хаджу тут, хаджу, а ў душы больш за ўсё адно — сына бачу. Так рады.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Праўда?

Г р а ч о ў. Нашчадак. *(Вельмі ўзрушана.)* Аднаго не магу дасюль дараваць, што ты столькі гадоў таіла!

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Не магла інакш. Зразумей мяне. Хацела не раз напісаць. І не напісала.

Г р а ч о ў. Добра гэта — што ў мяне сын. Мой сын. Мужчына. Даруй за ўсё.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а *(шчыра)*. Дзякуй табе... Харошыя ўсё ж дні былі!

Г р а ч о ў. Магло б іх быць многа!..

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Магло б... Маці калісьці, помню, любіла гаварыць: страчанае золата можна знайсці, а страчаны час — ніколі.

Г р а ч о ў. Час, час! Калі ўсё было!.. Праляцела, як міг, і не вернецца!..

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а *(стрымліваючы сябе)*. Не трэба!.. Табе бедаваць не трэба! Ты не прабайдачыў дарэмна гады! Вунь колькі зрабіў для людзей! А колькі вывеў маладых у свет, на дарогу! Колькі вучняў, ці злічыць?.. Ты бачыў, што зрабілі твае тут?

Г р а ч о ў. Машына цікавая. Але з дэфектам.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Аляксей, можа, табе крыўдна? Будзь усё ж справядлівы.

Г р а ч о ў *(задуменна)*. Што такое яна — справядлівасць? Здацца самому, падняць рукі...

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Успомні, як табе маладому было. Помніш?

Паўза.

Г р а ч о ў. Раскажы пра Жэню.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Жэня жыве, расце...

Г р а ч о ў. Вырас...

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. На завочным вучыцца.

Г р а ч о ў. Стамляецца...

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Баюся, каб не надарвала яго гэта. Багата бярэ на свае плечы...

Г р а ч о ў. Я магу памагчы яму на стацыянар перайсці...

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Не захоча ён...

Г р а ч о ў. Чаму?

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Хлопцаў не хоча кідаць. Брыгада ў іх дружная.

Г р а ч о ў. Ты гаварыла з ім пра гэта?

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Гаварыла. Ён упарты! Што і рабіць, не ведаю.

Г р а ч о ў. Вось што... Як бы мне пагаварыць з ім?

Паўза.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Зайшоў бы ты да нас. Я і прыйшла найбольш, каб запрасіць. Мы тут у пасёлку, недалёка. На трэцяй лініі. Вуліца так завецца. Дом нумар восем. Дамок драўляны, але харошы. Сосны пад акном.

Г р а ч о ў. Дзякую, прыйду абавязкова... Толькі ты не выдумляй там нічога. Мне і так прыемна будзе. Пасядзець проста. *(Заклапочана.)* Я хацеў падысці да яго, загаварыць. Дык ён — падобна — уцёк... Гаварыць не хоча, ці што... Ён злуе на мяне... Я адчуваю гэта.

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. У іх, маладых, усё проста...

Г р а ч о ў. І ўсё ж я яго люблю!.. Не толькі таму, што ён сын... Я ўбачыў сябе! Гэта я сам, я, Грачоў Алёшка, многа гадоў назад. Не такі, як цяпер, старэчы, нязграбны, а такі, як тады. Яршысты, задзірысты, гатовы на ўсё. Перамагчы або памерці!

Хутка ўваходзіць Я ў г е н ь.

Я ў г е н ь. Галіны Антонаўны... не было? *(Ён не чакаў сустрэчы, крыху збянтэжыўся, але хавае разгубленасць, трымаецца вельмі ганарыста, самаўпэўнена).*

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Пайшла, Жэнечка.

Я ў г е н ь. Куды, не ведаеш?

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Яна, мусіць, ужо там, у цэху.

Яўгень збіраецца ісці.

Г р а ч о ў. Яўгень, хвіліну! Прашу... Прабач — ты не вельмі спяшаешся?

Я ў г е н ь. Спяшаюся. А што?

А л я к с а н д р а  С ц я п а н а ў н а. Жэнечка, Аляксей Сяргеевіч... хоча з табой пагаварыць.

Грачоў. Так, я хачу пагаварыць.

Яўгень. Мяне па Галіну Антонаўну паслалі.

Грачоў. Гэта неабходна.

Яўгень *(неахвотна)*. Ну, што ж. Я вас слухаю.

Аляксандра Сцяпанаўна. Жэня, як ты гаворыш?

Грачоў. Шура, ты даруй мне... Я хачу пагаварыць з ім адзін на адзін.

Яўгень. Мама, нам трэба застацца ўдвух.

Аляксандра Сцяпанаўна. Як вам лепш!.. Толькі ты, Жэнечка...

Яўгень. Мама!..

Аляксандра Сцяпанаўна. Іду, іду! *(Выходзіць.)*

Грачоў і Яўгень маўчаць.
Грачоў хвалюецца.
У Яўгеня спакойны, ганарысты выгляд.

Яўгень. Я слухаю.

Грачоў. Яўгень, дарагі мой. Ты пачаў новую пару жыцця...

Яўгень. Так. Але я гэта ведаю.

Грачоў. Я хацеў бы табе дапамагчы, Яўгень...

Яўгень *(ганарыста)*. Дзякую.

Грачоў. Яўгень, скажы, як ты думаеш далей з вучобаю? Ты скончыў курс. Паспрабаваў, што такое працаваць і вучыцца... Табе не цяжка?

Яўгень. Нічога, нармальна.

Грачоў. Перш чым асуджаць каго-небудзь, трэба ведаць яго...

Яўгень. Я ведаю вас.

Грачоў. Нічога ты, дружа мой, не ведаеш!

Яўгень. Чаго ж тут ведаць!

Грачоў. Ну, і што ж ты ведаеш?

Яўгень. Усё, што трэба!

Грачоў. Ну, напрыклад?..

Яўгень. Напрыклад, што вы адну... жанчыну... ашукалі...

Грачоў. Не было такога! Не было!..

Яўгень. Вядома. Не ашукалі. Проста «забылі»!

Грачоў. Не забываў я. Ты ўжо дарослы. Я магу сказаць табе ўсё. Яна не згадзілася ехаць са мной...

Яўгень. Калі б вы хацелі гэтага, яна згадзілася б.

**Грачоў.** Я хацеў. Я любіў яе, Яўгень. У адным, можа быць, я вінаваты... Гэтага я потым не мог дараваць сабе. Што пакрыўдзіўся на яе, прымірыўся. Не ваяваў за яе... Што вярнуўся зноў да чалавека, які... *(Схамянуўся).* Ты не крыўдзіш маці?

**Яўгень.** Не ведаю. Ёй відней.

**Грачоў.** Ты, здаецца, грубаваты з ёю.

Яўгень не адказаў.

**Грачоў** *(не стрываў).* Ну, бачу, сёння нам з табой больш няма чаго гаварыць.

**Яўгень.** Няма чаго. *(Выходзіць.)*

**Грачоў** *(устаючы, задуменна, сумна.)* Вось і сустрэліся два Грачовы. Прафесар Грачоў і яго маладосць...

Уваходзіць **Ігар.**

**Ігар.** Што ж, дарагі прафесар, выходзіць — канфуз! Канфуз!

**Грачоў.** Так... канфуз...

**Ігар.** Я думаю, што ваша дзецішча яшчэ паслужыць нямала...

**Грачоў.** Вы рады... канфузу?

**Ігар.** Я вас не разумею...

**Грачоў.** Мне здавалася, што вы будзеце шкадаваць.

**Ігар.** Аб чым шкадаваць, Аляксей Сяргеевіч?

**Грачоў.** З-за няўдачы таварыша. Вы ж, помніцца, былі таварышамі?

**Ігар.** Былі... Але ісціна, ісціна вышэй за ўсё. Я — дзяржаўны чалавек. Зрываецца аўтамат? Зрываецца! Магу я, маю я права далажыць, што заказ выкананы?

**Грачоў.** Вы лічыце дэфект арганічным?

**Ігар.** Мне трэба аперыраваць фактамі. А факты абавязваюць мяне далажыць, што выпрабаванне не дало станоўчых вынікаў. Важнае дзяржаўнае заданне, такім чынам, фактычна сарвана... Я — калі вас цікавіць мая думка — наогул не веру ў будучыню гэтага дубкоўскага неданоска...

**Грачоў** *(раптам).* Вы хлусіце!

**Ігар.** Што? У чым хлушу?

**Грачоў** *(праніклівa, цвёрда).* Вы верыце ў яго!

Але вы... зайздросціце! Вы не хочаце прызнацца сабе, што ў той час, калі вы лёталі па жыцці, другія жылі! Вы толькі елі і спалі, а другія ў той час думалі, тварылі. І за гэта вы ў душы сваёй, хаваючы нікчэмненькую зайздрасць, шукаючы сабе апраўдання, хочаце паказаць нікчэмнай і іх справу! Як гэта нізка!

Ігар *(абражаны, ганарліва)*. Што ж, дапусцім, што ў вашых словах і ёсць доля праўды. Але хіба я ў гэтым, даруйце, не падобны... на вас?

Грачоў. На мяне? Вы — нахабнік!

Ігар. Будзьце мужным, прафесар! Вы другіх абвінавачваеце ў баязлівасці, гляньце ж самі ў вочы праўдзе...

Грачоў. Я... Я... Вы гаворыце гэта мне, чалавеку, які дзесяткі год... усё сваё жыццё аддаў творчасці!..

Ігар *(помсліва)*. Не ўсё. Да таго ж, я не збіраюся выказваць абсалютную ісціну, якая, здаецца, наогул не існуе. Я гавару пра канкрэтны выпадак, пра гэты... Чым мы рознімся?

Грачоў. Чым?

Ігар. Так!

Грачоў. Тым, што вы — гультай, абібок!

Ігар. Можа быць! А хто — вы?

Грачоў. Хто я? Як гэта разумець?

Ігар. Вы ўпэўнены, што вы вучоны, творчая асоба. А ці не ўспамін гэта? Ці не здаецца вам, што вы даўно сталі, даруйце... самазадаволеным... бажком?

Грачоў. Што?! Бажком?..

Ігар. Шчырасць за шчырасць. Вы даўно ўжо ледзь пляцецеся... раўніва пазіраючы на тых, хто вас абыходзіць!

Грачоў. Значыцца, я таксама зайздрошчу?

Ігар. Вы гэтага не заўважылі, прафесар?..

Грачоў. Якое нахабства!.. *(Ходзіць, узрушаны.)* «Бажок»! Дажыў! «Раўніва паглядвае»... *(Горача.)* Не, вы хлусіце! Вы хлусіце, чуеце!

Уваходзяць Андрэй, Галя, Далінюк і Яўгень.

Далінюк. Уся бяда тобто — од няправільнага разліку ціску на валікі. Цэ ўжэ можно ўважаць за факт.

Андрэй. Гэта ясна! Трэба новы разлік!

**Ігар.** Ну вось, аказваецца, усё проста... Што ж!.. Так і даложым. Вінаваты валікі.

**Андрэй.** А, ты тут...

**Галя** *(Андрэю)*. Не трэба... Не зважай...

**Андрэй.** Не, я скажу яму! *(Ігару.)* Ты калісьці не захацеў ісці разам, чаго ж ты цяпер блытаешся на дарозе? Што табе трэба?!

**Ігар.** Я думаю адкласці гэтую спрэчку — да іншых абставін. *(Выходзіць.)*

**Андрэй.** Адкладзі! *(Услед яму.)* Да іншых!

**Яўгень.** Ну і тып!

**Грачоў** *(усхвалявана)*. Андрэй Пятровіч, калі не памыляюся, вам патрэбна дапамога... Мне хацелася б, так сказаць, прапанаваць свае паслугі. Адным словам, калі ёсць патрэба ў іх — разлічвайце...

**Андрэй.** Аляксей Сяргеевіч!.. Дарагі Аляксей Сяргеевіч!

**Далінюк.** Здаецца, нашого полку прыбуло!

**Грачоў.** Андруша, і вы, Галя!.. Не трывожцеся! Я яшчэ тое-сёе разумею ў нашай справе. І думаю, што буду карысны вам, гарачыя вы галовы!

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Вечар. На пярэднім плане бяроза, пад бярозай — лавачка. Далей — частка дачы, адкрытая веранда. За дачай — дрэвы, абрысы якіх акрэсліваюцца на фоне вячэрняга неба. На верандзе — стол. Каля стала гаспадарыць **Анна Апанасаўна**. З хаты выносіць талеркі, пляшкі, стаўляе на стол, перастаўляе. Паяўляецца **Ала**, у халаце, з ручніком, сядае на лавачку.

**Ала.** Ух, нахадзілася! *(Выцягвае ногі.)* Бедныя мае ножкі, аж ныюць!

**Анна Апанасаўна.** Рэчка далекавата. Тры кіламетры туды, тры назад...

**Ала.** Не мог стары ўзвесці дачу дзе-небудзь бліжэй...

**Анна Апанасаўна.** Месца яму тут спадабалася. Ён быў нават задаволены, што рэчка далёка. Ёсць, казаў, стымул для добрага мацыёну...

А л а. Мацыён! Цягнуцца за паўсвету — пакупацца! *(Ківае на стол.)* Усё гатова?

А н н а А п а н а с а ў н а. Стол — і ў рэстаране лепшага не зрабілі б!

А л а. Толькі каб «гасцей» не найшло. Бацька на дзіва ўмее абрастаць гасцямі.

А н н а А п а н а с а ў н а. Я разлічыла на шэсць персон. Тут ты, побач — Ігар, тут — ён, тут каля дзвярэй — я, і два прыборы будуць у рэзерве, на ўсякі выпадак.

А л а. Арыны няма?

А н н а А п а н а с а ў н а. Гуляць пайшла са сваім салдатам. Для нас, домработніц, кажа, таксама перад выхадным належыць скарочаны працоўны дзень.

А л а. Кадзік не плакаў?

А н н а А п а н а с а ў н а. Не... Прачнуўся быў, закугакаў, але я дала соску... Ён і сціх. Зноў спіць...

Уваходзіць І г а р. Ён, відаць, толькі што прыехаў, стомлены, пахмурны.

І г а р. Добры вечар.

А н н а А п а н а с а ў н а. Добры вечар. Ала чакае вас.

Ігар ідзе да Алы. А н н а А п а н а с а ў н а выходзіць у пакой.

А л а. Ножкі, бедныя ножкі! Натаміліся!..

І г а р. Што ножкі баляць, галава вінавата.

А л а. Не кажы так, злы ты чалавек. *(Капрызна.)* Табе яшчэ трэба будзе занесці сваю Алачку дамоў. Бо сама Алачка з месца скрануцца не можа.

І г а р. Што ж, такая ўжо наша мужчынская доля.

А л а. Чаму гэта ты не ў настроі? Перад імянінамі? Якая цябе муха ўкусіла?.. Дарэчы, ты не з татам?

І г а р. Не. Я на таксі.

А л а. Што там на калегіі было? Уклеілі? Дубкову з Жураўкай?

І г а р. Не.

А л а. Чаму?

І г а р. Запытайся ў бацькі... *(Са злосцю.)* Стары дзівак!

А л а. Што такое?

І г а р. Выступіў сам супраць сябе. І мяне аблаяў... Я націскаў на тое, што канструктары спазніліся з за-

казам, што гэта халатнасць. Ён усё зваліў на завод. А Дубкову і Жураўцы столькі наспяваў хвалы, што проста брыдка!

А л а. Чаму ж гэта ён?

І г а р. Ат! *(Садзіцца.)* Я галодны, як мядзведзь на Паўночным полюсе!

А л а. Зараз пойдзем. Я толькі што з рэчкі. Пасля купання есці хочацца д'ябальскі!.. Ужо ўсё гатова. І пачнецца сціплы неафіцыйны банкет у чэсць Ігарка Вазоўскага...

І г а р. Якому заўтра стукне — страх сказаць — дваццаць дзевяць! Хутка тры дзесяткі!.. *(Задуменна.)* І які яшчэ так мала зрабіў...

А л а. Для бяссмерця... У юбілейныя дні, я заўважыла, людзям чамусьці часта прыходзяць пакаянныя думкі.

І г а р. Не, каяцца, здаецца, я не буду. Не ўмею... Мне не дваццаць год. Каля дваццаці мы ўяўляем сябе Лермантавымі, Мендзялеевымі, Суворавымі. Чакаем славы не меншай, як у Аляксандра Македонскага...

А л а. Я калісьці марыла стаць славутай актрысай.

І г а р. Так, марым быць Мендзялеевымі, а становімся самымі звычайнымі рабочымі валамі, думаем пра выкананне квартальнага плана, пра тое, каб быць на добрай памяці начальніка ўпраўлення.

А л а. А калі што і адкрываем, то такое, што забудуць не толькі нашы патомкі, але і мы праз два гады... Ты зрабіў, Гарык, больш за ўсіх. Не заўтра — паслязаўтра ты станеш загадчыкам аддзела! Табе дадуць персанальную машыну, у цябе будзе свой шафёр... Ігар, ты дазволіш мне браць тваю машыну?

І г а р. Яе пакуль няма.

А л а. Яна будзе. Скажы, дазволіш?

І г а р. Што з табой зробіш?

Ала цалуе яго.

Дзівак стары! Самому сабе падпісаць прыгавор.

А л а. Падумаеш, вынайшлі! Атамную энергію! Аўтаматік нейкі...

І г а р. І ўсё ж выходзіць, нібы ён абагнаў... Што ж, кожнаму сваё! *(Абдымаючы Алу.)* Я не каюся, я затое пажыў! Ён такога шчасця не бачыў і не ўбачыць... *(З непакоем.)* Ты ведаеш, Ала, я з кожным годам адчу-

ваю, як мне ўсё цяжэй і цяжэй брацца за дысертацыю... Я, як птушка, якая ўзнялася ў неба. Спачатку было лёгка ляцець, і лёгка думалася, і пісалася лёгка. А цяпер і думаецца цяжка, і пішацца цяжка, а галоўнае, энергія некуды знікае. Куды ж гэта ўсё падзелася? Старэю я, ці што?

Ала. Ну вось, я ж казала, што юбіляры любяць каяцца. Гэта ў цябе ад таго, што ты галодны. Хадзем, пакуль ты не пачаў яшчэ чаго вярзці! Паднімі мяне!

Чуваць шум машыны.

Вось якраз і тата прыехаў!

Ігар бярэ Алу на рукі.

Ну, пайшлі, імяніннік мой! Ох, ножкі мае...

Ігар нясе Алу ў дом. Ідучы, азіраецца, бачыць, што на двор уваходзяць акрамя Грачова Андрэй, Галя і Яўген.

Ігар. Вось сюрпрыз! Госці!

Ала. Што ж! Гасцям трэба радавацца.

Знікаюць за дзвярыма.

Грачоў *(падняўшыся на веранду)*. О, а тут, аказваецца, усё падрыхтавана для вячэры... Для сустрэчы імяніннікаў! Вось малайцы! *(Аглядае стол.)* Малайцы! *(Андрэю, Яўгеню і Галі.)* Ну, марш мыць рукі! Умывальнік — там *(паказвае)*.

Уваходзіць Анна Апанасаўна.

Анна Апанасаўна. А, дарагія госці! Добры вечар! *(Называе сябе.)* Анна Апанасаўна. *(Галі.)* Вы ў нас, здаецца, былі?

Галя. Была некалі. Галя.

Андрэй і Галя ідуць мыць рукі.

Грачоў. Гэта Яўген. Мой сын.

Яўген. Яўген.

Анна Апанасаўна *(уражаная)*. Яўген?! *(Падае руку з асцярогай.)* Анна Апанасаўна. *(Холадна, строга.)* Вельмі... прыемна...

Яўген, закасваючы рукавы, таксама ідзе мыць рукі.

*(Грачову.)* Прывёў усё-такі! Рашыў парадаваць мяне! Ну што ж, дзякую! Дзякую!..

Вяртаецца А н д р э й.

А н д р э й. Даруйце, што так позна!.. Нам не хацелася парушаць вашу дачную цішыню, але Аляксей Сяргеевіч...

А н н а А п а н а с а ў н а *(непрыязна)*. Не, што вы, мы рады!

Г р а ч о ў. Анна, ручнік гасцям, калі ласка!

А н н а А п а н а с а ў н а няветліва падае ручнік, выходзіць. На верандзе паяўляецца І г а р і А л а.

А н д р э й *(Ігару)*. Ты тут?

І г а р. Здзіўлены? Не чакаў бачыць?

А н д р э й. Па шчырасці, не хацеў бы!..

І г а р. Прыйдзецца лічыцца з фактам!

Вяртаюцца Г а л я і Я ў г е н ь.

Г р а ч о ў. Ала,— твой брат.

А л а *(разглядае Яўгеня)*. Гэта ты і ёсць Яўгень?

Я ў г е н ь *(ганарыста)*. Яўгень.

А л а. А ты — нішто сабе! Сімпатычны! *(Ігару.)* Ён, па-мойму, на тату вельмі падобны. Мусіць, тата такім быў у маладосці.

Я ў г е н ь. Ну, хопіць! Што я... экспанат?

Г р а ч о ў. Хутчэй з цырымоніямі ды за стол!.. Андрэй Пятровіч, прашу! Сюды! Галя,— ваша месца! Яўгень! *(Садзіць каля сябе.)* Прашу ўсіх заняць свае пазіцыі!..

Калі ўсе, акрамя Ігара і Анны Апанасаўны, паселі, аказалася, што аднаго крэсла не хапае.

А н н а А п а н а с а ў н а. Сядайце, Ігар.

І г а р *(пакрыўджана)*. Анна Апанасаўна, гэта ваша месца. Калі ласка!.. Я чалавек не горды... Сам прынясу...

А л а. Мама, прынясі крэсла!

А н н а А п а н а с а ў н а. Я зараз!

Паяўляецца з плеценым крэслам, ставіць каля Ігара.
Ігар садзіцца.
Усе размяшчаюцца.
Яўгень увесь час адчувае сябе дзікавата, няёмка, але стараецца не падаваць выгляду. Трымае сябе знарок ганарыста.

Г р а ч о ў *(акідваючы вачыма стол)*. Э, а гаспадыня наша, аказваецца, зрабіла памылку ў сваім прагнозе. Не палічыла правільна...

Анна Апанасаўна. Не змагла прадбачыць. *(Ігару, падсоўваючы чарку.)* Гэта ваша! *(Выходзіць. Нясе яшчэ чаркі, талеркі, відэльцы. Спяшаючыся, ставіць, раскладвае.)*

Ала налівае Ігару.

Ала. Тата, першы тост — за Ігара. Ён імяніннік!..

Грачоў. Імяніннік? З чаго ты гэта ўзяла? Пра якія імяніны гаворка?

Анна Апанасаўна. Пра самыя сапраўдныя! Ігар заўтра народзіцца.

Ала. Яму — дваццаць дзевяць год!

Грачоў. А! Гэта... больш заслуга маці!.. Ведаеце што, давайце без усякіх тостаў. Давайце проста павіншуем маіх калег, Андрэя Пятровіча і Галіну Антонаўну, з перамогай. Яўгеня — таксама. Іх справе дадзены кірунак у жыццё... Вось і ўсё. І давайце павячэраем проста, без лішняга шуму...

Усе п'юць.

Ігар *(устаючы, паважна).* Што ж, хоць я нейкім чынам, можна сказаць, і ваш ідэйны праціўнік, лічу сваім абавязкам падтрымаць урачыстасць... Віншую! Рад!

Андрэй. Радавацца вам, па шчырасці, няма чаго.

Ігар. Я не эгаіст. Мы — калегі.

Андрэй. Мы былі праціўнікамі. А кім будзем — гаварыць рана.

Анна Апанасаўна. Пакіньце вы гэтыя размовы. Нудна слухаць за сталом.

Андрэй. Даруйце. Характар такі!

Анна Апанасаўна. Характар трэба выхоўваць.

Андрэй. Магчыма.

Грачоў. Урокі выхавання трэба адкласці.

Ала. Кадзік плача... Мама! *(Перадумала. Раўнуючы да Галі.)* Ігар!

Ігар. Што?

Ала. Пагушкай ідзі!

Ігар, не хочучы непрыемнай спрэчкі, устае.

Глядзі, асцярожней!

Неўзабаве ўстае Андрэй.

Грачоў. Што ж вы так хутка?
Андрэй. Дзякую. Не хочацца есці... *(Выходзіць.)*

За Андрэем падымаецца Яўгень.

Грачоў. А ты чаму?.. Пакрыўдзіўся чым?

Яўгень. Я? Не... А чаго тут сядзець? Лепш пагляджу, што тут навокал.

Грачоў. Што ж, глядзі... Пачакай, пойдзем разам. *(Падымаецца, выходзіць за Яўгенем.)*

Яўгень *(Грачову)*. Таксама калега знайшоўся, «імяніннік» гэты!

Грачоў. Гм, ты, Яўгень, маеш, здаецца, рацыю.

Яўгень *(шчыра)*. А я, калі прыязджала камісія, думаў, вы яго руку будзеце падтрымліваць...

Грачоў. Яго і сваю?..

Яўгень. Я думаў, што вы не такі.

Грачоў. Які?

Яўгень. Вы — справядлівы! I не крыўдлівы! Адным словам — сумленны чалавек!..

Грачоў *(хаваючы пяшчоту, стрымана)*. Атэстацыя!

Яўгень *(азіраючыся)*. Гэта і ёсць дача?

Грачоў. Дача, сын... Тут, поруч, добры лес. Хвойнік. I рэчка — шчупакі там — во! *(Паказвае якія.)* Пойдзем заўтра?

Яўгень. Можна...

Падыходзіць Андрэй.

Грачоў. Вам не сапсавалі настрой?

Андрэй. Не. Мне не так лёгка сапсаваць!

Яўгень. Я пайду, пагляджу.

Грачоў. Ідзі, ідзі. Гаспадаром будзь!..

Яўгень выходзіць. Грачоў ласкава пазірае яму ўслед.

Грачоў *(Андрэю)*. Хочаце, я вам сапсую вашу бесклапотнасць? Я, дарагі, баюся, як бы вы не зрабілі глупства.

Андрэй. Якога?

Грачоў. Самага небяспечнага для маладога чалавека.

Андрэй. Вы мяне заінтрыгавалі, Аляксей Сяргеевіч!

**Грачоў.** Яно загубіла многіх... Вы што думаеце рабіць пасля сённяшняга дня? Вярнуўшыся ў Круты Яр?

**Андрэй.** Што? Працаваць.

**Грачоў.** А ці не думаеце вы, што цяпер можна і... пакарыстацца поспехам? Скажыце, якія ў вас планы?

**Андрэй.** У нас будуецца завод аўтаматычных ліній. Буду прасіцца туды, у канструктарскае бюро! *(Таямніча.)* Ад душы — мару зрабіць адну лінію!

**Грачоў** *(усхвалявана).* Не спыняйцеся! Не давайце сябе ляноце! Не растрачвайце сябе попусту!.. Вы калі-небудзь былі ў вялікай дарозе пеша? Былі?

**Андрэй.** Быў.

**Грачоў.** Вы павінны ведаць, як цяжка ўставаць пасля прывалу і ісці далей. Ёсць людзі, якія заседжваюцца на прывале многія гады. А ёсць і такія, што, можна сказаць, пачынаюць жыццё з прывалу. *(Заўважае Ігара, які, выйшаўшы на веранду, бярэ графін з гарэлкай.)* Як шаноўны мой Вазоўскі.

**Андрэй.** Я вас разумею.

**Грачоў.** Фізкультурнікі, каб быць у спартыўнай форме, сістэматычна трэніруюцца. Нам таксама важна трымаць сябе ў форме. А для гэтага — рушце, дзень за днём! Пакуль маладыя!

**Андрэй.** Дзякую. *(Успамінаючы, з усмешкай.)* Гэта карысна — для мозгу, для кровазвароту і наогул для нармальнага развіцця.

**Грачоў.** Правільна!

Паўза.

Андрэй Пятровіч, дарэчы, скажыце, калі ласка, а чаму вы ўсё ў халасцяках?

**Андрэй** *(збянтэжана).* Чаму?.. Ёсць пытанні, у якіх нельга разабрацца. Ніякая логіка не дапамагае.

**Грачоў.** Вы ў кагосьці закаханы? У якую-небудзь кіназорку? *(Узрушана.)* Дарагі Андрэй, ёсць акрамя памылкі Вазоўскага іншыя. Адну з іх зрабіў Грачоў малады... У жыцці, бывае, сустрэнецца толькі адна жанчына, якая можа зрабіць вас шчаслівым. *(З роздумам.)* Ці — нешчаслівым... Дарэчы, Галіна Антонаўна, здаецца, таксама незамужняя?

**Андрэй** *(з болем).* Не... незамужняя...

**Грачоў.** Па-мойму, яна магла б стаць вам добрай спадарожніцай, Андрэй Пятровіч!...

**Андрэй** *(стрымана)*. Магла б...

**Грачоў.** Што — не? Гэта праўда, іхняга брата не заўсёды зразумееш!.. *(Азірнуўся.)* Галіна Антонаўна ідзе! Прыйдзецца нашу мужчынскую размову спыніць...

Падыходзіць Галя.

**Галя.** Я не перашкодзіла?

**Грачоў.** Не, што вы, Галіна Антонаўна!.. Я пайшоў. З сынам пагавару. А вы пасядзіце, пагуляйце. Тут за дачай лясок слаўны... *(Выходзіць.)*

Галя і Андрэй спачатку маўчаць.

**Галя.** Андрэй, пра што вы тут гаварылі, калі я падыходзіла?

**Андрэй.** Так, пра рознае.

**Галя.** Мне здалося, пра мяне. *(Паглядзела на Андрэя, той не адказаў.)* Чаму ты такі дзіўны, Андрэй? Быццам сумны. У такі вечар!

**Андрэй.** Так проста. Штосьці неспакойна на душы.

**Галя.** Не трэба, Андрэй! *(Прыслухоўваецца, здалёк чуваць песня.)* Ты чуеш, спяваюць! Можа быць, студэнты, такія самыя, якімі мы былі! Помніш нашу прысягу, смешную, гарэзную?.. Андрэй, усё ж чаму ты такі? Скажы, аб чым ты думаеш? Андрэй!

**Андрэй.** Па шчырасці — аб адной дзіўнай асаблівасці жыцця. Аб недарэчнасці яго...

**Галя.** Аб якой недарэчнасці?

**Андрэй.** Два чалавекі, якім трэба быць разам, чамусьці староняцца адзін аднаго. Жывуць, як чужыя. *(Узрушана.)* Думаеш, я маўчаў бы, чакаў бы, калі б ведаў, што ты любіш? Што ты не абыякавая да мяне, як крыга.

**Галя.** Андрэй...

**Андрэй.** Дай дагавару. Я разумею, ты і так можаш жыць, табе маё каханне — як госць выпадковы, ёсць, няма — усё роўна. А я... я не магу бачыць цябе і ведаць, што ты чужая, не мая! Я не магу так далей! Далей так не павінна быць! Трэба або перамяніць нашы адносіны, або *(рашуча)* разысціся!

**Галя.** Я хачу, каб ты адказаў на адно маё пытанне.

**Андрэй.** Што? Кажы.

**Галя.** Падумай добра. *(Вельмі хвалюючыся.)* Я аднойчы балюча памылілася. Ты ўсё бачыў, ведаеш усё. Ты зможаш даравацъ мне, што было з гэтым чалавекам?

Паўза.

**Андрэй.** Галя, я сказаў. Я люблю цябе.

**Галя** *(усхвалявана)*. Андрэй... Не спяшайся. Падумай, правер сябе.

**Андрэй.** Я рашыў ужо.

**Галя.** Падумай. І я падумаю. Я не хачу, каб ты... памыліўся...

Паяўляецца **Ігар.** Убачыўшы Галю і Андрэя, спыніўся ўстрывожаны. Потым нагнаў на твар абыякавасць, выраз нуды.

**Ігар** *(з нотай насмешкі)*. Якая ідылія! Вечар, дача... Ён і яна!.. Ідылія!

**Галя.** Ігар, ты... ты... Змоўкні!

**Ігар.** А мне якраз гаварыць хочацца!.. Ну што ж, калі трэба, зраблю ласку, памаўчу. *(Сядае на лавачку, закурвае. Андрэю і Галі.)* Не курыце?

**Андрэй** *(беручы Галю за руку)*. Хадзем!

**Ігар.** Куды вы? Чаму так хутка? Хіба вам не было калі нагаварыцца?.. *(Амаль шчыра.)* Андрэй... Пятровіч, прашу велікадушна прабачыць, але я хацеў бы застацца з Галяй... тэт-а-тэт.

**Андрэй.** Пра гэта ты запытайся ў Галі...

**Ігар.** Галя... *(Папраўляецца.)* Галіна Антонаўна, я прашу!

**Галя** *(неахвотна)*. Я слухаю.

**Ігар.** Я хачу адзін на адзін. Якая ты незгаворлівая!

**Андрэй.** Я пачакаю каля веснічак. *(Павольна ідзе.)*

Ігар і Галя ўдваіх. Паўза. Недзе за дачай пачулася песня: «Толькі з табою мне хочацца быць, толькі з табою...»

**Ігар.** Ты помніш, гэту песню спявалі тады...

Галя моўчкі кіўнула галавой.

Дзіўна! Калі б я верыў у забабоны, я мог бы ўбачыць у гэтым прарочы знак... Давай пасядзім. Прашу.

Галя сядае на лавачку. Ігар важка апускаецца побач.

Г а л я. Ігар, ты зусім п'яны! Што гэта значыць?

І г а р. П'яны? Так, ты праўду кажаш, п'яны!.. Я сёння і п'яны і цвярозы, як, можа быць, ніколі за ўсе гэтыя гады. Цвярозы!

Г а л я. У цябе часта гэта бывае — што ты п'яны?

І г а р. Бывае. Але сёння я не п'яны!.. Галя, можа, і дзіўна гэта, пасля ўсяго... Я зразумеў, кім ты была для мяне!

Г а л я. Нашто ты гэта! Ты пра Алу думай!

І г а р. Ала... *(Пасля паўзы.)* Галя, табе не хочацца, каб зноў... усё вярнулася?

Наводдаль праходзіць Г р а ч о ў. Ён шукае сына. Кліча: «Яўгень!»

Г а л я. Тое, што было, не вернецца. Ды і няма нашто вяртаць яго...

І г а р. Ты не хочаш. Я разумею... Галя, у цябе нічога не засталося ад былога?..

Г а л я. Ігар, я люблю Андрэя.

І г а р *(холадна)*. Гэта, як кажуць, канчаткова?

Г а л я. Так, канчаткова. Думаю, што — на ўсё жыццё!

І г а р *(стрымліваючыся)*. Ну што ж!.. Яму пашанцавала, здаецца!

Падыходзяць А л а і А н н а А п а н а с а ў н а, Анна Апанасаўна трымае пінжак.

Г а л я *(устае)*. Я пайду. Андрэй чакае... *(Ідзе да веснічак.)*

А н н а А п а н а с а ў н а. Сыра становіцца! Ігар, я пінжак прынесла, накрыйце плечы!.. *(Накідвае пінжак яму на плечы.)*

І г а р. Нашто гэта?! *(Нервова скідае пінжак на зямлю.)*

А н н а А п а н а с а ў н а *(падымаючы пінжак)*. Сыра стала.

А л а. Яму і без пінжака цёпла. Гэта ж яго інстытуцкая любоў! А я думала, куды гэта ён збег?.. Але ён нешта не ў настроі? Што з табой?

І г а р. Адыдзіце! Дайце хвіліну пабыць аднаму.

*(Азірнуўся ў той бок, куды пайшла Галя.)* Яна калісьці была ўпэўнена, што я геній! *(Горка смяецца.)*

А л а *(супакойваючы).* Геній, геній...

А н н а А п а н а с а ў н а *(трывожна).* Ігар Іванавіч!

Падыходзяць Г р а ч о ў з Я ў г е н е м.

Г р а ч о ў *(Яўгеню).* Нічога! Добрая пачостка старому таксама карысная! Для галавы, для добрага кровазвароту! *(Заўважыўшы Ігара.)* Што з ім?

А л а. Ён, здаецца, лішне выпіў! Вось і вярзе! *(Тонам загаду.)* Хадзем, пагуляем з Кадзікам!

Ігар пакорліва ідзе за Алай. На ганку раптам паварочвацца да Г р а ч о в а, да Г а л і і А н д р э я, якія вяртаюцца к дому.

І г а р *(помсліва).* Так, я — ніштo! Але і яны — не геніі!

А л а. Не геніі, не геніі. *(Выводзіць Ігара са сцэны.)*

Я ў г е н ь. Хто? А, гэта пра Андрэя Пятровіча... *(Гнеўна.)* Ты! Ты... ведаеш... Маўчы лепш!

Г р а ч о ў. Не геніі. *(З пашанай.)* Так, не геніі, праўда. Але такімі створана многа цудоўнага на зямлі.

Я ў г е н ь *(Ігару).* Многа цудоўнага! Чуеш ты?

*Заслона*

# ДНІ НАРАДЖЭННЯ

Гісторыка-рэвалюцыйная драма ў трох дзеях

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Мяснікоў.
Федасюк, рабочы.
Дзяцел, Залыгін, Чыбук — салдаты.
Кацярына, жонка Дзятла.
Адзінцоў, паручнік.
Валя.
Калатухін, штабс-капітан, меншавік.
Балуеў, генерал, галоўнакамандуючы Заходнім фронтам.
Падпалкоўнік.
Фельдфебель.
Сізоў.
Грыбаў, капітан з Масквы.
Бяражной.
Сакратарша Калатухіна.
Шафёр.
Прастытутка.
Вартавы.
Канваір.
Афіцыянт.
Рабочыя, жыхары Мінска, салдаты, казакі, афіцэры.

Дзея адбываецца ў акопах і дзеючых часцях Заходняга фронту рускай арміі і ў Мінску. Час дзеяння — кастрычнік і лістапад 1917.

## КАРЦІНА — УСТУП

### У акопах

Акопы аднаго з участкаў рускага Заходняга фронту. Над імі пасечанае, пакалечанае, напалову вывернутае дрэва. Цярусіць бясконца нудны дождж. Унізе акопа, пад казырком, стуліўшыся, сядзяць т р ы ўшчэнт прамоклыя с а л д а т ы. Яшчэ адзін угары ля амбразуры — н а з і р а л ь н і к. Над акопамі даволі ціха, толькі зрэдку цішыню перабіваюць то выбухі гармат, то чачотка кулямёта.

Ч ы б у к. Лье і лье... Як з прорвы.

З а л ы г і н *(з іроніяй)*. У такое надвор'е і ваяваць няма ахвоты!

Д з я ц е л. А па мне дождж — тфу, нішто.

Ч ы б у к. Табе, вядома: ты — вадзяны чалавек.

Д з я ц е л. Гэта праўда. У вадзе нарадзіўся, у вадзе вырас. *(Радасна.)* У нас, братачкі, у Алешні і летам, і ўвосень адно: вада, твань!

З а л ы г і н. Твань... Чаго ж ты радуешся?

Д з я ц е л. А чаго, людцы, лаяць? Мне цяпер балота тое, як рай!

Ч ы б у к. Эх, зараз бы, пешая кабылка, у хату сухую, на печку! Ды ўдаву цёплую пад бок!

З а л ы г і н. Для пачатку далі б семафор: вёрст на дзесяць у тыл.

Д з я ц е л. Удаву! Нішто прыдумаў!..

Ч ы б у к. А што, балотны чалавек, дрэнна? Ты адмовіўся б?

Д з я ц е л. Я, здаецца, людцы, наўколенцах, рачкі дамоў пабраўся б. *(Сумна жартуючы.)* Каб сказаў паручнік: Дзяцел, магу адпусціць, але рачкі паўзці трэба. Я згадзіўся б з радасцю. І дапоўз бы!

З а л ы г і н. Табе, балота, і наўколенцах нішто. Амаль дома. А мне не выходзіць.

Ч ы б у к. Да Сібіру далекавата! Гады тры, не менш, кержак, спатрэбілася б.

З а л ы г і н. Не менш.

Д з я ц е л *(задуменна)*. Жонка ў мяне — Кацярына! Свет абыдзі — другую такую не знойдзеш!

Ч ы б у к. Ну? Што ж у яе такое асаблівае?

Д з я ц е л. Што?!

Ч ы б у к. Што?

Д з я ц е л. Гаспадыня! Косіць сама, людцы, малоціць. Не горш за мужчыну. Арэ сама...

Ч ы б у к. І есць сама?
Д з я ц е л. Што?!. А, балабон!

Залыгін рагоча.

Ч ы б у к. А ты, божая кароўка, не кіпі! І язык пачасаць нельга!
З а л ы г і н. У такое надвор'е толькі і ўцехі!
Ч ы б у к *(знарок мякка)*. А як яна, балота, з сябе? Ну, з фізіяноміі, з цела?
Д з я ц е л *(хмурна)*. Нічога. Спраўная.
Ч ы б у к. Спраўная. Гэта — нуль, пустое слова. Ну, як...
Д з я ц е л. Чаго?
Ч ы б у к. Ушчыкнуць яе, балота, ёсць за што?
Д з я ц е л *(абурана)*. Гледзячы каму!
Ч ы б у к. Вядома, не табе!
Д з я ц е л. Яна не такая!

Чуваць свіст снарада. Выбух.

Ч ы б у к. Усе яны не такія. За спадніцу трымай і то рогі наставіць. А тут... Даўно прыгрэла якога-небудзь...
Д з я ц е л *(пабялелы ад злосці)*. Не ўводзь мяне, Чыбук, у гнеў! Я ў гневе — ты ведаеш!..
З а л ы г і н. Ну, хопіць. Выпусціце лішнюю пару. Мала таго, што з немцамі вайна, яшчэ і самі між сабой!
Д з я ц е л. А што ж ён, скула, звычку ўзяў такую?
Ч ы б у к. І пачасаць язык няможна! Птушка важная!

Паяўляецца с а л д а т, які нясе кацялкі з ежай.

З а л ы г і н. Дзе ты прападаў, праклятая душа?
С а л д а т. Дзе быў, там няма. Бярыце ды дзякуйце, што прынёс!

Салдаты дастаюць свае кацялкі, рэжуць хлеб на пайкі. Разліваюць у кацялкі суп.

З а л ы г і н. Зноў шрапнель!.. І з неба шрапнель, і ў кацялку! Ва ўсіх відах!
С а л д а т *(узрушана)*. Што робіцца на белым свеце!
Ч ы б у к. Што ж робіцца?

Салдат. Газетку, чуў, чыталі. Бальшавіцкую. Керанскага там — з зямлёй! І што буржуазіі служыць, і што прадаўся!

Залыгін. Праўду пішуць.

Дзяцел. Праўду? Цяпер гэтых праўд развялося больш, як грыбоў у цёплы дождж. Якая з іх лепшая — не разбярэш!

Салдат. А можа, той, сапраўднай, і зусім няма.

Залыгін. Ёсць.

Чыбук. Дзе яна, пад якім кустом? У бальшавікоў?

Залыгін. У Леніна.

Некалькі выбухаў. Усе хвіліну пасля іх яшчэ маўчаць, чакаюць.

Чыбук. Твой Ленін — немец. Яго немцы перакінулі к нам у пламбіраваным вагоне...

Паяўляецца паручнік Адзінцоў. Ён заклапочаны, насцярожаны.

Адзінцоў. Быць напагатове! Ёсць весткі, што немцы рыхтуюць атаку!

Адзінцоў выбягае. Чуваць, як на хаду загадвае іншым: «Быць напагатове!»

Залыгін. Брахня ўсё! Не немец ён, Ленін! Я ведаю.

Дзяцел. Ты што, знаёмы?

Залыгін. Знаёмы, не знаёмы, а ведаю.

Дзяцел. Хто ж ён?

Залыгін *(даверана, значна)*. З салдат сам!

Чыбук. Брэшаш!

Залыгін. Я брашу?!. З кулямётчыкаў. Тут недалёка ад нас ваяваў, пад Маладзечнам. Дружок мне казаў, служыў з ім. Фельдфебеля за адвагу далі, смелы! Тры Ягорыі начапілі...

Салдат. Ну?!

Залыгін. А цяпер разжалавалі. І крыжы, вядома, адшпілілі. Хацелі судзіць, ды ён не даўся. У Пецярбург дружкі яго пераправілі.

Дзяцел. За што ж гэта яго? Разжалавалі?

Залыгін. Супраць Керанскага маршруту пайшоў!

Ч ы б у к. А мне казалі — немец ён. І прозвішча гэта ў яго не сваё...

Д з я ц е л. Чаго толькі не пішуць. Адна газета — адно, другая — другое... Партый адных колькі — тут табе і меншавікі, і бальшавікі, і эсэры, і гэтыя, як іх... сацыялісты-рэвалюцыянеры...

З а л ы г і н. Сацыялісты-рэвалюцыянеры і эсэры — адно і тое ж.

Д з я ц е л. Я ж і кажу. Усе за народ, за свабоду! Ніхто не супраць! Кожны Кузьма — бацька!

Ч ы б у к. Гэта — пакуль... А там — як запрагуць... Вось Керанскі, падла худая, чаго абяцаў, а потым — во! *(Паказвае дулю.)*

С а л д а т. Як сядзелі ды гібелі, так і зараз сядзім! *(Таварышам.)* Чыя чарга падмяняць назіральніка?

Ч ы б у к *(салдату)*. Твая.

С а л д а т бярэ вінтоўку, ідзе да назіральніка. Змяняе яго. Н а з і р а л ь н і к сходзіць уніз, абедае.

З а л ы г і н. Ленін, бальшавікі супраць вайны. Маўляў, вайна — гэта мясабойня для трыбухоў багацеяў.

Д з я ц е л. Бойня, гэта праўда... А як Ленін пра зямлю, што кажа?

З а л ы г і н. Зямлю — аратым! Усю ад памешчыкаў ды мужыкам.

Д з я ц е л. Мужыкам? І вайне канец? *(Недаверліва.)* Як ты думаеш, сур'ёзна гэта яны ці так — «кось-кось» ды ў аглоблі?

З а л ы г і н. Сур'ёзна.

Д з я ц е л. Цвёрда? Сялянам? І вайне канец?

З а л ы г і н. Цвёрда. Без маны.

Грымяць частыя блізкія выбухі.

Ч ы б у к. Б'е і б'е немец!..

Д з я ц е л. Ахвота, скажы ты, скула яму, атаку гэтую пачынаць.

З а л ы г і н *(пасля выбуху)*. То недалёт, то пералёт...

Д з я ц е л. Прыстрэльваецца Вільгельма, ці што... *(Назіральніку.)* Эй ты, чалавеча, асцярожней вытыркайся!.. *(Задуменна.)* Эх, колькі народу пакалечылі, панішчылі!.. За што? За якія грахі?

Ч ы б у к. Каб газаў, нячысцік, не пусціў!

Хутка, імкліва расце ўедлівы свіст. Усе стуляюць галовы, чакаюць. Грукочуць выбухі. Адзін — зусім блізка. Выбліск полымя, гром, дым. Салдат-назіральнік, выпусціўшы вінтоўку, схапіўшыся за грудзі, падае.

Д з я ц е л. Пранесла! А блізка было! Каб крыху!..

Чуваць пакутлівы стогн.

З а л ы г і н. Марчанку раніла!

Падбягаюць да назіральніка.

Д з я ц е л *(з жахам адварочваючыся)*. Гэх, як яго...

Ч ы б у к. Глядзі! Не барышня! Заўтра, можа, і цябе ці мяне.

З а л ы г і н. Санітара!

Д з я ц е л. Ён штосьці хоча, небарака, сказаць! *(Нахіляецца.)* Што, што, братачка, кажаш? *(У адчаі.)* Хрыпіць... не разбярэш!

З а л ы г і н. Пісьмо нейкае, кажа...

Ч ы б у к. Пасладь ці напісаць просіць!..

Зноў некалькі блізкіх выбухаў.
Падбягае паручнік А д з і н ц о ў.

А д з і н ц о ў. Падрыхтавацца!.. Што тут?

Д з я ц е л *(паказвае)*. Марчанка...

А д з і н ц о ў. Што? Ранены?

Д з я ц е л *(здымаючы шапку)*. Ужо... забіты.

А д з і н ц о ў. Пахавальная каманда прыбярэ... На месцы!

Ч ы б у к *(праз спазмы злосці)*. Да якога ж гэта, госпада бога, часу, паручнік?

А д з і н ц о ў. Што?

Ч ы б у к. Кішкі выпускаць нам будуць!..

Д з я ц е л. Калі ж, праўда, канец гэтаму?

А д з і н ц о ў. На месцы! Зараз жа!

Ч ы б у к. Не крычы, паручнік!

А д з і н ц о ў. Я загадваю!

Малады, гарачы паручнік хапаецца за кабуру. Дзяцел ужо гатоў быў паслухацца, а Чыбук прыўзнімае вінтоўку.

З а л ы г і н. Паручнік, спусці пару!.. Не стары рэжым!

А д з і н ц о ў. Вы пагражаеце мне?! Добра, мы з вамі яшчэ пагаворым! *(Мякчэй, з одумам.)* На месцы! *(Адыходзіць, стрымліваючы ўзрушэнне. Чуваць яго каманда: «Падрыхтавацца... атражэнню атакі!..»)*

**Ч ы б у к** *(пагрозна).* Пагаворым, палічымся! *(Зірнуў на забітага. Раптам яго ўсяго скаланула, ён парывіста ўзняў кулакі).* Будзьце вы праклятыя! Няхай усіх вас, падлаў!.. Усіх вас!.. *(Яго словы тонуць у частых, грозных выбухах.)*

*Заслона*

## *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### ДВОЕ ЗАКАХАНЫХ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Зала рэстарана «Парыж» у Мінску. Зала гэтая невялічкая, баковачка, яна прымыкае да большай, асноўнай, у якую вядуць невялікія дзверы, прыкрытыя парцьераю. За дзвярыма чуваць шум галасоў, рэстаранная музыка, тут жа і ціха, і ўтульна. У пакойчыку пуста. Толькі афіцыянт, немалады, у паношаным касцюме, гаспадарыць — стаўляе чаркі, раскладае салфеткі. Хутка ён выходзіць, і амаль адразу пасля яго ў пакойчыку паяўляюцца Чыбук, Дзяцел і Залыгін.

Ч ы б у к. Ну вось!..

Д з я ц е л. Што?

Ч ы б у к. Месца!.. Вольныя сталы!.. *(Адштурхоўвае Дзятла, п'яны валіцца на стул.)*

З а л ы г і н. Чакай рассаджвацца!

Ч ы б у к. Чаго, кержак, чакаць?!

Д з я ц е л. Чыста завельмі для нашага брата! І пуста. Там, як кількі, набіта, а тут пуста. *(Азіраючыся.)* Як у тым... як яго... у кахвé!

Ч ы б у к. Абрус чысты. Божая кабылка, глядзі — абрус чысты! Пацеха!

Д з я ц е л. Чысты, як снег.

Ч ы б у к. Няўжо для нашага брата, франтавой кабылкі, стараюцца?

Д з я ц е л. Набраўся, як падэшва. Плявузгаеш!..

Ч ы б у к. Узяў у горла. Бо свята — трапіў у тыл!

З а л ы г і н. Каб не ўгаварыў я патруль, было б табе свята, на губе!

Ч ы б у к. Напалохаў, кержак, казу капустаю! Губою!

З а л ы г і н. Зачыні сіфон!

Уваходзіць п р а с т ы т у т к а.

П р а с т ы т у т к а *(напяваючы)*. «Очи черные!..» Вольны куточак, нарэшце!

Ч ы б у к. Вольны!..

П р а с т ы т у т к а. «Очи страстные...» Можна пабач з вамі, героі?

З а л ы г і н *(холадна)*. Мы не героі...

Ч ы б у к. Давай, дунька, сядай!

П р а с т ы т у т к а *(сядаючы)*. Грубіян!.. «Очи жгучие...»

Д з я ц е л. А вы, даруйце за цікаўнасць, кім будзеце?

П р а с т ы т у т к а. «Очи жгучие и...» Я? Муся. Можна проста: Муха.

Д з я ц е л. Муха-то Муха... А які, як бы сказаць, занятак маеце?

П р а с т ы т у т к а *(з гонарам)*. Я — вольная!..

Д з я ц е л. А, разумею — паненачка, значыцца?.. Мармазеля.

Чыбук груба цягне яе да сябе, абдымае.

Д з я ц е л *(збянтэжана)*. Чыбук!

П р а с т ы т у т к а *(няшчыра)*. Ах, як вы пасмелі! Грубіян!

Ч ы б у к. Грубіян, дуня, угадала! *(Зноў абдымае.)*

П р а с т ы т у т к а. Ах, не дурэйце! *(Кажа так, нібы заахвочвае.)* Хіба ж можна так? Толькі таму, што вы герой, я вам дарую!

Д з я ц е л *(іранічна)*. Што герой, то герой!..

П р а с т ы т у т к а. Я адразу здагадалася, што гэта *(паказвае на іх пагоны)* нішто.

З а л ы г і н. Чаму нішто?

П р а с т ы т у т к а. Таму, што гэта розныя носяць... А заходзяць сюды не ўсе!..

З а л ы г і н. А хто ж?! *(Здагадаўся, дае знак Дзятлу: трэба ісці!)* Чыбук!

Ч ы б у к. Ну, што?

З а л ы г і н. Хадзем!

Ч ы б у к. Гэта чаму?

З а л ы г і н. Не на тую пуць трапілі!

Ч ы б у к. Глупства! Як гэта не туды! *(Кліча.)* Эй ты, божая скацінка! Афіцыянт!

З а л ы г і н. Задні ход, поўны!.. Чуеш?!

У гэты час дзверы, што з другога боку ад тых, якія вядуць у вялікую залу, адчыняюцца, і ў пакой уваходзіць генерал Б а л у е ў, галоўнакамандуючы Заходнім фронтам. За ім паяўляецца К а л а т у х і н, штабс-капітан, камісар фронту. Прастытутка першая заўважае іх, ускаквае.

П р а с т ы т у т к а. Прывітанне рускім героям!

К а л а т у х і н. Брысь адсюль!

Д з я ц е л. Чыбук!

П р а с т ы т у т к а *(Калатухіну)*. Знаёмых не пазнаеш, кавалер!..

К а л а т у х і н. Пайшла прэч!..

Стараючыся трымаць гонар, п р а с т ы т у т к а выходзіць. Залыгін штурхае Чыбука, каб падняўся, але той сядзіць, разваліўшыся.

Б а л у е ў. А гэта хто?

З а л ы г і н *(перад генералам, рапартуе)*. 61-га грэнадзёрскага палка...

Д з я ц е л. ...трэцяга батальёна!

Убягае а ф і ц ы я н т. Убачыўшы генерала, Залыгіна, Дзятла і п'янага Чыбука, ён, устрывожаны, кідаецца да іх.

А ф і ц ы я н т *(Балуеву)*. Прабачце, ваша высока... *(Салдатам.)* Як вы сюды трапілі?

Ч ы б у к. Як? У дзверы!

А ф і ц ы я н т. Зал закрыты!

Ч ы б у к. Што значыць закрыты! Калі ён адкрыты!

Б а л у е ў *(гнеўна)*. Устаць!

Чыбук аглядае яго. Неахвотна ўстае.

Якая распуста!..

Чыбук паволі цверазее.

Ч ы б у к. «Распуста». За тры гады пагуляць!..

З а л ы г і н. З ім гэта першае здарэнне, грамадзянін генерал!

Ч ы б у к. «Распуста»...

Б а л у е ў. Маўчаць, жывёла!

Ч ы б у к *(ускінуўшы галаву, абражаны)*. Я?.. Я — жывёла? Я?

Чыбук ірвецца да генерала. Залыгін хоча адвесці Чыбука далей ад бяды, але той не слухаецца.

К а л а т у х і н *(афіцыянту)*. Патруль!

Ч ы б у к. Я? Паўтары яшчэ!

А ф і ц ы я н т кідаецца з пакоя. У пакой зазірае паручнік А д з і н ц о ў. Зразумеўшы, што адбываецца нядобрае, ён насцярожана падыходзіць.

А д з і н ц о ў. Дазвольце, грамадзянін генерал!.. *(Дзятлу.)* Што тут такое?!

Д з я ц е л. Прыгода... Грамадзянін паручнік, так што... Чыбук не пазнаў... *(Кіўнуў на Балуева.)*

Б а л у е ў. Вашы?

А д з і н ц о ў. Так точна!

Б а л у е ў. Чаму яны ў Мінску? Не на пазіцыях?

Д з я ц е л. Так што прысланы ў складзе каманды атрымаць прыпасы.

Б а л у е ў. Я не вас пытаю! *(Адзінцову.)* Разбэсцілі! За чым гледзіцё?

А д з і н ц о ў. Вінаваты, грамадзянін генерал!..

Уваходзіць п а т р у л ь.

К а л а т у х і н *(на салдат)*. Арыштаваць!

Д з я т л а, Ч ы б у к а і З а л ы г і н а выводзяць.

Б а л у е ў *(Адзінцову)*. Перадасцё камандзіру палка, што я налажыў на вас спагнанне!..

А д з і н ц о ў. Ёсць перадаць. Але дазвольце, грамадзянін генерал...

Б а л у е ў. Што?..

А д з і н ц о ў. Я смею прасіць вас зняць віну за гэты эксцэс. Па прычыне таго, што я з учарашняга дня лічуся ў адпачынку.

Б а л у е ў. Тым горш. Забараняю вам адпачынак!

К а л а т у х і н. Барыс Сямёнавіч!

Б а л у е ў. Што?

К а л а т у х і н. Даруйце, што я дазваляю сабе ўмешвацца ў вашу размову; мне здаецца, вы праз меру строгія да паручніка...

Б а л у е ў. Вы можаце яго апраўдваць, камісар?!.

**Калатухін.** Ён не вінаваты... Акрамя таго, паручнік Адзінцоў — май фрэнд... мой прыяцель...

**Балуеў** *(пасля паўзы Адзінцову, хмурна).* Сядайце.

**Адзінцоў.** Дзякую. *(Сядае за стол.)*

Падыходзіць афіцыянт.

**Балуеў.** Гарэлка... грыбы марынаваныя.

**Калатухін.** Нам — мартэль. Салат парыжскі *(Адзінцову.)* Ты не пярэчыш?

Афіцыянт выходзіць.

**Адзінцоў.** Дзякую. Але я павінен...

**Калатухін.** Ніякіх «я павінен»! Мартэль сапраўдны! Дарунак саюзных французаў. *(Адзінцову.)* Даўно не бачыліся!

**Адзінцоў.** Яшчэ пры імператары Мікалаі...

**Калатухін.** Ах, вучылішча!.. «В Москве я помню улицу...» Надзечка-забіяка, лэдзі з Няглінкі. Ты што ж, і вокам не міргнуў? Не пазнаў?

**Адзінцоў.** Ты так высока ўзляцеў, што я палічыў за лепшае не напамінаць... пра беднага знаёмага!..

**Балуеў** *(Адзінцову).* Вы... гм. Салдат суправаджалі ў горадзе не вы?

**Адзінцоў.** Так точна. Я іх тут выпадкова ўбачыў. Яны прайшлі па зале *(кіўнуў на суседнюю залу),* калі я там вячэраў... Я ўстаў, пацікавіўся, што яны тут робяць...

**Балуеў.** Мярзота!.. Разбэсціліся!.. Я пра ніжнія чыны!.. Грэнадзёрскі корпус — гняздо распусты!.. Да якой ганьбы дайшлі — братанне! З праціўнікам!

**Калатухін.** Братанне — гэта праказа.

**Адзінцоў.** Мы днямі заўважылі такую групу і — з кулямёта!..

**Балуеў.** Распуста! Я заўтра выклікаю ваеннага пракурора і дам загад: ніякай літасці! І камандзірам загад: ніякай літасці мярзоце!..

Афіцыянт прыносіць пітво, закускі. Калатухін налівае каньяк і гарэлку ў чаркі. Спачатку Балуеву, потым Адзінцову і сабе.

**Адзінцоў.** Дзякую. Але я... З вашага дазволу... *(Адстаўляе чарку.)*

К а л а т у х і н. Май фрэнд! Ты ці не ў цвярозыя запісаўся?

А д з і н ц о ў. Ёсць прычына.

К а л а т у х і н. Якая?

А д з і н ц о ў. Мяне чакаюць...

К а л а т у х і н. Хто? Ён, яна? Прыгожая незнаёмка?

А д з і н ц о ў. Дзяўчына адна. Настаўніца з гімназіі.

К а л а т у х і н. О! Вось што робіць фронт з ідэалістамі. Франтавая закваска! «Карпэ дзіем»,— казаў Гарацый.— «Зрывай дзень», ці па-нашаму: «Лавіце міг удачы»...

Б а л у е ў. Раман?

А д з і н ц о ў. Я — сур'ёзна.

К а л а т у х і н. Жаніцца думаеш? Дзіўна, да чаго сталі падкія сучасныя расейскія афіцэры на вяселлі!..

Адзінцоў ад непрыхільнасці чырванее, але стрымліваецца.

Б а л у е ў. Даўно... гм... пазнаёміліся?

А д з і н ц о ў. Трынаццаць месяцаў...

К а л а т у х і н. Тры сустрэчы на пяць мінут, і усё іншае — гарачыя лісты?

А д з і н ц о ў *(устаючы)*. Я вельмі ўдзячны за гонар, але павінен прасіць дазволу пакінуць вас...

Б а л у е ў. Ну што ж!

К а л а т у х і н. Не злуй! Я па-сяброўску! Спадзяюся, мы яшчэ пабачымся? *(Вырывае лісток з блакнота, піша, дае Адзінцову.)* Мае каардынаты. Лепш за ўсё — проста ў франтавы камітэт. Там заўсёды скажуць, дзе я.

Адзінцоў казырае генералу, развітваецца з Калатухіным.

Б а л у е ў. Вось што... гм... Спагнанне — адмяняю. Можаце ехаць адпачываць...

А д з і н ц о ў. Дзякую, грамадзянін генерал! *(Выходзіць.)*

К а л а т у х і н. Жаўтароты ідэаліст!..

Б а л у е ў. Я хацеў бы абмеркаваць з вамі некаторыя пытанні становішча. Абмеркаваць, так сказаць, неафіцыйна...

К а л а т у х і н. Я гатовы хоць зараз, генерал.

Б а л у е ў. Мы стаім перад катастрофай... Нягледзячы на мае загады, салдаты больш заняты ўцяпленнем на зіму жылля, чым пазіцыямі. Кожны дзень новыя факты спаду дысцыпліны і нечуванага непаслушэнства... Да ўсяго — нараканні на няхватку хлеба, абутку... Я адчуваю, як палкі і нават дывізіі выходзяць з падначалення...

К а л а т у х і н. Уся віна за непарадак у арміі ляжыць на бальшавіках!

Б а л у е ў. Я лічу, становішча патрабуе самага блізкага супрацоўніцтва між мною і франтавым камітэтам... Я ўжыву самыя жорсткія меры, каб наладзіць парадак, але я баюся, што гэтага будзе мала...

К а л а т у х і н. Вы — палітык, генерал. Вы маглі б упрыгожыць Вестмінстэр. Воленс-ноленс, без нашай падтрымкі вы нічога не зробіце. У нас сіла, мы маем уплыў на армію.

Б а л у е ў. Я здаволен, што вы разумееце... І прашу... будзем разам!

К а л а т у х і н. Я згодзен прыняць... вашу просьбу.

Б а л у е ў. Дзякую. *(Падносіць чарку да чаркі Калатухіна, чокаецца.)*

К а л а т у х і н. «Жрэбій кінут»,— казаў Цэзар. Думаю, што нашы арганізацыі на месцах падтрымаюць вас... Ва ўсякім выпадку, я зраблю ўсё, што магу...

Б а л у е ў. Дай бог! Я веру, што разам мы вернем у армію паслушэнства і лад. *(Стомлена.)* Гэта сустрэча з вамі амаль адзіныя прыемныя хвіліны сёння.

Уваходзіць а д' ю т а н т. Ён надзвычай усхваляваны. У руках трымае стужку тэлеграмы.

А д' ю т а н т. Выбачайце, Барыс Сямёнавіч... Я вымушан...

Б а л у е ў. Што здарылася?

А д' ю т а н т. Тэлеграма. З Петраграда...

Б а л у е ў. Што з вамі?

А д' ю т а н т. Прачытайце.

Балуеў бярэ тэлеграму. Яна ўражвае генерала так, што, прачытаўшы яе, Балуеў глядзіць на стужку тэлеграмы неўразуменным позіркам. Чытае другі раз, раптам налівае каньяк. Рукі ў яго дрыжаць.

Б а л у е ў. Якая брыдота!

К а л а т у х і н. Што такое?

Б а л у е ў. Арда рушыла!.. Расія... *(паказвае жэстам: гіне).*

К а л а т у х і н. Як вас разумець?

Б а л у е ў. У Петраградзе бальшавікі ўзялі ўладу!

К а л а т у х і н. Бальшавікі?! А Керанскі?

Б а л у е ў. Уцёк. Збег... ваш Керанскі!..

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Невялікі ціхі пляц перад мінскай турмой.
На пляцы спачатку пуста, толькі постаць в а р т а в о г а каля ўваходных дзвярэй. За вартавым акрэсліваюцца турэмныя будынкі, збоку наводдаль — вышка. Пяшчотна трымаючыся за рукі, уваходзіць В а л я і А д з і н ц о ў, спыняюцца. Закаханыя, напоўненыя радасцю сустрэчы, яны жывуць толькі сваім пачуццём, не бачаць нічога вакол.

В а л я. Колькі гэта кіламетраў нахадзілі мы сёння?

А д з і н ц о ў *(смеючыся).* Не заўважыў!

В а л я. Я таксама!.. Мне ўсё здаецца такім незвычайным сёння! І ноч, і бадзянні нашы, і ты, блізкі, поруч!..

Адзінцоў цалуе яе.

А д з і н ц о ў. Цішыня, як у пустыні Сахары!.. Нібы ні вайны, ні смерці, ні подласці... Толькі мы ва ўсім Мінску, у цэлым свеце! Адны!..

В а л я. У мяне заўтра ў пятым класе ўрок батанікі. Тэма — «Расліны і сонца»... Я ўжо думала, як пачну яго... Мільярды гадоў, скажу я, робіць зямля свой звычайны круг вакол сонца. Мільярды гадоў дзень змяняецца ноччу, а ноч — днём... *(Задумліва.)* Мільярды начэй!.. Няўжо і гэтая ноч толькі адна з мільярдаў іншых, такая ж звычайная?

А д з і н ц о ў. Філосаф ты!..

В а л я. А ты... як ты думаеш?

А д з і н ц о ў. Я думаю, што ў многіх былі свае, асаблівыя ночы. Сёння яна ў нас!.. *(Дзелавіта, рашуча.)* І таму будзем думаць пра яе! Спусцімся на зямлю!.. Валя, будзем разам... Зусім... *(Паўза.)* Ты згодна?..

В а л я. Валодзя... ты ведаеш... Я люблю цябе...

А д з і н ц о ў. Чаму ты не дагаварваеш?..

Валя. Я згодна... Але не цяпер... Крыху пазней...

Адзінцоў. Чаму пазней? Валя, мы можам паехаць да маіх. Быць удваіх цэлы месяц. Такія абставіны могуць здарыцца не хутка. Ты разумееш?

Валя. Я разумею, Валодзя. Але і ты зразумей мяне. Я не магу цяпер...

Адзінцоў. Што ж табе перашкаджае цяпер?

Валя. Ёсць прычына. Адна жыццёвая акалічнасць.

Адзінцоў. Я, можа, лішне настойлівы: якая?

Валя. Я не хацела хмарыць сустрэчу, але калі ты так хочаш ведаць... Дзядзьку майго арыштавалі. Антона.

Адзінцоў. За што?

Валя. За варожую дзейнасць. Гэта ў прыгаворы напісана, а сапраўды — за агітацыю сярод салдат...

Адзінцоў. Ён — бальшавік?

Валя *(ківае галавой)*. У той час, калі ён пакутуе за кратамі, мне спраўляць вяселле!..

Адзінцоў *(пасля паўзы)*. Усё ж, я думаю, гэта не прычына адкладваць.

Валя. Ты ведаеш, што ён мне не проста сваяк.

Адзінцоў. Дзядзька, які б ён ні быў,— толькі дзядзька.

Валя. Ён мне, калі я стала сіратой, як маці і бацька. Ён мяне прытуліў, выхаваў. На свае мазольныя капейкі даў гімназію скончыць! Я — яго дачка!

Адзінцоў. А я думаў, аформіш водпуск і — добры дзень, арэнбургскі стэп!.. Маці сустракае на ганку нявестку!..

Валя. Не трэба, не трывож сябе лішне! *(Каб перамяніць размову.)* Што бацька піша?

Адзінцоў. Таксама на фронце. У Карпатах. Лечыць коней, як і да вайны... Ён лечыць коней, а я забіваю людзей! Разам працуем на айчыну! *(Да Валі.)* А ты за каго? Таксама?.. Не! Не гавары! Не хачу ведаць! К чорту палітыку! Хачу толькі кахання! Вочы твае любыя бачыць хачу, рукі твае грэць у сваіх руках! Хачу толькі шчасця, шчасця быць з табой! *(Абдымае, цалуе.)* Цішыня!.. Мы адны! Мы толькі адны ў цэлым свеце!

Вартавы. Эй вы!.. Не дазволена тут!

Валя. Ой!

А д з і н ц о ў. Эх, чорт! Абазваўся, выбраў час!..

В а р т а в ы. Вінават, ваша благароддзе! Не палажана тут!

В а л я. Хадзем! Дамоў ужо час!.. Праводзь мяне...

А д з і н ц о ў. Яшчэ крыху пройдзем. Да той вуліцы?

Выходзяць.
На пляцы паяўляецца К а ц я р ы н а, жонка Дзятла, у каптане, з мяшком за плячыма, убачыўшы вартавога, накіроўваецца да яго.

К а ц я р ы н а. Чалавек, ці не скажаш мне...

В а р т а в ы *(настаўляючы вінтоўку).* Не падыходзь!

К а ц я р ы н а. Ты што гэта?

В а р т а в ы. Не падыходзь, кажу.

К а ц я р ы н а. Таечкі! Ты гэта на мяне? На бабу?

В а р т а в ы. На цябе! Падыходзіць не дазволена!

К а ц я р ы н а. Бач ты, цаца якая! Таечкі! На вярсту да яго не падыходзь! Патрэбен ты мне, як леташні снег, грыб ты разлезлы!.. Ты лепш скажы, дзе мне шукаць па гэтаму адрасу?

В а р т а в ы. Ідзі адсюль, чуеш? Не магу я гаварыць, ясна? Не палажана!

К а ц я р ы н а. Тфу ты, цацярук! Не дазволена! Не палажана!

В а р т а в ы. Прэч адсюль! Каравульнага фельдфебеля паклічу!

К а ц я р ы н а. Таечкі! Клікі! Баюся я яго, твайго шархебеля! Яшчэ пушку настаўіў, каб табе рогі наставіла, пудзіла ты вароняе!

Зноў ідуць А д з і н ц о ў і В а л я. Кацярына адразу спяшаецца да іх.

К а ц я р ы н а *(Адзінцову).* Салдат, мо ты паможаш мне?

А д з і н ц о ў. Чым?

К а ц я р ы н а. К чалавеку свайму еду па адрасу, на пазіцыі. Толькі адрас у яго такі, што каго ні пытаю, не ведаюць, дзе тое.

А д з і н ц о ў. У дзеючай арміі? На вайне? Лёгка сказаць, дзе!

К а ц я р ы н а. А бо ж. Паглядзі.

Кацярына падае паперку. Адзінцоў глядзіць, уражаны.

А д з і н ц о ў. Наш!.. А каго вам трэба? Каго вы хочаце бачыць?

К а ц я р ы н а. Дзяцел — чалавек мой па прозвішчу. Ведаеце?

А д з і н ц о ў. Ведаю.

К а ц я р ы н а. Таечкі! Жывы ён?!

А д з і н ц о ў. Жывы. Але вы дарэмна туды ідзяце.

К а ц я р ы н а. Як гэта дарэмна? Чаму?

А д з і н ц о ў. Няма... *(Папраўляецца.)* Не пусцяць вас туды.

К а ц я р ы н а. А гэта мая справа — пусцяць ці не. Ты скажы, дзе тое?

А д з і н ц о ў. Не магу.

К а ц я р ы н а. Чаму не можаш?

А д з і н ц о ў. Не маю права.

К а ц я р ы н а. А ты ўсё ж скажы. Мала што не маеш. І ведаць ніхто не будзе. Пamру, не дазнаецца ніхто. Скажы!..

А д з і н ц о ў. Не магу.

К а ц я р ы н а. Тфу ты, не маю права. Таечкі! Усе не маюць права! Як да беднай, цёмнай бабы, дык ва ўсім Мінску няма права! А як бы пані якая, то правы ўсе знайшліся б!.. Няма права!.. Няма на вас права! *(Выходзіць.)*

В а л я. Сказаў бы ты ёй!

А д з і н ц о ў. Сядзіць ён, Дзяцел, арыштаваны...

У гэты час на пляц выбягае н е к а л ь к і ч а л а в е к. Па іх адзенню відаць, што гэта працоўныя людзі, рабочыя, гараджане. Выгляд у іх вельмі ўзрушаны і рашучы, многія ўзброены. Яны бягуць к турме.

Г а л а с ы. { Вось яна!<br>Душагубка!

В а р т а в ы *(насцярожана падымаючы вінтоўку)*. Стой! Страляю!

Людзі прыпыняюцца.

Г а л а с ы. { Апусці вінтоўку! Яна не на тое, каб у сваіх настаўляць!..<br>Адыдзі, салдат! Па-добраму!<br>Адступі, чуеш?!

В а р т а в ы. Стой!

Галасы. Прапусці туды. На двор! Адчыні вароты, служывы!
Таварыш, ты трымаеш у турме сваіх братоў! Сыдзі з дарогі!

Вартавы. Не дазволена! Паколькі я вартавы!..

Натоўп хутка расце. Адзінцоў і Валя падыходзяць да яго.

Адзінцоў. Што здарылася?

Галасы *(вартавому).* Цяпер маеш права! Усе маюць права! Керанскага — па макаўцы!

У вартавога хочуць узяць вінтоўку, але ён супраціўляецца.

Вартавы. Стой!.. Караул! Ратуйце!..

Адзін з натоўпу. Чаго крычыш, як недарэзаны?

У вартавога адбіраюць вінтоўку.

Адзінцоў. Якое бясчынства! Дзікі статак! Я павінен... Як афіцэр!

Ён не можа стрымацца, хоча кінуцца на дапамогу вартавому, але Валя бярэ яго за руку.

Валя. Валодзя! Чуеш!

Галасы. Дзяжурнага! Начальніка аховы!
Начальніка сюды!

Некалькі чалавек узбягаюць на ганак, урываюцца ў пакой аховы. Праз момант выцягваюць збянтэжанага фельдфебеля.

Фельдфебель. Я патрабую!.. Я загадваю... Разысціся!..

Галасы. Адчыняй гэту пагібель! Дзе ключы?!
Ключы!
Дай загад адчыніць!

Фельдфебель. Я патрабую! *(Хоча вызваліцца. Праз момант пачынае рвацца яшчэ мацней, бо яго абяззбройваюць.)* Не смееце!.. Зброю!.. Пры выкананні абавязкаў!.. Прэч!.. Я мушу... Мне трэба запытацца інструкцый!

Галасы. Інструкцый! Пакажыце яму «інструкцыю»! Адчыні дзверы! Ключы!

Фельдфебеля сцягваюць з ганка.

А д з і н ц о ў. Пусці!

В а л я. Не смей! Чуеш, не смей!

Н а т о ў п урываецца ў двор турмы.

А д з і н ц о ў. Пусці! Я павінен!

В а л я. Валодзя!.. Там людзі, што гібеюць за кратамі!..

А д з і н ц о ў. За кратамі сядзяць не людзі...

В а л я. А хто?

А д з і н ц о ў. Злачынцы. Дэзерціры і да іх падобныя.

В а л я. Там... Не кажы так!

А д з і н ц о ў *(неахвотна)*. Добра! Тады хадзем адсюль!

В а л я. Зараз іх выпусцяць! Яны хутка будуць тут!..

А д з і н ц о ў. Што ж, любуйся адна! *(Выходзіць.)*

Прыбягае ж а н ч ы н а, усхваляваная, неспакойная, са слязамі на вачах.

Ж а н ч ы н а. Антон!.. Божа мой!..

В а л я *(падаецца да яе, кліча)*. Вера Аляксееўна!

Жанчына не адказвае.
З турэмнага двара на пляц выходзіць н а т о ў п. Сярод тых, што ўварваліся на двор турмы, ідуць з н я в о л е н ы я.
Жанчына, якую Валя аклікнула, напружана, трывожна шукае вачыма мужа. Прабіваецца да Федасюка, парывіста, моцна абдымае.

Ж а н ч ы н а. Антон! Родны мой!

Ф е д а с ю к. Вера! *(Цалуе яе.)* Вось гісторыя! Хіба ж можна плакаць? У такі дзень!

Да Федасюка падыходзяць т а в а р ы ш ы, абдымаюць, ціснуць рукі.

Г а л а с ы. { Здароў, дружа!
Ну як ты, дай пагляджу! Не змарнеў?
Дужы, як дуб!

Падыходзіць і М я с н і к о ў, апрануты ў вайсковую форму, але без пагонаў.

М я с н і к о ў. Вітаю, Антон... Пабляднеў ты крыху. Але трымайся. Працы цяпер нам — гара Арарат.

Ф е д а с ю к. Што змагу, Алёша. Хоць зараз.

М я с н і к о ў. Зараз мы бяром пад кантроль свой пошту, вакзал, склады... Ствараем першы рэвалюцыйны полк. Там ты патрэбен.

Ф е д а с ю к. Можаш спадзявацца, Алёша.

Да Федасюка, нарэшце, прабіваецца Валя. Абдымае, цалуе.

В а л я. Са святам цябе, дзядзечка!

Ф е д а с ю к. І цябе, пляменніца. Ну, гісторыя якая, а? Турнулі к чорту крывасмокаў!

Паяўляюцца Д з я ц е л і З а л ы г і н, арыштаваныя генералам Балуевым.

Д з я ц е л. А дзе Чыбук загубіўся?

З а л ы г і н. Знойдзецца. Пачакаць трэба тут.

Д з я ц е л. З губы вызвалілі... А як там, у батальёне, не прыйдзецца даседжваць?

З а л ы г і н. Не прыйдзецца, відаць,— касуецца ўсё!

Д з я ц е л. Лёгка абышлося.

Вяртаецца з вінаватым выглядам А д з і н ц о ў, шукае Валю. Нечакана сустракаецца з салдатамі. Дзяцел казырае.

Так што, дазвольце далажыць, адпушчаны па чыстай!

А д з і н ц о ў *(стрымана)*. Добра. Вольна!.. Дарэчы, тут толькі што вас пыталіся.

Д з я ц е л. Хто?

А д з і н ц о ў. Жонка ваша.

Д з я ц е л. Жонка?! Дзе яна?

А д з і н ц о ў. Туды пайшла.

Д з я ц е л выбягае. Адзінцоў падыходзіць да Валі.

В а л я. Ты ведаеш, дзядзька на волі!

А д з і н ц о ў. Хадзем адсюль!

Уваходзіць Ч ы б у к. Азіраецца, шукаючы вачыма таварышаў. Упіраецца позіркам у Адзінцова.

Ч ы б у к. А, ваша благароддзе! *(Твар яго налівацца крывёю ад гневу.)* Ну, прыйшла чарга палічыцца! *(Кідаецца на паручніка.)*

А д з і н ц о ў. Прэч! Зараз жа!

Адзінцоў хапаецца за кабуру. Чыбука гэта раз'юшвае.

Ч ы б у к. А, афіцэрская шкура! Ты — біць?!

**В а л я.** Валодзя!.. А вы... вы... Хто вас б'е? Як вы смееце!

**Ч ы б у к.** Каціся адсюль, мадамачка! Трымайце яго, я яго ведаю!

Адзінцова абяззбройваюць. Чыбук хапае яго за горла.

**В а л я.** Божа мой, памажыце яму! Валодзя!

**А д з і н ц о ў** *(вырываецца, спрабуе вызваліцца).* Ах ты нягоднік!

**Ч ы б у к.** Шкура! Біць афіцэрскія шкуры!

**З а л ы г і н** *(адцягваючы Чыбука).* Чыбук, адыдзі!

**Ч ы б у к.** Біце сволачаў!

Падыходзіць, прабіраючыся праз натоўп, М я с н і к о ў.

**М я с н і к о ў.** Што тут такое?

**Ч ы б у к.** Гада паймалі!

**В а л я.** Заступіцеся!

**Ч ы б у к.** Біць гадаў! *(Зноў кідаецца да Адзінцова.)*

**М я с н і к о ў.** Адставіць! *(Залыгіну, другім.)* Вазьміце яго!

Чыбука адцягваюць, трымаюць.

**А д з і н ц о ў.** Ну, вар'ят!

**М я с н і к о ў.** За што ты яго?

**Ч ы б у к.** Шкура! Афіцэр!

**М я с н і к о ў.** Я таксама афіцэрам быў. Што ж, што афіцэр?

**Ч ы б у к** *(Мяснікову).* А, дык ты заступаешся! Біць і гэтага!

**Ф е д а с ю к.** Я табе дам: біць! Ведаеш, каго?

**Ч ы б у к.** Усе яны, шкуры, аднолькавыя!

**Ф е д а с ю к.** Ты гэта пра Мяснікова?!

**А д з і н ц о ў** *(аддыхваецца, зашпільваецца).* Пападзіся толькі мне ты, нягоднік!

**В а л я.** Валодзя, супакойся!

**М я с н і к о ў** *(горача).* Таварышы! Няхай радасць перамогі не асляпляе нас! Барацьба не скончана! Барацьба толькі пачалася!.. Сёння нараджаецца першы рэвалюцыйны полк. Усе, каму дарага наша перамога, уступайце ў яго! Будзьце першымі салдатамі рэвалюцыі...

*Заслона*

КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Мінскі Савет.
Прасторны пракураны пакой, падобны на іншыя пакоі, у якіх бывае многа living rознага люду. Падлога вытаптана ботамі і чаравікамі, дзе-нідзе валяюцца паперкі і акуркі. Мэбля выпадковая: ёсць і дарагое, праўда, вельмі пацёртае, крэсла, і няэграбная, саматужнага вырабу канапа. У прасценку між акон — табурэт і стол з тэлефонам. Вялікія вокны, угары выгнутыя паўкругам. За імі відны галіны голых дрэваў, хмурнае і халоднае асенняе неба.
За сталом стаіць Мяснікоў, гаворыць па тэлефоне.

Мяснікоў. Алё! Алё!.. Петраград!.. Выбачайце, таварыш Свярдлоў, нас перапынілі... З вызваленых рабочых мы арганізавалі першы рэвалюцыйны полк. Вінтоўкі і кулямёты ўзялі са зброевых майстэрань. Узброілі таксама рабочых з чыгункі, салдат запасных пяхотных палкоў... На вакзале і тэлеграфе нашы пасты... Гарадская дума распушчана... Працоўныя людзі з радасцю падтрымліваюць Савет Народных Камісараў... Меншавікі? Пакуль маўчаць, як вады ў рот набраўшы. Керанічыкі таксама!.. Мы разумеем, арэшак тут цвёрды! Многа іх тут, рознай нечысці!.. Галоўная задача? Якая? А... Перадайце Уладзіміру Ільічу, зробім усё, каб ніводзін полк, ніводная рота контррэвалюцыйнай погані ні на Петраград, ні на Маскву не прайшла! Мінск быў і будзе верным перадавым пастом Рэвалюцыі!.. Так і перадайце! Бывайце здаровы!.. *(Кладзе трубку тэлефона.)*

Мяснікоў збіраецца выходзіць, але якраз паяўляецца Валя.

Валя. Можна ўвайсці?

Мяснікоў. Паспрабуйце.

Валя. Добры дзень, грамадзянін Мяснікоў!

Мяснікоў. Добры дзень!

Валя. Я даведацца, ці няма працы... Галкіна, настаўніца я. З гімназіі. Гімназія цяпер не працуе, і я магла б узяць якую-небудзь справу...

Мяснікоў. Мне гаварыў пра вас таварыш Федасюк. Здаецца, ваш дзядзька?

Валя. Так... Ён мне параіў прыйсці да вас...

Мяснікоў. Добра параіў!.. Трэба тэрмінова адлучыцца на хвіліну, параіцца з таварышам. Дарэчы, пабудзьце тут пры тэлефоне. Кажыце: хутка буду. *(Выходзіць.)*

Валя няўпэўнена азіраецца. Звоніць тэлефон. Яна бярэ трубку.

Валя. Таварыша Алёшу? Якога Алёшу? А, таварыша Мяснікова? Няма, выйшаў. Казаў: хутка будзе.

Асцярожна заглядвае Дзяцел.

Дзяцел. Тут жыве Мельнікаў?

Валя. Мельнікаў? Няма тут такога.

Дзяцел. Вось табе! А мне сказалі — тут...

Валя. Жыў, можа, раней. Цяпер тут Савет.

Дзяцел. Ну, ён у гэтым Савеце і ёсць. Галоўны па зямельных справах. І наконт замірэння.

Валя. А! Можа, Мяснікоў?

Дзяцел. Можа, Мяснікоў! Памяць стала, як рэшата!..

Уваходзіць Мяснікоў.

Валя. Аляксандр Фёдаравіч, тут да вас таварыш.

Мяснікоў. Добры дзень!..

Дзяцел. Прыйшоў я, сказаць, з клопатам, наконт зямлі. Прачытаў я *(дастае з кішэні)* паперку, што зямлю ад памешчыкаў можна браць.

Мяснікоў. Зямля перадаецца сялянам.

Дзяцел. Перадаецца!.. Сур'ёзна гэта ці мо так — «кось-кось»? Надзейна?

Мяснікоў. Можаце не сумнявацца! Закон ёсць! Дэкрэт! Леніным падпісан!

Дзяцел. Леніным?

Мяснікоў. Леніным.

Дзяцел *(заклапочана)*. Але як жа ты яе возьмеш, калі сядзіш у акопе? А?

Мяснікоў. У сяле ж хто-небудзь астаўся?

Дзяцел. Каб жа тое было! Жонка, скула ёй, няма ўгамону, недзе ў горадзе таўчэцца! Чаго яе панесла?!.

Звоніць тэлефон. Мяснікоў бярэ трубку.

Мяснікоў. Мяснікоў... Больш за эскадрон? Яшчэ ідуць?!. Гэта, вядома, дзіўна... Падобна на тое, што яны падцягваюць сілы! Сачы і дакладвай мне! Не марудзячы! Гэта вельмі важна! *(Кладзе трубку. На твары відаць цень трывогі.)*

Дзяцел. Дык я, сказаць, таварыш Мяснікоў, і баюся: абыдуць мяне! Голы, як дубец, астануся! Можа, хіба каб замірэнне ды па хатах? Не чутно?

Мяснікоў. Замірэнне?..

Уваходзіць Федасюк. У яго падраны пінжак, на твары сляды пабояў, ён вельмі ўзрушан. Валя глядзіць на яго спалохана. Мяснікоў не паказвае здзіўлення.

Федасюк. Алёша, такая гісторыя — бяда!

Мяснікоў. Што?

Федасюк. Афіцэры пасты нашы знялі!

Мяснікоў. Ужо!.. *(Стрымана.)* Дзе?

Федасюк. На Брэсцкім вакзале. Каля складаў. *(Пасля паўзы.)* Алёша, судзі мяне: вінтоўку адабралі. Наваліліся і... Я спрабаваў утрымаць пост. І... такая гісторыя... Адным словам — судзі!..

Мяснікоў *(нібы не чуючы)*. Праз Камароўку прайшоў эскадрон казакаў. Толькі што паведамілі...

Звоніць тэлефон. Мяснікоў бярэ трубку.

Слухаю, Мяснікоў. *(Неспакойна.)* Здымаюць?! Што рабіць?.. Колькі іх там? *(Вельмі шкадуючы.)* Не, мы не можам! Мы не можам падтрымаць! *(Пасля роздуму.)* Адступіце! Так, адступіце!.. Растлумачу потым!.. Збірайце к штабу палка! Усё! *(Паклаўшы трубку.)* І на тэлеграфе здымаюць!..

Чуваць бравая песня, якая ўсё мацнее, набліжаецца. Валя падбягае да акна.

Валя. Казакі!

Дзяцел, Мяснікоў і Федасюк таксама падыходзяць, сочаць. З двара даносіцца каманда. Песня сціхае.

Дзяцел. Спыняюцца!..

Мяснікоў зноў бярэ трубку тэлефона.

Мяснікоў. Прашу франтавы камітэт!.. Франтавы камітэт? Штабс-капітана Калатухіна! Няма? А дзе ён? Вы павінны ведаць! *(Кладзе трубку.)*

Федасюк. Ён быў з казакамі, калі здымалі пост.

Мяснікоў. «Камітэт ратунку» вырашыў не далікатнічаць!

Валя *(гледзячы ў акно, трывожна)*. Яшчэ падыходзяць!

Мяснікоў *(Федавюку).* Антон, трэба зараз жа ў штаб палка! Перадай...

Уваходзіць Калатухін, за ім Адзінцоў.

Калатухін. Маё шанаванне, таварыш старшыня Савета! Я не перашкодзіў, спадзяюся?

Мяснікоў. Калі я скажу, што перашкодзілі, вы далікатна выйдзеце? *(Адзінцову.)* А, паручнік!..

З'яўленне Адзінцова вельмі хвалюе Валю. Адзінцоў таксама адчувае сябе няёмка.

Адзінцоў. Дзяцел, чаму вы не ў часці?

Дзяцел. Так што клопат тут у мяне быў... Пытанне адно...

Калатухін. Даруйце, таварыш старшыня, што я, так сказаць, бяру на сябе функцыі гаспадара, але прашу загадаць усім пабочным выйсці.

Мяснікоў. Выйсці? А хто тут пабочны?

Дзяцел. Гэта, мабыць, капітан кажуць пра мяне.

Мяснікоў. Я пабочных не бачу... *(Дзятлу.)* Аставайцеся, таварыш, паслухайце. Вам гэта, мабыць, будзе карысна.

Дзяцел. Не, не. Я зараз. Я зараз еду...

Асцерагаючыся небяспечнай сутычкі, Дзяцел ідзе да выхада. Мяснікоў праводзіць яго. У калідоры затрымлівае.

Мяснікоў. Вы цікавіліся замірэннем?

Дзяцел. Замірэнне! Тут, здаецца, скула яму, вайна другая пачынаецца!..

Мяснікоў. Вайна! За ўладу і за зямлю!

Дзяцел. За зямлю? *(Аб дэкрэце.)* Яны супраць?

Мяснікоў. Супраць... Што ж рабіць будзем?

Дзяцел. Што!.. Разабрацца трэба, што і як. Дыспазіцыю разгледзець... Маршрут!

Мяснікоў. Глядзіце. Ды не памыліцеся!

Дзяцел. Разбяромся!..

Дзяцел выходзіць.
Мяснікоў вяртаецца ў кабінет. Калатухін ужо сядзіць у крэсле як гаспадар. Выгляд у яго самаўпэўнены, нахабны — відаць, што Калатухін не збіраецца вельмі далікатнічаць. Яго насмешлівая ветлівасць яшчэ нібы падкрэслівае гэта. Калатухін дастае партабак.

Калатухін. Курыце?

Мяснікоў. Не.

Калатухін закурвае. Ён частуе Адзінцова, які, закурваючы, хоча схаваць няёмкасць ад сустрэчы з Валяй.

Калатухін. Я — як вы, мусіць, здагадваецеся — прыйшоў сюды па справе. «Экс офіцыо». Таму дазвольце пачаць адразу... са справы...

Мяснікоў. Перш за ўсё некалькі пытанняў.

Калатухін. Яны маюць адносіны да справы?

Мяснікоў. Не ведаю. Вам відней, маюць ці не маюць яны адносіны да справы.

Калатухін. Што гэта за пытанні?

Мяснікоў. Першае. Па якому праву вы знялі пасты Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта?

Калатухін. Пасты зняты па рашэнню «Камітэта ратунку радзімы і рэвалюцыі».

Федасюк. Ваш камітэт адмаўляецца падпарадкоўвацца Ваенрэўкому і Савету?

Калатухін. Так.

Мяснікоў. Другое пытанне мне становіцца зразумелым. Відаць, гэты «парад» *(паказвае ў бок акна)* — казакі ў горадзе — для таго, каб пацвердзіць, што народ за «Камітэт» і супраць бальшавікоў?

Калатухін. Можаце лічыць: так.

Мяснікоў. Зразумела. *(Падыходзячы да акна, з іроніяй.)* Відовішча гэта добра пераконвае!..

Калатухін. Вы, калі не памыляюся, юрыст па адукацыі?

Мяснікоў. Магчыма. Што вы хочаце гэтым сказаць?

Калатухін. Як юрыст, вы павінны ўмець аналізаваць факты. Мы спадзяёмся, што вы — воленс-ноленс — рэалістычна прымеце прапановы, якія мы...

Мяснікоў. Якія ў вас прапановы?

Калатухін *(вымаючы з кішэні)*. Вось. *(Чытае.)* «Першае. «Камітэт ратунку» прызнае амністыю палітычных арыштаваных, але *(зірнуўшы на Мяснікова, з націскам)* лічыць неабходным іх раззброіць».

Федасюк. Вы ўжо, здаецца, пачалі гэту аперацыю!

Мяснікоў стрымлівае сябе. Валя таксама хвалюецца, глядзіць на Адзінцова, як ён да гэтага адносіцца.

Мяснікоў. Далей.

Калатухін. «Другое. Мінскі Савет пасылае ў



Выступленне Івана Мележа на адкрыцці мемарыяльнай дошкі на доме, у якім Максім Багдановіч правёў апошнія дні жыцця. *Ялта, 23 кастрычніка 1962 года*

«Камітэт ратунку» двух прадстаўнікоў Мінскага Савета».

Мяснікоў. Трэцяе.

Калатухін *(з націскам).* «Камітэту ратунку» належыць уся ўлада ў раёне Заходняга фронту».

Паўза. Апошні пункт на ўсіх асабліва дзейнічае.

Мяснікоў. Галоўны сюрпрыз пад канец!.. Гэта не так падобна на пагадненне, як на загад.

Федасюк. Амаль капітуляцыя!.. Чаго захацелі!

Калатухін *(устае спакойна, самаўпэўнена).* Мы спадзяёмся, што ў Савета хопіць разважлівасці.

Мяснікоў. Вы не залішне ўпэўнены ў сабе?

Калатухін. У нас Каўказская каўдывізія, з намі корпус легіянераў, іншыя часці... У вас — полк Мінскага Савета, зенітчыкі, атрадзік з чыгуначнікаў... кепска абучаныя цывільныя людзі... Так? «Цыркулюс віцыозус»,— казалі рымляне — «выхаду няма»...

Адзінцоў. Увесь Заходні фронт з намі...

Федасюк. Наконт фронту не брашыце!

Калатухін *(з пагрозаю).* Што ж, Савет адхіляе прапановы «Камітэта»?!

Трывожная паўза.
За вокнамі чуваць каманда, недалёкія стрэлы — адзін, другі. Цішыню пакоя напаўняе прадчуванне блізкага бою. Валя занепакоена чакае, што будзе далей. Яна хоць маўчыць, але слухае ўсё ўважліва, убірае сэрцам і ўсё больш абураецца ўчынкамі «камітэтчыкаў».

Мяснікоў *(пасля роздуму).* Мне здаецца, што ў вашых умовах не хапае аднаго пункта.

Калатухін. Якога?

Мяснікоў. Што «Камітэт» думае пра часці, якія могуць следаваць на Петраград або Маскву? Прапускаць ён будзе іх ці не прапускаць?

Калатухін. Гэта пытанне прыватнае.

Федасюк. Прыватнае?!

Адзінцоў. Яно датычыць штаба фронту...

Федасюк. Толькі штаба? Нішто сабе!

Мяснікоў. «Камітэт» павінен абяцаць, што ён не прапусціць ніводнай вайсковай часці ў тыл! Мы можам разглядаць вашы ўмовы, толькі калі «Камітэт» возьме такое абавязацельства.

Калатухін. Гэта ваш канчатковы адказ?

М я с н і к о ў. Гэта мая думка. Я павінен яшчэ параіцца з Саветам.

Ф е д а с ю к. Савет скажа тое ж самае.

К а л а т у х і н. Я прыйду па адказ праз трыццаць хвілін.

М я с н і к о ў. Раю за гэты час абмеркаваць нашу ўмову!

К а л а т у х і н і А д з і н ц о ў выходзяць. Следам за імі хутка выходзіць, нібы даганяючы, В а л я. У калідоры яна падбягае да Адзінцова.

В а л я. Валодзя!

А д з і н ц о ў *(спыняючыся)*. Калатухін, я прыйду потым...

К а л а т у х і н выходзіць.

В а л я. Ты ці не надумаў адмовіцца ад водпуску?

А д з і н ц о ў. Калатухін папрасіў затрымацца. А ты тут? На якой пасадзе?

В а л я. Ніякай... Валодзя, як ты звязаўся з імі... з калатухінымі?!

А д з і н ц о ў. З кім жа мне быць? З бальшавікамі?

В а л я. Мы павінны быць разам, Валодзя!..

А д з і н ц о ў. Хіба я не хачу гэтага? Ты ж... ты ва ўсім вінавата!

В а л я. Ідзі сюды, Валодзя. Мы зноў будзем удваіх.

А д з і н ц о ў. З мяне хопіць ужо той сустрэчы перад турмой! Я, вядома, удзячны вашаму Мяснікову. Але думаю далей лепш ісці так, каб абыходзіцца без чужой падтрымкі.

В а л я. Валодзя, гэта ж непаразуменне.

А д з і н ц о ў. Такое непаразуменне ў другі раз можа адправіць на той свет. А я не хачу. Але гэта не галоўнае. Я не магу здрадзіць прысязе!

В а л я. Цяпер новая прысяга!..

Уваходзяць М я с н і к о ў і Ф е д а с ю к.

*(З надзеяй.)* Валодзя, ты падумай над гэтым!..

А д з і н ц о ў. Ты таксама!.. *(Не развітваючыся, выходзіць.)*

М я с н і к о ў *(заўважыўшы неспакой на Валіным твары)*. Што з табой? *(Кіўнуў у той бок, куды выйшаў Адзінцоў.)* Хто ён табе?

Валя. Так, знаёмы...

Мяснікоў. Знаёмы проста? *(Зразумеў, што пытацца больш не трэба.)* Валя, вось першае заданне. Збярыце членаў Савета. Зараз жа!

Валя выходзіць.

*(Федасюку).* Перадай штабу, усім салдатам: вытрымка! Ніякіх эксцэсаў! Могуць быць правакацыі! А мы пакуль што не можам лезці ў бойку!

Федасюк. Такая гісторыя! Але ж трэба неяк змагацца!

Мяснікоў. Мы і будзем змагацца! Толькі без панікі і не як авантурысты, а па ўсіх правілах ваеннай і партыйнай навукі. Узнімем народ, падцягнем рэвалюцыйныя часці!.. Для гэтага ты пойдзеш у грэнадзёрскі корпус, к Залыгіну. Сёння ж!..

Федасюк. Я гатоў! Хоць зараз!

*Заслона*

## *ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

### ЗАХОДНІ ФРОНТ

### КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Прыфрантавы раён.
Рэдкія, па-асенняму голыя дрэвы. Над згалелай, халаднаватай зямлёй свішча неспакойны, парывісты вецер. З недалёкага фронту чуваць частыя выбухі. Часам выбухі гучаць вельмі блізка, так што ўсё навокал уздрыгвае. Каля дрэва стаіць вартавы. Побач, за сцэнай, ідзе шумны і важны сход, і вартавы то аглядае месца навокал, то з цікавасцю слухае,назірае. Уваходзіць з абярэмкам саломы Дзяцел. Ён таксама вартавы. Кладзе салому каля зямлянкі.

Дзяцел. Ледзь дастаў... Саломы — і той днём з агнём...

Вартавы. Дарэмна хадзіў.

Дзяцел. Як гэта дарэмна? А раптам газы?

Вартавы. Маска нашто?

Дзяцел. Маска... Яно, сказаць, і дым з гэтай саломы супраць газаў... *(знак рукой: нішто.)* А ўсё-ткі.

Беражонага і бог беражэ. *(Слухаючы выбухі.)* Смаліць і смаліць!.. Задумаў нешта Вільгельма! *(Паўза. Дзяцел ківае ў бок сходу.)* Што там — слухаў?

Вартавы. Вайна! Чыстая вайна!

Дзяцел. Жыцця добрага ўсім хочацца. А якое яно — ніхто яго не бачыў. Як апостала Пятра. Вось і спрачаюцца...

Вартавы. Бальшавікі, здаецца, бяруць верх!.. Глядзі, як там капітан гэты кіпяціцца! Размахаўся рукамі, як вятрак!..

Дзяцел. Я яго, абармота, ведаю. Сутыкаўся ўжо два разы... Калатухін па прозвішчу, з Мінска. Шкодны, гад, толькі што начальнік вялікі, улада ў яго... Мельнікаў казаў: супраць дзякрэту ён! Каб не скруціў чаго якога, а? «Кось-кось» ды... Я Залыгіна папярэдзіў!

Вартавы. Не скруціць!

Дзяцел. Пільнаваць трэба гада!.. Выдумаў мне Залыгін работку, стаіш тут у такі час! Варта, скула ёй у бок!.. Ведаеш што, ты пастой тут... А я пагляджу! *(Хоча ісці.)*

Вартавы. Э, не! Хітры! Давай на «арла» пагадаем! Арол — ты ідзеш, рэшка — я...

Дзяцел. Кідай!

Вартавы. Рэшка!

Вартавы выходзіць.
Дзяцел азіраецца. З-за дрэў паяўляецца Кацярына. Ідзе, аглядваючыся, кагосьці шукаючы вачыма. Убачыўшы яе, Дзяцел хрысціцца, не верыць сваім вачам, разгублена адступае назад.

Дзяцел. Згінь... Згінь... д'ябальскае насланнё...

Кацярына *(спыняецца, устрывожаная)*. Ігнат?! Ты што гэта? Ты каго гэта — згінь, згінь?.. Каб я згінула? Таечкі!

Дзяцел. Божа!.. Святы моцны, святы бяссмертны!

Кацярына. Таечкі! Бачыце, як ён радуецца роднай жонцы?! Ты так сустракаеш мяне? Так сустракаеш?

Дзяцел. Дык гэта ты?! Праўда?! *(Здаволены.)* Кацярына?!

Кацярына. А хто ж! Таечкі! Пытаецца! *(З падазронасцю, наступаючы.)* А ты на каго думаў?

Дзяцел. Ні на каго. Яй-богу, вось табе крыж!..

Не паверыў. Думаў, з глузду сыходжу... *(Вельмі здзіўлена.)* Скула табе ў бок! Як ты сюды дабралася?!

Кацярына. Як? Дзе ішла, дзе ехала і пыталася. Дзе, кажу, такі адрас? Каторыя казалі — не ведаюць, каторыя — не дазволена. А ўсё-ткі дапыталася.

Дзяцел. Людцы! І не павярнулі з хронту?

Кацярына. Хацелі! Казалі — нельга, забаронена. Пазіцыя, маўляў.

Дзяцел. Забаронена і ёсць. Па статуту. А ты?

Кацярына. А я кажу: як другім, дык не забаронена, а як мне, беднай жанчыне... Ды так іх і сяк. Яны пагразіліся ў турму пасадзіць, але пабаяліся. Пастрашылі толькі: павяртай, пакуль не позна. Тады я абышла іх. Ды далей. Потым яшчэ сустрэлі. Арыштаваць хацелі.

Дзяцел. Арыштаваць? А ты?

Кацярына. Таечкі! А я? А я не далася!..

Дзяцел *(раптам расчулены, з захапленнем)*. Ну, хіба ж я не казаў, што ты ў мяне не такая, як усе! Гром-баба!

Дзяцел парывіста, па-салдацку нязграбна абдымае Кацярыну. У гэты час падыходзіць салдат-канваір, вядзе Федасюка. Убачыўшы Дзятла, што цалуе жонку, канваір, уражаны, спыняецца.

Канваір *(Федасюку)*. Стой! *(Дзятлу.)* Ты не мог выбраць месца іншага... для гэтага?

Дзяцел *(выпускае жонку, робіць строгі выгляд)*. А табе што! Вільнуў языком, як сабака хвастом. Куды?

Канваір. Сюды.

Дзяцел. Цяпер нельга! *(На Федасюка.)* Хто гэта?

Канваір. Шпіён.

Федасюк *(канваіру)*. Нашто брэшаш?

Канваір. Гэта я — брашу?!

Федасюк. Такая гісторыя. Я — прадстаўнік ад Мінскага Савета...

Дзяцел. Дакумент дай! *(Стараецца перад жонкай трымацца важна. Няхай ведае, што ён не абы-хто.)*

Федасюк. Няма. Дакументы адабраў паручнік...

Дзяцел. Не круціш? *(Углядаецца строга ў Федасюка, раптам мяняецца.)* Чакай, дзе я цябе, скула табе, бачыў?

Федасюк. І мне таксама здаецца, што бачыліся. Э, ды каля турмы ж, калі вызвалілі! І ў Савеце!

Д з я ц е л. Ага! У Мельнікава, які па зямельных справах!

Ф е д а с ю к. У Мяснікова!

Д з я ц е л. У яго! *(Стрымліваючыся.)* А між тым, хто цябе ведае, што ты за пава! *(Канваіру.)* Ты што ж дазволіў, каб у чалавека дакумент забралі?!

К а н в а і р. Паручнік сказаў: «Шпіён! Вядзі ў штаб!»

Д з я ц е л. І ты павёў?

К а н в а і р. І я павёў.

Д з я ц е л. Ну і дурань. А калі ён — гад, твой паручнік? Калі ён абдурыў?

К а н в а і р. Я і падумаў тое. Я і павёў не туды. Сюды, у камітэт, павёў. Няхай разбяруцца!

Д з я ц е л. А ты з галавой! *(Федасюку.)* Загадку ты задаў! Сход там ідзе. Пачакаць трэба...

Ф е д а с ю к. Мне б Залыгіна!

Д з я ц е л. Заняты. Усе заняты, не да цябе!.. *(Кацярыне.)* Як там з зямлёю, каторая ў пана? Падзялілі?

К а ц я р ы н а. Гаворкі ішлі такія між людзей. Каб падзяліць.

Д з я ц е л. Гаворкі! Цяпер ужо закон выйшаў.

К а ц я р ы н а. Закон?

Д з я ц е л. Там ужо, мусіць, пабралі ўсё. Лепшыя кавалкі пахапалі. Не магла пасядзець, баба, пачакаць. Пакуль не мінецца такое...

К а ц я р ы н а. Таечкі! Пачакаць! Я там гнуся, рвуся, у крывавых мазалях, адна... Сохну, чакаю не дачакаюся яго. У другіх мужыкі дык ці папрыходзілі, ці прыйсці пішуць, и ён, лічы, каля хаты сядзіць — і ні слыху ні дыху. Мо вырακся зусім свайго кутка?..

Д з я ц е л. Пляснула языком, яй-богу!

Ф е д а с ю к. Слухай, пакліч Залыгіна... Слова ў мяне важнае.

Д з я ц е л. Заняты Залыгін, ясна?.. Не да цябе!..

К а ц я р ы н а. Ні слыху ні дыху!.. Другія дык папрыходзілі ці прыйсці перdesigned казваюць, а ён... Яму тут не горай, як у фэст.

Д з я ц е л. От бо мянташка! Скула табе, як у фэст. Пасядзела б ты на гэтым фэсце, пад снарадамі, пабачыў бы, як запяяла б.

К а ц я р ы н а. Таечкі! «Пасядзела б тут»! Чаго захацеў для сваёй жонкі! Няма чаго сказаць, дзякую!

Мне і там соладка. *(Раптам.)* А зямлю — няхай толькі пахапаюць. Думаюць, як я адна, без чалавека!.. *(Зноў адразу мяняецца, лагодна.)* Ігнатка, дык як жа, скажы? А?

Д з я ц е л. Што як?

К а ц я р ы н а. Дадому. Дадому хутка? Скажы. Там жа дзетачкі выглядаюць — не дачакаюцца. Хатка глядзіць, страха свіціцца. Лысая штосьці чэзне, стала пагана есці. Маркотная нейкая. Хутка, скажы?..

Д з я ц е л. От бо! Ты што, вярэдзіць душу маю прыйшла?!

Хутка ўваходзяць К а л а т у х і н, А д з і н ц о ў і некалькі іх а д н а д у м ц а ў. Яны ідуць са сходу, адны рашучыя, злосныя, другія збянтэжаныя.

К а л а т у х і н. Нічога! Не падаць духам! Фронт, цвет арміі — супраць іх! З намі... *(Праходзячы, заўважае Федасюка пад вартай, спыняецца зацікаўлены.)* Хто гэта?

К а н в а і р *(суха)*. Вы хто такі?

К а л а т у х і н. Я — член франтавога камітэта Заходняга фронту.

Федасюк таксама пазнае Калатухіна. Дзяцел спачатку не ведае, як трымацца. У яго ёсць і непрыхільнасць і звыклая асцярожнасць.

К а н в а і р. Чалавека тут недалёка схапілі...

К а л а т у х і н *(каб выведаць, у чым вінавацяць Федасюка)*. Што за чалавека?

К а н в а і р. Гаворыць — прадстаўнік з Мінска. З Савета.

К а л а т у х і н *(Федасюку, быццам выкрываючы)*. Савета?! Ніякага Савета ў Мінску няма!

Д з я ц е л *(недаверліва)*. Як гэта няма? *(Адзінцову.)* Ваша благароддзе, гэта праўда?

Ф е д а с ю к. Брахня! Брэша ён!

Адзінцоў вагаецца, не ведае, што сказаць.

К а л а т у х і н *(спяшаючыся, не даючы салдатам апомніцца)*. Распусцілі Савет. Народ распусціў.

К а ц я р ы н а. Такі — шпіён!

Д з я ц е л. Распусцілі?!

Ф е д а с ю к *(салдатам).* Не верце яму! Брэша ён! Я прысланы ад Савета...

К а л а т у х і н. Адвесці ў штаб! У контрразведку!

К а н в а і р *(Федасюку).* Хацеў абдурыць! *(Калатухіну.)* Ёсць адвесці.

Канваір хоча весці Федасюка, але Дзяцел затрымлівае.

Д з я ц е л. Пачакай. Не на пажар! *(З непакоем.)* Распусцілі... Што ж, выходзіць, і дзякрэт пра зямлю — пад хвост?

К а л а т у х і н (канваіру). Выконвайце загад! Зараз жа!

Д з я ц е л *(Калатухіну).* Ты што тут камандуеш?! Як у сябе, у Мінску!.. Што ты за камандзір тут!

К а ц я р ы н а. Ігнат!..

Ф е д а с ю к. Правільна! Гані іх, салдат! Прыкладам!..

К а л а т у х і н. Добра! Вы адкажаце за патуранне дзяржаўнаму злачынцу!

Д з я ц е л. Адкажу, каму трэба!.. Чуеш! Не ўводзь мяне ў гнеў! Я ў гневе!..

У спрэчцы ніхто, акрамя Адзінцова, не заўважае, што паяўляецца Ч ы б у к. Адзінцоў насцярожваецца, рыхтуецца да сутычкі. Але Чыбук не бачыць яго — ідзе, як сляпы, кашляе, задыхаецца.

Ч ы б у к. А! Балота! Ты што раскіпеўся?!

Д з я ц е л. Ат, тут, скула яму!.. *(Прыгледзеўшыся, уражаны.)* Чыбук! Чаго ты, братка... гэтакі? Куды ты?

Ч ы б у к. Здыхаць іду, балота!

Д з я ц е л. А, у шпіталь адпраўляюць?

Ч ы б у к. Здыхаць, кажу, шынель. Не разумееш?

Д з я ц е л. Не. Ты такое плявузгаеш...

Ч ы б у к. Тое, што ёсць. *(Кашляе.)* Ду́шыць, падла!.. У горле пячэ... Дай горла прамачыць!

Дзяцел дае вады.
Калатухін, Адзінцоў, якія спачатку збіраліся ісці, спыняюцца, назіраюць.

Пашанцавала табе, балота. У час ты на сход выбраўся!.. Газы пусціў, нячысцік... І не заўважыў ніхто адразу. Снарадамі біў, найбольш звычайнымі... А між іх прыхаваў, падла, і з газамі... Вочы есць, як агнём!..

К а ц я р ы н а. Божачка ж, божа!..

Д з я ц е л. Нічога... Гэта, чалавеча, пройдзе. Вылечаць. Там, у шпіталі, дахтары!..

Ч ы б у к. Адпоўзаў сваё! Яма, шынель!.. Набраўся многа... Душыць... *(Просячы.)* Балота, будзь другам! Патроны я здуру кінуў!.. Дай!

Д з я ц е л. Нашто? *(Здагадаўся.)* Не дам! Прыдумаў!

Ч ы б у к. Адзін патрон!

К а ц я р ы н а. Божачка, што ён надумаў!

Д з я ц е л. Бога пабойся! Не дам! Ідзі да дохтара!

Ч ы б у к. Эх ты, шынель! *(Да салдат, што сышліся.)* Хто дасць? Адзін патрон!

Салдаты маўчаць, адводзячы вочы.

Ніхто? Шкада?! Чалавек кончаны... Канае... Здыхае, як сабака!.. Як падла!.. *(Кашляе.)* Няхай курчыцца, душыцца дзень, тры, тыдзень!.. Яны будуць глядзець! *(Кашляе.)* Дай, акопная скацінка!

Ніхто не дае.

Адзін патрон! Адзін!.. Сволачы!

Ч ы б у к выходзіць. Гул спачування, абурэння.

К а ц я р ы н а. Таечкі! Няўжо ж і памрэ?!

Г а л а с ы.
Трэба было даць!.. Усё роўна каюк!
Чым душыцца без надзеі, дык лепей адразу!
Немчура праклятая!!!

К а л а т у х і н *(рашуча кідаецца да салдат)*. Таварышы! Нашы контрразведчыкі паймалі нямецкую птушку — важнага шпіёна!

Адзінцоў хапае Калатухіна, хоча спыніць яго. Калатухін глядзіць на Федасюка. Аднадумцы Калатухіна энергічна падтрымліваюць яго.

Ф е д а с ю к. Таварышы!.. Сябры!..

К а л а т у х і н *(адштурхнуўшы Адзінцова, апярэджваючы Федасюка)*. Гэта птушка, за якой нашы разведчыкі даўно ганяліся! З-за яе многія нашы браты зложылі галовы!

Салдаты, большасць калатухінцаў, з гневам падступаюць да Федасюка. Дзяцел кідаецца да іх.

Дзяцел. Людцы! Што вы!.. Падурнелі!..

Чуваць блізкі стрэл. Дзяцел спыняецца. Усе таксама сціхаюць.

Людцы! Чыбук!

Забыўшыся на ўсё, Дзяцел кідаецца на стрэл. Адзінцоў сілай адцягвае Калатухіна ўбок.

Калатухін. Адыдзі!

Адзінцоў. Калі ты не спыніш гэтай бруднай... Я вымушан буду!..

Калатухін. Маўчы! Баба!

Федасюк тым часам спрабуе паправіць становішча.

Федасюк. Салдаты... Я з Мінска, ад Савета... Мне наказалі...

Калатухінцы перапыняюць яго, збіваюць іншых з толку, варожа настройваюць.

Галасы. Ад Савета? Чым ты дакажаш?
Брашы!

Калатухін. Пакажы дакументы!.. *(Сціснуўшы Адзінцову руку, як бы загадвае яму маўчаць.)*

Галасы. Дакументы!.. Ліпавыя ў яго!

Федасюк. Дакументаў няма!.. Адабраў ваш паручнік!..

Галасы. Які паручнік? Дурных знайшоў!
Вылузнуцца хоча!

Федасюк *(паказваючы рукі)*. Вось мае дакументы!.. Я — рабочы, каваль... Можаце што хочаце зрабіць са мною, але дайце сказаць! Слова ў мяне важнае, грамадскае!.. Рабочыя з Мінска...

Галасы. Бач, к рабочым падладзіўся!
Дайце, няхай скажа!.. Проста пазвярэлі ўсе!..

Калатухін. К чорту!

Федасюк *(мяняючы тактыку.)* Так, я — шпіён! Судзіце! Я рабіў на немцаў!.. Немцы заплацілі мне! Шчодра!

Адзін з калатухінцаў. Сам прызнаўся!

Федасюк *(ірве, расхрыствае сарочку)*. Вось! Тры асколкі нямецкія ў грудзях! Нямецкая плата!

Галасы. Ты не асколкі!.. Ты дакументы дай!

Убягае Дзяцел.

Дзяцел. Забіўся! Кончыў сябе! *(Пагражаючы.)* Эх, каб вы... каб вас свет не насіў!

Адзін з калатухінцаў. Кончыць гада! *(Зараджае вінтоўку, кідаецца да Федасюка.)*

Убягае Залыгін, з ім яшчэ некалькі салдат.

Залыгін. Што тут?! Стоп! Тармазы давай!

Галасы. Шпіён! Шпіёна паймалі!..

Федасюк. Такая гісторыя... Залыгін!

Залыгін. Таварыш! *(Цісне руку.)* Шпіёна? Дзе ён? Каторы?.. Гэта? Мой друг — шпіён?

Агульная збянтэжанасць. Галасы: «Тут казалі, што шпіён!» Калатухінцы змаўкаюць, адступаюцца.

Друг! Што прывяло цябе сюды, бяда ці радасць?

Федасюк. Бяда!.. *(Глядзіць на салдат, нібы разважае: гаварыць адразу ўсім ці спачатку параіцца з Залыгіным.)*

Залыгін. Па сакрэту трэба?

Федасюк. Можа, так і лепш — адразу ўсім. *(Да салдат.)* Падмога ваша трэба! У Мінску афіцар'ё захапіла ўладу! Сілаю! Такая гісторыя!.. Пагадненне пад ногі!.. Яны твораць, што хочуць! З імі казакі!..

Большасць салдат абурана шуміць.

Галасы. Вунь што! Сілаю!.. Гвалтам!

Дзяцел. А як дзякрэт, каторы пра зямлю? *(Дастае паперку.)* Во!

Федасюк. Дэкрэт таксама пад ногі!..

Дзяцел. Пад ногі! Як гэта — пад ногі?! Не!

Кацярына. Не! Мужчыны! Што ж гэта такое?..

Салдаты крычаць: «Не дадзім!», «Не дазволім!»

Федасюк. Яны хочуць праз Мінск кінуць на Петраград і на Маскву войскі!

Галасы. {Сілай на сілу! Сібіракоў туды!
А пазіцыі як? Немец вунь — цісне!

На хвіліну становіцца ціха.

Дзяцел. Браняпоезд, што на раз'ездзе ў Хвоеве!

Галасы. {Афіцэры там — гады!
Заставіць можна! Уламаць іх! Дэлегатаў паслаць трэба!
Уламаеш іх!

З а л ы г і н. Трэба ў рэвалюцыйны штаб арміі паехаць! Далажыць, параіцца! *(Федасюку.)* Ці зробім, ці ў зямлю ляжам!

*Заслона*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Пакой Калатухіна ў «Камітэце ратунку радзімы і рэвалюцыі». Пісьмовы стол у кутку пакоя, тэлефон на стале, на сцяне ваенная карта фронту. С а к р а т а р ш а каля тэлефона.

С а к р а т а р ш а. Хто? Ах, вы зноў, генерал! Няма яшчэ, Барыс Сямёнавіч! Шукаю! *(Трывожна.)* Што-небудзь здарылася асаблівае? Не, не кажыце, здарылася нешта!.. Трэці раз звоніце за некалькі мінут!.. Як толькі прыедзе, перадам адразу, каб пазваніў!

Уваходзіць К а л а т у х і н.

О, лёгкі на ўспамін!.. Ты што гэтакі?

К а л а т у х і н. Ледзь не наляцеў на кулю! Шчасце памагло знікнуць своечасова!.. У грэнадзёрскім корпусе звярынец шалёны!..

С а к р а т а р ш а. Асцерагаўся б ты!

К а л а т у х і н. Што тут?

С а к р а т а р ш а. Балуеў шукаў. Вельмі прасіў пазваніць... Нешта страшнае здарылася...

Калатухін падыходзіць да тэлефона.

К а л а т у х і н. Мадэмуазель, генерала Балуева. Барыс Сямёнавіч? Калатухін. Толькі што вярнуўся. Што за размова? З Масквы?! Чакаю. *(Паклаў трубку. Сакратаршы.)* Зараз прыедзе! Трэба ачысціць прыёмную! Скажы — прымаць не буду!

С а к р а т а р ш а. Там дэпутацыя...

К а л а т у х і н. Скажы — заняты!

С а к р а т а р ш а. Яны не пойдуць!..

К а л а т у х і н. Скажы — у мяне неадкладныя, важныя справы франтавога значэння!

Сакратарша выходзіць. Амаль адразу ў кабінеце паяўляюцца рабочыя.

Грамадзяне! Вам, здаецца, ясна сказана: я сёння прыняць не магу...

Рабочы. А мы чакаць не можам!

Калатухін. У мяне важныя справы, якія датычацца ўсяго фронту!

Рабочыя. У нас таксама важныя!.. Таксама фронту датычаць! Не тое, што фронту, усёй Расіі!

Калатухін *(падпарадкоўваючыся)*. Я слухаю. Чым магу служыць?

Рабочы. Сярод рабочых і па ўсім горадзе ходзяць чуткі, што галоўнае камандаванне фронту збіраецца перакідаць на Петраград і Маскву войскі!..

Калатухін. Цяпер так многа ходзіць чутак, што я не раіў бы звяртаць на іх увагу.

Рабочы. Значыцца, гэта няпраўда?

Калатухін. Такіх намераў, як мне вядома, у штаба фронту не было. Ды калі б, дапусцім, і былі, «Камітэт ратунку» не даў бы згоды!

Рабочы. Вы гарантуеце?

Калатухін. Вам мала майго слова?

Рабочы. Нам важны не словы, а справы. Рабочыя прыслалі нас заявіць вам, грамадзянін старшыня, што рабочыя Мінска не дапусцяць, каб з нашага горада ўдарылі ў спіну рабочых Масквы і Петраграда.

Калатухін. Што гэта за тон? Я таксама рэвалюцыянер!

Рабочы. Гэты тон значыць, што, калі ваеннае камандаванне пашле хоць адзін вагон з салдатамі супраць рэвалюцыі, рабочыя Мінска возьмуць зброю!

Калатухін. Грамадзяне, нашто гэтыя пагрозы! Ультыматум!.. Я сказаў: «Камітэт ратунку» не дапусціць ніякіх дзеянняў супраць рэвалюцыйнага народа...

Рабочы. Так і далажым!.. Але калі ашукаеце?..

Калатухін. Я прашу не забываць, з кім гаворыце!

Рабочы. Не забываем! Да спаткання!

Калатухін. Да спаткання!

Рабочыя выходзяць.
Калатухін хвіліну застаецца адзін, узрушаны, раззлаваны. Уваходзіць сакратарша.

С а к р а т а р ш а. Генерал Балуеў. З нейкім качагарам... Бальшавіком з выгляду...

К а л а т у х і н. Няхай увойдуць!

С а к р а т а р ш а выходзіць.
Уваходзяць Б а л у е ў і ч а л а в е к у паддзёвачцы, замурзаны, задымлены. Вітаюцца з Калатухіным.

Г р ы б а ў. Грыбаў *(ён хоча падаць Калатухіну руку, але той позіркам спыняе яго, здзіўлена, грэбліва аглядвае незнаёмага).*

Б а л у е ў. Капітан Грыбаў. З Масквы.

Грыбаў раптам з агідай скідае паддзёўку і стаіць ужо ў афіцэрскай гімнасцёрцы, стройны, падцягнуты.

Г р ы б а ў. Прыйшлося пераабмундзіравацца... Капітан Грыбаў.

К а л а т у х і н. Калатухін.

Г р ы б а ў. Сто пяцьдзесят кіламетраў на тэндэры...

К а л а т у х і н. Можна памыцца... *(Паказвае на дзверы.)*

Г р ы б а ў. Не цяпер...

К а л а т у х і н. Даўно з Масквы?

Г р ы б а ў. Выехаў учора. Прыбыў толькі што.

К а л а т у х і н. Што там?!

Г р ы б а ў. Матухна-Масква канае!.. Горла яе бязлітасна, усё мацней сціскае брудная, жалезная лапа бальшавіка і пралетарыя з Прэсні і «Гужона»!.. Кожны афіцэр, у якім яшчэ жыве сумленне, абавязаны, не марудзячы ні хвіліны, кінуцца ратаваць яе! Рассекчы брудную лапу, што душыць святую, першапрастольную нашу!

К а л а т у х і н. Што вы прапануеце нам?

Г р ы б а ў. Маскве неадкладна патрэбна верная дапамога — надзейныя войскі! Пяхота, артылерыя, кавалерыя! Ударныя афіцэрскія батальёны!

Б а л у е ў. Так, тэрмінова патрэбны войскі. Інакш катастрофа ў Маскве немінуча!

К а л а т у х і н. Але мяне вось тут *(бярэцца за горла)* трымае Савет, бальшавікі!.. Армія, многія армейскія і палкавыя камітэты супраць пасылкі войск. Толькі што выйшла рабочая дэпутацыя, якая паставіла ультыматум, пагражае ўзяцца за зброю... Мы сядзім на парахавой бочцы, якая гатова выбухнуць ад першай запалкі!

Г р ы б а ў. Яка выбухне, калі вы будзеце міндальнічаць! Калі вы будзеце — у такі момант! — таптацца на месцы, разважаць, дрыжаць!

К а л а т у х і н. Я прашу, капітан, абдумана выбіраць словы! Хто дрыжыць, каго вы папракаеце ў трусасці?!. Толькі ваша становішча пасланца з Масквы стрымлівае мяне ад таго, каб адказаць вам на абразу як належыць!.. Дрыжаць!.. Палезці на ражон, загубіць бязглузда ўсё адразу — гонар не вялікі!

Г р ы б а ў. Але, міндальнічаць, сядзець ды чакаць, калі Масква задыхаецца, у агоніі,— што гэта?! Як гэта назваць?!

К а л а т у х і н. Яшчэ раз прашу — кіньце свае абразлівыя нападкі! Нас лёс Масквы трывожыць не менш, чым вас! Увесь наш непакой к таму, каб выбраць правільную тактыку!

Г р ы б а ў. Тактыка цяпер можа быць толькі адна. Тактыка палкоўніка Рабцава! Тактыка сілы і дзеяння! Вырваць бальшавікоў з масы ды — к сценцы! Пачкамі! Астатніх прымусіць падпарадкоўвацца сіле!

К а л а т у х і н. Ваш Рабцаў сваім бязглуздым расстрэлам бальшавікоў абурыў, адштурхнуў салдат, сапсаваў усё! Груба, прасталінейна, без элементарнага манеўру!..

Г р ы б а ў. Цяпер не да манеўраў! Трэба хутчэй кідацца ў бой, ратаваць Маскву! Пакуль гэта дапамога яшчэ можа што-небудзь змяніць!

Б а л у е ў. Панове афіцэры! Прашу спакойна! Не губляйце развагі!

Уваходзіць А д з і н ц о ў.

*(Грыбаву.)* Адзінцоў. Ваенны спецыяліст пры «Франтавым камітэце ратунку».

Г р ы б а ў. Капітан Грыбаў.

Б а л у е ў *(Грыбаву).* Далажыце, капітан, ваенную абстаноўку ў Маскве.

Г р ы б а ў. Мае звесткі ўжо ўстарэлі на суткі. Калі я выязджаў *(спачатку стрымана, далей зноў нервуючыся)*, салдаты сцягваліся да Скобелеўскай плошчы. Мяцежнікі спрабавалі адбіць паштамт і тэлеграф... Ішоў бой перад Аляксееўскім вучылішчам. Бальшавікі вывезлі гарматы з майстэрняў цяжкай артылерыі і білі па вучылішчы прамой наводкай! Імі былі захоплены

Крымскі і Каменны масты!.. Юнкеры акружаны амаль з усіх бакоў! Іх адціскалі к цэнтру! Становішча асабліва цяжкае таму, што атрады юнкераў увесь час змагаюцца адны, без дапамогі!

Б а л у е ў. А к бальшавікам падмацаванні падыходзяць і падыходзяць!

Г р ы б а ў. Юнкеры сыходзяць крывёю, валяцца знясможана ад стомы!.. Яшчэ двое сутак, і яны... і матухна-Масква!.. Пра гэта думаць страшна!..

Б а л у е ў *(Калатухіну)*. Выбару іншага няма. Вайна за Маскву — вайна за Расію!.. Я лічу, што Заходні фронт у гэтую цяжкую для Масквы хвіліну не можа не выступіць на дапамогу!..

Калатухін, які ўвесь час напружана думаў, становіцца раптам рашучы.

К а л а т у х і н. Добра! *(Націскае кнопку на стале.)*

Паяўляецца с а к р а т а р ш а.

Зараз жа Магілёў, Стаўку Вярхоўнага. Камісара Станкевіча папрасіце!

С а к р а т а р ш а выходзіць.

Барыс Сямёнавіч, мяне не трэба ўгаворваць. Я толькі хацеў абдумаць усё — справа рызыкоўная. *(Капітану.)* Я думаў, што і вы зразумееце, якая ў нас гульня і што мы кідаем на банк! А вы адразу ў істэрыку!

Уваходзіць с а к р а т а р ш а.

С а к р а т а р ш а. Станкевіч ля тэлефона.

Калатухін бярэ трубку.

К а л а т у х і н *(да ўсіх)*. Хвілінку прашу цішыні. *(У тэлефон.)* Станкевіч? Добры дзень! Што добрага? Чалавек у мяне. Адтуль. З вялікай вёскі! Толькі што прыбыў. З просьбай вялікай!.. Будзем выручаць! Пашлём!.. Але ў дарозе могуць быць затрымкі... Націсні на ўсе педалі, каб ніякіх затрымак!.. Дамовіліся! Жадаю ўдачы! Адзьё! *(Кладзе трубку тэлефона. Да ўсіх.)* Станкевіч абяцае зрабіць усё, што магчыма... Маё правіла — рашыўшы, лезці да мэты любым спосабам! «Тайм із мані»,— кажуць англічане. Час — грошы. Будзем дзейнічаць!

Б а л у е ў. Я зараз жа дам распараджэнне двум надзейным палкам праследаваць цераз станцыю Мінск у напрамку Оршы. Каб не выклікаць тут смуты, салдатам будзе аб'яўлена, што часці перакідваюцца на Дзвінск, са стратэгічных меркаванняў. Перапраўкай эшалона цераз станцыю Мінск зоймецца паручнік Адзінцоў. *(Адзінцоў схіляе галаву, паказваючы, што гатоў выканаць загад. Балуеў звяртаецца к Грыбаву.)* Суправаджаць эшалон к Маскве будзеце вы!

Г р ы б а ў. Палічу за шчасце, ваша высокапрэвасхадзіцельства!

Б а л у е ў. Да таго часу, пакуль эшалон не прыйдзе на станцыю Мінск, вам трэба захоўваць інкогніта і чакаць. Калі наступіць ваша чарга, я паведамлю. *(Калатухіну.)* Неабходна ўжыць меры на выпадак выступлення рабочых. Я думаю задачу гэту ўскласці на каўказскую дывізію, якая атрымае загад удзень і ўночы быць у баявой гатоўнасці.

К а л а т у х і н. Барыс Сямёнавіч, у мянё ёсць весткі, што бальшавікі хочуць перакінуць у Мінск бранепоезд са станцыі Хвоева.

Б а л у е ў. Гэтага нельга дапусціць ні ў якім разе!.. Неабходна тэрмінова ўжыць контрмеры, каб адгарадзіць каманду бранепоезда ад бальшавіцкай мярзоты. Я думаю, што з гэтай задачай лепш за ўсіх здолееце справіцца вы!

К а л а т у х і н. Я зараз жа выеду!.. Барыс Сямёнавіч, я хацеў бы, з вашага дазволу, узяць з сабой паручніка Адзінцова. Ён мне можа спатрэбіцца там. Ён к прыходу эшалона вернецца.

Б а л у е ў. Не пярэчу... Дазваляю вам дзейнічаць на бранепоездзе ад майго імя ў залежнасці ад абстаноўкі. *(Збіраючыся ісці.)* Хай паможа нам бог!

К а л а т у х і н. Да сустрэчы, генерал!

Б а л у е ў выходзіць.
Г р ы б а ў, зноў надзеўшы паддзёўку, ідзе за ім. Калатухін і Адзінцоў застаюцца адны.

Гэты істэрычны капітан, бясспрэчна, мае рацыю. Міндальнічаць не час! І пальчаткі к чорту!

А д з і н ц о ў. Так. Становішча небяспечнае.

К а л а т у х і н. Ты разумееш, якая недарэчная твая гімназісцкая выхадка перад бальшавіком?.. Калі ты схапіў за руку...

Адзінцоў. Справа не ў бальшавіку, а ў простай прыстойнасці. Я лічу, што і з ворагам трэба ваяваць адкрыта!

Калатухін. Прыстойнасць! Студэнцкія глупствы, не вымеценыя службай і вайною!.. Атавізм у чулай расейскай душы!.. У старыя добрыя часы дзівакі ад нуды выдумалі дуэлі і секундантаў. Цяпер не выклікаюць на дуэль, а падстрэльваюць, як курапатак, з-за куста. Ціха і хутка. Новыя часы, новыя звычаі.

Адзінцоў. Дзякую. Пастараюся запомніць.

Калатухін. Не забывай.

Калатухін націскае на кнопку, паяўляецца фельдфебель.

*(Фельдфебелю.)* Высветліў, чым займаецца тава-рыш Мяснікоў?

Фельдфебель. Яго няма ў Савеце. Выехаў...

Калатухін. Куды?

Фельдфебель. Невядома.

Калатухін *(Адзінцову)*. А што, калі ён к бранепоезду? Не, не можа быць!.. *(Збіраючыся.)* Трэба зараз жа ехаць! *(Адзінцову.)* Гатовы?

Адзінцоў. Хоць зараз.

Калатухін *(фельдфебелю)*. Аўтамабіль!

Фельдфебель выбягае.

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Пляцоўка камандзіра браняпоезда. Строгае, аскетычнае абсталяванне: важкі, прымацаваны да падлогі стол, месцы для сядзення. На стале тэлефон, у невялічкім квадратным акенцы — кавалачак поля.
На пляцоўцы некалькі ўзрушаных афіцэраў, сярод якіх вылучаюцца падпалкоўнік, намеснік камандзіра, паручнік Сізоў, нервовы, рашучы.

Сізоў. Хто — хацеў бы я ведаць — прапусціў яго?

Афіцэр. Як ён прайшоў праз кантрольны пост? Без дазволу камандавання?

Падпалкоўнік. Дазвол даў рэўком.

С і з о ў. Міла! Бальшавікі далі дазвол бальшавіку!

П а д п а л к о ў н і к. Не вайсковая часць, а курсы бальшавіцкай самаадукацыі. Проста наваднäюць каманду агітатарамі!.. Уся служба — есці ды мітынгаваць.

С і з о ў. Прапаную вывесіць перад поездам для агітатараў: «Сардэчна запрашаем!»

А ф і ц э р. Пахавальны гумар! Гаварыць такое, калі побач бальшавік падбівае каманду рэзаць афіцэраў...

П а д п а л к о ў н і к. І нібы знарок у такі момант палкоўніка няма! Што магло здарыцца з ім?!. *(Круціць ручку тэлефона.)* Алё! Кватэру камандзіра!.. Алё! Алё!.. Ч-чорт!

Убягае ўсхваляваны а ф і ц э р.

А ф і ц э р. Панове!.. Наш паважаны камандзір... Грыгорый Апалінар'евіч... аддалі канцы!..

П а д п а л к о ў н і к. Як — аддалі канцы?

А ф і ц э р. Уцяклі! Змыліся!

І н ш ы я а ф і ц э р ы. Што вярзеш?..<br>Правакацыя!

А ф і ц э р. Вось, чытайце! Уласнаручнае!

П а д п а л к о ў н і к. Яго почырк! *(Чытае.)* «З прычыны таго, што ў мяне раптоўна абвастрыўся гастрыт, я вымушан тэрмінова выехаць у шпіталь... Мінск... Абавязкі камандзіра...»

С і з о ў. Хопіць!.. Пацук баязлівы!.. За такія рэчы к сценцы трэба!

А ф і ц э р. На флоце капітаны пакідаюць тонучы карабель апошнія...

С і з о ў. Цяпер усё перайначылася: камандзіры кідаюць поезд першыя!

А ф і ц э р. Я думаю, ніхто не будзе пярэчыць, што, паколькі поезд астаўся без камандзіра...

С і з о ў. Які па-здрадніцку кінуў усіх...

А ф і ц э р. ...Які па-здрадніцку кінуў пост, абавязкі камандзіра павінен узяць на сябе Аляксей Мікалаевіч...

І н ш ы я а ф і ц э р ы. Не пярэчым!<br>Згодны!..

П а д п а л к о ў н і к *(устаўшы)*. Дзякую за чэсць... Спадзяюся, што мы будзем працаваць у добрым кантакце...

Сізоў. Грамадзянін камандзір, у момант, калі вы ўступаеце ў камандаванне, вашым падначаленым хацелася б пачуць ад вас, так сказаць, вашу дэкларацыю.

Падпалкоўнік. Панове! Я лічу неабходным ужыць экстраныя захады. Становішча наша цяжкае, але, па майму перакананню, не безнадзейнае. Я ўпэўнен, яго можна выправіць.

Афіцэр. Якім чынам?

Падпалкоўнік. А вось якім. Асноўная маса салдат яшчэ вагаецца. Яе можна павярнуць да нас...

Убягае Калатухін, за ім уваходзяць фельдфебель і Адзінцоў.

Калатухін. Раіцеся?

Сізоў. Раімся.

Калатухін. Зачыніліся, адгарадзіліся сценамі ад людзей!.. Таўчаце ваду ў ступе, сур'ёзныя дзядзі!... Ведаеце, што вашым браняпоездам бальшавікі хочуць раструшчыць нам чэрап? Нам і вам!

Падпалкоўнік. Здагадваемся.

Калатухін. Здагадваецеся! Магу яшчэ парадаваць вас: хутка сюды можа заявіцца сам лідэр іх — Мяснікоў.

Сізоў. Можа?.. Ён ужо тут.

Калатухін. Як?! Сярод салдат?

Сізоў. З імі. Мітынгуе.

Калатухін, уражаны, апускаецца на крэсла.
Паўза.

Калатухін. Чаго ж вы седзіцё тут?!

Падпалкоўнік. Мы раімся, якія ўжыць контрзахады...

Калатухін. Контрзахады трэба рабіць перш за ўсё там... Ёсць хто-небудзь там ад нас?

Сізоў. Капітан Беражной там.

Калатухін. Адзін?

Афіцэр. Пайшлі яшчэ два, але гэта асколкі. Перафарбаваныя...

Сізоў. Беражной — наш Цыцэрон. Яго яшчэ слухаюць...

Калатухін. Што ж — «Авэ Цэзар!» Рымскія гладыятары, ідучы ў бой, усміхаліся. *(Устаючы, рашуча.)* «Няхай жыве Цэзар!» Я таксама туды! Я яго раз-

дзену, гэтага бальшавічка, голым пакажу! *(Адзінцову.)* Ты тут астанься! Сабраць усе нашы сілы і перайсці ў наступ!.. Мяснікова заманіць сюды і... вытурыць!.. *(Фельдфебелю.)* Ты са мной!..

Калатухін і фельдфебель выходзяць.

Адзінцоў. Калі я не памыляюся, большасць афіцэраў каманды асталася на сваім месцы?.. І мы можам разлічваць на іх?

Падпалкоўнік. З намі камандзіры артылерыі, кулямётаў. Я ўжо не кажу пра камандаванне ўсяго поезда...

Сізоў. З намі машыністы!

Адзінцоў. Значыцца, поезд у іх няма каму весці?

Падпалкоўнік. Няма каму весці і няма каму, па сутнасці, кіраваць стральбой... Ён жалезная скрынка без нас!..

Сізоў. Гэту скрынку трэба — калі салдатня забунтуе — вывесці ноччу на пуці і перакінуць да надзейнай часці! Там вырваць зачыншчыкаў і бальшавікоў! Вырваць атруту!..

Адзінцоў. Што ж, я лічу, план гэты варты ўвагі...

Уваходзіць капітан Беражной.

Афіцэры. Ну, што там? Скончылася? Як там?

Беражной. К канцу ідзе...

Падпалкоўнік. Як — да Мяснікова? Не сцягнулі?

Беражной. Сця́гнуць!..

Падпалкоўнік. Сцягнуць. Я чакаў гэтага!

Беражной. Сцягнуць і — на руках панясуць!

Сізоў. Абдурыў бальшавік салдатню... А ты што ж... слухалі цябе?

Беражной. Не. Мне не было чаго гаварыць... Бязглузда было вылазіць... Які прамоўца! Якая логіка і яснасць!..

Сізоў *(перабіваючы)*. Што рашылі наконт браняпоезда?!

Беражной. Рашылі... Падтрымалі яго...

Падпалкоўнік. У Мінск, на выручку бальшавікоў?!

С і з о ў *(Бережному).* Нават не паспрабаваў адгаварыць! Слімак!

Б е р а ж н о й. Хто? Я — слімак?!

А ф і ц э р. Ты. «Які прамоўца!» Развесіў вушы!..

Б е р а ж н о й. Ты — цвёрдакаменны патрыёт!.. Што ты разумееш?

С і з о ў. А, так? Ты зразумеў?!

Б е р а ж н о й. Зразумеў.

С і з о ў. Здраднік!

Б е р а ж н о й. Ты адкажаш за свае словы!..

П а д п а л к о ў н і к. Панове, я прашу...

С і з о ў *(кідаючыся на Бережнога).* Узяць здрадніка!

На Бережнога нападаюць, адбіраюць зброю.

Б е р а ж н о й *(абараняючыся).* Прэч! Адыдзіцеl

С і з о ў *(кладучы наган у сваю кішэню).* Вось так! А зараз мы з табой пагаворым інакш! Падлюга!

Б е р а ж н о й. Самасудам хочаце?

А ф і ц э р. Судом нашым скорым! Аляксей Мікалаевіч! *(Адзінцову.)* Паручнік! Ваша слова?

П а д п а л к о ў н і к. Судзіць трэба!

А д з і н ц о ў. Не цяпер. Трэба разабрацца справядліва!.. Грамадзяне, я прашу вярнуцца да справы!

С і з о ў. Гэта і ёсць справа!.. Бальшавічка б яшчэ сюды! Мяснікова! Заадно!

А ф і ц э р. Захацеў! Пойдзе ён да цябе!

С і з о ў. Зацягнуць бы як-небудзь! Заманіць!

Адчыняюцца дзверы, і ў іх, неспадзяваны, спакойны, паяўляецца М я с н і к о ў, за ім — З а л ы г і н і п р а д с т а ў н і к ад салдат браняпоезда. Афіцэры, уражаныя, змаўкаюць.

М я с н і к о ў. Чаму змоўклі?

П а д п а л к о ў н і к *(як і ўсе, ужо здагадаўшыся, хто гэта).* Вы... хто?

М я с н і к о ў. Мяснікоў. Залыгін. Гушча — дэлегат ад сходу... *(Пасля паўзы.)* Не чакалі?

С і з о ў. Чакалі! Таварыш былы пра-пар-шчык!

М я с н і к о ў. Тым лепш. Можна гаварыць без лішніх тлумачэнняў.

П а д п а л к о ў н і к. Гаварыць спачатку будзем мы!

М я с н і к о ў. Вам няма аб чым гаварыць!

С а л д а т. Адгаварыліся!

А ф і ц э р. Знойдзем, аб чым!

С і з о ў. Вы чуеце, ён прыйшоў дыктаваць нам!

З а л ы г і н. Цацкацца няма калі! Графік!

М я с н і к о ў. Так, калі вы прымусіце, я буду дыктаваць.

П а д п а л к о ў н і к. Дазвольце запытацца, па якому праву?

М я с н і к о ў. Хоць бы па праву, якое вы можаце прызнаць,— праву мацнейшых. Прадстаўнікоў народа.

П а д п а л к о ў н і к. Маўчаць! Хто вам дазволіў? У маёй камандзе!

М я с н і к о ў. Перш за ўсё — хто вы?

П а д п а л к о ў н і к. Я? Камандзір бранепоезда!

С а л д а т. Брэша! Не камандзір ён!

П а д п а л к о ў н і к. Воляй афіцэраў я ўзяў гэтыя абавязкі замест хворага, які...

М я с н і к о ў. Ён зусім здаровы — камандзір бранепоезда!

А ф і ц э р ы. {Што?<br>Дзе ён?

М я с н і к о ў. Ён тут. Вось ён! *(Паказвае на Залыгіна.)*

З а л ы г і н. Так, камандзір я!

С а л д а т. Ён!

А ф і ц э р ы. Што гэта за штука? Адкуль ён узяўся?

М я с н і к о ў. Ён прызначан Рэвалюцыйным штабам арміі і выбран салдацкім сходам... *(Залыгіну.)* Таварыш Залыгін, пачынайце!

С і з о ў. Братцы, што вы іх слухаеце?!

Сізоў раптам раз'юшаны кідаецца да Мяснікова, але на дарозе ў яго, прыкрываючы Мяснікова, становіцца Залыгін.

З а л ы г і н. Стоп! Буксы папаліш!

С і з о ў. Прэч! Узяць іх!

Б е р а ж н о й. Вар'ят! Назад зараз жа!

А д з і н ц о ў. Спакойна, сябры! Вытрымка!

С а л д а т. Стаяць! *(Пагрозна прачыняе дзверы.)* Толькі свісну — юшка ад усіх астанецца!

Афіцэры, у тым ліку і Сізоў, прыкметна смірнеюць.

М я с н і к о ў. Здаецца, можна працягваць размову?.. Таварыш Залыгін!

З а л ы г і н. Так што маршрут вось які! У восем гадзін раніцы броняпоезд павінен быць перад выходнымі стрэлкамі. *(Глядзіць на Мяснікова, як бы правяраючы, ці ўхваляе той яго.)* Усе кулямётныя стужкі і снарады загадана перанесці на браняпоезд. Зброю пераглядзець, пачысціць, прывесці да ладу. Маршрут прамы: Мінск, на выручку нашай улады, Савета!.. Прыстаяце буферам?

Убягае ўстрывожаны К а л а т у х і н. Акінуўшы позіркам усіх, здагадваецца, што становішча і тут пагрознае.

М я с н і к о ў. А, грамадзянін Калатухін! Зноў сустрэліся!

К а л а т у х і н *(наступаючы)*. Я пратэстую супраць гвалту над афіцэрамі!

М я с н і к о ў. Даруйце, вы ў якой тут ролі?

К а л а т у х і н. Я — прадстаўнік галоўнакамандуючага. *(Не да Мяснікова, а да іншых.)* І як прадстаўнік галоўнакамандуючага...

З а л ы г і н. Якога галоўнакамандуючага?

К а л а т у х і н. Я ўпаўнаважаны галоўнакамандуючым перадаць камандзе спецыяльны загад...

М я с н і к о ў. Каманда ўжо атрымала загад.

З а л ы г і н *(Калатухіну)*. Я ніякіх загадаў вашага камандуючага і самога яго не прызнаю.

К а л а т у х і н *(афіцэрам і салдатам)*. Галоўнакамандуючы загадвае стаяць на пазіцыях да асобага яго распараджэння!

М я с н і к о ў. Гэты загад дадзен без згоды Савета.

З а л ы г і н. Ён незаконны.

К а л а т у х і н. Галоўнакамандуючы прасіў папярэдзіць, што, калі загад не будзе выканан і браняпоезд выйдзе на дарогу к Мінску, генерал загадае артылерыі, якая ёсць у яго падначаленні, расстраляць браняпоезд!

М я с н і к о ў. Перадайце генералу, што ўсіх, хто стане на нашых пуцях, мы растопчам!

Сізоў у час спрэчкі непрыкметна знікае.

К а л а т у х і н. Афіцэры браняпоезда і машыністы згадзіліся выканаць загад!

М я с н і к о ў. Усіх, хто адмовіцца выконваць загад Рэвалюцыйнага штаба арміі, мы арыштуем!

Залыгін. Усё! І каціся, пакуль цэлы сам! *(На Адзінцова.)* Гэтага забяры!

Калатухін. Добра! Мы яшчэ сустрэнемся!

Калатухін і Адзінцоў выходзяць.
Мяснікоў паказвае кіўком Залыгіну: рашай, што з афіцэрамі.

Залыгін *(афіцэрам)*. Ну як, хто прыстае да нас буферам?

Бяражной. Я згодзен!

Залыгін *(падпалкоўніку)*. Ты не хочаш прыстаць?

Падпалкоўнік. Я не падначальваюся вам.

Залыгін. Не хочаш? Здай зброю!

Падпалкоўнік. Зброю? *(Пад настаўленым штыком салдата кладзе наган на стол.)*

Залыгін *(іншым)*. Не згодны ісці? *(Паўза.)* Здаць зброю. *(Салдату.)* Арыштаваць!

Убягае Валя.

Валя. Таварыш Алёша, станцыя абяцае прапусціць браняпоезд!

Мяснікоў. Залыгін, пуць адкрыты!

Падпалкоўнік. Хто ж, та-ва-рышы, павядзе поезд? Без машыніста?

Мяснікоў. Чаму вы думаеце, што ў нас няма машыніста?

Залыгін. Поезд павяду я.

*Заслона*

## *ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

## ДАРОГІ

### КАРЦІНА СЁМАЯ

Ноч.
Цемра.
Начное поле перад мінскай ускраінай.
Чуваць, як працуе матор аўтамабіля.
У цемры акрэсліваюцца чатыры постаці.

Адзінцоў. Чаго сталі?

Калатухін. Размяцца хачу. Мне адсюль мінут дваццаць да дому. *(Азіраецца.)*

Адзінцоў. Вецер і дождж! Як у тваёй мілай краіне Альбіёна! Капітан Нельсан!

Сізоў. І ў полі слата, і на душы...

Калатухін. У цябе б, Сізоў, павінна быць светла. Вырваўся так удала! Іншыя там парацца на губе!

Сізоў. Удала выбраўся! Пад шумок!

Калатухін *(Адзінцову)*. Пра яе думаеш? Кінь! Бачыў жа, як яна к та-ва-рышам прыліпла!.. Адстаўку табе дала!..

Адзінцоў. Не пляці.

Калатухін. Мякіш ты!

Адзінцоў. Можа быць... Усё-ткі вяртацца пабітым сабакам і табе, відаць, не салодка, герой Трафальгара?

Калатухін. Я яшчэ не пабіты. *(Нецярпліва.)* Слухай, у мяне да цябе просьба. Важная... Ты чуеш? Аб чым ты, чорт вазьмі, думаеш?!

Адзінцоў. Аб чым? Аб розным...

Калатухін. Слухай, Вальдэмар, сёння павінны званіць са Стаўкі. Станкевіч. Каці на машыне, падзяжур. Можа быць сур'ёзная размова, я не магу нікому даверыць, акрамя цябе...

Адзінцоў. Дзякую за давер'е... Ты разумееш, у нашай палітыцы ёсць страшныя хібы. Бальшавікі абяцаюць людзям самае жаданае...

Калатухін. Мы пагаворым пра гэта потым. *(Насцярожана.)* Ты ці не збіраешся таксама... адыходзіць?

Адзінцоў. Я свой абавязак выканаю! Можаш быць упэўнены!

Калатухін. Вось гэта іншыя словы!.. Ну, дык як ты?! Паедзеш? Падзяжурыш?

Адзінцоў. Ну што ж, калі трэба. А ты? І паручнік?

Калатухін. Паручнік пераначуе ў мяне. Трэба ехаць зараз жа. Бывай!

Адзінцоў. Вечна спешка. Бывай! *(Выходзіць.)*

Калатухін сочыць за ім.

Сізоў *(праводзячы позіркам машыну)*. Развёў тут вільгаць! Філо-саф!

К а л а т у х і н. Расейская звычка капацца ў сабе!.. *(Фельдфебелю.)* Значыцца, ён збіраўся ехаць па гэтай дарозе?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Хто? А-а. Тут...

К а л а т у х і н. Ты ўпэўнены, што ён цяпер паедзе? Будзем тырчэць, як дурні!

Ф е л ь д ф е б е л ь. Яго шафёр курыў разам з нашым. І той незнарок прагаварыўся!..

К а л а т у х і н. Тады ён павінен ехаць!.. Толькі б не было з ім пабочных! *(Сізову.)* Ты згодзен памагчы?

С і з о ў. Разлічвайце, як на сябе.

К а л а т у х і н. Трэба бервяно пакласці на дарогу! Там ляжыць, я заўважыў... Я таму і стаў тут!

Цягнуць бервяно на дарогу.

Так, каб не праскочылі... Калі што якое... *(Сізову.)* Рэвальвер ёсць?

С і з о ў. Ёсць.

К а л а т у х і н *(фельдфебелю).* Нож у цябе? Калі шафёр да бервяна, ідзі насустрач: дакументы!.. Чакай знаку — я свісну. Як толькі пачуеш — бі! На крайні выпадак рэвальвер. *(Сізову.)* Мы возьмем яго. І спадарожніцу.

Ф е л ь д ф е б е л ь. Мяснікоў са зброяй. Спрытны...

С і з о ў. Пікнуць не ўправіцца!

К а л а т у х і н *(фельдфебелю).* Адразу, як кончыш, да машыны.

Ф е л ь д ф е б е л ь. Хопяцца, шукаць будуць яго аднакашнікі — птушка важная!..

С і з о ў. Няхай шукаюць ветру!..

К а л а т у х і н. Неабходнасць. Воленс-ноленс. «А ля гер ком а ля гер...»

Ф е л ь д ф е б е л ь. «Ля гер». Могуць — усякія падазрэнні...

К а л а т у х і н. Падазрэнні будуць на яе. Мілую спадарожніцу.

Ф е л ь д ф е б е л ь. Яна не «пойдзе» разам з ім?

К а л а т у х і н. Ні ў якім разе. Яна таямніча знікне. Стане загадкаю нумар адзін...

С і з о ў *(перасцярожліва).* Аўтамабіль ідзе!

К а л а т у х і н. Сыдзем з дарогі!

С і з о ў. Значыцца, яе пакуль што не канчаць?

К а л а т у х і н. Управімся...

Набліжаецца машына, святло фар падышло і спынілася. Шафёр і Валя выходзяць на сцэну.

Шафёр. Нібы знарок паклалі!.. Зусім нядаўна!

Фельдфебель *(выходзячы з цемры)*. Нядаўна. Кантрольны пост... Дакументы!

Шафёр. Без дакументаў не ездзім!.. *(Дастае дакументы.)*

Калатухін і Сізоў у гэты час кідаюцца да машыны, глядзяць — Мяснікова няма.

Калатухін *(Валі)*. Дзе Мяснікоў?!

Валя не адказвае. Расчараваны Калатухін момант думае: што рабіць? Рашае: адступаць позна; дае фельдфебелю ўмоўны знак, навальваецца на Валю, заціскае ёй рот, круціць рукі. Фельдфебель б'е шафёра нажом у бок. Шафёр са стогнам падае.

Фельдфебель. Што, гатова?

Калатухін *(Валі)*. Дзе Мяснікоў?.. *(Фельдфебелю.)* Сцягнуць з дарогі труп! Абшукаць! Каб ніякага знаку!

Калатухін і Сізоў цягнуць Валю ў машыну, а фельдфебель абшуквае забітага, бярэ дакументы, рэчы, азіраючыся, хутка валачэ труп з дарогі.

*Заслона*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Сутарэнне.
Нізкая важкая столь, маленькія дзверы, да якіх вядуць сходцы. Зверху цёмнае акенца. Сцены брудныя, з аблезлым тынкам. Ці то закінутая манашая келля, ці то карцэр, гаўптвахта.
На падлозе, з намаганнем абапіраючыся на руку, сядзіць Валя. На лаўцы стомлена горбіцца фельдфебель, мармыча: «Эх, шарабан мой, амерыканка...»

Фельдфебель. Я, здаецца, пагарачыўся? Ударыў неасцярожна... «Эх, шарабан мой...» Устаць!

Валя не слухаецца.

Я каму кажу?! Устаць! Устаць!

Валя ўстае.

Ну, падумала? Скажаш?

Валя маўчыць.

Не скажаш?

Валя. Не.

Фельдфебель. Ну, што ты за цаца?! *(Зноў, ужо злосна, мармыча песню.)* Думаеш, Мяснікоў твой пахваліць? Ён і ведаць не будзе! Яму перададуць, што да немцаў перабегла!

Валя. Гэта для Мяснікова танная байка.

Фельдфебель. Паверыць. Пачакаюць крыху, а там і паверыць...

Валя. Угаворваеце сябе!

Фельдфебель. Чаго мне ўгаворваць сябе! Не мне, а табе гнісці! Будзеш дурная — адправішся ў зямлю парыцца!.. Я буду заўтра гуляць па Мінску, піць віно ў «Каўказе», з дзеўкамі хадзіць буду. А ты...

Валя маўчыць. Мармычучы: «Эх, шарабан мой», фельдфебель устае.

Даю пяць мінут... Кажы. Чаму затрымаўся Мяснікоў? Што ён намерваўся рабіць? Ну?

Валя. Я гаварыла ўжо: не скажу...

Фельдфебель. Ну дык ведай жа, што паслаў мяне сюды твой дружок, паручнік Адзінцоў...

Валя. Адзінцоў!.. Ён ведае?

Фельдфебель. Ведае?! Ён задумаў усё!

Паўза.

Валя. Хлусіш! Усё хлусіш!

Фельдфебель. Я толькі не так зрабіў, як ён казаў. Пагарачыўся. Ну, ды і лічыў, што любоў тут няма чаго ўплятаць... Ён казаў, што калі ты зробіш гэта, ты дакажаш, што сапраўды любіш яго. І што ён усё жыццё...

Валя *(з пагардай)*. Кінь ты!

Фельдфебель. У мяне няма ахвоты даказваць гэта. Можаш не верыць!..

Убягае Калатухін, вельмі ўсхваляваны. Ён адводзіць фельдфебеля ўбок, гаворыць, каб не чула Валя.

Калатухін. Ну што?

Фельдфебель. Не гнецца!

Калатухін. Трэба канчаць!

Фельдфебель. Але яна...

Калатухін. Зараз жа!

Фельдфебель. Што-небудзь здарылася?

Калатухін. Усюды адно. Да бальшавікоў таксама перакінуліся!.. Толькі што сход кончыўся... Нашы ўжо зняты!

Фельдфебель. Унь што!

Калатухін. Зямля паўзе!.. З грэнадзёрскага тут дэлегацыя. І гэты з Мінска, якога... Федасюк... Салдаты — як звяры! Месца гэтае на падазрэнні...

Фельдфебель. Трэба было ў Мінску яе... схаваць!..

Калатухін. З хвіліны на хвіліну могуць сюды заявіцца.

Фельдфебель. Ушалопіў... Тут можна яе?

Калатухін. Нельга.

Фельдфебель. Я ціха. Не піскне.

Калатухін. Нельга. След! Вывезці. У дарозе!.. Я буду чакаць за лесам. *(Адыходзіць. Валі.)* Атрыман загад даставіць у Мінск. Табе пашанцавала: будзеш каля сваіх...

Валя не адказвае.

*(Фельдфебелю.)* Выконваць загад. Машына пададзена. *(Хутка выходзіць.)*

Фельдфебель *(Валі)*. Збірайся!

Яна не варушыцца.

Ну, чуеш? У Мінск паедзеш, да сваіх... Хутчэй! Не прымушай чакаць!

Валя. Я не паеду.

Фельдфебель. Як гэта — не паедзеш?! Пакуль што дабром прашу! Ну, тупай!

Валя не слухаецца.

Чуеш?! Тупай!

Фельдфебель штурхае Валю да выхада. Але там чуюцца шум, гаворка, крокі. Фельдфебель спыняецца.

Стой!

Фельдфебель хоча выйсці, даведацца, што адбываецца, але ў сутарэнне ўрываюцца салдат і Дзяцел, потым Федасюк.

Салдат. А! Хто такія?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Вы хто?

Д з я ц е л. Хто мы, людзям вядома! А вось хто ты, божы чалавек? Што ты тут робіш?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Я... затрымаў агентку, якая перадавала немцам важныя ваенныя звесткі.

С а л д а т. Шпіёнку?

В а л я. Няпраўда! Я... *(Федасюку.)* Дзядзька Антон!

Ф е д а с ю к. Валя?

Валя хоча кінуцца да Федасюка, але фельдфебель спыняе.

Ф е л ь д ф е б е л ь. Стаяць! Мне цяпер загадана перавезці яе ў штаб.

Д з я ц е л. Адставіць штаб!.. *(Уражаны.)* Людцы, ды ён там жа... на пазіцыях... нашага Антона!..

Ф е д а с ю к. Чакай, Дзяцел. У які штаб? Для чаго?

В а л я. Гэта Калатухіна справа.

Ф е д а с ю к *(фельдфебелю).* Для чаго гэта штабу?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Не магу ведаць.

Ф е д а с ю к. А ўсё-ткі?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Думаю... для высвятлення.

Ф е д а с ю к. Яшчэ не высветлілі? *(Паказваючы на Валю.)* Вызваліць!

Ф е л ь д ф е б е л ь. Адысці! *(Спрабуе абараняцца.)*

Д з я ц е л. Ты што гэта, абармот?!

Ф е л ь д ф е б е л ь. Прэч з дарогі!

С а л д а т. Хлопцы! Бяры яго!..

Фельдфебеля абяззбройваюць. Ён кіпіць ад злосці.

Д з я ц е л. Не злуй, вантробы перагараць!

Ф е д а с ю к *(Валі).* Ну, што там у Алёшы?

В а л я. Цяжка было. Але Залыгін сказаў: «Пара грэецца, бранепоезд на правільных рэйках...» Мяснікоў прасіў, каб я перадала нашым гэта. А я не даехала.

Ф е д а с ю к. Цяпер даедзеш. Папросім таварышаў, памогуць.

Убягае с а л д а т.

С а л д а т *(Федасюку, Дзятлу).* Браткі, што ж гэта робіцца?! Пуць гадаўё падрывае!

Д з я ц е л. Які пуць?

С а л д а т. Перад бранепоездам. Каб не праскочыў!.. Каманду цэлую паслалі з ламамі, з ключамі...

Ф е д а с ю к. Адкуль такія весткі? Хто перадаў?

С а л д а т. Анціпчык... Дзяжурны наш там, пры станцыі...

Ф е д а с ю к. Вось гісторыя! Дзяцел, трэба зараз жа на пуці! Вазьмі ўзвод і алюрам туды! Гані гэту нечысць, пакуль не позна!

Д з я ц е л. Лячу, Антон! *(На хаду.)* Браты грэнадзёры, слухай маю каманду!.. *(Выбягае.)*

С а л д а т *(глядзіць на фельдфебеля)*. А што ж з гэтым абармотам?

Ф е д а с ю к. Думаю, няхай пасядзіць сам.

С а л д а т. Няхай адпачне!..

*Заслона*

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

На чыгуначнай станцыі ў Мінску. З аднаго боку відаць вугал будынка, акно. Мяркуючы па тым, што бачна праз акно, гэта дыспетчарскі пункт. Каля акна ў пакоі вісіць тэлефон. Амаль паўз самы будынак ідуць у некалькі радоў чыгуначныя пуці, на іх паблізу і наводдаль стаяць вагоны, платформы з гарматамі, цяплушкі. Праходзяць узброеныя с а л д а т ы, потым паяўляецца М я с н і к о ў з р а б о ч ы м і.

М я с н і к о ў *(аднаму рабочаму)*. Трэба ў дэпо! Зараз жа! Ніводнага паравоза на пуці!.. Тым паравозам, якія прыйшлі, ні дроў, ні вады! Замарозіць тут!

Р а б о ч ы. Прыкаваць, значыцца! Зразумела!

М я с н і к о ў. Так усім нашым і перадай! Як загад Савета! Памерці, а не выпусціць ніводнага!

Р а б о ч ы. Так і зробім! Калі трэба будзе, і на смерць пойдзем!

Выходзіць.

М я с н і к о ў *(другому рабочаму)*. Ты — к выхадным стрэлкам! Гэта апошні наш сродак! Што б ні было, ніводзін эшалон не выпускаць! На запасныя пуці! У тупік, і толькі! Загад канчатковы! Адменіць толькі Савет! Ніхто іншы!

Р а б о ч ы. Можаце спадзявацца, Аляксандр Фёдаравіч!..

Уваходзіць, кагосьці шукаючы, Г р ы б а ў.



Ларыса Александроўская віншуе Івана Мележа на юбілейным вечары *8 лютага 1971 года*



Іван Мележ сярод самадзейных артыстаў
на семінары творчай інтэлігенцыі,
прысвечаным 50-годдзю СССР. *Докшыцы, 1972 год*

**Грыбаў.** Дзе тут ваеннае начальства?

**Мяснікоў.** Нашто вам яно?

**Грыбаў.** Гэта вас не павінна цікавіць.

**Мяснікоў.** А між тым, цікавіць!

**Грыбаў** *(аглядваючы Мяснікова).* Вы хто?

**Мяснікоў.** Вы хочаце ведаць, ці хутка адправяць эшалон на Маскву?

**Грыбаў.** Я хачу ведаць, ці хутка адправяць эшалон на Дзвінск. Вы з чыгуначнай адміністрацыі?

**Мяснікоў.** Вы амаль угадалі. Калі ўлічваць асаблівасці часу.

**Грыбаў.** Я назначаны суправаджаць эшалон. Чаму нас затрымліваюць?

**Мяснікоў.** Эшалон на Маскву не пойдзе!

**Грыбаў.** Я пытаюся пра эшалон на Дзвінск!

**Мяснікоў.** На Дзвінск?

**Грыбаў.** На Дзвінск!

**Мяснікоў.** Усё роўна. Эшалон не пойдзе!

Падыходзіць **Адзінцоў.**

**Грыбаў.** Гэта... чыё распараджэнне?

**Мяснікоў.** Мінскага Савета.

**Адзінцоў** *(да Грыбава).* Эшалон зараз адправім. Збярыце салдат да эшалона і будзьце напагатове!

**Мяснікоў.** Так вы выконваеце пагадненне з Саветам, грамадзянін паручнік?

**Адзінцоў.** Эшалон перакідваецца на станцыю Дзвінск. Са стратэгічных меркаванняў.

**Мяснікоў.** Мы гэтыя меркаванні ведаем!

**Адзінцоў** *(Грыбаву).* Трымайце эшалон напагатове! Сігнал «адпраўляць» можа быць у любы момант!

**Грыбаў.** Ёсць! Буду чакаць!

Грыбаў адыходзіць да эшалона. Паяўляецца **Валя.**

**Адзінцоў.** Валя?! Дзе ты была?

**Валя** *(ідзе да Мяснікова).* Таварыш Алёша!.. *(Адводзячы Мяснікова ўбок.)* Паганая вестка. Толькі што чула — узарвана палатно. Бранявоезд спынілі.

**Мяснікоў.** Спынілі?!. Гэта «ратаўнікоў» праца!.. Дзе ён?

**Валя.** Не ведаю.

**Мяснікоў.** Трэба пазваніць на лінію! Высветліць!

Мяснікоў хутка выходзіць. У яго заклапочаны, трывожны выгляд.
Валя ідзе за ім.

Адзінцоў. Валя!

Валя спыняецца.

Ты нават павітацца не хочаш! Што гэта значыць?

Валя. Ты здзіўляешся! Як я інакш магу адносіцца пасля ўсяго...

Адзінцоў. Валя... Я нічога не ведаў... Хто цябе арыштоўваў?

Валя. Мне казалі — ты ведаеш! Друг твой лепшы!

Адзінцоў. Калатухін?! У!.. *(Не знаходзіць слоў.)* Ён?!

Паўза.

*(Абурана.)* Подлы чалавек! Я яго другам лічыў!..

Валя. Ты яму і цяпер служыш.

Адзінцоў. Я не Калатухіну служу!

Валя. Расіі?.. Якой?

Адзінцоў. Гэта сафізм.

Валя. Не сафізм, Валодзя, няўжо ты яшчэ не разумееш, што адбылося?

Адзінцоў. Зноў палітыка! К чорту яе! Я хачу быць з табой, разумееш?

Валя. Дык хадзем са мной!

Адзінцоў маўчыць.
Валя ідзе да Мяснікова.
Паяўляецца Калатухін, рашучы, усхваляваны. З ім ідуць фельдфебель, група паплечнікаў.

Калатухін. Ну, ледзь вырабіўся! Амаль з пасткі! Амаль не схапілі за руку! Выйшла не зусім чыста, але шлях на Карфаген разбуран!.. Поезд прыйдзе не хутка! Калі наогул прыйдзе...

Адзінцоў. Удалося затрымаць? Як?

Калатухін не адказвае. Ідуць у бок эшалона, выходзяць.

Мяснікоў *(круціць ручку тэлефона, бярэ трубку.)* Алё Негарэлае! Станцыя Негарэлае?! Хто каля тэлефона? Браняпоезд прайшоў? Я — старшыня Мінскага Савета, Мяснікоў. Прайшоў? Ага, дзякую! Дай адбой! Станцыю Койданава! Койданава? Гаворыць старшыня Мінскага Савета. Далажыце — браняпоезд

прайшоў? Як гэта — не падначальваецеся Савету?! Я патрабую! Я дакажу, маем ці не маем права патрабаваць! *(Вешае трубку, потым звоніць зноў.)* Дайце станцыю Фаніпаль! Станцыя?! Начальніка! Гаворыць Мяснікоў з Мінскага Савета. Браняпоезд не праходзіў? Катавасія? Якая катавасія? Узарвалі! Якія афіцэры? Хто яны?!. А вы што ж далі ім уцячы? Эх, вы! Не апраўдвайцеся!.. Машыну іхнюю агледзьце! Нумар запішыце! Дакументы пашукайце! Трэба даведацца, чыя яна! *(Вешае трубку. Выходзіць з Валяй на перон.)* Я к салдатам. Трэба падказаць, куды іх вязуць, для чаго.

Мяснікоў сустракаецца з Калатухіным і яго паплечнікамі.

Адзінцоў *(Мяснікову)*. Прашу даць чыгуначнікам распараджэнне адкрыць семафор!

Мяснікоў. Я не дыспетчар, грамадзянін паручнік.

Адзінцоў *(з націскам)*. Вы — дыспетчар, галоўны дыспетчар!

Мяснікоў. Калі я дыспетчар, то такога распараджэння не дам!

Адзінцоў. Не дасцё?!

Мяснікоў. Не дам!

Калатухін. Калі вы не дасцё па добрай волі, мы можам загаварыць інакш.

Мяснікоў. Як вы можаце гаварыць, мы ўжо ведаем! Не палохайце!

Калатухін. Мы чакаем!

Адзінцоў. Вы чулі?

Валя. Паручнік!..

Калатухін *(Мяснікову)*. Мы чакаем распараджэння — даць семафор!

Мяснікоў. Я сказаў — не дам!

Калатухін. Не дасцё?!

Мяснікоў. Не!

Паўза.
Калатухін чакае.

Калатухін. Так? *(Паплечнікам.)* Арыштаваць!

Мяснікоў. Ну, ну, пан Калатухін! Не забывайцеся! *(Калатухінцам, якія хочуць арыштаваць яго.)* Прэч! *(Яго, аднак, бяруць гвалтам.)* Дарэмна стараецe-

ся, пан Калатухін! Ні адзін эшалон на Маскву пераправіць не ўдасца!

Падбягаюць двое рабочых.

Рабочыя. Што тут такое?! Алёшу арыштаваць хочуць! Эй, вы! Схавайце зброю!.. Адыдзіце! Пакуль не позна!

Рабочыя кідаюцца на падмогу Мяснікову.

Калатухін. Узяць гэтых!
Грыбаў *(на Валю)*. Яе ўзяць! Яго паплечніца!

Адзінцоў момант стаіць нерухомы, маўклівы.
Салдаты-калатухінцы збіраюцца весці Валю, Мяснікова, рабочых. Убачыўшы гэта, Адзінцоў як бы абуджваецца.

Адзінцоў. Адставіць! *(Паказваючы на Валю.)* Адпусціць!.. Я ўпаўнаважаны генерала Балуева!..
Салдат. Ёсць! *(На Мяснікова.)* І яго?
Адзінцоў. І яго.
Калатухін. Ты... ты не звар'яцеў?!
Адзінцоў. Я лічу, што такія рэпрэсіі годны толькі авантурыстам ці тым, у каго няма ніякай надзеі...
Валя *(радасна)*. Валодзя!
Калатухін. Жаўтароты ідэаліст! Чысцюля!
Адзінцоў. Вы — лягчэй! *(Грыбаву, тонам загаду.)* Адпраўляйцеся к эшалону! Мы адкрыем семафор і самі!

Твар Валі адразу хмурнее. Яна адыходзіць ад Адзінцова. Убягае хлопец.

Хлопец *(да Мяснікова.)* Дзядзька... Таварыш Мяснікоў! Ура!
Мяснікоў. Што такое?
Хлопец. Браняпоезд ідзе! К гораду падыходзіць!
Калатухін *(вельмі ўражаны)*. Што?!.
Мяснікоў. А пуці?
Хлопец. Іх, аказваецца, узарвалі пасля, калі поезд праскочыў! Палічылі за браняпоезд звычайны санітарны! Ледзь не пусцілі пад адкос!

Усе стаяць узрушаныя. Калатухін проста аглушаны.

Адзінцоў. Узарвалі? Хто ўзарваў? *(Глядзіць на Калатухіна.)*
Калатухін. Г-глупства!

Нібы для таго, каб пацвердзіць вестку рабочага, чуецца гарматны стрэл з браняпоезда.

Хлопец. О, салютуе!

Калатухін *(салдатам)*. К эшалону ўсіх. Мы яшчэ ўправімся!

Грыбаў *(салдатам)*. К эшалону! *(Адзінцову.)* Семафор!

Адзінцоў. Адкрыю!

Валя. Валодзя, што ты робіш? Ты разумееш?..

Адзінцоў. Я павінен!..

Сярод салдат, да якіх падыходзяць новыя, гул хвалявання.

Салдаты. {Гэта праўда, што нас на Маскву?<br>На ўсмірэнне?!

Калатухін. Брахня!

Мяснікоў *(горача)*. Праўда! Вашай рукой хочуць задушыць савецкую ўладу, вашу ўладу!

Адзінцоў *(Грыбаву)*. Я прашу не затрымлівацца!

Грыбаў. Марш к эшалону! Адпраўляемся!

Салдат. Мы рашылі, што не адправімся да таго часу, пакуль не высветліцца ўсё!..

Калатухін. Высветліце ў дарозе! К эшалону!

Мяснікоў. Салдаты, не слухайце іх! Вас хочуць ашукаць! Вас хочуць павесці на нашых жа братоў!

Калатухін. Не верце яму! Ён ілжэ!

Валя. Паручнік Адзінцоў, скажы — хіба ж не на Маскву іх? *(На Мяснікова.)* Ілжэ ён?

Калатухін *(пагрозна адшпільваючы кабуру)*. Ілжэ!

Валя *(Адзінцову)*. Скажы! Ён ілжэ? Не на Маскву?

Адзінцоў *(пасля паўзы, поўнай унутранай барацьбы)*. На Маскву!..

Валя *(радасна)*. Вы чуеце?!

Калатухін раз'юшана выхоплівае наган і страляе. Адзінцоў падае.

Валодзя! Валодзя!

Адзін з салдат кідаецца да Калатухіна, узмахвае штыком.

Салдат. Ах ты, гніда!

Валя *(іграе на Адзінцове гімнасцёрку, глядзіць рану)*. Бінт! У каго ёсць бінт? *(Спяшаючыся, перавязвае Адзінцова.)*

Адзінцоў. Вось і прыйшоў мой час... Мая дарога...

Валя. Маўчы, ты будзеш жыць! Валодзя, мілы!

Адзінцоў. Адзін... Адзін еду...

Валя. Ты са мной, Валодзя! Са мной! *(Са страхам.)* Доктара! Ёсць тут доктар? Доктара!

Салдаты перадаюць: «Доктара!», «Доктара!».
З ляскатам падыходзіць браняпоезд, шэры, важкі, з дуламі гармат, з кулямётамі. Калі ён спыняецца, наперад выбягаюць салдаты, сярод якіх Дзяцел і Залыгін.

Дзяцел. Добры дзень, людцы!

Галасы. Добры дзень! З прыездам!

Залыгін. Таварыш Алёша! Браніраваны поезд прыбыў у распараджэнне Мінскага Савета.

Мяснікоў. Добра, Залыгін! У час прыехалі!

Дзяцел *(з вялікім здзіўленнем раптам заўважае непадалёк сваю жонку Кацярыну, якая паяўляецца ў натоўпе. Дзяцел хрысціцца.)* Быць не можа! Згінь, згінь!..

Кацярына. Ты зноў!..

Дзяцел. Скула! Што табе тут трэба? Чаго ты тут?

Кацярына. Чаго! Як жа тут паедзеш, калі невядома, чыя бярэ!

Дзяцел. Эх, баба! Наша бярэ!

*Заслона*

# У НОВЫМ ДОМЕ

Драматычная аповесць у трох дзеях і з трыма пралогамі, у якіх аўтар, крытык, даверлівы і недаверлівы гледачы разважаюць і спрачаюцца аб сям'і, каханні, аб праве і абавязках чалавека.

## АСОБЫ, ЯКІЯ РАЗВАЖАЮЦЬ

Аўтар.
Даверлівы глядач.
Недаверлівы глядач.
Крытык.

## АСОБА, ЯКАЯ ДЗЕЙНІЧАЕ

Памрэж.

## АСОБЫ, ЯКІЯ РАЗВАЖАЮЦЬ І ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ

Быліцкі Сяргей Аляксандравіч.
Ён жа ў маладосці, ва ўспамінах.
Люба, яго жонка.
Яна ж у маладосці, ва ўспамінах.
Валодзя, іх сын.
Ганна Іванаўна.
Дудко Андрэй Данілавіч.
Ольга, дачка Дудко.
Павел.
Галін Антон Ціханавіч.
Зіна, яго жонка.
Алік.
Рая.
Ала.
Косцік.
Вера.

## *ПРАЛОГ ПЕРШЫ*

Усё падрыхтавана да спектакля.
Няёмка, няўпэўнена выходзіць на сцэну аўтар, азіраецца. Падыходзіць да рампы, углядаецца ў залу.

Аўтар. Добры вечар!

Голас за кулісамі: Хто там улез на сцэну?!

Аўтар. Гэта я. Не турбуйцеся, гэта — я.

На сцэну выбягае памрэж.

Памрэж. Ах, гэта вы! Аўтар! Як вы апынуліся тут?.. Хутчэй! *(Дае нецярпліва знак сысці са сцэны.)*

Аўтар. Я павінен сказаць некалькі слоў.

Памрэж. Вы заблудзіліся! Вам, мабыць, трэба за кулісы, да акцёраў!

Аўтар. Не, я хацеў бы сустрэцца з гледачамі.

Памрэж. Вы блытаеце спектакль! Гледачы, акцёры чакаюць пачатку!

Аўтар. Я скажу толькі некалькі слоў. Магу ж я сам-насам сустрэцца з гледачом?

Даверлівы глядач. Няхай скажа! Аўтар жа!

Недаверлівы глядач. Толькі карацей! Без павучанняў!

Аўтар. Пастараюся коратка. П'еса, якую вы ўбачыце, раскажа вам аб адной вельмі звычайнай гісторыі, аб маленькай сям'і. Аб звычайным жыцці-быцці некалькіх чалавек...

Недаверлівы глядач *(з падазрэннем).* А, унь што!

Крытык *(з дырэктарскай ложы).* Мнагазначны ўступ! Аўтар загадзя апраўдваецца!

Аўтар. Я хачу паспрачацца! Я ўпэўнены зусім у іншым. Праўда, я не адразу наважыўся прынесці сваю п'есу ў тэатр...

Крытык. Вось-вось. Цікава! Чаму ж вы не наважваліся?

Аўтар. Я часам бачыў вас. *(У залу, шчыра.)* Жыццё сям'і — не тайны атама і не далеч космасу. Тут ледзь не ўсё даследавана. Столькі од і трагедый усlavілі і аплакалі сям'ю, сямейнае шчасце. Вялікія і малыя, далёкія і блізкія, песняры і прамоўцы! Кожная ўсмешка, кожны ўздых шчаслівых і няшчасных тысячы разоў апісаны, перапісаны. Ці варта чапаць даў-

насць, у якой так лёгка пайсці пратаптанай сцежкай! Ці варта чапаць яе, калі цераз усю планету нашу скрозь дзьмуць шырокія, магутныя вятры самай неспакойнай і самай цудоўнай эпохі!

Даверлівы глядач. Мала што. Пра любоў, пра сям'ю таксама забываць нельга. Пра любоў унь як любяць чытаць і фільмы глядзець. Як возьмеш кніжку пра любоў у інтэрнат, дык не аддасі, пакуль усе не прачытаюць...

Недаверлівы глядач. Пісьменнік — сапраўдны, канечне,— не павінен ісці на павадку ў чытача. У жыцці ёсць важнае і не важнае. І няма чаго забіваць галовы людзей усялякімі дробязямі, цягнуць усё ў тэатр!

Аўтар. А помніце Маякоўскага: «Но бывает... и большое понимаешь через ерунду»? Але сям'я — не глупства, гэта ж нашы пакуты і радасці, наша жыццё. Забудзем жа на час тое, што вы бачылі ў гэтай зале раней. Няхай даўнія ці нядаўнія цені не ўстаюць між намі. Паспрабуем, як можам, разабрацца самі ў тым, што блытае, нявечыць яшчэ жыццё людзей...

Памрэж *(нецярпліва, амаль перабівае).* Вы ўсё сказалі? Пачынаць трэба!

Крытык. Даўно пара!

Аўтар *(збіты з думкі).* Пачынайце *(ідзе са сцэны).*

Памрэж дае знак адкрыць заслону.

## *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Кватэра Быліцкіх.
На пярэднім плане частка пакоя, дзверы ў другі пакой. У пакоі за дзвярыма — музыка, смех, адчуваецца, што там спраўляюць нейкае свята.
Тут, у першым пакоі, двое — Валодзя Быліцкі і яго маці Люба.

Валодзя. Мама, а доўга яшчэ яны будуць?..
Люба. Што?
Валодзя. Гаварыць і піць гарэлку?
Люба. А... А ты не слухай. Кладзіся і спі...
Валодзя. Як ім не надакучыць, мама?

Л ю б а. Сказаў! Ім жа весела!

В а л о д з я. Віно — такая дрэнь! Калі мне тата даў, я ледзь не выплюнуў.

Л ю б а. Ён жа кропельку! А мог бы і не піць!

В а л о д з я. «Мог бы»! Ведаеш — нядобра не выпіць!

Л ю б а. Чаму нядобра? Сказаў бы «не хачу» і паставіў чарку.

В а л о д з я. Усё ж я не дзяўчынка якая-небудзь!.. І акрамя таго — наваселле!.. Мама, а чаму заўсёды, калі на новую кватэру пераязджаюць, то гэтае наваселле робяць?

Л ю б а. Каб шчасце ў хаце было...

В а л о д з я. Мама, значыцца, мы будзем вельмі шчаслівыя?!

Л ю б а. Будзем шчаслівыя!

В а л о д з я. За наша шчасце столькі п'юць! Столькі падарункаў прынеслі!

Л ю б а. Спі, Валодзя! Мне трэба да гасцей... Будзеш спаць?

В а л о д з я. Добра.

Маці цалуе яго, папраўляе на ім коўдру, але не выходзіць.



На другім, цёмным плане, як успамін, паяўляецца, высвечваецца малюнак: яна — маладзейшая — з загорнутым у прасцінку малым на руках. Сядзіць, гушкае дзіця, спявае ціха песеньку-калыханку: «А люлі, а люлі! Бай, бай!..» Па тым, як сядзіць, ківаецца, як спявае, відаць, што вельмі хоча спаць, змарылася. Але разам з гэтым на твары і вялікая ўцеха, шчасце мацярынства.

За гэтым узнікае другі малюнак — у пакой уваходзіць С я р г е й. Распранаецца, няма дзе павярнуцца. «Ніяк не прывыкнеш да цеснаты!» Падыходзіць да яе: «Утамілася? І я таксама. Але зманціравалі яшчэ два аўтаматы!.. Хутка галоўны канвеер пойдзе!.. І баракі скора — на дровы! Катлаван пад падмурак выкапалі! А там — падмурак!..» Я н а падтрымлівае, лагодна дражнячы: «А там — сцены! А там — вокны!..» С я р г е й: «І не агледзішся, як вырасце прыгажун! Як наваселле прыкоціць!» Я н а: «Доўга яно коціць нешта! Барак трэці на трэцім месцы, а ў доме як след і не па-

жылі!» Сяргей: «Пажывём! Цяпер — пажывём! Цеснату, барак будзем успамінаць, як дагістарычнае мінулае!» *(Сяргей пяшчотна абдымае яе, яна туліцца да яго, адданая, поўная кахання...)*



Малюнак на другім плане знікае. Люба, адганяючы ўспаміны, уздымаецца з ложка, пагладзіўшы галоўку сына, выходзіць.

У той час, калі яна ўваходзіць у пакой, дзе гуляюць госці, Галін, якога выбралі за тамаду, устае, стукае відэльцам па пляшцы, просіць цішыні.

Галін. Слова паважанаму Андрэю Максімавічу!

Быліцкі *(папраўляючы)*. Андрэю Данілавічу.

Галін. Вінават. Андрэю Данілавічу Дудко!

Дудко *(устае)*. Што ж сказаць? Тут і так ужо ўсяго сказана!

Ганна Іванаўна. Але ж вы яшчэ не казалі! Ці вы дабра не жадаеце нам?

Дудко. Дабра я жадаю. Толькі тут ужо ўсяго нажадалі! *(Задумаўшыся.)* Вось што я скажу. Я вось тут, седзячы ў новай кватэры, успомніў, як я жыў, калі вярнуўся з лесу пасля вайны. Кватэра мая была — сутарэнне сярод руін... Тады і горад быў увесь у руінах. А вось мы жывём у дамах, і ўжо нават прывыклі і не здзіўляемся... Харошы горад у нас, і дамы новыя, добрыя... І было б от добра, каб у новых дамах і наогул у такім новым, прыгожым горадзе людзі былі сумленныя ўсе, культурныя і жылі добра, справядліва. Прыгожа. От за справядлівае, прыгожае жыццё я і хачу выпіць. *(Любе.)* І дай вам бог шчасця ў новым доме!

Галасы. За шчасце!

Госці чокаюцца з Быліцкімі.

Ганна Іванаўна. Мудры стары! Самую праўду сказаў!.. Вазьмі вось студзіны, сама рабіла!

Дудко. Дзякую, гаспадыня... *(Працягваючы разважаць.)* Яно ж калі ў халупе, як некалі, то і плюнуць не грэх. У хляве і свіннёй можна быць... А тут — культура трэба!

Ганна Іванаўна. Праўда твая. Час такі... Я от, як у дэпутатах хадзіла, сама ў камісію па азеляненню папрасілася. Хацела, каб ліпы ды клёны саджалі, каб кветак было многа...

Д у д к о. У нас у пасёлку цяпер — як у парку!.. Летам пчолы гудуць!

Г а н н а І в а н а ў н а. Люблю хараство ўсякае! Змалку ўсяго наглядзелася, навучылася ад людзей. Ды і ад бацькі свайго; чаго таіць — піў ён, матку біў кулаком сп'яна, з дурасці. Аляксандр мой,— сам ведаеш, які быў,— слова паганага не скажу, не крыўдзіў. Але голад, галеча крыўдзілі... Дык і — праўда твая — хочацца, каб цяпер было хораша ўсё!.. Можа, гурочка падаць?

Д у д к о. Дай хіба гурка.

Г а н н а І в а н а ў н а. Добрае жыццё настала. Толькі што балаўства рознага многа... Разбэсціліся людзі каторыя. Строгасці мала!

Д у д к о. Праўда твая: строгасці не хапае.

Люба падыходзіць да Дудко.

Л ю б а. Дзякую вам! Вы, мабыць, такі добры чалавек! І ўсе тут — добрыя! Усе добрыя! Шчодрыя! *(Да Ольгі, якая сядзіць побач з бацькам.)* Вы такая цвярозая сярод усіх нас!

О л ь г а. Я заўсёды мала п'ю.

Л ю б а. Але ж у такі дзень... Не, я пачынаю не тое гаварыць. Выпіла. З радасці... Я так рада, што вы прыйшлі, што ўсе сабраліся!..

Адыходзіць. Зірнуўшы, як муж ласкава схіліўся да Ольгі, хмурнее. Наганяе весялосць.

Б ы л і ц к і. Ну вось, бачыце, тут не так дрэнна. А вы не хацелі...

О л ь г а. Проста я не хацела быць лішняй. Вы ж запрашалі бацьку.

Б ы л і ц к і. Бацьку і вас. А вы заўпарціліся!..

О л ь г а. Я думала, буду неабавязковым дадаткам. Я так мала знаёма ■ вашай сям'ёй... Прабачце. *(Устае, падыходзіць да акна.)*

Быліцкі ідзе ўслед за ёю.

Б ы л і ц к і. Вам нудна?

О л ь г а. Не. Проста стамілася.

Б ы л і ц к і. Можна з вамі гаварыць шчыра?

О л ь г а. Чаму ж не?

Б ы л і ц к і. Бывае, чалавека бачыш здалёк, а адчуваеш як добра знаёмага, як друга... З вамі не было такога?

О л ь г а. Не.

Б ы л і ц к і. А са мною — вось цяпер... Ведаеце, калі б вас не было, на вечары гэтым многага б не хапала!

О л ь г а. Гэта вам здаецца.

Б ы л і ц к і. Гэта маё перакананне... Мне хочацца, каб вам было добра, весела. Я хачу, каб шлях ваш быў хоць і цяжкі, але шчаслівы, слаўны, поўны сапраўднай творчай радасці. Каб у вас былі заўсёды самыя яркія ролі і самыя прыхільныя гледачы. Былі і слава, і ружы!

О л ь г а. Дзякую. Вы вельмі добразычлівы.

Б ы л і ц к і. Не смейцеся. Я сур'ёзна...

Пасля паўзы.

Мне здаецца, вы самі не ведаеце, якая вы шчаслівая. У вас такая шырокая, прыгожая, цудоўная дарога. І ўся яна наперадзе, уся яна перад вамі — ідзіце, шукайце, тварыце!

О л ь г а. Я зайздрошчу тым, хто хоць трохі прайшоў ужо сваёй дарогай. Яны ўжо нешта зрабілі, яны могуць сумленна і з годнасцю глядзець у вочы людзям. А я... а ў мяне пакуль толькі мары!..

Б ы л і ц к і. Мары — гэта многа, калі з імі — маладосць, вера, запал!..

Паўз іх праходзіць З і н а. Яна прыкметна выпіла.

З і н а. Што ён вам кажа? Можа, у каханні прызнаецца?

Б ы л і ц к і. Зіна!

З і н а. Вы — маладая, даверлівая. Паслухайце параду: не вельмі верце мужчынам!

О л ь г а. Дзякую за папярэджанне!

З і н а. Бойцеся асабліва такіх, як Сяргей Аляксандравіч!

Адыходзіць.
Быліцкі і Ольга застаюцца каля акна. Відаць, як жонка Быліцкага пaглядвае ў іх бок. Галін заўважае, што яна непакоіцца.

Г а л і н. Я горача заклікаю ўсіх выпіць за самую цудоўную з жанчын, якія сёння ўпрыгожылі нашу

сумную мужчынскую кампанію!.. Я знарок не кажу яе імя, думаю — гэта лішняе... За самую цудоўную!

Д у д к о. А ўсё ж трэба было б сказаць! Рознае могуць падумаць!..

З і н а. Я здагадваюся!

Г а л і н. За гаспадыню гэтага добрага дома! За Любоў Васільеўну.

О л ь г а *(Быліцкаму)*. За вашу жонку п'юць!

Б ы л і ц к і. А! *(Падыходзячы да стала.)* З прыемнасцю далучаюся! *(Чокаецца з жонкай.)* За цябе, Люба!

З і н а. Сяргей Аляксандравіч, як вы, аднак, легкадумна прымаеце такі тост! «З прыемнасцю»!

Б ы л і ц к і. Легкадумна?

З і н а. Вы забываеце некаторыя рэчы!..

Г а л і н. Зіна! Ты лішне выпіла!

З і н а. Не, я скажу. Няўжо вы дасюль не бачыце, сляпы муж, што мой Галін без памяці закаханы ў вашу Любу? Даўно і верна!

Л ю б а. Ты, праўда, Зіначка, лішне!..

Б ы л і ц к і *(жартаўліва-сур'ёзна)*. Я заўважаў тое-сёе!..

З і н а. Як жа вы трываеце?

Б ы л і ц к і. Я веру ў высакародства Антона і ў выпрабаваную гадамі вернасць Любы!.. За здароўе гаспадыні!

Ён п'е. Выпіўшы, азіраецца на Ольгу, хацеў ісці туды, але там стаіць Дудко.
Дудко гаворыць з дачкой.

Д у д к о. Дадому пара ісці. Заседзеліся...

О л ь г а. Ты нечым незадаволены?

Д у д к о. Не.

О л ь г а. Не, ты хмурышся. Ты незадаволены. Я вінавата ў чым?

Д у д к о. Не. Світаць ужо, мусіць, пачынае. *(Глядзіць у акно.)* Там нехта стаіць.

Ольга пазірае ў акно. Раптам на твары яе паяўляецца здзіўленне.

О л ь г а. Ой! Здаецца, Паўлік!

Д у д к о. Паўлік?

О л ь г а. Ён заўважыў нас. У цень схаваўся...

Д у д к о. Вось і добра, што Павел! Пойдзем дадому!

**Ольга.** Хадзем!

Яны падыходзяць да Ганны Іванаўны, Любы і Быліцкага.

**Дудко.** Ну, вось, гаспадыня, дзякуй табе вялікае ад нас...

**Ганна Іванаўна, Люба.** Ужо ідзяце? Так рана?

**Дудко.** Час, як кажуць, старым касцям на спачын.

**Быліцкі.** Рана, вельмі рана, Андрэй Данілавіч! Крыўдзіце!

**Дудко.** І так, стары, заседзеўся!

**Быліцкі.** Нагаворваеце на сябе, Андрэй Данілавіч! І на гады свае без падстаў ківаеце! *(Зірнуўшы на Ольгу.)* То, можа, Ольга Андрэеўна застанецца?

**Ольга.** Рэпетыцыя ў мяне сёння. Адказная. Другая ўсяго.

**Дудко.** Адпачыць трэба!.. Ну, вось — шчасліва вам быць!

**Ольга.** Бывайце здаровы!

**Люба.** Шчасліва і вам! Бывайце!

Быліцкі ідзе следам за імі, праводзіць.

**Зіна** *(мужу)*. Час і нам уставаць!

**Люба.** Не выдумляй, Зіначка! Куды табе спяшацца?

**Галін.** Праўда, Зіна, пасядзім яшчэ! Нельга ж мне адразу губляць такую пасаду!

**Зіна.** Алік, бядак, зачакаўся!.. Баюся, каб не натварыў чаго. Самі ведаеце, якая з малога нянька! *(Загадвае вачыма Галіну, каб устаў з-за стала.)*

**Ганна Іванаўна.** Што ж, праўда твая: няволіць не буду. Не крыўдуйце, калі што не так было...

**Зіна.** Усё было добра, Ганна Іванаўна! Дзякую вельмі!.. А халадзец — дык цуд! І парася смачнае!.. Прыйду потым, каб расказалі, як вы гэта робіце. Добра? *(Цалуе яе, развітваючыся. Галіну.)* Хадзем.

Уваходзіць Быліцкі.

**Быліцкі.** І вы ўжо?! Э, гэта нядобра! Варта было на хвілінку адысці, як вы наўцёкі!

**Галін.** Зіна ва ўсім вінавата!

**Зіна.** Падзякуй мне, Сяргей, што выцягнула яго!.. *(Любе.)* Дзякуй табе, Любачка! Добра вельмі было ў вас! *(Цалуе яе.)*

Г а л і н. Жывіце багата! Хай шчасця ў вас будзе поўны дом!

Б ы л і ц к і. Гэта дык пажаданне!

Выходзіць з гасцямі.
Выходзіць і Г а н н а І в а н а ў н а.
Люба застаецца. На яе знарок вясёлы твар сыходзіць цень непакою. Задуменная, прыбірае са стала.
Уваходзіць Б ы л і ц к і.

Б ы л і ц к і. Сапраўды, вечар — на дзіва!.. *(Любе.)* Выбачай, на завод трэба пазваніць, у механічным прэс са строю выйшаў. *(Набірае нумар.)* Алё! Аляксандр Мацвеевіч? Ну, што там? З прэсам?! Вазьмі ў падмогу брыгаду Папрыкі! Каб заўтра ўсё было як след. Разумееш? Галаву здыму!..

Кладзе трубку.

Ну вось, і адпачыць нарэшце можна... Ты чаму такая?

Л ю б а. Так, думкі розныя...

Б ы л і ц к і. Пра што? Ну, шчыра! Ну!

Л ю б а. Пра Дудко, пра яго дачку думала. Прыгожая якая яна.

Быліцкі хавае няёмкасць. Ён не хоча такой гаворкі, знарок вядзе на іншае.

Б ы л і ц к і. Стары ў яе сімпатычны. Ён для мяне многа зрабіў. Я яму на ўсё жыццё ўдзячны. Прыйшоў я да яго жаўтаротым птушанём — ні прафесіі ніякай, ні жыцця не ведаў. Ён навучыў. І рабочаму рамяству, і мудрасцям жыцця. Майстар. Першы настаўнік.

Л ю б а *(думаючы аб іншым)*. Строгі ён, здаецца...

Б ы л і ц к і. Строгі. Я от прыехаў галоўным інжынерам, і хоць ён, як і раней, майстар, а я нібы пабойваюся яго! Вечным вучнем адчуваю!

Л ю б а. Дачка — красуня якая, праўда?

Б ы л і ц к і. Як бы табе сказаць? Нічога. Але яна не зусім на мой густ. Кнігаўка. Птушанё...

Л ю б а. Не хлусі, яна не можа не падабацца. Такая красуня — страшна стаяць побач! Хараство і маладосць!

Б ы л і ц к і. Ёсць хараство вясны і хараство восені. Мой узор — ты! Самая цудоўная, як сказаў Галін.

Л ю б а. Не паўтарай чужых і няшчырых слоў. Як шкада, што маладосць і хараство не вечныя! Старыя

ісціны раптам пачынаеш разумець нібы ўпершыню... Я, мабыць, вельмі пастарэла? Брыдкая стала?

Б ы л і ц к і. Глупства! Для мяне ты — такая, як і была! Маладая і прыгожая назаўсёды! Для мяне, ва ўсякім разе! *(Абдымае яе.)*

Л ю б а. Трэба Валодзьку паглядзець. Пусці!..

Быліцкі не адпускае яе.

Б ы л і ц к і. Прэч сумненні! У новым доме! Глядзі, як добра тут! *(Падводзіць да акна, адчыняе яго.)* Проста ў акно глядзіць рабіна!.. Вуліца якая! І рабіна пад акном!

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Дворык перад домам, дзе жывуць Дудко. Дом — звычайны жылы катэдж гарадской ускраіны. На пярэднім плане — тэраса з карнізам ад дажджу, збоку лавачка, некалькі дрэўцаў. Пачынае цямнець.
На тэрасе Д у д к о, які збіраецца кудысьці ісці.
Уваходзіць П а в е л.

П а в е л. Ольга дома?

Д у д к о. А, Паўлік! Зноў ты не ўгадаў. Няма.

П а в е л. Трэці раз не шанцуе.

Д у д к о. Занята ў тэатры... Абедаць не прыходзіць...

П а в е л. І калі павінна быць, невядома?

Д у д к о. Хутка, можа, будзе. А ты — пачакай, наўдачу!..

П а в е л. Пачакаю.

Д у д к о. Калі яна прыйдзе, скажы, што я хутка вярнуся.

П а в е л. Добра.

Д у д к о выходзіць.
Павел сядае на лавачку, якая напалову схавана кустом.
Убягаюць О л ь г а і Б ы л і ц к і. Абое мокрыя, вясёлыя, расчырванелыя.

О л ь г а. Ой, не магу! Задыхалася!

Яна шумна аддыхваецца, паказваючы Быліцкаму, як яна змаглася.

Б ы л і ц к і. Бедная!

Ён жартаўліва гладзіць яе руку, нібы супакойвае.

Ольга. Не трэба! Бязлітасны вы чалавек!

Былiцкi. За што так сурова? Оля!..

Ольга. Не ведаеце? Замарылі, замучылі, ды яшчэ — нядобры — пытаецеся!

Былiцкi. Я замарыў? Ты ж сама так бегла, што я ледзь упраўляўся, каб не адстаць.

Ольга. Праўда?

Яна раптам засмяялася.
Захопленыя сабою, яны не заўважаюць Паўла, які стаіць усхваляваны.

Былiцкi. Якая ж ты быстраходная! Каб ты не была актрысай, ты магла б, напэўна, стаць чэмпіёнам па бегу!

Ольга. Чэмпіёнам?!

Былiцкi. У маштабах рэспублікі, а можа — і краіны! *(Ён раптам абдымае Ольгу, цалуе.)*

Ольга *(трывожна)*. Што вы! Хіба ж можна!..

Былiцкi. Даруй. Я з табою часта забываюся. На ўсё, на ўсіх!

Павел, уражаны, хаваецца за куст. Азіраецца: што рабіць,— выйсці непрыкметна з двара няма як.

Ольга. Пра нас, актрыс, часта гавораць — легкадумныя. Я баюся даць падставу гаварыць такое пра мяне... І даю...

Былiцкi. Ніхто пра цябе не падумае такога!

Ольга. І вы не думаеце?

Былiцкi. Сказала! Я думаю, наадварот, лішне строгая!

Ольга. Вы кажаце няпраўду.

Былiцкi. Клянуся.

Ольга выстаўляе руку з-пад казырка, правярае, ці не ідзе дождж.

Ольга. Уцякалі ад дажджу, і нá табе: дажджу няма. Ледзь крапае! А такія хмары паўзлі!

Былiцкi. Яны пайшлі стараною.

Ольга. Як усё-ткі добра пасля дажджу! Калі ідзе дождж, мне заўсёды так хораша, так хораша!.. Калі я малая была, ледзь дождж пасыпле — не ўсе-

джу. На двор, пад град кропель! Па лужах — аж пырскі ляцяць!

Быліцкі смяецца.

О л ь г а. Вы чаго?

Б ы л і ц к і. Так, смешна. Уявіў цябе маленькую, у кароценькім плацці, даўганогую. Па лужах!..

О л ь г а. Нічога тут смешнага!.. Нядоўга пакрапаў, а ўсё нібы перамянілася! Ажыло!.. Чуеце, язмін пахне?

Б ы л і ц к і. Язмін?

О л ь г а. Не чуеце? Эх вы!.. І мокры клён!

Б ы л і ц к і. Фантазіруеш!

О л ь г а. Вы, што ж, думаеце — клён мокры не пахне? Я добра ведаю гэты пах. У мяне ж пад самым акном клён! Як толькі адчыніш акно пасля дажджу ці ўранку, дык у пакоі, як у кляновым лесе!

Б ы л і ц к і. У мяне каля акна — рабіна!..

О л ь г а. Дрэва, а, нібы друга, люблю. Тата пасадзіў, тры гады таму. У дзень маіх імянін... Пацешыць хацеў... Заўсёды стараецца здзівіць чым-небудзь добрым...

Б ы л і ц к і. Любіць ён вельмі цябе.

О л ь г а. Без маці выхадзіў мяне. Мусіць, я ўдвая даражэй яму.

Грыміць далёкі гром.

О л ь г а. Як мне падабаецца слухаць гром!.. Калі я чую яго, мне становіцца жудасна і весела!

Быліцкі зноў абдымае яе.

Б ы л і ц к і. Ты зусім змокла. Дрыжыш...

О л ь г а. Халаднавата робіцца.

Б ы л і ц к і. Ідзі пераадзенься! Яшчэ прастудзішся! Што я рабіць тады буду?!.

О л ь г а. Так, бадай, ваша праўда! Хадземце!

Б ы л і ц к і. Ідзі адна. Я тут пачакаю.

О л ь г а. Чаму ж тут?.. З бацькам сустракацца не хочаце?

Б ы л і ц к і. Так. І ён не сумуе без мяне, здаецца?

О л ь г а. Ну, што ж... Я хутка!

О л ь г а выходзіць.
Быліцкі закурыў, паглядзеў на гадзіннік. Неспакойна думае штосьці.
Павел выходзіць з-за куста.

Б ы л і ц к і. Хто тут? А!.. Добры вечар!

П а в е л. Добры вечар!..

Азірнуўся на дом, як бы падумаўшы, ці не пайсці туды, да Ольгі; рашуча выходзіць з двара.

О л ь г а. Ну, вось я... А таты, аказваецца, дома няма!.. Можа, зойдзеце?

Б ы л і ц к і. Не. Мне пара збірацца. Трэба на завод заехаць. У эксперыментальны цэх.

О л ь г а. Што-небудзь здарылася ў вас?

Б ы л і ц к і. Не. Машыну новую выпрабоўваць заўтра павінны... Оля, чаму ты мяне завеш усё «вы»?

О л ь г а. Не ведаю. Проста — у вас такая вялікая справа, такое жыццё! Я так паважаю вас!..

Б ы л і ц к і. Вось зноў — «паважаю вас»!..

Паяўляецца Д у д к о.

Б ы л і ц к і. Добры вечар, Андрэй Данілавіч!

Д у д к о *(няветліва)*. А, малады чалавек! Добры вечар! *(Ользе.)* Ты не прастудзішся? Холадна робіцца!

О л ь г а. Не, што вы! Які холад?

Д у д к о. Ну, глядзі! Нагуляеш прастуду!

Заходзіць у дом.

О л ь г а. Хмурны такі ■ выгляду, а колькі дабраты ў ім!..

Б ы л і ц к і. Мне ён заўсёды здаваўся суровым. А цяпер я быццам яго баюся.

О л ь г а. Ён прывык аберагаць мяне...

Паўза.

Б ы л і ц к і. Не верыць ён мне... *(Неспакойна.)* А ты? Верыш?..

О л ь г а. Веру... Не заўсёды.

Б ы л і ц к і. Чаму ж ты сумняваешся?

Паўза.

О л ь г а. Загадкавы ўсё ж вы. Незразумелы нейкі.

Б ы л і ц к і. Чаму незразумелы?

О л ь г а. Няясны нейкі. Складаны... Я часта думаю пра вас, калі адна, і ў галаве блытаецца. Успомню, як мы хадзілі з вамі па лесе, што вы казалі, такі сур'ёзны для ўсіх, паважаны,— думаю, харошы вы, мілы. Потым уяўляю, дзе вы, што вы робіце дома, і стане балюча, крыўдна. Брыдка бывае часта.

Б ы л і ц к і. Калі я вяртаюся дамоў, я чую і бачу цябе... Жыву гэтым, Оля, ты сама не ведаеш, як многа значыш для мяне. Я ўпершыню адчуваю, што мяне ва ўсім разумеюць. Жывуць маім непакоем, маімі марамі. Можа, гэта таму, што ты таксама творчы чалавек. Ці таму проста, што такая чулая, разумная такая!

О л ь г а. Вы — дзіўны чалавек! Сустрэўшыся з вамі, я забываюся на ўсё! Я толькі аднаго вас слухаю. Я ні аб чым не думаю. Вы ўмееце абыходзіць усё, што можа захмарыць радасць... За столькі часу мы ўпершыню загаварылі пра гэта!

Б ы л і ц к і. Я невінаваты, Оля. Тут ніякай палітыкі. Проста я не магу з табой думаць пра што-небудзь іншае...

О л ь г а. А без мяне думаеце? Ну, і што ж вы думалі?.. Правільна мы робім,— думалі пра гэта?

Б ы л і ц к і. Ольга, я цябе люблю! Ты разумееш?

О л ь г а. Я разумею... Але я — не пра тое...

Б ы л і ц к і. Ты пытаеш, што я рашыў?. Але рашэнне маё пачынаецца і канчаецца гэтым — я люблю. Я не магу без цябе дня быць!..

О л ь г а. Але ж вы...

Б ы л і ц к і. Не кажы. Я ведаю, пра што ты. Оля, уся бяда ў тым, што мы позна сустрэліся! Калі б мы спаткаліся ў свой час, усё было б добра. Але мы спаткаліся позна... Так, я не вольны кахаць!.. А я *(упарта)* люблю! Люблю!.. Ну, што ты параіш?

Паўза.

Не ведаеш? І я не ведаю!.. Ёсць нямала мудрацоў, для якіх гэта проста. Не павінен любіць — не любі! А я не такі! Я ўсё-ткі люблю!.. Што мне рабіць?

О л ь г а. Усё ж мне здаецца, што ў нашых адносінах штосьці няправільна...

Б ы л і ц к і. Не любіш ты мяне, Оля!

О л ь г а. Калі мы дружылі з Паўлікам, было так добра, хораша. Я думала, каханне — гэта штосьці такое светлае, радаснае, як летняя раніца. А яно — як сённяшні вечар!.. Мне трывожна, боязна!..

Б ы л і ц к і. Ты маладая. Табе жыццё здаецца простым, ясным, а тут — такія вузлы, паспрабуй разбярыся.

Ольга. У мяне нейкае адчуванне вінаватасці. Нібы я бяру тое, на што не маю права.

Быліцкі. Ты не вінавата ні ў чым.

Ольга. Не супакойвайце мяне. Я вінавата. А вы — яшчэ больш! Калі я застаюся адна і думаю пра вас і сябе, мне часта хочацца аднаго: кончыць бы гэта! Але ў мяне, мусіць, мала волі. Я сустракаюся з вамі. Я нават чакаю. Чакаю, еду, а потым шкадую!.. Я і не ведала, што такая слабавольная. Але *(рашуча)* гэтаму павінен быць канец! Кончыць — дык кончыць адразу!

Быліцкі. Ты хочаш, каб я... больш не прыходзіў?

Ольга. Так. Так лепш. Сумленна. Трэба быць справядлівым і сумленным.

Паўза.

Быліцкі. Ну, што ж... Бывай!

Цяжка ідзе да дзвярэй, спыняецца, думае, вяртаецца.

Быліцкі. А калі я... калі я развяжуся, ты пойдзеш са мной?

Ольга. Не ведаю... Што вы за чалавек?!

Быліцкі. Я хачу ведаць! Скажы!

Ольга. Не пытайцеся! Не ведаю! Ідзіце!..

Быліцкі. Што ж! Я пайшоў!

Выходзіць усхваляваны, неспакойны.
Ольга стаіць узрушаная, разгубленая. У першы момант нібы не заўважае, што яго няма. Да яе падыходзіць бацька.

Дудко. Оля...

Ольга. Што? *(З крыўдай.)* Ён пайшоў!

Дудко. Я ведаю.

Ольга. Ён не прыйдзе!

Дудко. І дзякуй богу! Хай глядзіць свайго дому!

Ольга. А як жа я?!. *(Раптам збіраецца бегчы.)*

Дудко. Куды ты?

Ольга. Я яшчэ даганю! Ён недалёка...

Дудко. Пачакай! Супакойся... Паўлік прыйшоў. Ён недзе тут. *(Гукае.)* Паўлік!.. Не дачакаўся зноў!.. Ты цяпер шчаслівая! Дзякуй богу, што так скончылася!

Ольга. Скончылася?!.

У голасе яе столькі гора, што бацька сумеўся. Стаіць — не ведае, што сказаць, што рабіць.

*Заслона*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Кватэра Быліцкіх.
У пакоі нібы і чыста, і прыбрана, але адчуваецца, што сюды ўжо ўпоўз прыхаваны неспакой. На сцяне партрэт Быліцкіх, павялічаны здымак першых год сумеснага жыцця. Паблізу партрэт сына.
У пакоі Люба, Ганна Іванаўна.
Ганна Іванаўна чытае газету.

Люба. Цямнее ўжо. Мо святло ўключыць?

Ганна Іванаўна *(кладучы газету)*. Што робіцца! Тут цішыня, мір, а ў Афрыцы вайна! Людзей забіваюць. Пішуць, сто дваццаць забітых...

Уваходзіць, кульгаючы, Валодзя.

Люба. Што з табой?

Валодзя. Нагу выцяў.

Люба. А, нічога. Маленькая драпінка... Сядай! *(Дастае бінт.)* Мама, дзе гэта пляшачка з ёдам?

Ганна Іванаўна падае.

Ну вось, адзін момант — і ўсё будзе добра!

Люба перавязвае сыну раненую нагу.
Валодзя крывіцца ад болю, здаецца, вось-вось заплача, але стрымліваецца.

Ганна Іванаўна. Упаў?

Валодзя. Ну, упаў.

Ганна Іванаўна. Спатыкнуўся?

Валодзя. Ну, спатыкнуўся. Сказаў жа.

Ганна Іванаўна. А ты не «нукай». Не ведаеш, як з бабуляй трэба гаварыць?

Валодзя. А як з табой яшчэ гаварыць?

Люба. Бабуля праўду кажа.

Ганна Іванаўна. Разбэсціўся!.. Дык чаго ж ты спатыкнуўся? Ішоў?

Валодзя *(няёмка)*. Ішоў.

Ганна Іванаўна. Проста так ішоў і спатыкнуўся?

Люба. Валодзя, ты... не маніш?

Валодзя. Ну, бег.

Люба. Чаго бег, куды?

Валодзя. Мы ў футбол гулялі...

Люба. Тры гадзіны?

Валодзя. Не. Я нядоўга. Мы з Алікам «спадарожнік» рабілі.

Ганна Іванаўна. Зноў «спадарожнік»! І ўчора «спадарожнік», і пазаўчора!

Валодзя. А ты думаеш, яго так проста!.. Уга, сапраўдны дык, можа, год рабілі!..

Ганна Іванаўна. То — сапраўдны... І тыдзень назад — «спадарожнік»!

Валодзя. У тую суботу мы ракету рабілі!

Ганна Іванаўна. Ну вось ракету. А ўрокі — маці за цябе няхай робіць?

Валодзя вінавата маўчыць.

Ганна Іванаўна. Разбэсціўся зусім.

Люба. Я што табе казала?

Валодзя. Каб я... раней за ўсё рабіў урокі.

Ганна Іванаўна. Урокі! Справу! Шкадуеце, дрыжыце над ім. І ў кіно яго, і ў тэатр, і ў парк. Ды я яго, такога неслуха, месяц нікуды не пускала б. Каб ведаў!

Валодзя. Ну і не пускайце!

Ганна Іванаўна. Вось! Чула! Тры месяцы нікуды!

Валодзя. Ну і няхай!

Ганна Іванаўна. Трэба сказаць Сяргею! Няхай парадуецца!

Люба. Давядзецца сказаць!

Валодзя раптам кідаецца да маці. Туліцца.

Валодзя. Не трэба! Мама, не трэба! Я не хачу!

Ганна Іванаўна. А слухацца маці будзеш?

Валодзя. Буду.

Ганна Іванаўна. І мяне.

Валодзя *(неахвотна)*. І цябе. *(Маці.)* Не скажаш?

Люба. Не. Не скажам. А то бацьку будзе вельмі непрыемна, калі ён даведаецца, праўда?

Валодзя. Праўда. Мама, ты ў мяне такая добрая.

Люба. І тата добры.

Валодзя. Тата — лепшы за ўсіх! За ўсіх на свеце!

Люба. А цяпер ты пойдзеш спаць, так?

Валодзя. Пайду.

Люба. Ну, ідзі!

В а л о д з я. Спакойнай ночы, мама! *(Стрымана.)* І табе, бабуля. А таты ўсё няма.

Л ю б а. Ён хутка будзе.

В а л о д з я выходзіць.

Г а н н а І в а н а ў н а. Чаму гэта ён так доўга? Зноў нарада, мусіць.

Л ю б а. Можа.

Г а н н а І в а н а ў н а. А што ён табе казаў, калі званіў?

Л ю б а. Сказаў толькі, што затрымаецца. Ён не любіць, каб распытвалі.

Г а н н а І в а н а ў н а. Не падабаецца мне такое жыццё! Ён там, на працы, і ўдзень, і ўвечары, ты — тут. Усё асобна. І гэта называецца — сямейнае жыццё!

Л ю б а. Што ж, так многія жывуць.

Г а н н а І в а н а ў н а. Здзіўляюся, за што толькі так любіць яго Валодзька. Хоць гэта ты ўсё робіш, усё гудзеш яму: твой тата такі ды такі, і разумны, і добры, лепшы за ўсіх!

Л ю б а. А ці ж мне яму казаць, што горшы?

Г а н н а І в а н а ў н а. Гэта я так, да слова... Заўважаю я — дзіўная ты нейкая бываеш. І Сяргей таксама. А чаму, і не ведаю. Здарылася што-небудзь?

Л ю б а. Нічога. *(Каб схаваць неспакой.)* Душна штосьці!

Г а н н а І в а н а ў н а. Душна? Толькі што прайшоў дождж.

Люба адчыняе акно. Мімаволі з заклапочанасцю выглядвае на вуліцу.

Л ю б а. Прайшоў. А ўсё-ткі неяк душна.

Г а н н а І в а н а ў н а. Гэта здаецца. Зноў усё трэба падаграваць яму.

Л ю б а. Я пайду.

Г а н н а І в а н а ў н а. Пачакай. Прыйдзе, тады і падагрэеш.

Л ю б а. Ён будзе галодны.

Г а н н а І в а н а ў н а. Патрывае.

Л ю б а. Дзіўная вы, мама.

Г а н н а І в а н а ў н а. Чаму?

Л ю б а. Ён ваш сын, а вы, здаецца, не яго, а мяне больш шкадуеце.

Ганна Іванаўна *(строга)*. Не выдумляй. Ты таксама не чужая. Таксама мая дачка.

Люба. Не было ў мяне маці змалку, дык вось вы — як маці.

Ганна Іванаўна. Што гэта на цябе найшло, такая кволасць? Неспакойная ты нешта, як бы душа баліць, ці што?.. Аб чым ты думаеш?

Люба. Так. Успомнілася адно... Тады было якраз, як сёння. Дождж такі. Грымела...

Ганна Іванаўна. Калі гэта?

Люба. Як Сяргей прыбег, калі мы пажаніліся.

Ганна Іванаўна. Раскажы.

Люба. Не хацела я ісці тады замуж. Думала, несур'ёзна ў яго, так, захапленне на тыдзень. Ён, праўда, падабаўся мне, але я ўсё ж не кахала яго. Ён стаў хадзіць за мной, як цень. Раўнаваў усіх да мяне — страх! Ледзь не штодня: «Пойдзеш за мяне? Усё роўна будзеш маёй!» Такі настойлівы! Ведаеце, за гэтую ўпартасць я, можа, і палюбіла яго!

Ганна Іванаўна. Ён, калі што западзе ў душу, не адыдзе, пакуль не даможацца.

Люба зноў выглядае ў акно.



На другім, цёмным плане паяўляецца малюнак: убягаюць, трымаючыся за рукі, Люба і Сяргей. Ён цягне яе хутчэй за сабой, але яна спыняецца зморана: «Чакай! Дай перадыхнуць!» У гэты момант лінуў дождж — Люба засмяялася, сцулілася. Сяргей аддана зняў пінжак з сябе, хоча накінуць ёй на плечы. Яна не згаджаецца, але ён, поўны ласкі да каханай, намагаецца, каб яна накрылася. Нарэшце накрываюцца адным пінжаком. Сяргей цалуе Любу і цягне яе подбегам далей. Пінжак падае. Яны падхопліваюць і са смехам, шчаслівыя, бягуць. Пад канец гэтага малюнка чуваць задуменны голас Любы.



Люба. Калі мы ішлі ў загс, ліў дождж, Сяргей трымаў мяне за руку і спяшаўся.

Ганна Іванаўна. Ён казаў, што баяўся, каб ты не перадумала.

Люба. Мне даводзілася амаль бегчы.



На другім плане зноў узнікае малюнак — тыя ж маладыя, вясёлыя Люба і Сяргей. Ён спыняецца: «Ну вось, ты — мая! Жонка! Мая! Мая! Я хачу крычаць ад шчасця! Мая!.. Скажы: ты — мая?! Скажы!» — «Твая». Сяргей абдымае яе.



Люба. Калі мы ішлі назад — мужам і жонкай,— дажджу ўжо не было... Недзе наводдалек грымела. Вось як сёння. Толькі тады ззяла сонца, а цяпер прыцемак. А так усё, як тады.

Ганна Іванаўна. Гэта ж, пэўна, было таксама ў маі?

Люба. Семнаццатага мая. Якраз пачыналі каштаны цвісці, што на Ленінскай. Цераз восем дзён будзе чатырнаццаць гадоў.

Ганна Іванаўна. Трэба будзе добры вечар зрабіць. Гасцей паклікаць.

Люба. Лепш адным, без гасцей.

Ганна Іванаўна. З гасцямі абавязкова. У вас жа вяселля не было, вось і няхай — нібы вяселле.

Люба. Пазнавата крыху — вяселле.

Ганна Іванаўна. Чаму гэта позна? Трэба ж калі-небудзь. А можна і не казаць, што вяселле. Радасці ў вас мала было. Вучоба, малое. Пераезды з месца на месца. Вось і трэба, каб цяпер пабольш яе было!..

Люба. Сяргей, здаецца! *(Падыходзіць да акна, углядваецца.)* Сяргей... Трэба вячэру разагрэць... *(Хоча ісці на кухню.)*

Ганна Іванаўна. Я пайду. А ты пасядзі. І так, мусіць, нахадзілася.

Ганна Іванаўна выходзіць. Люба збірае на стол. Звініць званок, і яна ідзе адчыніць. Уваходзіць Быліцкі, пануры, стомлены.

Быліцкі. Дзе маці?

Люба. На кухні.

Азірнуўся, сеў на крэсла. Люба заўважае, што ён дзіўна ўзрушаны, затоены, з неспакоем сочыць за ім.

Л ю б а. Ты прамок. Распраніся.

Б ы л і ц к і. Не цукар, не растану. Валодзька спіць?

Л ю б а. Спіць.

Б ы л і ц к і. Здаровы?

Л ю б а. Трохі нагу параніў.

Б ы л і ц к і. Не моцна?

Л ю б а. Не.

Паўза. Быліцкі ўстае, ходзіць.

Б ы л і ц к і. Я павінен з табой пагаварыць. Сур'ёзна.

Л ю б а *(насцярожана)*. Гавары.

Б ы л і ц к і. Люба, я быў не на нарадзе.

Л ю б а. Дзе ж ты быў?

Б ы л і ц к і. Я быў у дачкі Дудко. У Ольгі... Адным словам, я яе люблю.

Люба стаіць уражаная. Паўза. Уваходзіць Г а н н а І в а н а ў н а, нясе талерку.

Г а н н а І в а н а ў н а. Вось — трэці раз падагравалі!..

Б ы л і ц к і. Мама, я потым павячэраю...

Г а н н а І в а н а ў н а. Калі — потым? Ты што гэта, нібы ў гасцях?

Б ы л і ц к і. Мама, нам з Любай пагаварыць трэба.

Г а н н а І в а н а ў н а. Гаварыце.

Б ы л і ц к і. Нам адным трэба.

Г а н н а І в а н а ў н а. Што гэта за сакрэт такі? *(З падазронасцю паглядае на яго, потым на Любу. Незадаволена.)* Ну, добра, гаварыце.

Выходзіць.

Б ы л і ц к і. Я цяпер хадзіў па горадзе. Я думаў пра гэта. Яна мяне амаль прагнала. Але я не магу жыць без яе. Я спачатку супакойваў сябе, што гэта толькі звычайная прыхільнасць, захапленне харастом, розумам, маладосцю. А цяпер пераканаўся, што значна большае... Я думаў, што яно мінецца, пройдзе, таму і не гаварыў табе нічога. Але яно не прайшло... Я не магу саўладаць з ім...

Люба слухае яго, нібы аглушаная. Яна, уражаная, разгубленая, не ведае, што гаварыць, як паводзіць сябе.

Быліцкі. Я разумею, што табе гэта прынясе вялікі, цяжкі боль, і я адчуваю сябе злачынцам. Але я хачу, каб ты зразумела...

Люба *(стрымана)*. Я... я цябе наўрад... ці зразумею...

Быліцкі. Табе цяжка, але ты зразумееш. Ёсць такія рэчы, з якімі нам вельмі цяжка справіцца. Немагчыма. Ты зразумей. Ты такая высакародная...

Люба. Дзякую... Ты... сёння не будзеш... дома?

Быліцкі. Так. Я думаю, лепш ва ўпраўленні перабыць.

Паўза.

Люба *(раптам, непахісна)*. Але Валодзі я не аддам!

Быліцкі. Што ж, няхай будзе з табой. Я разумею, ты на яго маеш больш права... Ну, вось і ўсё. Цяпер мне трэба пагаварыць з мамай. Я яе, вядома, вазьму з сабой...

Люба. Мне трэба... выйсці?

Быліцкі. Так будзе лепш. Мама!

Люба выходзіць у пакой, дзе спіць Валодзя.
Уваходзіць Ганна Іванаўна.

Ганна Іванаўна. Ну, што?

Быліцкі. Мне трэба з табой пагаварыць.

Ганна Іванаўна. У цябе нейкая непрыемнасць?..

Быліцкі. Можа быць. Мама, я з сённяшняга дня павінен змяніць сваё жыццё.

Ганна Іванаўна. Як змяніць?

Быліцкі. Я... разыходжуся з Любай.

Ганна Іванаўна. Як гэта разыходзішся?

Быліцкі. Зусім. Буду разводзіцца.

Ганна Іванаўна. Ты... ты гэта праўду?!

Быліцкі. Праўду.

Ганна Іванаўна. Ты не звар'яцеў? Адкуль такое ў цябе?

Быліцкі. Я, мама, сур'ёзна абдумаў. Гэта канчаткова.

Ганна Іванаўна. А як жа Валодзька?

Быліцкі *(уздыхнуўшы.)* З ёй.

Ганна Іванаўна. А як жа Люба?

Паўза.

Як ёй?!.

Быліцкі. Я люблю другую.

Ганна Іванаўна. Другую! А Любе як?

Быліцкі. Мама, зразумейце...

Ганна Іванаўна. Чым яна горшай стала? Ты калісьці казаў, што яна для цябе — усё, што без яе і жыцця няма. А цяпер без другой жыць не можаш?

Быліцкі. Мама, не гаварыце так.

Ганна Іванаўна. Ты выдумаў гэта. Ідзі зараз да Любы і папрасі прабачэння!

Быліцкі. Мама, я не магу.

Ганна Іванаўна. Ідзі!

Быліцкі. Мама, вы, здаецца, нічога не зразумелі!..

Ганна Іванаўна. Я ўсё разумею. Ідзі! Яна даруе, хоць бы дзеля Валодзькі.

Быліцкі. Я не магу.

Ганна Іванаўна. Падумай пра Валодзьку!.. *(З надзеяй.)* Успомні, як твой бацька недасыпаў, недаядаў, каб адзець цябе, каб аддаць табе свой кавалачак хлеба! Як ён стараўся ўсіх вас вывесці ў людзі! І вывеў! Семярых! А ты аднаго кідаеш!

Быліцкі. Мама, нарэшце, калі на тое пайшло, я не забуду пра іх. Я не ашуканец які-небудзь.

Ганна Іванаўна. Грошай дасі? *(Сяргей прамаўчаў.)* Але каго ты купіш Валодзьку свайму за бацьку? І як ты заплаціш ёй за тое, што яна рабіла, кормячы цябе і мыючы твае сарочкі, дагаджаючы табе? Што ты за яе патрачаную на цябе маладосць, за хараство, за пакалечанае цяпер жыццё дасі?

Быліцкі. Мама, я вінаваты. Але, зразумейце ж, я не магу інакш.

Ганна Іванаўна. Не можаш. Каб ты не аднаго сябе, а і другіх помніў, ты мог бы. Але ты заўсёды толькі пра сябе думаеш. «Я, для мяне!» *(Горача.)* Як толькі такога галоўным інжынерам трымаюць.

Быліцкі. Галоўным інжынерам мяне назначылі па іншых меркаваннях. *(Стрымліваючыся.)* Мама, я ўжо вырас. Мяне позна давучваць... Прыйдзе час, вы супакоіцеся, падумаеце і зразумееце мяне. Цяпер давайце лепш пагаворым пра справы.

Ганна Іванаўна. Якія справы?

Быліцкі. Перш за ўсё, пра вас, пра ваша жыццё далей. Я хачу, каб вы не турбаваліся аб сабе. Усё будзе добра. На гэтым тыдні я ўсё ўладжу. Сёння прыйдзецца пераначаваць у Забелаў. Я зараз дамоўлюся.

Ганна Іванаўна. А ты мяне запытаў, як я хачу?

Быліцкі. Пра што вы?

Ганна Іванаўна. Ну, пра што? А ці згодна я? Ці пайду я туды? А можа, я не пайду да цябе?

Быліцкі. Мама, вы жартуеце!

Ганна Іванаўна. Што ж тут дзіўнага! Ты ж у мяне цяпер не адзін. Ты мне сын. А ў мяне ж ёсць яшчэ і ўнук. Ён тут.

Быліцкі. Вам будзе цяжка з Любай. Вы будзеце напамінаць ёй...

Ганна Іванаўна. Большай бяды, як ты, я ёй не зраблю... Значыцца, ты ўсё-ткі ідзеш?

Быліцкі. Я ўжо сказаў. Вось толькі б Валодзьку пабачыць.

Ганна Іванаўна. Калі так, няма чаго глядзець на яго! Хоць, чаго ж, паглядзі. *(Няласкава.)* Бацька! *(Падыходзіць да дзвярэй, ціха кліча Любу.)*

Люба ўваходзіць.

Хоча пабачыць Валодзьку.

Люба. Навошта? Ён толькі што задрамаў.

Быліцкі. Я ўсё-ткі развітаюся.

Люба. Ты не пойдзеш. Я не хачу!

Быліцкі. Не пусціш? Я ж усё-ткі бацька.

Люба *(раптам гнеўна)*. Ідзі адсюль!

Быліцкі. Выганяеш?

У паўрасчыненых дзвярах паяўляецца сонны Валодзя, няўцямна пазірае на ўсіх. Яго не заўважаюць у першы момант.

Ганна Іванаўна. Цішэй, Валодзьку разбудзіце...

Люба. Ідзі! Прэч!

Быліцкі. Ну, што ж.

Збіраецца ісці, але да яго кідаецца перапалоханы Валодзька.

Валодзя. Тата! *(Кідаецца да маці.)* Мама! *(Глядзіць на яе, на бацьку, стараецца ўцяміць, што здарылася. Дрыжыць ад спалоху.)*

Л ю б а *(супакойваючы)*. Ну, што ты? Чаго ты, сынок?

В а л о д з я. Тата, куды ты? *(Кідаецца зноў да бацькі.)* Не трэба!

Л ю б а. Сынок, хадзі сюды!.. Ён... ён.. яму трэба ісці...

В а л о д з я. Куды?

Л ю б а. У... ва ўпраўленне... дзяжурыць...

В а л о д з я. Не, ён не дзяжурыць... Тата, ты праўда не туды?

Б ы л і ц к і. Валодзя, я... я прыйду...

В а л о д з я. Ты не прыйдзеш! Я ведаю, куды ты! *(З адчаем, з дзіцячай шчырасцю.)* Ты — да чужой цёці! Я яе не люблю!

Г а н н а І в а н а ў н а *(каб супакоіць)*. Якой цёці? Што ты вярзеш?!

В а л о д з я. Той, якая ўчора ехала з татам на машыне! Я бачыў!

Л ю б а *(Быліцкаму, нецярпліва)*. Ідзі! Ну, чаго стаў?

Быліцкі, узрушаны, хоча ісці.

В а л о д з я. Мама, не праганяй яго! Чуеш?

Г а н н а І в а н а ў н а *(сыну)*. Ідзі!

В а л о д з я. Бабуля! *(Са страхам.)* Тата! Не ідзі!

Вырваўшыся з рук Ганны Іванаўны, кідаецца да бацькі, хапаецца за яго рукі. Ганна Іванаўна адрывае Валодзю, бацька ёй памагае.

Ганна Іванаўна сілком вядзе ўнука ў суседні пакой.

Г а н н а І в а н а ў н а. Ну, не плач! Ёсць чаго плакаць! І не рвіся! Чуеш, я каму кажу! І каб спаў зараз жа!..

С я р г е й моўчкі выходзіць.

Люба зняможана прыпадае да сцяны, нерухома, прыгнечана глядзіць услед яму.

Л ю б а *(горка ўспомніўшы)*. Праз восем дзён...

Убягае В а л о д з я.

В а л о д з я. Дзе тата?! Ён пайшоў! Ты прагнала яго? Мама! Пакліч яго! Пакліч, мама!

Люба раптам рыдае.

*Заслона*

*ПРАЛОГ ДРУГІ*

Трохі смялей, чым у першы раз, на сцэну выходзіць аўтар. Памрэж спрабуе на паўдарозе пераняць яго.

Памрэж. Зноў вы сюды выходзіце!

Аўтар. Я недагаварыў. Вы перабілі мяне... І наогул я чалавек нецярплівы — хацеў бы пачуць, што думае глядач...

Памрэж. Кончыцца спектакль, тады і даведаецеся!

Аўтар. Акрамя таго, тут сядзіць крытык!

Крытык. Я выкажу сваю думку заўтра ў газеце.

Аўтар. Усё-такі мне хацелася б... Па гарачых слядах...

Памрэж. Ох, гэтыя жывыя аўтары! *(Гледачам.)* Скажыце, супакойце. Толькі карацей!

Даверлівы глядач. Нічога, глядзець можна. А ў некаторых мясцінах,— напрыклад, дзе Быліцкі гаворыць жонцы пра развод,— дык жаль бярэ. Шкада вельмі яе.

Недаверлівы глядач. А мне, скажу прама, хоць таварышу аўтару гэта і не спадабаецца,— нецікава. Пасля першай дзеі ўжо ведаеш, што будзе далей!

Аўтар *(уражаны)*. Ужо?!

Недаверлівы глядач. Гэта няцяжка. Сын, якога кінуў бацька, пакутуе. Так?

Аўтар *(няёмка)*. Вы ўгадалі. З гэтага пачынаецца наступная карціна... Але ж ён не можа не пакутаваць!..

Недаверлівы глядач *(перабіваючы)*. Быліцкі пажыве з гэтай актрысай — яна акажацца бяздушнаю сябелюбкай... Людаедкай Элачкай. Быліцкі зразумее, што страціў. Закаецца. Так?

Аўтар хоча адказаць, але памрэж не дае.

Памрэж. Забараняю! Не смейце расказваць! Гледачу не будзе чаго глядзець!

Крытык *(кідаючы пісаць нешта ў кніжачку)*. Я, на жаль, таксама вымушан далучыцца да неспакою, які выказаў тут глядач. Мяне не пакідае адчуванне, мякка кажучы, традыцыйнасці таго, што вы пішаце, паважаны аўтар...

Аўтар. Традыцыйнасці — у чым?

Крытык. Калі гаварыць аб трактоўцы вобразаў, у прыватнасці — я бяру толькі адзін прыклад! — хоць бы тое, як вы прасталінейна гатовы асудзіць Быліцкага!

Аўтар. Я пакуль не судзіў. Я ўправіўся толькі расказаць аб учынку...

Крытык. Дарагі, я не даверлівы юнак! Я — стрэляны верабей! Яшчэ ў першай карціне я адчуў, да чаго вы гнеце!.. Вы, паважаны, цягнеце к таму, ад чаго наша драматургія, на шчасце, адмовілася!

Аўтар. Назад цягну? У чым?

Крытык. Па штампах мінулых гадоў,— даўно адкінутых штампах,— чалавек, які пакідаў сям'ю, быў злачынец. Падобна вашаму Быліцкаму! Хоць і дрэнная, а толькі была б сям'я! Ілюзія сям'і!

Аўтар. Я за добрую сям'ю. І супраць ілюзіі, супраць ханжаства!

Крытык. Як і вашы наіўныя папярэднікі, вы зусім забываеце, што ёсць пачуцці, вялікія пачуцці — дружба, любоў, якія савецкаму чалавеку ўласцівы не менш...

Аўтар. Больш, як каму іншаму! Але ці не злоўжываецца так, што імі іншы раз, як бы сказаць, злоўжываюць? Хіба ўжо знікла зусім распуста ў сямейным жыцці і каханні?

Крытык. Не блытайце! Ленін казаў аб анархічнай, дробнабуржуазнай распусце! Сацыяльная аснова пачуццяў чалавека стала іншаю! Нельга не лічыцца з гэтымі зменамі! Наогул, нельга падганяць тысячы самых розных выпадкаў пад адну рысу! Дыялектыкам быць трэба!

Аўтар. Згодзен. Нельга спрошчваць! Трэба разбіраць кожны выпадак асобна! Таму і абыдзем пакуль учынак Быліцкага. Тут яшчэ трэба багата чаго высвятліць. Але ці ж не павінна жыць яшчэ — як закон паводзін нашага чалавека — ленінскае патрабаванне — самавалоданне і самадысцыпліна ў асабістым жыцці, у адносінах між мужчынам і жанчынай? Максімальная адказнасць пры стварэнні новай сям'і?

Крытык. Ленін не адмаўляў ніколі і значэння кахання! *(Схамянуўся.)* Аднак думкі мае можаце прачытаць заўтра ў газеце. *(Нешта зноў з суровым выглядам піша ў кніжачку.)*

Аўтар хоча яшчэ штосьці сказаць, але Пампрэж бярэ яго пад руку.

**Пампрэж.** Пра спектакль падумайце! Рытм парушылі! *(Паказвае ў залу.)* Бачыце унь — гледачы перагаворваюцца! Зацягнулі!

Вядзе аўтара са сцэны.

## *ДЗЕЯ ДРУГАЯ*

### КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Дворык перад домам Дудко.
Абстаноўка тая ж, што і ў другой карціне.
На двор, дзікавата азіраючыся, нясмела ўваходзіць хлапчук, **Валодзя Быліцкі.** Стоячы за кустом, ён углядаецца ў дом, але ісці далей не наважваецца.
За ім нячутна паяўляецца **Павел** з букетам кветак. Убачыўшы хлапчука, ён, зацікаўлены, спыняецца.

**Павел.** Эй, чалавек!

Валодзя спалохана адскоквае.

Ды не бойся ты! Хіба я такі страшны?

Валодзя маўчыць.

Што ты тут выведаў?

Валодзя, як і раней, не гаворыць.

Ды ты, чалавек, ці не нямы?
**Валодзя** *(хмурна)*. Не.
**Павел.** А, значыцца, проста гаварыць не хочаш? Ну што ж, тады развітацца трэба.

Ён ідзе к дому.

**Валодзя.** Дзядзечка!
**Павел.** Што?
**Валодзя.** Скажыце, Быліцкі тут жыве?
**Павел.** Тут жыве Дудко. Хоць, пачакай, тут прыбіўся адзін... *(Уважліва зірнуўшы.)* А ты хто?
**Валодзя.** Ніхто.

Пануры, тоячыся, адыходзіць. Насцярожана азірнуўшыся, знікае.
Павел узыходзіць на тэрасу.

Павел. Ёсць хто тут жывы?

Паяўляецца Дудко.

Дудко. А, добры вечар, Павел!

Павел. Добры вечар, Андрэй Данілавіч!.. Ольгі, вядома, няма?

Дудко. Хутка павінна быць. Толькі што званіла з тэатра. Пачакай.

Павел (*пасля паўзы*). А можа, мне лепш пайсці?

Дудко. Чаму?

Павел. Ведаеце ж. Можа, мне не варта было б наогул паяўляцца ў вас?

Дудко. Сядай.

Павел сядае на лавачку.

Павел. Захацелася павіншаваць...

Дудко, уздыхнуўшы, выходзіць.
Амаль адразу ж паяўляецца Ольга, вясёлая, радасная.

Ольга. Татачка!

Павел, збянтэжаны, устае. Ольга заўважае яго, ніякавее.

Павел. Я... павіншаваць прыйшоў... з прэм'ерай!

Аддае ёй кветкі.

Ольга. Пакуль быў прагляд. Мастацкі савет прымаў... Прэм'ера — заўтра... Гладзіолусы... Не забыў...

Павел. Я цябе яшчэ не віншаваў з замужжам...

Ольга. Дзякую...

Па тым, як яны трымаюцца, як гавораць, адчуваецца, што вельмі сумная, даўкая гэта сустрэча былых закаханых.
Уваходзіць Дудко.
Ольга кідаецца да яго.

Ольга. Татачка, можаш павіншаваць мяне! Прагляд прайшоў з поспехам! Абмеркаванне было! Сказалі: «Вялікая ўдача! Радасны дэбют!» Сама Арэшына выступала: «Поўнае пераўвасабленне ў вобраз! Жыве на сцэне!»

Дудко. Віншую...

Ольга. Дзякую, татачка.

Д у д к о. Можа б, ты пачаставала госця?

О л ь г а *(Паўлу)*. Праўда! Павячэраем разам! *(Бацьку.)* Сяргея няма?

Д у д к о. Няма.

П а в е л. Дзякую. Я ўжо вячэраў... Я пайду!

О л ь г а. Шкада. *(З прытоенай палёгкай.)* Але ты не забывай, прыходзь...

П а в е л. Работы падбавілася... Цэлымі суткамі ў лабараторыі.

О л ь г а. Мы ўсё ж будзем сябрамі?

П а в е л. Пабачым... Бывайце здаровы!

Выходзіць.

Д у д к о. Такога хлопца пакрыўдзіла!

О л ь г а. Тата! Я прашу раз і назаўсёды: не папракаць!

Д у д к о. Хіба ж я са зла табе?

О л ь г а. Усё роўна! *(Заклапочана.)* Што гэта Сяргея так доўга няма?

Д у д к о. Прыйдзе. Пераадзенься ды сядай, павячэрай. Згаладалася, мабыць, з гэтым праглядам?

О л ь г а. Дзень у яго сёння цяжкі...

Уваходзіць Б ы л і ц к і.

О л ь г а. Лёгкі на паміне! *(Цалуе яго.)* А я толькі што думала пра цябе! Ну, што?

Б ы л і ц к і. Горача было. Лепш сказаць — душна. Але нішто — абышлося, можна сказаць... А ты чым пахвалішся?

О л ь г а. Можаш павіншаваць!

Б ы л і ц к і. Віншую.

Цалуе. Д у д к о выходзіць. Быліцкі заўважыў кветкі.

Кветкі ўжо?

О л ь г а. Гэта Паўлік прынёс.

Б ы л і ц к і. А!.. Ну-ну, не кажы нічога: ён, вядома, толькі з таварыскіх пачуццяў! Я, дарэчы, сустрэў яго на вуліцы. Толькі што. Ён знарок перайшоў на другі бок.

О л ь г а. Можа, ён проста не заўважыў?

Б ы л і ц к і. Заўважыў. Калі меркаваць па тым, што ён адвярнуўся... Нібы я вінаваты, што палюбіў цябе. Без яго дазволу...

Ольга. Што ж там было на сходзе?

Быліцкі. Усяго было. Найбольш, бадай, пра абавязак перад сям'ёй напаміналі. Адна даўно пераспелая дама выказалася так, што любоў мая — толькі «інтрыжка», «флірт». А Жаўнер, які нядаўна паўмесяца насіў на твары сляды пазногцікаў сваёй мілай супружніцы, паспрабаваў нават прышпіліць бытавую...

Ольга. Што — бытавую?

Быліцкі. Бытавую распусту.

Ольга. Чым жа ўсё скончылася?

Быліцкі. Вымову далі. Думаў, што горш будзе. З галоўнага інжынера, відаць, усё ж палячу.

Ольга. Бедны! Колькі табе пакутаваць даводзіцца праз мяне!

Ольга абдымае яго, цалуе.
З-за кустоў паяўляецца Валодзя. Збянтэжаны, спыняецца ўпоцемку.

Быліцкі. Нічога. Самае страшнае перабыў ужо... Пайду памыюся!

Выходзіць.
Ольга заўважае Валодзю, які памкнуўся ўслед за бацькам.

Ольга. Ой! Хлопчык, чаго ты тут?

Валодзя маўчыць.

Хто ты?

Валодзя не адказвае. Уваходзіць Дудко.

Дудко. З кім гэта ты?

Ольга. Ён — інкогніта. Тоіць сваё імя.

Дудко. Гэта не ты снаваў тут перад вечарам? *(Падыходзіць да Валодзі, прыглядаецца.)* Э, ды я ж цябе недзе бачыў... Пачакай!

Ён нарэшце прыгадвае. Глядзіць пануры.

На вечары, на наваселлі!..

Ольга. Валодзя?!

Валодзя апускае галаву.

Мы так мелькам бачыліся тады, што я і не пазнала!

Дудко. Незнаёмых многа было...

Ольга *(Валодзю)*. Што ж ты не напомніў сам? Дзівачок!

Яна хоча абняць Валодзю, але той не даецца.

Ну, не хочаш — не трэба. Не буду няволіць... Хадзем да нас!

Валодзя. Не пайду.

Дудко. На лавачку сядзь. Бацька зараз прыйдзе.

Вядзе Валодзю да лаўкі, садзіць. Ольга ідзе ўслед.

Ольга. Ты чаму такі няветлівы? *(Лагодна, жартуючы, каб супакоіць яго.)* Хіба ж я такая страшная?

Валодзя маўчыць.

Паганая хіба?

Валодзя *(раптам, рашуча)*. Паганая!

Ольга збянтэжылася.

Дудко. Э, а ты грубіян, здаецца?

Ольга. Чаму ж я... паганая?

Валодзя маўчыць.
Уваходзіць Быліцкі.
Валодзя кідаецца да яго.

Валодзя. Татачка!

Туліцца да бацькі. Быліцкі абдымае яго, песціць.

Быліцкі. Сынок!.. Не забыў бацькі! Прыйшоў!.. Вось малайчына! Ну, як ты там, а? Не крыўдзяць цябе... хлапчукі?

Валодзя. Не. Я іх не баюся!..

Быліцкі. Не баішся? Малайчына! Гэта па-мойму!... Гэта мне падабаецца!.. Значыць, жывеш непагана? Нармальна?

Валодзя. Нармальна. Толькі што сумна... Адна бабка дома. А мамкі няма ніколі...

Быліцкі. Няма? Дзе ж яна?

Валодзя. Яна на работу ходзіць. На камбінат.

Быліцкі. Працуе, значыць?.. Ну, а пасля работы? Дома ж?..

Валодзя. Яна і вучыцца паступіла. Дык... Дык дома і не відаць ніколі. Толькі спаць прыходзіць... Тата, хадзем!

Быліцкі. Пачакай! Ведаеш што — давай спачатку павячэраем, а? Ольга, павячэраць ёсць?

Ольга. Даўно.

Быліцкі. Ну вось! Дагаварыліся?

Валодзя. Не. Хадзем!

Быліцкі. Нашто нам ісці? Давай лепш павячэраем, а? Ольга, мы хочам павячэраць, разам! Бацька і сын!

Валодзя. Я не хачу. Хадзем дамоў!

Быліцкі. Ды ці ж мы не... дома? Ведаеш што — тут жа і твой дом. Мой дом, ён жа і табе дом!.. Хіба табе тут пагана?

Валодзя. Хадзем!

Быліцкі. Няўжо табе не падабаецца тут? У бацькавым доме? Глядзі, як тут добра...

Валодзя. Мама будзе так рада.

Быліцкі маўчыць. Твар яго становіцца сур'ёзны.

Быліцкі. Не магу я, Валодзя. У мяне цяпер, ведаеш, няма там дома. Мая дамоўка тут.

Валодзя. Яна не прагоніць. Яна ўжо шкадуе, што прагнала тады. А калі ты баішся, я скажу! Я заступлюся за цябе! Ты не бойся!..

Быліцкі не адказвае. Збянтэжана азіраецца ў бок Ольгі.

Валодзя. Ты не хочаш?!

Быліцкі. Я не магу пайсці, разумееш? Я ж сказаў.

Валодзя. Ты не хочаш! Не хочаш!

Ён гаворыць з адчаем.

Быліцкі. У мяне дом тут, ты разумееш?

Валодзя не разумее. Яго дзіцячыя грудзі душыць адно: «Не хоча! Не хоча!» А Валодзя верыў так у яго!

Валодзя *(бязлітасна)*. Ты... ты — паганы!

Быліцкі хоча штосьці сказаць, але Валодзя не дае яму.

Паганы! Паганы!

Валодзя хоча ўцячы, але Быліцкі спрабуе ўтрымаць яго. Валодзя вырываецца і кідаецца з двара.

*Заслона*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Абедзенны перапынак на тэкстыльным камбінаце. Дзяўчаты выходзяць з цэха, спяшаюцца ў сталоўку. Рая перапыняе іх.

Рая. Вера, Ала! Дзяўчаты! Пастойце!

Вера. Чаго гэта?

Рая. Трэба. На пяць хвілінак!

Дзяўчаты. Ведаем мы гэтыя пяць хвілінак! Есці — страх хочацца! Потым гэтыя пяць хвілінак. Пасля яды. От мода — нарады ў абед!.. Нібы часу другога няма! Не ўправімся! Галоднымі вяртацца прыйдзецца!

Рая. Управімся з абедам. Справа неадкладная! *(Косціку.)* Пакліч тэхнолага.

Косцік. Магу паклікаць, але не загадвай так! Я ўсё-такі майстар!

Рая. Прашу, калі ласка, таварыш майстар!.. Скажыце таварышу Галіну, што мы чакаем!

Косцік. Так бы адразу!

Выходзіць.

Дзяўчаты збіраюцца, прыхарошваюцца, гамоняць. Адна, другая разгарнулі бутэрброды, дзеляцца, ядуць.

Ала. Я ўчора ў тэатры была! На прэм'еры!

Вера. З кім?

Ала. Хіба не ўсё роўна.

Вера. Нам не ўсё роўна. Дык з кім жа?

Ала. Са знаёмым адным. Прэм'ера была!

Адна з дзяўчат. Хаваешся ты нешта, Алачка! Зусім ад рук адбілася!

Ала. Нічога не адбілася! Маладая актрыса іграла! Першы раз учора выйшла! Як яна іграла! Усё забываеш! Нібы не ў тэатры, а так — сапраўды! Я аж плакала!..

Вера. Ты плакала, а Жэнька, што з аўтамабільнага, слёзы выціраў?

Ала. Паглядзелі б вы яе! Пасля спектакля яе столькі разоў выклікалі! І красуня ж сама! Ведаеце, яе прозвішча — Быліцкая! *(Любе.)* Яна не сваячка вам?

Люба *(з іроніяй)*. Сваячка!

Ала. Сястра, можа?

Люба. Сястра.

Ала. Родная?

Люба. Дваюрадная.

Ала. Усё роўна. От радасць, мабыць, такую сястру мець! Аж зайздрасць бярэ!

Люба маўчыць.
Уваходзяць Косцік і Галін.

Рая *(Косціку)*. Ну, кажы. *(Мякчэй.)* Гавары, Косцік!

Косцік. От так! Не павышаючы голасу! *(Дзяўчатам.)* Навіны ёсць. АТК зноў знайшло многа дэфектаў у прадукцыі.

Адна з дзяўчат. Якіх?

Косцік. Усякіх. Поўны букет! Патаўшчэнне ніткі. Палосы з патоўшчаных нітак. Каляровыя ніткі, плямы. І таму падобнае. Усялякай усячыны!

Вера. А ў чыіх кавалках — праверылі?

Косцік. Няхай таварыш тэхнолаг скажа!

Галін. Дэфекты знойдзены ў кавалку нумар 38701, у кавалку 38720, у кавалку 38729.

Ала. А чые гэта?

Галін. На жаль... *(Глядзіць са спачуваннем на Любу.)*

Рая. Усе — Быліцкай!

Дзяўчаты. Зноў!.. Чорт яго ведае, цягнешся, стараешся, а тут!..
От табе і абавязацельствы!
А яна — толькі маўчыць!
А што яна скажа? Яна, можа, і не чуе!

Косцік. У кавалку 720 — чатырнаццаць тэкстыльных дэфектаў! *(Галіну.)* Правільна, таварыш тэхнолаг?

Галін моўчкі ківае галавой.

Рая. Першае месца — плакала!

Косцік. Яно ўсё роўна плакала б! Кудзелька вам і так ручкай памахала б! Абышла б вас!..

Рая. Гэта яшчэ паглядзелі б!

Косцік. Мне і так відна! Арганізацыя, дысцыпліна там — вам такой не пабачыць!

Р а я. Ты-то, можа, і не пабачыш, а нам і глядзець няма чаго! *(Галіну, горача.)* Гэта ваша віна!

Г а л і н. Трэба спакойна разабрацца!..

К о с ц і к. У любым становішчы, я лічу, кіпець ні да чаго!

Р а я *(Галіну)*. Вы прыслалі нам Быліцкую! Распісвалі — старанная, працавітая. Культурная — два курсы інстытута кончыла! Толькі акружыце ўвагай!..

Г а л і н. Я і цяпер мог бы паўтарыць усё. Я думаю, я ўпэўнен, гэта — часовыя непрыемнасці!..

Р а я. Дакуль жа яны будуць? Калі ж ім канец, нарэшце?

Д з я ў ч а т ы. Не першы ж раз!.. Нам гэтыя часовыя бокам вылазяць!.. Каб не ўмела ж!..

Г а л і н. Як ні непрыемна, мне здаецца, трэба абмеркаваць гэтае здарэнне з найбольшай увагай да чалавека. Разабрацца трэба не толькі ў форме, а і ў чалавечай сутнасці, як гэта магло здарыцца? Не знарок жа Быліцкая зрабіла гэта?..

Р а я. Знарок не знарок, ад гэтага мала ўцехі! Не разумею — ходзіць цэлы дзень, як бы кару адбывае! Ідзе каля машыны, робіць нібы, а ў самой — за вярсту відаць — зялёная нуда! Толькі і думае, здаецца, калі ўсё гэта скончыцца!

А л а. Па-мойму, яна стараецца! Ды не выходзіць у яе нешта!

В е р а. Не прывыклая! Вочак стамляць шкада! Ножкі баляць!

Р а я. Я так думаю: не да спадобы, дык ідзі туды, дзе табе лепш! Не падабаецца — ніхто не трымае! Калі ласка!

К о с ц і к. Вось здорава! Ідзі куды хочаш! На табе, божа, што мне не гожа! А я важдацца не хачу!

Р а я. А ты от вазьмі шэфства, памажы сам!

Г а л і н. Таварышы, мне здаецца, мы лішне гарачымся. Я разумею, быць спакойным зусім нельга, але давайце падумаем не толькі пра само здарэнне, а і пра яго прычыны! Падумаем пра чалавека, пра яго жыццё! Якое можа быць вельмі складаным! У якое часам можа ўварвацца бура, якая ўсё пераверне, пераломіць...

Л ю б а. Ніякіх асаблівых прычын тут няма. Усё вельмі проста. Няўважлівасць вінавата. Адвыкла працаваць. Вось і ўся жыццёвая складанасць прычын, Ан-

тон Ціханавіч! *(Дзяўчатам.)* А што да таго, каб пашукаць іншую работу,— воля ваша! Магу і пашукаць!

Вера. Лёгка ўсё! Магу тут, магу там!

Косцік. У вас таксама лёгка! Трэба яшчэ паглядзець — можа, прычына не ў адной Быліцкай...

Рая. А ў чым?

Косцік. Разабрацца трэба. Можа быць, і кіраўніцтва брыгадай вінавата ў чым-небудзь...

Вера. Што ты ўсё чапляеш яе, Райку! Вінавата яна хіба, што другі ёй больш падабаецца! І дзіва — ён такія лісты шле з карабля, а ты толькі і ведаеш, што грызеш ды грызеш.

Косцік. Я, асабіста, праўду кажу! І матросік тут ні пры чым!

Вера. Відаць, што ні пры чым!

Рая. Вера, не выдумляй глупства! Дык што ж з Быліцкай будзем рабіць? Пачакаем яшчэ, паглядзім, як яна далей будзе? Ці папросім, каб замянілі?..

Галін. Я супраць таго, каб пераводзіць! І ў дырэкцыі, і начальніку цэха гэта скажу! Быліцкая зможа працаваць! Працаваць добра! Трэба падтрымаць яе!

Косцік *(Раі)*. Аднак ты — не Гаганава!

Рая. Я сама сабою. Якая ёсць.

Косцік. То-та і відаць.

Ала. Я думаю таксама: няхай яна застанецца! Добрая яна! Мала што пакуль трохі не ладзіцца!

Між дзяўчат гоман. Спрэчка, розныя думкі — адны згодны з Алай, другія — супраць Любы.

Рая. Ну, а ты як, Быліцкая? Што ты скажаш?

Люба. Што тут казаць? Сказана ўжо! Воля ваша — як хочаце, так рабіце! Упрошваць не буду, не люблю!..

Рая. Пакрыўдзілася ўжо! Праўду трэба цярпець!..

Люба. Праўда ўсякая бывае. Іншая — горай крыўды! Няпраўда гэта, што я кару нібы адбываю! Ніхто мяне сюды не гнаў, сама напрасілася! Не на кару, на работу! І ніякай зялёнай нуды няма. Чаго папракаць!

Косцік. Правільна!

Ала. Мала што пакуль трохі не ладзіцца!

Другія дзяўчаты маўчаць, але, відаць, гарачыя словы Любы ўзрушылі, большасць спачуваюць ёй. Рая яшчэ трымае строгасць.

Рая. Дык ты можаш абяцаць, што не падвядзеш зноў?

Люба. Хачу!..

Вера. Ой, познімся! Паўгадзіны засталося! Без абеду будзем!

Рая. Паверым яшчэ раз!

Дзяўчаты выбягаюць.
Услед за Раяй ідзе хмуры Косцік. Рая знарок не глядзіць на яго.
Застаюцца Галін і Люба.

Галін. Што ж ты не сказала праўды пра сябе? Ці хоць бы мне дазволіла?

Люба. А навошта гэта? Якая ім справа да таго, што ў мяне было дасюль?

Галін. Ты не давяраеш ім...

Люба. Урэшце, яны справядліва казалі. Для іх праца — радасць. Для мяне толькі праца. Цяжкая. Лек толькі.

Галін. Я хацеў бы, каб лек гэты памог табе... Можна, я зайду да цябе?

Люба. Заходзь.

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

У кватэры Быліцкіх.
Той жа пакой, што і ў першай карціне. Толькі цяпер тут не святкуюць, не чуваць музыкі, у ім пуста і ціха.
Дзверы расчынены. З леснічнай пляцоўкі даносяцца галасы.

Голас Валодзі. Не думай плакацца! Скажаш — не пападайся на дарозе!

Голас дзяўчынкі. Баюся я цябе! Скажу! Усё скажу! На савет атрада выклічам!

Голас Валодзі. Выклікайце! Напалохала!

Валодзя вяртаецца ў пакой. Збірае са стала раскладзеныя кніжкі, злосна кідае на канапу.
Звініць званок. Уваходзіць Алік.

Алік. Чаго гэта Сінічкіна наведвалася?

Валодзя. Падцягваць. А я яе вытурыў!

Алік. А калі яна скажа ў школе? Дадуць табе на арэхі!

Валодзя. Не баюся я іх! *(Рашуча.)* Кіну я школу!

Алік. Эге, кінеш! А як маці — рушніком?..

Валодзя. Уцяку я адсюль!

Алік. Куды?

Валодзя *(асцярожна.)* Далёка.

Алік. Не бойся, не скажу! Паклясціся магу!.. Хочаш?

Валодзя. Даведаешся потым.

Алік. А што ты там рабіць будзеш?

Валодзя. Электрастанцыю будаваць. Разам з усімі.

Алік. Вось здарава!.. Не возьмуць цябе! Малы, скажуць.

Валодзя. Возьмуць! Я скажу, што мне ўжо шаснаццаць. Гуз у дзевятым «А» меншы за мяне, а яму шаснаццаць...

Алік. Цябе бадай што і возьмуць — ты настойлівы страшна. Калі чаго захочаш, то даб'ешся... А кім ты рабіць будзеш, а?

Валодзя. На экскаватар хачу.

Алік. Ого, экскаватаршчык!.. *(Пасля паўзы.)* Валодзя, а табе нічога не... шкада?

Валодзя. А чаго мне шкадаваць? Хіба я дзяўчынка якая!

Алік. Ад такой бабулі, як у цябе, я сам даўно уцёк бы. І то ты доўга цярпеў яе!.. Валодзя, а мяне могуць узяць на экскаватар?

Валодзя. Наўрад. Хліпкі ты.

Алік. Я хліпкі?! Сказаў! Ты, брат, мяне не ведаеш! Гэта так толькі здаецца! Я страх які здаровы і цярплівы. *(Адважна.)* Валодзя, ведаеш, што я надумаў: я еду з табою!

Валодзя. А не збаішся?

Алік. Я збаюся?! Сказаў!

Валодзя. Ну, тады прымаю! *(Узрадавана, шчыра.)* Я ўжо харчы на дарогу назапасіў! *(Дастае з патайнога схоўішча мяшок, развязвае.)* Вось тут — сала, пасоленае, каб не папсавалася. А там — абаранкі, на ўсю дарогу хопіць. Яны цвёрдыя як камень, але калі іх размачыць у вадзе, дык за ўсякі хлеб смачней! Глядзі, які я нож дастаў!

А л і к. Ух, гэта нож! Перад такім нажом усе мядзведзі паразбягаюцца са страху! Толькі махні ім!

В а л о д з я. У такую дарогу без нажа і сунуцца няма чаго!

Звініць званок.

Баба вярнулася!

Спяшаючыся, хавае мяшок.

Глядзі, каб — магіла!

А л і к *(кленучыся)*. Магіла!

Валодзя ідзе адчыніць дзверы. Уваходзяць Л ю б а і Р а я.

Л ю б а. Дома!.. Добры дзень, Алік!

А л і к. Добры дзень!..

Л ю б а *(Раі)*. Гэта сын. Валодзя. *(Валодзю.)* А дзе бабуля?

В а л о д з я. У магазін пайшла. Хутка, сказала, вернецца.

Л ю б а. Паабедаў ужо?

В а л о д з я. Паабедаў... Мама, я пайду пагуляю.

Л ю б а. Урокі падрыхтаваў?

В а л о д з я. Падрыхтаваў.

Валодзя, прыкметна спяшаючыся, апранаецца. Але ў гэты час уваходзіць Г а н н а І в а н а ў н а.

Г а н н а І в а н а ў н а. Куды? Ужо назаймаўся?

Л ю б а. Няхай пагуляе.

Г а н н а І в а н а ў н а. Цэлымі днямі байбакоў б'е. *(Валодзю.)* А дзяўчына гэтая, Сінічкіна, дзе?..

В а л о д з я *(няёмка)*. Пайшла...

Насцярожана знікае, баючыся, каб не затрымалі. Следам за ім выходзіць А л і к.

Л ю б а. Мама, пазнаёмцеся. Гэта — Рая, брыгадзір мой.

Р а я. Рая.

Г а н н а І в а н а ў н а. Чаму так позна? Змена ж гадзіны тры як прайшла.

Л ю б а. На заводзе затрымаліся.

Р а я. Сход у брыгадзе быў. У спаборніцтва ўступілі, за званне брыгады камуністычнай працы.

Г а н н а І в а н а ў н а. Думаеце, дадуць вам яго, званне гэтае?

Л ю б а. Даб'емся. Брыгада ў нас баявая, дружная.

Р а я. Заданне за месяц перавыканалі. Брак, праўда, трохі падвёў. *(Схамянулася.)* Усе вучацца — хто ў інстытуце, хто ў школе...

Г а н н а І в а н а ў н а. А як там пра сям'ю, пра любоў — запісана што-небудзь?

Л ю б а. Сказалі!

Г а н н а І в а н а ў н а. Смешна? А трэба б! Вось пра заданне дык ёсць, а пра сям'ю нічога! А камунізм, мусіць, не па адных працэнтах мерадь будуць. Камунізм — гэта ж не толькі як людзі да працы адносяцца, але — і як адзін да аднаго...

Р а я. У нас будзе дыспут: «Жыць і працаваць пакамуністычнаму». Самы раз вам выступіць.

Г а н н а І в а н а ў н а. І прыйду, і выступлю, калі трэба будзе. *(Любе.)* Абедаць будзеш?

Л ю б а. Не. Паабедала там.

Г а н н а І в а н а ў н а. Настаўніца Валодзева была. Вельмі хацела пагаварыць з табою. Учора прыходзіла, сёння... Скора павінна быць зноў.

Л ю б а. Што ёй трэба ад мяне?

Г а н н а І в а н а ў н а. Ведама што. Валодзя зусім не вучыцца, б'ецца з хлапчукамі... Ты пачакай яе.

Л ю б а. Дома буду...

Г а н н а І в а н а ў н а выходзіць.

Р а я. Зусім адцуралася роднага кутка.

Л ю б а *(нядобра.)* Хочаш ведаць чаму? Нялюбы ён мне, куток гэты.

Р а я. А чаму — нялюбы?

Л ю б а. Такая ўжо ўрадзілася. Не ўмею цаніць добрае.

Р а я. Хлусіш ты!.. Я ўсё ведаю.

Л ю б а. Ведаеш? Чаго ж ты прыкідвалася?

Р а я. Чакала, што ты сама адкрыешся. А ты... Злапамятная ты. Моцна помніш крыўду. Не любіш праўды — непрыемнай!.. Ці, можа, гэта з гонару?

Л ю б а. Хто табе сказаў?

Р а я. Гэта ўсё роўна.

Л ю б а. Ты, значыць, не займацца прыйшла? Уведаць, як жыве член брыгады? Па брыгадзірскаму абавязку?

Р а я. Можа, і з чалавечай цікаўнасці. Жаночай...

*(Знарок, каб змяніць гаворку.)* Кватэра такая, у самым цэнтры...

Л ю б а. Мне здаецца, быццам яна і не мая. І ўсё, што тут, у гэтых пакоях, нібы не маё. Здаецца, нібы я на вакзале. Перасяджу, перачакаю — і ўсё знікне, назаўсёды!..

Р а я. Люблю шчырасць! *(Адчыняе акно, за якім ярка гарыць рабіна.)* Рабіна!

Л ю б а. Стаіць, шуміць на ветры — адна-адзінокая... Лісце ўжо курчыцца, гіне, а яна гарыць, нібы радуецца.

Р а я. Не гнецца ў бядзе!

Л ю б а *(глядзіць на гадзіннік.)* Яшчэ паўтары гадзіны. Можаш пачытаць. Вось падручнік. *(Дае кнігу.)* Ідзі сюды. *(Адчыняе пакой.)* А я тым часам займуся сваімі справамі.

Р а я. Ды ты што ж, не будзеш тлумачыць? Я ў фізіцы, як у цёмным лесе. Правалюся! Не бачыць мне атэстата, праўду кажу! А да Косціка пытацца не хачу ісці. Сама разумееш. Памажы!

Л ю б а. Прыйду, вось толькі зраблю тое-сёе...

Р а я выходзіць.
Люба заклапочана падыходзіць да стала. Бярэ лісток з Валодзевага сшытка. Пачынае пісаць. Але пісаць цяжка, рука нямее ў адчаі.

З другога, цёмнага плана, асветлены, ва ўспаміне, паяўляецца В а л о д з я, ціха кажа: «Мама, значыцца, мы будзем вельмі шчаслівыя!.. За наша шчасце столькі п'юць! Столькі падарункаў прынеслі!»

Ён знікае са светлага круга, паяўляецца Б ы л і ц к і. Гаворыць: «Яна не зусім на мой густ. Кнігаўка. Птушанё». Л ю б а: «Не хлусі, яна не можа не падабацца. Такая красуня — страшна стаяць побач!.. Я, мабыць, вельмі пастарэла? Брыдкая стала?» Б ы л і ц к і: «Глупства! Для мяне ты — такая, як і была! Маладая і прыгожая назаўсёды! Для мяне, ва ўсякім разе!» *(Абдымае яе.)* Л ю б а: «Трэба Валодзьку паглядзець! Пусці!» Б ы л і ц к і: «Прэч сумненні! У новым доме! Глядзі, як добра тут! Вуліца якая! І рабіна пад акном!..» Б ы л і ц к і знікае.

Паяўляецца Г а н н а І в а н а ў н а. Гаворыць: «У вас вяселля не было. Вось і няхай — нібы вяселле».

Л ю б а: «Пазнавата крыху». Г а н н а І в а н а ў н а: «Чаму позна? Трэба ж калі-небудзь... Радасці было ў вас мала. Вучоба, малое, клопаты. Вось і трэба, каб цяпер яе больш было!»

На другім плане высвечваецца барак. Цесна, сумна. Люба — маладзейшая — мые бялізну. Выцірае твар, душна, змарылася. Падыходзіць да малога, паправіла коўдрачку, вярнулася зноў да бялізны.

Уваходзіць С я р г е й. С я р г е й: «Душна! Фортку адчыніла б!» Л ю б а: «Валодзька каб не прастудзіўся!» С я р г е й: «Сушыць зноў у пакоі! Да лепшага надвор'я пачакала б!» Л ю б а: «Няма калі чакаць! Вунь колькі сабралася!» С я р г е й: «Дай есці!» Люба моўчкі падае на стол, вяртаецца да бялізны, але рабіць не можа. Сядае каля Валодзькі, задуменная, сумная.

С я р г е й: «Ты чаго такая?» Яна маўчыць. С я р г е й, незадаволены: «Ітак на душы слота, штодня за цэх даюць у грыву, а тут яшчэ і дома!..» Л ю б а: «А мне лёгка?» С я р г е й: «Лёгка не лёгка, стрымлівайся, не наганяй нуду на душу!» Л ю б а: «А пра маю душу ты падумаў калі-небудзь?» С я р г е й: «Цішэй ты! *(Паказвае на сцяну.)* Плётак яшчэ не хапала!» Л ю б а: «Няхай! Толькі страху — што пачуюць!.. Не магу я! Не буду! У інстытут вярнуся! Не хачу ўсё забываць!» С я р г е й: «А сына на каго кінеш?» Л ю б а: «Ні на каго! Буду сама глядзець! Удваіх з табою!» С я р г е й *(нервова)*: «У мяне лішне часу! Толькі гэтага і не хапала!» Л ю б а: «Знойдзеш! Удзень занясу ў яслі. А ўвечары ўдваіх, па чарзе!.. Маці выпішы сюды!» С я р г е й: «Куды? Помніш, што гаворыш?!» Л ю б а: «Усё роўна! Не магу я больш! Не магу я ў цесНаце, у адзіноце гэтай! Не магу!» С я р г е й: «Цішэй! Стрымлівай сябе!» Перамагае сябе, супакойвае Любу: «Быў у галоўнага інжынера. Уключылі ў спіс на кватэру ў новым доме. Нядоўга ўжо ў цеснаце марнець...» Л ю б а *(спакайней)*: «Вучыцца я хачу!» С я р г е й: «Будзеш вучыцца! Атрымаем кватэру, падрасце трохі малы — будзеш вучыцца!..»

Малюнак знікае. Другі план — цёмны. Добра відаць толькі Люба. Яна сядзіць за сталом, над недапісанай паперкай, задуменная, ва ўладзе сумных успамінаў.

На другім плане зноў паяўляецца малюнак-успа-

мін: Сяргей — маладзейшы — за сталом. Яна — таксама маладзейшая — каля яго, гладзіць яму галаву. Люба: «Сяргей, я павінна сказаць табе навіну... Я — цяжарная...» Сяргей: «Зноў?» Люба: «Зноў...» Маўчанне. Сяргей: «Што ты думаеш рабіць?» Люба: «Нічога». Сяргей: «Як гэта?.. Ты ж хацела вучыцца!» Люба: «Не доля, відаць. Я больш не магу рабіць! Мне тых абортаў даволі!» Сяргей: «Цішэй ты!» Люба: «Гэта — такая пакута!» Сяргей: «Уяўляю!» Люба: «Нічога ты не ўяўляеш! Паспрабаваў бы ты хоць раз!» Сяргей: «Ахвотна, каб можна было!.. Але ж Лукшыха ўжо дзевяць перажыла, і нічога!» Люба: «То Лукшыха. А я не магу! *(Як бы вінавата, шчыра вельмі.)* І шкада мне! Жывое ж губіць! Кроў наша!» Сяргей: «Гэта — яшчэ не жывое!» Люба: «Жывое! І акрамя таго *(зноў вельмі шчыра, вінавата)* хачу я яго! Валодзька падрос ужо. Маленькага хочацца!» Сяргей: «Але ж падумай — як мы будзем у такой цеснаце!» Люба: «Ты ж казаў — абяцалі ў новым доме!» Сяргей: «Абяцалі ўжо аднойчы. Ды замест дома — новы завод і новы барак!.. Перапакутуй яшчэ раз! Апошні!..»

Малюнак знікае.

Люба адганяе ўспаміны, дапісвае паперку.

Люба *(кліча)*. Мама!

Уваходзіць Ганна Іванаўна.

Ведаеце, ад мяне ўжо колькі дзён не адступае думка... Можа, і праўда, так будзе лепш?.. *(Паказвае паперку.)* Трэба наклеіць на плоце.

Ганна Іванаўна. Што гэта?

Люба *(чытаючы)*. «Мяняю кватэру з трох пакояў у цэнтры горада. На такую ж ці меншую ў іншым раёне. Даведацца можна па адрасу...» Што яшчэ трэба напісаць?

Ганна Іванаўна. Дарэмна ты гэта. Другой такой не знойдзеш. Бо хто ад дабра дабро шукаць будзе...

Люба. Здаецца, яшчэ штосьці ў гэтых аб'явах пішуць?

Ганна Іванаўна. Пра выгоды пішуць. Ванна, водаправод. І што дом новы можна...

Л ю б а. Ага. *(Піша.)* «У новым доме... Ёсць водаправод і ванна». *(Аддае абвестку.)* Наклейце... Чакайце, адной абвесткі мала. Трэба яшчэ. Хоць адну... *(Піша, аддае Ганне Іванаўне.)* Наклейце, каб было відна.

Г а н н а І в а н а ў н а. Ужо ж, не малая.

Выходзіць.

Л ю б а *(падыходзячы да рабіны, што за акном, задуменна глядзіць)*. Адна-адзінокая... Як я!..

У дзверы стукаюць, але яна не адгукваецца. Стук паўтараецца.

Заходзьце.

Уваходзіць З і н а. За ёй Г а л і н.

З і н а. Любачка, добры дзень!.. *(Цалуецца з ёю.)* Што з табою?

Л ю б а. Так. Дробязь!.. *(Збянтэжана папраўляе валасы, выцірае вочы.)*

З і н а. Здарылася што-небудзь? Непрыемнасць якая?

Л ю б а. Не. Нічога.

З і н а. Вымову ўклеілі, начальства? Не?.. *(Здагадалася.)* А!.. Пра яго думаеш?!

Люба маўчыць.

Вось дзівачка! Ды я на тваім бы месцы... І што ты ў ім знайшла!.. Я вось шчыра кажу, здзіўлялася заўсёды, як ты яго трываеш! Такога баярына! Ён жа, як у пячоры цябе...

Г а л і н. Зіна!

З і н а. Не абараняй! Праўду кажу! *(Любе.)* Як у пячоры цябе трымаў! Без святла, без радасці! І ты яшчэ плачаш пасля ўсяго! Ды я... І што ты знаходзіш у гэтым сямейным жыцці!

Г а л і н *(нявесела)*. Зіна, ты падышла да небяспечнай мяжы!

З і н а. Падышла і перайду! Што, праўда, салодкага ў нашай долі? Кухня! Пялёнкі! Брудная бялізна ў начоўках! Нуда адна! Ах, Любачка! Дзівачка! Не ківай мне, Антон!.. Усё скажу! Як бы я, здаецца, паляцела куды-небудзь, далей ад усяго!

Г а л і н *(ён увесь час задуменны, паглыблены ў сябе. Гаворыць як бы няўцям).* Гэта значыць, ад дзяцей, ад мяне...

З і н а. Больш — ад цябе! *(Любе.)* Надакучыў ён мне! Паехаў бы куды-небудзь! Дык не, ніякіх камандзіровак! А можа, мне куды-небудзь махнуць? А, Люба?.. О, ведаеш, ідэя! Давай — на курорт! Сочы, Мацэста! Яшчэ не позна! Там яшчэ сонца! Мора! Кіпарысы! Новыя знаёмыя! А?

Л ю б а *(абы адказаць).* Трэба падумаць.

З і н а. Падумай! Падумай, Любачка! *(Абдымаючы яе.)* Зайздрошчу я табе! Вызвалілася, вольная! Ніхто не трымае, ніхто не камандуе! Усе мужчыны — твае!

Г а л і н. Такія рэчы гаворыць пры мне...

З і н а. Другія кажуць за вочы, а я — рэжу проста! *(Схамянулася.)* Ой, мне ў атэлье пара! *(Любе.)* Паліто шыю! Самая модная мода! А каб табе не нудна было, пакідаю яго. Ён у мяне ўмее суцяшаць. *(Галіну.)* Застанься тут! Я і без цябе абыдуся! Бач, узрадаваўся!

Г а л і н. Гаворыш ты лішне.

З і н а. Ведаю, што кажу. Я не раўнівая, можаш трохі пазаляцацца. *(Перабіваючы Любу, якая хоча запракнуць.)* Толькі не заходзьце далёка!

Выходзіць.

Г а л і н. Нагаварыла.

Л ю б а. Супакоіць мяне хацела... Зайздрошчу ёй! Вось чалавек: яна, мабыць, і не ведае, што такое скруха.

Г а л і н. Прытвараецца. Любіць ролю аптыміста... Ведаеш, а мы выпадкова тут спаткаліся з ёй. Я падышоў да твайго дома і раптам убачыў: яна таксама к табе ідзе...

Л ю б а. Зойдзе — і вакол як бы святлее!

Г а л і н. Не трэба бедаваць! Выкінь скруху к чорту, азірніся вакол. У свеце многа яснага.

Галін бярэ яе руку, пяшчотна гладзіць.

Л ю б а *(задуменна).* Так, яснага многа. Праца, заняткі ў інстытуце... Але хіба гэта ўсё? Хіба аднаго гэтага даволі для шчасця? Пачакай, не гавары мне, прашу, таго, што я і сама ведаю... Мяне неяк мала што цікавіць. Вось я хаджу ў інстытут, аддаю вечары вучобе,

да якой так калісьці рвалася... Праз тры гады стану, нарэшце, інжынерам,— а мяне гэта чамусьці мала хвалюе. Я раптам перастала адчуваць радасць, я жыву... не, не жыву, а хаджу, як у сне.

Г а л і н. Скінь гэты сон з сябе!

Л ю б а. Я як бы страціла апору ў жыцці...

Г а л і н. А ты не паддавайся! Трымайся!.. Хочаш, я табе... памагу!

Галін, узрушаны, раптам парывіста абдымае яе. Цалуе.

Л ю б а. Нашто ты?

Г а л і н. Я люблю цябе. Ты ж ведаеш.

Л ю б а. Пусці!

Г а л і н. Пачакай. Дай сказаць.

Л ю б а. Не гавары нічога.

Г а л і н. Я павінен. Я рашыў усё.

Л ю б а. Не трэба! Як ты не разумееш?!

Г а л і н. Я дзевяць год таіў у сабе гэта.

Уваходзіць Г а н н а І в а н а ў н а. Убачыўшы Любу ў абдымках Галіна, анямелая ад здзіўлення, знікае за дзвярыма.

Л ю б а. Усё роўна! Як ты можаш!.. А Зіна, Зіна!..

Г а л і н. Я дзевяць год трываў яе...

Л ю б а. Яна цябе любіць... Я ведаю... Гэтыя яе жарты — глупства...

Г а л і н. Але я — не люблю!..

У дзверы стукаюць.

Л ю б а. Пусці ж!

Галін пускае яе.
У дзвярах зноў паяўляецца Г а н н а І в а н а ў н а. Яна нядобра адводзіць вочы ўбок.

Г а н н а І в а н а ў н а. Настаўніца прыйшла!

*Заслона*

*ПРАЛОГ ТРЭЦІ*

Зноў выходзіць на сцэну а ў т а р.

П а м р э ж. Толькі — карацей!

Д а в е р л і в ы г л я д а ч *(аўтару)*. Як ён пакалечыў ёй жыццё, Любе!

Недаверлівы глядач. Яна таксама — пáва. Раскісла!

Даверлівы глядач. Раскіснеш, калі такая бяда! Жыць разам чатырнаццаць гадоў, прамучыцца столькі, спадзявацца, што от шчасце будзе,— і раптам такі канец!

Недаверлівы глядач. І ён, і яна — аднаго поля ягадкі! Таксама — забыла ўсё, нават дзіця! На мазоль ёй, бач, наступілі!

Даверлівы глядач. Не мазоль. Любоў чалавеку, жыццё пакалечылі.

Недаверлівы глядач. Усё роўна! Годнасць страціла — брыдка глядзець! А аўтар ёй спачувае!

Даверлівы глядач. Што яна забыла дзіця, я не апраўдваю яе. А ўсё-такі мне шкада, няшчасная яна! А тут яшчэ гэты новы залётнік, Галін, каб бяды якой не натварыў!

Недаверлівы глядач. Рая не дапусціць, перасцеражэ! Гэта загадзя відаць!

Пам рэж. Забараняю! Нядобра выведваць, малады чалавек!

Крытык. Акрамя адчування традыцыйнасці, аб якім я гаварыў вышэй — перад пачаткам другой дзеі, мяне не пакідае адчуванне дробязнасці таго, пра што вы ўзяліся расказваць. Яшчэ адна меладрама аб разбітай сям'і, няшчасным дзіцяці! У соты раз!

Аўтар. Мяне больш цікавіць не факт сам па сабе, а яго прычыны, сэнс яго!

Крытык. Прычыны яго такія ж старыя, як і сам ён, факт ваш! І такія ж дробныя!

Аўтар. Я бачу ў гэтай, як вы кажаце, дробязнай гісторыі сімптомы агіднай хваробы, якая псуе чалавечае жыццё, на вялікіх будоўлях і ў маленькіх кватэрах. Павага да свайго пачуцця і няўвага да чужога, не толькі пачуцця, да чужога лёсу, чужога жыцця! Хіба ж можна назіраць спакойна, калі зло аднаго чалавека адбіваецца адразу на многіх людзях, калечыць жыццё многіх! Няўжо адварочвацца трэба толькі таму, што хвароба — традыцыйная, што яе ведаюць вякамі, што яна — закарэлы эгаізм! Хваробы ж трэба лячыць, і новыя і старыя!

Крытык. Што б вы ні казалі, спрабуючы апраў-

дацъ сябе, свой твор, гэта не вызваляе вас ад абавязку сказаць гледачу важнае і новае слова.

А ў т а р. Я лічу, што эгаізм не выглядаў ніколі такім агідным, такім злавесным, як цяпер — калі камунізм становіцца не заўтрашнім, а сённяшнім днём! Калі тысячы, сотні тысяч вашых і маіх сучаснікаў гатовы ўвайсці ўжо ў гэты цудоўны, вялікі дом! Я хачу, каб яны ўвайшлі ў новы дом прыгожымі, здаровымі, без брудных слядоў!

К р ы т ы к. Я таксама за тое, каб у новым доме было чыста. Але я непахісна ўпэўнены: мастацтва трэба судзіць па законах мастацтва...

П а м р э ж. Зноў вы дыскусію распальваеце! Гэта ж спектакль, а не сход у Саюзе пісьменнікаў! З-за вашай спрэчкі мы прапусцілі пачатак наступнай дзеі! У фае клуба камбіната дзяўчаты з Раінай брыгады мяркуюць пра жыццё гераіні!

Дае знак адкрыць заслону.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА СЁМАЯ

На сцэне — фае клуба тэкстыльнага камбіната. Перад пачаткам заняткаў у вячэрнім універсітэце культуры.

Р а я. Нелады ў яе. Сын — гарэза, вучыцца не хоча. І наогул зусім ад рук адбіўся. І свякруха, якая застался з ёю, штосьці коса глядзіць... Нездаволена нечым старая... Нелады, адным словам...

В е р а. А ў партарганізацыі ведаюць пра Быліцкага?

Р а я. Строгую вымову далі.

В е р а. Я такіх, як яе муж, на гарматны стрэл да партыі не падпускала б!

К о с ц і к. А што, калі ён камуніст, то яму і развесціся не можна? Ну, а калі памылка выйшла? Калі яна аказалася, ну, скажам... жырафа?

Р а я. Трэба бачыць, што выбіраеш!

К о с ц і к. Разбярэш! Усе, пакуль у дзеўках,— чыста балярыны! Лебядзінае возера! Прыбярэцца, падма-

жацца. Нейлон, перлон, прычоска «хлопчык без мамы»! Не жанчына, а эфір! А пажывеш — жырафа!

Р а я. А чаго ж вы лезеце да гэтых жырафаў?

К о с ц і к. Я асабіста не лезу! Я асабіста жырафаў не люблю і не спачуваю ім! І не раю другім заступацца! І наогул, я лічу, нельга так: сягоння гаварыць адно, а праз дзень — другое!

Р а я. А хто гэта гаварыў?

К о с ц і к. Гаварыў нехта. То крычала — гнаць з брыгады за брак, то — яна зусім невінавата! Пастаяннай трэба быць!

Р а я. Пастаянныя заўсёды толькі дурні!

К о с ц і к. Я не звяртаю ўвагі на твае словы! Але я лічу, што лаянка брыгадзіру наўрад ці да твару!

А л а *(каб патушыць спрэчку)*. А помніце — летам прыязджаў тэатр з Масквы, паказвалі п'есу. Цікавая такая, чуллівая. Ну, тая, дзе хлопец палюбіў студэнтку. Палюбіў, а потым пабаяўся, што з інстытута выключаць і камандзіроўкі не дадуць, і кінуў студэнтку. А яна з адчаю — пад поезд! Помніце? Косцік, помніш?

К о с ц і к. Помню. Там жонка яго — заспіртаваны чарвяк у акулярах! Зануда!

А л а. Зусім не зануда! Няшчасная яна! Мне яе было так шкада! Я потым цэлы дзень хадзіла, як атручаная! І студэнтку, бедную, таксама шкада!

Р а я. Мужчыны ўсё! Эгаісты!

К о с ц і к. А што мужчынам рабіць, калі жонка, як толькі замуж, дык хоць бы пацікавілася, што там у мужа на працы? Унь хоць бы ў таго Бахірава? Не жонка, а ступа! А тут побач Цінка, наватар сама, усё разумее! Канечне, пацягне!

В е р а. Пацягне! А толькі — да наватара каб памаладзей ды прыгажэй! Да Цінкі ці да Іскры! Не можа ж зразумець наватара якая-небудзь старая ды рабая!

Р а я. Гэта ўсё роўна як прэмія наватару!

А л а. А тую п'есу хвалілі вельмі ў газеце за смеласць! Лаялі хлопца, што не пайшоў на ўсё дзеля кахання!

В е р а. А калі ён за дзесяць гадоў упадабае яшчэ дзесяць такіх?! Усіх будзе любіць па-сапраўднаму? Бываюць жа такія!

К о с ц і к. Дык што ж яму, усё жыццё мучыцца з адной, не любячы?

Р а я. А дзяцей даглядаць каму вы кідаць будзеце?

К о с ц і к. Нікому. Самі можам, калі на тое пайшло!.. А толькі любоў забараніць нельга!

А л а *(зноў, каб патушыць спрэчку)*. Я, калі бачыла яе, актрысу тую, век бы не падумала, што яна можа такое зрабіць!

У пакой уваходзіць П а в е л, але, бачачы, што людзі захоплены размовай, не перабівае, моўчкі слухае.

Як яна іграе! Я аж заплакала, калі яна перад расстрэлам, перад эсэсаўскімі аўтаматамі крыкнула: «Страляйце! Я ўсё роўна не памру! Нас не заб'еце!..» Трэба ўзяць білеты і пайсці паглядзець усёй брыгадай!

Р а я. Яшчэ чаго не хапала! Ісці глядзець нейкую фіфу, якая чужых мужоў адбівае!

П а в е л. Даруйце, але яна не такая, як вы сказалі... не фіфа! Яна актрыса, сапраўдная актрыса! І чалавек сапраўдны!..

В е р а. Чаго ж яна чужога дзядзьку спакусіла? Не магла знайсці маладзейшага? Таварыша кінула, пэўна! Быў жа, мабыць, таварыш, ды, можа, і не адзін? Прыгожая ж, кажуць!

П а в е л. Быў таварыш...

В е р а. Ну, от!

П а в е л. А толькі — любячы пайшла яна за гэтага, за Быліцкага. Любіць яго. Не разумею, за што, а толькі любіць.

К о с ц і к. Адкуль вам гэта вядома?

П а в е л *(няёмка)*. Жыву недалёка. Бачыў яшчэ, як яна ў школу хадзіла... Я больш з бацькам яе знаёмы. Майстар стары. Чалавек рабочы...

В е р а. Значыць, не ў бацьку пайшла. Напісаць бы ў тэатр, каб выклікалі на сход ды прапясочылі добра. Ведала б!

К о с ц і к *(упарта)*. Усё-такі і жанатых забараніць любіць нельга! Я так асабіста лічу: і пры камунізме жанатыя будуць любіць другіх жанчын, і разводы будуць! Як вы думаеце, Павел Андрэевіч?

П а в е л. А як вы лічыце?

К о с ц і к. Я асабіста лічу — чалавек ёсць чалавек. Нам камунізм — як дзень у добрую пагоду. А пагода ж на зямлі ўсякая бывае. Будзе і там дождж, і слота, і гразь. Жырафы будуць, «хлопчыкі без мамы», ну, мо-

жа, якія-небудзь камуністычныя. Прыгожыя і гарбатыя будуць. Значыць, адных будуць болей любіць, а другіх абдзеляць.

Вера. Здаецца, Косцік праўду кажа. Гарбатую і красуняй і камунізм не зраўняе.

Ала. Не можа быць, каб не змянілася нічога! Людзі прыгажэй будуць, прыгажэй стане і любоў! Усё будзе харашэй!

Косцік. Прырода ёсць прырода! Яе не пераскочыш!

Рая *(Паўлу, рэзка)*. А вы што думаеце? Вы толькі слухаеце?

Павел. Я адкажу не сваімі словамі, але лепш сказаць не магу. У адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі, казаў Ленін, дзейнічае не толькі тое, што дадзена прыродай, але і тое, што дадзена культурай.

Ала. Не можа ж быць, што ўсё застанецца такім, як цяпер.

Рая *(Косціку)*. А ты — прырода!

Павел *(зірнуўшы на гадзіннік)*. Пара заняцца мірным атамам! Прашу на лекцыю!

Рая. Адну хвіліну! Таварыш майстар уцягнуў нас у дыскусію аб разводах...

Косцік. Я асабіста — не аб разводах. А аб тым, якая будзе любоў! Аб камуністычнай маралі!..

Рая. А пра галоўнае мы і не пагаварылі толкам. Я была ў Любы, у Быліцкай,— памагаць яна ўзялася мне. Па фізіцы. Бо некаторыя другія кансультанты нос пачалі задзіраць вельмі!

Косцік. Ніхто не задзірае! Слова табе не скажы!..

Ала. А дзе ж яна сама, Люба?

Рая. У школе. На бацькоўскі сход выклікалі. Дык от — перажывае яна. Я такога мужа, як яе, каб ён і захацеў вярнуцца цяпер, на парог не пусціла б. А яна перажывае!

Косцік. Не ўсе такія, як ты!

Ала. Перажывае, бо любіць!

Вера. Пагаварыць трэба яшчэ з мужам. Каб вярнуўся.

Рая. Не вернецца, відаць.

Вера. А не вернецца — у райком напісаць! Каб выгналі з партыі! Людзі жыццё аддавалі за шчасце дзяцей! За чужых, за ўсіх! А ён для свайго жыць не хоча!

Р а я. Я хацела пагаварыць з ёй, але яна, Люба, ведаеце, інтэлігентная. Тоіць усё. З гонарам. Ледзь толькі што — крыўда!

К о с ц і к. Ты каго хочаш пакрыўдзіш!

Р а я. Дык я думаю — можа, мне самой лепш не ўмешвацца?

А л а. Але ж памагчы неяк трэба!

Р а я. Тут трэба іншы чалавек — каб мякчэйшы. Ласкавейшы.

В е р а. Люба, здаецца, любіць Алу...

Р а я. Дык от, можа, Ала і пайшла б да яе. Паглядзела, што там з сынам, са свякрухаю. Мо памагчы што можна.

В е р а. І наогул — каб не сумавала, не перажывала.

А л а. Добра. Я і сама пра гэта думала.

Р а я. А па фізіцы я займацца буду! У фізіцы яна разбіраецца! Не менш за некаторых!

Усе ідуць у залу.

*Заслона*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Той самы пакой, што і ў шостай карціне.
За акном хутка цямнее, здаецца, збіраецца на дождж.
У пакоі В а л о д з я і А л а. Валодзя паводзіць сябе вельмі неспакойна, раз-пораз нецярпліва паглядвае на Алу, якая невядома чаго тырчыць тут, замінае.

А л а. Ты чаму не займаешся?

В а л о д з я. Я потым...

А л а. Калі — потым? Ноч за акном.

В а л о д з я. Ноч. Яшчэ светла.

А л а. Круцішся ты нешта. Выдумаў што-небудзь?

В а л о д з я. Нічога я не выдумаў.

У акно стукаюць.
Валодзя хоча выйсці, але А л а затрымлівае яго, выходзіць сама.
Вяртаецца з А л і к а м.
У Аліка за плячыма дарожны мяшок.

А л а. Ты што гэта, нібы ў дарогу сабраўся?

**А л і к.** Гэта я... развітацца прыйшоў. Мы... мы на сяло едзем...

**А л а.** Праўда?

**А л і к** *(зірнуўшы на Валодзю).* Праўда... Маме трэба, дык і я... папрасіўся...

**В а л о д з я.** Я правяду яго.

**А л а.** Ну, правядзі, калі ўжо такое. Ды каб вярнуўся хутчэй, урокі падрыхтаваў!

А л і к і В а л о д з я выходзяць у калідор.

**А л і к.** Ух, ледзь не папаўся!

**В а л о д з я.** І папаўся б! З мяшком проста ў хату лезе! Канспіратар, называецца!

**А л і к.** Я зусім не збіраўся заходзіць! Я думаў, ты выйдзеш.

**В а л о д з я.** Думаў. Індык думаў! Трэба ведаеш як асцерагацца!

**А л і к.** Ведаю...

Валодзя хутка апранаецца, зашпільваецца. Азіраецца — што б узяць з сабою.

**А л і к.** Ты яшчэ не сабраўся? Ты.. перадумаў?.. Дзе твой мяшок?

**В а л о д з я.** Буду я тут хаваць! Каб баба выкапала! Я, брат, у такое месца запраторыў, што сам чорт не знойдзе!

Дастае з шафы цёплыя рукавіцы, хавае ў кішэні.

**А л і к.** А на вуліцы дождж збіраецца, хмары!

**В а л о д з я.** Ну і добра. Калі цёмна, нам лепш!

За дзвярыма галасы.

**В а л о д з я** *(занепакоена).* Маці прыйшла!.. Сюды!

Цягне А л і к а ў шафу. Тут яны стаяць, закрыўшыся. Уваходзяць Л ю б а і Г а л і н. Спыняюцца.

**Л ю б а.** Дзякую табе, Антон *(падае руку, хоча развітацца).*

**Г а л і н.** Яшчэ амаль паўтары гадзіны.

**Л ю б а.** Сорак пяць хвілін на дарогу.

**Г а л і н.** Я цябе на машыне падвязу.

**Л ю б а.** Тралейбусам даеду.

**Г а л і н.** Як табе лепш.

Л ю б а. Нас бачылі разам дзяўчаты. Дапытваліся.

Г а л і н. Няхай гавораць. Цябе гэта вельмі хвалюе?

Л ю б а. Непрыемна.

Пачуўшы іх галасы, А л а выходзіць з суседняга пакоя ў пакой Ганны Іванаўны.

Г а л і н. Ты лішне чулая... Ты не хочаш, каб я зайшоў?

Л ю б а. Да мяне абяцала зайсці Ала, Ды і Ганна Іванаўна дома, няйнакш.

Г а л і н. Я на некалькі хвілін.

Ідуць у пакой.

Ледзь яны выходзяць з калідора, В а л о д з я і А л і к выбаўляюцца з шафы, уцякаюць з кватэры.

Мне так падабаецца бачыць цябе здаволенай. І вось на́ табе. Толькі вярнулася — як хмара.

Л ю б а. Дзень быў цудоўны! Я забыла, калі яшчэ быў у мяне такі другі! Лес — як у пажары! Нібы знарок!

Г а л і н. Ну вось! А ты нешта выдумляеш! *(Заклапочана.)* Чаму ты такая хмурная? Што ў цябе?

Л ю б а. Думаю пра нас. Пра шчасце. Я цяпер баюся пабачыцца з Зінаю.

Галін становіцца таксама заклапочаны.

Г а л і н. Яна пра ўсё здагадваецца.

Л ю б а. Божа, што яна пра мяне думае!

Г а л і н *(рашуча)*. Люба, я казаў — давай кончым гэтае хаванне! Раскажам праўду. І пачнём адкрытае, яснае жыццё!

Л ю б а. Яснае? А яно можа быць? А Зіна, а дзеці? Як яны будуць без цябе? Як ты без іх?

Галін абдымае яе.

Г а л і н. Я думаў аб усім. Зіна, што ж, бедаваць будзе, потым неяк суцешыцца, а дзяцей... дзяцей я не кіну! Хіба ж ты адмовішся ад маіх дзяцей? Возьмеш жа, праўда?

Л ю б а. Калі толькі яна аддасць іх. Але ж яна можа і не аддаць...

Г а л і н. Калі яна не аддасць абодвух, другому я памагаць буду! Не пакіну так!..

Л ю б а. Баюся я, Антон. Мне і хочацца гэтага, і боязна. Нібы не тое гэта шчасце, не сапраўднае...

Г а л і н. У нас цяпер такая хвіліна, калі патрэбна мужнасць! Перамагчы сумненні, пераступіць мяжу! Там далей будзе ўсё добра.

Л ю б а. Добра? Ты думаеш? Ты ўпэўнен?

Г а л і н. Калі ты толькі любіш мяне. І любіць будзеш.

Л ю б а. Я не буду шчаслівая без цябе!

Г а л і н. Тады кажы: «Згодна».

Л ю б а. Што ж, можа, і праўда — усё старое спаліць! І жыць, жыць!

У дзверы стукаюць.
Уваходзіць Г а н н а І в а н а ў н а, непрыязная, стараецца не глядзець на іх.

Г а н н а І в а н а ў н а. Хустку вазьму... *(Узяўшы хустку.)* Тут прыходзілі, пра кватэру пыталіся... Мяняць...

Л ю б а. Гаварылі што?

Г а н н а І в а н а ў н а. Я сказала, каб заўтра прыйшлі... Увечары...

Л ю б а. Ага, добра.

Г а н н а І в а н а ў н а *(успомніўшы, ужо каля дзвярэй, Галіну).* А ваш хлопец казаў Але, што вы на сяло сабраліся ехаць.

Г а л і н. На сяло?.. Выдумаў.

Г а н н а І в а н а ў н а. З мяшком быў. За плячыма...

Г а л і н. Нашто яму мяшок?

Г а н н а І в а н а ў н а. А гэта вам лепш бы ведаць!

Выходзіць.

Г а л і н. Нейкія дзіцячыя штучкі... *(У бок Ганны Іванаўны.)* Не любіць яна, калі я прыходжу. Нібы раўнуе.

Л ю б а. Яна такая з усімі, не думай, што аднаму табе гэты гонар... Ідзі паглядзі, што з Алікам.

Г а л і н. Трэба даведацца. Заадно машыну ў гараж пастаўлю. Я зайду правесці цябе.

Л ю б а. Дзякую.

Г а л і н выходзіць.
Люба пачынае збірацца на працу.
Паяўляецца Г а н н а І в а н а ў н а, у паліто, у хустцы.

Г а н н а І в а н а ў н а. Вось табе грошы. Васемнаццаць рублёў і дваццаць тры капейкі...

Л ю б а. Што гэта за грошы?

Г а н н а І в а н а ў н а. Ад магазінаў засталося... Вось табе хамут і дуга, я табе не слуга... Іду я...

Л ю б а. Куды?.. Што вы надумалі?!

Г а н н а І в а н а ў н а. Куды-небудзь. Дзе-небудзь прытулюся...

Л ю б а. Чаму? Чым я вас пакрыўдзіла?

Г а н н а І в а н а ў н а. А тым. Быццам не ведаеш. Ці мо думаеш, што я сляпая, неразумная?..

Л ю б а. Але ж... але ж, мама, я перад вамі, здаецца, ні ў чым не вінаватая!.. За што ж вы пакрыўдзіліся?

Г а н н а І в а н а ў н а. За тое, што не магу я глядзець, не пазычыла вачэй, каб бачыць такое бясчынства!

Л ю б а. Гэта вы пра Антона?.. Што ж мне — і любіць не вольна нікога? Што ж мне — сохнуць век?!

Г а н н а І в а н а ў н а. Сохнуць не сохнуць, а трэба сумленне мець! Камуністычная брыгада!

Выходзіць. Паяўляецца А л а.

А л а. А дзе Ганна Іванаўна? Куды гэта яна?..

Л ю б а Пакінула, не хоча жыць са мной.

А л а. Я даганю. Вярну яе.

Л ю б а. Не трэба. Яна не вернецца.

А л а. Я ўгавару.

Л ю б а. Калі яна рашыла што-небудзь, ніхто не ўгаворыць... От мяне яшчэ адзін чалавек кінуў. Няўжо я, праўда, такая гадкая?

А л а. Трэба было б пагаварыць з ёю.

Л ю б а. Ала, пераходзь да мяне. Пераходзь, будзем разам бедаваць і спадзявацца. Ці ж табе горш будзе, як у інтэрнаце?

А л а. Чаму яна пайшла?

Л ю б а. Кажа, што не можа жыць з такой несумленнай, як я.

А л а *(успомніўшы.)* Са школы зноў прыходзілі. На Валодзю скардзіліся: управы, кажуць, няма!..

Звініць званок. А л а выходзіць, вяртаецца з З і н а й. Люба непакоіцца.

З і н а. Алік недзе прапаў. Кажуць, з рукзаком бачылі... Ён не ў вас?

Л ю б а. Няма...

З і н а. І не было?

А л а. Быў. З мяшком, праўда. Казаў, што ў сяло з бацькамі едзе.

З і н а. Якое сяло?! Ён даўно пайшоў?

А л а. Нядаўна. *(Трывожна.)* І Валодзя пайшоў з ім...

Занепакоеная, выходзіць.
Люба і Зіна адны.
Насцярожаная, нядобрая цішыня.

З і н а. За горад ездзілі? Што ж маўчыш?

Л ю б а. Ездзілі...

З і н а. Нацешыліся?

Л ю б а. А табе нашто гэта?

З і н а. Люблю ўсё ведаць! Я цікаўная! *(На Любу.)* Усё-ткі чырванець яшчэ не зусім развучылася!..

Л ю б а. Што табе трэба?

З і н а. Пагаварыць хочацца! Трэба ж калі-небудзь пагаварыць ад душы! Ад сэрца! Мы ж, мусіць, помніш,— сяброўкі! Сяброўкі верныя!

Л ю б а. Ты мяне сяброўствам не ўпікай. Сяброўства тут невінавата.

З і н а. Можа, і сама невінавата?

Л ю б а. Можа, і невінавата. *(Усё больш запальваючыся.)* У чым мне вінавацiцца? У тым, што ў свеце ёсць чалавек, які хоча мне шчасця? Чаму я павінна быць няшчаснай, калі шчасце — вось яно, само ідзе насустрач?!

З і н а *(пасля паўзы).* Само ідзе!.. Бач ты — само!

У пакой уваходзіць Г а л і н. Яго прыход не толькі не спыняе спрэчкі, а яшчэ больш узрушае Зіну.

Л ю б а. А што ж, няпраўда?

З і н а. Ты пытаешся?!. Абышла яго, прыбрала да сябе, асіраціла дзяцей, ды яшчэ...

Г а л і н. Зіна!

З і н а. Яшчэ яснай зоркай прыкідваецца!.. «Няшчасная!.. Само ідзе!..»

Галін падыходзіць да іх. Ён гнеўны, рашучы.

Г а л і н *(Зіне).* Хто мяне... прыбраў да сябе?!

**З і н а.** Ты не ведаеш?

**Г а л і н.** Я не ведаю! Я лічыў, што сам заўсёды адказваю за свае ўчынкі!

**З і н а.** Твае ўчынкі! Прападаеш невядома дзе! Дома нікога не заўважаеш!.. Робіш, сам не ведаеш што!

**Г а л і н.** Што б я ні рабіў, яна ні пры чым! Ведай гэта!

Гнеўны выраз на твары Галіна змяніўся: з'явіўся роздум.

Так, вядома, жыць далей нельга. *(Пасля паўзы.)* Трэба кончыць з гэтым фальшам!

**З і н а** *(трывожна)*. Як... кончыць?

**Г а л і н.** Будзем жыць асобна.

Паўза. Зіна момант стаіць анямелая.

**З і н а** *(нібы ачнуўшыся, злосна зірнуўшы на Любу)*. З ёю?

**Г а л і н.** Калі яна згодзіцца, з ёю!

Убягае **А л а**, вельмі занепакоеная.

**А л а** *(Любе)*. У калідоры зімовая Валодзева шапка, здаецца, вісела?

**Л ю б а.** Шапка? Вісела.

**А л а.** І валёнкі ён прымяраў!.. Іх няма!

**Л ю б а** *(зразумеўшы, але яшчэ не верачы)*. Валёнкі? Нашто яны яму?..

**А л а.** Ён... Здаецца, яны ўцяклі!

**З і н а.** І Алік з ім? *(Галіну.)* Дагуляўся!

Усе ўсхваляваны.

**Л ю б а.** Уцёк... *(Зірнула на гадзіннік.)* На работу трэба! Што рабіць? Ала?

**А л а.** Ідзі шукаць. Мы заменім цябе. Я скажу дзяўчатам.

**Г а л і н.** Яны даўно тут былі? Гадзіну, дзве?

**А л а.** Нядаўна. Яшчэ, можа, і не паехалі.

**З і н а.** Яны на вакзале!

Непрыхільна азірнуўшыся, выбягае.

**Л ю б а.** Трэба на аўтобусную станцыю! Яны ж у сяло збіраліся!

**Г а л і н.** Бяжым!

Выбягаюць. За імі — **А л а**, на працу.

*Васлона*

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Дворык перад домам Дудко.
Абстаноўка тая ж, што і ў другой і чацвёртай карцінах. Стары Дудко гаспадарыць — зграбае лісце, падмятае.
Уваходзіць Павел.

Павел. Добры дзень, Андрэй Данілавіч!

Дудко. А! Добры дзень! Вярнуўся! Даўно?

Павел. Не... Нядаўна.

Дудко. Ну, што там? Якія навіны прывёз? Дагаварыліся?

Павел. Ведаеце, мусіць, з газет. Дамовіліся.

Дудко. Значыць, вайны не будзе?

Павел. Мы абмяркоўвалі праблемы атамнай энергіі для мірных патрэб. Большасць вучоных — супраць вайны... Ольгі няма?

Дудко. Дома. Вучыць ролю. Зараз паклічу. Ольга!

Ольга выходзіць са сшыткам у руцэ.

Ольга. А!.. Прыехаў!.. Я ўжо сумаваць пачала! Ну, раскажы!.. Не, дай пагляджу. А ты памужнеў нібы...

Павел. Стаміўся. Працы было многа.

Дудко з граблямі і мятлой ідзе ў глыбіню саду.

Ольга. Я пакуль нічога не пытаюся, бо хачу ведаць як найбольш. Ты прыйдзеш увечары?

Павел. Сёння?

Ольга. Сёння ж. Заўтра ў мяне выязны спектакль...

Павел. Добра... Я табе драбязу нейкую прывёз. Купіў там.

Падае ёй прыгожы шалік.

Ольга. А. Цудоўны які! Ён жа, мабыць, дарагі?

Павел. Не. Каб не студзіла горла.

Ольга. Ну, дзякую!.. Не забыў там... А я вось зубру... Ведаеш што... ты не вельмі спяшаешся?

Павел. Не.

Ольга. Тады давай разам... Вось адсюль. Сачы за

маімі словамі... І чытай за Паўліна Іпалітавіча. Ну, пачалі.

Чуваць гудок аўтамашыны.

Што гэта?

П а в е л. Гэта мне. Я на таксі. Пачакай хвіліну. *(Выбягае, хутка вяртаецца.)*

О л ь г а. Ну, пачалі! *(Да Паўла.)* «Не мучце мяне, Паўлін Іпалітыч, скажыце мне, чым я перад вамі вінавата? Чаму вы так змяніліся?»

П а в е л. Трэба — «з чаго». «З чаго вы так змяніліся?»

О л ь г а. «З чаго вы так змяніліся?»

П а в е л *(чытаючы)*. «Не, я нічога, я такі ж! А ты хіба заўважаеш, што я змяніўся да цябе? А мне здаецца, што я нічога не змяніўся. Грышка!.. Грышка выходзіць на сярэдзіну пакоя».

О л ь г а. Ну і чытаеш ты! *(Смяецца.)* Пародыя!.. «Я, Паўлін Іпалітыч, з жыццём расстаюся, а вы жартуеце. Як вам не грэх! Я дамоў збіраюся, можа, ужо мы больш не пабачымся. Вы мяне кахалі раней,— хоць па даўняй памяці скажыце, з чаго я вам абрыдла? Нагаварылі вам што-небудзь ці іншая ёсць, лепшая за мяне?»

П а в е л. Сардэчна! За сэрца бярэ! *(Схамянуўшыся.)* «Мілавідаў. Падымаючы з падлогі палачку. Вось бачыш! Ломіць палачку і кідае ў розныя бакі. Вось было разам, цяпер паасобку! Паспрабуй скласці — не складзеш! Так і каханне. І гаварыць няма чаго!..» Вось нягоднік! Сапраўды — паўлін!.. Ольга, а Паўлін — гэта не тое ж, што і Павел? Толькі па-купецку?

О л ь г а. Мабыць, адно. *(Смяецца.)*

П а в е л. Тады я не чытаю далей! Мяне гэтае супадзенне абражае!

О л ь г а *(дурэючы)*. Паўлік, ну, Паўлік! Я прашу!.. Ну?.. Не будзь такі злосны... Мне адной зубрыць сумна!

На тэрасу выходзіць Б ы л і ц к і. Яго не заўважаюць.

Паўлік, ну я прашу!

П а в е л. І не прасі!

О л ь г а. Я вельмі прашу.

П а в е л. Усё роўна.

**О л ь г а.** Бессардэчны. Які бессардэчны! Ну, Паўлік!

Туліцца да яго. Раптам цалуе.
Абое момант няёмка маўчаць.

**П а в е л.** Добра. Толькі для цябе! Як выключэнне!..

**О л ь г а.** Цішэй чытай, каб не перашкодзіць Сяргею працаваць.

**Б ы л і ц к і.** Я ўжо не працую!

Падыходзіць да іх, сядае на лавачку.

Оля, прастудзішся!

**О л ь г а.** Я ў шарсцяным світэры.

**Б ы л і ц к і.** Надзень паліто.

О л ь г а выходзіць.

**Б ы л і ц к і.** Ну, як рэпетыцыя? Ладзіцца?

**П а в е л.** Здаецца...

Паўза. Былiцкі становіцца халодны.

**Б ы л і ц к і.** Вы любіце простую, мужчынскую гаворку?

**П а в е л.** Я не зусім вас разумею... Вы мне што-небудзь хочаце сказаць у гэтым плане?

**Б ы л і ц к і.** Так... Мне, калі гаварыць шчыра, пачынаюць не падабацца вашы, як мне здаецца, частыя наведванні.

**П а в е л.** Я хаджу на запрашэнні Ольгі...

**Б ы л і ц к і.** Я думаў, што вам не ўсё роўна, як мне гэта падабаецца...

Чуваць гудок аўтамабіля.
Д у д к о, які зграбае лісце наводдаль, ідзе на гудок, да вуліцы, знікае.

**П а в е л.** Што ж, калі мы пачалі гэтую мужчынскую гаворку,— мне таксама не ўсё ў вашых паводзінах падабаецца.

**Б ы л і ц к і.** Я, прызнаюся, не думаў пра гэта!

**П а в е л.** Як і я пра тое, ці падабаюся вам...

**Б ы л і ц к і.** Але паколькі тут мой дом і Ольга — мая жонка, я лічу, перавага павінна быць у мяне!..

**П а в е л.** Гэта не ваш дом.

Б ы л і ц к і. Не мой? А я наіўна лічыў...

П а в е л. Вы проста падсяліліся ў ім!

Б ы л і ц к і. Не будзем весці гэтую фармальную дыскусію. Я не збіраюся ні апраўдвацца, ні вінаваціцца перад вамі. Мяне сюды, як вы кажаце, падсяліла каханне. Вы, спадзяюся, не будзеце спрачацца, што кожны чалавек мае права на сваё шчасце?

П а в е л. Кожны. Але адзін бярэ яго сціпла, колькі належыць, а другі не саромеецца пачэрпнуць вядром, пабольш, не трывожачыся прыхапіць і чужога. Што яму з таго, што нехта застанецца без сваёй долі шчасця?..

Б ы л і ц к і. А вы — філосаф!

П а в е л. Смейцеся. Вы заслужылі гэта: за вас плачуць іншыя!..

Б ы л і ц к і. Вы, спадзяюся,— не пра сябе?

П а в е л. Не пра сябе. І нават не пра вашу былую жонку. Яна таксама, нарэшце, знойдзе сваю долю...

Быліцкі, узлаваны, устае.

Б ы л і ц к і. Пяройдзем да справы. Я сказаў, што мне не вельмі прыемна часта бачыць вас поруч з маёй жонкай. І я прасіў бы вас зрабіць вывады для сябе.

П а в е л. Дзякую за мужчынскую шчырасць.

Б ы л і ц к і. Калі ласка.

Уваходзіць О л ь г а, цёпла апранутая.

О л ь г а. Ну вось, можаш не хвалявацца!

Заўважае, што абодва нечым нездаволены, непрыхільныя адзін да аднаго.

Што тут здарылася?

Б ы л і ц к і. Нічога вартага ўвагі.

О л ь г а. А што ж усё-ткі?

П а в е л. Пагаварылі шчыра. Твайму мужу не вельмі падабаюцца некаторыя мае звычкі. І ён ветліва папрасіў, каб я крыху перайначыўся... *(Устае.)*

О л ь г а. Якія звычкі? Я нешта не разумею! Сяргей, што ты сказаў?

П а в е л. Даруйце, трэба ісці... Бывайце здаровы!

О л ь г а *(затрымліваючы)*. Нельга ж так ісці! Не крыўдуй, калі Сяргей сказаў што-небудзь лішняе. Ён,

мусіць, пагарачыўся... Падайце адзін аднаму рукі і прымірыцеся! Ну! Сяргей! Паўлік!

Б ы л і ц к і. Калі ласка...

Падаюць рукі, адыходзяцца.

О л ь г а. Ну, вось! І будзьце сябрамі! *(Паўлу.)* Вось цяпер і я магу сказаць: бывай здаровы! І не забывай сцежкі да нас!

Дае яму руку, развітваецца.
П а в е л выходзіць.
Вяртаецца з вуліцы Д у д к о.

Д у д к о *(Ользе)*. Ты яго лішне затрымала. Ён, аказваецца, яшчэ дома не быў! З вакзала на таксі — сюды...

Чуваць шум машыны, што ад'язджае.
Д у д к о ідзе ў дом.
Ольга і Быліцкі адны.

О л ь г а. Што ты яму сказаў?

Б ы л і ц к і. Глупства. Гаварыць не варта...

О л ь г а. Не, ты скажы!

Б ы л і ц к і. Ольга, ты мне даруй і зразумей... Я, можа, здамся табе дзіўным... Але мне не заўсёды прыемна бачыць вас разам.

О л ь г а. Ты прыраўнаваў! Ты хочаш, каб я забыла ўсіх маіх былых сяброў!

Б ы л і ц к і. Усіх не ўсіх, а некаторых хацеў бы, каб забыла.

О л ь г а. Але мне з імі добра. Мне іх не хапае...

Б ы л і ц к і. Гэта мяне і трывожыць. Табе мала маіх сяброў. З маімі сябрамі табе нудна.

О л ь г а. Яны ўсе такія сталыя, сур'ёзныя... І глядзяць на ўсё інакш, і смяюцца інакш...

Б ы л і ц к і. Я разумею... Старыя! А я, я — не стары?

О л ь г а. Ты — іншы... Ты — мой добры друг... Але няўжо ты не разумееш — мне цесна ў пакоі, у сям'і адной. Мне патрэбен прастор! Вялікі прастор! Рэпетыцыі, спектаклі, гледачы!.. Сотні, тысячы ўважлівых, шчырых твараў! Вялікае жыццё! Мне цесна тут, цесна!..

Б ы л і ц к і. Оля! Я хачу, каб ты была мая! Уся мая! І толькі мая!

Ольга. А хіба гэта перашкаджае мне быць тваёй?

Быліцкі абдымае яе.

Быліцкі. Я часам лаўлю сябе на думцы, што большая частка тваёй душы не са мной, а з тэатрам, са спектаклямі, з тваімі прыяцелямі. А я хачу, каб яна ўся была са мной, не хачу дзяліць ні з кім!

Ольга *(адыходзячы)*. А ты... а твая душа ўся са мной?

Быліцкі. Ты пытаешся?!

Ольга. Цябе здзіўляе гэта?

Быліцкі. Ты сумняваешся?

Ольга. Я разумею, ты павінен клапаціцца пра свайго сына... Але хіба ты не думаеш пра іх больш, як пра... нас?

Быліцкі. Оля, што ты выдумала!

Ольга. Ты лічыш гэта выдумкай?

Быліцкі. Гэта няпраўда.

Ольга. Праўда!

Быліцкі. Оля! *(Туліць да сябе.)* Табе шкодна хвалявацца! Падумай пра яго!.. Праз якіх-небудзь чатыры месяцы мы пачуем яго! Хто ён — мужчына ці жанчына? Хто ты думаеш?

Уваходзіць Ала.

Ала. Добры вечар.

Быліцкі. Добры вечар!

Ала. Вы — Быліцкі?

Быліцкі. Я...

Быліцкі адпускае жонку.
Па твары дзяўчыны здагадваецца, што здарылася нейкае няшчасце.

Быліцкі. Што здарылася?

Ала. Паганае здарылася.

Быліцкі. Што?

Ала. Валодзя... Сын ваш прапаў!

Быліцкі. Як?! Калі?!

Ала. Ён яшчэ недзе недалёка. Ідзіце шукаць яго!

Быліцкі. Я зараз!

Ала выбягае. Быліцкі трывожна збіраецца.

*Заслона*

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

Ужо добра знаёмы нам пакой у кватэры Быліцкіх. Ён амаль увесь тоне ў трывожным прыцемку: гарыць адна начная лямпачка, прыкрытая так, каб святло не падала ў вочы Валодзю. Валодзя ляжыць на высокіх падушках. Ён дыхае цяжка, са стогнам, ледзь не задыхаецца. Трызніць. У трызненні неспакойна кідаецца і аб'язджае з падушак. Люба бярэ яго пад плечы, хоча пакласці зручней.

Люба *(Ганне Іванаўне)*. Падніміце падушку! Вышэй пакладзём!..

Ганна Іванаўна папраўляе падушку, памагае Любе.

Ганна Іванаўна. Гарыць агнём!

Валодзя *(трызнячы)*. Глядзі, каб — нікому! Як зямля! Гамалунгма!

Ганна Іванаўна. Усё гэтае срашнае слова!

Валодзя *(спалохана кідаючыся)*. Анаконда! Стой! Бі! Бі! Эх, гы-ых!

Люба. Сыночак мой! Родненькі! Супакойся!

Валодзя. Адтуль!.. Р-раз! Раз! Гых!

Люба. Сынуля мой, нічога тут няма! Дома ты! Дома! Чуеш! Дома!

Валодзя. Р-раз, раз. *(Стогне, без сілы падае.)* Як зямля! Гамалунгма! Ляцім!

Знясілены, ціхне. Люба папраўляе на яго лбе кампрэс. Бярэ Валодзю за руку, мерае пульс.

Ганна Іванаўна *(пра пульс)*. Пабольшала?

Люба з адчаем апускае руку: не пытайце. Глядзіць на гадзіннік.

Люба. Пеніцылін трэба ўводзіць.

Адыходзіць да століка, бярэ шпрыц, набірае ў яго.

Ганна Іванаўна. Колькі можна калоць дзіця!.. Колеш, колеш, а карысці ніякай!..

Люба робіць Валодзю ўкол.
Адыходзіць да століка, кладзе шпрыц.
Раптам з адчаем, з жахам закрывае далонямі вочы, зняможана асядае на крэсла.

Ганна Іванаўна. Чаго ты?!. Што з табою?!

Люба. Мне страшна!.. Я не магу болей!.. Я баюся!..

Ганна Іванаўна. Раней трэба было баяцца!

*(Схамянулася.)* Не жахайся, няма чаго! Гэтым гору не паможаш!.. *(Пра Валодзю.)* Выжыве! Запаленне лёгкіх — падумаеш, хвароба! Не хварэлі ў мяне? Вытрывалі ўсе! І ён вытрывае!.. Кампрэс, мабыць, перамяніць трэба?

Л ю б а. Што? А-а, кампрэс...

Падыходзіць да Валодзі.

Пераманіце...

Г а н н а І в а н а ў н а. Я зараз. Вады халаднейшай трэба.

Хоча ўзяць міску з вадой, але якраз звініць званок, і яна выходзіць, каб адчыніць.

В а л о д з я *(трызнячы).* Стой! Стой! Гамалунгма!..

Л ю б а. Сыночак мой! Супакойся, дзіцятка маё!.. Я тут, з табой!.. мы дома!..

Уваходзіць Г а л і н.
Моўчкі, без слоў, вітаючыся, ківае ёй.

Г а л і н. Я, напэўна, не ў час... *(У бок Валодзі.)* Як ён?

Ганна Іванаўна непрыязна абыходзіць яго, выносіць таз з вадой. Люба не адказвае — відаць, што яна не рада яго прыходу.
Галін са спачуваннем, з болем глядзіць на Валодзю.

Г а л і н. Я зайшоў, каб даведацца — можа, памагчы трэба?

Л ю б а. Не. Нічога не трэба.

Паўза.
Насцярожанае маўчанне.

Г а л і н. Цяпер, можа быць, не час гаварыць пра нашы адносіны. Але я адчуваю, што нас нібы штосьці раздзяліла. Мы — як чужыя... І я — нібы вінаваты, нібы злачынец...

Л ю б а. Я нікога ні ў чым не вінавачу. Калі хто і вінаваты, дык толькі я. Адна я!

Г а л і н. Ніхто не мог прадбачыць, што ўсё так здарыцца з ім. Усё гэта не залежала ад нашай волі. І не трэба караць сябе!

Люба не адказвае.
Галін адчувае, што яна толькі чакае, калі ён пойдзе.

Валодзя. Гусі, гусі! Га-га-га!..

Галін. Даруй, што я загаварыў пра гэта. *(Збіраючыся ісці.)* Я толькі хацеў сказаць: калі трэба будзе дапамога, пакліч. У любы час!

Люба маўчыць, нібы не чуе ці не разумее яго.
Галін выходзіць.
Паяўляецца Ганна Іванаўна, нясе ваду для кампрэса.

Ганна Іванаўна. Вось вада, Ці не завельмі халодная!

Ставіць міску. Люба робіць кампрэс.

*(Пра Галіна.)* Хутка нешта пайшоў ён, гэты твой... Пасварыліся?

Люба. Не трэба... Не гаварыце!.. *(З адчаем пазіраючы на Валодзю.)* Сыночак мой, раднюсенькі! Яшчэ крыху, яшчэ патрывай! Гэта крызіс! А тады... тады стане лягчэй! Яшчэ крыху, яшчэ крыху! Як доўга цягнецца крызіс у яго!

Ганна Іванаўна. Галаве яго лягчэй стала ад кампрэса...

Люба. Толькі б ты вытрываў! *(Схіліўшыся над ім.)* Надзея мая адзіная! Сынуля мой любы, адзін ты ў мяне, адзін любы, у цэлым свеце!

Звініць званок. Ганна Іванаўна выходзіць.

Валодзя. Гамалунгма! Я зараз табе! Я зараз!..

Люба. Супакойся, сыночак! Вось так, так... Я тут, твая мама. З табою!.. Патрывай яшчэ крыху! Ужо не многа!.. А тады... тады — добра будзе!

Уваходзіць Быліцкі, за ім Ганна Іванаўна.
Быліцкі трывожна глядзіць на сына.
Люба адварочваецца ад Быліцкага.

Быліцкі. Якая тэмпература?

Ганна Іванаўна. Сорак адзін і дзве дзесятых.

Быліцкі. Прафесар быў?

Люба. Не было.

Ганна Іванаўна. Схадзіў бы ды пазваніў яму. Мо ён забыўся.

Быліцкі. Я паеду да яго.

Люба. Па яго паехалі ўжо.

Быліцкі. Ён можа ім адмовіць! Я хутка вярнуся!

Выходзіць.
Паяўляецца Р а я. За ёй — К о с ц і к.

Р а я. Прыехаў. Распранаецца! *(Косціку.)* Яму трэба памыць рукі! *(Мякчэй.)* Памыць рукі...

К о с ц і к выходзіць.

Л ю б а *(на Валодзю.)* Толькі б вытрымала сэрца!.. Як ён цяжка дыхае!..

Р а я. Вытрымае! Ён вытрымае!

Л ю б а *(з адчаем, з надзеяй).* Сыночак! Сонейка маё адзінае. Не карай мяне!.. Даруй мне!

Сцэна паволі цямнее.

*Заслона*

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

Той жа самы пакой, што і ў папярэдняй карціне, тая ж абстаноўка. Павінна быць толькі адзнака, якая б гаварыла, што паміж карцінамі прайшоў немалы час. Магчыма, гэта паказвае каляндар на сцяне. Пакой святлее, пакуль увесь не напаўняецца ясным святлом. У пакоі так сонечна, нібы ў яго шыбы глядзіцца не восень, а веснавы дзень. У гэтым святле гронкі рабіны за акном гараць радасна, асабліва прыгожа. В а л о д з я спіць. Задрамала і Л ю б а. Уваходзіць А л а. Убачыўшы, што Люба дрэмле, хоча вярнуцца, але Люба прачынаецца.

Л ю б а. Ой, і не заўважыла, як задрамала...

А л а. І падрамала б. Дай, я за цябе пасяджу. А ты ідзі, паспі!

Л ю б а. Ужо выспалася.

А л а. Няма чаго табе сядзець тут цэлымі суткамі. Амаль паправіўся ж...

Л ю б а. Выдужаў! Дзякуй яму!.. Што там у нас? Як дзяўчаты нашы?

А л а. Што? Штапель новы пусцілі. Прыгожы! А дзяўчаты хацелі ў госці завітаць сёння. Ледзь адгаварыла. «Хворы яшчэ»,— сказала.

Л ю б а. Няхай бы прыйшлі.

А л а. Прыйдуць яшчэ. Шуму ад іх многа! *(Паказвае на пакунак, які трымае ў руцэ.)* Куды пакласці?

Л ю б а. Што гэта?

А л а. Гэта ад нашых. Касцюм.

Кладзе пакунак на крэсла каля ложка.

А л а. Ці падыдзе яму? Трыццаць восьмы, чацвёргы рост.

Л ю б а. Якраз на яго.

А л а. Рая з Верай паўгорада абышлі, пакуль выбралі.

Валодзя варухнуўся.

Л ю б а. Цішэй!.. *(Бачыць, што ён прачнуўся.)* Спі, спі, сыночак!

В а л о д з я. Не хочацца ўжо...

А л а. Мабыць, разбудзілі мы?

В а л о д з я. Не. Я сам прачнуўся.

А л а. У грудзях не баліць?

В а л о д з я. Не. *(Маці.)* Глядзі, як я магу!

Набірае паветра поўныя грудзі, глыбока дыхае.

А л а. Вось малайчына!

Уваходзіць Г а н н а І в а н а ў н а.

Л ю б а. Папраўіўся зусім!.. Мама, трэба, мусіць, сняданак прынесці!

В а л о д з я. Толькі без маннай кашы!

Г а н н а І в а н а ў н а *(тоячы лагоднасць, строга).* А ты не камандуй! Што можна, тое дадзім!

Выходзіць.

В а л о д з я. Мама, а пра які вы падурнак гаварылі?

А л а. Чуў! А мы ж па сакрэту гаварылі!

В а л о д з я. Каму вы яго?.. *(Бярэ пакунак.)* Гэта ён?

Л ю б а. Гэта. А падарыць яго хочуць аднаму маладому чалавеку, які сёння лічыцца імяніннікам.

В а л о д з я. Мне?!

Разгортвае пакунак.

Л ю б а. Гэта ад Алы, ад Раі, ад маіх сяброўак.

В а л о д з я. Мама, я хачу ўстаць! Надзець!

Л ю б а. Потым. Паляжы яшчэ трохі! Адпачні, пакуль бабуля снеданне прынясе.

В а л о д з я. Не, я цяпер! Я ўжо адпачыў! Я ўжо дужы!

Звініць званок. Л ю б а ідзе адчыніць.

Зусім дужы!

Валодзя ўстае. Бярэ пакунак, хаваецца ў другім пакоі.
У пакой вяртаецца Л ю б а.
Уваходзіць Б ы л і ц к і.

Б ы л і ц к і. Дзе Валодзя?

Л ю б а. Выйшаў... А навошта ён табе?

Б ы л і ц к і. Я прыйшоў павіншаваць яго. Падарунак прынёс.

Л ю б а. Пакладзі яго тут. Я перадам.

Б ы л і ц к і. Я хачу бачыць яго.

Л ю б а *(упарта.)* Я перадам яму.

А л а далікатна выходзіць.

Б ы л і ц к і. Нельга з-за рэўнасці помсціць. Гэта дробязна.

Л ю б а. Ну, калі ты такі высакародны, дык слухай. Ён толькі што паправіўся, шчаслівы. Забыўся на ўсё. Ты хочаш напомніць, захмарыць яго радасць?

Б ы л і ц к і. Я не думаю, што сустрэча са мной так захмарыць яго.

Звініць званок.

Л ю б а. Ты, здаецца, нічога не хочаш разумець.

Б ы л і ц к і. Я хачу абняць яго. Я яго бацька.

Л ю б а. Няма ў яго бацькі.

Уваходзіць Г а л і н. Спыняецца каля дзвярэй.

Г а л і н. А... Я, здаецца, зноў не ў час...

Л ю б а. Не, якраз добра. Праходзь, калі ласка.

Б ы л і ц к і *(стрымана)*. Цяпер я пачынаю разумець. Я, напэўна, лішні.

Л ю б а. Лішні.

Б ы л і ц к і *(з гонарам)*. Што ж, не буду замінаць.

Кладзе пакунак, выходзіць.

Л ю б а. Сядай. У цябе такі заклапочаны твар. Здарылася што?

Г а л і н. Люба, нам трэба пагаварыць сур'ёзна. Спакойна і сур'ёзна... Ты ўвесь гэты час жыла трывогай, табе было не да нечых пачуццяў. Але мне хацелася б, нарэшце, усё высветліць...

Паўза. Люба задумалася, маўчыць.

У мяне ўсё пераблыталася. Мне здавалася, што шчасце наша так блізка.

Л ю б а. І мне здавалася.

Г а л і н. Ты з таго вечара, калі Валодзя захварэў, раптам адвярнулася ад мяне. Мы сталі нібы чужымі.

Л ю б а. Ты не памыліўся...

Г а л і н. Чаму гэта здарылася? Што змянілася?

Л ю б а. Я змянілася. Я раптам заўважыла тое, чаго раней не бачыла. Я... як табе сказаць... убачыла, што маё шчасце пры мне. Зусім не там, дзе я думала... І я ледзь не страціла яго!..

Г а л і н. Ты... расчаравалася ва мне?

Л ю б а. Не. Я табе так удзячна. Ты і сам не ведаеш, як многа ты даў мне і як мне тады было б цяжка без цябе. Я не забуду гэтага.

Г а л і н. Ты гаворыш, як гавораць пра мінулае. Што ж нам перашкаджае быць разам цяпер?

Л ю б а. Ты ведаеш.

Г а л і н. Валодзя? Ён не заўсёды ж будзе такім непрыхільным да мяне. Я ўпэўнен.

Л ю б а. Можа быць. Але ты не гаворыш пра галоўнае. А твая сям'я? Дзеці твае? Зіна?

Г а л і н. Я ўжо сказаў, што дзяцей не пакрыўджу.

Л ю б а. Ах, Антон, ім патрэбен не толькі хлеб і вопратка. Хто ім заменіць бацьку?.. І Зіна? Яна ж так любіць цябе!

Г а л і н. Але я не люблю яе!

Ціха ўваходзіць В а л о д з я, у новым касцюме, шчаслівы. Яго не заўважаюць. Ён спыняецца.

Л ю б а *(узрушана)*. Мабыць, гэтыя словы казаў і ён пра мяне! *(Стрымліваючыся.)* Зіна цябе так любіць, як ніхто ўжо не будзе любіць! Вярніся! Яна табе даруе!

Г а л і н. Я не вярнуся! *(Амаль злосна.)* Няўжо ж я не маю права любіць?!

Л ю б а. А ты не думаў, хто нам даў права рабіць іншых няшчаснымі?! Хто нам даў права для свайго шчасця нявечыць жыццё другіх!

В а л о д з я ціха выходзіць.

Антон, у цябе такія цудоўныя дзеці! А ты хочаш паказаць сябе няшчасным!

Г а л і н. Гэта ўсё? Апошняе слова?

Л ю б а. Усё. І дай я цябе пацалую! *(Цалуе Галіна.)* Ідзі!

Г а л і н выходзіць.
Люба стаіць усхваляваная, задуменная.
Паяўляецца В а л о д з я, ён ужо не такі бесклапотны, як хвіліну назад.

В а л о д з я. Мама, глядзі. Якраз па мне.

Л ю б а. Ну, вось і добра! *(Абдымае яго.)* У цябе штосьці непрыемнае?

В а л о д з я. Не, у мяне нічога.

Л ю б а. Чаму ж ты такі невясёлы?

В а л о д з я. Дык от ты нешчаслівая...

Л ю б а. Што ты сказаў?! Адкуль ты ўзяў, што... я нешчаслівая?

В а л о д з я. Адзінокая ты. Няма ў цябе нікога такога... хто любіць...

Л ю б а. Чаму нікога? А Ала, а Рая? А баба Ганна? А ты? Хіба ты не любіш?

В а л о д з я. Люблю! Я так люблю!

Л ю б а. Ну, дык каго ж мне яшчэ трэба?

Стаяць, абняўшыся.

*Заслона*

## I

*У другі том уключаны нарысы (першы раздзел) і п'есы (другі раздзел).*

*У адпаведных раздзелах тома творы падаюцца ў храналагічным парадку.*

*Крыніцай асноўнага тэксту для нарысаў і п'ес з'яўляюцца іх тэксты, змешчаныя ў I і IV тамах Збору твораў І. Мележа ў шасці тамах (Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969, 1971 гг.).*

*Выключэннем з'яўляюцца нарысы «Паездка ў Прагу» (друкуецца па тэксту зборніка «Што ён за чалавек» (Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1961) і «Дарогі на ўсход і на захад» (друкуецца па тэксту зборніка «Белыя вішні і яблыні». «Мастацкая літаратура», Мінск, 1976).*

*Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту і датыроўкі твораў гэтага тома з'яўляюцца:*

*1. Збор твораў у шасці тамах. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, Т. 1, 1969; т. II, 1971.*

*2. Зборнікі: Заўсёды наперадзе. Дзяржаўн. выд. БССР, Мінск, 1948; У гарах дажджы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1957; Пакуль вы маладыя. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958; Дні нараджэння, Хто прыйшоў уночы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1959; Што ён за чалавек. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1961; Хто прыйшоў уночы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1966; Белыя вішні і яблыні, Мінск, «Мастацкая літаратура», 1976.*

*3. Публікацыі твораў І. Мележа ў перыядычных выданнях: часопіс «Полымя», 1948, № 4; 1956, № 10, № 12; 1958, № 12.*

*4. Матэрыялы І. Мележа ў рукапісным архіве Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (фонд № 7).*

*5. Матэрыялы ўласнага архіва І. Мележа, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка.*

*І. Мележ ад выдання да выдання істотна перапрацоўваў свае творы: скарачаў, дапаўняў, уносіў шматлікія стылістычныя праўкі. У каментарыях дадзенага выдання даюцца толькі найбольш значныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах варыянты і розначытанні першадруку, іншых выданняў, рукапісаў.*

*Нарыс «У пачатку вайны», напісаны ў форме дзённіка, І. Мележ уключыў у «Першую кнігу» (дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак) (Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1977 г.). Гэты нарыс будзе змешчаны ў 9-м томе дадзенага выдання.*

II

# НАРЫСЫ

У чэрвені 1941 года дваццацігадовы салдат Іван Мележ пачаў свой летапіс Вялікай Айчыннай вайны, заносячы ў франтавы дзённік «назвы пакінутых гарадоў, кароткія нататкі аб баях, прозвішчы забітых таварышаў».

Асабісты вопыт, здабыты ў акопах вайны, вызначыў шлях Мележа ў літаратуру, акрэсліў адну з галоўных тэм яго творчасці, абумовіўшы разам з тым і асаблівасць яе асэнсавання: значную ролю аўтабіяграфічнага і дакументальнага матэрыялу ў развіцці сюжэта, у характары мастацкага абагульнення.

Асабістае бачанне вайны кіравала пісьменнікам і ў яго пошуку героя-сучасніка. Натуральна, што герой 40-х гадоў паўставаў перад Мележам найперш у абліччы савецкага воіна-вызваліцеля. Заканамерна і тое, што, выношваючы сваю задуму, пісьменнік звярнуўся да формы нарыса, а гэта ў сваю чаргу дазваляла яму спалучыць дакладнасць факта з напалам публіцыстычнага вобраза.

У 1947 годзе І. Мележ напісаў нарыс «Дарогі на ўсход і на захад», героем якога стаў праслаўлены камандзір танкавай брыгады двойчы Герой Савецкага Саюза Сцяпан Фёдаравіч Шутаў.

Пісьменнік стварыў партрэт Шутава ў характэрным «грамадзянскім ракурсе», паказваючы героя ў час выканання ім свайго воінскага абавязку. Параўноўваючы розныя рэдакцыі нарыса, нельга не заўважыць настойлівага імкнення аўтара ўзбуйніць у вобразе героя тыповыя рысы савецкага чалавека. Мележ засяроджваў увагу на тых фактах жыцця і якасцях характару Шутава, што выяўлялі непадзельнасць яго асабістага лёсу ад лёсу ўсяго народа. Ратная доблесць камбрыга Шутава гартавалася ў тых жа ўмовах, што і мужнасць мільёнаў радавых «працаўнікоў вайны» (І. Мележ неаднаразова ўжывае выраз «праца на вайне»), і таму яна вынікае як водсвет масавага гераізму.

У невялікіх па сваіх памерах творах малады пісьменнік зрабіў і спробу суаднесці адзінкавы чалавечы лёс з агульным рухам, маштабам і драматызмам гістарычных падзей. Жыццё Сцяпана Шутава, на яго думку, адлюстравала сутнасць і вынік «вялікага супрацьстаяння» дзвюх непрымірымых сіл — сацыялізму і капіталізму. Асабісты гераізм Шутава — яскравы прыклад патрыятызму, народжанага ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці. І таму яго асабістая перамога над ворагам выявіла таксама агульную перамогу сапраўднай чалавечнасці над драпежніцкай ідэалогіяй фашызму.

Удасканальваючы свой твор, І. Мележ імкнуўся зрабіць больш выразнай і індывідуальную непаўторнасць, нацыянальную адметнасць Шутава — рэальнага чалавека, беларуса («сялянскае», «цывільнае» ў знешнасці, мяккасць, сціпласць і мужнасць характару, любоў да роднага краю і інш.). Кампазіцыйныя змены (скарачэнні і дапаўненні, перастаноўка асобных частак), сэнсавае ўдакладненне і эмацыянальнае ўзбагачэнне фразы — усё гэта садзейнічалаператварэнню накіда-эскіза ў псіхалагічна аб'ёмны нарыс-партрэт.

Нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» знайшоў свой працяг у першым буйным творы І. Мележа «Мінскі напрамак», дзе пісьменнік, паводле яго слоў, імкнуўся аднавіць падзеі «з дакладнасцю гістарычнага даследавання». У эпічным рэчышчы рамана сапраўды магутная дакументальная плынь, і сярод фактаў, лічбаў, назваў тут нямала ўжо вядомых па нарысу.

Героямі першага плана ў рамане таксама з'яўляюцца танкісты. Можна зразумець гэту «неабыякавасць» аўтара, які аддаў належнае ролі танкавых злучэнняў у ажыццяўленні аперацыі «Баграціён», у вызваленні Беларусі.

Вобраз Сцяпана Шутава ў поўнай меры стаў прататыпам Аляксея Лагуновіча, аднаго з галоўных герояў рамана.

У жыцці абодвух персанажаў нямала агульнага. Героі да таго ж шмат у чым падобныя сваімі схільнасцямі, характарам.

У час працы над вобразам камандуючага 3-м Беларускім фронтам генерала І. Д. Чарняхоўскага, асэнсоўваючы праблему таленту военачальніка, І. Мележ відавочна выкарыстоўваў і факты з баявога вопыту камбрыга С. Ф. Шутава.

У нарысе «Дарогі на ўсход і на захад» ужо выявіліся ў нейкай меры адзнакі творчага стылю Мележа і павышаная ўвага да духоўнага свету чалавека, імкненне паказаць «зрошчанасць» асабістага і агульнага ў асобе героя; імкненне да дакладнага, максімальна праўдзівага апісання з'явы. Выявіўся мележаўскі светлы, стоена-заглыблены, адухоўлены лірызм.

Нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» папоўніў серыю партрэтаў Герояў Савецкага Саюза, якая пачала стварацца беларускімі пісьменнікамі ў гады Айчыннай вайны («Леў Даватар», «Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў» К. Чорнага, «Міхаіл Сільніцкі» К. Крапівы, «Шляхамі вайны» М. Лынькова і інш.).

Таленавітым публіцыстам праявіў сябе І. Мележ і як аўтар падарожных нарысаў. У 1955 годзе ён наведаў Чэхаславакію, у наступным, 1956 годзе — шэраг капіталістычных краін Еўропы. Уражанні ад паездак пісьменнік адлюстраваў у нарысах «Паездка ў Прагу» і «Ліпень у дарозе».

Дапытлівы падарожнік, Мележ стварыў цікавыя замалёўкі зарубежнага жыцця, здолеў перадаць своеасаблівасць прыродных і сацыяльных умоў, традыцыйнага і новага ў звычаях, нацыянальным характары, культуры — агульным побыце наведаных краін. Аб'ектыўны і добразычлівы назіральнік, ён разам з тым паслядоўна прынцыповы ў выяўленні асабістых перакананняў, сваёй задумы — асэнсаваць месца і ролю кожнай краіны на палітычнай карце свету адпаведна з надзённымі патрэбамі першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Нарысы адлюстроўваюць шырыню погляду аўтара на сучаснасць, уменне арыентавацца ў складанай міжнароднай атмасферы 50-х гадоў, правільна вызначыць галоўны перспектыўны курс грамадскага развіцця. Паказваючы барацьбу прагрэсіўных сіл супраць апалагетаў «халоднай вайны», няўхільнага аўтарытэту Савецкага Саюза, поспехі сацыялістычнага будаўніцтва ў братняй Чэхаславакіі, грамадскія зрухі ў капіталістычных краінах, Мележ асэнсоўвае агульную тэндэнцыю дэмакратычнага абнаўлення свету як праяву гістарычнай заканамернасці.

Савецкага пісьменніка І. Мележа і за мяжой цікавіць найперш чалавек. Які ён, сучасны немец, швед, італьянец, грэк, чэх? Як паўплываў час на яго светаадчуванне, свядомасць як грамадзяніна сваёй краіны і ўсёй планеты Зямля? Матэрыяльныя і духоўныя набыткі кожнага народа, сцвярджае пісьменнік,— гэта агульны скарб, які павінен стаць магутным сродкам чалавечага яднання.

Ідэя дзейснага гуманізму і інтэрнацыяналізму вызначае і праблемную важкасць, і эмацыянальную насычанасць падарожных нарысаў І. Мележа, якія папоўнілі плён усесаюзнага публіцыстычнага летапісу 50-х гадоў, засведчылі і характэрную для беларускай літаратуры гэтага часу з'яву: пашырэнне ў ёй «зарубежнай» тэмы ў выніку наладжвання міжнародных кантактаў, ажыццяўлення прадстаўніцтва БССР як раўнапраўнага члена ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Больш поўна якасці Івана Мележа як грамадскага, культурнага дзеяча раскрыліся ў будучым, калі ён на працягу многіх гадоў узначальваў Таварыства «БССР — Францыя», быў членам Савецкага Камітэта Абароны Міру.

*АНТАНІНА ЛЫСЕНКА*

### «ДАРОГІ НА ЎСХОД І НА ЗАХАД» (стар. 7)

Друкуецца па Зб тв., т. 1.

Упершыню — «Полымя», 1948, № 4 пад назваю «Заўсёды наперадзе» з падзагалоўкам «Старонкі з біяграфіі». У «Полымі» складаецца з шасці раздзелаў: 1. Выпрабаванне. 2. Пад вадой і на вадзе... 3. На Кіеў. 4. Палкоўнік вядзе наперад. 5. «Той самы Шутаў». 6. Раздзел, які пакуль недапісаны.

Датуецца 1947 г.

Асобным выданнем нарыс «Заўсёды наперадзе» выйшаў у 1948 г. Тэкст гэтага выдання амаль не адрозніваецца ад тэксту першадруку.

Ва ўласным архіве І. Мележа захоўваецца экземпляр асобнага выдання нарыса «Заўсёды наперадзе» з праўкамі аўтара, зробленымі ім па падрыхтоўцы тэксту нарыса да наступнага выдання (зб. «Што ён за чалавек»). На першай старонцы (над тэкстам) рукой аўтара напісана:

Карнейчык вядзе наперад
(апавяданні з адной біяграфіі).

Затым гэта назва закрэслена і выпраўлена на:

1. Калі абысці нельга.

Назва зноў закрэслена і канчаткова заменена назвай:

Дарогі на ўсход і на захад.

З гэтай назвай нарыс друкуецца ва ўсіх наступных выданнях: зб. «Што ён за чалавек», Зб. тв., т. І; зб. «Белыя вішні і яблыні».

Адначасова І. Мележ скараціў некаторыя апісанні, якія не мелі непасрэднага дачынення да раскрыцця ўнутранага свету героя. У выніку перапрацоўкі нарыс стаў больш сціслым, дэталі больш дакладнымі і ўражлівымі, а вобраз героя — жывым і шматгранным.

У зборніку «Што ён за чалавек» колькасць раздзелаў зменшылася да пяці: 1. Эшалон разгрузіўся ў Спас-Дзямянску. 2. Цераз Дзясну і Дняпро. 3. На Кіеў. 4. За граніцай — каля горада Ясы. 5. Даліны і горы, сустрэчы і ростані.

Ва ўласным архіве І. Мележа захоўваецца таксама зборнік «Што ён за чалавек» з праўкамі аўтара, зробленымі ім пры падрыхтоўцы Збору твораў у шасці тамах.

Нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» прасякнуты лірычным роздумам аўтара аб савецкім чалавеку на вайне, аб вытоках яго мужнасці і сілы. У творы шмат пейзажных замалёвак. Як справядліва лічыць даследчык Ф. Куляшоў, гэты нарыс пабудаваны паводле законаў мастацкай прозы. Ён з поўным правам можа быць названы «нарысавай аповесцю».

У прадмове да зборніка «Што ён за чалавек» пад назвай «Гартаючы старонкі...», якая пазней увайшла ў кнігу І. Мележа «Жыццёвыя клопаты» (Мінск, 1975) пад назвай «Калі гартаеш старонкі...», І. Мележ пісаў: «Твор гэты, які паўтара дзесятка гадоў назад друкаваўся пад назвай «Заўсёды наперадзе», быў як бы разведкай перад пачаткам работы над раманам «Мінскі напрамак». Напісаў яго я ўвосень 1947 года і адразу пачаў працаваць над раманам. «Дарогі на ўсход і на захад» — твор ад пачатку да канца дакументальны, і я быў вельмі абмежаваны, сціснуты вузкімі рамкамі дакументаў. Задача яшчэ ўскладнялася тым, што нікога, акрамя самога героя, я не змог пабачыць і распытаць. Усё гэта не магло не адбіцца на творы».

Апушчаныя І. Мележам пры перапрацоўцы нарыса фрагменты (успаміны пра родную вёску Дварэц і даваеннае жыццё, апісанне ваеннай Масквы, эпізоды з баявой біяграфіі палкоўніка С. Ф. Шутава) у перапрацаваным выглядзе амаль усе былі выкарыстаны пісьменнікам у яго далейшай творчай практыцы і адыгралі ролю спроб-накідаў для вобразаў і сцэн рамана «Мінскі напрамак». Яны маюць бясспрэчную цікавасць, а таму і прыводзяцца ў варыянтах.

Шутаў Сцяпан Фёдаравіч — (17(30).1.1902, в. Дварэц Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці — 17.4.1963), двойчы Герой Савецкага Саюза. Удзельнік фарсіравання Дняпра і Яска-Кішынёўскай аперацыі.

## *Варыянты часопіса «Полымя», 1948, № 4:*

Стар. 7, радкі 2—29, замест: Першая ∾ выйсці // За некалькі гадзін да бою брыгада танкістаў пад камандаваннем двойчы Героя Савецкага Саюза Сцяпана Фёдаравіча Шутава прарвала першую абарончую лінію ворага і захапіла румынскі гарадок Тыргу — Фрумос. (Гэта было ў жніўні 1944 года). Перад нямецкім фронтам паўстала небяспека прарыву ўсёй абароны. Каб выправіць сваё становішча, немцы зараз жа ўзялі з рэзерву танкавую дывізію і паслалі насустрач брыгадзе Шутава.

Наблізіўшыся да брыгады, нямецкія танкі спыніліся, занялі вышыні на абодва бакі дарогі, па якой меліся наступаць нашы танкісты. Разведчыкі Сцяпана Фёдаравіча, якія заўсёды ўважлі-

ва сачылі за ворагам, хутка выявілі нямецкую засаду і далажылі камбрыгу.

Палкоўнік загадаў сваёй брыгадзе спыніцца. Весткі, што прынеслі разведчыкі, яго занепакоілі. На шырокі абветраны твар, на светла-шэрыя, з цёмнымі кругамі пад павекамі ад бяссоння, вочы лёг цень трывогі. Па баках упартага падбародка выразаліся дзве глыбокія маршчыны. Палкоўнік выняў з палявой сумкі карту і пачаў углядацца ў жоўтыя звілістыя лініі вышынь, у тонкія павуціны дарог. Потым палажыў карту назад у сумку, крыху падумаў і вырашыў: «Не, я не памыляюся: іншых дарог у гэтым напрамку няма, і брыгада немінуча павінна была б, па іх разліку, трапіць у пастку...»

Што было рабіць? Стаяць?.. Брыгадзе нельга стаяць — для поспеху нашага вялікага наступлення трэба ісці наперад. Але ж як ісці?

Дакладна разведаўшы размяшчэнне нямецкай дывізіі, палкоўнік Шутаў загадаў аднаму батальёну развінуцца і з усіх гармат адкрыць агонь па варожых танках. Трапныя стрэлы хутка падпалілі каля дзесятка танкаў. Шутаў выклікаў немцаў на бой, але, як і чакаў ён, тыя не адважыліся выйсці з засады, хоць танкаў у іх было больш, чым у нашай брыгадзе.

А можа, немцы ўсё яшчэ спадзяваліся, што ўдасца заманіць брыгаду ў пастку.

Стар. 8, радкі 16—43, стар. 9, радкі 1—24, замест: Але ~ пісьмо... // І ў неспакойным сэрцы камандзіра брыгады спее ўпэўненасць цяпер... Пакуль ноч, пакуль цемра.

Праўда, і цяпер ісці ў пастку вельмі рызыкоўна, невядома яшчэ — ці спяць немцы, ці ўдасца непрыкметна падысці і зняцку ўдарыць самому па засадзе? Аднак камандзірскае пачуццё, народжанае на фронце, у многіх начных баях з немцамі, падказвала палкоўніку — удасца, наўрад, ці чакаюць. Палкоўнік пакінуў на месцы адзін танкавы батальён, які быў напагатове і адсюль павінен быў падмацаваць наступленне сваімі снарадамі, а іншыя два батальёны павёў наперад. Танкі асцярожна, з прыглушанымі маторамі паўзлі ў цемры, насустрач ворагу. Сцяпан Фёдаравіч з насцярожанасцю ўглядаўся ў цемру, нібы намагаючыся ўбачыць, што там робіцца за шчыльнаю яе сховаю, на нямецкай пазіцыі. Сэрца білася трывожна. Шум матораў здаваўся незвычайна моцным і назойлівым.

Марудна праходзілі хвіліна за хвілінаю. Вакол было ўсё спакойна. Вось машыны ўжо наблізіліся да ворага... Вось яны ў сярэдзіне нямецкай пасткі. Справа і злева непадалёк ад дарогі стаялі ў цемры чужыя танкі.

— Дзесяць снарадаў... агонь! — скамандаваў у шлемафон палкоўнік. У тую ж хвіліну ноч страсянуў гром, паласнулі белыя маланкі; абодва батальёны — пяцьдзесят гармат — адкрылі беглы агонь на ўзгорках абапал дарогі, дзе хаваліся танкі.

Загарэўся адзін варожы танк, другі. Немцы былі так ябянтэжаны дзёрзкасцю, адвагай нашых танкістаў, што амаль не супраціўляліся. Абуджаныя раптоўнымі выбухамі, якія навокал шматавалі ноч, яны кідалі танкі, беглі, куды папала.

— Пабеглі... Не вытрымалі! — узбуджана прагаварыў камбрыг. Ён да пояса высунуўся з вежы камандзірскага танка. Нач-

ны вецер абдаў разгарачаны твар халадком. Палкоўнік расшпіліў каўнер гімнасцёркі, упершыню за гэтыя гадзіны спакойна ўздыхнуў.

Бой хутка сціхаў. На вышынях ярка палала некалькі нямецкіх машын.

...У тую ж ноч, адразу пасля бою, начштаба корпуса далажыў камандзіру корпуса аб гэтай аперацыі.

— Добра,— прамовіў камандзір, выслухаўшы паведамленне начштаба.— Трэба так трымаць і далей. Не збаўляць націску... Перадайце палкоўніку Шутаву, што я задаволены яго працаю. Хаця — не трэба, я сам яму пра гэта скажу. Малайчына... Заўсёды наперадзе.

Стар. 9, радок 25, замест: Эшалон разгрузіўся ў Спас-Дзямянску. // Выпрабаванне. Радкі 26—41, замест: Быў ∾ важдацца... // Хто ён такі, палкоўнік Шутаў, чалавек, які «заўсёды наперадзе»?

Вайна застала Сцяпана Фёдаравіча ў Сярэдняй Азіі. Ён у той час быў маёрам, камандзірам цяжкага танкавага батальёна. Быў ціхі мірны дзень. Дзень адпачынку. Тут яшчэ ніхто не ведаў аб той вялікай навале, якая абрушылася на нашы заходнія гарады і вёскі. Недзе на далёкім захадзе палаў зялёны, падобны на вялізны сад, Брэст, па дарогах брылі трывожныя натоўпы бежанцаў, а на поўдні млеў ціхі летні дзень.

Але хутка аб вайне даведаліся і тут, у ціхім сярэднеазіяцкім гарадку. Людзі пачулі словы Вячаслава Міхайлавіча Молатава:

— Сёння, у чатыры гадзіны раніцы, без прад'яўлення якіх-небудзь прэтэнзій да Савецкага Саюза, без аб'яўлення вайны, германскія войскі напалі на нашу краіну... — Усе адразу пасуровелі і насцеражыліся.

Стар. 10, радкі 6—41, замест: Капітан ∾ няволі?.. // Сцяпан Фёдаравіч, які ў той час быў начальнікам эшалона, патрабаваў ад пуцейцаў:

— Не затрымлівайце! Хутчэй наперад — на фронт! Там чакаюць.

Чым бліжэй падыходзілі да фронту, тым больш заклапочаным рабіўся камандзір. Вайна ў яго ўяўленні яшчэ не мела выразнага вобліку. Праўда, яму даводзілася біцца з немцамі ў васемнаццатым годзе, але ж з таго часу прайшло столькі год, усё змянілася... Камандзір толькі з чутак ведаў пра новую вайну, ён быў, як і ўсе, яшчэ «мірным» салдатам. Аднак не за сябе непакоіўся ён. У сабе ён быў упэўнены, ён — камандзір, амаль дваццаць год у арміі, ён камуніст ленінскага закліку. Сцяпан Фёдаравіч непакоіўся за байцоў. Людзі ў батальёне надзейныя, справу сваю ведаюць дасканала — у мірных абставінах служылі добра, але як яны будуць паводзіць сябе ў баі з ворагам? Якімі яны выявяць сябе ў цяжкім выпрабаванні вайны?

Уночы на станцыі Спас-Дзямянск эшалон выгрузіўся і сабраўся ў лесе. Ніхто з танкістаў не заснуў у гэтую ноч, усе былі ўзбуджаны блізкасцю фронту, бою. Не спаў Сцяпан Фёдаравіч. Хацелася абдумаць усё, разважыць.

Стар. 11, радок 25, пасля: сваіх // — і ўсё далей і далей ад роднай Беларусі, усё бліжэй да Масквы. Камандзір за гэты час

пасуровеў і навучыўся багата чаму. Ён добра спазнаў ворага, які заняволіў родную беларускую зямлю, навучыўся ненавідзець яго ўсім сэрцам. Вораг гэты — убачыў ён — як ніколі жорсткі і моцны, і барацьба з ім будзе доўгай і нялёгкай; Сцяпан Фёдаравіч падрыхтаваўся да ўпартай, зацятай схваткі.

Разам з камандзірам памужнелі і пасуровелі байцы. Ім ужо не раз давялося паглядзець у вочы смерці, не аднаго сябра пахавалі яны.

Стар. 11, радкі 29—40, стар. 12, радкі 1—30, замест: Гітлераўцы ... працiўніка. // У лістападзе Сцяпан Фёдаравіч абараняе Маскву. Час быў грозны. Баі ішлі амаль каля самых ускраін Масквы. Немцы, як ашалелыя, іrваліся ў сталіцу, без упынку шукалі слабейшыя месцы ў абароне; нашым часцям даводзілася вытрымліваць нечуваны націск. І да ўсяго гэтага танкістам не было дзе манеўраваць, не хапала прастору. Але яны не саступалі, біліся за кожны шматок зямлі, за кожны акоп — за імі была Масква.

«За намі Масква!» — хто з нашых людзей не памятае гэтых суровых слоў. Дзе б мы ні былі — каля гарматы, у пяхотным акопе ці ў заводскім цэху — мы думалі пра Маскву. Позіркі ўсіх нас былі скіраваны ў адным напрамку.

Стар. 17, радок 7, пасля: сваіх...//

У гэтыя суровыя дні Сцяпан Фёдаравіч асабліва востра адчуў, як моцна любіць сваю радзіму, адчуў непарыўную сувязь з ёй.

Усім, чаго дабіўся ў жыцці Сцяпан Фёдаравіч, ён быў абавязаны Радзіме — і заўсёды памятаў аб гэтым.

...Ёсць на Бабруйшчыне невялікая вёска Дварэц. Там Сцяпан Фёдаравіч нарадзіўся і рос, адтуль ён пайшоў у свет дапытлівым сціплым юнаком. За яго плячыма было тады невялікае, але ўжо даволі багатае падзеямі жыццё.

Хлопчыка не доўга песціла бесклапотнае маленства. Калі яму споўнілася дванаццаць год, памёр бацька. Усё сваё жыццё стары рабіў на пана: хадзіў за плугам, сеяў жыта, садзіў бульбу, касіў сена. Усё жыццё марыў аб лепшай долі ды так і памёр, не дачакаўшыся яе. Хлопчык стаў гаспадаром, цяпер усе клопаты за сям'ю лажыліся на яго. Дзень у дзень хадзіў Сцяпан за статкам пана Жылінскага, каб запрацаваць скарынку хлеба для сябе і сваіх маленькіх сясцёр.

Невядома, колькі давялося б хадзіць за статкам хлопчыку, каб не надышлі новыя часы. Яны адчынілі перад Сцяпанам шырокія прасцягі. Пятнаццацігадовы, з русым віхарком і лагоднаю ўсмешкаю, юнак пакідае Дварэц, становіцца смелым партызанам, потым уступае ў чырвонагвардзейскі атрад. Дамоў ён прыходзіць толькі праз тры гады, пасталелы, абветраны. Сцяпан з захапленнем прымае новыя парадкі, нястомна змагаецца супроць тых, хто хоча вярнуць ненавісныя старыя часы.

Дваццаць тры гады назад дапытлівы хлопец з Дварца пайшоў у Чырвоную Армію і з той пары звязаў свой лёс з баявой сям'ёй.

Ішлі гады, змяняліся, раслі людзі, паднімалася краіна. І разам з краінай, з народам рос Сцяпан Фёдаравіч. Ён многа вучыцца — спачатку ў кавалерыйскай палкавой школе, потым у Аб'яд-

нанай школе ў Крамлі. Са школы ён выходзіць камандзірам кавалерыйскага ўзвода, служыць то ў адным палку, то ў другім.

У тысяча дзевяцьсот трыццаць першым годзе ў жыцці Сцяпана Фёдаравіча адбылася падзея, якая па-новаму акрэсліла яго вайсковы шлях: ён становіцца танкістам, вучыцца на камандзірскіх курсах у Ленінградзе. З таго часу ўсё яго жыццё звязана з танкамі і танкістамі.

Прыйшла вайна — вялікае выпрабаванне. Дзень за днём мінаюць суровыя дні. Наступіў сорак трэці год — год вялікага пералому, выдатных перамог.

Стар. 17, радок 8, замест: Цераз ∾ Дняпро. // Пад вадой і на вадзе...

Стар. 17, радок 41, стар. 18, радкі 1—2, замест: Хіліліся ∾ пераправы. // Паасобныя байцы і афіцэры распраналіся, плавалі ў сцюдзёнай вадзе. Ныралі — выведвалі дно, мералі глыбіню, шукалі падыходзячае месца.

Стар. 29, радок 20, пасля: Кіева. // Сцяпан Фёдаравіч пакінуў за сябе камандзіра батальёна, а сам паехаў да генерал-лейтэнанта Краўчанкі, камандзіра корпуса, каб далажыць пра бой і атрымаць задачу на другі дзень. У той час, калі ён прыехаў да генерала, камандзір корпуса... Але тут лепш перадаць слова самому Сцяпану Фёдаравічу. Вось што ён расказвае:

— Зайшоў я ў бліндаж камандуючага корпуса, бачу — генерал-лейтэнант дапытвае палоннага. Хацеў далажыць, а генерал кажа — паслухай, што гаворыць гэты нягоднік. (Краўчанка сам дапытваў палонных, ён ведае нямецкую мову). Немец сказаў, што ён з 20-й мехдывізіі, што дывізія разбіта.

— Хто разбіў? — запытаўся генерал-лейтэнант.

— Панцэр,— адказвае немец. Танкі, значыцца.

Краўчанка павярнуўся да мяне і сказаў:

— Твая работа!

Прывялі другога палоннага. Краўчанка стаў дапытваць. Той быў з другой дывізіі, што наступала на маю акружаную брыгаду, гэты таксама гаворыць, што дывізія разбіта.

— Хто вас разбіў? — паўтарыў запытанне камандуючы.

— Танкі...

— Таксама твая работа,— весела прамовіў камандуючы.— Добра папрацаваў, малайчына...

* * *

Стар. 29, радкі 28—45, стар. 30, радкі 1—44, замест: Над ∾ Кіеў... // Вось ён, Кіеў — спакутаваны, зранены, хмурны. Прыйшло тваё свята — сустракай сваіх сыноў, што прынеслі табе вызваленне!

Яшчэ на тваіх вуліцах немцы. Гэта апошнія немцы... Чуваць выбухі — немцы падрываюць дамы. Паляць,— дым чорнаю хмараю вісіць угары, сцелецца па вуліцы. Нават адступаючы, яны стараюцца зрабіць гораду як можна больш ран... Што ж, гэта апошнія раны.

Брыгада ўрываецца на вуліцы. Непадалёк ад танка, што ідзе перад камандзірам брыгады,— гармата, немцы страляюць:

— Р-рах...

Міма... Танк, скрыгануўшы гусеніцамі, імчыць насустрач. Артылерысты, хто куды, кідаюцца наўцёк. Позна — танк з разгону падмінае гармату, чарга з кулямёта даганяе салдат...

На скрыжаванні вуліц — дот. Танк, схаваўшыся за рог дома, страляе раз-другі з гарматы. Дот сціхае. Танкі, ляскочучы па бруку, рушаць далей...

Вось ужо Вялікая Баршчагоўская вуліца ўзята. Падпалкоўнік адсунуў край рукава свайго сіняга танкісцкага камбінезона, зірнуў на гадзіннік — трэба запомніць гэту ўрачыстую хвіліну. Пяць гадзін вечара — пятага лістапада.

Вечарам Шутаў са сваёй брыгадай заняў Саломенку, а ў поўнач вёў бой за Арсенал. Поруч з ім білася цяпер Чэхаславацкая брыгада Свабоды і брыгады корпуса.

Усю ноч не сціхаў бой, танкі і пяхота выбівалі немцаў з цэнтральных вуліц. На світанні шостага лістапада, напярэдадні гадавіны Кастрычніка, Кіеў быў вызвалены ўвесь. Новую гадавіну рэвалюцыі ён сустракаў свабодным. На вуліцах кіяўляне абдымалі і цалавалі байцоў, плакалі і смяяліся.

— Рыдні ры нашы... Діты нашы. Прыйшлі.

З сутарэнняў, двароў выводзілі пераапранутых немцаў, яны палахліва азіраліся, баючыся расправы.

А праз гадзіну Шутаў і яго танкісты былі ўжо за кіеўскімі ўскраінамі — іх чакалі другія гарады і сёлы, чакалі неабсяжныя ўкраінскія прасторы, што разлегліся на правы бок Дняпра. Наперадзе была яшчэ далёкая дарога.

Стар. 31, радок 3, пасля: Саюза. // 4. Палкоўнік вядзе наперад. Выгнаныя з Кіева, гітлераўцы яшчэ доўгі час не трацілі надзеі вярнуцца ў яго зноў. Амаль увесь лістапад яны атакавалі нашы часці, імкнучыся прарвацца да горада. Палкоўніку Шутаву давялося доўгі час абараняць той горад, за які ён вёў раней упартыя наступальныя баі. Пасля гэтага яго

Стар. 32, радок 15, пасля: селянін. // Ціхім голасам стары адказаў: радкі 16—28, замест: — Дзе ∾ дома. // — Чы е ў мясточку немцы? Як жа — багацька немцаў. Яны ось там, на другой ускраіне... Дзе людзі? Ведама дзе — адны пахаваліся, другіх «хрыц» пагнаў у свой бок...

Сцяпан Фёдаравіч паслаў на тую ўскраіну разведчыкаў — выявілася, што там сапраўды нямала немцаў і што яны спакойна спяць.

Радкі 37—38, замест: яму ∾ іх... // ён здаволіўся б тым, што разагнаў бы немцаў. За гэты час ён багата чаму навучыўся, перш за ўсё — вайсковаму ўмельству.

Стар. 33, радкі 39—43, замест: Але ∾ адстаяць. // Тым не менш ён смела і ўпэўнена вёў свае танкі ў няроўную схватку, бо ведаў значэнне таго месца, за якое білася яго брыгада.

Стар. 34, радок 14, замест: 4. ∾ Ясы. // ***

Радкі 28—42, замест: Цяжка ∾ адступлення. // Нялёгка было ваяваць нашым салдатам: яны правальваліся ў раскіслы, як гразь, снег, ледзяная вада забіралася ў боты. Мокрыя шынелі ўночы на марозе лубянелі, пакрываліся намараззю. Артылерыстам даводзілася гарматы цэлыя кіламетры валакчы сваімі рукамі. Тылы далёка адставалі. Палкоўнік Шутаў і яго танкісты былі і ў гэтых баях наперадзе.

Стар. 35, радок 5, пасля: тыдзень. // Цяпер ён заўсёды ўпэўнена браў у свае рукі ініцыятыву і ўмеў хутка зламаць упартасць ворага. У параўнанні з гэтым рэйдам Кашырскі рэйд уяўляўся яму далёкім, даўно пройдзеным этапам.

Вораг, адступаючы, узрываў масты, мініраваў пераправы. Танкісты Шутава хутка наводзілі новыя і, не адстаючы, ішлі ўслед. Гаручае падвозілі на баявых машынах. Нярэдка танкісты прарываліся далёка наперад, абходзілі калоны праціўніка і знянацку нападалі на іх або пераразалі шляхі для адступлення.

Радок 12, пасля: сонцы. // Тут тры гады назад, у чэрвеньскія дні, нашы пагранічнікі і пехацінцы вялі першыя баі з нямецкімі захопнікамі. Палкоўнік, стоячы на беразе Прута, углядаўся ў чужую румынскую зямлю, па-веснавому асветленую шчодрым сонцам.

Радкі 22—26, замест: Шутаў ∾ перапраўляецца. // палкоўнік. Ён раптам успомніў спякотны поўдзень, маленькі сярэднеазіяцкі гарадок. Ён быў там... Выступаў таварыш Молатаў... Яны атрымалі загад грузіць танкі.

Як гэта даўно было! Потым — Рослаўль, Ельня, Кашыра. Ленінградскі фронт... Колькі прайшоў ён шляхоў, колькі вызваліў сёл, гарадоў. Колькі разоў абдымалі людзі яго шырокія плечы, з удзячнасцю і радасцю глядзелі ў добрыя вочы, з цёмнымі кругамі пад павекамі ад бяссоння, на добры ўсмешлівы твар... Колькі разоў, пагарджаючы смерцю, рызыкуючы жыццём, спакойна ішоў ён насустрач небяспецы, дзе на кожным кроку можна было падарвацца на міне, згарэць у танку. Ён ні разу не збаяўся, не адступіў з ганьбаю — ён хацеў быць вартым вялікай місіі... Слаўны і цяжкі шлях прывёў Сцяпана Фёдаравіча сюды, на дзяржаўную мяжу.

«Той самы Шутаў»

Стар. 37, радок 31, замест: Селюкова // Селіванава; радок 37, замест: Селюкова // Селіванава

Стар. 41, радок 9, замест: 5. ∾ ростані. // ***

Радок 29, пасля: чалавекам // пазбаўленым здзеклівай пагарды пераможцы. Яны ўбачылі ў Сцяпане Фёдаравічу чалавека, які чула ставіцца да працоўных людзей, добра разумее і паважае іх звычаі і правы.

— Рускі афіцэр — буна... я, румын, гаворыць — буна... Герман нуй буна,— блытаючы румынскія і рускія словы, дапаўняючы недахоп слоў жэстамі, казаў стары настаўнік, праводзячы на другі дзень палкоўніка-кватаранта ў дарогу.

Стар. 43, радкі 8—17, замест: прысадзістую ∾ сялянскае... // каранастую, у сінім танкісцкім камбінезоне, постаць палкоўніка, уставіліся ў загарэлы, з рэзкімі рысамі, твар — гэта той самы Шутаў! Той Шутаў, які ламаў абарончыя паясы пад Ясамі, які ходзіць з танкамі па непрыступных гарах і рэках, пра якога не раз са страхам гаварылі немцы.

Не такім, відаць, яны ўяўлялі гэтага грознага савецкага салдата; ён з выгляду быў звычайны — можа, крыху вышэй сярэдняга росту, шыракаплечы, з шэрымі спакойнымі вачыма, ля якіх сабраўся вузельчык нітак-маршчын, з мяккай сціплай усмешкай...

Радкі 18—19, замест: Здзівіцца ∾ бой // Але колькі цвёрдасці і ўпэўненасці пачулася ў голасе гэтага сціплага, усмешлівага чалавека, калі сталі гаварыць аб будучым баі...

Радкі 20—21, замест: — Плаешці! ∾ выпадку. // — У лепшым выпадку — мы ўвойдзем у Плаешці праз тры-чатыры дні...

Радкі 23—41, замест: — Але ∾ ноч... // У лепшым і ў горшым — мы павінны быць там ураніі,— адказаў Шутаў.— Мы не маем права — таптацца тут цяпер...

— Гэта немагчыма, пан палкоўнік... Там умацаванні, войскі,— запярэчыў малады танклявы афіцэр, зацягнуты ў вузкі фрэнч, на яго твары мільганула скептычная ўхмылка.— Я там дняміі быў,— дадаў ён для падмацавання сваіх слоў.

— Мы павінны ўзяць,— сказаў палкоўнік.— І возьмем.— Такая ўпэўненасць і моц адчувалася ў савецкім камандзіру, у яго голасе, у спакоі, што румынскія афіцэры мімаволі выпрасталіся перад ім, як перад старшым.

Стар. 43, радок 43, стар. 44, радок 1, замест: не ∾ ваявалі. // гэтае пачуццё было ўжо неаднойчы праверана ў сумесных баях, супольных перамогах на шляхах вайны.

Стар. 44 радкі 1—5, замест: І ўсё ж ∾ вядома... // І ўсё-такі Сцяпан Фёдаравіч у гэты дзень непакоіўся. Наперадзе быў незвычайны баявы дзень. Шутаў у гэтым баі будзе не проста камандзірам, а прадстаўніком Савецкай Арміі. Яму трэба прадставіць яе як належыць.

Стар. 45, радкі 25—30, замест: ведаў ∾ дарог... // Ён жа з гэтымі танкістамі пераходзіў Дзясну, ваяваў пад Кіевам, біўся пад Корсунем, браў вышыню 387... Брыгада стала яго роднай сям'ёй. Тут ён ведаў кожнага салдата, з якім ішоў у бой,— і з тых, нямногіх, што дайшлі сюды з ім, і з тых, што засталіся ляжаць каля вялікіх гарадоў і невядомых вёсак, на шляху брыгады. Колькі неспакойных начэй не спаў ён, каб правесці наперад, колькі думак перадумаў, дбаючы аб яе лёсе, аб яе жыцці...

Радкі 34—35, замест: румынскай ∾ рады // такую-сякую закуску. Тут пры развітанні Сцяпан Фёдаравіч адчуў, як моцна любяць яго ў брыгадзе, якія блізкія яны яму. (Ці ёсць яшчэ што-небудзь роўнае сумленнай салдацкай дружбе!)

Стар. 46, радкі паміж 15—16. На новым пасту Сцяпан Фёдаравіч працаваў, як і раней, многа. Цяпер яго абавязкі былі яшчэ больш складаныя — ў яго падначаленні было некалькі брыгад. Нястомны, энергічны, ён і тут увесь час у гушчы падзей, выклікае камандзіраў, аддае загады, правярае, як іх выконваюць, сочыць за абстаноўкай, за працай камандзіраў. Афіцэры, што працавалі разам з ім, толькі дзіву даваліся, адкуль у яго толькі бярэцца сіла. Палкоўніку даводзілася адначасова і весці баі і вучыцца новаму, вышэйшаму майстэрству.

Стар. 46, радкі 37—43, стар. 47, радкі 1—4, замест: Ад'ютант ∾ які // Сцяпан Фёдаравіч адышоў трохі, ён падумаў, што гэта які-небудзь выпадковы снарад. Праз хвіліну побач выбухнуў другі снарад. Палкоўнік упаў...

— Эх, ліха... Не ў пару.

Да яго падбег устрывожаны ад'ютант,

Стар. 47, радок 32, пасля: было. // З гэтага часу пачынаецца другая біяграфія Сцяпана Фёдаравіча — «мірная».

6. Раздзел, які пакуль што недапісаны.

Гэты раздзел самы малы. Ён пакуль што ў нарысе застанецца недапісаны — «мірная» біяграфія гвардыі палкоўніка Шутава толькі што пачынаецца.

Стар. 48, радок 4, пасля: іх. // Як жа, іх аднавяскоўец — праслаўлены танкіст, гвардыі палкоўнік, з двума залатымі зоркамі Героя Савецкага Саюза.

Радкі 11—34, замест: Сёстры ∾ будзем... // Сцяпан Фёдаравіч, заўважылі ўсе, за гэты час нямала змяніўся. Вялікая сіла і ўпэўненасць адчувалася цяпер у яго каржакаватай, дужай постаці, у шэрых, сталёвага адцення, вачах, у твары, на якім вайна паклала глыбокія маршчыны. Левы рукаў палкоўніцкага кіцеля быў пусты, засунуты ў кішэню. Відаць, не лёгкімі сцежкамі ішоў ён на вайне і не малы цяжар трымаў на сваіх дужых плячах.

— Раскажы, Сцяпан Фёдаравіч, дзе быў за гэты час... што бачыў? — прасілі землякі.

Палкоўнік ахвотна расказваў. Усе ўважліва слухалі, час ад часу выказвалі спачуванне або радасць. Ён апавядаў пра баі пад Масквой, [ . . . . . . . . . . . . ] пра тое, як танкі па дне Дзясны перайшлі на другі бераг, пра незабыўныя баі за Кіеў, пра смелыя рэйды на румынскай зямлі, пра штурм Плаешці, пра крутыя трансільванскія дарогі, на адной з якіх абарвалася яго ваенная біяграфія. Людзі слухалі гэтыя апавяданні і як бы зноў перажывалі ўсё тое, што давялося ўбачыць і перажыць Сцяпану Фёдаравічу.

Яны глядзелі на земляка з павагай і гордасцю. І тут аднаго-другога з іх спачатку нямала здзівіла тое, што ў палкоўніка няма ганарыстасці, якую, здавалася, належала б мець такому заслужанаму чалавеку. Ён, як і раней, быў вельмі просты і сціплы...

Часамі аднавяскоўцы бачылі, як палкоўнік, кульгаючы, з палачкай, усхваляваны ішоў па вуліцы, па полі, прыглядаючыся з цікавасцю да наваколля. Ён пазіраў на знаёмыя з маленства краявіды і нярэдка не мог пазнаць, так яны змяніліся за апошнія гады. Вайна ўсюды пакінула свае бязлітасныя знакі.

...Хутка Сцяпан Фёдаравіч быў зноў у Мінску. Герой-танкіст стаў працаваць на «мірнай» пасадзе. Неўзабаве яго абралі ў Вярхоўны Савет СССР. Сцяпан Фёдаравіч, як і раней, працуе сумленна, чула прыслухоўваецца да пажаданняў і патрабаванняў сваіх выбаршчыкаў, уважліва выконвае іх наказы.

Ён па-ранейшаму ідзе наперадзе...

ПАЕЗДКА Ў ПРАГУ (стар. 49)

*Старонкі з запісной кніжкі*

*Друкуецца па зб. «Што ён за чалавек», дзе змешчаны з паметкай: Прага — Мінск і датай 1955 г.*

Упершыню — у зб. «У гарах даждкы» з той жа паметкай і датай.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню. Тэкст першай і другой публікацый не мае істотных разыходжанняў.

У архіве Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР захоўваецца машынапіс нарыса на рускай мове з праўкамі аўтара, у якім першапачатковы падзагаловак «Впечатления и встречи» заменены на «Странички из записной книжки». На апошняй старонцы машынапісу дата 1955 г. закрэслена. Замест яе рукой аўтара зроблена паметка: Прага — Мінск.

## ЛІПЕНЬ У ДАРОЗЕ (стар. 76)

*Лісткі з блакнота*

*Друкуецца па Зб. тв., т. IV.*

Упершыню — «Полымя», 1956, № 10 пад назвай «Вакол Еўропы» з падзагалоўкам «Лісткі з блакнота» і паметкай «Балтыйскае мора — Атлантычны акіян — Міжземнае мора. Мінск» і датай 1956 г.

У архіве Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР захоўваецца расклееныя на асобныя лісткі тэкст першадруку нарыса з праўкамі аўтара, якія пераважна носяць моўна-стылістычны характар. Праўкі ўвайшлі ў наступныя выданні. У гэтым тэксце назва першадруку «Вакол Еўропы» заменена на «Моры, гарады, людзі», аднак у далейшыя публікацыі яна не ўвайшла.

Назва «Ліпень у дарозе» дадзена аўтарам нарысу ў зб. «У гарах дажджы». Пад гэтай назвай з такой жа, як і ў першадруку, паметкай аб месцы і часе напісання, нарыс друкуецца ва ўсіх наступных выданнях: зб. «Што ён за чалавек», Зб. тв., т. IV.

Тэксты час. «Полымя» і іншых выданняў істотна не адрозніваюцца адзін ад другога. Праўкі носяць моўна-стылістычны характар.

### *Варыянты часопіса «Полымя», 1956, № 10:*

Стар. 111, радок 38, пасля: Джованні. // Адзін з нашых таварышаў недзе выпадкова выпацкаў пінжак — да светлай тканіны прыліп камяк расплаўленай сонцам бліскучай смалы.

Джованні, заўважыўшы нездаволеную міну на твары таварыша, горача, з паўднёвым запалам, кінуўся на дапамогу.

— Сіньёр! — Ён гаварыў, дапаўняючы незнаёмыя нам словы зразумелымі жэстамі: усё будзе добра, не трэба хвалявацца.— Бензін!

Мы зразумелі: у яго ёсць бензін, добры бензін.

Джованні кінуўся ў той бок, дзе была яго машына, а праз хвіліну бег ужо назад з пляшачкай.

Ён намачыў камячок ваткі і стаў хутка і старанна счышчаць плямку смалы.

Скончыўшы, усміхнуўся белымі зубамі: ну, вось і ўсё, няхай толькі падсохне!

Стар. 119, радок 27, пасля: натоўпам... // Мы ступілі на род-

ную зямлю, напоўненыя багатымі, цікавымі ўражаннямі і добрымі ўспамінамі. Мы бачылі, няхай нядоўга, Стакгольм і Кільскі канал, Галандыю і Парыж, Неапаль і Рым, сталіцу Грэцыі, горад Турцыі. Пра многія з іх мы раней ведалі мала, пра іншыя многа чыталі, многа чулі, але ўсюды, дзе б ні былі, мы адчувалі сябе амаль першаадкрывальнікамі. Бо мы бачылі ўсё сваімі вачыма ўпершыню.

Стар. 119, радкі 28—40: Гэта ∾ хмары.— адсутнічаюць.

Стар. 120, радкі 1—3: У ∾ дружбы.—адсутнічаюць.

# III

# П'ЕСЫ

Драматургічная спадчына Івана Мележа не надта вялікая. Яго пяру належыць: аднаактавая драма «Хто прыйшоў уночы» і тры «поўнаметражныя» п'есы — «Пакуль маладыя», «Дні нараджэння», «У новым доме». Апрача таго, у архіве пісьменніка знойдзены яшчэ тры няскончаныя п'есы: «Такая зямля», «Цяжкі чалавек», «Дзень імянін».

Зварот І. Мележа да драматургіі не быў выпадковым. І хоць пісьменнік, надрукаваўшы ў 1939 годзе шэраг лірычных вершаў, літаральна праз некалькі гадоў зрабіў для сябе — канчаткова і неаспрэчна — вывад, што асноўнае яго прызванне — проза, аднак на драматургію ён ускладаў дастаткова пэўныя надзеі. На розных этапах яго творчага шляху гэтыя надзеі былі абумоўлены неаднолькавымі дэтэрмінантамі. Разгадку ж важнейшых прычын, якія скіравалі ўвагу пісьменніка да драматургічнага жанру, мы можам знайсці ў яго запісных кніжках. Так, вызначаючы для сябе будучыя контуры далейшай працы над «Палескай хронікай», ён занатоўвае:

«Імкнуцца пісаць *лаканічна*. Ёсць *пагроза* — расцягнуць кнігу. Раман не павінен быць доўгім.

Раман павінен быць *дынамічным*. Дзеянне, дзеянне, дзеянне, змены, змены. Усё ламаецца. Паварот за паваротам.

Менш расказваць (чым у «Подыху»). Больш — паказ, дыялог! Сюжэт, інтрыга! Не пагарджаць. Павінна добра чытацца!

*Драматызаваць* падзеі і як мага. Напружанне трэба!!!

Драматычны час. Поўнае драм жыццё!

Выполваць *лішняе бязлітасна! Ніводнага лішняга сказа, слова*. Гнаць паўторы!!» [1] (Усюды падкрэслена І. Мележам.— *С. Л*).

Відавочна, што менавіта праз драму прыйшоў пісьменнік да гэткага плана-праграмы, што менавіта вопыт драматурга прыдаўся яму, калі ўзнікла перад ім патрэба ў большай «інтэнсіўнасці» празаічнага пісьма. Дарэчы, у іншым месцы І. Мележ непасрэдна ўказвае на гэта. У артыкуле «Знайсці сябе» ён прызнаецца: «Я свядома браў на ўзбраенне каштоўны вопыт, набыты ў апавяданні «У завіруху», у аповесці «Гарачы жнівень», у лепшых раз-

[1] «Полымя», 1978, № 6, с. 65.

дзелах рамана; *у п'есах, вопыт работы над якімі вельмі дапамог прозе*»[1]. (Падкрэслена мною.— *С. Л.*).

Аб характары стаўлення, аўтарскай ацэнцы ўласнай драматургічнай творчасці добра сведчаць два наступных выказванні І. Мележа:

«З усяго, што выдадзена за мінулыя гады, больш прыкметнымі здаюцца мне апавяданні «У завіруху», «Спатканне за горадам», «У гарах дажджы», «Што ён за чалавек», тры невялікія аповесці — «Гарачы жнівень», «Зямля, якую любіш», «Дом пад сонцам», раман «Мінскі напрамак», п'есы «Пакуль вы маладыя», «Дні нараджэння»[2].

«Пасля «Мінскага напрамку» я напісаў некалькі невялікіх твораў, у тым ліку дзве п'есы і дзве аповесці. Усё гэта было як бы літаратурнай падрыхтоўкай да работы над раманамі з «Палескай хронікі»[3].

Першае выказванне адносіцца да 1961 года, калі пачатковая кніга хронікі — раман «Людзі на балоце» толькі-толькі набліжаўся да завяршэння, і пісьменнік яшчэ не быў перакана违ы, упэўнены ў поспеху. Таму на «ацэначнай шкале» вартасць драматычных твораў займае дастаткова высокую адмеціну. Другое ж — да 1973 года. К гэтаму часу шырока разнеслася слава І. Мележа, аўтара двух выдатных раманаў — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», якая адчувальна прыцьміла вартасці ранейшых твораў пісьменніка. Цяпер ужо ён глядзеў на многае са зробленага раней, у тым ліку і на п'есы, як на «літаратурную падрыхтоўку».

Толькі не трэба са сказанага вышэй рабіць высновы, быццам бы для І. Мележа драматургічная творчасць была нечым другарадным, неістотным. Ён адносіўся якраз да тых мастакоў, для якіх у літаратуры дробязей не існавала, якія патрабавальна, з поўнай адказнасцю ставіліся літаральна да кожнага свайго слова. Здзіўляе і захапляе нейкая «бацькоўская» заклапочанасць І. Мележа лёсам уласных твораў: выпусціўшы ў свет, ён клапатліва і нястомна «даглядаў» кожнага з іх, па некалькі разоў перарабляючы, дапрацоўваючы, паляпшаючы...

Прыведзеныя ў канцы гэтага тома «Варыянты і разначытанні» дазваляюць скласці ўяўленне аб характары перапрацовак, якія рабіў пісьменнік з мэтай удасканалення сваіх твораў. Найбольш агульнае ў гэтай рабоце — імкненне да сцісласці, лаканізму. І. Мележ неаднойчы падкрэсліваў, што пры стварэнні кожнай літаратурнай рэчы для яго найпершы клопат — уменне пісаць коратка, таму асабліва частай формай удасканалення пэўнага твора выступала скарачэнне. Іншы раз — дастаткова значнае. Разам з тым пісьменнік дужа клапаціўся пра дакладнасць усякага роду вызначэнняў, характарыстык, і лексічныя праўкі таксама займаюць прыкметнае месца.

Заўважаецца, што характар дапрацовак заўсёды вызначаўся пэўнай мэтавай накіраванасцю. Так, напрыклад, аднаактоўка

---

1 Жыццёвыя клопаты. Мн., «Маст. літ.», 1975, с. 404.

2 Там жа, с. 160—161.

3 Там жа, с. 563.

«Хто прыйшоў уночы», мастацкая слабасць якой добра ўсведамлялася пісьменнікам, падпала ў асноўным пад агульналітаратурную апрацоўку.

Дзве ж наступныя п'есы «Пакуль маладыя» і «Дні нараджэння», якія ўбачылі святло рампы, перапрацоўваліся ў адпаведнасці з патрабаваннямі сцэны.

Драма «Пакуль маладыя» ўпершыню была пастаўлена тэатрам імя Янкі Купалы ў 1957 годзе. Пастаноўку ажыццявіла рэжысёр Л. Мазалеўская, галоўныя ролі выконвалі: Грачоў — Б. Платонаў і С. Бірыла, Андрэй — Б. Уладамірскі, Ігар — Ю. Шумакоў, Галя — М. Захарэвіч, Ала — Т. Аляксеева і інш. Крытыка дастаткова цёпла сустрэла спектакль (Я. Рамановіч. «Спектакль пра неспакойную маладосць» — «Літаратура і мастацтва», 1957, 8 чэрвеня; А. Сакалова. «Сучасная п'еса — аснова рэпертуару».— «Правда», 1958, 17 жніўня; У. Піменаў. «Напісаны новыя п'есы».— «Театр», 1960, № 2 і інш.).

Ні характарамі, ні сваёй праблематыкай драма «Пакуль маладыя» не магла пахваліцца значнай арыгінальнасцю. Драматычныя «апавяданні» пра пошукі месца ў жыцці, пра вызначэнне маладымі людзьмі ўласнага прызвання ў сярэдзіне 50-х гадоў былі вельмі пашыранымі. І хаця пісьменніку не ўдалося ўзняцца над агульным узроўнем, аднак п'еса сустрэла прыхільны прыём з боку тэатральнай грамадскасці. Рэжысёраў прыцягвала непадробнае аўтарскае хваляванне, шчырая яго вера ў выхаваўчыя магчымасці мастацтва. Канфлікт паміж Ігарам Вазоўскім і Андрэем Дубковым узнікае не з-за таго, што першы з іх адмовіўся працаваць па заканчэнню інстытута ў глыбінцы, прамяняўшы творчую работу на партфель чыноўніка. Шляхі былых сяброў разышліся па прычыне аб'ектыўнай несумяшчальнасці іх характараў. Вельмі здольны, багата адораны прыродай і розумам, і знешнасцю, Ігар Вазоўскі аказаўся чалавекам пустым, няплённым, бо імкнуўся жыць дзеля вузка асабістых інтарэсаў. Менавіта з-за гэтага ён без жалю топча ўзаемнае каханне да аднакурсніцы Галі Жураўкі, звязвае свой лёс з дачкой прафесара Грачова і г. д. Дзеля задавальнення сваіх эгацэнтрычных амбіцый герой адмаўляецца ад усяго, аб чым марыў разам з Андрэем.

У жыцці такія «дзелавыя» людзі, магчыма, і няблага ўладкоўваюцца. Выкрыць, развянчаць іх пазіцыі надта не проста. А ў творы Ігара напаткала поўнае фіяска. Аўтар карае яго нялюбай мяшчаністай жонкай, абрыдзеўшай працай, адрачэннем былых сяброў — са шкадаваннем, прыкрасцю, пагардай... Робіцца ўсё гэта неяк аблегчана, улабавую. Таму канфлікт траціць належную глыбіню. Дыдактызмам павявае ад трыумфу «серадnațчка» Андрэя Дубкова, які ў далёкім Крутым Яры стварае выдатны станок, тэхнічныя параметры якога намнога пераўзышлі ранейшыя станкі, у тым ліку і апошняе «дзецішча» самога Грачова. Масціты вучоны, на здзіўленне ўсім, лёгка, з незразумелым энтузіязмам прызнае сваё паражэнне, блаславіўляе Андрэя і Галю, якая к гэтаму часу пакахала Дубкова, на будучыя адкрыцці: «Не спыняйцеся! Не растрачвайце сябе ўпустую!.. Працуйце дзень за днём! Пакуль маладыя!»

Словы старога прафесара станавіліся лейтматывам кожнай пастаноўкі п'есы, вызначаючы не толькі яе сцэнічную танальнасць,

але і выхаваўчую скіраванасць. Думаецца, вось гэтая выхаваўчая «фактура» ў асноўным растлумачвае прыхільнасць да п'есы тэатральнай грамадскасці напачатку і дастаткова хуткае забыццё — потым. Справа ў тым, што сваёй звышзадачы тэатры не дасягалі, здавальняючыся павярхоўным, дыдактычна-заклікавым пафасам.

Па часе напісання «Пакуль маладыя» і «Дні нараджэння» раздзяляе менш пяці год. А вось па майстэрству драматургічнага пісьма — дыстанцыя значная, лёгка адчувальная. Ужо ў самых першых водгуках на спектаклі (гісторыка-рэвалюцыйная драма «Дні нараджэння» была пастаўлена спачатку Магілёўскім абласным драмтэатрам (1958), праз год — тэатрам імя Янкі Купалы; апрача таго, спектакль па гэтай п'есе паказваўся са сцэны Крамлёўскага тэатра і па Усесаюзным тэлебачанні) крытыкі адзначалі, што рэвалюцыйныя падзеі адлюстраваны пісьменнікам «добрасумленна і дабраякасна», з гістарычнай дакладнасцю. У спектаклі купалаўцаў (рэжысёр Я. Простаў; у галоўных ролях: Залыгін — У. Дзядзюшка, Мяснікоў — В. Тарасаў, Федасюк — Б. Кудраўцаў і інш.) гледачу імпанавала рамантычная ўзнёсласць паказу дзён нашага нараджэння. Адчувалася, што акцёрам ёсць што іграць, бо пісьменнік вялікую ўвагу ўдзяліў псіхалагічнай распрацоўцы характараў герояў. Паглыбленне ў псіхалогію персанажаў дазволіла І. Мележу з большай паўнатой данесці менавіта чалавечы, гуманістычны змест рэвалюцыйных здзяйсненняў, якія выяўляюць сваю драматычную сутнасць знутры, праз душы і сэрцы непасрэдных удзельнікаў Кастрычніка.

Вобразы драмы вызначаюцца перш за ўсё натуральнасцю, вязмушанасцю самавыяўлення. Асабліва каларытна выпісаны вобразы «салдацкай масы» — Дзятла, Чыбука, Залыгіна... Кожны з іх — яркая індывідуальнасць. Увасабляючы пэўную сістэму асабіста-тыповых рыс характару, яны ў сукупнасці добра ілюстравалі воблік рэвалюцыйнага салдата часоў Кастрычніцкай рэвалюцыі. У. Піменаў лічыў, што вобразы салдат у драме «Дні нараджэння» ўвасоблены арыгінальна, самастойна, што яны «...нацыянальныя, беларускія, і характары іх асаблівыя, і мова іх поўная тонкага нацыянальнага гумару, і дапытлівасць іх нейкая асцярожная, уласцівая беларускаму селяніну, якога не раз ужо ашуквалі і мясцовыя багацеі, і царскія чыноўнікі. Але яны ж, калі прыйшоў час, ва ўсю моц стыхійнага гневу ломяць ненавіснае старое жыццё»[1].

Несумненнай удачай пісьменніка можна лічыць і вобраз Мяснікова. Яшчэ ў 50-я гады крытыкі аднадушна пагаджаліся, што гэта — творчае набыццё ўсёй савецкай драматургіі. Пры абмалёўцы вобразаў выдатных людзей у нашай літаратуры першага пасляваеннага дзесяцігоддзя пераважаў «алеаграфічны», псеўда-манументальны прынцып увасаблення. Яны надзяляліся ўсялякімі вартасцямі і дабрачыннасцямі агульнага плана, іх пазбаўлялі плоці, індывідуальных прыкмет. Старшыня ж першага Мінскага Савета прадстае ў І. Мележа жывой, рэальнай асобай перш за ўсё таму, што паказаны ў канкрэтных справах. Знаны рэвалюцыянер

---

[1] «Театр», 1960, № 2, с. 103.

змагаецца не за нейкія абстрактныя ідэалы, а за канкрэтнае здзяйсненне спадзяванняў канкрэтных людзей: Федасюка, Залыгіна, Дзятла, Чыбука. У ім знітоўваюцца, пераплятаюцца характэрнейшыя рысы духоўнага аблічча бальшавіка. І зноў жа не бальшавіка наогул, а тых, каго чытач ведае па п'есе, з кім пісьменнік паспеў пазнаёміць яго па ходу дзеяння. Гэта робіць воблік А. Ф. Мяснікова псіхалагічна верагоднасным, рэальна бачным.

Думаецца, што поспеху драмы «Дні нараджэння» ў немалой ступені спрыяла і майстэрская, аб'ектыўная абмалёўка прадстаўнікоў контррэвалюцыйнага лагера. Пісьменнік адмовіўся ад прыёмаў шаржыравання, акарыкатурвання, нярэдкіх у той час пры ўвасабленні вобразаў адмоўных персанажаў. І камісар Часовага ўрада Калатухін, і генерал Балуеў, і палкоўнік Грыбаў паказаны натурамі валявымі, моцнымі, небяспечнымі. Сутычка менавіта з такімі людзьмі магла надаць канфлікту патрэбную напружанасць і вастрыню.

Такім чынам на фоне тагачаснай беларускай драматычнай «гістарыяграфіі» (П. Глебка «Святло з Усходу», П. Васілеўскі «Год дзевяцьсот семнаццаты», А. Маўзон «У бітве вялікай» і інш.) драма «Дні нараджэння» не гублялася, а, наадварот, многімі рысамі выгадна вылучалася.

Трэцяя п'еса І. Мележа «У новым доме» па розных прычынах не трапіла на сцэну. І не трапіла, прынамсі, не з-за сваёй мастацкай недасканаласці. Недарэмна ж крытык Д. Бугаёў даводзіць, што гэта «самая арыгінальная п'еса Івана Мележа» [1]. Хутчэй за ўсё п'еса не выклікала «пастановачнага энтузіязму» рэжысёраў з-за сваёй сюжэтна-кампазіцыйнай ускладненасці, якая пры перакладзе твора на мову сцэны прыняла б да пэўных цяжкасцей. Да таго ж не трэба забываць, што ў калізійна-канфліктнай структуры драмы розныя сілы слаба палярызаваны, дабро і зло пераплецены ў ёй вязьмом усё-такі спантанным, хоць і не хаатычным.

Пэўную складанасць уяўляе само жанравае вызначэнне твора. Пісьменнік, напрыклад, лічыць яго драматычнай аповесцю. Ёсць пэўныя падставы і для такога вызначэння, аднак відавочна (сэнсава-змястоўныя параметры п'есы пацвярджаюць гэта), што перад намі — сямейна-бытавая драма, у якой, гаворачы словамі І. Мележа, «аўтар, крытык, даверлівы і недаверлівы гледачы разважаюць і спрачаюцца аб сям'і, каханні, аб справе і абавязках чалавека». У самым пачатку п'есы, аўтар, паставіўшы і адразу ж абвергнуўшы тэзіс аб тым, што жыццё сям'і вывучана і ўсебакова даследавана, заклікае гледачоў да роздуму аб сумленнасці і шчасці, аб праве на каханне і грамадзянскіх абавязках. У яго няма гатовых адказаў на няпростыя пытанні сямейных узаемаадносін і наогул — паміж мужчынам і жанчынай. Для яго бясспрэчны толькі дзве ісціны. Першая: сям'я, якая трымаецца не на ўзаемным каханні,— амаральная. Другая: за памылкі бацькоў дзеці не павінны расплачвацца сіроцтвам. Аўтар поўнасцю салідарызуецца

---

[1] Бугаёў Дзмітрый. Вернасць прызванню. Мн., 1977, с. 85.

са словамі старога рабочага Дудко: «І было б от добра, каб у новых дамах і наогул у такім новым, прыгожым горадзе людзі сумленныя ўсе, культурныя і жылі добра, справядліва». Сапраўды, было б добра. Але як гэтага дасягнуць?

Пытанне, як кажуць, засталося адкрытым. Ну што мог параіць аўтар Быліцкаму, які, горача пакахаўшы Ольгу, парывае з уласнай сям'ёй, робіць бязбацькавічам любімага сына Валодзьку? Асудзіць яго? Пахваліць? Або як аднесціся да рашэння былой жонкі Быліцкага Любы, якая ў рэшце рэшт таксама пакахала харошага чалавека Галіна, але адмаўляецца ад асабістага шчасця дзеля Валодзькі? Дзеля спакою жонкі Галіна, шчасця яго дзяцей?

Не трэба ханжаства, даводзіць аўтар. Патрэбна толькі не даваць волю эгаістычным, спажывецка-фізіялагічным прыхамацям. Адказнасць і яшчэ раз адказнасць, калі ад вашага рашэння залежыць будучыня, шчасце іншых. Узаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай у прыватнасці і сямейныя ўзаемадачыненні наогул — стануць і разумнымі і справядлівымі, калі яны будуць абумоўлены больш высокім узроўнем эмацыянальнай культуры чалавека. А пакуль што аўтар добра ўсведамляе дыстанцыю паміж ідэалам і рэальнасцю, таму ад драмы мякка, але вельмі адчувальна павявае гаркаватай скрухай.

Да згаданых вышэй высноў пісьменнік прыводзіць спакваля, аб'ектывізавана. Гэтыя высновы «працярэбліваюць» сабе шлях праз мноства асабістых пазіцый, праз складаныя жыццёвыя перыпетыі, увогуле — праз шматпланавую структуру твора. Рэтраспектыўны план, дыскутаванне аб праблемах маралі і сям'і на розных узроўнях падрыхтаванасці, зацікаўленасці і разумення — усё скіроўваецца пісьменнікам да вяршынь Ісціны. І не яго толькі віна, што яны засталіся ў прынцыпе няскоранымі. На стромы ў адзіночку не ўзбіраюцца — патрэбна звязка падрыхтаваных аднадумцаў.

Драму «У новым доме» І. Мележ не называў сярод тых твораў, работа над якімі дапамагла яму выйсці на вялікую прозу. Аднак і без гэтага відавочна, што крупінкі мастацкіх знаходак, самахоць рассыпаных па ўсёй канве п'есы, у «Палескай хроніцы» заззялі прыкметна, у зграбна арганізаваных мастацкіх строях.

*СЦЯПАН ЛАЎШУК*

## ХТО ПРЫЙШОЎ УНОЧЫ (стар. 123)

*Друкуецца па Зб. тв., т. І.*

Упершыню — зб. «Дні нашага нараджэння. Хто прыйшоў уночы». Асобным выданнем п'еса выйшла ў 1966 г. у серыі аднаактовых п'ес.

Датуецца 1945 г.

У першадруку дзеючая асоба Цобель (Пятро) мае імя па бацьку Цобель (Пятро Андрэевіч).

Ва ўласным архіве І. Мележа маецца машынапіс п'есы на рускай мове з праўкамі аўтара.

## ПАКУЛЬ МАЛАДЫЯ (стар. 139)

*Друкуецца па Зб. т., т. IV.*

Упершыню — «Полымя», 1956, № 12 пад назвай «Пакуль вы маладыя» з падзагалоўкам (Памылкі маладосці).

Датуецца 1955 г.

Асобным выданнем п'еса выйшла ў 1958 г. П'еса была перакладзена на рускую, украінскую і славацкую мовы [1].

У рукапісным архіве Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР захоўваюцца:

1. Машынапіс п'есы з праўкамі аўтара пад назвай «Пакуль вы маладыя» (65 л.).

2. Машынапіс п'есы на рускай мове з праўкамі аўтара пад назвай «Пока вы молоды» (72 л.).

Ва ўласным архіве І. Мележа маюцца:

1. Машынапіс п'есы (89 л.).

Датуецца 1955 г.

Гэта адна з першапачатковых рэдакцый п'есы, якая не была надрукавана. Яна мае значныя адрозненні ад астатніх машынапісаў і друкаваных крыніц. П'еса складаецца не з шасці, а з сямі карцін. Прозвішчы, імёны і імёны па бацьку многіх дзеючых асоб адрозніваюцца ад іх прозвішчаў, імён і імён па бацьку ў іншых машынапісных і друкаваных тэкстах (Лазоўскі Ігар Іванавіч, выкладчык інстытута, інжынер; Кажэўнікаў Андрэй Пятровіч, інжынер; Кавальчук Таццяна Антонаўна, інжынер; Алімпіяда Апанасаўна, Вярба, цётка Саня, прыбіральшчыца; Качура, галоўны канструктар завода; рабочыя). Лазоўская Серафіма Ігнатаўна (маці Ігара Іванавіча Лазоўскага) і Губаносаў (дацэнт) ва ўсіх астатніх крыніцах тэксту адсутнічаюць.

На 2-й старонцы машынапісу маецца паметка: «Дзея адбываецца ў Мінску і ў Глушцы, на новапабудаваным заводзе. Паміж першай і пятай дзеямі праходзіць тры з палавінай гады».

2. Машынапіс з праўкамі аўтара (78 л.). Датуецца 1970 г.

3. Машынапіс (77 л.).

Акрамя таго, ва ўласным архіве І. Мележа маецца зб. «Пакуль вы маладыя» з праўкамі аўтара і паметкай на вокладцы: «Да зб. твораў, т. IV». Назва «Пакуль вы маладыя» выпраўлена на «Пакуль маладыя». На апошняй старонцы дата напісання 1955—56 гг. выпраўлена на 1955 г.

### *Варыянты часопіса «Полымя», 1956, № 12:*

Стар. 139, радкі 4—6, замест:

Ігар Вазоўскі. // Дубкоў Андрэй }
Андрэй Дубкоў. // Жураўка Галя } інжынеры.
Галя Жураўка. // Вазоўскі Ігар }

---

[1] Мележ И. Пока вы молоды. М., «Искусство», 1958 г. Мележ И. Пока вы молоды. М., ВУОАП, 1958 г. У скарочаным варыянце газ. «Радянська культура», 1957, 19 верасня. Мележ І. Пакуль вы маладыя. Браціслава, 1959 г.

Радок 7, пасля: Сяргеевіч // — прафесар.

Радок 10, замест: Аляксандра Сцяпанаўна. // Андрэйчык Аляксандра Сцяпанаўна — загадчыца лабараторыі.

Радок 12, пасля: Далінюк // — галоўны канструктар завода.

Радок 13, пасля: Студэнты //, рабочыя.

Стар. 140, радкі 18—25, замест: Эх ∾ скончыцца... // Што ж, дарагі калега, фініш хутка?

Андрэй. Іменна, мой друг Шчасліўцаў.

Ігар. Мяне завуць, па пашпарту, Ігар, сын Іванавіч...

Андрэй. Я не забыў, Ігар, сын Іванавіч. Проста, мне здаецца, другое больш падыходзіць. Хараство, здольнасці, пашана, любоў...

Ігар *(перабівае, міласціва)*. Кінь гэтыя свае ўколы. Эх, Андруша, як жа мы расстанемся, а? Пяць год ложкі поруч, кніжкі разам, адны канспекты, па чарзе...

Андрэй *(у тон яму, іранічна)*. Адзін чайнік, з якім па чарзе хадзілі па кіпень да «тытана». Аднаго «тытана»...

Ігар. Іменна. Адна заварка.

Андрэй. Ложкі побач на працягу пяці год! *(Не дае Ігару гаварыць.)* Адна нават дзяўчына...

Ігар. Ты сёння не з той нагі ўстаў. *(Мяняе размову.)*

Радок 28, пасля: Ігар. // Ты проста куражышся. Але...

Стар. 142, радкі 7—10, замест: Кожнай ∾ душою... // За то, чтоб осталась душа молода, навсегда, навсегда!»

Стар. 143, радкі паміж 5—6: Вось так заўсёды. Жывуць, дружаць тры чалавекі, і ўсім ім добра, а потым раптам аказваецца, што адзін з іх лішні. Адзін — чужы. Толькі чаму гэты лішні заўсёды я?

Галя. Таму, таму — што злы.

Андрэй *(шчыра)*. Не злы я, Галечка. Не злы... Я толькі, можа, недаверлівы. Мяне не раз крыўдзілі — рос без маці, хваробы. Потым фронт, гібель таварышаў... *(Схамянуўся, суха.)* Глупства ўсё гэта, Галя, што я сказаў. Не слухай.

Галя глядзіць убок. За нечым назірае.

Стар. 143, радок 40, пасля: Чакаць! // Такі талент — і пасылаць куды-небудзь у глушыню?! Тата кажа — ён чалавек з будучыняй...

Стар. 144, радкі 15—16, замест: Потым ∾ Хадзем! // Я за табой павінна бегаць? Хадзем! Ну вось, аддала! Няхай цяпер просьбу Захара...

Радкі 18—19, замест: Потым ∾ хоча! // Божа, нібы дзіва якое? Нібы кожная маці не зрабіла б?.. Колькі клопату! І ўсё ад чаго — ад капрызу твайго бацькі!

Стар. 145, радок 20, пасля: цікавіць! // Зноў наплывае песня пра маладосць, пра хараство маладосці.

Стар. 146, радок 14, замест: маладосць! // моладзь!..

Радкі 17—18, замест: Круты ∾ куток. // Была там у мяне... знаёмая нават. Добрая знаёмая.

Радкі 19—20, замест: У ∾нейкая? // Чым? Вас пакрыўдзілі? Хто?

Ігар маўчыць.

Радок 33, замест: Разумныя // Геніяльныя

Радок 34, пасля: глебе. // Да таго ж ён канструктар, прыроджаны канструктар!

Радок 37, пасля: вучоных. // І так многа здольных людзей завялі без сонца, пастарэлі дачасна...

І г а р. Ёсць нямала і такіх, што заглухлі, абвялі ў розных ярах.

Г р а ч о ў. Значыцца, таго яны і варты! Ленасць і кволасць заўсёды шукаюць апраўдання... *(Любоўна.)* Я на вас спадзяюся!

І г а р *(стрымана).* Дзякую, прафесар.

Г р а ч о ў. У вас ёсць здольнасці, дапытлівы розум — вас чакае добрая дарога...

Радкі 37—40. Нічога ∾ будзеце! — адсутнічаюць.

Радкі 42—43, замест: Ну, ∾ Задаволены? // Анна Апанасаўна падышла з выглядам пераможцы.

Стар. 147, радкі 1—12, замест: Анна ∾ месца! // Г р а ч о ў. Ну што? Куды?

А н н а А п а н а с а ў н а *(горда).* Вядома куды! Упраўленне міністэрства. Інжынер упраўлення Грачова.

Г р а ч о ў. Дабілася!..

А н н а А п а н а с а ў н а. Дабілася. Дайшла да Захара Міхайлавіча!.. Заяўку!..

А л а. Мама!

А н н а А п а н а с а ў н а. Што тут такога? Хіба не зрабіла б гэтага кожная?..

Стар. 151, радкі 9—10, замест: А ∾ вінаваты? // Знойдзе і цябе шчасце, Андрэй! Не адна яна такая на свеце.

Радок 11, пасля: Андрэй. // Для мяне яна, можа, адна.

Радок 20, пасля: здаецца... // І адну любіць, і пра другую думае.

Пасля: (Схамянуўся.) // Хопіць пра гэта...

Стар. 153, радкі 32—34, замест: Усе ∾ душою! // Эх, шкада, што я толькі токар. Ну, нічога — вось скончу вячэрнюю школу... А там — інстытут, і ўсё!

Радкі 35—36, замест: У ∾ адчыніць! // А н д р э й *(жартаўліва).* Хутка?

Я ў г е н ь. А што ж. І не агледзіцеся, як я буду гатоў. Канструктар!

Стар. 156, радкі 24—28. Ігар. ∾ *(Выходзіць.)*— адсутнічаюць.

Радкі 33—34, замест: так ∾ нарэшце // хачу; радок 37, замест: Пачакаць?! ∾ насцярожана. / // Нельга...

Радок 39. Хто? ∾ І — адсутнічаюць; радок 39, пасля: Грачоў. //

Г а л я. Грачоў? Можа, Грачова? Ала?

І г а р. Ну, яна — з дапамогай Грачова.

Стар. 157, радок 10, замест: нешта нядобрае // штосьці страшнае

Стар. 158, радкі 14—15, замест: Пад ∾ здаровыя. // — яна, відаць, пасля бальніцы яшчэ не зусім паправілася. Час позні.

Радкі 21—22, замест: раскрывае ∾ канапы. // Разгортвае — з кнігі падае канверт. Галя падымае.

Ліст твой... *(Хоча аддаць Андрэю.)* Што гэта — з рэдакцыі?! Дваім — табе і Ігару!

Андрэй. А, быў такі грэх. Калісьці мы артыкул пасылалі, з Ігарам. Месяца паўтара насіліся з ім, спрачаліся, тварылі... А атрымалі адны шышкі!..

Галя. Можна пачытаць?

Андрэй. Чытай. Хоць гэты ліст і не павялічыць тваю пашану да мяне...

Галя. Дык яны ж добра пішуць. «У артыкуле робіцца спроба паставіць некаторыя пытанні далейшай аўтаматызацыі ў станкабудаванні... Аўтары правільна ўказваюць... усім слушна адзначана...»

Андрэй. Гэта так — для пачатку... Далей усё якраз наадварот. Аўтары недаацанілі, аўтары пераацанілі... Ёсць такія майстры даць па твары, што каб не балела, дык, здаецца, хоць ты дзякуй!..

Галя. Ты не перажывай! Не варта!.. *(Аддае пісьмо).* Стар. 158, радкі 31—37, стар. 159, радок 1, замест: Нічога ∾ ты!.. // Затое — справа якая!.. *(Усхвалявана.)* Чалавецтва навучылася вызваляць энергію, што таілася ў атаме... Але ёсць іншая энергія, агромністая энергія, якую адбірала, глушыла ў людзях фізічная стома. Гэта цягнулася стагоддзямі. Такія машыны, як наша, будуць вызваляць гэтую энергію. Стома не будзе затуманьваць галаву. Энергія розуму чалавека будзе ўся аддадзена самаму прыгожаму, самаму высакароднаму — творчасці.

Галя. Сапраўды, колькі вызваліцца... атамнай энергіі! *(Засмяялася.)* Фантазёр ты. Я і не ведала! *(Задуменна.)* Пра чалавецтва загаварыў. Ці маем мы права такой меркай мераць?

Андрэй. Што ж, вялікія рэкі таму і вялікія, што ў іх цякуць вялікія, можа быць, безыменныя ручаі...

Галя. Ручаі...

Стар. 159, радок 11, пасля: сваё! // Людзі на нас не будуць у крыўдзе.

Радок 12, замест: ...сваё... // ...у крыўдзе...

Радок 13, замест: Сваё? // У крыўдзе не будуць?.. Калі мы што-небудзь зробім... *(Іранічна).* Адным словам, дай божа і нашаму цяляці ў людзі выйсці!.. Праўда? Што ты маўчыш? Не хочаш гаварыць?

Радкі 16—22, замест: *(схіліла ∾ яе.)* // паклала галаву на кнігі, што на «качалцы», амаль ляжыць. Спіць! Устае ўражаны.) ... Такая вынослівая! Вось табе і вынослівая!.. *(Стаіць разгублены, не ведае, што рабіць. Узяў падушку з ложка, асцярожна падлажыў пад галаву ёй. Прыкрыў лямпачку так, каб святло не падала на Галю).* Стамілася!.. У-у, цецярук! Не мог здагадацца! *(Пастаяў заклапочана, накрыў Галю паліто. Падумаў, вагаючыся, асцярожна зняў туфлі, паклаў яе ногі на канапу. Яна не прачнулася. Ухутаў ногі).*

Стар. 163, радок 5, пасля: арміі. // Чатыры гады праваяваў...

Радок 7, пасля: узростам... // Аляксандра Сцяпанаўна. Выдумалі! Крыўдзіў ён, мусіць, некаторых...

Галя. Усяляк было... Андрэй любіў спрачацца, іранізаваць. Многія і яго навуковую, як бы сказаць, самастойнасць бралі за звычайную задзірыстасць. Адным словам, лічылі ў нас, ён зор не хапаў...

Радок 8. Выдумалі! — адсутнічае.

Стар. 167, радкі 41—43, стар. 168, радкі 1—6, замест: Мне ∾ добры // Гэта яшчэ горш... Я люблю жыццё! Шум сталіцы, тэатры, раскошу і бесклапотнасць рэстаранаў, чароўныя прынады такіх вось мілых вочак!

А л а. Ты таксама крыху няўдачнік...

І г а р. Часова.

А л а *(раптам усхвалявана)*. Я памылілася ў жыцці толькі два разы. Адзін раз — выбраўшы за мужа такога чалавека. А другі — паступіўшы ў інстытут. Потым я зразумела памылку, але не хапіла смеласці пачаць усё зноў. Адтуль і пачалося. Сапраўды, як гэта нудна, рабіць тое, што табе не да сэрца.

І г а р. Ты ж мяне разумееш!

А л а. Разумею. *(Знарок весела.)* Ігарчык...

Стар. 169, радкі 20—21, замест: ты ∾ жонкі? //, а ў яго няма часам гэтых рэпрэсіраваных?

Радок 22, замест: Якой ∾ табе? // Якіх рэпрэсіраваных?

А н н а А п а н а с а ў н а. Ну, сваякоў, блізкіх.

Г р а ч о ў *(абурана)*. Ты... Навошта гэта ўсё табе, гэта размова? *(Уражаны)*.

Радок 24, замест: Яны ∾ дзеці. // (нібы бесклапотна). А што тут такога?

Радок 25, замест: Не дзеці? // *(гнеўна)*. Што?! Ты пытаешся? Ты не ведаеш?

Радок 37, замест: Адумайся! // *(Злосна)*. Шалёны!

Стар. 171, радок 15, пасля: разумееш // *(Ківае непрыхільна на пакой, дзе Ігар.)* А там, там яшчэ адзін. Марнатравец.

Стар. 172, радкі 33—41, стар. 172, радкі 1—8, замест: Вам ∾ Тата! // Я пакіну ў баку размову пра тое, што мне не падабаюцца вашы заляцанні да маёй дачкі...

А л а. Тата!

Г р а ч о ў. Я сказаў, што пакідаю гэта ў баку... гэта асобая размова. Хоць гэта, паўтараю, мне вельмі не падабаецца. Як бацька, я адношуся да гэтага непрыхільна.

Так, непрыхільна! Прашу ведаць! Але я павінен сказаць пра іншае. Як прафесар, як — калі хочаце — проста старэйшы чалавек, я заяўляю, што вельмі незадаволены тым, што вы кінулі працу ў Крутаярску... Гэта значыць, фактычна — уцяклі...

І г а р. Аляксей Сяргеевіч...

Г р а ч о ў. Я на вас у інстытуце меў надзеі, вы гэта ведаеце. А вы дэзерціравалі!.. Вы сталі фактычна — марнатраўцам! Вы лётаеце па жыцці, як матылёк. Растрачваеце сябе на глупства! Так, на глупства, на пустыя дробязі!

І г а р. Што ж, у жыцці, на жаль, трэба лічыцца з дробязямі. Іх не абыдзеш.

А л а. Ён свайго дасягне!

Г р а ч о ў *(Ігару)*. Вы жывяце занадта пуста, дробна для таго, каб быць нават хоць бы карысным. Я ў вас расчароўваюся!

А л а. Папа!

Г р а ч о ў. Так! Расчароўваюся.

Стар. 172, радкі 19—39, замест: Тата ∾ запрашаем. // Як табе не сорам, папа! Ігар, не слухай яго.

Г р а ч о ў. Як гэта не слухаць мяне? Хто тут гаспадар? Хто?

А л а. Усе. Кожны сам сабе гаспадар.

А н н а А п а н а с а ў н а. Так. Кончыўся твой культ!

Г р а ч о ў. Што ж я — у адзіноце? Адзін? Адзін — у сваім доме! *(Выходзіць абураны, непахісны.)*

І г а р. Я іду. Даруйце, што прынёс такі неспакой... Я, вы ведаеце, не хацеў...

А н н а А п а н а с а ў н а. Не звяртайце ўвагі, Ігар Іванавіч. Не крыўдуйце.

І г а р. Не, я не магу, Анна Апанасаўна, не крыўдаваць. Мяне так незаслужана абразілі, што я не магу застацца...

А л а. Мама, ідзі да яго. Скажы, што я патрабую, каб ён папрасіў прабачэння...

А н н а А п а н а с а ў н а. Прабачэння?

А л а. Прабачэння! У Ігара!

А н н а А п а н а с а ў н а. Што ты выдумала? Ты не ведаеш яго? *(Уздыхнула.)* Хіба пазней, калі ён супакоіцца?..

А л а. Цяпер!

А н н а А п а н а с а ў н а. О божа! Ну, няхай!

Анна Апанасаўна выходзіць.

Стар. 175, радок 13, пасля: Грачоў. // Вось яны, мае сокалы!.. Недарма жыў Грачоў... Радкі 14—15, замест: тут ∾ іншыя. // на заводзе, глядзелі, як працуюць... папярэднікі; радок 33 Цікава...— адсутнічае; радок 33, пасля: Цікава... // Андрэй. Станкі грамозныя, часта псуюцца.

Г р а ч о ў. Гм... Вы далучаецеся да... думкі на заводзе?

Стар. 176, радок 1, пасля: Г р а ч о ў // *(пакрыўджана).* Дзякую; радок 4, пасля: людзі? // І самаўпэўненыя. Так — самаўпэўненыя!..

А н д р э й. Упэўненасць — гэта яшчэ не самаўпэўненасць!..

Г р а ч о ў. Грачова — выкінуць... Ці не зарана?

А н д р э й. Хто вас думае выкінуць?

Г р а ч о ў. Вы! Хіба ж не?

А н д р э й. Вы ўзрушаны. Я разумею — крыўдна, калі няўдача, але...

Г р а ч о ў. Няўдача? Аб тым, удача ці няўдача, дайце меркаваць другім!

А н д р э й. Так думаю не адзін я.

Г р а ч о ў. Вас ніхто не ўпаўнаважваў.

А н д р э й. Што ж, так думаю я!

Г а л я. Аляксей Сяргеевіч, вы дарэмна злуецеся, мы нічога супраць вас не маем.

Г р а ч о ў *(сярдзіта).* Ну, вядома,— нічога супраць! Сказаць, што Грачоў нікчэмнасць,— нічога супраць!..

Радок 10, замест: А н д р э й. // Г а л я *(прымірэнча).*

Радок 11, замест: Быць ∾ няўдачы... // пагарджаць другімі. Радкі 12—13:

Г а л я ∾ стрымаць. — адсутн.; радкі паміж 13—14: Г р а ч о ў. Гэта тым больш не дае вам права... не паважаць тых, хто ўжо зрабіў. Хоць бы датуль, пакуль не дасягнеце самі лепшага. Не дакажаце!

Андрэй. Нічога, калі на тое пайшло — мы дакажам!
Радок 14, пасля: Грачоў. // Дакажыце!..
Радкі 15—16, замест: Пытацца ∾ працы? // Не пытацца ж, не вучыцца?
Радкі 17—19, замест: Галя. ∾ павагу!.. // Андрэй. Відаць, памыліліся адрасам. Паверылі вашым шчырым словам з кафедры... Ашукаліся!
Грачоў. Якая самаўпэўненасць!.. Выхаваў!
Ігар. Аляксей Сяргеевіч, будзьце справядлівы. Нельга рабіць адзін выпадак правілам.
Грачоў. Выхаваў! Навучыў!
Радкі 29—30, замест: (ходзіць ∾ Грачовым.) // Гегель другі знайшоўся.
Радкі 31—34, замест: (пасля ∾ Галя. // Чаму Гегель?
Андрэй. Той лічыў, што развіццё — закон матэрыі. І разам з тым хацеў давесці, што на ім уся філасофія канчаецца.
Галя *(пасля паўзы)*. Ігар, мне хацелася многа табе сказаць... Калі я думала пра цябе... Цяпер — усё кудысьці знікла...
Стар. 177, радок 16, пасля: дарога, // лінія. Дарога, па якой ён павінен ісці і якая вызначае, як ён павінен адносіцца да ўсяго іншага.
Ігар. Што ж гэта за такая галоўная дарога?
Андрэй. У нас з табой — гэта канструктарская справа, творчасць. Жыць для яе! Усё, што замінае, — убок, прэч!
Ігар. Які аскетызм!
Андрэй. Гэта закон жыцця.
Радок 17, замест: віляць ∾ розныя // пятляць, не кідацца туды і сюды, куды пацягнуць спакусы лёгкага жыцця... сталічныя; радок 22, пасля: разумееш. // Але я павінен яшчэ сказаць...
Радок 30, пасля: паўтульней... // калі другія важдаюцца з нейкімі заданнямі...
Стар. 178, радок 2, пасля: Яр? // Ігар. Чаго шкадаваць? Барак?
Галя. Ты там жыў па-сапраўднаму. Працаваў...
Стар. 179, радок 12, пасля: дзверы // — праз іх уваходзяць; радкі 12—13, замест: Адтуль ∾ Галя. // Выходзяць трое — два рабочыя і дзяўчына; радок 13, пасля: Галя. // Першы рабочы. Вось табе і аўтамат!
Другі рабочы. Паглядзіш — залюбавацца, камбінат цэлы! Механіка! Адно слова — трыста шэсцьдзесят тон!
Першы рабочы. Тон многа! Ды толку мала!..
Дзяўчына. А казалі, што ён заменіць пяцьдзесят звычайных станкоў. Сто пяцьдзесят рабочых!..
Першы рабочы. Павінен! Пакуль ён не замяняе і аднаго!..
Дзяўчына. Ён жа працуе! Ну, ліст не цягне — падумаеш!
Першы рабочы. Што ж, яго, ліст гэты, рукамі цягнуць?! У аўтамаце?..
Другі рабочы. Пацягнеш яго! На такі стальны лісток патрэбен, мусіць, узвод добрых здаравіл!

Дзяўчына. Шкада мне іх, Галіну і Дубкова!..

Другі рабочы. Што шкада, то шкада! Здароўя ўбілі яны многа, і вось— радуйцеся!.. *(Выходзяць).*

Уваходзяць Андрэй і Галя.

Андрэй. Пара б дахаты!.. Толькі я, мусіць, тут і начаваць буду!

Галя. Што з табой? Ты ўвесь час моршчышся, нібы ад болю.

Андрэй. Галава баліць! Кантузія даўняя напамінае...

Галя. Пашкадаваў бы ты сябе! Адпачыў!.. Выгляд у цябе хворы!..

Андрэй. Дзякую за спачуванні!.. Яны мне заўсёды вельмі памагаюць.

Галя. Які ты злы бываеш!

Андрэй. Ёсць жа і нязлыя, добрыя. Адзін з іх прыехаў назіраць, падганяць!.. Бідаць, заадно рашыў успомніць былое каханне... вярнуць.

Галя. Як ты можаш так гаварыць!

Андрэй. Проста дзіўна, колькі ён, гэты вяртун, будзе трапляцца мне на дарозе! І не разумею, як ты дасюль не адвучыла яго паглядаць у твой бок...

Галя. Ты ж ведаеш, ён цяпер жанаты!.. І наогул, што мне — глядзіць хто на мяне ці не глядзіць?!

Андрэй *(усхвалявана).* Ведаеш, я цябе... *(Рэзка)...* любіў! Ну любіў, ведаеш жа сама, чаго тут! Чакаў, спадзяваўся. А ты... Надакучыла ўсё! Вось скончыць бы хутчэй!

Галя. Што тады?

Андрэй. Перавод папрашу... Жыві, рабі, што хочаш! Любі... каго хочаш!

Галя *(спачувальна).* Андрэй!..

Андрэй. Не трэба! Не хачу жаласці! Чуеш — не хачу!.. І наогул, глупства ўсё гэта, што я сказаў... *(Мяняе размову.)* Чорт пабяры, што ж такое з валкамі?! Чаму яны капрызнічаюць?

Радкі 14—19. Андрэй. ∾ *душой...*— адсутнічаюць.

Стар. 179, радкі 23—28. Андрэй. ∾ мужчынаю! — адсутн.

Стар. 180, радок 4, пасля: ўпаўнаважаны // міністэрства... зрываем тэрмін заказу, вось ён і павінен пастарацца; радок 7, замест: якое начальства // Выскачыў як...

Галя. Начальнік. Цяпер ад яго залежыць наш лёс...

Радкі 8—9. Галя ∾ хочацца. — адсутнічаюць.

Радкі 12—30, замест: Не ∾ Хадзем. // Не разумею, чаму яго паслалі сюды? Які ён кансультант нам? Нібы знарок, каб звесці нас, пасварыць...

Аляксандра Сцяпанаўна. А можа, гэта ён, упаўнаважаны Вазоўскі, падстроіў?

Галя. Нашто?

Аляксандра Сцяпанаўна. Ну, яны ж з Андрэем — не сябры. Злуе ён, мусіць, на Андрэя... Ну, яшчэ — не хоча, каб пераганалі...

Галя. Не можа быць...

Аляксандра Сцяпанаўна. Галечка, трымайся, не

вешай галавы. У жыцці, сама ведаеш, усяляк бывае, не адны ўдачы... *(каб суцешыць, узрадаваць Галю, нечакана).* Андрэй так любіць цябе...

Г а л я *(пасля паўзы).* Не, не любіць ён... Кончана.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Што ты, Галечка?!

Г а л я *(горача).* А хіба я горшай стала? Ад таго, што ашукалася, паверыла?..

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Не горшай.

Г а л я. Што ж, нібы так абавязкова каханне? Нібы нельга абысціся без яго?.. Ну, я пайшла. Што там робіцца?!

Стар. 181, радок 5, замест: Не ўправіліся. *(Выходзіць.)* // Мы вінаваты?

І г а р *(з усмешкай).* Вінаваты заўсёды стрэлачнік!

Радкі 6—10, замест: ідзе ∾ дзвярэй. // *І Галя выходзяць. Праз хвіліну паяўляецца Грачоў.*

Радок 11, пасля: Шура? // !Ты — тут? Добры дзень!..

Стар. 181, радок 12, стар. 183, радок 26, замест: Добры ∾ памерці! // Зайшла вось. Непакоюся за Галю... Аляксей, як табе ў нас?

Г р а ч о ў. Сумна, Шура... Ведаеш, няма нічога горш, як наведваць любыя мясціны, успамінаць маладосць...

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Успамінаеш?

Г р а ч о ў. Успамінаю.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. І сумна, кажаш...

Г р а ч о ў. Ведаеш, я чамусьці тут асабліва адчуў, што пастарэў і што многае ў маім жыцці было не так.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Праўда?

Г р а ч о ў. Прывыкае чалавек да страт... самых цяжкіх. Адным задаволены — сынам. Наследнік. *(Нечакана, глыбока.)* Дзякуй і табе і... даруй, Шура.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. І... ты мне... даруй...

Г р а ч о ў. За што?

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. За тое ж... Харошыя ўсё ж дні былі!..

Г р а ч о ў. Магло б іх быць многа! Падумаць толькі — адна памылка, і — на ўсё жыццё!

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Не трэба!.. *(Паўза.)* Ты бачыў, што зрабілі твае... вучні?

Г р а ч о ў. Рэч цікавая. Але валкі — дэфект.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Дэфект? Чаму?

Г р а ч о ў. Памылкі ў разліках цягавай сілы.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. А можа, гэта нічога, невялікі дэфект?

Г р а ч о ў. Рэч з дэфектам, нават самая цікавая,— не рэч. А гэта ж аўтамат! Яму трэба працаваць.

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Яўгень усё ж гаворыць — міравы.

Г р а ч о ў. Яўгень? *(Панура змоўк.)* Ён, здаецца, не надта шануе мяне...

А л я к с а н д р а С ц я п а н а ў н а. Аляксей Сяргеевіч, табе крыўдна. Але — калі ў іх можа быць лепшы — будзь справядлівы. Памажы!

Г р а ч о ў. Абяцаў. *(Задуменна.)* Што такое яна — справядлі-

васць! Самому сабе прысуд вынесці? На сметнік сябе выкінуць, сваю славу, сваю радасць, гонар свой!.. Самому сабе!

Аляксандра Сцяпанаўна. Справядлівасць усё роўна адолее. Усяму свой час: быў твой час, цяпер — іх. Успомні, як табе маладому было. Помніш — скардзіўся? Успомніў... Яўгень гэты аўтамат так любіць...

Грачоў. І сын супраць? Мала ўсяго — яшчэ і сын супраць! Яшчэ не пагаварылі, а ўжо — супраціўнікі!

Аляксандра Сцяпанаўна. Не ворагі.

Грачоў. Але і не прыяцелі! *(Паўза.)* Змянілася ты, Шура...

Аляксандра Сцяпанаўна. Даўно не бачыліся...

Грачоў. Т-так...

Аляксандра Сцяпанаўна. Даўно...

Грачоў. Дзіўна, людзі, калі мы іх... не бачым, здаецца, не старэюць.

Аляксандра Сцяпанаўна. Ты таксама змяніўся, Аляксей... Сяргеевіч... Але вочы такія ж... як тады...

Грачоў. Такія... А сэрца — іншае... Як табе жывецца, Шура?

Аляксандра Сцяпанаўна. Нішто сабе, Аляксей Сяргеевіч.

Грачоў. Скажы, як наш Жэня?

Аляксандра Сцяпанаўна. Працуе... Аляксей... ты думаў — добра гэта, што Жэнька на завочным?..

Грачоў. Я думаў... Добрае тут ёсць — няхай прывыкае, гартуецца...

Аляксандра Сцяпанаўна. Цяжка яму...

Грачоў. Стамляецца?

Аляксандра Сцяпанаўна. Стамляецца. Хоць і не кажа... і час такі — выбірае ж дарогу на многія гады. Баюся, каб не занядбаў ён вучобу з гэтым завочным... Душа ў мяне баліць за Жэньку.

Грачоў. Цяжка, кажаш, яму?

Аляксандра Сцяпанаўна. Нялёгка.

Грачоў. Я магу памагчы яму на стацыянар перайсці...

Аляксандра Сцяпанаўна. Ён хоча завочна...

Грачоў. Завочна?

Аляксандра Сцяпанаўна. Завод не хоча кідаць.

Грачоў. Ты добра гаварыла з ім пра гэта?

Аляксандра Сцяпанаўна. Добра. Але ён такі ўпарты! Што і рабіць, не ведаю.

Грачоў. Завочна... Вось што... Гэта нельга вырашаць без яго. Я павінен параіцца з ім... *(Паўза.)* Толькі мне ўсё не ўдаецца пагаварыць з Яўгенем. Учора прасіў яго зайсці — не дачакаўся. Не хоча гаварыць, ці што...

Аляксандра Сцяпанаўна. Вінаваты мы перад ім, Аляксей.

Грачоў. Ён асуджае мяне... Я адчуў гэта яшчэ, калі прыязджаў мінулы раз...

Аляксандра Сцяпанаўна *(збянтэжана)*. У іх, маладых, усё проста... Да таго ж, у яго падставы ёсць крыўдаваць! Без бацькі быў. Я не магла прывучыць звыкнуцца з гэтым!

Грачоў. Балюча, Шура!.. І ўсё ж я яго люблю!.. Не толькі таму, што ён сын... Ды мне здаецца, што ён і не сын мне.

Аляксандра Сцяпанаўна. Што?

Грачоў. Не сын. Гэта я сам, сам — Грачоў Алёшка — многа год назад. Не такі, як цяпер, а тады, як тады. Без званняў, без ордэнаў! Мне здаецца, я быў тады якраз такі. Я ўбачыў сябе! Яршысты, задзірысты, гатовы на ўсё — перамагчы або памерці! Лёс даў мне люстра — глядзі!

Стар. 184, радкі 24—43, стар. 185, радкі 1—8. Замест: Яўгень ∾ адказаў. // Перш чым асуджаць каго-небудзь... трэба ведаць яго... Тым больш — бацьку.

Яўгень. У нас розныя погляды.

Грачоў. Погляды? Я пакуль не ведаю іх, тваіх поглядаў. А тое, як ты сябе трымаеш,— проста фанабэрыя... Я зусім не збіраюся, Яўгень, апраўдвацца. Я проста хачу памагчы табе. Мне, вядома, добра было б, каб ты зразумеў мяне і каб...

Яўгень. Апраўдаў! Апраўдаў за тое, што адракліся?

Грачоў. Не адракаўся я. Я шкадаваў, што разышліся мы... што не ваяваў за яе, за маці тваю.

Яўгень. Калі б вы любілі яе, вы ваявалі б.

Грачоў. Я любіў яе, Яўгень. Мне было крыўдна пасля — калі яна не захацела ехаць са мной... Потым я зрабіў другую памылку... Сышоўся зноў з чалавекам, які... *(Схамянуўся. Пасля паўзы.)* Ты не крыўдзіш маці?

Яўгень. Не ведаю, ёй відней.

Грачоў. Яна чалавек залатой душы, Яўгень. *(Заклапочана.)* Яўгень, скажы, як ты думаеш далей з вучобаю? Ты скончыў курс... першы курс, паспрабаваў, што такое працаваць і вучыцца!.. Табе не цяжка на завочным?

Яўгень. Нічога, нармальна.

Грачоў. Нармальна! Яўгень, я хачу, каб ты гаварыў са мноў шчыра.

Яўгень *(халадна)*. Вось вы просіце — па шчырасці... Ну што ж, я згодзен. Толькі яна вам будзе не да сэрца...

Грачоў. Чаму?

Яўгень. Таму, што мы з вамі — праціўнікі!

Грачоў. Як гэта?

Яўгень. Таму што вы супраць Дубкова і Жураўкі, а я — за іх! І супраць вас! І супраць вашай тэндэнцыі!..

Грачоў. Якой тэндэнцыі?

Яўгень. Такой! Не ведаеце? Тэндэнцыі, якая заціскае такіх, як я, маладых, не дае нікому дарогі прабіцца!

Грачоў. Няма ў мяне такой тэндэнцыі.

Яўгень. Няма?! Кажыце. І зараз, мусіць, гледзіцё на Андрэя Пятровіча і вам хоць бы што, што ў яго нялад. Радуецеся бядзе яго.

Грачоў. Жэня, што ты гаворыш?!

Яўгень. А што ж, не? Калі вы так чапляецеся за сваё... А ён, Андрэй Пятровіч, усё жыццё аддаў гэтаму, а вы!..

Стар. 185, радкі 11—12. Яўгень. ∾ Грачоў. — адсутн.

Радок 15, пасля: Ігар. // *Убачыўшы яго, Яўгень, не тоячы да яго непрыхільнасці, а нават знарок яе паказваючы, выходзіць.*

Радок 28. Пасля: Але // чаго ж спачуваць —

Радок 29. Пасля: чалавек. // *(Галя ўразілася. Грачоў маўчыць.)*

Ігар.

Радкі 33—37, замест: А ∾наогул... // Мой абавязак — далажыць, што, нягледзячы на прынятыя меры... (Галя ўсхваляваная. Хоча сказаць штосьці гнеўнае, не знаходзіць слоў. Парывіста выбягае. Стукаюць дзверы.)

Ігар. Хто гэта? Вецер?

Грачоў. Не, гэта Жураўка.

Ігар. Яна слухала?

Грачоў. Чула.

Ігар. Як гэта... неэтычна — падслухоўваць! *(Адчувае сябе няёмка, але стараецца схаваць гэта.)* Так, я далажу!.. Я наогул, па шчырасці.

Стар. 186, радкі 37—41, стар. 187, радкі 1—21, замест: Уваходзяць ∾ галовы! // *Убягае ўстрывожаная Галя.*

Грачоў. Што з вамі?

Галя. Андрэй!.. Андрэю дрэнна... упаў...

Грачоў. Як? Чаму?

Галя. Ператаміўся! Урача трэба!

*Грачоў кідаецца ў цэх. Неўзабаве Далінюк і Грачоў уводзяць Андрэя. Ён бледны, галава адкінута назад, сам не можа стаяць. Яго кладуць на лавачку.*

Хіба ж можна так не шкадаваць сябе?

Андрэй. Нічога. Гэта ўсяго... старая кантузія...

Галя. Урача трэба!

Далінюк. Я зараз. *(Выбягае.)*

Галя *(Андрэю).* Я ж табе казала!.. Ты не слухаў...

Андрэй. Ніякай панікі!.. Нічога не здарылася... *(Незадаволена.)* Эх, не ў час... *(Заўважыў Ігара.)* А... ты тут? *(Іранічна.)* Таварыш спецыяльна ўпаўнаважаны!..

Галя *(Андрэю).* Не хвалюйся ты!.. Не гавары!..

Андрэй. Не, я скажу яму... *(Ігару.)* Ты калісьці не захацеў ісці са мной... чаго ж ты цяпер... блытаешся на дарозе? Што табе... трэба?!

Ігар. Я думаю адкласці гэтую спрэчку — да іншых абставін.

Андрэй. Адкладзі!.. *(Галі.)* Галя, трэба зрабіць новы разлік ціску на валкі...

Галя. Добра. Ляжы ты ціха!

Грачоў. Не трывожся, Андрэй Пятровіч... Зробім... *(Адыходзіць. Задумаўся.)* Бажок?.. Якое нахабства!..

Стар. 193, радок 15, пасля: сваю // ...Цяжка мне было, Яўген, сябе перасіліць. Ведаеш, што твая маці сказала... «Была твая пара, цяпер — іх!» — Дубкова і Жураўкі. Твая пара, Жэня!

Радкі паміж 15—16: Яўген. Вы яшчэ не стары.

Грачоў. Не стары. Усё-ткі ўжо трэба думаць, каму б перадаць спадчыну... І я рад *(глядзіць на сына)*, што мне цяпер ёсць каму!

Стар. 194, радок 1, пасля: Грачоў. // Вы дарэмна пасміх-

ваецеся. Думаеце, я не заўважаю? Так, самае небяспечнае. Яно загубіла многіх таленавітых людзей...

Андрэй. Загубіла нават?

Стар. 195, радкі 18—19, замест: Чаму ∾ вечар! // Ты не хочаш гаварыць. Андрэй, а чаму ты такі сумны? У такі вечар ты сумны, Андрэй?

Радкі 22—23: здалёк ∾ песня — адсутнічаюць.

Радкі 25—26, замест: Андрэй ∾ думаеш? // Мы тады пра многае марылі, а сёння шмат што з таго ўжо збылося. Як хутка ідзе жыццё, проста дзіву даешся... Андрэй, скажы мне ўсё ж, пра што ты думаеш? Чаму ты такі?

Радкі 27—41, замест: Андрэй. ∾ разысціся. // *Паўза. Паранейшаму чуваць песня.*

Андрэй. Галя, помніш, што я табе казаў... Што я зраблю, калі мы скончым... Сёння прыйшоў час. А мне сумна, мне не хочацца гаварыць...

Галя. Не хочацца гаварыць?

Андрэй *(рашуча).* Галя, нам трэба ўсё ж расстацца! Далей так не можа цягнуцца!

Галя. Расстацца! Андрэй!.. Ты вельмі гэтага хочаш?

Андрэй. Я не хачу, каб так працягвалася.

Стар. 196, радкі 4—5. Я ∾ усё — адсутнічаюць; радок 6, замест: зможаш // можаш, ты здольны; радок 9, замест: Галя ∾ цябе. // Так. Я забуду ўсё гэта; радкі 10—12: Галя. ∾ ужо.— адсутнічаюць; радкі 32—36, замест: Галя *(неахвотна).* ∾ ідзе. // *Галя вагаецца. Глядзіць на Андрэя, як бы чакаючы парады, той адводзіць вочы.*

Галя. Гэтага нельга зрабіць... пазней? Заўтра?

Ігар. Мне вельмі трэба. Зараз... Я цябе прашу.

Галя. Чаму раптам... так тэрмінова? Гэта ненадоўга?

Ігар. Не. Якая ты незгаворлівая!

Галя. Ну што ж!.. Андрэй, ты пачакай мяне... каля веснічак. Я хутка. *(Глядзіць, нібы просіць не крыўдзіцца. Андрэй павольна ідзе.)*

Радок 38, замест: «Толькі ∾ табою...» // «За то, чтоб осталась душа молода...»

Радок 39, пасля: тады //, калі я прасіў цябе стаць маёй!.. *(Галя моўчкі кіўнула галавой — помніць.)* І вось зноў яна, тая ж песня...

Радок 40. Галя ∾ галавой.— адсутнічае.

Стар. 198, радок 21, замест: такімі ∾ цудоўнага // ў іх сэрцы, якія любяць людзей, дапытлівы, неспакойны розум. Гэта такія ж самыя сэрцы і розум, якімі створана ўсё самае цудоўнае

## ДНІ НАРАДЖЭННЯ (стар. 199)

Друкуецца па Зб. тв., т. IV.

Упершыню — «Полымя», 1958, № 12 пад назвай «Дні нашага нараджэння» з падзагалоўкам «Гераічная драма ў чатырох дзеях».

Датуецца 1957 г.

П'еса друкавалася ў зб. «Дні нараджэння. Хто прыйшоў уночы».

У архіве Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР захоўваюцца наступныя машынапісы з праўкамі аўтара, якія мы ўмоўна абазначым як машынапісы № 1, № 2, № 3:

1. Машынапіс п'есы (86 л.) (Пачынаецца з 4-й старонкі).

2. Машынапіс п'есы пад загалоўкам «Час нашага нараджэння». (82 л.).

3. Машынапіс 8-й карціны 3-й дзеі. (9 л.).

Ва ўласным архіве І. Мележа знаходзяцца 2 машынапісы п'есы на рускай мове (77 і 84 л.л.).

## *Машынапіс № 1*

Тэкст машынапісу значна адрозніваецца ад тэксту ўсіх друкаваных крыніц. У дадзеным машынапісе маюцца дзеючыя асобы, якія адсутнічаюць ва ўсіх друкаваных крыніцах (Здор — каўбасны і кішачны гандляр, Таратута і Куломін — афіцэры, Чалавек [redacted] мяшком, Хлопец, гарманіст, салдат, старшыня рэвалюцыйнага камітэта, афіцэр). Першапачатковы загаловак першай часткі «Гадзіна кахання» выпраўлены аўтарам на «Двое закаханых». Пачатак першай карціны першай часткі (Валя — Адзінцоў — Інвалід) перанесены [redacted] некаторымі праўкамі ў другую карціну. Дзеючая асоба «Інвалід» ва ўсіх друкаваных крыніцах, за выключэннем першадруку,— адсутнічае.

У трэцяй карціне першай часткі шырэй дадзена партрэтная характарыстыка кіраўніка мінскіх бальшавікоў Мяснікова.

Частка другая мела загаловак «Вуліцы і акопы», які потым быў выпраўлены аўтарам на «Вуліцы і пазіцыі». У ёй маецца карціна (4-я), якая адсутнічае ва ўсіх друкаваных крыніцах.

Першапачатковы загаловак трэцяй часткі «Пасланец Рэвалюцыйнага штаба» выпраўлены аўтарам на «Пасланцы рэвалюцыі». У гэтай частцы ёсць карціны (6-я і 11-я), якія адсутнічаюць ва ўсіх друкаваных крыніцах, значна шырэй дадзена 8-я карціна.

Чацвёртая частка мае загаловак «Браняпоезд ідзе ў Мінск». Першапачаткова прозвішча салдата Залыгіна паводле рукапісу было Зайцаў.

Датуецца 1956—1957 гг.

## *Варыянты машынапісу № 1:*

Стар. 205, радок 8, пасля: закаханых. // *Карціна другая.* Ціхі куток над рэчкаю. Начны змрок, а ў ім некалькі дрэваў, стары крывы плот, рэчка за ім.

Уваходзіць, стомлена горбячыся, і н в а л і д, азіраецца, потым, скінуўшы з плеч мяшочак, ламае адну частку плота, якая лёгка паддаецца, адцягвае зламанае к плоту, што стаіць, кладзецца на падасланае крысо шыняля. Другім крысом накрываецца; яму мулка, ён круціцца, халаднавата, і гнецца ў крук, нарэшце пачынае драмаць.

Пяшчотна трымаючыся за рукі, уваходзяць А д з і н ц о ў і В а л я.

**А д з і н ц о ў.** Ну, вось! Дахадзіліся!

**В а л я.** Я ж казала, няма тут дарогі!

**А д з і н ц о ў.** Твая праўда! *(Азіраючыся.)* Што ж рабіць будзем?

**В а л я.** Што ўсе робяць у такім разе! Вернемся назад!

**А д з і н ц о ў.** Не люблю вяртацца! Да таго ж тут не так ужо дрэнна!.. Паламаны плот над ракою,— нават цікава!.. *(Пяшчотна.)* Рака, чуеш, плюскоча? *(Абдымае яе.)*

**В а л я.** Чую... Дрэмле Свіслач... Колькі гэта кіламетраў нахадзілі мы сёння?

**А д з і н ц о ў** *(смеючыся).* Не заўважыў!

**В а л я.** Я — таксама!.. Мне ўсё здаецца такім незвычайным сёння! І ноч, і бадзянні нашы, і ты, блізкі, поруч!

Адзінцоў цалуе яе.

**А д з і н ц о ў.** Цішыня, як у пустыні Сахары!.. Нібы ні вайны, ні смерці, ні подласці... Толькі мы ў цэлым свеце! Адны!..

**В а л я.** У мяне заўтра ў пятым класе ўрок батанікі. Тэма — «Расліны і сонца...» Я ўжо думала, як пачну яго... Мільярды гадоў, скажу я, праходзіць зямля свой звычайны круг вакол сонца. Мільярды гадоў дзень змяняецца ноччу, а ноч — днём... *(Задумліва.)* Мільярды начэй!.. Няўжо і гэтая ноч толькі адна з мільярдаў іншых, такая ж звычайная?

**А д з і н ц о ў.** Філосаф ты!..

**В а л я.** А ты, як ты думаеш?

**А д з і н ц о ў.** Я думаю, што ў многіх былі свае, асаблівыя ночы. Сёння яна ў нас!.. *(Раптам дзелавіта, рашуча.)* І таму будзем думаць пра яе! Спусціліся на зямлю! Валя, едучы сюды, я рашыў, што буду прасіць твае рукі. Я рашыў, што не паеду далей без твайго адказу!.. Валя, я чакаю!

**В а л я.** Валодзя, ты ведаеш, я люблю цябе...

Яна змаўкае. Паўза.

**А д з і н ц о ў.** Чаму ты не дагаворваеш?.. Я разумею, можа быць, цяпер не час для такой размовы... можа, недаравальна эгаістычна прасіць цябе звязаць сваё жыццё з чалавекам, якому нярэдка даводзіцца ступаць нагой на той свет...

**В а л я.** Валодзя, ты мяне крыўдзіш.

**А д з і н ц о ў.** Што ж табе перашкаджае даць згоду? Любіш,— дык чаму ж ты другі раз адказваеш мне халодным маўчаннем!

**В а л я.** Валодзя, тады, першы раз, мы так мала ведалі адзін аднаго. Цяпер жа іншая прычына...

**А д з і н ц о ў.** Якая?

**В а л я.** Я не хацела хмарыць сустрэчу, але калі ты думаеш такое... Дзядзьку майго арыштавалі. Антона.

**А д з і н ц о ў.** За што?

**В а л я.** За варожую дзейнасць. Гэта — у прыгаворы напісана, а сапраўды — за агітацыю сярод салдат, супраць вайны...

**А д з і н ц о ў.** Ён — бальшавік?

**В а л я.** Бальшавік. У той час, калі ён пакутуе за кратамі, мне спраўляць вяселле!..

А д з і н ц о ў *(пасля паўзы).* Усё ж, я думаю, гэта не прычына для тваёй адмовы.

В а л я. Ты ведаеш, што ён мне не проста сваяк...

А д з і н ц о ў. Дзядзька, які б ён ні быў,— толькі дзядзька.

В а л я. Ён мне, калі я стала сіратой — як маці і бацька. Ён мяне прытуліў, выхаваў. Даў гімназію скончыць! Я — яго дачка!

А д з і н ц о ў. А я думаў, аформіш водпуск і — добры дзень, арэнбургскі стэп!.. Маці сустракае на ганку нявестку!..

В а л я. Не трэба, не трывож сябе лішне! *(Каб перамяніць размову.)* Што табе бацька піша?

А д з і н ц о ў. Таксама на фронце. У Карпатах, лечыць коней, як і да вайны... Ён лечыць коней, а я забіваю людзей! Разам працуем на Айчыну! *(Да Валі.)* А ты — за каго? Таксама — за бальшавікоў?.. Не! Не гавары! Не хачу ведаць! К чорту палітыку, надакучыла палітыка! Хачу толькі кахання! Вочы твае любыя бачыць хачу, рукі твае грэць у сваіх руках! Хачу толькі шчасця, шчасця быць з табой! *(Абдымае, цалуе.)* Цішыня!.. Мы — адны! Мы толькі адны ў цэлым свеце!

Інвалід пазяхае, устае.

В а л я. Ой! Тут хтосьці ёсць!

І н в а л і д. Чалавек.

А д з і н ц о ў. Хто такі? Што тут робіш?

І н в а л і д. Я ж цябе не пытаюся. Закурыць дасі, служывы?

А д з і н ц о ў. Дакументы ёсць?

І н в а л і д. Ёсць. *(Працягвае кастыль.)* Вось. Бачыш?

А д з і н ц о ў. Са шпіталя?

І н в а л і д. Угадаў. З Бранска дамоў дабіраюся, а поезд толькі заўтра. Дасі закурыць?

А д з і н ц о ў *(адсыпае з капшука).* На.

І н в а л і д. За гэта дзякуй. А то — наляцеў, як ераплан: хто, што?

А д з і н ц о ў. Бадзяешся тут, невядома чаго.

І н в а л і д *(горнучы цыгарку).* Я-то магу сказаць, чаго трапіў сюды. Думаў заначаваць у землячка, а ён — на пазіцыях. А жонка яго — ні за што, баюся, чужы! А на вакзале, як сялёдкі, чаго я туды пасунуся? Тут хоць паветра чыстае!.. А вось ты як сюды заблудзіў, а?

А д з і н ц о ў. Гаворыш ты не ў меру...

І н в а л і д. Нудна аднаму, служывы. Узрадаваўся, што ёсць з кім пагаманіць. Хоць я і трэці, выходзіць... Пайшлі б вы куды! Каханне — яно хату любіць. Ці няма яе, хаты?

А д з і н ц о ў *(бярэ Валю за руку).* Хадзем... Рэстаран «Парыж» адсюль далёка?

В а л я. Не. Але я не хаджу туды...

А д з і н ц о ў. Адзін раз. Для гэтай ночы!

Выходзяць. Інвалід зноў кладзецца спаць, круціцца, пакуль не ўладкоўваецца так, што не муляе.

І н в а л і д. «Для гэтай ночы!» Буржуазея!

З а с л о н а.

Стар. 218, радок 30, пасля: Чыбук. // Натоўп выходзіць з турэмнага двара, зноў на пляц. Сярод тых, што ўварваліся на двор турмы, ідуць зняволеныя. Многія вітаюць Федасюка. Падыходзяць да яго, абдымаюць, ціснуць рукі. «Здароў, дружа!» — «Ну як ты, дай пагляджу! Не змарнеў?», «— Дужы як дуб!» «— Ну, брат, якая гісторыя, а? Звергі к чорту крывапіўцаў!» Падыходзіць і Мяснікоў. У яго малады хударлявы твар, жывыя вочы пад чорнымі бровамі, энергічныя рухі. Апрануты ён у вайсковую форму, але без пагонаў. «Вітаю, Антон... Паблядпеў ты крыху. Але — трымайся. Работы цяпер нам — на ўсіх, колькі сілы!» — «Што змагу, Алёша, з радасцю!»

Жанчына, якую Валя нядаўна аклікала, напружана, трывожна шукае вачыма мужа. Прабіраецца да Федасюка, парывіста, моцна абдымае: «Антон! Родны мой».

Федасюк. Вера!.. *(Цалуючы яе.)* Што ж ты? Хіба ж можна плакаць?! У такі дзень!

Вяртаецца неспакойны, незадаволены Дзяцел. Сустракаецца з Зайцавым.

Зайцаў. Ну што?

Дзяцел. Няма, як у тумане прапала!

На ганак узыходзіць Мяснікоў.

Мяснікоў. Таварышы!

Гул націху спадае. Усе скіроўваюць позіркі да прамоўцы.

Адзінцоў. Хто гэта?

Валя. Мяснікоў.

Адзінцоў. А. Бальшавіцкі кіраўнік! Я думаў, ён — старэйшы!..

Мяснікоў. Сёння ўладу ў Мінску, па прыкладу рабочых і салдат Петраграда, узяў у свае рукі Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У натоўпе ўспыхваюць воклічы адабрэння.

З сённяшняга дня і назаўсёды ўлада ў горадзе Мінску будзе належаць рабочаму, працоўнаму народу!..

Народ адказвае на словы Мяснікова воклічамі «ўра», «няхай жыве».

Стар. 219, радок 39, пасля: Заслона. //

Частка другая.
Вуліцы і пазіцыі.
Карціна чацвёртая.

У Мінску. Вартавы пост ад 1-га Рэвалюцыйнага палка імя Мінскага Савета. На варце малады хлопец, амаль падлетак. Выгляд у хлопца суровы. Паводзіць ён сябе, як бывалы ваяка, але

вінтоўку трымае няўмела. Уваходзяць Дзяцел, Залыгін, Чыбук.

Дзяцел. Хлопча, бабу тут незнарок не бачыў?

Хлопец. Якую бабу?

Дзяцел. Ну, такая. Сказаць, каб цыбатая, дык не, і каб дробная, таксама — не. І не худая дужа... Спраўная... Кацярына зваць!

Хлопец. Імя я не пытаюся. А так — былі. Многа.

Чыбук. Вось што, шынель. Хопіць! Цярплівасць мая выпарылася. Шукай адзін, калі хочаш!

Залыгін. Праўда, пара даць стоп!.. Часу да цягніка — яшчэ даволі. Давайце ўмову, дзе спаткаемся?

Чыбук. На станцыі, кержак, у дзве гадзіны. Перад адыходам цягніка...

Залыгін. Што ж. Я згодзен.

Чыбук. Пайду лепш Муху пашукаю.

Выходзіць.

Дзяцел. Мо і хопіць!.. І куды яна запраторылася, баба гэтая! Сядзела б дома, дык не! Тут зямлю дзяліць, а яна, скула на яе!.. Залыгін, чуеш што? Мо яшчэ, братка, наконт зямлі праведаеш?

Залыгін. Што ж праведваць? Дэкрэт ёсць.

Дзяцел. Дзякрэт-то дзякрэт. А праверыць не шкодзіць. Галоднай курцы проса на думцы. Да каго б тут пайсці, каб чалавека такога, надзейнага. Слова каб пачуць надзейнае, а?

Залыгін. Надзейнае ўжо ёсць.

Уваходзіць Федасюк.

Федасюк. Здарова, салдаты.

Залыгін. Добры дзень! О, а я якраз хацеў пабачыцца з табою!

Дзяцел *(Залыгіну, пра сваё)*. І наконт замірэння. Як яно, каб па хатах? Хадзем?

Залыгін. Я тут з таварышам памеркаваць пра жыццёвы маршрут думаю... Прыходзь к вакзалу.

Дзяцел. Воля твая! А я папытаюся пайду. Хто пытаецца, той не блудзіць!..

Выходзіць.

Залыгін. Што новага?

Федасюк. Афіцэры пры штабе стварылі «Камітэт ратунку радзімы і рэвалюцыі». На чале з Калатухіным. Такая гісторыя!

Залыгін. Камітэт ратунку! Ад каго ж яны будуць ратаваць рэвалюцыю?

Федасюк. Мусіць, ад нас, ад рабочых. *(Падыходзіць да вартавога.)*

Федасюк. Ну, як тут у вас?

Хлопец. А так што — нічога. Ціха, словам, дзядзька...

Федасюк. Я не дзядзька. Я — таварыш Федасюк, ясна?

Хлопец. Які ж я вам таварыш... таварыш Федасюк?

Федасюк. Таварыш па класу. На адным пасту стаім!.. Вінтоўку няправільна трымаеш, як дручок. *(Паказвае, як трэба трымаць.)* А дзе другі вартавы?

Хлопец. Ад дарогі стаіць. *(Азіраецца, прыглядваецца.)* Чакайце, там нехта!..

Хлопец кідаецца ў той бок. Неўзабаве ён зноў паяўляецца, вядзе перад сабой чалавека з мяшком.

Хлопец. Не аглядвацца!

Чалавек з мяшком. Адвядзі вінтоўку! Яшчэ...

Хлопец. Маўчаць! Кладзі мяшок!

Чалавек кладзе мяшок.

Вось так!

Чалавек з мяшком. Няма такога права...

Федасюк. Краў?

Хлопец. Краў! Цераз плот пералазіў акурат!

Федасюк. Я яго пытаюся! Краў?

Чалавек з мяшком. Я? Зроду не займаўся! *(Зноў.)* Няма такога права...

Залыгін. Тармазы трымай! Не краў? А гэта што?

Хлопец. Краў — і не прызнаецца!

Чалавек з мяшком. Адвядзі вінтоўку!.. «Краў, краў». За такія словы, каб мог бы, я...

Федасюк. Такая гісторыя! Слухаць брыдка, а рабіць — не саромеўся? Краў, а ад каго? Ад сваіх!..

Залыгін. Усё ясна. Прызнаўся.

Федасюк. Адвядзі яго ў каморку! Замкні. Абыду пасты, разбярэмся!.. Ідзі. Я тут пакуль пагляджу за цябе.

Хлопец *(чалавеку з мяшком)*. Бяры! Ідзі!

Чалавек з мяшком. Няма такога права...

Выходзяць. Федасюк, як вартавы, аглядваецца, пахаджвае.

Залыгін. Ты мне, дружа, абстановачку намалюй падрабязна. Прыйду, пытацца будуць... А я цёмны, як ноч...

Выходзяць. Праз сцэну праходзіць пажылы, нябедна апрануты мужчына. Ён заўважае наклееную на сцяне паперу, чытае.

Незнаёмы. «...Улада перайшла ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў...» Перайшла... У рукі Савета! *(Азіраецца.)* Вось вам ваша ўлада! *(Зрывае паперу, кідае абрывак на зямлю).*

Паяўляецца хлопец, які заўважае гэта. Незнаёмы спрабуе знікнуць.

Хлопец. Пачакай! Пастой!

Незнаёмы спрабуе ўцячы, але натыкаецца на Федасюка.

Ф е д а с ю к. Што тут?

Х л о п е ц *(паказваючы).* Загад сарваў! Буржуйская морда!

Ф е д а с ю к. А, пан Здор! Гэта ж — пан каўбасны і кішачны гандляр. *(Купцу.)* Што, не падабаецца новая ўлада?

З д о р. Улада! Галадранцы!.. Да заўтра з голаду падохнеце!..

Х л о п е ц. Маўчы, калі не хочаш, каб пару выпусцілі!

Ф е д а с ю к. Як-небудзь пражывём. Тваімі ж каўбаскамі. Адабраўшы. Такая гісторыя.

З д о р. Бокам яны вам вылезуць, каўбасы!.. Калі каўказцы прыляцяць з нагайкамі!

Ф е д а с ю к. Бач ты, страшыць як?

З д о р. Пасмейцеся, апошні раз у сваім жыцці!

Х л о п е ц. Ты, Кішка, яшчэ пагражаеш! Вось зараз як вазьму... *(Уздымае вінтоўку.)* Чуваць паблізу воклічы: «Вось тут яшчэ», «Казлоў, давай сюды!» Залыгін, Федасюк і хлопец азіраюцца.

Ф е д а с ю к. Казакі. Што ім тут трэба?

Усе глядзяць у той бок, адкуль ідуць казакі. Паяўляецца казак. Адзін, потым яшчэ некалькі.

К а з а к і. — Эй вы, саветчыкі!

— Каціцеся адсюль!

З д о р. Вось яно, пачалося!..

З а л ы г і н. Як гэта каціся?

Ф е д а с ю к. Стой, не дазволена!

К а з а к. Адыдзі, па-добраму! Загад — зняць пасты!

З а л ы г і н. А ты цішэй! Буксы папаліш! Чый загад?

К а з а к і. — Камандзіра.

— «Камітэта ратунку».

Ф е д а с ю к. Мы не падначальваемся «Камітэту»!

Паяўляецца К а л а т у х і н.

К а л а т у х і н. Што тут за дыскусія?

З д о р *(паказвае на Федасюка, Залыгіна і хлопца).* Таварышы не згодны...

К а л а т у х і н. З чым?

З д о р. Не згодны — пакідаць!..

К а л а т у х і н *(да казакаў).* Казакі вы ці — бабы?!

З а л ы г і н. Землячкі, паслухайце грэнадзёра! Няўжо вы пойдзеце на сваіх?

К а з а к і *(паставым).* Каціцеся! Пакуль цэлыя!

Хочуць адабраць пост, але Федасюк пагрозна ўскідвае вінтоўку.

Ф е д а с ю к. Ні з месца! Інакш я!..

Гандляр знянацку хапае яго за руку. Казакі, падбегшы, выкручваюць вінтоўку. Федасюк не здаецца, але на яго навальваецца яшчэ некалькі казакаў. На падмогу Федасюку кідаецца Залыгін. Ідзе зацятая бойка. Вінтоўку сілай адбіраюць. «Ну, бірук, упарты»,— лаецца казак, аддыхваючыся. Другія казакі абяззбройваюць хлопца. Дзятла і Федасюка б'юць.

Калатухін. Адставіць! Адпусціць!.. «Камітэт» рашыў толькі абяззброіць!.. Рэвалюцыйная армія велікадушная!..
Здор. Што, скончылася ваша панаванне?
Федасюк *(выціраючы кроў, гнеўна).* Маўчы ты, гніда!
Залыгін. Дзякуй вам, казачкі, ад грэнадзёрскага корпуса! Дзякуй! Біць вы сваіх умееце!
Казак. Падзякуй бога, што цэлага пускаем...

Уваходзіць Адзінцоў.

Адзінцоў. Пасты на вакзале зняты!
Калатухін. Цудоўна!.. *(Рашуча.)* Што ж, можна пачынаць размову! Цяпер можна ісці!
Адзінцоў. Куды?
Калатухін. У Савет. К Мяснікову!

Выходзяць. За імі ідзе і Здор. Нарад казакаў праходзіць з вінтоўкамі паўз сцяну, нясуць варту. На сцэне застаюцца Федасюк і хлопец, без вінтовак, Залыгін. Хлопец у адчаі, плача.

Залыгін. Абстаноўка на маршруце высвятляецца!..
Федасюк. Эх, ганьба якая! Вінтоўку страціць!.. Ну, што ты?! Плакаць?! Эх ты!.. Перад імі плакаць?!

Стар. 236, радок 4, пасля: Заслона. //

*ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ*

*КАРЦІНА ШОСТАЯ*

Развілка дарогі блізка ад раз'езда Хвоева.
На дарозе Адзінцоў і Калатухін.

Адзінцоў. Доўга яшчэ, чорт пабяры, тырчэць тут?
Калатухін. Хутка паедзем.
Адзінцоў. Хаваешся, як злодзей.
Калатухін. Даводзіцца.
Адзінцоў. Становішча для афіцэра — абразлівае.
Калатухін. Цяпер некаторыя рэчы ў афіцэрскай этыцы варта было б змяніць. Нашто мне лезці на вочы там, дзе лепш, каб мяне не бачылі?
Адзінцоў. Вось, вось, якраз гэтага правіла і трымаюцца любіцелі начных спраў!
Калатухін. Ты прымітыўны і старамодны, друг!..

Ідзі лепш пахадзі, чым псаваць мне настрой!..

Адзінцоў адыходзіць. Неўзабаве паяўляецца фельдфебель — ад'ютант Калатухіна з двума афіцэрамі.

Таратута. Здарова, рыцар!
Калатухін. Вітаю, брат адзінаверны!..
Таратута *(знаёміць з таварышам).* Прапаршчык Куломін.
Куломін. Куломін.
Калатухін. Рад пазнаёміцца. *(Цісне руку Таратуце.)* Выбачай, я не мог прыйсці сам... Як становішча?

Т а р а т у т а. Афіцэры са мной. І салдаты-машыністы таксама. Іншыя к бальшавікам хіляцца.

К а л а т у х і н. Ведаеце, што браняпоезд хочуць пасланць Савету на дапамогу?

Т а р а т у т а. Не.

К а л а т у х і н. Значыцца, не дайшло. Салдаты таксама не ведаюць?

К у л о м і н *(упэўнены)*. Каля тэлефона свае людзі.

К а л а т у х і н. Да вас павінны зараз прыйсці пасланцы з грэнадзёраў. Відаць, яны самі ўсё і аб'явяць. Я думаю, што іх трэба перахапіць.

Т а р а т у т а. Так, лепш не дапускаць агня да саломы.

К а л а т у х і н. Агонь трэба патушыць. Адразу. Без сантыментаў.

Т а р а т у т а. Колькі іх?

К а л а т у х і н. Двое ці трое. Тут ёсць яшчэ дарогі з гэтага боку?

Т а р а т у т а. Дзве. Але там амаль не ездзяць.

К а л а т у х і н. Можна было б блакіраваць іх. Але, я лічу, не трэба браць лішніх сведак.

К у л о м і н. Чым менш, тым лепш.

К а л а т у х і н. Я даю ў дапамогу свайго чалавека. Крэмень. І вопыт.

Паказвае на фельдфебеля. Той казырае.

Т а р а т у т а. Згодзен.

К а л а т у х і н. Я павінен ехаць. Паявіцца на вачах, дзе трэба. На ўсякі выпадак... Я спадзяюся!

Т а р а т у т а. Пастараемся.

Прапаршчык таксама ківае галавой. К а л а т у х і н адыходзіць. Фельдфебель перавязвае галаву бінтам.

Т а р а т у т а. Нашто гэта? Ранены?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Не. Для маскіроўкі. Могуць быць знаёмыя. Я толькі што адтуль... Вам таксама б не шкодзіла.

Т а р а т у т а. К чорту... Хто адтуль будзе? Салдаты?

Ф е л ь д ф е б е л ь. Салдаты.

К у л о м і н. Пайду зірну на тую дарогу. Раптам — па ёй пойдуць.

Т а р а т у т а. Ідзі. Але не затрымлівайся. Можа, іх прыпляцецца многа.

К у л о м і н. Зараз вярнуся.

Подбегам выходзіць.

Ф е л ь д ф е б е л ь. Вы чым любіце?

Т а р а т у т а. Што?

Ф е л ь д ф е б е л ь *(жэстам)*. Працаваць. Жаць, касіць...

Т а р а т у т а. Гарматай з бронепляцоўкі.

Ф е л ь д ф е б е л ь. А так, ціха?

Т а р а т у т а. Не прыходзілася. Пісталетам, думаю.

Фельдфебель. А я нажом, думаю... У разведцы, на Румынскім фронце навучыўся. Пасты ноччу здымаў. Ціха, ойкнуць не ўпраўляліся... Тры Георгіі заслужыў.

Таратута. З Калатухіным даўно пазнаёміўся?

Фельдфебель. Сем месяцаў... Выратаваў мяне ад смерці. Ледзь не стукнулі за адну справу. Загад ужо быў...

Таратута. За што?

Фельдфебель. Быў грэх... А вы даўно знаёмы?

Таратута. Даўно. Сябры.

Вяртаецца Куломін.

Куломін. Нікога няма.

Фельдфебель. І тут няма. Я думаю, як бы яны ўзводам не прыпёрліся!..

Таратута. А ты паменш думай. Сядзі ды чакай... *(Злосна.)* Лезе цяпер усякая зараза сюды, як тараканы, бунтаваць падбівае!.. Самыя ціхія мужычкі звяр'ём становяцца! Кулеш, ведаеш з кулямётнага,— авечка, здавалася... Цяпер таго і глядзі — кулю пусціць у лоб табе!..

Куломін. Чорт, а калі яны, гэтыя пасланцы, не захочуць вяртацца?

Таратута. А мы іх папросім! Так папросім, што душа з іх слізззю пойдзе!

Фельдфебель. Усё-ткі трэба было б падмаскіравацца. Нібы салдаты... Лаўчэй бы...

Таратута. К чорту маскіроўку!..

Паяўляюцца Чыбук з Федасюком. Таратута выходзіць наперад.

Таратута. Куды?

Чыбук. А ты хто такі?

Таратута. Я пытаюся: куды?!

Чыбук. А я адказваць не хачу.

Таратута. Не хочаш?

Чыбук. Не.

Федасюк. Чыбук, не гарачыся!.. Мы ідзём у госці к прыяцелю...

Стар. 256, радок 13, пасля: Заслона. //

*КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ*

Чыгуначны пуць. За радам рэек кусты, тэлеграфны слуп з правадамі, голае поле. Над імі паўзуць нізкія трывожныя хмары. Раз-другі здалёк даходзяць вельмі глухія водгукі гарматных стрэлаў.

На сцэне спачатку пуста, потым марудна ўваходзяць некалькі чалавек з ламамі, з гаечнымі ключамі. Адзін з іх інвалід, што, дабіраючыся з Бранска, спаў у Мінску перад турмой.

Разам з рабочымі ідзе Калатухін.

Першы. Вецер які!..

Другі. Пячонка стыне!

Інвалід. Пагрэцца б!.. Прапусціць па чарцы!

Першы. Эге, захацеў!

Калатухін. А чаго ж! Паробіце — атрымаеце!..

Першы *(спыняючыся)*. Можа, хопіць! Куды яшчэ цягнуцца? Ён стаўляе лом. За ім спыняюцца іншыя.

Калатухін. Можна і тут. *(Калатухін закурвае. Дае кісет другім.)* Хто хоча, калі ласка!

Людзі дзякуюць, закурваюць.

Калатухін. Ну, што ж, тайм із моні: час — грошы. Каб не стынуць дарэмна, пачнём!..

Першы. Можна і пачаць!..

Калатухін. Як рабіць, вучыць, здаецца, не трэба?..

Першы. Чаго ж, справа знаёмая..

Інвалід. А нашто — дарогу псаваць? Ты так толкам і не растлумачыў.

Калатухін. Чаго тлумачыць — вайна... Ля гэр ком ля гэр — кажуць французы. На вайне, як на вайне. Ну, ну, бярыцеся!

Інвалід. А ўсё-ткі — нашто?

Першы. Многа ведаць будзеш — рана састарышся!

Калатухін. Разумна!

Першы нахіляецца над рэйкамі, спрабуе адкруціць гайку. Трэці падкладвае лом пад рэйку.

Інвалід *(Калатухіну)*. Не, ты, служывы, не адгаворвайся!..

Калатухін. Цікаўныя вы няўмеру!

Інвалід. Жыццё навучыла! Цяпер усе цікаўныя!

Калатухін. Немцы збіраюцца наступаць, разумееш? Хочуць паязды свае з салдатамі пусціць!.. Воленс — ноленс — трэба контрмеры. Толькі гэта — антр ну — між нас,— ваенная тайна! Нікому.

Інвалід. Не брэшаш?

Калатухін. Ну, што ты. Толькі — нікому.

Інвалід. Калі не брэшаш, то, мусіць, праўда.

Хоча разбіраць рэйкі, але трэці падымаецца.

Другі. А як жа там — нашы паязды? Здадуць?

Калатухін. Аб гэтым падумаюць тыя, каму належыць! *(Нецярпліва, падганяючы.)* Ну, хутчэй!

Усе нахіляюцца.

Першы *(гледзячы ўбок)*. Дрэзіна!

Усе глядзяць.

Другі. Гоняць! Спяшаюцца!

К а л а т у х і н. Хто гэта?
Д р у г і. Пабачым!

Да іх падбягае зачырванелы ад бегу Ф е д а с ю к і с а л д а т.

Ф е д а с ю к. Таварышы! Што вы робіце?!
І н в а л і д. Чаго наляцеў?
С а л д а т. Табе, можа, лепш, каб поезд наляцеў?!
І н в а л і д. Не крычы! Не глухі!
К а л а т у х і н *(выхопліваючы наган)*. Прашу адысці адсюль! Зараз жа!
Ф е д а с ю к *(да Калатухіна)*. А, грамадзянін Калатухін! Такая гісторыя! Зноў сустрэліся.

Кідаецца хутка да Калатухіна, сціскае руку з наганам. Між іх пачынаецца барацьба. На дапамогу Федасюку падбягае салдат. Наган у Калатухіна адбіраюць.

С а л д а т *(Калатухіну)*. Ты, калі ласка, не вельмі камандуй! Бо я не люблю каманды!..

Інвалід хмурна, строга сочыць за ўсім.

К а л а т у х і н. Гэта — разбой!
Ф е д а с ю к. Вы заўсёды дзейнічалі інакш, далікатна?!
К а л а т у х і н. Я выклічу салдат! Арыштую вас!
С а л д а т. Ты ці выклічаш, ці не. А мой узвод на прывале тут, на станцыі! Народ — сур'ёзны! І закурыць не ўправішся!
К а л а т у х і н. Я аддам вас суду!
С а л д а т. Не ўваходзь у гнеў, ваша благароддзе!
І н в а л і д *(Калатухіну)*. Я пакуль нічога не разумею, служывы!
К а л а т у х і н *(салдату і Федасюку, пагрозна)*. Добра ж!
Ф е д а с ю к. Як жа гэта называецца, таварышы? Там, у Мінску, афіцэры душаць рабочых людзей, а вы — такая гісторыя — афіцэрам наняліся?!
С а л д а т. Пад сваіх — хвугас падкопваеце!
І н в а л і д. Ты што плявузгаеш! Які фугас?
Ф е д а с ю к. А такі, што броняпоезд наш — з рэек, к чортавай мамцы?! Салдаты знялі яго з пазіцый, з рабочымі рашылі падзяліцца...
С а л д а т. Падтрымаць іх. Па-братняму... А вы?!
П е р ш ы. Дык тут жа — іншае казалі!
І н в а л і д. Збрахаў усё-ткі, нячысты!
К а л а т у х і н *(пагрозна)*. Мы яшчэ пагаворым!

Прыкрываючыся пагрозай, хоча знікнуць.

Ф е д а с ю к. Пачакай, штабс-капітан. Размова яшчэ не скончылася!
К а л а т у х і н. Вы пагражаеце расправай?
Ф е д а с ю к. Не, мы вас асудзім, па ўсёй форме! Справядліва!.. Марш!

К а л а т у х і н. Вы не смееце! Я ж член франтавога...

Ф е д а с ю к. Я добра ведаю, хто вы! Мы многа сустракаліся! Марш!

К а л а т у х і н. Вы адкажаце за ўсё.

Ф е д а с ю к. Марш!

Калатухін падпарадкоўваецца. Выходзяць.

С а л д а т *(рабочым)*. Дык што ж вы думаеце?

П е р ш ы. Ды што тут думаць? Сваім людзям прыяць трэба!..

І н в а л і д. Давай зноў гайку закручвай!

Д р у г і. Калі так, то закручу.

Ён нахіляецца над рэйкамі, закручвае.

С а л д а т. Ды — мацней! Навек!

## *Машынапіс № 2*

На тытульным лісце ёсць паметка аўтара: «Права першай пастаноўкі належыць Беларускаму Дзяржаўнаму Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы». Першапачатковая назва машынапісу — *«Дні нашага нараджэння»* замена спачатку на «Час нараджэння», потым на «Дні нашага нараджэння» і канчаткова — «Час нараджэння» з паметкай: «П'еса ў 4-х дзеях».

У пераліку дзеючых асоб Здор — гандляр каўбасамі і кішкамі, чалавек з мяшком, афіцэр — выкраслены.

У карціне 8-й дзеі трэцяй імя па бацьку адной з дзеючых асоб Грыгорыя Густававіча заменена на Грыгорыя Апалінар'евіча.

У гэтай жа карціне, а таксама ў карціне 11-й дзеі 4-й прозвішча Калатухін спачатку надрукавана як Залатухін, а затым чырвоным алоўкам выпраўлена адпаведна першапачатковаму гучанню. У карціне 11-й 4-й дзеі словы, якія спачатку належалі рабочаму Федасюку, перададзены Мяснікову (як і ва ўсіх друкаваных крыніцах).

У машынапісе маюцца некалькі варыянтаў канцоўкі 5-й карціны 2-й дзеі, адзін з якіх прыводзіцца ніжэй.

Датуецца 1957—1958 гг.

## *Варыянты машынапісу № 2:*

Стар. 226, радкі 11—16, замест: Мы ∽ зараз! // А мы збіраемся канчаткова капітуліраваць! Дарагі друг, ты адступіў з пастоў каля складаў, страціў пост. Кепска! Але ёсць другі пост, які называецца — горад Мінск. Гэта, друг мой, не проста горад, адзін з многіх гарадоў на зямлі. Гісторыя зрабіла наш Мінск цэнтрам вялікага мільённага Заходняга фронту, ён з'яўляецца як

бы заходнім пастом усёй краіны. Гэты пост вельмі важны для рэвалюцыі, ад яго залежыць, можа быць, лёс усёй рэвалюцыі. Дык няўжо ж ты думаеш, што партыя прымірыцца з тым і даруе нам тое, што мы здаём яго, адступаем? І няўжо ты думаеш, што мы можам яшчэ разважаць, змагацца, ці? Змагацца! Але не як авантурысты, падобныя панам Калатухіным, а — разумна,— па ўсіх правілах ваеннай партыйнай навукі! Лёс паста рэвалюцыі залежыць ад таго, за кім пойдзе народ, салдаты. Мы павінны падняць народ... падцягнем к Мінску рэвалюцыйныя часці. Нам трэба выйграць час!

## *Машынапіс № 3*

Тэкст машынапісу 8-й карціны 3-й дзеі істотна адрозніваецца ад тэксту гэтай карціны ў іншых машынапісах і друкаваных крыніцах. Ён скарачаўся і дапісваўся. Асаблівая ўвага пры перапрацоўцы надавалася вобразу Мяснікова, яго агітацыйнай рабоце сярод салдат былой царскай арміі, а таксама вобразу паручніка Адзінцова, паказу народа —салдат, рабочых, раскрыццю іх настрояў. Машынапіс мае два варыянты. Намі прыводзіцца канчатковы.

## *Варыянты машынапісу № 3:*

Поле. Чыгуначныя пуці. Раз'езд Хвоева. На пуцях стаіць чорная ў вячэрнім змроку здань браняпоезда. Грозна выступаюць баявыя вежы са стваламі гармат, з кулямётамі. Справа непадалёк віднеецца будынак раз'езда, цёмным няроўным пасам цягнецца лес. На палянцы перад браняпоездам салдаты. Адзін іграе на гармоніку песню, задуменна спявае, другія падцягваюць.

Позарастали стежки-дорожки,
Где проходили милого ножки.
Позарастали мохом-травою,
Где мы гуляли, милый, с тобою.

С а л д а т. Пазарасталі, точна...

Гарманіст спыніў іграць, перабірае лады, шукае іншую мелодыю.

С а л д а т ы. Дай што весялейшае!..
Зачні «Бывалі дні вясёлыя»!
Г а р м а н і с т. Не клеіцца нешта — вясёлае!

Уваходзяць А д з і н ц о ў і К а л а т у х і н, ф е л ь д ф е б е л ь.

К а л а т у х і н. Здарова, землякі!
С а л д а т ы. Здарова! А ты з якіх месц, што ў землякі просішся? Самаварнік?
К а л а т у х і н. Ямнік!

С а л д а т. Адкуль?

К а л а т у х і н. У адной яме за балотам ляжалі. З Грэнадзёрскага мы... Дзе старшыня «Камітэта ратунку»?

С а л д а т. Быў тут блізка, ды ўвесь выйшаў. К сваім, здаецца, падаўся.

Адыходзяць.

К а л а т у х і н. Здаецца, у час прыехалі! Ціха!.. *(Фельдфебелю).* Пакліч старшыню «Камітэта ратунку». Фельдфебель выбягае. Калатухін рашуча ходзіць.

К а л а т у х і н. Вось, можа, ён, мой Трафальгар!

А д з і н ц о ў. Гэты Трафальгар па-руску гучыць вельмі празаічна — раз'езд Хвоева... Капітан Нельсан!

К а л а т у х і н. Хвоева — не так ужо і дрэнна. А калі летапісцы прыробяць да гэтага належны арэол... Глупства! Эзоп казаў: «Тут Родас, тут скакай!» «Хік Родас, хік сальта!..» Адным словам: «Авэ Цэзар!..» Рымскія гладыятары, ідучы ў бой, усміхаліся... *(З унутранай сілай.)* Няхай жыве Цэзар!

Вяртаецца ф е л ь д ф е б е л ь з а ф і ц э р а м.

А ф і ц э р. Паручык Сізоў.

К а л а т у х і н. Мяснікова не было?

А ф і ц э р. Не было.

К а л а т у х і н. Трэба сабраць каманду!

А ф і ц э р. Рызыкоўна.

К а л а т у х і н. Чаму?

А ф і ц э р. Сухі порах. Лепш — афіцэраў і машыністаў!

А д з і н ц о ў. Салдаты — з бальшавікамі?

А ф і ц э р. Так... праўда, удалося ўціхамірыць. Але ■ вялікай цяжкасцю. Камендант браняпоезда ўцёк.

К а л а т у х і н. Акрамя машыністаў, ёсць людзі, якія могуць павесці паравоз?

А ф і ц э р. Няма.

К а л а т у х і н *(задаволена).* Вецер Трафальгара!.. Давай, збірай усіх, каго можна! Зараз жа!

А ф і ц э р. Прабачце...

К а л а т у х і н. Што яшчэ?

А ф і ц э р. Трэба запрасіць старшыню рэўкома...

К а л а т у х і н. Старшыня як — цвёрды?

А ф і ц э р. Не асабліва. Пагаварыць можна.

К а л а т у х і н. Давай сюды!

А ф і ц э р *(салдатам).* Чугуноў! Старшыню рэўкома папрасі сюды!..

С а л д а т. Добра...

Выходзіць.

А ф і ц э р *(пазіраючы ўбок).* Машына нейкая.

С і з о ў. Нехта ў госці.

К а л а т у х і н *(пазнаўшы).* Мяснікоў — са сватамі! *(Сізову, рашуча.)* Трэба затрымаць! Любым чынам!

С і з о ў. Разумею.

К а л а т у х і н. Нам лепш пабыць убаку... *(Адзінцову)* хадзем.

Адзінцоў і Калатухін выходзяць. Праз мінуту ўваходзяць Мяснікоў, Валя, Залыгін.

С і з о ў. Адну хвіліну!

М я с н і к о ў. Што такое?

С і з о ў. Далей ўваход забаронен.

М я с н і к о ў. А вы хто такі?

С і з о ў. Дзяжурны... Загадваю зараз жа вярнуцца назад.

М я с н і к о ў. А калі мы не выканаем загад?

С і з о ў. Тады мы вас прымусім. Зброяю.

З а л ы г і н. Ого! На каго гэта ты зброю падымаць збіраешся?

С і з о ў. Закон для ўсіх адзін.

М я с н і к о ў. Відаць — не для ўсіх адзін... Паклічце старшыню рэўкома!

С і з о ў. Не магу.

М я с н і к о ў. Чаму?

С і з о ў. Ён заняты.

М я с н і к о ў. Перадайце, што яго чакае старшыня Мінскага Савета.

С і з о ў. Я сказаў: ён — заняты!

М я с н і к о ў. А я сказаў перадайце, што яго чакае старшыня Савета! Зараз жа.

З а л ы г і н *(салдатам)*. Таварышы, што ж вы стаіце ўбаку?

С а л д а т ы. У нас — міравая! Мір! Мы іх не чапаем, яны — нас. Трэба паклікаць Міцю! Няхай разбярэцца!

Адзін з салдатаў накіроўваецца шукаць, але с т а р ш ы н я р э ў к о м а якраз паяўляецца сам.

С т а р ш ы н я. Хто мяне клікаў?.. Вы?

С і з о ў. Не. Вас там чакаюць. *(Паказвае, куды пайшлі Калатухін і Адзінцоў).*

М я с н і к о ў. Пачакайце. Вы хто?

С т а р ш ы н я. Я Сушчынскі... Міця.

М я с н і к о ў. Ага, старшыня рэўкома. Мяснікоў..

С т а р ш ы н я. Ясна. З чым прыехалі?

М я с н і к о ў. У мяне — перш за ўсё — некалькі пытанняў... Чаму нас затрымліваюць? Не дапускаюць да салдат?

С т а р ш ы н я. Гэта не мая функцыя. Мы рашылі не ўмешвацца ў загады камандавання.

М я с н і к о ў. Вы — старшыня рэўкома сапраўды ці так, для выгляду?

С т а р ш ы н я *(пакрыўджана)*. Я папрашу выказацца...

М я с н і к о ў. Пачакай. Без амбіцыі. Другое пытанне: вам вядома рашэнне ваенрэўкома арміі аб тым, што браняпоезд павінен следаваць у Мінск на падтрымку Савету?

С т а р ш ы н я. Ведаю.

М я с н і к о ў. Што вы рашылі?

Старшыня. Мы абмеркавалі і рашылі — пачакаць.
Мяснікоў. Пачакаць? Чаму?
Старшыня. У нас — такое становішча. Усе камандзіры і машыністы адмовіліся ісці ў Мінск... І мы дамовіліся — устрымацца, заключылі перамір'е...
Мяснікоў. Вы ведаеце, як гэта называецца?..

Паўза.

Гэта называецца — здрада.

Сярод салдат хваляванне. Паяўляецца Адзінцоў, пасланы камандзірам.

Старшыня. Папрашу выказвацца...
Мяснікоў. Можна выказвацца па-рознаму, але на справе гэта заўсёды — адно: здрада рэвалюцыі...
Адзінцоў. Аб якой здрадзе можна гаварыць, калі Мінскі Савет сам прызнаў уладу франтавога камітэта!
Валя. Сам? Ты лічыш — сам?
Адзінцоў. Ён фактычна — на паперы, ваш савет! Памёр!..
Мяснікоў. Самі вы на паперы!..
Сярод салдат: «Што ён кажа?» «Сам прызнаў?» «Памёр?»
Валя. Ты гаворыш, як Калатухін?! Ашуканец! Ілгун!
Адзінцоў (*Валі*). Ты — сляпая! Сама не бачыш нічога і другім вочы туманіш!.. (*Салдатам.*) Салдаты, у Мінску ўстанавіўся парадак. Вам няма чаго рабіць!..

З натоўпу прарываецца салдат, хапаецца за Адзінцова.

Салдат. А, гладзіволус панскі, вылезі..
Адзінцоў. Адыдзі!.. Вас хочуць зняць з фронту... Вы адчыніце немцам дарогу!..
Мяснікоў. Таварышы! Не верце, вас ашукваюць! Народ у Мінску чакае вас — як сваю абарону! Камітэтчыкі-«ратаўнікі» хочуць задушыць нас спачатку ў Мінску, а потым і на фронце!.. (*Усё гарачэй.*) Калі вы не пойдзеце на дапамогу рабочым Мінска, вы здрадзіце рэвалюцыі ў самы небяспечны момант. Якое можа быць перамір'е, калі прыслужнікі Керанскага, усе, хто гнаў нас на бойню, усюды, дзе толькі можна, збіраюць сілу для атакі? Яны заключаюць мір толькі таму, што чуюць сябе слабымі. Але калі памацнеюць, возьмуць верх, яны бязлітасна растопчуць мір, сагнуць нас, упрагуць у старое ярмо! Не мір, а барацьба — самая смелая, самая рашучая — вось што нам трэба! Падтрымайце ж мазольных братоў сваіх, над якімі навісла пагібельная бяда! Зараз жа, неадкладна,— потым будзе позна! Калі вы не зробіце — рэвалюцыя ніколі не даруе вам гэтага!
Салдаты. Праўду кажа!.. Кінулі сваіх у бядзе!
Адзінцоў. Сябры! Немцы зноў рыхтуюцца да наступлення!..
Салдат. Немцы? А адкуль табе вядома?.. Ці не самі яны табе казалі?

Сярод салдат шум. Не даючы Адзінцову апомніцца, Мяснікоў хутка спыняе спрэчку.

М я с н і к о ў. Таварышы! Цяпер не час для доўгага роздуму, для ваганняў. Трэба дзейнічаць хутка, рашуча!

Мяснікова дружна падтрымліваюць. Адзінцоў, адчуваючы, што нічога не даб'ецца, узлаваны, хоча ісці адсюль, але салдат хапае яго.

С а л д а т. Куды, ваша благародзія! Пачакай!

М я с н і к о ў. Таварышы! Рэвалюцыйны бальшавіцкі штаб арміі загадвае вам ісці ў Мінск, на падмогу сваім братам і сёстрам.

З а л ы г і н. Маршрут ясны?

Г а л а с ы с а л д а т: «Чаго тут не разумець?» «Ясна».

З а л ы г і н. А калі ясна, то галасуем. Хто — супраць сваіх братоў і савецкай улады?.. Няма!

А д з і н ц о ў *(іранічна)*. Верныя рускія салдаты!..

С а л д а т. Маўчы ты!

Г а л а с ы. Няма, то няма супраць! А — запытайцеся ў афіцэроў?!

І ў машыністаў! Не пойдуць яны! Не заставіш іх! Хто камандаваць будзе?

М я с н і к о ў. Камандаваць штаб прызначыў таварыша Залыгіна.

З а л ы г і н. Камандаваць буду я!

Паказвае загад, які ідзе па руках.

Г о л а с. А з машыністамі — што?

М я с н і к о ў. Машыністам загадаць выканаць рашэнне. А калі яны адмовяцца — пакараць, як за невыкананне загаду. Па ўсёй строгасці рэвалюцыйнага закону!

З а л ы г і н. Пагаворым! *(Дакрануўшыся рукой да кабуры.)* Папросім! Растлумачым!..

М я с н і к о ў. Таварышы, перадаю слова вашаму новаму рэвалюцыйнаму камандзіру. Таварыш Залыгін!

З а л ы г і н. Слухай маю каманду! Так што ў восем гадзін раніцы бранепоезд павінен быць перад выхаднымі стрэлкамі! *(Глядзіць на Мяснікова, які вачыма адабрае яго словы, дзеянні.)* Усе кулямётныя ленты і снарады к гарматам каб былі перанесены на бранепоезд.

Зброю пераглядзець, пачысціць і прывесці да ладу!..

М я с н і к о ў. Цяпер афіцэраў і машыністаў сюды!

*Старшыня камітэта бярэ некалькі салдат, выходзіць. Салдат штурхае Адзінцова ў сярэдзіну натоўпу.*

С а л д а т. Спачатку дай каманду на гэтага гладзіволуса!

М я с н і к о ў. З гэтым размова асобая будзе!..

С а л д а т. Не, ты не адкладвай! Рашаць, дык рашаць!

З а л ы г і н. Падумаць тут трэба..

С а л д а т. Чаго? Стукнуць яго — і ўсёй думкі! Каб не каламуціў іншых!

Валя пры гэтых словах пабялела. Сярод салдат гул: «Хопіць цацкацца!» «Стукнуць, правучыць усё афіцар'ё!» «Няхай ведаюць нашых!»

Адзінцоў. Расправа?! Самасуд!
З салдат воклiч: «Самы суд і ёсць!»
Салдаты, адумайцеся! Я сам — такі ж!..
Гул: «Знайшоўся брат!» «Такі ж!»
Залыгін. Ціха! Слухай мяне! Я яго ведаю. Пад яго камандай службу цягнуў... *(Салдату.)* За народ, які загінуў, ты не кажы. Сам ён у акопе гнуўся... Самога яго Мікалашка гнаў ды Керанскі. Сам ён цёмны...
Салдат. Цёмны?! Заступаешся?!
Адзінцоў. Я ўдзячны за падтрымку, але я — не цёмны! Я свядома служу.
Залыгін. Усё роўна — цёмны! За тое, што ведаю на пазіцыях, заступаюся! А за Мінск, які ён цяпер там, не ведаю,— не скажу...
Мяснікоў *(у бок Валі).* Можа, таварыш Горкіна параіць?
Салдат. Шкодны?
Валя. Я яго ведаю. Даўно... Не шкодны ён. Толькі што — заблытаўся...
Салдат. Значыцца, шкодны!

Уводзяць Калатухіна і афіцэра-капітана.
Адзін з канвойных дакладвае:

Канвойны *(Залыгіну).* Так што, таварыш камандзір, прывялі двух... Адзін — чужы быў...
Мяснікоў. А, грамадзянін Калатухін?!
Калатухін. Я пратэстую!..
Залыгін. Пачакай! Дай скончым з гэтым!
Мяснікоў *(Валі).* Што, які прысуд будзе? Арыштаваць ці апраўдаць?
Валя. Няхай сам апраўдаць сябе пастараецца...
Перад людзьмі... Адпусціць!
Салдат. А я не згодны!
Калатухін. Я яшчэ раз — пратэстую!
Мяснікоў. Вы чаму нервуецеся?!
Калатухін *(салдатам).* Я ўпаўнаважаны галоўнакамандуючым перадаць камандзе спецыяльны загад...
Мяснікоў. Каманда ўжо атрымала загад.
Калатухін *(салдатам).* Галоўнакамандуючы загадвае стаяць на пазіцыях, да асобага яго распараджэння!..
Мяснікоў. Гэты загад дадзен без згоды Савета. Ён незаконны!

Салдаты ўвесь час пільна сочаць за размовай.

Калатухін *(салдатам).* Галоўнакамандуючы прасіў папярэдзіць, што, калі загад не будзе выкананы і браняпоезд выйдзе на дарогу к Мінску, генерал загадвае артылерыі, якая ёсць у яго падначаленні, расстраляць браняпоезд...

Салдаты абурана шумяць: «Расстраляць!», «Пагражае!», «Пацук стары».

Мяснікоў. Перадай генералу, што ўсіх, хто стане на нашых пуцях, мы растопчам, як чарвякоў!..

Калатухін *(салдатам)*. Афіцэры браняпоезда і машыністы згадзіліся выканаць загад!

Мяснікоў. Усіх, хто адмовіцца выканаць загад Рэвалюцыйнага штаба арміі, наш загад, мы арыштуем!.. Усё!

Залыгін. Перадай гэта! І — каціся, пакуль цэлы сам! *(На Адзінцова.)* Гэтага забяры!

Калатухін і Адзінцоў выходзяць. Мяснікоў паказвае кіўком Залыгіну: рашай, што з афіцэрам рабіць?

Залыгін *(афіцэру)*. Хто такі?

Афіцэр. Памочнік каменданта. Замяняю яго.

Залыгін. Гаворку чуў нашу? Ну, што скажаш? Прыстаеш буферам да нас?

Афіцэр. Я не падначальваюся вам!

Залыгін. Не хочаш? Здай зброю!

Афіцэр. Зброю? *(Салдатам, якія хочуць узяць.)* Прэч!.. Кожнага, хто...

Афіцэр упіраецца, але яго абяззбройваюць.

Афіцэр. Вы за гэта адкажаце!

Залыгін. Арыштаваць! Вывесці!

Афіцэра выводзяць. Уводзяць паручыка, старшыню «Камітэта ратунку».

Залыгін. Згодзен ісці з салдатамі ў Мінск?

Афіцэр. Не.

Залыгін. Узяць зброю! Арыштаваць!

Афіцэра выводзяць.

Старшыня. Астатнія таксама адмовіліся...

Залыгін. Забраць зброю! Арыштаваць! *(Пазірае на Мяснікова, нібы пытаецца: ці не залішне. Той кіўнуў: правільна).*

Старшыня. Машыністы таксама — ніяк! Як згаварыліся!..

Залыгін. Туды ж і іх!

Салдаты маўчаць. Усе ўсхваляваны.

Старшыня. Поезд павяду я.

Паўза.

*(Заклапочана.)* Ну, што ж. Маршрут ясны. Трэба ісці глядзець паравоз!..

Мяснікоў *(да яго, да салдат)*. Што перадаць мінскім рабочым?

З а л ы г і н. Перадай, што поезд на правільных рэйках! Што пара — грэецца! Што — будзем прабівацца!

З а с л о н а.

Пры параўнанні тэксту першадруку з тэкстамі асобнага выдання і асноўнага тэксту трэба адзначыць наступныя змены: дзеі атрымалі загалоўкі, першая карціна першай дзеі першадруку стала карцінай — уступам з загалоўкам «У акопах», з прычыны чаго атрымалася замест чатырох дзей — тры, дзеючая асоба «Інвалід» ва ўсіх астатніх друкаваных крыніцах адсутнічае.

Мяснікоў (Мяснікян) Аляксандр Фёдаравіч (1886—1925), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў барацьбы за ўладу Саветаў на Беларусі.

## *Варыянты першадруку:*

Стар. 199, радок 20, пасля: Шафёр. // Інвалід.

Стар. 200, радок 1, замест: Карціна-ўступ. // Дзея першая. Карціна першая; радок 2. У акопах.— адсутнічае.

Стар. 202, радок 32, пасля: смелы // — сарві-галава!

Стар. 203, радок 11, замест: Гэта — пакуль... // Гэта: пакуль кось-кось, ды ў аглоблі!

Стар. 204, радкі 40—41. Чуваць яго каманда: «Падрыхтавацца... атражэнню атакі!..» — адсутнічае.

Стар. 205, радкі 4—5, замест: Яго словы тонуць у частых, грозных выбухах. // Яго словы глушаць выбухі. Між выбухаў чуваць каманда паручніка: «Падрыхтавацца... атражэнню атакі!..

З а л ы г і н. Дзяцел! Чыбук!.. Атака!..

Усе ідуць на свае месцы, рыхтуюцца да атакі. Заляскатаў кулямёт. Выбухі часцеюць.

Радок 6, пасля: заслона. // Карціна другая.

Радкі 7—9, замест: Дзея першая. Двое закаханых. Карціна першая // Карціна трэцяя.

Стар. 212, радок 8, замест: другая // чацвёртая; радкі 12—39. Пяшчотна ∾ дагаварваеш?..— адсутнічаюць; стар. 213, радкі 1—43. Валя... ∾ Ой! — адсутнічаюць.

Стар. 214, радкі 1—7. Валя ∾ Выходзяць.— адсутнічаюць; радок 31, Пасля: Валя. // *Яны ідуць па вуліцы пад ручку, Адзінцоў праводзіць яе.*

Стар. 217, радок 2, пасля: смей! // Галасы: — Ламай дзверы! А ну, націснем!

Стар. 217, радкі 14—15, замест: **В а л я** ∾ тут!.. // Валя не *адказвае, не чуе.*

Радок 16. А д з і н ц о ў.— адсутнічае.

Стар. 219, радок 39, пасля: Заслона. // Дзея другая.

Стар. 220, радок 1, замест: трэцяя // пятая; радкі 12—28: Мяснікоў. ∾ тэлефона // — адсутнічаюць; радок 29. Мяснікоў — адсутнічае.

Стар. 221, радок 17, пасля: дзень!.. // Мы з вамі, здаецца, недзе бачыліся! Каля турмы?

Дзяцел. А, было такое.
Мяснікоў. За што ж трапілі туды?

Радок 18, пасля: Дзяцел // Ат, была прыгода. Няма чаго гаварыць...

Радок 22, пасля: Дзяцел // Во!

Радкі 22—28. Сур'ёзна ∾ заклапочана / — адсутнічаюць.

Стар. 222, радок 1, замест: Мяснікоў // Мельнікаў; радок 2, замест: дубец // архангел.

Стар. 223, радкі 23—35. Мяснікоў ∾ кабінет — адсутнічаюць.

Стар. 227, радкі 17—19. Заслона. ∾ фронт.— адсутнічаюць; радок 20, замест: чацвёртая // шостая.

Стар. 228, радок 8. Бальшавікі ∾ верх!.. — адсутнічаюць.

Радкі 9—10, замест: Размахаўся ∾ вятрак... // Аж пачырванеў, як рак вараны!..

Радкі 13—23 Мельнікаў ∾ кідай! — адсутнічаюць.

Радок 24, замест: Рэшка! // Бальшавікі, аднак, здаецца, бяруць верх! Ты пастой тут трохі, а я пайду паслухаю!..

Стар. 231, радок 39, пасля: Распусцілі? // А як жа дзякрэт?

Стар. 236, радок 4, пасля: Заслона. // Дзея трэцяя.

Радок 5, замест: пятая // сёмая.

Радок 9, пасля: тэлефона // Сакратарша. Алё!.. Дывізійны камітэт? Штабс-капітана Калатухіна ў вас няма? Праверце, можа, у вас? Трэба тэрмінова. Галоўнакамандуючы, генерал Балуеў просіць яго!.. Шкада!.. *(Кладзе трубку.)*

Уваходзяць рабочыя.

Прашу пачакаць! *(Нездаволена паказвае на прыёмную.)*

Рабочы. Нам няма калі чакаць.

Сакратарша. А я не магу гаварыць з вамі тут. Гэта кабінет старшыні Франтавога камітэта.

Рабочы. Ён нам і патрэбен. Старшыня...

Сакратарша. Яго няма... Я сказала, пачакайце там...

Рабочы. А дзе ён?

Сакратарша. Ён выехаў па справе.

Рабочы. Выехаў? Куды? Хутка будзе?

Сакратарша. Не ведаю.

Рабочы. Што ж ты ведаеш?

Сакратарша. Я вас, грамадзянін, прашу быць ветлівым!

Рабочы. Ну ладна... Вось чорт! Што рабіць? Пачакаць прыйдзецца. *(Хоча сесці.)*

Сакратарша. Там, у прыёмнай, пасядзіце.

Рабочы. Можна і ў прыёмнай... Толькі мы доўга чакаць не можам.

Сакратарша. Нічым не магу памагчы.

Рабочы. А ты — пашукай. Ды прыспеш яго!..

Выходзяць. Звініць званок.

Стар. 239, радок 25, пасля: манеўраў! // Не да пальчатак!

Стар. 241, радок 17, замест: каўказскую // казачую

Радок 22, пасля: разе!.. //

Я, праўда, не думаю, што бальшавікам удасца іх намер. Каман-

да браняпоезда, па маіх вестках, па-ранейшаму астаецца вернай нам. Аднак, на ўсякі выпадак.

Стар. 242, радок 26, замест: шостая // восьмая.

Стар. 248, радкі 23—24, замест: вашага камандуючага // галоўнакамандуючага.

Стар. 249, радок 30, замест: сёмая // дзевятая.

Стар. 252, радок 24, замест: восьмая // дзесятая.

Стар. 256, радок 14, замест: дзевятая // адзінаццатая; радкі 19—20, замест: платформы ∾ цяплушкі // эшалон цяплушак. У дзвярах цяплушак відны куляметы, на платформах — калёсы, гарматы, нейкі накрыты брызентам груз; радок 21, замест: паяўляецца ∾ з рабочымі. // Грыбаў. Ён сустракаецца з Мясніковым, які ўваходзіць, заклапочана азіраючыся, кагосьці шукаючы; радкі 22—38. Мяснікоў. ∾ Грыбаў. — адсутнічаюць.

Стар. 257, радкі 8—9. Я хачу ∾ Дзвінск.— адсутнічаюць; радкі 15—18, Грыбаў. ∾ пойдзе! — адсутнічаюць; радок 34, пасля: Алёша!.. // Чаму вы тут?.. Мяснікоў. Я не магу сядзець, як сляпы. Без вестак. Што тут робіцца?

Валя.

Стар. 258, радок 27, замест: рашучы // стомлены; радкі 27—28, замест: З ім ∾ паплечнікаў. // Падыходзіць да Адзінцова; радок 33 Як? — адсутнічае; радок 34, замест: не адказвае. // моўчкі мнагазначна ківае. Паказвае пальцам маўчаць.

Стар. 259, радок 8, пасля: нумар // на ёй; радок 12, замест: Мяснікоў ∾ паплечнікамі. // *Уваходзяць Грыбаў, Калатухін і Адзінцоў, спыняюць Мяснікова;* радок 36, замест: Калатухін чакае. // Адзінцоў момант чакае, што Мяснікоў перадумае; радок 37, замест: Паплечнікам // Адзінцову.

Стар. 259, радкі 38—40, стар. 260, радкі 1—12, замест: Мяснікоў ∾ абуджваецца // Адзінцоў *(салдату).* Узяць!

Валя *(уражаная, гледзячы на Адзінцова).* Ты?!

Салдат. Ёсць! *(Падыходзіць да Мяснікова, бярэ яго пад варту.)*

Грыбаў. Яе — таксама! Яго паплечніца!

Адзінцоў *(секунду вагаецца. У яго выраз адчаю, як у чалавека, які трапіў у безвыхаднае становішча).* І яе...

Ён сказаў гэта з гвалтам над сабою. Вінавата адчуваючы сябе нягоднікам, адвёў галаву ўбок, каб не глядзець на Валю. Салдат хоча весці Валю і Мяснікова. Адзінцоў, убачыўшы гэта, як бы абуджаецца; радок 14. Я ўпаўнаважаны генерала Балуева!.. — адсутнічае.

Стар. 261, радкі 30—31. Не на Маскву? — адсутнічае; радок 33, замест: на Маскву!.. // Ён кажа праўду!.. Радок 39, пасля: гніда! // Салдата стрымліваюць, Калатухіна, злосна штурхаючы, абяззбройваюць.

## У НОВЫМ ДОМЕ (стар. 263)

*Друкуецца па Зб. тв., т. IV, дзе змешчана ўпершыню.*
Датуецца 1957, 1960 гг.

Ва ўласным архіве І. Мележа маюцца:

1. Машынапіс п'есы з праўкамі аўтара (84 л.).
2. Машынапіс п'есы (84 л.).
3. Рукапісы: пралог другі, пралог трэці, карціна сёмая, карціна восьмая.

Даецца першапачатковы варыянт тэксту машынапісу (84 л.), паколькі канчатковы тэкст супадае з асноўным.

Першапачаткова ў машынапісе замест прозвішча Быліцкі было Бабіцкі, замест імя Рая — Каця.

*Варыянты машынапісу:*

Стар. 264, радкі паміж: 27—28 А ў т а р. Ёсць нямала людзей, якія лічаць такі расказ дробным для сцэны нашай эпохі. Радок 35, Пасля: вас. // Бачыў, як вы будзеце глядзець гэтую няхітрую гісторыю, шукаць, дзе і хто гаварыў штосьці падобнае... Радкі 35—36. Жыццё ∾ космасу — адсутнічаюць.

Стар. 265, радок 21, пасля: людзей... // Хваробы трэба ж лячыць, незалежна ад таго, новыя яны ці старыя!

Стар. 269, радкі 34—35, замест: такіх, ∾ Аляксандравіч! // жанатых!

Стар. 270, радкі 29—35, замест: Дадому ∾ стаіць. // Дудко, Ты вядзеш сябе трохі легкадумна...

О л ь г а. Чаму?

Д у д к о. Ты магла б здагадацца. На вас ужо паглядвалі... Вы доўга стаялі ўдваіх...

О л ь г а. Я нічога не думала. І ніякіх сакрэтаў у нас не было.

Д у д к о. Я веру. Але на цябе заўсёды ўвага асаблівая...

О л ь г а. Хіба ж я ў гэтым вінавата?

Стар. 282, радок 14, пасля: тыдзень // Ён жа там, у інстытуце, спачатку з Давыдавай, са свайго курса, сябраваў,— у кіно, у парк. Мяне ён потым стаў запрашаць. Як ён тады раўнаваў да ўсіх, хто падыходзіў да мяне! А пасля — мы каля рэчкі сядзелі, пад вярбой, вярба — старая, галлё аж да вады — ён і сказаў: «Давай пажэнімся!» А я памаўчала, падумала: не...

Стар. 290, радок 41, пасля: Аднак // спрэчка наша можа зайсці далёка ад твора вашага, стаць беспрадметнай. Мяне, я казаў, не пакідае ўражанне, што я нешта падобнае ўжо бачыў на сцэне. І не раз.

А ў т а р. А ці не бачылі вы, паважаны друг-крытык, падобнага ў жыцці? Можа, усё гэта — нежыццёвая выдумка?

К р ы т ы к. Мастак не мае права паўтараць мастацтва, дарагі аўтар, калі яно сапраўднае,— непаўторнае. Яно павінна шукаць новага! Гэта — аксіёма мастацтва!

А ў т а р. Але ж мастацтва павінна адбіваць жыццё, умешвацца ў яго, каб рабіць яго прыгажэй! Вы ж, дарэчы, ківаеце мне на сцэну — традыцыйна, было. Але для мяне больш важна не тое, што гэта было, што яно — ёсць! У жыцці.

К р ы т ы к. У жыцці новага — цэлыя непачатыя залежы. Шу-

кайце, знаходзьце, раскопвайце! Толькі ўмейце шукаць ды выплаўляць!

А ў т а р. Але новае рэдка бывае ў чыстым выглядзе. Часцей гэта сплаў старога і новага. Жыццё сям'і — не тайны атама, і не далеч космасу,— тут ледзь не ўсё даследавана, і ледзь не ўсе спецыялісты найвышэйшай кваліфікацыі. А ці можам мы, баючыся быць традыцыйнымі, абыходзіць трывогі і хваробы сям'і? Хваробы ж гэтыя яшчэ жывуць у людзях! Як і ўсякія хваробы, іх трэба лячыць, не лічачыся з тым, новыя яны ці старыя!

К р ы т ы к *(упарта)*. Навізна — паўтараю — аксіёма мастацтва.

Стар. 304, радок 11, пасля: толькі // каб есці было ўдосталь і адзецца хораша і не толькі; радок 12, пасля: аднаго... // і ў сям'і, і ў каханні. Камунізм — гэта не толькі тэхніка, каб есці было ўдосталь, і адзецца прыгожа,— гэта яшчэ толькі паўкамунізма, а камунізм — гэта галоўнае... Як гэта напісана было ў артыкуле? О — камунізм — «таксама вялікая культура чалавечай душы, культура пачуццяў!»

Стар. 318, радкі 2—25, замест: Няхай — ∾думае! // Г а л і н. Ну, як табе лепш.

Л ю б а. Такі цудоўны дзень быў! Лес — нібы ў пажары!

Г а л і н. Ведаеш, мне вельмі падабаецца бачыць цябе задаволенай.

Л ю б а. Я, здаецца, нанава пачынаю разумець, што такое — шчасце... Я забыла, калі яшчэ быў у мяне такі дзень!..

Г а л і н. Ну, вось! А ты не хацела ехаць!

Л ю б а *(раптам задуменна)*. Не хацела...

Яна спахмурнела, стаілася ў сваіх думках.

Г а л і н. Зноў нешта выдумляеш!

Л ю б а. Я не пра яго, не пра Сяргея. Пра нас думаю. Пра шчасце... Я цяпер баюся пабачыцца з Зінаю! Мне спачатку не трэба было ісці з табой! Тады ўсё было прасцей!..

Радок 27, пасля: хаванне! // Мне таксама нязносна гэта — ілгаць! Яна пра ўсё здагадваецца!

Л ю б а. Божа мой, што яна пра мяне думае!.. Я не ведала, што можна баяцца людзей, таіцца ад іх, як злачынца. Я нікому з дзяўчат сваіх не расказала...

Г а л і н. Дык і...

Стар. 320, радок 37, пасля: я. // Каця. Трэба ж жанчынам нашым расказаць, параіцца!

Л ю б а. Што яны скажуць! Што тут хто можа параіць?.. Тут усё так проста і так складана!..

К а ц я. І зусім не таму. Проста ты — баішся.

Л ю б а. Чаму?

К а ц я. Ведаеш, што чырванець прыйдзецца. А можа, яшчэ і з брыгады папросяць.

Л ю б а. Ты што ж, думаеш, што я не маю права быць у такой брыгадзе?

К а ц я. Я яшчэ не ведаю. Але тое, што ты разбіваеш чужую сям'ю, зусім не па-камуністычнаму.

Л ю б а. Ты што ж, думаеш, пры камунізме і разводаў не будзе?

К а ц я. Можа, і будуць. Але такіх не будзе, якія толькі аб сабе думаюць. Усё забыла! Сына нават! Сын такі! Глядзі, вучы розуму, каб чалавекам быў. Яму дарога — у камунізм ісці! Вось і вяла б.

*ТАЦЦЯНА ЖУК*

# ЗМЕСТ

## НАРЫСЫ



## П'ЕСЫ

**Мележ І.**

М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 2. Нарысы; П'есы.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 400 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 50 к.

Змест другога тома складаюць нарысы і п'есы Івана Мележа.

М $\frac{70303-143}{М\ 302(05)-80}$ падпіснoe

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Иван Павлович Мележ

Собрание сочинений
в десяти томах

ТОМ 2

*Очерки,*
*пьесы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. С. Мануленка.

ІБ № 543

Здадзена ў набор 16.10.79. Падп. да друку 24.06.80. АТ 16 809. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 21,00+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 21,70. Тыраж 52 000 экз. Зак. 2684. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.